Ян Шумскі

# Савецізацыя Заходняй Беларусі

## (1944–1953 г.)

### Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі




Ян Шумскі Савецізацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 г.)

Ян Шумскі

# Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 г.)

## Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі



Ян Шумскі

# Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 г.)

## Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі



Смаленск
Інбелкульт
2014

УДК 94(476-15)"1944/1953":32
ББК 63.3(4Беи)63
Ш96

**Шумскі, Я.**
Ш96 Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944—1953 г.). Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі / Ян Шумскі. — 2-е выд. — Смаленск: Інбелкульт, 2014. — 326 с.

ISBN 978-5-00076-001-7

У кнізе паказаныя перамены, якія адбываліся ў 1944—1953 гг. у жыцці і свядомасці жыхароў заходніх абласцей БССР, якія перад Першай сусветнай вайной уваходзілі ў склад Польшчы. На старонках выдання прадстаўлена даследаванне нацыянальнага, кадравага, культурна-асветніцкага і прапагандысцка-інфармацыйнага аспектаў працэсу саветызацыі на акрэсленых тэрыторыях.

**УДК 94(476-15)"1944/1953":32**
**ББК 63.3(4Беи)63**

Пераклад зроблены паводле выдання:
Szumski, Jan. Sowietyzacja Zachodniej Białorusi 1944—1953.
Propaganda i edukacja w służbie ideologii. —
Kraków: Arcana, 2010. (Seria: Arcana Historii). — 362 s.

У афармленні першай старонкі вокладкі выкарыстаны здымак з выявай адзначэння свята Першамая ў Навагрудку (другая палова 1940-х — пачатак 1950-х гадоў) з асабістага архіва Мікалая Гулевіча (Брэст).

**ISBN 978-5-00076-001-7**

# Змест

*Кнігу прысвячаю сваім бацькам*

# Прадмова да другога беларускага выдання

Не памылюся, калі скажу, што для кожнага гісторыка асаблівае значэнне мае факт, ці знойдзе ягоная праца свайго чытача. Менавіта такую надзею я выказаў, калі пісаў прадмову да першага беларускага выдання сваёй кнігі, тым больш што менавіта для беларускага чытача яна пісалася. Кніга ў пэўным сэнсе з'яўляецца творам аўтабіяграфічным, бо праз прызму гісторыі сваіх бацькоў, дзядоў, суседзяў і ўвогуле жыхароў заходнебеларускіх земляў я паказаў сваё бачанне працэсу саветызацыі гэтага рэгіёна. Таму адмова ад сціслай акадэмічнасці і асаблівая прэзентацыя шматлікіх праблем, закранутых на старонках працы, маглі спрычыніцца да неадназначнага ўспрымання кнігі чытачом. Аднак мае асцярогі і сумненні былі, як аказалася, беспадстаўнымі.

Ужо пасля выхаду працы ў свет я пераканаўся яшчэ раз, як мала даследаванай з'яўляецца гэтая тэматыка і як цяжка займацца яе распрацоўкай у сучаснай Беларусі. Як аказалася, правесці ва ўмовах сённяшняй Беларусі навуковую ці грамадскую дыскусію па тэме даследавання вельмі праблематычна. Не зусім зразумелай з'яўляецца сітуацыя вакол арышту часткі накладу першага выдання кнігі. Сумна ўсведамляць, што метады і практыка ажыццяўлення ідэалагічнай і прапагандыскай дзейнасці, якія я апісваў на старонках працы, з'яўляюцца зусім не перагорнутай старонкай гісторыі, а складовай часткай сучаснай беларускай рэчаіснасці. Прыклад гарадзенскай гістарычнай супольнасці і лёсаў некаторых даследчыкаў, на жаль, ёсць сумным доказам падабенства пасляваенных умоваў з сучаснымі. У гэтым кантэксце, праўду кажучы, не вельмі цешыць тое, што кніга і сёння не страціла сваёй актуальнасці.

У той жа час мяне як аўтара цешыць факт, што кніга дачакалася другога выдання і што існуе зацікаўленасць чытацкай аўдыторыі да гэтай праблематыкі. Хачу падзякаваць выдаўцам кнігі і чытачам, а таксама выказаць перакананне, што мая праца павінна быць толькі пачаткам паглыбленых даследаванняў па праблемах гісторыі заходнебеларускіх зямель у пасляваенны перыяд, якія яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Бо кропку тут ставіць яшчэ ранавата…

# Прадмова да беларускага выдання

Мінула ўжо некалькі гадоў ад часу, калі я скончыў працу над напісаннем польскамоўнай версіі кнігі. Дарога да выдання ў Польшчы не была простай з многіх прычынаў, між іншым таму, што праца, якая ў назве мае «Заходняя Беларусь», выклікае даволі неадназначную рэакцыю. Дарэчы, выкарыстанне менавіта гэтага тэрміну было адным з закідаў у мой бок. Але ў сучаснай Польшчы існуе рэальны плюралізм поглядаў, знайшлося кракаўскае выдавецтва «Arcana», якое ўзялося за выданне манаграфіі і дзе на пачатку 2010 года з фінансавай дапамогай Міністэрства навукі і інфарматызацыі выйшла кніга. Польскае выдавецтва таксама хутка дало згоду на пераклад.

У кнізе пэўны акцэнт быў зроблены на польскай нацыянальнай меншасці ў заходніх абласцях БССР, па зразумелых прычынах польская навуковая літаратура па прадмету даследавання была таксама прадстаўлена больш шырока. Напэўна, значэнне мела мая асабістая зацікаўленасць «польскім пытаннем» у працэсе саветызацыі. Але асноўнай кіруючай тэзай маёй працы была тэза аб супольнасці лёсаў насельнікаў заходняга рэгіёна Беларусі, трагедыі «заходнікаў» у наступстве саветызацыі, незалежна ад нацыянальнай ці канфесійнай прыналежнасці. Прычыны сённяшняга нацыянальнага, культурнага, прававога і гістарычнага нігілізму беларускага грамадства ў многім сягаюць мэтанакіраванай савецкай палітыкі і прапаганды. Згаданы тэзіс знайшоў сваё адлюстраванне на старонках кнігі, у высновах у рэзюмэ на канцы раздзелаў і ў падагульненні працы.

Разглядаючы ў сваёй працы шматлікія аспекты пасляваеннай гісторыі, я не мог не звяртацца да праблемаў папярэдняга перыяду, пачатку і цягу другой сусветнай вайны. Даследчык уваходзіць тут на абшар, дзе яго чакае шмат метадалагічных і інтэрпрэтацыйных пастак. Кожная гістарыяграфія — польская, беларуская, як афіцыйная так і неафіцыйная яе часткі, — маюць свой погляд на гэтыя праблемы. Нярэдка навуковы аналіз падмяняецца эмоцыямі і непасрэднай экстрапаляцыяй сваіх нацыянальных пачуццяў на прадмет даследавання. Увогуле, даследчыкі-гісторыкі ствараюць хутчэй

свае інтэрпрэтацыйныя схемы, чым «аб'ектыўны» вобраз мінулага. Я не спрабаваў «дагадзіць» некаму, а тым больш задаволіць усе бакі, але імкнуўся даць кароткі гістарыяграфічны агляд спрэчак па некаторых дыскусійных пытаннях і паказаць сваё бачанне. Шмат эмоцый і спрэчак па розных баках выклікае сам тэрмін «Заходняя Беларусь», пытанне антысавецкага падполля, нацыянальнага складу насельніцтва і г.д. Ці атрымаўся ў мяне погляд збоку, ці аргументы ўсіх бакоў былі ўлічаны — гэтую справу аддаю для ацэнкі чытачам. Насамрэч, пасляваенны перыяд застаецца маладаследаваным на Беларусі, па шматлікіх праблемах увогуле немагчыма весці навуковую ці грамадскую дыскусію. Варункам для паўстання крытычнай думкі з'яўляюцца незалежныя навуковыя і грамадскія даследаванні, спалучаныя з дэбатамі, шырэй — альтэрнатывай.

Гледзячы з перспектывы мінулых гадоў на сваю працу, я ўсведамляю, што цягам часу погляды змяняюцца ў бок змяншэння катэгарычнасці ў меркаваннях і ацэнках. Аднак я лічу, што высновы, зробленыя ў кнізе, не страцілі сваёй актуальнасці, і трымаюся сваіх тэзаў. Умяшальніцтва ў тэкст датычыла, у асноўным, удакладнення паасобных праблем, папраўлення хібаў з польскага выдання.

Напрыканцы я хацеў бы выказаць шчырую ўдзячнасць усім, хто зрабіў магчымым беларускае выданне маёй працы, у першую чаргу перакладчыцы Наталлі Давыдоўскай, якая апрача самога перакладу таксама дапамагла пры выпраўленні недаглядаў, навуковаму рэдактару Змітру Віцьку за руплівую і працаёмкую работу, а таксама ўсім, хто дапамагаў і падтрымліваў мяне падчас напісання кнігі. Спадзяюся, што кніга знайдзе свайго зацікаўленага чытача.

# Спіс скарачэнняў

Аблліт — Абласное ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў (цэнзура)
АК — Армія Краёва
АУН — Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў
Белапалякі — члены польскіх антысавецкіх арганізацый (на тагачасным савецкім жаргоне)
БНП — Беларуская незалежніцкая партыя
ВіН — Вольнасць і Незалежнасць (аб'яднанне)
ВП — Войска Польскае
Вярхушка — эліта партыйна-савецкага апарату
Галоўліт — Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў
ГАК — Грамадзянская Армія Краёва
ГУББ — Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з бандытызмам
ДКА — Дзяржаўны камітэт абароны
Заходнік — назва жыхароў Заходняй Беларусі
КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі
МУС — Міністэрства ўнутраных спраў
НВП — Народнае войска польскае
НКДБ — Народны камітэт дзяржаўнай бяспекі
НКУС — Народны камітэт унутраных спраў
ПКНВ — Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення
ПРП — Польская рабочая партыя
РА — раённы аддзел
Райліт — раённае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў (цэнзура)
РВ — рамесніцкае вучылішча
Рэд. — рэдакцыя
СіН — свабода і незалежнасць
Смерш — савецкая ваенная контрразведка
СНК — Савет Народных Камісараў
СПП — Саюз польскіх патрыётаў
УКП(б) — Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў)
УЛКСМ — Усесаюзны ленінскі камуністычны саюз моладзі
УМДБ — Упраўленне міністэрства дзяржаўнай бяспекі
УПА — Украінская паўстанцкая армія
Усенавуч — усеагульнае школьнае навучанне
Усходнік — жыхар Усходняй Беларусі ці чалавек з унутраных раёнаў СССР
ФЗВ — фабрычна-заводскае вучылішча
Фінагент, агент — супрацоўнік дзяржаўных служб спагнання падаткаў

# Уводзіны

Гэтая праца — скарочаная версія кандыдацкай дысертацыі, падрыхтаванай на працягу чатырох гадоў навучання ў аспірантуры Школы грамадскіх навук Польскай акадэміі навук. Навуковае кіраўніцтва працай ажыццяўляў Інстытут гісторыі навукі ПАН, дзе ў лістападзе 2007 года адбылася публічная абарона дысертацыі.

Мэта дадзенай працы — паказаць перамены ў жыцці і свядомасці жыхароў, што адбываліся ў перыяд 1944—1953 гг. на тэрыторыі, якую палякі часта называюць паўночна-ўсходнімі крэсамі, а беларусы — Заходняй Беларуссю. Аўтар не ставіць перад сабою мэты адлюстраваць цэласную карціну палітыкі саветызацыі ў поўным аб'ёме; тут прадстаўлена даследаванне нацыянальнага, кадравага, культурна-асветніцкага і прапагандысцка-інфармацыйнага аспектаў працэсу саветызацыі на акрэсленых тэрыторыях, асобая ўвага надаецца пры гэтым Гродзеншчыне. Гэты рэгіён — месца кампактнага пражывання палякаў, якія вызначаліся большай грамадскай актыўнасцю і ўкаранёнай свядомасцю сваёй адметнасці, — уяўляе асаблівую каштоўнасць для даследчыкаў дадзенай тэмы.

На працягу 1944—1953 гг. на гэтай тэрыторыі адбыліся вялізныя змены, галоўнай мэтай якіх было насаджэнне мадэляў грамадска-палітычнага жыцця, агульных для тагачаснай савецкай дзяржавы. Гэты працэс быў непарыўна звязаны з насаджэннем новай сістэмы каштоўнасцей. Імкненне да фармавання «новага чалавека» з'яўлялася адной з самых істотных асаблівасцяў савецкага ладу. Сродкамі барацьбы за новую ментальнасць выступалі прапаганда і індактрынацыя грамадства шляхам поўнага змянення ўсіх сфер жыцця, пры гэтым адна з галоўных роляў адводзілася асвеце. Трэба сказаць, што падмурак новага ладу быў закладзены ў 1939—1941 гг., у час так званых «першых Саветаў», аднак савецка-нямецкая вайна адцягнула працэс саветызацыі гэтых земляў на некалькі год.

Ліквідацыя руху супраціўлення, змены ў складзе насельніцтва, сацыяльныя перабудовы і калектывізацыя цалкам змянілі сацыяльную струк-

туру і эканамічнае аблічча краю. Вясковае насельніцтва было зведзена да становішча прыгонных сялян. «Крэсы» паступова ператвараліся ў «заходнія вобласці БССР з невялікімі выспамі польскага насельніцтва, а беларуская культура служыла аздобай каланіяльнага рэжыму»[1].

Зрэшты, нацыянальная палітыка не была адназначнай і вельмі істотна залежала ад унутрыпартыйнай сітуацыі і рэакцыі грамадства.

Натуральнымі храналагічнымі межамі дадзенай працы аўтар лічыць лета 1944 г., калі гэтыя землі былі занятыя Чырвонай Арміяй у выніку аперацыі «Баграціён», і 1953 г., з якім атаясамляецца завяршэнне палітыкі калектывізацыі і канчатковае эканамічнае заняволенне, аднак гэтыя храналагічныя рамкі будуць слушнымі не ва ўсіх выпадках.

Геаграфічным рэгіёнам, які даследуецца ў дадзенай працы, з'яўляецца паўночна-ўсходняя тэрыторыя РП, што ўвайшла ў склад БССР у верасні 1944 г., г.зн. без Беласточчыны і Віленшчыны, інкарпараваных у 1939 г. Аўтар мае намер выкарыстоўваць у сваёй працы паняцці «Заходняя Беларусь» і «заходнія вобласці БССР». Як ужо гаварылася вышэй, у тагачасных савецкіх дакументах гэтая тэрыторыя называлася *западные области* (заходнія вобласці БССР). Тэрміну «Заходняя Беларусь» аўтар надае ў асноўным геаграфічны і ў меншай ступені — палітычны сэнс, тым больш што выкарыстанне тэрміна «крэсы» з'яўляецца несправядлівым і правакацыйным у дачыненні да беларусаў, а на сённяшні дзень на гэтай тэрыторыі жывуць пераважна беларусы. Паўночна-ўсходнія землі польскай дзяржавы ў пасляваенныя гады ў выніку масавых міграцый насельніцтва, змен у сацыяльнай і эканамічнай структурах, шматузроўневай палітыкі саветызацыі паступова ператварыліся ў заходнія вобласці гіганцкай імперыі[2].

У сферу навуковай зацікаўленасці аўтара ўваходзяць тэрыторыі наступных абласцей тагачаснай БССР[3]: **Гродзенская** вобласць, якая складалася з 15 раёнаў: Бераставіцкага, Ваўкавыскага, Гродзенскага, Свіслацкага, Скідзельскага, Сапоцкінскага (былі аддзелены ад Беластоцкай вобласці);

---

[1] Цыт. паводле: Janowicz S. Kresy białoruskie // Tygiel Narodów. Stosunki społeczne i etniczne na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej 1939—1953. Warszawa, 2002. S. 154.

[2] Трэба адзначыць, што першапачаткова савецкая ўлада надавала шмат увагі гэтай тэрыторыі з-за яе спецыфікі: антысавецкае падполле, супраціўленне грамадства спробам «перавыхавання» і індактрынацыі ў савецкім духу і г.д. Пра гэта сведчаць шматлікія дакументы той эпохі, напрыклад, Пастанова ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» або Пастанова Пленума ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў Мінску 3—6 чэрвеня 1947 г., «Аб партыйна-палітычнай працы ў заходніх абласцях БССР» і г.д. З гадамі розніца нівелявалася і тэрыторыя ўсё больш набліжалася да агульнасавецкага ўзору, таму праблема «заходніх абласцей» паступова знікала. Гл. дадатак: «Заходняя Беларусь».

[3] 5 снежня 1939 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР правёў новы адміністрацыйны падзел зямель на пяць абласцей замест трох польскіх ваяводстваў: Баранавіцкую, Беластоцкую, Брэсцкую, Пінскую і Вілейскую, а таксама на 101 раён. У лістападзе 1940 г., пасля перадачы Літве часткі населеных літоўцамі тэрыторый, былі ліквідаваныя тры раёны: Гадуцішкаўскі, Свянцянскі і Парэцкі (апошні зараз уваходзіць у Гродзенскі раён Гродзенскай вобл.). 20.09.1944 г. было абвешчана пра стварэнне трох новых абласцей: Бабруйскай, Гродзенскай, Полацкай, а цэнтр Вілейскай вобл. быў перанесены ў Маладзечна.

Лідскага, Васілішкаўскага, Воранаўскага, Жалудоцкага, Зэльвенскага, Мастоўскага, Радунскага, Шчучынскага (аддзеленых ад Баранавіцкай вобласці); а таксама Поразаўскага, аддзеленага ад Брэсцкай вобласці[4]; **Баранавіцкая** вобласць, у якую ўваходзілі Быценскі, Гарадзішчанскі, Ляхавіцкі, Навамышскі, Дзятлавіцкі, Казлоўшчынскі, Карэліцкі, Любчанскі, Мірскі, Навагрудскі, Слонімскі, Клецкі, Нясвіжскі, Стаўбцоўскі, Івянецкі[5] раёны; **Брэсцкая** вобласць, якая складалася з Антопальскага, Брэсцкага, Бярозаўскага, Высокаўскага, Дамачаўскага, Дзівінскага, Жабінкаўскага, Камянецкага, Кобрынскага, Косаўскага, Маларыцкага, Пружанскага, Ружанскага, Шарашоўскага[6] раёнаў; **Маладзечанская** вобласць — складалася з Валожынскага, Іўеўскага, Юрацішкаўскага, Астравецкага, Ашмянскага, Крывіцкага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Пастаўскага, Радашковіцкага, Свірскага, Смаргонскага, Ільянскага, Куранецкага[7] раёнаў; **Пінская** вобласць[8], у якую ўваходзілі Ленінскі, Лунінецкі, Целяханскі, Пінскі, Ганцавіцкі, Столінскі, Давыд-Гарадоцкі, Лагішынскі, Драгічынскі, Жабчыцкі, Іванаўскі раёны; а таксама дзевяць раёнаў **Полацкай** вобласці[9]: Браслаўскі, Відзскі, Глыбоцкі, Дзісенскі, Дунілавіцкі, Мёрскі, Докшыцкі, Пліскі і Шаркоўшчынскі.

Праблема саветызацыі Заходняй Беларусі ў пасляваенны перыяд досыць слаба абмяркоўвалася ў навуковай літаратуры. Беларуская гістарыяграфія савецкага перыяду разглядала працэсы ўніфікацыі новых земляў праз прызму гісторыі «народаў СССР». На працягу амаль усяго савецкага перыяду беларускія гісторыкі паказвалі ў сваіх працах прагрэсіўны характар далучэння гэтых тэрыторый да СССР і палітыкі, якая там праводзілася, давалі пазітыўнае асвятленне рэчаіснасці, як таго патрабавала пануючая ідэалогія. Гэтыя працы пісаліся для абгрунтавання канкрэтнай пазіцыі: яны павінны былі давесці

---

[4] Гродзенская вобл. была ўтворана 20 верасня 1944 г. згодна з Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Аб стварэнні Бабруйскай, Гродзенскай і Полацкай абласцей у складзе Беларускай ССР». Параўн.: Административно-территориальное устройство БССР: Справочник в 2 т. Т. 2 (1944—1980). Минск, 1987. С.16. Цыт. паводле: Гродненская область в документах и материалах (1944—1995) / под ред. В. Черепицы. Слоним, 2004. С. 27. Гл. дадаткі: «Гродзенская вобласць» і «Беластоцкая вобласць».

[5] Баранавіцкая вобл. была створана 4 снежня 1939 г. на тэрыторыі былога Навагрудскага ваяводства. 20 верасня 1944 года частка раёнаў была перададзена толькі што створанай Гродзенскай вобл., частка — Маладзечанскай вобл. 8 студзеня 1954 г. Баранавіцкая вобл. была ліквідавана, а яе раёны перайшлі ў суседнія вобласці: Брэсцкую, Гродзенскую, Мінскую і Маладзечанскую. Цыт. паводле: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1, Мінск, 1993. С. 298. Гл. дадатак «Баранавіцкая вобласць».

[6] Брэсцкая вобл. была створана 4 снежня 1939 г. У той час яна складалася з Брэсцкага, Кобрынскага і Пружанскага паветаў Палескага ваяводства. 16 жніўня 1945 г. частка тэрыторыі вобласці з Гайнаўкай, Кляшчэлямі і Сямяцічамі была перададзена Польшчы. 20 верасня 1947 г. Косаўскі раён быў перайменаваны ў Івацэвіцкі. Гл. дадатак «Брэсцкая вобласць».

[7] Маладзечанская вобл. была створана на месцы Вілейскай 20 верасня 1944 г. Вобласць была ліквідаваная 20 студзеня 1960 г. Гл. дадатак «Вілейская вобласць».

[8] Гл. дадатак «Пінская вобласць».

[9] Гл. дадатак «Полацкая вобласць».

непазбежнасць і, з другога боку, прагрэсіўнасць савецкай палітыкі ў гэтым рэгіёне. Прагрэс бачыўся неад'емным элементам цывілізацыйнага развіцця «рабоча-сялянскай» дзяржавы. Аднак, калі не браць пад увагу ідэалагічны бок гэтых прац, у ходзе даследавання іх варта выкарыстоўваць.

Частка беларускіх гісторыкаў паступова пачала вызваляцца ад навязаных савецкай гістарыяграфіяй узораў, і ў працах некаторых з іх можна назіраць новую ацэнку савецкай палітыкі таго перыяду. На жаль, найноўшыя публікацыі афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі сведчаць, што частка гісторыкаў на Беларусі паўтарае ў сваіх працах савецкія схемы і ацэнкі. Пры гэтым часта не ўлічваюцца і цалкам ігнаруюцца апошнія дасягненні сучаснай гістарычнай навукі. Прычыны такой своеасаблівай рэсаветызацыі гістарыяграфіі, прысвечанай вывучэнню азначанага перыяду, трэба шукаць у палітычнай сітуацыі, што склалася ў сучаснай беларускай дзяржаве. З-за палітычных і ідэалагічных прычын апісанне гэтых падзей у адрозным ад афіцыйнай дзяржаўнай дактрыны асвятленні ўспрымаецца, па меншай меры, вельмі непрыхільна, а ў шэрагу выпадкаў робіцца немагчымым.

Польская пасляваенная гістарыяграфія ў прынцыпе не магла сабе дазволіць крытыкаваць савецкую палітыку, і на працягу многіх гадоў галоўнымі тэмамі даследаванняў заставаліся моўная праблематыка альбо біяграфіі беларускіх камуністычных дзеячаў. За апошняе дзесяцігоддзе з'явілася шмат артыкулаў і прац польскіх і беларускіх гісторыкаў, прысвечаных вывучэнню дадзенай праблематыкі[10]. Аднак, акрамя вялікай колькасці публікацый, у якіх разглядаецца пытанне саветызацыі паўночна-ўсходніх земляў міжваеннай Польшчы ў 1939—1941 гг., пасляваенны перыяд не стаў пакуль што прадметам

---

[10] Сярод польскіх публікацый варта адзначыць працы Томаша Стшэмбаша (напрыклад, NKWD o polskim podziemiu 1944—1948. Konspiracja polska na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie / pod red. T. Strzembosza. Warszawa, 1997), Альбіна Главацкага (Głowacki A. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczpospolitej 1939—1941. Łódź, 1998), Міхала Гнатоўскага (Gnatowski M. Zgromadzenie ludowe Zachodniej Białorusi. Białystok, 2001), Кшыштафа Ясевіча (Krzysztof Jasiewicz), Даніэля Бацькоўскага (Daniel Boćkowski) і інш. Значная частка гэтай літаратуры была створана на аснове архіўных матэрыялаў, даступных у Польшчы і ў Беларусі. Надзвычай цікавай падаецца калектыўная праца пад рэдакцыяй К. Ясевіча: «Tygiel Narodów. Stosunki społeczne i etniczne na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej 1939—1953» (Warszawa, 2002), якая дазваляе лепш зразумець прынцыпы функцыянавання таталітарнай камуністычнай сістэмы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Беларуская гістарыяграфія за апошнія некалькі год узбагацілася шэрагам артыкулаў, даследаванняў і манаграфій, прысвечаных перыяду сталінізму, у якіх закранаюцца пытанні змен нацыянальнай структуры, кадравай палітыкі, фармавання межаў, перасяленняў, барацьбы з рэлігіяй і г.д. Сярод найбольш значных варта адзначыць наступныя працы: Вялікі А. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944—1946). Мінск, 2005; Tokć S. Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSRS (1945—1959) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2004. № 21. С. 119—131; Бодак А. Некоторые вопросы кадровой политики в Беларуси в послевоенное десятилетие // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі: Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Брэст, 23—24 красавіка 1998 г. Ч. II. Брэст, 1998. С. 231—238 і інш.

асобнага даследавання[11]. Таму таксама гэтага кшталту *case study*, якія складаюць прадмет зацікаўлення аўтара дадзенай кнігі, могуць істотна дапоўніць агульны вобраз, досыць слаба прадстаўлены на дадзены момант у спецыяльнай літаратуры. Аўтар вырашыў не рабіць шырокага агляду гістарыяграфіі па вывучаемых праблемах ва Уводзінах, а прадставіць агляд літаратуры на пачатку кожнага асобнага раздзела, адпаведна прадметна-храналагічнай структуры працы.

Беларуская архіўная дакументацыя, якая мае дачыненне да вывучаемай тэмы, даволі багатая. Найбольшую каштоўнасць маюць дакументы Камуністычнай партыі Беларусі, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ) у Мінску (партыйныя справаздачы, статыстычныя і аналітычныя дадзеныя, інфармацыя пра палітычныя настроі і г.д.). Вялікую значнасць маюць матэрыялы рэгіянальных архіваў, найперш гродзенскіх (Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ), Дзяржаўны архіў грамадскіх арганізацый Гродзенскай вобласці (ДАГАГВ)), а таксама фактычна закрыты архіў НКУС/НКДБ; існуюць таксама пэўныя цяжкасці ў доступе да зусім сакрэтных партыйных дакументаў. У сувязі з вышэйсказаным выкарыстанне крыніц, якія захоўваюцца ў рэгіянальных архівах, дазваляе больш дакладна паказаць механізмы таталітарнага ўздзеяння на насельніцтва гэтых земляў.

Але галоўныя дакументы знаходзяцца ў Маскве: акты партыйных рашэнняў, справаздачы, матэрыялы цэнтральных органаў. У Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі (*Российский государственный архив социально-политической истории (РГАСПИ)*) захоўваюцца дакументы ЦК УКП(б). Матэрыялы органаў савецкай улады знаходзяцца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі (*Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ)*).

Матэрыялы, сабраныя ў Літоўскім спецыяльным архіве (*Lietuvos Ypatingasys Archivos (LYA)* — былы архіў КДБ ЛітССР), выкарыстоўваліся ў якасці дадатковых, аднак іх вывучэнне вельмі істотнае з пункта гледжання праведзенага даследавання. Аўтар атрымаў магчымасць працаваць з аператыўнымі дакументамі, з зусім сакрэтнымі цыркулярамі агульнасавецкага значэння, з асабістымі справамі асуджаных.

У сувязі са спецыфікай доступу да архіваў у Расіі і асабліва ў Беларусі, здабыванне архіўных матэрыялаў ускладняецца як па рацыянальных, так і даволі часта па нерацыянальных прычынах. Асаблівасці даследаванняў на ўсходзе часта — на мяжы павагі да чалавечай годнасці, немагчымасць здабыць комплексныя матэрыялы ўплывае на працэс завяршэння адбору

[11] Выключэнне складае хіба што праца, якая выйшла ў 2006 г. у Санкт-Пецярбургу. Храналагічныя межы ахопліваюць, праўда, больш шырокі перыяд: 1921—1954 гг. Асаблівую зацікаўленасць аўтара выклікае Баранавіцкая вобл.: пра гэта сведчыць выбар літаратуры і крыніц. Аднак згаданая праца выклікае шмат пытанняў, асабліва з-за выкарыстаных крыніц (у многіх выпадках гэта ўспаміны), і не ўлічвае апошніх дасягненняў польскай гістарыяграфіі. Тым не менш, аўтар зрабіў спробу паказаць з іншага боку, чым гэта прынята ў СССР і сучаснай Беларусі, падзеі перыяду 1921—1954 гг., якія адбываліся на землях Заходняй Беларусі, і паставіць пад сумненне іх адназначную ацэнку. Гл.: Татаренко А. Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах, 1921—1954. Санкт-Петербург, 2006.

крыніц. У такой сітуацыі немагчыма пазбегнуць метадалагічных праблем, цяжкасцяў з інтэрпрэтацыяй асобных момантаў, а таксама своеасаблівага панавання мовы дакументаў.

Тлумачэння патрабуе таксама тэрмін «саветызацыя». Паводле дэфініцыі, прапанаванай польскім даследчыкам Альбінам Главацкім, які займаўся савецкай палітыкай у дачыненні да палякаў на ўсходніх землях міжваеннай Польшчы ў перыяд т.зв. «першых Саветаў», палітыка саветызацыі мела на мэце «гвалтоўнае навязванне сістэмных змен (сацыяльна-эканамічных, палітычна-культурных), а таксама ідэалагічны эксперымент, які павінен быў, між іншым,ператварыць палякаў у савецкіх людзей. Гэтаму садзейнічалі татальны нагляд і палітычны тэрор і паступовы пераход ад кантролю над эканамічным жыццём да монапартыйнай дзяржавы»[12]. Калі не звяртаць увагі на розныя перыяды даследаванняў і розныя нацыянальныя групы, прапанаваная дэфініцыя будзе вельмі дакладнай. Акрамя структурных змен і ўніфікацыі, важнае значэнне мелі змены, якія павінны былі адбыцца ў свядомасці дзякуючы кшталтаванню асаблівага тыпу ментальнасці. У выніку такіх змен павінен быў нарадзіцца новы чалавек, чалавек савецкі — *homo sovieticus*[13].

У Польшчы з'ява *homo sovieticus* стала прадметам даследавання Ю.Тышнера[14]. У адным са сваіх тэкстаў ён наступным чынам характарызуе савецкага чалавека:

«"Аднамерная" істота, для якой не існавала вертыкальнага вымярэння чалавечай экзістэнцыі, а ўсё самае важнае знаходзілася на гэтай зямлі (...). Homo sovieticus, паводле вучэння класікаў, не мог мець "душы" (...). Гэта азначала — і зрабілася найважнейшым, — што ўсё ягонае ўнутранае жыццё зводзілася, у рэшце рэшт, да функцыянавання "абумоўленай быццём свядомасці"»[15].

Фюлоп-Мілер, на думку слыннага саветолага Міхаіла Гелера, быў адным з першых вельмі нешматлікіх замежнікаў, які зразумеў сутнасць новага савецкага чалавека. Ён пісаў, што мэтай з'ўляецца «стварэнне вечнага падуладнага агітатара *ecclesia militans i* савецкага бюракрата». У сувязі з гэтым «можна сказаць, што бальшавікі арганізавалі асвету такім чынам, каб ніхто не выйшаў за межы дазволеных ведаў і адукацыі і каб развіццё пралетарскай дзяржавы не тармазілася грамадзянамі, якія валодаюць празмернымі ведамі і ператвараюцца з-за гэтага ў "хісткі элемент"»[16].

---

[12] Głowacki A. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939—1941. Łódź, 1998. S. 15.

[13] Тэрмінам *homo sovieticus* у сваіх працах карысталіся, напр., расійскія эміграцыйныя даследчыкі Міхаіл Гелер (Maszyna i śrubki. Jak hartował się człowiek sowiecki. Paryż, 1988) і Аляксандр Зіноўеў (Нарысы «Homo sovieticus». Londyn, 1984). Зіноўеў з'ўляецца аўтарам многіх прац у галіне логікі, навуковай метадалогіі, ён распаўсюдзіў разуменне тэрміна *homo sovieticus* як феномена сацыялогіі.

[14] Tischner J. Etyka solidarności i Homo sovieticus. Kraków, 1992.

[15] Tischner J. Homo sovieticus. Między Wawelem a Jasną Górą // Tygodnik Powszechny, 24 czerwca 1990. Цыт. паводле: Spór o Polskę 1989—1999. Wybór tekstów prasowych / wstęp, wybór i układ P. Śpiewak. Warszawa, 2000. S. 112.

[16] Heller M. Maszyna i śrubki. Jak hartował człowiek sowiecki. Paryż, 1988. S. 159.

Савецкі чалавек сфарміраваўся ў спецыфічных умовах таталітарнай сістэмы. Для таталітарнай дзяржавы характэрны адзіная ідэалогія і развітая прапаганда. Дадзеная праца не прадугледжвае шырокага навуковага асвятлення пытанняў, звязаных з тэрміналогіяй і тэрміналагічным апаратам прыблематыкі «прапаганды» і «ідэалогіі», а таксама ўсіх тэорый і школ. На думку аўтара, гэта сфера хутчэй паліталагічных, а не гістарычных даследаванняў.

Аўтар выкарыстоўвае таксама тэрміны «адукацыя» і «асвета». Аднак гэтае даследаванне не з'яўляецца «чыстай» працай па гісторыі выхавання, і гісторыя адукацыі, педагагічнай думкі, школьнага навучання не з'яўляюцца асноўнай сферай даследавання. Аўтар імкнуўся паказаць гэтую праблему з пункта гледжання інтэрдысцыплінарнай працы, на шырокім гістарычным фоне, з улікам канкрэтных палітычных умоў, характэрных для акрэсленага перыяду. Не выклікае сумненняў, што школьная адукацыя ў СССР была адным з самых важных фактараў індактрынацыі грамадства. Саветолаг Міхаіл Гелер у сваіх разважаннях на тэму савецкай школы і савецкай адукацыі прыйшоў да высновы, што савецкая школа з найбольш рэвалюцыйнай (пачатак 20-х гадоў)ператварылася ў адну з найбольш рэакцыйных і кансерватыўных у свеце.

«Партыя ні на хвіліну не губляла з вачэй сваёй мэты, на працягу ўсяго перыяду існавання СССР школа была магутным інструментам пераробкі чалавека», — піша Гелер[17].

Напрыклад, ва «Уставе дзіцячага сада» гаварылася: «Прывіваць любоў да савецкай айчыны, свайго народа і яго правадыроў, да савецкай арміі, выкарыстоўваючы багацці роднай прыроды і народнай творчасці, важныя падзеі з жыцця краю, даступныя дзіцячаму разуменню»[18].

Прадстаўленая чытачу праца падзяляецца на тры раздзелы. У першым раздзеле аўтар мае намер паказаць агульную карціну сацыяльна-палітычнай сітуацыі на тэрыторыі заходніх абласцей БССР адразу ж пасля таго, як яны былі занятыя савецкімі войскамі, а таксама даць характарыстыку эканамічных праблем насельніцтва, якое пражывала на дадзеных землях. Асобая ўвага надаецца этапам ліквідацыі ўзброенага супраціўлення ў 1944—1952 гг., аднак аўтар не спрабуе адначасова даць цэласнае апісанне гэтай з'явы, таму што яна добра прадстаўлена ў навуковай літаратуры. Тым не менш, ігнараванне дадзенай праблемы магло б заблытаць сэнс першага раздзела, бо антысавецкая барацьба аказвала значны ўплыў на савецкую палітыку.

У другім раздзеле разглядаюцца пытанні, звязаныя з мабілізацыяй насельніцтва ў войска і на прамысловасць (моладзі, адпаведна, — у ФЗВ і РВ), нацыянальнымі зменамі і савецкай кадравай палітыкай, а таксама рэлігійнай палітыкай. На думку аўтара, характарыстыка савецкай палітыкі ў названых сферах паказвае, якім чынам камуністычная ўлада разглядала гэтыя тэрыторыі і мясцовае насельніцтва, а таксама тлумачыць у шэрагу выпадкаў

---

[17] Heller M. Maszyna i śrubki ... S. 150.

[18] Тое, што метад фармавання савецкага чалавека ўніверсальны, доказвае аналіз польскіх падручнікаў, які ў 1980 г. правёў Богдан Цывіньскі: Тамсама. С. 154—159.

непрыманне і адмаўленне большасці прапагандысцкіх мерапрыемстваў савецкай улады *заходнікамі*[19].

Трэці раздзел складаецца з некалькіх падраздзелаў. У першым і другім паказваюцца галоўныя кірункі савецкай прапаганды ў СССР, характарызуецца прапагандысцкая палітыка, якая праводзілася на захадзе Беларусі ў вывучаемы перыяд, на аснове архіўных матэрыялаў паказваецца яе асаблівы, у параўнанні з іншымі тэрыторыямі, характар. У трэцім падраздзеле на прыкладзе школьнай адукацыі (у тым ліку і польскамоўнай) раскрываецца роля, якую адыгрывала савецкая сістэма асветы ў рэалізацыі мэтаў савецкай прапаганды. Чацвёрты і пяты падраздзелы прысвечаны ідэалогіі, трансляванай праз разнастайныя інстытуты савецкай улады ў галіне фармавання новай свядомасці пры дапамозе прэсы, фільмаў, а таксама выдавецкай і навуковай дзейнасці*.

[19] Стэрэатып *заходніка* сярод беларускага насельніцтва з'явіўся даволі рана, карані яго можна адшукаць яшчэ ў XVI ст., у той час ён увасобіўся сярод шляхты, для якой вестэрнізацыя азначала лацінізацыю і скончылася ў канцы XVIII ст. амаль поўнай паланізацыяй. XIX ст. прынесла зваротныя тэндэнцыі — у бок русіфікацыі і пераходу ў праваслаўе, пазбягання польскасці, якая была вызначальнай рысай стэрэатыпу заходніка. У міжваеннай Польшчы стэрэатып заходніка ўвасабляўся ў польскім землеўладальніку, урадніку ці асадніку. Пасля ўключэння паўночна-ўсходніх земляў польскай дзяржавы ў склад СССР словам «заходнік» пачалі называць жыхароў заходніх абласцей БССР. Цыт. паводле: Matelski D. Stereotyp «zapadnika» w świadomości Białorusinów w latach Drugiej Rzeczypospolitej // Polacy—Żydzi—Białorusini—Litwini na północno-wschodnich ziemiach polskich a władza radziecka (1939—1944). W kręgu mitów i stereotypów / pod red. M. Gnatowskiego i D. Boćkowskiego. Białystok, 2005. S. 125—126.

* Уводзіны пададзены ў некалькі скарочаным выглядзе. Пры перакладзе апушчаны фрагменты, якія датычаць прынцыпаў перадачы геаграфічных назваў па-польску, асаблівасцяў ужывання тэрміна «саветызацыя» ў польскай мове і некаторыя іншыя. — *Рэд.*

# Раздзел I

# ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ І ЯЕ РАЗВІЦЦЁ Ў 1944—1953 ГАДАХ

## I.I. ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ: КАРОТКАЕ ТЛУМАЧЭННЕ СФЕРЫ ІНТАРЭСАЎ І ЗНАЧЭННЯ ТЭРМІНА

Праблема назвы тэрыторыі, пра якую будзе ісці гаворка ў дадзенай працы, выклікае вельмі шмат эмоцый і спрэчак. У польскай гістарыяграфіі замацаваліся назвы «крэсы» і, часцей, — «паўночна-ўсходнія землі II Рэспублікі»* або «т.зв. Заходняя Беларусь». У перыяд ПНР у польскай гістарыяграфіі прынята было пазбягаць азначэння «Усходнія Крэсы», агульнапрынятай лічылася назва «Заходняя Беларусь». Гэта было абумоўлена палітычнымі прычынамі. Змены, якія адбыліся пасля распаду СССР, не толькі паспрыялі правядзенню даследаванняў гісторыі гэтых тэрыторый, але і стварылі магчымасць для кантактаў і супрацоўніцтва польскіх і беларускіх гісторыкаў. Дыскусію выклікала пытанне іх назвы. У лютым 1993 г. на Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў польскі гісторык з Беластока Ян Ежы Мілеўскі прадставіў сваё бачанне праблемы, карыстаючыся азначэннем «паўночна-ўсходнія землі II Рэспублікі» (*ziemie północno-wschodnie II Rzeczypospolitej*). У 1998 г. у сваім артыкуле ён прапанаваў «уключыць у склад паўночна-ўсходніх земляў II Рэспублікі тэрыторыю трох даваенных ваяводстваў: Віленскага, Навагрудскага і Палескага, а таксама Гродзенскага і Ваў-

---

* У беларускіх выданнях часам сустракаецца не зусім карэктны пераклад для абазначэння міжваеннай польскай дзяржавы — «II Рэч Паспалітая». Такая форма захавана толькі пры іх даслоўным цытаванні. — *Рэд.*

кавыскага паветаў Беластоцкага ваяводства»[1]. Прафесар Уладзімір Міхнюк з Мінска незадоўга да сваёй смерці надрукаваў у «Беларускім гістарычным часопісе» гістарыяграфічны агляд прац, прысвечаных паняццю «Заходняя Беларусь», і іх кароткае апісанне. Беларускі гісторык, аналізуючы ўклад польскай гістарыяграфіі ў гэтую праблему, між іншым зазначыў:

> Польскія гісторыкі ў асвятленні гэтых пытанняў адыходзяць ад прынцыпаў аб'ектыўнасці і гістарызму: па ідэалагічных і палітычных меркаваннях тэрмін «Заходняя Беларусь» падмяняецца паняццем «паўночна-ўсходнія землі Другой Рэчы Паспалітай», істотна змяншаюць даныя аб беларускай тэрыторыі, далучанай да Польшчы па Рыжскаму мірнаму дагавору, маніпулюючы данымі перапісу 1921 г., значна перабольшваюць колькасць польскага насельніцтва і адпаведна зніжаюць працэнт беларусаў у Заходняй Беларусі з тым, каб паказаць польскі характар гэтага рэгіёна[2].

Гэтае выказванне характарызуе пазіцыю пэўнай часткі беларускай постсавецкай гістарыяграфіі, у якой вызначэнне межаў Заходняй Беларусі супадае з вызначэннем аўтараў шматлікіх прац, прысвечаных гісторыі камуністычнай партыі. Нефармальнай сталіцай Заходняй Беларусі доўгі час лічылася (і так дагэтуль лічыць значная частка гісторыкаў) Вільня[3]. Фармальна Вільня некалькі тыдняў належала да Заходняй Беларусі, пасля чаго была перададзена літоўцам. Палітычныя прычыны абумовілі тое, што «сталіцай» квазі-

---

[1] Гл.: Мілеўскі Я.Е. Заходняя Беларусь: да пытання тэрыторыі і насельніцтва // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 3. С. 40—42.

[2] Міхнюк У. Заходняя Беларусь: межы, тэрыторыя, насельніцтва (гістарыяграфічныя нататкі) // Беларускі гістарычны часопіс. 2004. № 11. С. 19. Напрыклад, «маніпуляцыі» польскага гісторыка, прафесара Ежы Тамашэўскага даводзяць, што, згодна з перапісам насельніцтва 1931 г., у Беластоцкім ваяводстве пераважала польскае насельніцтва (71%), найменш палякаў было ў Палескім ваяводстве (11,5%). У Навагрудскім ваяводстве польскай мовай карысталася 52,4% насельніцтва, а палякі складалі там 33,8% насельніцтва. Затое ў Баранавіцкім павеце па-польску размаўляла 46% усяго насельніцтва, і з іх толькі 28% былі каталікамі. Дадзеныя перапісу 1931 г., у якім асноўная ўвага надавалася моўнаму і канфесійнаму крытэрыям, не адлюстроўваюць спецыфікі пэўных рэгіёнаў, тым больш што дадзеныя гэтыя не заўсёды былі аб'ектыўна апрацаваныя. Аднак пры ўсім гэтым не выклікае сумненняў і той факт, што значны працэнт насельніцтва ў рэгіёне складалі палякі, а ў некаторых усходніх ваяводствах іх была большасць. Гл.: Tomaszewski J. Ojczyzna nie tylko Polaków. Warszawa, 1985. S. 52—149.

[3] У першым выданні «Малой савецкай энцыклапедыі» (1929 г.) да Заходняй Беларусі далучалася таксама тэрыторыя былых Гродзенскай і Мінскай губерняў, а таксама «частка Віленскай разам з горадам Вільняй, які РСФСР перадала Літве ў 1920 г. Гандлёва-прамысловы і культурны цэнтр краю — Вільня. Беласток з'яўляецца горадам фабрычнай прамысловасці». Гл.: Малая советская энциклопедия / под ред. Н.Л. Мищерякова. Т.3. Москва, 1929. С. 236; У лютым 1949 г. Палітбюро палічыла, што першае выданне «Вялікай савецкай энцыклапедыі» «мае істотныя недахопы, а таксама ўтрымлівае тэарэтычныя і палітычныя памылкі», і прыняло рашэнне выдаць новую, папраўленую рэдакцыю. У чарговых пасляваенных энцыклапедычных выданнях, дзе згадвалася Заходняя Беларусь, Вільня і Віленшчына больш не далучалася да яе тэрыторыі. Прычына гэтага крыецца ў палітычных матывах, а менавіта — у нежаданні страціць прыхільнасць літоўцаў.

дзяржавы «Заходняя Беларусь» у 1939 г. стаў Беласток. Межы тагачаснай Заходняй Беларусі ахоплівалі ўсю Беласточчыну, значную частку Падляшша і дасягалі Ломжы ва ўсходняй Мазовіі.

Сярод польскіх гісторыкаў не існуе адзінага пункта гледжання наконт вызначэння межаў Заходняй Беларусі. Затое няма, напэўна, ніводнага польскага гісторыка, які сёння не выказваў бы думкі пра штучнасць паўсталай у лістападзе 1939 г. квазі-дзяржавы з цэнтрам у Беластоку. Томаш Стшэмбаш паняцце «Заходняя Беларусь» у цэлым атаясаміў з паняццем «Паўночна-ўсходнія крэсы II Рэспублікі»[4]. Гісторык лічыў, што «"Заходняя Беларусь" у тым выглядзе, які яна набыла ў лістападзе 1939 г., была, несумненна, штучным утварэннем, абумоўленым не этнічным складам, нацыянальнымі і дзяржаўнымі традыцыямі, воляй насельніцтва і г.д., а рашэннем Сталіна і Гітлера, якія дзялілі паміж сабою здабычу ва Усходняй Еўропе». Стшэмбаш прапанаваў выкарыстоўваць азначэнне «паўночна-ўсходнія землі II Рэспублікі» замест «Усходнія крэсы», бо тэрыторыя гэтая «крэсамі» не з'яўлялася: «Савецкія войскі ўварваліся ў самае сэрца польскай дзяржавы, захапілі не ўскраіны, а самы цэнтр»[5]. Іншы гісторык, Кшыштаф Ясевіч, лічыць, што Заходняя Беларусь знаходзілася на тэрыторыі ранейшых паўночна-ўсходніх ваяводстваў міжваеннай Польшчы, за выключэннем Віленскай акругі і Вільні. Ясевіч прапануе пры выкарыстанні тэрміна «Заходняя Беларусь» браць яго ў двукоссе або дадаваць скарачэнне «т.зв.», каб падкрэсліць яго паходжанне[6].

Беларускі гісторык з Гродна Іван Коўкель сцвярджае, што тэрмін «Заходняя Беларусь» з'явіўся раней за 1923 г., калі была створаная Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Ён аспрэчыў сцверджанне польскай даследчыцы Аляксандры Бергман пра тое, што гэтае паняцце з'явілася ў 1923 г. па прапанове Карла Радэка[7]. Прафесар Коўкель сцвярджае, што гэты тэрмін узнік восенню 1920 г. для абазначэння беларускіх земляў, якія раней уваходзілі ў Гродзенскую і Віленскую губерні, і не мае ніякай сувязі з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі[8].

---

[4] Яно ахоплівала Віленскае і Навагрудскае ваяводствы, усходнюю частку Беластоцкага ваяводства (Гродзенскі і Ваўкавыскі паветы) і Палескае ваяводства, у тым ліку і яго ўсходнюю частку. Савецкая ж квазі-дзяржава, якая называлася «Заходняя Беларусь», ахоплівала заходнюю частку Падляшша і частку ўсходняй Мазовіі.

[5] Цыт. паводле: Sztrzembosz T. Wydarzenia i losy ludzkie. Źródła do historii Polski ze zbiorów NARB. Warszawa, 2001. S. 14.

[6] Ва ўводзінах да калектыўнай працы пра сацыяльныя і этнічныя ўзаемаадносіны на колішніх усходніх землях Рэчы Паспалітай Ясевіч зазначыў, што «гэтыя паняцці (Заходняя Беларусь, Заходняя Украіна) былі ўведзены для абазначэння тэрыторыі дзеяння створаных у складзе Камуністычнай партыі Польшчы аўтаномных аганізацый — Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) і Камуністычнай партыі Заходняй Украіны (КПЗУ)». Параўн.: Jasiewicz K. Obok wstępu. O potrzebie refleksji nad niektórymi stereotypami // Tygiel narodów / pod. red. K. Jasiewicza. Warszawa, 2002. S. 32.

[7] Гл.: Bergman A. Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984. S. 9—10.

[8] Параўн.: Коўкель І. Аб паходжанні тэрміна «Заходняя Беларусь», яе тэрыторыі, нацыянальным і канфесійным складзе яе насельніцтва (1921—1939) // Этносоциальные и кон-

Яшчэ падчас Другой сусветнай вайны азначэнне «Заходняя Беларусь» было заменена тэрмінам «заходнія вобласці БССР»[9]. Увядзенне гэтага тэрміна павінна было падкрэсліць інтэгральнасць і цэласнасць з БССР, тое, што землі гэтыя з'яўляюцца неад'емнай часткай «вялікай сям'і народаў СССР». У студзені 1944 г. Галоўліт[10] разаслаў па ўсіх абласных і раённых органах цэнзуры спецыяльны ліст з загадам не згадваць у прэсе пра старыя (*да 17.09.1939 г. — Я.Ш.*) межы СССР[11].

## УСТАЛЯВАННЕ НОВАЙ ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЙ МЯЖЫ

Адначасова змяняюцца межы Заходняй Беларусі. На Беласточчыне і ў Ломжынскім павеце ў час вайны ПРП наогул не ствараласся, таму што гэтыя землі лічыліся складовай часткай СССР[12]. Сітуацыя змянілася толькі пасля таго, як у канцы 1943 г. СССР прызнаў т.зв. лінію Керзона ўсходняй мяжой Польшчы[13]. Гэтая лінія пачыналася на поўначы каля вусця ракі Чорная Ганча, па лініі Нёмана даходзіла да Гродна, пакідаючы на савецкім баку правабярэжную частку горада і чыгуначную станцыю Ласосна. На поўдні мяжа адыходзіла ад Нёмана і ў раёне Нямірава і Ялаўкі даходзіла да Буга. Амаль уся Белавежская пушча павінна была застацца на ўсходнім баку, затое Сапоцкін,

фессиональные процессы в современном обществе. Материалы международной научной конференции 16—18 ноября 1999 г. Гродно, 2000. С. 407—415.

[9] У партыйных дакументах ужываецца азначэнне «заходнія вобласці БССР», напрыклад, «Пастанова ЦК УКП(б) аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР ад 20 студзеня 1945 г.». Гл.: Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. 7. 1938—1945. Москва, 1985. С. 533—536.

[10] Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў (Галоўліт) створана ў РСФСР у 1922 г. для патрэбаў цэнзуры. У пасляваенны перыяд (падчас вайны Галоўліт падпарадкоўваўся Галоўнаму ваеннаму цэнзару) змяняецца таксама і спосаб расшыфроўкі абрэвіятуры — Галоўнае ўпраўленне па справах аховы ваенных і дзяржаўных таямніц у друку.

[11] Цыркуляр № 1/3с, 05.01.1944 г., падпісаў упаўнаважаны Савета народных камісараў па справах аховы ваенных і дзяржаўных таямніц у друку, кіраўнік Галоўліта Н.Садчыкаў: НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 2, арк. 1.

[12] Gontarczyk P. Polska Partia Robotnicza. Droga do władzy, 1941—1944. Warszawa, 2003. S. 400.

[13] Пётр Гантарчык у сваёй працы пра ПРП піша, што камуністычная прэса ў Польшчы была амаль што афіцыйным органам савецкага агенцтва ТАСС ва ўсіх звязаных з Польшчай справах. У газеце «Głos Warszawy», № 5 ад 14.01.1944 г. згадваецца, што «ў межах 1939 г. магчымыя змены, скіраваныя на вяртанне Польшчы земляў, на якіх пераважае польскае насельніцтва. У такім выпадку мяжа праходзіла б па так званай лініі Керзона, усталяванай у 1919 г. Вярхоўнай радай Антанты, а Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь былі б далучаны да СССР». Цыт. паводле: Gontarczyk P. Polska Partia ... S. 374. Гісторык таксама прыводзіць ліст ЦК ПАРП да Дзімітрава ад 7.03.1944 г., у якім, між іншым, тлумачыцца пазіцыя партыі ў пытаннях усходняй мяжы: «ЦК ПАРП доўга не ставіў у гэтай справе выразнай кропкі над «і», але пасля прапановы ўрада СССР адносна лініі Керзона лічыць, што кропкі гэтыя належыць паставіць». Ibidem. С. 385.

Індура, Крынкі — на заходнім. Цяперашняя мяжа на паўночным адрэзку, у параўнанні з лініяй Керзона, пасунулася на захад на 15—20 км, у выніку чаго Польшча страціла тэрыторыі на захад ад Нёмана разам з левабярэжнай часткай Гродна, чыгуначнай станцыяй Ласосна і ўвесь Аўгустоўскі канал.

У сучаснай беларускай літаратуры і гістарыяграфіі гэтая лінія часта разглядаецца як неадпаведная этнічным тэрыторыям беларусаў. Беларускі гісторык Захар Шыбека разглядае рашэнне Сталіна аб перадачы Беласточчыны Польшчы як «другі падзел паміж Польшчай і Расіяй беларускага народа і яго натуральнага багацця»[14]. Іншы беларускі гісторык з Брэста, Аляксандр Бодак, разглядае далучэнне ў 1944 г. Беласточчыны і астатніх земляў на працягу наступных некалькіх год да Польшчы як «рабаўніцтва беларускіх тэрыторый». Аргументам на карысць беларускага характару гэтага рэгіёна з'яўляюцца, на думку аўтара, вынікі «плебісцыту 22.10.1939 г., калі пераважная большасць насельніцтва заходніх абласцей (2 672 280 з 2 763 190) выражыла далучыцца да БССР»[15].

Несумненна, новая мяжа не задаволіла цалкам інтарэсаў ніводнага з зацікаўленых бакоў. Яна падзяліла не толькі тэрыторыю, але і чалавечыя лёсы. Канчаткова польска-савецкая мяжа была ўсталявана і набыла сучасны выгляд у сярэдзіне 1950-х гг. (*асобныя карэкціроўкі выконваліся яшчэ на пач. 1960-х — заўв. перакл.).* Відавочна, што на польскім баку засталося шмат беларусаў, а на некаторых тэрыторыях яны складалі большасць. На савецкім баку таксама засталося шмат тэрыторый, дзе палякі складалі абсалютную большасць. Партыйныя ўлады БССР яшчэ падчас т.зв. рэпатрыяцыі ў Польшчу ў другой палове 40-х гг. часта атаясамлівалі месца нараджэння і нацыянальнасць,

---

[14] Szybieka Z. Historia Białorusi, 1795—2000. Lublin, 2002. S. 367 *(дапоўненае беларускае выданне: Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі. 1795—2002. Мінск, 2003. — Рэд.).* Шыбека таксама лічыць, што «камуністычнае кіраўніцтва Польшчы на чале з Баляславам Берутам выпрасіла ў Сталіна Беластоцкую вобл., а дакладней — яе сямнаццаць раёнаў, і тры раёны Брэсцкай вобласці. (...) Сталін хацеў зрабіць з палякаў верных саюзнікаў, а з беларусаў стварыў у Польшчы на ўсякі выпадак пятую калону». Гэтая праца выйшла ў Любліне ў Інстытуце Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў выдавецкай серыі «Гісторыя Цэнтральна-Усходняй Еўропы». Як зазначаюць рэдактары выдання, «кожны з аўтараў і рэдактараў прытрымліваўся свайго пункта погляду. Асобныя падыходы фарміраваліся гістарыяграфічнымі традыцыямі чатырох краін».

[15] Бодак А. Об изменениях западной границы Беларуси в 1944—1955 гг. // Наш радавод. Кн. 8. Гродна—Беласток, 1999—2001. С. 487—494. Прыводзячы лічбы «плебісцыту», аўтар, свядома альбо не, прымае на веру вынікі падобных прапагандысцкіх мерапрыемстваў савецкага апарату. Нават у найбольш «рэакцыйных» і «адсталых» раёнах, у якіх дзейнічала антысавецкае падполле і значная частка насельніцтва аказвала супраціў савецкай сацыяльна-эканамічнай палітыцы, «працоўнае насельніцтва» літаральна на 100% «падтрымлівала блок камуністаў і беспартыйных». У Сапоцкінскім раёне Гродзенскай вобласці, дзе найпазней, бо толькі ў 1952 г. людзей загналі ў калгасы, пражывала польскае насельніцтва, «сапсаванае ўплывам рэакцыйных польска-фашысцкіх элементаў». А выніки выбараў, напрыклад, у Вярхоўны Савет СССР у 1950 г. былі наступнымі: «сяляне Сапоцкінскага раёна аднагалосна прагаласавалі за кандыдатаў сталінскага блока камуністаў і беспартыйных, дэманструючы адданасць савецкай уладзе». Цыт. паводле: Інфармацыйная запіска аб працы групы прапаганды ЦК КП(б)Б, сакавік 1950 г., за подпісам інструктара аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Л.Спірыдановіч: НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202, арк. 103.

выдзяляючы катэгорыю людзей, «народжаных на тэрыторыі Беларусі». У адной з польскіх справаздач наконт працы змешанай камісіі ў Баранавічах гаварылася: «Беларускі бок (...), не зважаючы на тое, што сам бачыць і чуе (...), безапеляцыйна заяўляе, што яны з'яўляюцца беларусамі, таму што тут нарадзіліся»[16]. Такі падыход не толькі не ўлічваў існавання польскага насельніцтва, але і адмаўляў у асноўным праве на нацыянальнае самавызначэнне незалежна ад мовы, веравызнання і месца пражывання*.

Летам 1944 г., у час фармавання новай мяжы, польскае насельніцтва памежных тэрыторый, якія заставаліся на савецкім баку, накіроўвала шматлікія лісты польскім уладам з просьбамі хадайнічаць пра тое, каб гэтыя тэрыторыі засталіся на баку Польшчы. Лісты дасылаліся на адрасы: «Ваяводская нацыянальная рада ў Беластоку», «Старасту ў Саколцы», «Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення ў Беластоку», «Пану ўпаўнаважанаму польскага прадстаўніцтва ў Маскве» і г.д. Матываваліся просьбы па-рознаму: «спакон вякоў мы — палякі», «належым да касцёла, які застаўся на польскім баку, як і нашы могілкі» («жыхары вёскі Дойлідкі»), выказвалася нават жаданне супрацоўнічаць з Саветамі: «мы хочам таксама працаваць з нашым Часовым Урадам у Кузніцы разам з Чырвонай арміяй» («ад усіх жыхароў вёскі Мішкенікі»). Часта гаварылася пра цесныя сувязі з польскай дзяржавай: «(...) мы былі, ёсць і хочам застацца найадданейшымі грамадзянамі Рэспублікі Польшча» («ад жыхароў чыста каталіцкай і чыста польскай вёскі Курчоўцы гміны Крынкі, акружанай чыста польскімі вёскамі Макараўцы, Ігнатовічы, Праневічы, Жэповічы (...), з заходняга берага Свіслачы»)[17].

Аналагічныя лісты, толькі з просьбамі пакінуць тэрыторыю ў складзе СССР, пісалі насельнікі некаторых раёнаў Беласточчыны з пераважнай коль-

---

[16] Ruchniewicz M. Stosunki narodowościowe w latach 1939—1948 na obszarze tzw. Zachodniej Białorusi // Przemiany narodowościowe na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej 1931—1948 / pod red S. Ciesielskiego. Toruń, 2003. S. 309.

* У польскай гістарыяграфіі часта ігнаруецца праблема размежавання нацыянальнай і канфесійнай свядомасці каталіцкага насельніцтва рэгіёна, хаця працэсы фармавання нацыянальнай свядомасці (польскай і беларускай) у насельніцтва Заходняй Беларусі яшчэ і сёння складана назваць завершанымі. — *Рэд.*

[17] Archiwum MSZ Polski, Zespół 1, wiązka 1, teczka 2, k. 1—59. У папцы захоўваюцца лісты ад насельнікаў 21 вёскі з памежных тэрыторый, дасланыя, галоўным чынам, летам 1944 г. у розныя месцы з просьбамі пра ўмяшальніцтва. У Гродне і Сапоцкіне ў ліпені 1944 г. былі нават створаны камітэты, якія накіроўвалі лісты ад насельніцтва ў розныя польскія ўстановы з просьбамі пакінуць іх населены пункт у складзе Польшчы. У лісце ад жыхароў мястэчка Сапоцкін «да пасла польскага пасольства ў Маскве» (*на самай справе пасольства яшчэ не існавала — было т.зв. палітычнае прадстаўніцтва і палітычны прадстаўнік Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення — Я.Ш.*) ад 15.07.1945 г. між іншым пішацца: «Улічваючы тое, што Сапоцкінскі раён на 100% заселены палякамі і на падставе Крымскай канферэнцыі мяжа павінна праходзіць па лініі Керзона, а лінія гэтая праходзіць па рацэ Нёман, і таму Сапоцкінскі раён цалкам адыходзіць да Польшчы, і не варта падрываць матэрыяльнае становішча сялян у гэтым раёне, а асабліва зараз, перад жнівом, таму просім і молім пана пасла тэрмінова прыняць меры па спыненні вывазу палякаў з гэтага раёна і ўзяць нас пад апеку». Усе лісты былі скіраваны ў Пасольства РП у Маскве, якое цалкам залежала ад сваіх кіраўнікоў і няшмат магло зрабіць у гэтым кірунку: Ibidem, k. 59.

касцю беларускага насельніцтва. У адным з такіх лістоў да 1-га сакратара КП(б)Б Панамарэнкі былы чырвонаармеец Фёдар Савельеў прасіў далучыць да СССР тры раёны Беласточчыны: Бельскі, Кляшчэльскі і Гайнаўскі. Палякі, паводле яго словаў, гэта:

> националисты, шовинисты и нас *(беларусаў — Я.Ш.)* ненавидят и не дадут помощи... Очень нам обидно быть под властью панов, хоть они и демократы, но враги-гады к белорусам[18].

Партыйнае і савецкае кіраўніцтва тагачаснай Беластоцкай вобл. (Эльман і Ратайка) скіравала ў ліпені 1944 г. дакладную запіску да 1-га сакратара КП(б)Б Панамарэнкі, у якім звярнулася з просьбай «прапанаваць нашаму савецкаму ўраду, каб падчас перамоваў з Польшчай наконт межаў паміж ёю і СССР былі ўлічаны ўсе прадстаўленыя ў дадзенай дакладной запісцы факты і ставілася пытанне аб тым, каб пакінуць Беласток, а таксама Беластоцкі, Бельскі і Заблудаўскі раёны ў складзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік»[19]. Але рашэнне ўжо было прынятае і не падлягала абмеркаванню.

## I.II. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў ДРУГІМ ПАЎГОДДЗІ 1944—1945 ГГ. ІНАКШЫ ВОБРАЗ САВЕЦКАГА ВЫЗВАЛЕННЯ

Перыяд т.зв. «першых Саветаў» быў грунтоўна вывучаны і асветлены ў вялікай колькасці навуковых прац. Многія з даследаванняў, прысвечаныя перыяду 1939—1941 гг. і розным аспектам «акупацыі» або «вызвалення», былі створаны ў беластоцкім асяродку. Працы гэтыя ў асноўным датычыліся Беласточчыны[20], тэрыторыі, вывучанай, напэўна, найбольш грунтоўна; з'явіліся таксама даследаванні савецкай палітыкі ў дачыненні да ўсіх усходніх земляў міжваеннай Польшчы[21]. Акрамя прац асобных даследчыкаў, напры-

[18] Ліст Фёдара Савельева да сакратара ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнкі з пратэстам супраць перадачы Беластоцкай вобласці Польшчы, 18 ліпеня 1945 г. Панамарэнка пакінуў на лісце наступную рэзалюцыю: «Растлумачыць таварышу». Верагодна, мелася на ўвазе тлумачэнне новай палітычнай сітуацыі, у якой палякі з «дэмакратычнай» Польшчы перасталі быць «шавіністамі» і «нацыяналістамі». Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь. Документы и материалы. Минск, 2005. С. 295. Гл. таксама: Вялікі А. На раздарожжы ... С. 35.

[19] Boćkowski D. Na zawsze razem. Białostocczyzna i Łomżyńskie w polityce radzieckiej w czasie II wojny światowej (IX.1939 — VIII.1944 ). Warszawa, 2005. S. 273.

[20] Гл., у прыватнасці: Gnatowski M. W radzieckich okowach. Łomża, 1997; Gnatowski M. Niepokorna Białostocczyzna. Białystok, 2001; Śleszyński W. Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie, 1939—1941. Propaganda i indoktrynacja. Białystok, 2001; Boćkowski D. Na zawsze razem. Białostocczyzna i Łomżyńskie w polityce radzieckiej w czasie II wojny światowej (IX.1939 — VIII.1944). Warszawa, 2005.

[21] Гл.: Głowacki A. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939—1941. Łódź, 1997; Jasiewicz K. Pierwsi po diable. Elity sowieckie w okupowanej Polsce 1939—1941. Warszawa, 2001; Wierzbicki M. Polacy i Białorusini w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-białoruskie na ziemiach północno-wschodnich pod okupacją sowiecką 1939—1941. Warszawa, 2000; Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939—1941 / red. M. Giżewska, T. Strzembosz. Warszawa,

клад, Міхала Гнатоўскага або Войцеха Сляшыньскага, вялікае значэнне для лепшага разумення гісторыі саветызацыі былых паўночна-ўсходніх земляў міжваеннай Польшчы мелі канферэнцыі з удзелам польскіх, беларускіх і літоўскіх гісторыкаў[22].

У выпадку беларускай гістарыяграфіі мы маем справу з магутным дзяржаўна-ідэалагічным фактарам, які аказвае вялізны ўплыў на развіццё яе кірункаў і ацэнкі асобных падзей. Існуе практыка «ганаровага патранажу» навуковых канферэнцый з боку афіцыйных уладаў, пачынаючы ад узроўню абласнога кіраўніцтва і заканчваючы вышэйшай уладай, што ўплывае на ўзровень і «правільны» кірунак прац, якія паўтараюць ацэнкі савецкай гістарыяграфіі або ігнаруюць найноўшыя публікацыі расійскіх, польскіх ці замежных аўтараў. Азначэнне «беларуская гістарыяграфія» — вельмі размытае, таму што, акрамя гісторыкаў, якія свядома альбо з кан'юнктурных меркаванняў запазычваюць савецкую гістарыяграфічную мадэль, існуе таксама група даследчыкаў, якія займаюцца вельмі непажаданымі, з пункта гледжання ўлады, тэмамі[23]. З іншага боку, у сучасных палітычных умовах яны маюць абмежаваныя магчымасці для папулярызацыі сваіх працаў. Гісторыкі, якія працуюць у дзяржаўных навучальных установах (прыватных навучальных устаноў вельмі мала) або даследчыцкіх інстытутах, вымушаны старанна падбіраць адпаведныя словы ў сваіх артыкулах і ўлічваць канчатковыя вынікі. Звужэнне, а ў асобных выпадках і адсутнасць кантактаў з замежжам, асабліва для маладых навукоўцаў, з'яўляецца істотнай праблемай сучаснай беларускай гістарычнай навукі.

1995; Polska — Białoruś, 1939—1945 / red. W. Balcerek. Warszawa, 1994 і інш. Каштоўны фактычны матэрыял прадстаўлены ў зборніку дакументаў «Zachodnia Białoruś». 17.IX.1939 — 22.VI.1941. Deportacje Polaków z północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej 1939—1941. T. 2 / pod red. naukową B. Gronek i G. Jakubowskiego. Warszawa, 2001.

[22] Выйшлі тры тамы матэрыялаў канферэнцый. Першы — Radziecka agresja 17 września 1939 roku i jej skutki dla mieszkańców ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej. Studia i materiały / pod red. M. Gnatowskiego. Białystok, 2000. У другі том увайшлі вынікі даследаванняў польскіх і беларускіх гісторыкаў (з Гродна), якія прагучалі на канферэнцыі ў Беластоку ў лістападзе 2002 г. Гл.: Sowietyzacja i rusyfikacja północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej (1939—1941). Studia i materiały / pod red. M. Gnatowskiego i D. Boćkowskiego. Białystok, 2003. У трэці том былі ўключаны працы польскіх, беларускіх і літоўскіх гісторыкаў, галоўнай мэтай якіх было высветліць, наколькі трывалыя і чаго датычаць стэрэатыпы, сфармаваныя ў міжваенны перыяд і ў час Другой сусветнай вайны, асабліва на занятых СССР тэрыторыях, дзе мясцовая савецкая адміністрацыя паспяхова наставіла супраць сябе ўсе народы, якія там пражывалі. Гл.: Polacy—Żydzi—Białorusini—Litwini na północno-wschodnich ziemiach polskich a władza radziecka (1939—1944). W kręgu mitów i stereotypów / pod red. naukową M. Gnatowskiego, D. Boćkowskiego. Białystok, 2005.

[23] Да «непажаданых» палітычных тэм належаць, перадусім, тэмы рэпрэсій і камуністычных злачынстваў. Беларускія даследчыкі Таццяна Процька, Ігар Кузняцоў і многія іншыя, хто вывучае гэтыя праблемы, пастаянна знаходзяцца ў канфлікце з уладамі. Працы, у якіх ёсць крытыка савецкай улады, нават аргументаваная, асуджаны на неадабрэнне і ў лепшым выпадку на замоўчванне. У такой сітуацыі цяжка гаварыць пра нармальную навуковую дыскусію. Большасць даследчыкаў папросту хвалюецца за сваю навуковую кар'еру і свой далейшы лёс.

Перыяд нямецкай акупацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі — тэма, безумоўна, вельмі складаная, але асобам, якія не займаюцца ёю спецыяльна, яна можа падавацца дастаткова добра вывучанай. Напрыклад, што датычыць Халакоста[24] на былых паўночна-ўсходніх землях міжваеннай Польшчы, то, на думку гісторыка з Брэста Яўгена Разэнблата, праблема гэтая не разглядалася цэласна, не вывучанымі застаюцца міжнацыянальныя адносіны і арганізацыя штодзённага жыцця ў гета, а ўвага засяроджваецца на злачынствах супраць яўрэйскага насельніцтва. Адной з нешматлікіх спробаў разгледзець гэтую праблему больш цэласна з'яўляецца яго кніга па гісторыі пінскіх яўрэяў у 1939—1944 гг., напісаная ў суаўтарстве[25]. Дагэтуль у Беларусі выйшла толькі адна навуковая праца, у якой разглядаліся розныя аспекты палітыкі Халакоста ў заходніх абласцях[26]. У Ізраілі выйшла таксама кніга гісторыка Леаніда Смілавіцкага, дзе вывучаецца знішчэнне яўрэяў на ўсёй тэрыторыі Беларусі, аднак жа праца гэтая выклікае шмат пярэчанняў[27]. Існуе таксама вялікая колькасць навуковых прац, прысвечаных вывучэнню названай тэмы, якія выйшлі за мяжой. Аднак мы не будзем спецыяльна спыняцца на іх у гэтым даследаванні[28].

На цяперашні момант палітыка, якую праводзіць на Беларусі кіраўнічая эліта, не спрыяе лепшаму вывучэнню падзей, звязаных з гісторыяй Хала-

---

[24] У савецкі перыяд гісторыя Халакоста вывучалася ў кантэксце «злачынстваў супраць савецкіх грамадзян». Вылучэнне, а тым больш прызнанне яўрэйскага насельніцтва асобнай групай, супраць якой былі скіраваны фашысцкія злачынствы, разбурала б міф пра цэласнасць савецкага народа. У 1990-х гг. з'явілася шмат артыкулаў на тэму знішчэння яўрэяў на асобных тэрыторыях, напрыклад: Савоняко М. Гродненское гетто // Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. 1992. № 2. С. 20—22; Шерман Б.П. Барановичское гетто. Колдычевский лагерь смерти. Барановичи, 1997; а таксама артыкулаў, прысвечаных дзейнасці яўрэяў у партызанскіх атрадах, напрыклад: Левин А. Евреи и партизаны Белоруссии в годы нацистского геноцида // Тень Холокоста. Материалы II Международного симпозиума «Уроки Холокоста и современная Россия». Москва, 1998. С. 89—92; Смиловицкий Л. Еврейские семейные отряды в Белоруссии 1942—1944 // Евреи Белоруссии. Минск, 1998. С. 125—138 і інш. Больш на тэму гістарыяграфіі Халакоста на Беларусі гл.: Розенблат Е. Исследование истории Холокоста в Беларуси: шаг вперёд или топтание на месте? // Historycy polscy, litewscy i białoruscy wobec problemów XX wieku. Historiografia polska, litewska i białoruska po 1989 roku / red. K. Buchowski, W. Śleszyński. Białystok, 2003. S. 49—60.

[25] Гл.: Розенблат Е., Еленская И. Пинские евреи, 1939—1944. Брест, 1997.

[26] Гл.: Розенблат Е. Нацистская политика геноцида в отношении еврейского населения западных областей Белоруссии. 1941—1944 гг. Дисс. ... канд. ист. наук. Минск, 2000.

[27] Параўн. Смиловицкий Л. Катастрофа евреев в Белоруссии, 1941—1944. Тель-Авив, 2000.

[28] Гл., напрыклад: S. Cholawski, Soldiers from the Ghetto. San Diego, 1980; Aplert N. The Destruction of Slonim Jewry. The Story of the Jews of Slonim During the Holocaust. New York, 1990; Collaboration and Resistance during the Holocaust. Belarus, Estonia, Latvia, Lithuania / eds. D. Gaunt, P.A. Levine, L. Palosuo. Bern, 2004; Duffy P. The Bielski Brothers. New York, 2003; Glass J.M. Jewish Resistance during the Holocaust. Moral Uses of Violence and Will. London, 2004; Kowalski I. (ed.), Anthology Bielski Partisans. New York — Oxford, 1993; Zissman H. The Warriors. My Life as a Jewish Partisan. Syracuse — New York, 2005; Smilovitsky L. Anitsemitism in the Soviet Partisan Movement, 1941—1944: The Case of Belorussia // Holocaust and Genocide Studies. 20/2 (2006). P. 207—234.

коста. Уганараваны і прызнаны ўладамі гісторык Якаў Трашчанок выказаў сваё (а ў пэўнай ступені — і дзяржаўнае) стаўленне да гэтай праблемы адзіным сказам: «Падзел ахвяр па нацыянальнай прыкмеце амаральны»[29]. Таму, напэўна, вяртанне да «новай старой» канцэпцыі вывучэння нацысцкай палітыкі як палітыкі «знішчэння савецкіх грамадзян»/ «беларускіх грамадзян» з'яўляецца часткай сучаснай дзяржаўнай ідэалогіі. У такіх умовах, як слушна зазначыў Яўген Разэнблат, дыскусія на тэму кнігі Яна Томаша Гроса пра падзеі ў Ядвабным, якое некалі фармальна належала да БССР, не магла мець месца[30].

Яшчэ адна дастаткова скажоная і фальсіфікаваная тэма — партызанскі рух на Беларусі. У гістарыяграфіі савецкага перыяду наогул абміналася тэма існавання антыбальшавіцкага беларускага руху супрацоўлення, яўрэйскай партызанкі, а польскае і ўкраінскае падполле апісвалася выключна ў чорных танах. Сярод прац, якія з'явіліся за апошнія гады, можна вылучыць публікацыі польскіх гісторыкаў Юрыя Туронка, Зыгмунта Барадзіна*, беларускага даследчыка Аляксея Літвіна, нямецкага гісторыка польскага паходжання Багдана Мусяла, а таксама працы некаторых польскіх і замежных даследчыкаў[31].

Пераходзячы да характарыстыкі грамадска-палітычнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі летам 1944—1945 гг., варта спыніцца коратка на тым, што адбывалася тут напярэдадні лета 1944 г. Аўтар даследавання не мае на мэце падрабязна апісваць ход падзей гэтага перыяду, незнаёмых яму па першакрыніцах, пастараецца толькі коратка ахарактарызаваць найважнейшыя падзеі на аснове навуковых прац.

---

[29] Трещенок Я. К вопросу об общей концепции исторического образования в Республике Беларусь. Могилев, 2002. С. 17. Цыт. паводле: Розенблат Е. Исследование истории Холокоста в Беларуси: шаг вперед или топтание на месте? // Historycy polscy, litewscy i białoruscy wobec problemów XX wieku. Historiografia polska, litewska i białoruska po 1989 roku / red. K. Buchowski, W. Śleszyński. Białystok, 2003. S. 58.

[30] Розенблат Е. Исследование истории … С. 59 *(Размова пра кнігу: Gross J.T. Sąsiedzi. Sejny, 2000. Праца прысвечана яўрэйскаму пагрому, які адбыўся 10 ліпеня 1941 г. у мястэчку Ядвабна на Ломжыншчыне. — Рэд.)*

* Ю. Туронак — беларускі гісторык з Польшчы, З. Барадзін — польскі гісторык з Беларусі. — *Рэд.*

[31] Turonek J. Białoruś pod niemiecką okupacją. Warszawa, 1991. *(беларускія выданні: Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993; Туронак Ю. Людзі СБМ; Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Смаленск, 2008 (выд. 2-е, дапоўненае). — Рэд.)*; Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943—1944. Warszawa, 1999; Літвін А. Акупацыя Беларусі. 1941—1944. Пытанні супраціву і калабарацыі. Мінск, 2000; Musiał B. Sowjetische Partisanen in Weißrußland. Innenansichten aus dem Gebiet Baranoviči 1941—1944. München, 2004; Musiał B. Sowjetische Partisanen in Weißrußland. Oldenbourg, 2004; Gnatowski M. Dokumenty o stosunku radzieckiego kierownictwa do polskiej konspiracji niepodległościowej na północno-wschodnich Kresach Rzeczypospolitej w latach 1943—1944 // Studia Podlaskie, T. V. 1995. S. 211—317; Chiari B. Alltag hinter der Front. Besatzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrussland 1941—1944. Düsseldorf, 1998; Grenkevich L. The Soviet partisan movement 1941—1944. A critical historiographical analysis. London—Portland (Oregon), 1999; Попов А. НКВД и партизанское движение. Факты и документы. Москва, 2003 і інш.

У выніку нямецка-савецкіх пагадненняў і падзей верасня 1939 г. паўночна-ўсходнія тэрыторыі міжваеннай Польшчы разам з Беласточчынай, Ломжыншчынай і Віленшчынай (ненадоўга) увайшлі ў склад БССР. Безуладдзе і анархія, якія панавалі на гэтых землях у пераходны перыяд, прывялі да значных страт сярод землеўласнікаў, асаднікаў, леснікоў і больш заможных сялян у выніку нападаў, рабавання і самасуду. Аналізуючы факты забойстваў і рабункаў на гэтай тэрыторыі, гісторык Марэк Вяжбіцкі заўважыў, што значны ўдзел у іх прымала беларускае насельніцтва, у тым ліку і на тэрыторыях, дзе пераважалі палякі. Акрамя беларусаў, у злачынствах удзельнічалі яўрэі і — рэдка — палякі. Паводле падлікаў Кшыштафа Ясевіча, які займаецца праблематыкай страт польскіх землеўладальнікаў, «у верасні і кастрычніку 1939 г. ад рук беларусаў (якіх прынята лічыць памяркоўнымі) загінула амаль у тры разы больш землеўласнікаў, чым ад рук украінцаў»[32].

Новая ўлада пачала ўсталёўваць мадэль кіравання, якая існавала на той час у СССР, польскія ж дзяржаўныя структуры дэмантаваліся. Спачатку савецкая ўлада імкнулася прыцягваць да супрацоўніцтва мясцовае насельніцтва (найперш — беларусаў і яўрэяў). Добра вядомы той факт, што беларусы і яўрэі ў шэрагу населеных пунктаў з энтузіязмам віталі падраздзяленні Чырвонай Арміі. Гэта можна разглядаць як сумесь шчырых пачуццяў і запланаваных акцый камуністычных дзеячаў. Нягледзячы на абвешчаны прынцып колькасна роўнага прадстаўніцтва кожнай нацыі на ўсіх узроўнях улады, удзел у рэальным кіраванні краем *мясцовых* беларусаў, яўрэяў і, тым больш, палякаў быў нязначным. Адносна высокі працэнт беларусаў у партыйнай адміністрацыі не азначаў, што мясцовае насельніцтва знайшло магчымасць увайсці ў органы вышэйшай улады. Вельмі часта гэта былі асобы, накіраваныя на працу ў дзяржаўным апараце з усходняй часткі Беларусі або з глыбіні СССР[33]. Беларусы нядоўга сімпатызавалі савецкай уладзе, праз вельмі кароткі час яны адчулі на сабе бяздарнасць савецкага кіравання тэрыторыяй, эканамічны хаос і падманлівасць лозунгаў «рабоча-сялянскай улады».

Палітыка ў дачыненні да палякаў выразна змянілася ў сярэдзіне 1940-х гг. Жадаючы здабыць прыхільнасць палякаў, савецкая ўлада спыніла антыпольскую прапаганду, дазволіла пашырэнне польскамоўных адукацыі і прэсы, асудзіла «перакосы нацыянальнай палітыкі Леніна—Сталіна» на месцах. Тым не менш, з патрыятычнымі элементамі, з асобамі, якія крытычна ацэньвалі тагачасную рэчаіснасць, а таксама з усімі праявамі такіх настрояў вялася барацьба.

Неадназначна ацэньваецца становішча яўрэяў, як мясцовых, так і бежанцаў з цэнтральнай Польшчы. Праблема яўрэйскіх бежанцаў была вырашана ў выніку трэцяй дэпартацыі ў чэрвені—ліпені 1940 г. Першая дэпартацыя, якая адбылася 10 лютага 1940 г., датычыла ў першую чаргу ўсіх асаднікаў і супрацоўнікаў лясніцтваў. Другі вываз — у ноч з 12 на 13 красавіка 1940 г. — ахапіў сем'і рэпрэсаваных карнымі органамі і «грамадска-небяспечны элемент». Чацвёртая, апошняя дэпартацыя адбылася 19 чэр-

---

[32] Jasiewicz K. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939—1956. Warszawa, 1997. S. 26. Cyt. za: Wierzbicki M. Polacy i Białorusini ... S. 117.

[33] Гл.: Jasiewicz K. Pierwsi po diable ... S. 234—235.

веня, перад самым пачаткам савецка-нямецкай вайны, і закранула розныя катэгорыі людзей[34].

На думку многіх даследчыкаў, мясцовыя яўрэі «здрадзілі польскай дзяржаве», пайшоўшы на «супрацоўніцтва з савецкімі акупантамі». Часта вынікам такога супрацоўніцтва быў удзел у рэпрэсіях, скіраваных супраць палякаў, што яшчэ больш паглыбляла ўзаемную непрыязнасць. Нельга было не заўважыць таксама іх удзел у спекуляцыі таварамі, колькасна значнае прадстаўніцтва ў органах савецкай улады, што відавочна ўплывала на негатыўнае ўспрыманне яўрэяў хрысціянскім насельніцтвам. Значная частка яўрэяў, асабліва больш прадпрымальныя, выдатна прыстасаваліся да новых умоваў. Павышэнне сацыяльнага становішча, эканамічныя поспехі і ўдзел у рэпрэсіях савецкага апарату абумовілі непрыязнае, а часам і варожае стаўленне да іх з боку палякаў і пэўнай часткі беларусаў. Гэта адыграла пэўную ролю ў лёсе яўрэйскага насельніцтва ў перыяд нямецкай акупацыі, калі нямецкая антыяўрэйская палітыка часта ўспрымалася як справядлівае пакаранне за грэх супрацоўніцтва з саветамі*.

Пасля пачатку савецка-нямецкай вайны 22 чэрвеня 1941 г. нямецкія войскі, імкліва рухаючыся на ўсход, у пачатку ліпеня занялі амаль усю тэрыторыю Заходняй Беларусі. Паказальна, што пачатак вайны не перашкодзіў чацвёртай дэпартацыі. Вачам мясцовага насельніцтва адкрыліся магілы ахвяр НКУС, якіх поспехам забілі перад уцёкамі. З другога боку, першыя дні нямецкай акупацыі былі адзначаны забойствамі яўрэяў нямецкімі айнзацгрупамі ў паасобных населеных пунктах[35]. Пытанне пра ўдзел мясцовага насельніцтва ў пагромах, асабліва на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь, да канца яшчэ не даследавана. Паводле Анджэя Жбікоўскага, «па ўсіх крэсах пракацілася хваля пагромаў, у якіх ад рук мясцовага насельніцтва загінулі тысячы людзей»[36]. Гэтае сцверджанне даследчык грунтуе ў асноўным на ўспамінах яўрэйскіх бежанцаў. Даследаванні стэрэатыпаў і адносінаў паміж беларускім і яўрэйскім насельніцтвам у часы міжваеннай Польшчы і Другой сусветнай вайны, праведзеныя беларускімі гісторыкамі (напрыклад, з Брэста), не выявілі, за выключэннем асобных выпадкаў, праяў нацягнутых стасункаў[37]. Вядома, у міжваенны час былі непрыязнасць і канфлікты на розных узроўнях, напры-

[34] Цыт. паводле: «Zachodnia Białoruś» 17.IX.1939 — 22.VI.1941 ... S. 8—9.

* Польскія аўтары, апісваючы радасную сустрэчу яўрэямі і немалой часткай беларусаў Чырвонай Арміі, часта не лічаць патрэбным тлумачыць, што такія паводзіны, нелаяльнасць да польскай дзяржавы, у значнай ступені былі абумоўлены палітыкай дыскрымінацыі з боку апошняй, якая паспяхова наставіла супраць сябе ўсе нацыянальныя меншасці. Замоўчванне гэтага вядзе да фармавання небяспечных стэрэатыпаў «яўрэя-здрадніка», «пятай калоны» і г.д. — *Рэд.*

[35] На гэтую тэму гл.: Musial B. «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen». Die Brutalisierung des deutsch-sowjetischen Krieges im Sommer 1941. Berlin, 2000.

[36] Żbikowski A. Konflikty narodowościowe na polskich Kresach Wschodnich (1939—1941) w relacjach żydowskich bieżenców // Tygiel narodów. Stosunki społeczne i etniczne na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej 1939—1953. Warszawa, 2002. S. 409.

[37] Аднак такія праявы ўсё ж мелі месца, гл.: Śleszyński W. Zajścia antyżydowskie w Brześciu nad Bugiem 13.V.1937. Białystok, 2004. — *Рэд.*

клад, яўрэйскі гандляр — беларускі/польскі селянін, жыхар вёскі — жыхар горада і г.д. Ва ўспамінах сведкаў тагачасных падзей (пераважна беларусаў) няма інфармацыі пра магчымы ўдзел мясцовага насельніцтва ў пагромах першых дзён нямецкай акупацыі.

Паводле сведчанняў апытаных, падчас акупацыі беларускія сяляне часта прапаноўвалі яўрэям дапамогу ва ўцёках з гета (першапачаткова яны ахоўваліся не так строга), аднак апошнія адмаўляліся[38]. Безумоўна, былі і адваротныя выпадкі, калі на яўрэяў даносілі. У выніку Халакоста большасць яўрэяў была фізічна знішчана. У Гродне, дзе перад вайной яўрэйскае насельніцтва складала 50%, на сённяшні дзень застаўся толькі адзін *мясцовы* яўрэй, які выжыў у вайну, — Рыгор Хасід. Нямногія ацалелыя яўрэі (якія хаваліся ў мясцовых жыхароў або знаходзіліся ў савецкіх партызанскіх атрадах) пераехалі ў Польшчу ў выніку рэпатрыяцыі. Яўрэі-камуністы, як правіла, хавалі сваё яўрэйскае паходжанне, русіфікуючы прозвішчы і называючы сябе «савецкімі людзьмі».

Пішучы пра перыяд нямецкай акупацыі ў Заходняй Беларусі, даследчык ступае на небяспечную глебу. Адзін з найбольш пашыраных міфаў, які трывала пусціў карані не толькі на прасторах былога СССР, але і на Захадзе, быў міф пра беларусаў як пра партызанскі народ, а пра Беларусь — як пра партызанскі край. Сцвярджаецца, што Вялікая Айчынная вайна аб'яднала т. зв. савецкі або рускі народ, а таксама адно з яго адгалінаванняў — беларусаў. Гэта вельмі складаная і заблытаная праблема, савецкая версія якой да таго ж старанна культывуецца сучаснай беларускай прапагандай.

Уважлівы погляд на гэтую праблему дазваляе зрабіць некалькі высноў. На тэрыторыі сучаснай Беларусі палітыка нямецкай акупацыйнай улады не была аднолькавай. Па-першае, Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад розных адміністрацыйных структур III Рэйха: Усходняй Прусіі (*Bezirk Беласток*), Генеральнага камісарыята Беларусь (*Generalkommissariat Weissruthenien*), Рэйхскамісарыята Украіна, а таксама Літвы. Усходняй часткай Беларусі кіравала ваенная адміністрацыя групы армій «Цэнтр». Гэта было звязана, папершае, з неаднароднасцю нямецкай эканамічнай палітыкі, а таксама са стаўленнем акупантаў да мясцовага насельніцтва. Па-другое, на захадзе краіны савецкая партызанка не была такой моцнай, як ва ўсходніх абласцях, не мела грамадскай падтрымкі і яе аддзелы былі недастаткова вялікімі, каб весці эфектыўную барацьбу з немцамі. Усход Беларусі, дзе была пашырана савецкая партызанка (з восені 1942 г. яе падтрымлівала і часткова кантралявала Масква), зазнаў надзвычай жорсткія карныя аперацыі нямецкіх акупантаў, што ў значнай ступені было выклікана дзейнасцю партызанаў. Значная частка насельніцтва Усходняй Беларусі адчула палёгку пасля вызвалення ад жахлівай нямецкай акупацыі.

Польска-савецкі канфлікт, які на Навагрудчыне перарос у партызанскую вайну паміж польскім падполлем і савецкай партызанкай, непасрэдна закра-

---

[38] Гл.: Еленская И. Образ поляка и еврея в Западной Белоруссии: по материалам устной истории // Polacy—Żydzi—Białorusini—Litwini na północno-wschodnich ziemiach polskich a władza radziecka (1939—1944). W kręgu mitów i stereotypów / pod red. naukową M. Gnatowskiego, D. Boćkowskiego. Białystok, 2005. S. 284.

нуў і мясцовае насельніцтва, падзяляючы яго на розныя лагеры. Як мяркуе гісторык Зыгмунт Барадзін, не было ніякіх шанцаў пазбегнуць канфрантацыі. Савецкія партызаны, якія дзейнічалі супраць Арміі Краёвай, выконвалі дырэктывы кіраўніцтва СССР у справе «вырашэння» польскага пытання[39]. Уцягнутае ў польска-савецкую канфрантацыю мясцовае насельніцтва часта знаходзілася паміж Сцылаю і Харыбдай. Акрамя відавочна заангажаваных у савецкую партызанку, польскае ці ўкраінскае падполле або беларускі нацыянальны рух, які разгарнуўся на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусь, большасць насельніцтва схілялася да таго, каб проста перачакаць навалу.

Перыяды так званых «першых Саветаў» і нямецкай акупацыі змянілі не толькі нацыянальную карту рэгіёна (у выніку Халакоста), але таксама сацыяльную і гаспадарчую структуры. Для грамадства Заходняй Беларусі вялікае значэнне мелі два міжваенныя дзесяцігоддзі, якія, нягледзячы на спрэчную нацыянальную палітыку, прывялі да фармавання першых перадумоў грамадзянскай супольнасці. Перыяды так званых «першых Саветаў», як і нямецкай акупацыі, прыспешылі фармаванне беларускай і польскай нацыянальнай самасвядомасці сярод вясковага насельніцтва. У сітуацыі, калі агучванне прыналежнасці да пэўнай нацыі ў многіх выпадках азначала дэманстрацыю сваёй палітычнай платформы і не раз пагражала смяротнай небяспекай, усё радзей можна было пачуць вызначэнне «тутэйшы». Немцы актыўна выкарыстоўвалі нацыянальнае пытанне, раздзімаючы ўзаемныя прэтэнзіі, пашыраючы недавер і непрыязнасць, павышаючы сваёй палітыкай на акупаваных тэрыторыях тэмпературу нацыянальных спрэчак. Што праўда, нацыянальныя ўзаемаадносіны (напрыклад, паміж палякамі і беларусамі) не былі тут такімі крывавымі, як, напрыклад, на Валыні (паміж палякамі і ўкраінцамі), аднак трэба прызнаць, што яны ў пэўнай ступені абвастрыліся[40].

23 чэрвеня 1944 г. Чырвоная Армія сілаю чатырох франтоў (1-га Прыбалтыйскага, 1-га Беларускага, 2-га Беларускага і 3-га Беларускага) пачала наступленне ў беларускім кірунку. У выніку аперацыі «Баграціён» (23.06. — 31.08.1944 г.) была разбіта нямецкая група армій «Цэнтр» і савецкія войскі ў яе апошняй фазе дайшлі да Віслы і межаў Усходняй Прусіі. Рэгулярныя падраздзяленні Чырвонай Арміі, ступіўшы на перадваенныя паўночна-ўсходнія землі польскай дзяржавы, заўважылі вялікую розніцу паміж грамадска-эканамічнай сітуацыяй на гэтай тэрыторыі ў параўнанні з усходняй часткай.

На захадзе Беларусі пераход пад кантроль савецкай улады выклікаў неадназначную рэакцыю грамадскасці. Спачатку пераважала меркаванне, што Саветы тут часова, дамінавалі настроі чакання, пакуль сітуацыя не высветліцца. Аднак савецкая ўлада ад самага пачатку давала зразумець, што пытанне новага выгляду паваеннай мяжы ўжо вырашана і разглядала гэтую тэрыторыю як неад'емную частку Савецкага Саюза.

---

[39] Boradyn Z. Niemen rzeka ... S. 233—234.

[40] Больш на гэтую тэму гл.: Грыбоўскі Ю. Польска-беларускі канфлікт у генеральнай акрузе «Беларусь» (1941—1944 гг.) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 25. 2006. S. 116—167.

Прадстаўнікі партыйнай і савецкай адміністрацыі (шмат хто з іх працаваў тут у 1939—1941 гг.), якія ішлі ўслед за Чырвонай Арміяй, з цяжкасцю пазнавалі новыя-старыя тэрыторыі. Размова вядзецца не толькі пра ваенныя разбурэнні, але і пра грамадска-палітычную сітуацыю. У рапарце камандзіра Беластоцкай акругі АК ад 10.10.1944 г., дзе характарызуюцца «адносіны на ўсход ад лініі Керзона», чытаем:

> Саветы не могуць прыйсці ў сябе ад таго, што адбылося ў параўнанні з 1939—1940 гг. *(павінна быць 1939—1941 гг. — Я.Ш.)*, калі тут было даволі шмат прарасійскіх элементаў. (...) Апошнім часам насельніцтва распачало акцыю вывешвання ноччу польскіх дзяржаўных сцягоў на слупах, дрэвах і г.д. (на Гродзеншчыне)[41].

Гэта датычылася таксама пытання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. У многіх тагачасных дакументах паўтараецца тое самае: населеныя пункты, якія да 1941 г. лічыліся беларускімі і ў якіх працавалі беларускія альбо рускія школы, зараз катэгарычна трымаюцца польскасці[42]. Некаторыя раёны ўлада прызнала польскімі, і там дзейнічала сетка польскамоўных школ. Але ў большасці выпадкаў польскамоўныя школы не адчыняліся[43]. Сакрат Яновіч[44], польскі пісьменнік і публіцыст беларускага паходжання, трапна ахарактарызаваў нацыянальную сітуацыю летам 1944 г. у наступных сказах:

> Польскасць дасягнула народных глыбіняў, разламаўшы пралетарскі маналіт (...). Тагачасны свет больш не падзяляўся на бедных і багатых, на пралетарыят і буржуазію, былі толькі палякі і беларусы[45].

Яшчэ ў час савецкага наступлення ў межах аперацыі «Баграціён» палітычнае кіраўніцтва франтоў збірала звесткі ад адпаведных структур армій, дывізій і палкоў наконт сацыяльна-эканамічнай сітуацыі на занятай тэрыторыі. 1-ы Прыбалтыйскі фронт (пад камандаваннем Баграмяна) 1 ліпеня ступіў на тэрыторыю Заходняй Беларусі і на працягу 10 дзён заняў 12 раёнаў Вілейскай вобл. (вобласць неўзабаве пачала называцца Маладзечанскай, а цэнтр быў перанесены ў Маладзечна). У рапарце да начальніка палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі генерал-палкоўніка Шчарбакова ёсць падрабязнае апісанне занятых тэрыторый і ацэнка магчымасцяў выкарыстання гаспадарчых рэсурсаў. Асобая ўвага была звернута на спецыфіку заходніх абласцей у параўнанні з усходнімі:

---

[41] Białostocczyzna 1944—1945 w dokumentach podziemia i oficjalnych władz / oprac. J. Kułak. Warszawa, 1998. S. 47.

[42] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 163, арк. 111—112. Пастанова Гродзенскага абкама «Аб сітуацыі ў школьнай адукацыі ў Гродне і Гродзенскім раёне», 09.09.1944 г.

[43] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 79—80. Справаздача аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» (03.07.1945 г.), за подпісам Шэліхава.

[44] Між іншым, аўтар тэксту «Zderzenie wielu światów, czyli Kresy białoruskie w latach 1939—1953» у зборніку пад рэд. Кшыштафа Ясевіча «Tygiel Narodów. Stosunki społeczne i narodowościowe na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej w latach 1939—1953». Warszawa, 2003.

[45] Janowicz S. Zderzenie wielu światów ... S. 153.

> Особенно сохранились районы в полосе от границ Советского Союза 1939 года на запад (…). Немцы в этих районах с некоторой осторожностью вели свою грабительскую политику. Скот у крестьян не брали, все население, в том числе мужчины, в течение всего периода войны оставались дома. Натуральный налог брался через полицейских. (...) Своей жестокостью и зверствами в Западной Белоруссии немцы главным образом отличались в районах партизанского движения[46].

Звяртае на сябе ўвагу стаўленне мясцовага насельніцтва да Чырвонай Арміі, якое было ахарактарызавана як «*некоторая настороженность*». Людзі з недаверам ставіліся да савецкіх грошай, аддаючы перавагу натуральнаму абмену. Найчасцей задаваліся пытанні пра Чырвоную Армію (як доўга яна тут застанецца? Ці будзе мабілізацыя мясцовых?), эканамічную палітыку (ці будуць ствараецца калгасы?), веравызнанне (ці зачыняць касцёлы?) і г.д. Палякі, «знарок выдаючы сябе за беларусаў», задаюць пытанні на тэму польска-савецкіх стасункаў. У канцы рапарта робяцца высновы пра неабходнасць вялікай палітычнай працы сярод мясцовага насельніцтва, «якое падвяргалася ўзмоцненай нямецкай прапагандзе»[47].

Вельмі верагодна, што падобныя рапарты дасылалі таксама палітычныя ўпраўленні іншых франтоў, якія ўдзельнічалі ў беларускай ваеннай аперацыі. На карысць гэтага сведчыць той факт, што праз чатыры дні пасля высылання рапарта з 1-га Прыбалтыйскага фронту аператыўным аддзелам Генеральнага штаба быў распрацаваны вялікі рапарт Сталіну, у якім на падставе розных крыніц характарызавалася тагачасная сітуацыя ў Заходняй Беларусі. З дакумента бачна, што найвышэйшае кіраўніцтва СССР, і Сталін у тым ліку, ведалі пра сітуацыю ў Заходняй Беларусі і пра насцярожанае стаўленне насельніцтва да пачынанняў савецкай улады[48].

Заслугоўвае ўвагі таксама стаўленне насельніцтва Заходняй Беларусі да рэшткаў нямецкіх падраздзяленняў, якія знаходзіліся ў глыбокім тыле Чырвонай Арміі і спрабавалі прабіцца за лінію фронту. Паводле дадзеных НКУС СССР, летам 1944 г. гэтыя немцы, пазбаўленыя правіянту, «рабавалі мясцовае насельніцтва, забівалі савецкіх салдат і мірных грамадзян, распаўсюджвалі сярод насельніцтва фашысцкія лістоўкі»[49]. Аператыўныя групы НКУС Мінскай, Баранавіцкай, Вілейскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцей затрымалі, паводле дадзеных на 17 жніўня 1944 г., 23 028 салдат і афіцэраў Вермахта, пры гэтым было забіта 3 180 і паранена 35 чалавек[50].

20 снежня 1944 г. у Баранавіцкую, Гродзенскую і Маладзечанскую вобл. было скіравана, між іншым, пяць правакацыйных атрадаў, якія выдавалі

---

[46] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 66, л. 8—14. Рапарт нумар 021573, 12.07.1944 г. за подпісамі начальніка палітычнага ўпраўлення 1-га Прыбалтыйскага фронту генерал-маёра Дрэбеднева, члена Ваеннага савета 1-га Прыбалтыйскага фронту генерал-лейтэнанта Лявонава.

[47] Там же.

[48] Гл. Дадатак 1.

[49] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 70, л. 86—90. Справаздача № 829/5 НКУС БССР, ЭССР, ЛатССР, ЛітССР і Калінінградскай вобласці ў ЦК УКП(б), 17.08.1944 г., за подпісам народнага камісара НКУС РСФСР Берыі.

[50] Там же, л. 88.

сябе за людзей, што супрацоўнічаюць з немцамі, за аддзел украінскіх нацыяналістаў, за нямецкае падраздзяленне, якое не здолела адступіць за лінію фронту, альбо нямецкіх парашутыстаў. Як лічыць А.Хмеляж, гэтыя атрады павінны былі служыць галоўным чынам для выяўлення тых, хто супрацоўнічаў з немцамі або меў пранямецкія настроі[51].

Насуперак асноўнай тэзе савецкай прапаганды аб нянавісці да ворагаў, мясцовае насельніцтва часта дапамагала нямецкім салдатам, якія засталіся ў тыле. Са сведчанняў нямецкіх ваеннапалонных, затрыманых аддзелам контрразведкі СМЕРШ *(скарачэнне ад «смерць шпіёнам» — Я.Ш.)*, вынікала:

> На территории Западной Белоруссии и Литовской ССР местное население предоставляло им продовольствие, указывая также на места дислокации частей Красной Армии. Из показаний задержанных немцев установлено, что чаще всего им помогало население польской и литовской национальности. Унтер-офицер Гицман показал, что в Белоруссии население плохо относилось к немцам, в Западной Белоруссии — лучше, в Литве — очень хорошо. Население Западной Белоруссии и Литвы охотно показывало дорогу, приглашало домой, снабжало продовольствием[52].

Падобныя праявы зычлівага стаўлення да нямецкіх салдат пацвярджаюцца і іншымі крыніцамі. Занепакоены такой сітуацыяй начальнік контрразведкі СМЕРШ 3-га Беларускага фронту генерал-лейтэнант Зяленін выдаў указ мясцовым уладам распрацаваць спецыяльную пастанову, якая паведамляла б пра «адказнасць грамадзян за дапамогу нямецкім бадзяжным салдатам і афіцэрам»[53].

У цывільную адміністрацыю, сфармаваную на занятых тэрыторыях, увайшлі пераважна асобы немясцовага паходжання. Эліту складалі дзеячы камуністычнай партызанкі, якія пераважалі ў партыйных і савецкіх органах вышэйшага і ніжэйшага звяна. Усе абласныя і раённыя кадры дзяржаўнага апарату Гродзенскай вобл. былі сфармаваны з прадстаўнікоў савецкіх партызан. Каля 300 чалавек былі адпраўленыя на курсы павышэння кваліфікацыі пры ЦК КП(б)Б.

## ЗНІШЧАЛЬНЫЯ БАТАЛЬЁНЫ

Партыйнымі ўладамі ў супрацоўніцтве з начальнікам НКУС Гродзенскай вобл. Градасавым пачалі ствараццa знішчальныя батальёны, якія складаліся з партыйнага і савецкага актыву[54]. Знішчальныя батальёны аднавілі дзейнасць згодна з рашэннем ЦК КП(б)Б ад 14 чэрвеня 1944 г. Яны налічвалі да

---

[51] Chmielarz A. Likwidacja podziemia polskiego na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1942—1945) // Z dziejów Armii Krajowej na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1944—1945.). Warszawa, 1997. S. 186.

[52] LYA, f. k-1, ap. 3, b. 23, l. 211—219. Спецыяльная інфармацыя для народнага камісара НКУС ЛітССР палкоўніка Барташунаса ад 18.09.1944 г.

[53] Ibidem.

[54] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 163, арк. 19—21. Пратакол № 12 пасяджэння Беластоцкага абкама КП(б)Б, 16.07.1944 г.

200 чалавек, арганізоўваліся ў кожным горадзе і раёне не пазней чым праз 20 дзён пасля заняцця мясцовасці савецкімі ваеннымі часцямі. Акрамя таго, былі створаны групы садзеяння знішчальным батальёнам, якія набіраліся з правераных людзей, што жылі па-за населенымі пунктамі (на хутарах, работнікі лясніцтваў і г.д.)[55]. У Сапоцкінскім, Свіслацкім, Скідзельскім і Крынкаўскім раёнах Гродзенскай вобл. пры РА (раённых аддзелах) НКУС былі арганізаваны батальёны, якія складаліся са 100 чалавек, у Гродзенскім і Ваўкавыскім — са 150, у Гродне ж — з 200 чалавек[56].

Згодна з загадам НКУС БССР № 601 525-44, штабы знішчальных батальёнаў былі падпарадкаваны Упраўленню па барацьбе з бандытызмам НКУС. У студзені 1945 г. у НКУС на рэспубліканскім узроўні быў створаны 3-ці аддзел (знішчальныя батальёны), а таксама аддзелы на ўзроўні абласцей[57].

Агульны колькасны склад знішчальных батальёнаў і груп падтрымкі пастаянна змяняўся. Дысцыпліна ў іх была на нізкім узроўні, зафіксаваны выпадкі, калі члены груп здзяйснялі злачынствы, у тым ліку рабункі, удзельнічалі ў арганізаваных бандах. 19 красавіка 1946 г. для вырашэння гэтай праблемы быў выдадзены загад намесніка міністра ўнутраных спраў СССР генерал-лейтэнанта Раснога № 1/6103. Выконваючы гэтае распараджэнне, міністр унутраных спраў БССР Бельчанка даручыў тэрытарыяльным органам МУС пераглядзець асабісты склад карных батальёнаў і груп падтрымкі з мэтай ачышчэння іх ад «ненадзейных і пасіўных асоб»[58].

## СТВАРЭННЕ АДМІНІСТРАЦЫІ. АДНОСІНЫ З МЯСЦОВЫМ НАСЕЛЬНІЦТВАМ

Раённыя аддзелы міліцыі таксама фармаваліся з былых партызанаў. На тых тэрыторыях, дзе жылі палякі (якія самі так сябе вызначалі, што пацвярджалася шматлікімі савецкімі крыніцамі і паводзінамі насельніцтва, якое трымалася польскасці), яны на 100% складаліся з немясцовых кадраў. Раённы аддзел міліцыі ў Радуні налічваў 30 чалавек — былых удзельнікаў савецкай партызанкі. Ім былі дадзены наступныя характарыстыкі:

---

[55] Рыбак Н. Метады і сродкі ліквідацыі акаўскіх і постакаўскіх фармаванняў у заходніх абласцях Беларусі // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 14. 2000. С. 178.

[56] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 163, арк. 138—139. Пастанова бюро Гродзенскага абкама «Аб арганізацыі знішчальных батальёнаў у раёнах», 18.09.1944, падпісаў сакратар абкама Эльман.

[57] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 518, л. 5. Справаздача аб працэсе камплектавання знішчальных батальёнаў НКУС і груп садзеяння, 31.08.1945 г., падпісаў начальнік 3-га аддзела НКУС БССР падпалкоўнік Эмінаў.

[58] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 557, л. 15—16. Інфармацыйная запіска намесніку міністра ўнутраных спраў СССР Раснаму ад міністра ўнутраных спраў БССР Бельчанкі ад 29.04.1946 г. У ходзе следства было ўстаноўлена, што частка членаў знішчальных батальёнаў выкарыстоўвала атрыманую зброю і сваё становішча для звычайных рабункаў і марадзёрства. У Гродзенскай вобласці ў студзені—сакавіку 1946 г. была ліквідавана банда рабаўнікоў, у склад якой уваходзілі два члены груп садзеяння. Падобныя выпадкі мелі месца і ў іншых абласцях БССР.

> В составе райотдела НКВД находится 30 бывших партизан, которые в отряде не отличались дисциплиной и хорошим поведением. Занимаются беззаконием, вымогая водку, мед, сало. В случае отказа производят обыски в домах[59].

Відавочна, што ім цяжка было адмовіцца ад старых звычак. Амаль усе кіраўнічыя пасады ў Радунскім раёне таксама былі занятыя былымі савецкімі партызанамі (98 чалавек)[60].

З самага пачатку ўзаемаадносіны паміж мясцовым насельніцтвам і прыезджымі кадрамі былі нацягнутымі. Нявыхаванасць, нізкі ўзровень адукацыі, нежаданне зразумець мясцовыя ўмовы і традыцыі, а часта і адкрытая пагарда абумовілі тое, што грамадскасць лічыла ўладу чужой. Савецкая ўлада перамагла, што давала некаторым яе прадстаўнікам падставы злоўжываць сваім становішчам. Гэта праяўлялася, у прыватнасці, у тым спосабе, якім здабывалі сабе месца пражывання многія савецкія функцыянеры. Найчасцей гэта адбывалася на падставе жыллёвага ордара, выдадзенага адпаведным аддзелам мясцовых органаў улады. У Гродне гарадскі жыллёвы камітэт выдаваў ордары на жыллё, у якім пражывалі палякі. Ордары атрымлівалі вайскоўцы, міліцыянты, партыйныя функцыянеры, якія, засяляючыся ў адзін з пакояў у доме, вымушалі гаспадароў выселіцца з кватэры. Так, жыхарку Гродна Рачкоўскую разам з пяццю дзецьмі вымусіў пакінуць двухпакаёвую кватэру і выехаць у Польшчу нейкі маёр Дарожка. Начальнік пашпартнага аддзела, маючы ордар на адзін з пакояў у кватэры гродзенца Лапы, прымусіў яго разам з усёй сям'ёю выехаць з кватэры. Ордары на кватэры палякаў атрымлівалі таксама некаторыя партыйныя функцыянеры. Усё ўказвае на тое, што гэта былі мэтанакіраваныя дзеянні. Меркаванне пацвярджаецца партыйнымі дакументамі, у якіх, між іншага, згадваецца:

> (...) на массовую запись в Польшу, несомненно, влияли и многочисленные факты нарушения социалистической законности — необоснованные аресты, случаи избиения поляков, незаконное нарушение прав поляков[61].

Вярхушка савецкага апарату мела большы апетыт, чым яе сярэдняе і ніжняе звенні. Старшыня Гродзенскага выканкама Саўкоў, незадаволены, напэўна, трохпакаёвай кватэрай, у якой жыла яго сям'я, прымусіў выселіцца з дома № 11 на вуліцы Міцкевіча чатыры сям'і, у тым ліку і гаспадыню дома гр. Вайцяхоўскую. Трэба заўважыць, што гэты дом не падпадаў пад нацыяналізацыю. Некалькі месяцаў адзіная ў Гродне рамонтна-будаўнічая

---

[59] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 3, арк. 22. Пратакол № 8 Радунскага РК КП(б)Б, 08.12.1944 г.

[60] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 16, арк. 64. Паведамленне аб эканамічнай сітуацыі ў Радунскім раёне, аб партыйна-палітычнай працы і мерапрыемствах грамадска-культурнага характару ад 17.07.1944 г., за подпісам сакратара Лескіна. Паводле дакумента, у Радунскім раёне пражывалі «пераважна палякі, было крыху беларусаў і літоўцаў». Перад пачаткам вайны з Германіяй у 1941 г. у раёне пражывала 31 300 чалавек, у ліпені 1944 г. — 29 469. Са 122 камсамольцаў раёна толькі 16 чалавек (палякі) былі мясцовага паходжання, астатнія — прыезджыя.

[61] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, арк. 83—84. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.

брыгада, якая складалася з дзевяці чалавек, рамантавала вілу для старшыні выканкама. Апошні ж за гэты час паспеў з'ездзіць у Германію, адкуль прывёз у якасці трафея дываны, швейныя машынкі, мэблю, вопратку і г.д. Пра ўсё гэта было вядома партыйнай уладзе на гарадскім і абласным узроўнях. Такі лад жыцця не мог не звярнуць на сябе ўвагі. Таму было прынята рашэнне «пакараць» тав. Саўкова, перавёўшы яго на пасаду начальніка аддзела сельскай гаспадаркі і калгасаў Гродзенскай вобл. Праз два гады начальнік Гродзенскага МДБ меў у сваім дасье матэрыял, які выразна сведчыў, што згаданая асоба не пакінула старыя звычкі[62].

На раённым узроўні выпадкі самавольнага займання кватэраў новымі кадрамі былі куды больш брутальнымі. Кіраўнік Радунскага НКУС Кабанаў вымусіў сям'ю лекара З. пакінуць сваю кватэру, арыштаваўшы ягоную дачку і пабіўшы яе шомпалам. Пры гэтым Кабанаў гаварыў: «Няма чаго пытацца: калі спадабалася кватэра — трэба займаць»[63].

Падобным чынам знайшоў сабе кватэру і кіраўнік Радунскага РА НКДБ Шавелаў. Больш за тое, ён паводзіў сябе недапушчальна таксама і ў адносінах да прадстаўнікоў мясцовай улады, «выказваючы непавагу» супрацоўнікам выканкама і райкама і ігнаруючы іх распараджэнні[64]. Можна прывесці шмат прыкладаў, якія сведчаць пра злоўжыванне супрацоўнікамі НКУС/НКДБ сваімі пасадамі, пра іх выключнае становішча ў параўнанні з іншымі прадстаўнікамі партыйнага і савецкага апарату, пра іх неабмежаваную ўладу над грамадствам. Гэта прызнавалі нават самі савецкія функцыянеры, напрыклад, характарызуючы працу сельсаветаў, якія складалі нізавы ўзровень органаў савецкай улады ў рэгіёне. Між іншым зазначаецца: «да цяперашняга моманту (*03.07.1945 г. — Я.Ш.*) сельсаветамі кіруюць ваенкаматы, органы НКУС/НКДБ і г.д.»

Падчас пастаўкі дроваў з лесу 12 лютага 1945 г. Гродзенскі раённы выканкам мабілізаваў на працу 500 фурманоў і 600 дрывасекаў. У той самы дзень атрад НКУС, праводзячы аблаву на дэзерціраў (*мясцовых, якія, напэўна, ухіляліся ад службы ў Чырвонай Арміі — Я.Ш.*), брутальна разагнаў усіх гэтых людзей. Паказальна, што пра запланаваную акцыю кіраўніцтва НКУС не праінфармавала мясцовыя ўлады, напэўна, палічыўшы гэта лішнім[65]. Дырэктар Гродзенскага бровара страціў усялякую надзею пазбавіцца ад частых візітаў групы прадстаўнікоў мясцовага НКУС, якія былі вялікімі аматарамі піва, але забываліся за яго плаціць. Страціўшы надзею пазбавіцца ад нязваных гасцей, дырэктар у лісце ў абкам паведаміў, што ў выніку гэтых візітаў была цалкам раскрыта сетка інфарматараў НКУС на бровары[66].

---

[62] Тамсама, арк. 86; НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 315. Паведамленне «Аб чыстцы савецкага і гаспадарчага апарату Гродзенскай вобласці ад антысавецкіх і іншых элементаў, якія не выклікаюць даверу» ад 26.07.1947 г., за подпісам начальніка Гродзенскага УМДБ палкоўніка Палітыкі.

[63] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, д. 3, арк. 22. Пратакол № 8 Радунскага бюро РК КП(б)Б, 08.12.1944 г.

[64] Тамсама.

[65] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 31, арк. 4. Паведамленне сакратару Гродзенскага абкама Калініну ад 14.02.1945 г., за подпісам сакратара Гродзенскага выканкама Дайнекі.

[66] Тамсама, арк. 6.

Яшчэ горшымі былі ўзаемаадносіны з мясцовым насельніцтвам. Супрацоўнікі органаў НКУС/НКДБ і ваенкаматаў падчас правядзення шматлікіх аблаў іператрусаў займаліся марадзёрствам і збівалі людзей. Крыніцы польскага падполля наступным чынам апісваюць тагачасную сітуацыю:

> Рознымі рабункамі масава займаюцца савецкія афіцэры і салдаты. Вядомыя выпадкі ўварвання ў кватэры, калі там не было гаспадароў або пад выглядамператрусу ў кватэры, нават у гасцях яны могуць скрасці тое, што ляжыць пад рукой. У прыфрантавых вёсках распаўсюджаны крадзяжы коней, авечак, кароў і свіней[67].

Падобныя факты пацвярджаюцца і савецкімі крыніцамі. Адна са скаргаў на бяспраўныя дзеянні начальніка Сапоцкінскага РА НКУС Голава (у часператрусу прысвойваў падушкі, адзенне, жывёлу, прапаноўваў гр. В. уступіць з ім у сувязь) абмяркоўвалася на пасяджэнні бюро Сапоцкінскага райкама. Голаў тлумачыў, што проста прапанаваў гр. В. «правесці разам вечар». Абвінавачванні ў прысваенні асабістых рэчаў Голаў назваў «подлай хлуснёй» і прапанаваў даручыць праверку абласной камісіі НКУС. Сямёра прысутных на пасяджэнні чалавек адзінагалосна сышліся на думцы, што справа заключаецца ў жаданні палякаў дыскрэдытаваць органы НКУС, і вырашылі перасцярэгчы кіраўніка НКУС, даручыўшы расследаванне гэтай справы калегам з НКУС[68].

Грамадства было ахоплена страхам перад усёўладдзем карных органаў. Неабгрунтаваныя арышты без выканання юрыдычных фармальнасцей (напрыклад, складання пратакола), збіванне арыштаваных набылі такі маштаб, што выклікалі занепакоенасць вышэйшага савецкага кіраўніцтва. Падчас кантрольнай праверкі, якую праводзіла Гродзенская пракуратура, было выяўлена, што найбольш ініцыятыўныя партыйныя функцыянеры аддавалі загады на арышт людзей, якія нібыта ўхіляліся ад службы ў войску, выканання плана дзяржаўных паставак і г.д. У Жалудоцкім раёне па загадзе сакратара райкама Берната 20 снежня 1944 г. без усялякіх падстаў былі арыштаваныя і заключаныя ў турму 14 чалавек. Падобныя справы адбываліся ў Лідскім раёне, дзе кіраўнік РА НКУС Хаметаў без выканання юрыдычных фармальнасцей трымаў пад арыштам двух чалавек. Кантрольная праверка паказала, што такія выпадкі носяць масавы характар[69].

У 1945 г. у Гродзенскай вобл. на падставе артыкула 100 Крымінальнага кодэкса БССР (падазрэнне ў здзяйсненні злачынства) былі арыштаваны 6 024 чалавекі. З гэтай колькасці да крымінальнай адказнасці было прыцягнута 2 130 чалавек (35,3%). Астатнія 64,5% вымушаныя былі правесці за кратамі ад 1 да 10 дзён[70]. Умовы знаходжання ў такіх месцах былі блізкімі да ўмоў у нямецкім гестапа. Арыштаваных часта білі, каб вымусіць прызнаць сваю

---

[67] Białostocczyzna ... S. 81.

[68] ДАГАГВ. Ф. 8, воп.1, спр. 1, арк. 29. Пратакол № 14 Сапоцкінскага РК ПК(б)Б ад 27.12.1944 г., за подпісам сакратара Яцукевіча.

[69] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 31, арк. 2. Паведамленне сакратару Гродзенскага абкама Калініна ад 01.01.1945 г., за подпісам пракурора Гродзенскай вобл. Лая.

[70] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 73, арк. 22. Інфармацыйная запіска № 9/170 ад 01.07.1946 г., за подпісам пракурора Гродзенскай вобл. Лая.

віну. Арыштаванага 2 снежня 1944 г. жыхара Браслава (Полацкая вобл.) Аляксандра Мілевіча мясцовае НКУС вербавала ў тайныя інфарматары. Допыты адбываліся пераважна ноччу, арыштаваны стаяў з паднятымі рукамі альбо шмат гадзін сядзеў на краі стала. Арыштаваных трымалі ў неацяплялъных перапоўненых сутарэннях манастыра, усе яны спалі на бетоннай падлозе. За адмову ад супрацоўніцтва Аляксандр Мілевіч атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі як здраднік Радзімы і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў і быў сасланы ў Нарыльск[71]. Пасля адбывання пакарання такі чалавек, як правіла, не мог вярнуцца дадому. Пры звальненні з лагера былому вязню выдавалі даведку з указаннем месца, дзе ён павінен жыць[72].

Злачынныя паводзіны некаторых прадстаўнікоў дзяржаўнага апарату і адкрытая пагарда да мясцовага насельніцтва толькі паглыблялі прорву паміж імі. Можна прывесці шмат прыкладаў такога стаўлення да грамадства. У Сапоцкіне п'яны інспектар пажарнай службы Саклакоў пабіў мясцовага жыхара Крысюка і прыгаворваў пры гэтым, што ўсіх палякаў трэба расстрэльваць. Іншым разам, пры вялікім натоўпе людзей падчас пажару ён змякчыў акцэнты, сказаўшы, што ўсіх палякаў трэба арыштоўваць. Сакратар Лідскага РК КП(б)Б Бязлюдаў, расказваючы на партыйным сходзе пра адносіны з мясцовым насельніцтвам і настаўнікамі, паведаміў, што «не можа іх цярпець»[73].

Гэта толькі частка фактаў, пералічаных у вялікай справаздачы ў ЦК КП(б)Б аб «парушэнні сацыялістычнай законнасці» ў Гродзенскай вобл. У перыяд з ліпеня 1944 г. па 25 кастрычніка 1946 г. у Гродзенскай вобл. былі звольнены з пасад 10 пракурораў. Галоўнымі падставамі да звальнення былі «шматлікія факты парушэння сацыялістычнай законнасці, побытавая амаральнасць і падтрыманне стасункаў з чужымі элементамі»[74]. Прадстаўнік НКУС БССР палкоўнік Васільеў, характарызуючы тагачасную сітуацыю ў Радунскім раёне, паведаміў:

> (...) масса беззакония в вашем районе, вообще не чувствуется советской власти. Раньше люди прятались от немцев, а теперь от нас, потому что отдельные сотрудники нарушают закон...

Новы пракурор гэтага раёна адзначаў, што найчасцей яму задаюць такое пытанне:

> Почему Советы в 1939 году ничего не требовали и относились к людям лучше, чем теперь?[75]

---

[71] Памяць. Браслаўскі раён / пад. рэд. У. Лемяшонка. Мінск, 1998. С. 573—574.

[72] Жыхар вёскі Азяркі Гродзенскага раёна (цяпер гэтага населенага пункта не існуе) Вітольд Суравец быў асуджаны ў 1946 г. на 8 гадоў пазбаўлення волі і на 3 гады пазбаўлення грамадзянскіх правоў на падставе арт. 58, парагр. 3 Крымінальнага кодэкса РСФСР. Пасля адбывання пакарання ён не мог вярнуцца дадому, бо быў накіраваны ў гарадскі пасёлак Поразава Гродзенскай вобласці. Гл. дадатак: «Пасведчанне для Сураўца Вітольда аб заканчэнні адбывання пакарання».

[73] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 87—89. ДАГАГВ. Ф. 8, воп. 1, спр. 4, арк. 71—71 адв. Розныя дакументы.

[74] ДАГАГВ. Ф. 1, воп.1, спр. 73, арк. 49. Паведамленне сакратару Гродзенскага абкама Калініну, без даты, за подпісам намесніка кіраўніка аддзела кадраў Раманава.

[75] ДАГАГВ. Ф. 11, воп.1, спр. 3, арк. 23. Пратакол № 8 Радунскага РК КП(б)Б, 08.12.1944 г., за подпісам сакратара Салаўёва.

## ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Вялікую ўвагу савецкая ўлада надавала выкарыстанню эканамічных рэсурсаў занятых тэрыторый для патрэб Чырвонай Арміі і эканомікі СССР. Выяўлялася гэта ў палітыцы выканання насельніцтвам, пераважна вясковым, дзяржаўных планаў пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, у выкананні рознага кшталту прымусовых прац: высечкі лесу, рамонту дарог і мастоў. Акрамя таго, існаваў падатак на зямлю. Згодна з распараджэннем упаўнаважанага Наркамата нарыхтовак СССР, на вызваленых тэрыторыях Беларусі была ўсталявана сістэма паставак на ўзроўні 50% ад абавязковай нормы 1944 г. Напрыклад, гаспадар, у якога было ад 2 да 5 гектараў зямлі, павінен быў аддаць дзяржаве 15 кг мяса, 88 л малака ад кожнай каровы, 25 яек з кожнай гаспадаркі і г.д.[76]. Акрамя таго, былі спецыяльныя кантынгенты па пастаўках збожжа, бульбы, сухога корму, спецыяльныя пастаўкі для Чырвонай Арміі і абавязковая дзяржаўная пазыка.

Планы дзяржпаставак сустракалі ціхі сабатаж з боку насельніцтва. Непамерна вялікія нормы і недастаткова выразная палітычная кан'юнктура былі прычынай няпэўных настрояў і крыніцай разнастайных чутак. У многіх раёнах планы дзяржпастаўкі выконваліся пры дапамозе вайсковых часцей Чырвонай Арміі. Гэта, аднак, не давала пажаданых вынікаў. Савецкая ўлада звярталася па дапамогу нават да духоўных асоб, якія мелі вялікі аўтарытэт сярод вясковага насельніцтва. У Воўпаўскім сельсавеце (Ваўкавыскі раён) у актыў былі ўключаны мясцовыя ксёндз і поп. Як дакладваў пазней на партыйным сходзе ўпаўнаважаны райкама Курба, «ксёндз на сваёй тэрыторыі план пастаўкі выканаў, а поп — падвёў»[77].

Паколькі планы паставак былі вельмі важнымі і ім надавалася шмат увагі, мясцовыя ўлады выкарыстоўвалі ўсе магчымыя спосабы, каб іх выканаць, і не грэбавалі пры гэтым ніякімі метадамі і сродкамі. Часам яны змушалі людзей да дзяржпазыкі, выкарыстоўваючы дробныя эканамічныя санкцыі, напрыклад, не прадавалі тым, хто ўхіліўся, вельмі каштоўнай у той час солі. У Быценскім раёне Баранавіцкай вобл. было спецыяльнае распараджэнне пракурора па гэтым пытанні. Пагрозы, якія выказвалі на сходах упаўнаважаныя па пастаўках у адрас вяскоўцаў (кшталту «скуру здзяру, а пастаўкі збяру», «накладу на вас лапу МДБ», «не аддасце, то запішам у калгас», а часам і ўчыненая п'янымі ўпаўнаважанымі страляніна і г.д.) не заахвочвалі да ўдзелу ў падобных сходах. Тое самае можна сказаць і наконт іншых мерапрыемстваў савецкай улады ў палітыка-ідэалагічнай сферы. Напрыклад, сакратар камсамола Сапоцкінскага раёна Санько не меў магчымасці праводзіць ніякай палітычна-выхаваўчай працы з моладдзю, бо застрашаныя «хапуном» маладыя людзі не прыходзілі на сходы. Паводле сакратара камсамола, на сустрэчы прыходзілі толькі «старыя і малыя»[78].

---

[76] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 163. арк. 37. Пастанова Беластоцкага выканкама і абкама КП(б)Б «Аб пастаўках мяса, малака і яек дзяржаве для калгасаў і сельскіх гаспадарак», 10.08.1944 г.

[77] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 101. Паведамленне аб ходзе выканання паставак дзяржаве, 02.09.1944 г.

[78] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 87. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім аб-



*Малако дзяржаве. Пастановачнае прапагандысцкае фота.*

Трэба сказаць, што за невыкананне плана дзяржпаставак пагражала крымінальная адказнасць. Дзейнасць адпаведнага закона, прынятага Саветам народных камісараў СССР у лістападзе 1942 г. з тэрмінам важнасці да канца вайны, была прадоўжана 17 верасня 1945 г.[79].

Вялікую небяспеку неслі абвінавачванні ў зневажанні савецкай улады, якія маглі ўзнікнуць у выніку неасцярожных выказванняў. Падчас сходу з нагоды чарговай пастаўкі збожжа дзяржаве ў вёсцы Старлыгі Свірскага раёна (Маладзечанская вобл.) мясцовы жыхар Іосіф Сапега (*імя напісана ў адпаведнасці з тэкстам крыніцы — Я.Ш.*) сказаў:

> Нас сюда собрали, как жидов в немецкое гестапо, и хотите забрать у нас весь хлеб, возьмите принесите пулемет и расстреляйте.

Яго падтрымала яшчэ адна мясцовая жыхарка — Маланння Мамчыц. У выніку хуткага следства і вынесенага абвінавачвання ў антысавецкай агітацыі абое былі прызнаныя вінаватымі і панеслі кару паводле арт. 72 парагр. «А» Крымінальнага кодэкса БССР (*антысавецкая агітацыя і прапаганда — Я.Ш.*)[80].

У той час было распаўсюджана меркаванне, што Саветы хутка сыдуць, як гэта было ў 1941 г., а таму і спяшаюцца забраць як мага больш. Пасля распаду антыгітлераўскай кааліцыі чакаўся канфлікт паміж СССР і яго былымі саюзнікамі. Звесткі пра гэта прыходзілі з розных крыніц, пераважна ад людзей, звязаных з антысавецкім падполлем. Савецкая ўлада часта сама несвядома падтрымлівала плёткі пра хуткую вайну з Захадам. У вёсцы Козіна Быценскага раёна падчас выступлення з прамовай кіраўнік РА НКУС Татарнеў паведаміў:

> В Англии содержится 15-миллионная армия Андерса, она готовится к войне с нами, а потому вы должны в трехдневный срок внести молокопоставки.

У адказ на гэта нехта з залы выкрыкнуў: «Каб вас тут не было праз тры дні»[81]. У Навамышскім раёне той самай вобласці многія лічылі, што Савецкі Саюз працягвае вайну на Далёкім Усходзе (*восень 1945 г. — Я.Ш.*), і ў сувязі з гэтым чакалі зменаў.

Найбольш вострыя выказванні і меркаванні на тэму будучай вайны былі характэрныя для польскага асяроддзя. Полька з Брэста ў размове са сваімі знаёмымі выказала думку, што не Чырвоная Армія змагалася за палякаў, а

камам пастановы ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый у заходніх абласцях БССР» ад 03.07.1945 г.

[79] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 121, арк. 100. Пастанова Савета Народных Камісараў СССР № 2348 ад 17.09.1945 г., за подпісамі Сталіна, Чадаева. У мірны час гэтыя дзеянні падпадалі пад арт. 61, а ў час вайны — пад арт. 59 парагр. 6 Крымінальнага кодэкса РСФСР і адпаведных артыкулаў крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік.

[80] Акт абвінавачвання Сапегі Іосіфа і Мамчыц Маланні ад 24.10.1947: Аграрные преобразования в Молодечненской области 1944—1953. Документы / сост.: Н.А. Бондаренко, Н.В. Иванов, И.Н. Курков. Минск, 2003. С. 168—170.

[81] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 174. Справаздача аб палітычнай працы сярод насельніцтва Быценскага раёна Баранавіцкай вобл., без даты, не раней за 27.05.1945 г.

Вялікабрытанія вызваліла Польшчу. «Если бы Англия не давала продуктов советской власти, то Советы подохли бы давно, — казала Вольга Пятроўская. — Но в Бресте Советов не будет, а будет Великая Польша»[82].

Выказванні пра «Вялікую Польшчу ў межах 1939 г.» былі досыць частымі, асабліва сярод палякаў: партыйныя дакументы занатоўваюць іх аж да канца 40-х гг. У неаднойчы згаданым ужо Радунскім раёне, дзе жылі пераважна палякі, сакратар РК КП(б)Б Муравіцкі выказваў занепакоенасць з нагоды моцных антысавецкіх настрояў. «Вражеские элементы рассказывают о том, что в приближающейся войне (*паміж СССР і Вялікабрытаніяй — Я.Ш.*) поляки должны занять свое место и бороться за освобождение от Советов своей земли,» — дакладваў Муравіцкі на пасяджэнні райкама[83].

Даходзіла да кур'ёзных сітуацый. Так, у сярэдзіне мая 1945 г. цэлая вёска Левашы (Лідскі раён), у якой налічвалася 40 гаспадарак, пасля весткі пра пачатак вайны СССР з Англіяй і ЗША запрэгла коней і прыехала ў Ліду па ваенныя «трафеі», бо была пушчана чутка, нібыта Чырвоная Армія разбітая і пакінула горад[84].

Чаканне пераменаў (у тым ліку — аднаўлення межаў 1939 г.), якія звязваліся з цалкам верагоднай вайной, было адной з прычын, па якой пэўная частка палякаў адкладвала перасяленне ў Польшчу. Дырэктар польскамоўнай школы № 2 горада Гродна Якуб Мараш з трывогай адзначаў у адной са сваіх справаздач, што палякі часта дэзарганізуюць працу школы, бо не могуць вырашыць, ці трэба ім выязджаць: «Палякі паказваюць нерашучасць і павольнасць, чакаючы зменаў палітычнай кан'юнктуры». Далей ён піша: «Адна з матак сказала, што няма сэнсу выязджаць у Польшчу, бо ўсё роўна хутка пачнецца вайна»[85].

Можа скласціся ўражанне, што Заходняя Беларусь — у параўнанні з усходняй часткай — была аазісам дабрабыту, які шчасліва абмінулі ваенная віхуры. Аднак жа пасляваенную рэчаіснасць немагчыма апісваць у светлых танах. Спаленыя вёскі, школы, хаты, ваенныя разбурэнні былі бачныя на кожным кроку. Ступень разбурэння была непараўнальна меншай, чым на ўсходзе, але тысячы людзей засталіся без даху над галавой. У Гродзенскай вобл., паводле дадзеных на 1 чэрвеня 1945 г., з 14 127 спаленых і знішчаных дамоў былі адбудаваныя толькі 3 226. Паводле дадзеных НКУС БССР, Пінск быў разбураны на 35—40 %. Былі знішчаныя гарадская верф, запалкавая фабрыка, пяць лесапільняў і г.д.[86]. Хоць у Заходняй Беларусі і не было голаду, адчуваўся моцны недахоп солі, мыла, запалак і г.д. У раёны Полацкай вобл. з кастрыч-

---

[82] Освобожденная Беларусь … С. 161—168. Паведамленне аб ходзе выканання дамовы аб эвакуацыі, май 1945 г.

[83] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 16, арк. 74. Палітданясенне Радунскага райкама ў Гродзенскі абкам ад 12.10.1945 г., за подпісам сакратара Муравіцкага.

[84] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 51—52. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б ад 3.07.1945 г.

[85] ДАГВ. Ф. 127, воп. 1, спр. 24, арк. 30. Справаздача аб працы Гродзенскай польскамоўнай школы № 2, не пазней за 30 мая 1946 г.

[86] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 70, л. 87. Справаздача № 829/5 НКУС БССР, ЭССР, ЛатССР, ЛітССР і Калінінградскай вобласці ў ЦК УКП(б) ад 17.08.1944 г., за подпісам народнага камісара НКУС Берыі.

ніка 1944 г. па май 1945 г. наогул не прывозілі соль, у некаторых раёнах нават у канцы лістапада 1945 г. сітуацыя не змянілася. У Гродзенскай вобл. нерэгулярна выдавалі хлеб[87].

З-за вельмі малой колькасці лекараў і недахопу нават самай элементарнай медыцынскай дапамогі ў многіх раёнах (Дзівінскім Брэсцкай вобл., Навагрудскім і Ляхавіцкім Баранавіцкай вобл.) успыхнула эпідэмія плямістага тыфу, пашыраліся кароста і інфекцыйныя хваробы[88]. Карціну дапаўняла складаная грамадска-палітычная сітуацыя, агульная характарыстыка якой была пададзеная вышэй.

Акрамя ўсяго, нельга забываць, што прыход Чырвонай Арміі летам 1944 г. пэўнай часткай грамадства ўспрымаўся як вызваленне ад жахаў гітлераўскай акупацыі. І калі нават на захадзе Беларусі вайсковыя падраздзяленні не віталі трыумфальнымі вянкамі, гэта ўсё роўна быў прыход арміі-вызваліцелькі. Першапачаткова нават палякі лічылі Чырвоную Армію саюзным войскам, якое дапаможа вызваліць і аднавіць незалежную Польшчу. Томаш Стшэмбаш, пішучы пра пераход Чырвонай Арміяй «усходніх межаў II Рэспублікі», адзначаў: «Цяпер войска ўваходзіла як вызваліцель і саюзнік нашых саюзнікаў. Аднак гэта было зусім не такое вызваленне, на якое разлічвалі палякі»[89]. Неўзабаве чаканні і надзеі былі падмануты. Цывільная адміністрацыя, а асабліва органы НКУС, якія прыйшлі следам за рэгулярным войскам, хутка далі зразумець, што тут няма месца далікатнасці і лагодным угаворванням. Эканамічная і нацыянальная палітыка, тэрор і запалохванне сталі прычынай таго, што ў грамадстве пачалі панаваць страх і няўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Многія скарысталіся з магчымасці выехаць у Польшчу («эвакуацыі», ці т.зв. «рэпатрыяцыі»), якую зараз ужо лічылі «дэмакратычнай і прыязнай», каб толькі ўцячы ад савецкай рэчаіснасці. Людзі ў роспачы пагражалі, што перад ад'ездам спаляць усю сваю маёмасць, бо не хацелі пакідаць яе Саветам (Сапоцкінскі раён). Для жыхароў памежных раёнаў, напрыклад, Браслаўскага, які мяжуе з Латвіяй, магчымасць выехаць у суседнюю краіну была апошнім выратаваннем. Паводле аўтараў беларускай працы па гісторыі Браслаўскага раёна, у другой палове 40-х гг. у Латвію ўцякалі цэлыя вёскі, рабілі яны гэта ноччу і патаемна, пакідаючы ўсё, што цяжкай працай здабылі за сваё жыццё[90]. У прыбалтыйскіх рэспубліках эканамічная палітыка крыху адрознівалася ад той, якая праводзілася ў Заходняй Беларусі: савецкая ўлада, азіраючыся на нядаўні досвед незалежнасці гэтых краін, паводзіла сябе тут больш асцярожна.

---

[87] Советская жизнь. 1945—1953. Сборник документов / сост. Е.Ю. Зубкова, Л.П. Кошелева, Г.А. Кузнецова, А.И. Минюк, Л.А. Роговая. Москва, 2003. Паведамленне аб недахопах у забеспячэнні працоўных ад 28.11.1945 г., за подпісам намесніка старшыні арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦК УКП(б) Слепава.

[88] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 87—88. Паведамленне «Аб інфекцыйных хваробах у некаторых раёнах БССР» ад 24.03.1945 г.

[89] Strzembosz T. Rzeczpospolita podziemna. Społeczeństwo polskie a państwo podziemne 1939—1945. Warszawa, 2000. S. 171.

[90] Памяць ... С. 565.

Для тых, хто застаўся на тэрыторыі БССР, адзіным шанцам выжыць у рамках створанай савецкай сістэмай мадэлі развіцця было прыстасаванне па меры магчымасці да яе патрабаванняў. Сітуацыю, якая склалася летам 1944 г. на вызваленых тэрыторыях, трапна ахарактарызаваў адзін з партыйных функцыянераў (*на прыкладзе Ашмянскага раёна тагачаснай Віленскай вобл. — Я.Ш.*): «Большасць насельніцтва жыве адасоблена, з заўсёдным неабгрунтаваным страхам за сваё жыццё, за дом, за сям'ю. Жывуць паводле прынцыпу "кожны круціцца як можа"»[91].

Але не заўсёды можна было выкруціцца. Тэрор супраць грамадства, сабатаж большасці мерапрыемстваў улады (напрыклад, мабілізацыі ў войска і на прамысловасць) вымушалі тысячы людзей шукаць ратавання ў лесе. Многія з іх папаўнялі шэрагі антысавецкага падполля. Гэтае пытанне больш падрабязна будзе разгледжана ў наступным раздзеле.

Такім чынам, карціна рэчаіснасці на вызваленых ад нямецкай акупацыі тэрыторыях бачыцца ў змрочных танах. Яна значна адрозніваецца ад прадстаўленай у савецкай прапагандзе і гістарыяграфіі, якія панавалі ў савецкі перыяд і да сённяшняга дня дамінуюць у афіцыйнай гістарычнай навуцы сучаснай беларускай дзяржавы. Гэты перыяд звычайна характарызаваўся (і далей характарызуецца ў працах некаторых гісторыкаў) як час народнага энтузіязму, час вызвалення, адбудовы краю, будаўніцтва светлай будучыні. Перыядычна з'яўляліся згадкі пра цяжкасці (звязаныя з адбудовай краю) і перагібы. Перадусім яны былі звязаныя з «варожай дзейнасцю фашысцкіх элементаў», «польскіх, беларускіх і ўкраінскіх буржуазных нацыяналістаў». Аднак жа пра сапраўдныя прычыны непрымання грамадствам новаўвядзенняў савецкай улады звычайна не гаварылася. На той час палітычныя і ідэалагічныя ўмовы не дазвалялі навукоўцам абмяркоўваць такія праблемы, а зараз гэта ўспрымаецца сама менш непрыхільна.

Сучасная беларуская гістарыяграфія мае некалькі прац, пераважна артыкулаў, у якіх тым ці іншым чынам паказана сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Заходняй Беларусі адразу пасля вызвалення[92]. У манаграфіях беларускіх гісторыкаў Анатоля Вялікага і Эдмунда Ярмусіка[93] тым ці іншым чынам таксама разглядаецца акрэсленая праблема. Маем надзею, што гэта толькі пачатак шляху да больш поўнага пазнання скажонай і сфальсіфікаванай гісторыі Заходняй Беларусі.

[91] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 59. Інфармацыйная запіска аб ходзе рэалізацыі плана дзяржпаставак у Ашмянскім раёне ад 26.10.1944 г., за подпісам Маракуліна.

[92] Гл., напрыклад: Рыбак Н.А. К вопросу об общественно-политической ситуации в западных областях БССР после освобождения республики (1944—1945 гг.) // Беларусь в годы Великой Отечественной войны: уроки истории и современность. Материалы международной научной конференции, посвященной 60-й годовщине освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков. Минск, 29—30 июня 2004 г. Минск, 2004. С. 220—223; Кашталян І. Уплыў рэпрэсіўнага фактару палітыкі савецкай улады на штодзённае жыццё насельніцтва Заходняй Беларусі (1944—1950 гг.) // Веснік БДУ. 2004. № 1. С. 13—17.

[93] Вялікі А.Ф. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944—1946). Мінск, 2003; Ярмусик Э. Католический костел в Беларуси в 1945—1990 годах. Гродно, 2006.

# І.ІІІ. БЕЛАРУСКІ АНТЫСАВЕЦКІ РУХ

Беларускі антысавецкі рух у другой палове 40-х — пачатку 50-х гадоў доўгі час заставаўся белай плямай у гістарыяграфіі пасляваеннага перыяду. Нават здавалася, што беларусы, у адрозненне ад іншых, больш актыўных нацыянальных груп, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, пакорна прынялі новую рэчаіснасць і не аказвалі ніякага супраціву саветызацыі. Неаспрэчным застаецца той факт, што беларускі антысавецкі рух быў менш актыўны, чым польскі, украінскі або літоўскі, і не меў вялікай грамадскай падтрымкі. Аднак жа найбольш свядомыя беларусы, асабліва з заходняй часткі рэспублікі, занялі свае месца ў антысавецкім руху.

## ГІСТАРЫЯГРАФІЧНЫ НАРЫС

Упершыню беларускі антысавецкі рух згадваецца ў 1949—1951 гг., калі выйшла двухтомная праца тагачаснага міністра ўнутраных спраў БССР Лаўрэнція Цанавы (якая, верагодна, была напісана калектывам невядомых нам аўтараў), дзе адпаведным спосабам кляймілася дзейнасць «польска-фашысцкіх і беларуска-фашысцкіх буржуазных нацыяналістаў»[94]. У 1964 г. пабачыла свет заснаваная на багатай базе архіўных крыніц праца В.Раманоўскага, прысвечаная гісторыі беларускіх калабаранцкіх арганізацый, у тым ліку і перыяду іх пасляваеннай антысавецкай дзейнасці[95].

У 1990-я гг. пачалося прыкметнае ажыўленне ў даследаванні гэтай праблемы. З'явіўся шэраг прац, дзе згадвалася пра беларускі рух супраціўлення. Асобую ўвагу трэба звярнуць на творчасць беларускага гісторыка Сяргея Ярша, папулярызатара ідэі «беларускага рэзыстансу». У сваёй кнізе «Вяртанне БНП»[96] аўтар спрабуе аднавіць памяць пра Беларускую незалежніцкую партыю (БНП), якая ва ўмовах падполля была створана высокапастаўленымі функцыянерамі цывільнай адміністрацыі і беларускай інтэлігенцыяй, што засталіся на службе ў акупантаў. Польскі гісторык беларускага паходжання Яўген Мірановіч заўважыў:

> Час ад часу ў разважаннях аўтара пра тагачасныя падзеі губляецца нават нямецкая прысутнасць, застаецца выключна вайна беларускіх патрыётаў з савецкімі акупантамі, а партызанка ў працах некаторых беларускіх гісторыкаў паўстае выключна як беларуская нацыянальная вызваленчая армія[97].

---

[94] Цанава Л.Ф. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Ч. 1. Минск, 1949; Ч. 2. Минск, 1951.

[95] Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. Гэтая праца, нягледзячы на пэўную яе каштоўнасць, была вытрымана ў адпаведным ідэалагічным стылі, згодна з пануючым на той час прынцыпам партыйнасці і адданасці камуністычнай партыі і ўраду.

[96] Ерш С. Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай незалежніцкай партыі. Слонім—Мінск, 1998.

[97] Mironowicz E. Ruch partyzancki na Białorusi w historiografii białoruskiej i polskiej // Historiografia polska, litewska i białoruska po 1989 / pod red. K. Buchowskiego i W. Śleszyńskiego. Białystok, 2003. S. 66.

Паводле Ярша, частка яе ўдзельнікаў пасля адступлення немцаў стварала аддзелы беларускай партызанкі, якія змагаліся з новым акупантам. Усёй сваёй навуковай дзейнасцю аўтар спрабуе давесці, што існаваў шырокі антысавецкі беларускі рух супраціўлення і беларуская антысавецкая партызанка[98]. Беларускі гісторык у эміграцыі Янка Запруднік згадвае пра існаванне «ў Белавежскай пушчы і на Беласточчыне нацыяналістычнага (*беларускага — Я.Ш.*) войска генерала Кастуся Вітушкі, якое змагалася з камуністамі»[99]. Прыводзячы такія звесткі, Я.Запруднік спасылаецца на эміграцыйнага беларускага гісторыка Валаціча[100]. Сяргей Ёрш з'яўляецца таксама суаўтарам даведніка пра антысавецкія рухі на Беларусі ў перыяд 1944—1945 гг.[101] Раздзел (артыкулы), прысвечаны пасляваеннай беларускай партызанцы, выйшаў з-пад яго-нага пяра. Гісторык карыстаўся, у асноўным, друкаванымі крыніцамі, якія выйшлі на эміграцыі — у перыёдыцы альбо ў інтэрв'ю, — і ўвёў у навуковы ўжытак цікавыя звесткі, якія, аднак, немагчыма праверыць*.

Найбольшую цікавасць з пункта гледжання навуковых фактаў уяўляе манаграфія Ігара Валахановіча, прысвечаная антысавецкаму руху на Беларусі ў 1944—1953 гг.[102]. Несумненным плюсам гэтай працы з'яўляецца тое, што яна грунтуецца на багатай базе дакументаў, якія захоўваюцца ў архівах КДБ. Для большасці даследчыкаў архівы КДБ закрытыя, аднак жа Валахановіч — супрацоўнік Цэнтральнага архіва гэтай установы, і таму меў магчымасць працаваць з сакрэтнымі дакументамі. У манаграфіі гісторыка ўводзіцца ў навуковы ўжытак шэраг невядомых дагэтуль фактаў; акрамя таго, аўтар імкнецца

---

[98] Гісторык гаворыць пра існаванне вялікай партызанскай арміі (Армія генерала Вітушкі, аддзелы «Чорнага ката»), якая налічвала 40—45 тыс. чалавек. Часам пры аналізе фактаў аўтар прыходзіць да наступных сцвярджэнняў: «На працягу 1944—1945 гг. МДБ/МУС нанесла сур'ёзны ўдар па польскім падполлі, якое панесла значныя страты. З 1945 г. найважнейшым праціўнікам савецкай улады на Беларусі стала Беларуская Вызвольная Армія, або «Чорны кот»». Гл. Ёрш С. Пасляваенны супраціў бальшавіцкім акупантам на Беларусі // Пагоня. 1995. № 23. С. 16—22; № 24. С. 23—29; № 26. С. 7—13, № 28. С. 21—27. Неаднаразова Ёрш залічваў да беларускіх партызанаў усе антысавецкія аддзелы. Аднак у той час не бракавала таксама звычайных злачынцаў, груп дэзерціраў, а таксама тых, хто хаваўся ў лесе, не маючы ніякіх выразных палітычных мэт. Паводле ацэнак Ярша, беларускае антыкамуністычнае падполле і беларускія партызанскія аддзелы налічвалі дзясяткі тысяч асоб. Нават складваецца ўражанне, што на тэрыторыі Заходняй Беларусі змагалася беларускае падпольнае войска.

[99] Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск, 1996. С. 117—118.

[100] Volacič M. The population of Western Byelorussia and its Resettlement in Poland and in the USSR // Belorussian Review. № 3 (1956). P. 26. Цыт. паводле: Запруднік Я. Беларусь ... С. 115.

[101] Антысавецкія рухі ў Беларусі (1944—1956). Даведнік / пад рэд. А.Дзярновіча. Мінск, 1999. У лютым 2008 г. у Варшаве адбылася прэзентацыя фільма, створанага, у тым ліку, і паводле прац С. Ярша і ўспамінаў, у якім расказваецца аб дзейнасці беларускага антысавецкага падполля на Беларусі (*Гаворка пра дакументальны фільм «Беларускі антысавецкі пасляваенны супраціў 1944—1957» — заўв. перакл.*).

* Дзейнасць С. Ярша праблематычна акрэсліць як навуковую. — *Рэд.*

[102] Валахановіч И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Минск, 2002.

захоўваць максімальную аб'ектыўнасць і не станавіцца ні на чый бок. Гэта вельмі рэдкая з'ява ў працах на тэму пасляваенных антысавецкіх рухаў, большасць з іх былі напісаны заангажаванымі гісторыкамі. Тым не менш, адсутнасць магчымасці праверыць дадзеныя (архівы КДБ па-ранейшаму закрытыя), выкарыстанне толькі пісьмовых крыніц і інфармацыі, якая ўтрымлівалася ў следчых матэрыялах, вымагаюць пэўнай асцярожнасці: вядома, якія метады і сродкі ўжывалі чэкісты, каб атрымаць прызнанне. Зрэшты, сам аўтар гэта добра ўсведамляе, што толькі дадае вартасці ягонай працы.

## АРГАНІЗАЦЫІ, СТВОРАНЫЯ Ў САЮЗЕ З НЕМЦАМІ

Летам 1944 г. разам з немцамі адступалі таксама ўдзельнікі беларускіх дапаможных падраздзяленняў, а таксама шматтысячныя натоўпы бежанцаў, галоўныя дзеячы акупацыйнай адміністрацыі, інтэлігенцыя. Многія ўцякалі ад страху перад магчымымі савецкімі рэпрэсіямі, ніхто не спадзяваўся на літасць і не верыў у велікадушнасць пераможцаў. Абвер сумесна з Беларускай Цэнтральнай Радай (БЦР) стварыў ва Усходняй Прусіі ў горадзе Дальвіц навучальны лагер для разведкі і дыверсійнай працы. Акрамя гэтага, дыверсанты, якія рэкрутаваліся пераважна з беларускіх калабаранцкіх арганізацый і дапаможных аддзелаў, павінны былі праводзіць антысавецкую прапаганду сярод мясцовага насельніцтва. Як вынікае з паказанняў затрыманых спецслужбамі СССР, падрыхтоўкай з беларускага боку кіравалі капітан Рагуля, капітан Родзька і капітан Гелда — прадстаўнікі БЦР. Нямецкі бок прадстаўляў маёр Геруліс. Большасць дыверсантаў (у лагеры налічвалася каля 200 чалавек) складалі беларусы. Упершыню парашутысты былі закінуты на тэрыторыю БССР у верасні 1944 г. у ваколіцах мястэчка Дзятлава Баранавіцкай вобл. Аднак усе чатыры ўдзельнікі групы ў хуткім часе былі арыштаваныя[103]. У лістападзе 1944 г. адбыўся чарговы дэсант, у якім удзельнічалі 27 чалавек. Наркам унутраных спраў Літоўскай ССР Ёнас Барташунас дакладваў:

> В дополнение к ранее переданным донесениям о сбросе вражеского десанта информируем, что группой десанта командует майор Витушко, кроме того в состав группы входят врач, майор Богданович, лейтенанты Куимов, Борисик, Давидчик, санитар Макаревич, сапожник Лабкович, а также две радистки — Черемчагина Тамара и Вера (фамилия не установлена) и 19 рядовых разведчиков и диверсантов. Задержано 10 человек … Сброс десанта произведен в 2 группах, все задержанные относятся ко второй группе[104].

---

[103] Валаханович И. Антисоветское подполье … С. 22.

[104] LYA, f. k-1, ap. 3, b. 31. Данясенне зроблена праз ВЧ (*высокачастотная сувязь — Я.Ш.*) і адрасавалася начальніку Упраўлення па барацьбе з бандытызмам, камісару дзяржаўнай бяспекі 3-га рангу Лявонцьеву. За подпісамі: камісара дзяржаўнай бяспекі Барташунаса, упаўнаважанага НКУС/НКДБ СССР камісара дзяржаўнай бяспекі Ткачэнкі; лістапад 1944 г. Шматкроп'е пастаўлена на месцы прозвішчаў затрыманых і звестак, якія датычацца кіраўніцтва школы, колькасці, заданняў дыверсантаў. Маёр Вітушка, паводле звестак Валахановіча, разам з чатырма дыверсантамі быў затрыманы акаўскай групай «Комара». Пасля перамоваў група Вітушкі ўвайшла ў склад групы «Комара». У студзені 1945 г. Вітушка загінуў у адной з сутычак з савецкімі войскамі. Сяргей Ёрш, абапіраючыся,

Савецкія службы бяспекі эфектыўна знішчалі падпольныя ячэйкі беларускіх арганізацый, частка ўдзельнікаў якіх не выехала ў эвакуацыю разам з немцамі. У снежні 1944 г. Берыя даносіў Сталіну, Молатаву і Малянкову:

> В Барановичской и Молодечненской областях БССР арестовано 60 членов белорусской националистической организации «Беларуская самапомач». Была ликвидирована также фашистская молодежная организация «Саюз беларускай моладзі», по этому делу арестовано 90 человек. В Молодечненской области была ликвидирована антисоветская организация «Беларуская незалежніцкая партыя», основанная немецкой разведкой. Было арестовано 20 членов этой организации, которые должны были заниматься разведывательной и террористическо-разведывательной деятельностью[105].

Толькі ў перыяд з 1 па 5 студзеня 1945 г. органы НКУС затрымалі «50 удзельнікаў беларускіх і іншых антысавецкіх арганізацый»[106]. Наколькі эфектыўнымі былі метады і сродкі барацьбы з беларускімі антысавецкімі арганізацыямі, звязанымі з нямецкай разведкай, сведчыць той факт, што на працягу 1944—1945 гг. амаль усе фармаванні былі выкрыты і ліквідаваны. Асобныя ўдзельнікі былых беларускіх калабаранцкіх арганізацый праводзілі ўзброеную антысавецкую дзейнасць, забіваючы дзеячаў партыйна-савецкага апарату, НКУС/НКДБ і здабываючы сродкі для існавання звычайнымі рабункамі.

У дакументах Упраўлення па барацьбе з бандытызмам НКУС часам сустракаецца паняцце «беларускія банды». У выпадку з «беларускімі бандамі» вызначальным фактарам быў нацыянальны склад групы альбо нацыянальнасць кіраўніка. Найчасцей такія групы характарызаваліся як тыя, што «складаюцца з паліцаяў, здраднікаў і нямецкіх паплечнікаў». У Дзятлаўскім раёне Баранавіцкай вобл. 7 лютага 1945 г. быў арыштаваны кіраўнік «беларускай банды», у якой налічвалася 25 чалавек, былы начальнік паліцыі Янка Герусь. У Слонімскім раёне той самай вобл. 17 лютага 1945 г. затрымалі «беларускую банду», у якую ўваходзілі дзевяць чалавек пад кіраўніцтвам расіяніна маёра Міканора Мяльчуцкага, дэзерціра з Чырвонай Арміі. «Беларуская банда» на чале з беларусам Жэрунем, якая налічвала 12 чалавек, таксама была ліквідавана ў студзені 1945 г. у Столінскім раёне Пінскай вобл. (поўдзень Беларусі)[107]. У астатніх узброеных групах альбо антысавецкіх арганізацыях (незалежна ад іх нацыянальнага складу) на тэрыторыі БССР, паводле сітуа-

галоўным чынам, на ўспаміны, падаўжае жыццё і партызанскую дзейнасць Вітушкі, прынамсі, на некалькі гадоў.

[105] Цыт. паводле: Документы НКВД СССР о польском подполье / под. ред. А.Ф.Носкова. Москва—Новосибирск, 2001. С. 90. Паведамленне Л.П.Берыю, І.В.Сталіну, В.М.Молатаву, Г.В.Малянкову аб барацьбе з антысавецкім падполлем у заходніх абласцях Беларускай ССР, 12.12.1944 г.

[106] Цыт. паводле: Советская повседневность и массовое сознание. 1939—1945 / сост.: А.И.Ливчин, И.В.Орлов. Москва, 2003. С. 387. Паведамленне наркама НКУС БССР Бельчанкі і наркама НКДБ БССР Л.Ф.Цанавы Л.П.Берыю, студзень 1945.

[107] ГАРФ, Ф. 9478, оп. 1с, д.516, л. 14—20. Спіс «ліквідаваных кіраўнікоў антысавецкіх банд і арганізацый у БССР» на 1 красавіка 1945 г.

цыі на 1 красавіка 1945 г., органамі НКУС/НКДБ вылучаліся наступныя катэгорыі супрацоўнікаў: рэзідэнты, агенты-маршрутнікі[108], унутранікі (унутраныя агенты), паведамляльнікі (інфарматары), з іх у Баранавіцкай вобл. было 783, у Брэсцкай — 732, у Полацкай — 997, у Гродзенскай — 810, у Маладзечанскай — 966, у Пінскай — 498[109].

У межах пасляваеннай рэпатрыяцыі з акупаванай краінамі атыгітлераўскай кааліцыі тэрыторыі ў Савецкі Саюз былі вернутыя асобы, звязаныя з беларускім нацыянальным рухам. У Баранавіцкай вобл. у маі 1947 г. органы МДБ БССР выкрылі дзейнасць падпольнай беларускай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ), створанай былым удзельнікам «Саюза беларускай моладзі» (СБМ) Генадзем Казаком. Арганізацыйны камітэт Саюза складаўся з некалькіх аддзелаў, меў упаўнаважаных у Навагрудскім, Дзятлаўскім і Любчанскім раёнах, а таксама ў Баранавічах. Мэтай арганізацыі было стварэнне беларускай нацыянальнай дзяржавы. На мяжы 1950—1951 гг. у Пліскім раёне Полацкай вобл. органы бяспекі БССР ліквідавалі падпольную антысавецкую арганізацыю «Саюз барацьбы супраць камунізму», на чале якой стаяў праваслаўны святар Георгій Бортнік. У час нямецкай акупацыі Бортнік уступіў у беларускія вайсковыя фармаванні і скончыў вайну сяржантам 3-га батальёна дывізіі СС Цырлінга. Абедзве арганізацыі праводзілі антысавецкую агітацыю, апошняя карысталася пры гэтым радыёперадачамі «Голасу Амерыкі»[110].

## РАЗВЕДКА ЗАХОДНІХ ДЗЯРЖАЎ У БССР І БЕЛАРУСКІ РУХ

Беларуская эміграцыя на Захадзе, яе выдавецкая і інстытуцыйная дзейнасць, праграмы, скіраваныя на ўтварэнне «незалежнай беларускай дзяржавы», не ўваходзяць у кола зацікаўленасцей аўтара дадзенага даследавання. Аднак цікавым для яго з'яўляецца пытанне, якім чынам спецслужбы заходніх краін (ЗША і Вялікабрытаніі) выкарыстоўвалі былых удзельнікаў беларускіх калабаранцкіх арганізацый у працы разведкі[111]. Частка беларускай эміграцыі (Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на чале з Міколам Абрамчыкам) планавала, карыстаючыся супрацоўніцтвам з разведслужбамі заходніх краін, рэалізаваць таксама і ўласныя палітычныя мэты. У горадзе Каўфбойрэн, недалёка ад Мюнхена, у амерыканскай школе разведчыкаў рыхтаваліся дыверсанты для працы на тэрыторыі СССР. У верасні 1951 г., пасля трох-

---

[108] Форма супрацоўніцтва маршрутнікаў з «органамі» адрознівалася спосабам выканання абавязкаў. Агент-маршрутнік дзейнічаў на выдзеленым «органам» маршруце альбо трасе, збіраючы інфармацыю разведвальнага кшталту і пры дапамозе тэхнікі і метадаў аператыўнай працы, а таксама выкарыстоўваючы свае знаёмствы і сямейныя сувязі.

[109] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 516.

[110] Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 34—36.

[111] Крыху асвятляе гэтыя падзеі кніга, якая выйшла ў 1982 г. у Нью-Ёрку. Яе аўтар, былы супрацоўнік Дэпартамента юстыцыі ЗША (Спецыяльнае следчае бюро), расказвае пра некаторыя аспекты дзейнасці беларускай эміграцыі на службе амерыканскай разведкі. Гл.: Loftus J. The Belarus Secret. New York, 1982. Гл. таксама: Ёрш С., Горбік С. Беларускі супраціў. Львоў, 2006.

месячнага навучання, з амерыканскага самалёта быў дэсантаваны прадстаўнік Рады БНР Іван (Янка) Філістовіч.

Дыверсант дзейнічаў на тэрыторыі Ільянскага раёна Маладзечанскай вобл., дзе неўзабаве заняўся арганізацыяй падпольнага «Беларускага нацыянальнавызваленчага войска». Але, нягледзячы на гучную назву, Філістовічу ўдалося арганізаваць толькі невялікую групу з удзельнікаў беларускіх дапаможных вайсковых часцей *(далучыўся да ўжо існуючай — Рэд.)*. Эмісар эміграцыі імкнуўся надаць сваёй дзейнасці пэўную ідэалагічную форму, спрабаваў схіліць партызанаў да прысягі на вернасць БНР (але гэтае мерапрыемства сутыкнулася з неразуменнем удзельнікаў групы). Для больш эфектыўнай антысавецкай прапаганды Філістовіч здабыў друкарскую машыну, аднак планы выдання падпольнай газеты «Жыве Беларусь!» так і не былі рэалізаваныя. У верасні 1952 г. органы дзяржбяспекі БССР арыштавалі Філістовіча разам з усёй групай[112].

Падобны лёс напаткаў таксама і чатырох дэсантнікаў, якія ў жніўні 1952 г. прызямліліся ў Налібоцкай пушчы непадалёку ад вёскі Кляцішча. Група павінна была збіраць інфармацыю аб унутранай сітуацыі ў БССР, вербаваць супрацоўнікаў дзяржаўнага апарату, звязаных з пашпартнай сістэмай, а таксама збіраць інфармацыю аб антысавецкіх падпольных арганізацыях у Беларусі. Усе яны былі арыштаваныя на працягу двух тыдняў пасля прызямлення[113].

## БЕЛАРУСКІЯ ПАДПОЛЬНЫЯ АСВЕТНІЦКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

Нямецкая акупацыя ў пэўнай ступені спрычынілася да абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Гэта было звязана, найперш, з нямецкай палітыкай школьнай адукацыі ў Генеральнай акрузе «Беларусь». Большасць беларускіх падпольных арганізацый, дзейнасць якіх была звязана з асветай і агітацыяй, узнікла на тэрыторыі гэтай акругі. Фармаваліся ж яны галоўным чынам з былых слухачоў беларускіх адукацыйных устаноў і моладзевых арганізацый, створаных у перыяд нямецкай акупацыі. Яшчэ ў 1944—1945 навучальным годзе ў Глыбоцкім педагагічным вучылішчы (Полацкая вобл.) у асяроддзі навучэнцаў пачала фармавацца група нязгодных з палітыкай русіфікацыі і дэнацыяналізацыі, якую праводзілі савецкія ўлады. На пачатку 1946 г. ужо склалася ядро нелегальнай арганізацыі «Саюз патрыётаў Беларусі». Першапачаткова яны бралі прыклад з філаматаў і філарэтаў. Антон Фурс, адзін з удзельнікаў падпольнага Саюза, прызнаваўся: «У нас не было нейкіх рэвалюцыйных або контррэвалюцыйных мэтаў, мы не лічылі сябе палітычнай арганізацыяй. Нашыя задачы насілі культурна-асветніцкі характар». Зімою 1946 г. ім удалося звязацца з нелегальнай групай школьнай моладзі з Паставаў «За Беларусь». Вясною таго самага года на спатканні прадстаўнікоў абедзвюх груп быў утвораны «Саюз патрыётаў Беларусі»[114].

---

[112] Валахановіч І. Барацьба вакол ідэі «беларускай нацыянальнай дзяржавы» (другая палова 40-х — пачатак 50-х гадоў) // Беларускі гістарычны часопіс. 1999. № 1. С. 61—62.

[113] Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 44—49.

[114] Patrioci Białorusi / relacje wybrane i przygotowane do druku przez Dorotę Pazio // Karta. № 28. 1999. S. 115—124. Гл. таксама: Гарт. З успамінаў пра «Саюз беларускіх патрыётаў» (Глыбокае, Паставы. 1945—1947) / уклад., літ. апрац. і прадм. Г. Кірылава. Мінск, 1997.

У 1946 г. паўстаюць нелегальныя групы школьнай моладзі ў Слоніме, у педагагічным інстытуце ў Баранавічах, у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, у сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Жыровічах, а таксама ў Ганцавіцкім педагагічным вучылішчы. Гэтыя арганізацыі дзейнічалі пад крыптонімам «Чайка». Каардынаваў дзейнасць груп Цэнтр беларускага вызваленчага руху на чале з Васілём Супруном[115].

Абедзве гэтыя нелегальныя арганізацыі былі выкрыты органамі дзяржбяспекі ў 1947 г. Іх кіраўнікі першапачаткова былі асуджаны на смяротнае пакаранне, якое пазней было заменена шматгадовым пазбаўленнем волі.

Вясной 1948 г. у Мядзеле (Полацкая вобл.) у асяроддзі школьнай моладзі ўзнікла падпольная група на чале з Расціславам Лапіцкім. Неўзабаве пасля пераезду ў Смаргонь ён арганізаваў чарговую падпольную суполку. Галоўнай мэтай арганізацыі была антысавецкая прапаганда сярод мясцовага насельніцтва, не выключаныя былі таксама тэрор і дыверсіі. У снежні 1948 г. на друкарскай машынцы было надрукавана 20 экзэмпляраў антысавецкіх улётак, якія ўдзельнікі групы расклеілі на тэрыторыі Мядзельскага раёна. Праз год яны вырабілі больш за тысячу ўлётак антысавецкага зместу, якія распаўсюдзілі ў Смаргоні і навакольных вёсках. У 1950 г. былі арыштаваныя 17 удзельнікаў падпольных арганізацый Мядзела і Смаргоні. Кіраўнік адной з іх — Лапіцкі — быў забіты ў 1950 г., астатніх асудзілі на шматгадовае пазбаўленне волі[116].

Згаданыя нелегальныя моладзевыя асветніцкія групы ўзнікалі спантанна, без ніякіх уздзеянняў звонку. Большасць удзельнікаў былі камсамольцамі, а адзін з іх — Васіль Мядзелец — нават займаў пасаду сакратара мясцовай камсамольскай ячэйкі. Праўда, у час нямецкай акупацыі многія з іх уваходзілі ў моладзевыя калабаранцкія арганізацыі, аднак гэта не змяняе таго факта, што ўзнікненне груп было праявай нацыянальнай самасвядомасці моладзі, якая сфармавалася насуперак палітыцы дэнацыяналізацыі і дыскрымінацыі.

Зафіксаваны нават адзінкавыя выпадкі антысавецкіх выступленняў у партыйным асяроддзі. У ноч на 6 лістапада 1946 г. у мястэчку Антопаль (Брэсцкая вобл.) былі расклеены тры ўлёткі антысавецкага зместу[117]. Органы МДБ хутка схапілі выканаўцу — члена УКП(б) з 1945 г., кіраўніцу аддзела раённага жаночага камітэта партыі беларуску Клаўдзію Міранюк. Паказальна, што з лістапада 1941 г. яна была сувязной партызанскіх аддзелаў, а з чэрвеня 1943 г. выконвала функцыі сакратара раённага падпольнага камітэта камсамола. Міранюк матывавала свае «контррэвалюцыйныя дзеянні» несупадзеннем поглядаў на «спосабы правядзення партыйнай палітыкі на вёсцы ў сферы паставак збожжа і падаткаў». Больш за тое, як высветлілі следчыя органы, Міранюк, «кантактуючы з варожымі савецкай уладзе элементамі, прыкрывала іх злачынную дзейнасць»[118].

---

[115] Szybieka Z. Historia Białorusi 1795—2000. Lublin, 2002. S. 369—370.

[116] Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 53—54.

[117] ГАРФ, Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 35 об. Журнал уліку праяў бандытызму на тэрыторыі БССР за 1946 г. Упраўленне па барацьбе з бандытызмам НКУС СССР.

[118] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 246—246 адв. Матэрыялы асаблівай папкі, выпіска з пратакола № 4 пасяджэння бюро Брэсцкага абкама КП(б)Б ад 14.11.1946 г. За подпісам сакратара Брэсцкага абкама КП(б)Б В.Чарнышова.

Падводзячы вынікі, неабходна сказаць, што пасляваенны беларускі антысавецкі рух не ўтварыў шматлікіх падпольных структур, падобных да польскага або ўкраінскага падполля, і не меў шырокай грамадскай падтрымкі, аднак жа самім сваім існаваннем даводзіць, што беларусы не былі маўклівай шэрай масай, пазбаўленай нацыянальных амбіцый. Іншая справа, што большасць пасляваенных удзельнікаў гэтага руху была звязана з калабаранцкімі арганізацыямі перыяду акупацыі, што не магло яго не кампраметаваць. Гэтая акалічнасць дасюль кідае цень на тагачасны беларускі нацыянальны рух і была актыўна выкарыстана ў савецкай і сучаснай беларускай прапагандзе.

## I.IV. ПОЛЬСКАЕ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЕ ПАДПОЛЛЕ

Праблема ліквідацыі польскага незалежніцкага падполля на землях, якія да Другой сусветнай вайны належалі Польшчы, а ў час вайны ўвайшлі ў склад БССР, неаднойчы прыцягвала ўвагу польскіх даследчыкаў. Сёння яна дастаткова добра асветлена дзякуючы працам Зыгмунта Барадзіна, Анджэя Хмеляжа, Міхала Гнатоўскага, Кшыштафа Краеўскага, Томаша Лабушэўскага, Генрыка Піскуновіча, Томаша Стшэмбаша і інш.[119]

У 1990-я гг. з'явілася некалькі прац беларускіх гісторыкаў, у тым ліку эміграцыйных, дзе польскае падполле і яго дзейнасць падаюцца ў негатыўным святле, як сведчанне «захопніцкай» палітыкі адносна беларускіх земляў[120]. Польскі гісторык Міхал Гнатоўскі лічыць, што такая ацэнка «вынікае не з вывучэння першакрыніц, а з сістэмы сфармуляваных ацэнак, да якіх падбіраецца адпаведная аргументацыя»[121]. Часта гучаць абвінавачванні ў тым, што польскае падполле супрацоўнічала з немцамі[122]. Апошнім часам выйшла некалькі

---

[119] Гл.: Chmielarz A. Likwidacja podziemia polskiego na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (lipiec 1944 — lipiec 1945) // Z dziejów Armii Krajowej na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1944—1945). Studia. Warszawa, 1997; Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1942—1944) w świetle dokumentów sowieckich / wybór, opr., wstęp Z. Boradyn, A. Chmielarz, H. Piskunowicz. Warszawa, 1997; NKWD o polskim podziemiu 1944—1948. Konspiracja polska na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie / opr. A. Chmielarz, K. Krajewski, T. Łabuszewski, H. Piskunowicz; pod red. nauk. T. Strzembosza. Warszawa, 1997 і інш.

[120] Гл.: Ермолович В., Жумарь С. Огнем и мечом. Хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939—1953 гг.). Минск, 1994; Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі. Мінск, 1994; Весялкоўскі Ю. Што прывяло Армію Краёву на Беларусь. Лондан, 1995.

[121] Gnatowski M. Niepokorna Białostocczyzna. Białystok, 2001. S. 13.

[122] Прыпісваючы некаторым падраздзяленням Арміі Краёвай супрацоўніцтва з немцамі, аўтары — свядома альбо не — памнажаюць схемы і прыёмы савецкай прапаганды. Польскае падполле вельмі часта лічаць «фашысцкім» і залежным ад немцаў, але не звяртаюць пры гэтым увагі на прычыны, якія прывялі да гэтага супрацоўніцтва. Падчас сутычак савецкіх партызанаў з польскімі падраздзяленнямі гінулі не толькі вайскоўцы, савецкія партызаны забівалі таксама і мірных грамадзян, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве з АК. Гл.: Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1942—1944) w świetle dokumentów sowieckich / wybór, opr., wstęp Z. Boradyn, A. Chmielarz, H. Piskunowicz. Warszawa, 1997. Некаторыя падраздзяленні АК, як, напрыклад, у Івянцы, былі вымушаны пайсці на супрацоўніцтва з нямецкім гарнізонам пасля таго, як іх батальён у лістападзе 1943 г.,

прац беларускіх гісторыкаў, заснаваных, галоўным чынам, на недаступных для большасці польскіх даследчыкаў матэрыялах з архіва КДБ/МУС[123]. Аўтар не мае намеру засяроджвацца на сутнасці спрэчак і на асобных аргументах, якія ўжо шматразова апісваліся і ўсебакова аналізаваліся. Яго задачай з'яўляецца разгледзець падзелены на некалькі этапаў працэс ліквідацыі польскага незалежніцкага падполля ў 1944—1952 гг.

Савецкія вайсковыя фармаванні, якія занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі, а таксама аддзелы НКУС/НКДБ успрымалі польскае незалежніцкае падполле як ворагаў. Абмежаванае ваеннае супрацоўніцтва (напрыклад, у Вільні) было неабходным, каб прытупіць пільнасць палякаў і нанесці ім падступны ўдар. Занятыя тэрыторыі савецкая ўлада лічыла неад'емнай часткай СССР, а таму існаванне сілаў, якія прэтэндавалі на вяртанне даваенных межаў, было недапушчальным. Яшчэ ў пачатку 1943 г. савецкая партызанка пачала знішчэнне акаўскіх падраздзяленняў, а таксама змянілася яе стаўленне да польскага насельніцтва. Пасля аперацыі «Бура» і арышту кіраўнічых кадраў савецкія вайсковыя часці разбілі большасць акаўскіх падраздзяленняў, якія знаходзіліся ў ваколіцах Вільні. Частка салдатаў разышлася па дамах, частка перабралася за лінію Керзона, іншыя працягнулі барацьбу. Значная частка перайшла ў склад Чырвонай Арміі або Народнага войска польскага, у тым ліку ў 2-ю армію пад камандаваннем Берлінга.

З паведамленняў НКУС ЛітССР вынікае, што з другой паловы ліпеня 1944 г. з Вільні ў ваколіцы Ашмянаў (Маладзечанская вобл.) наплывала польская моладзь, якая папаўняла акаўскія фармаванні. У сярэдзіне жніўня 1944 г.

выконваючы загад савецкай улады, падступна раззброілі ў Налібоцкай пушчы савецкія партызаны. Большасць афіцэраў была расстраляна, частка салдат перайшла ў партызаны. Рэшта вымушана была супрацоўнічаць з нямецкім гарнізонам, каб выжыць і папярэдзіць гвалт над палякамі з боку савецкіх партызанаў. Гл.: Strzembosz T. Rzeczpospolita podziemna. Społeczeństwo polskie a państwo podziemne 1939—1945. Warszawa, 2000. S. 271—272. Яшчэ адзін атрад АК пад кіраўніцтвам «Кміціца» таксама быў падступна раззброены савецкімі партызанамі брыгады Маркава ў лістападзе 1943 г. каля возера Нарач. Па загадзе Панамарэнкі былі забітыя камандзір атрада, афіцэр разведкі Міхал Клеўда, рэдактар газеты «Żołnierska Dekada» Зыгмунт Баркоўскі і інш. — усяго 30 чалавек. Камандзір спецыяльнага падраздзялення НКУС № 98 «Друзья» маёр бяспекі Ёнас Вільджунас («Бэр») дакладваў, што прычынай раззбраення была «антысавецкая прапаганда» польскага атрада, «складанне спісу актывістаў, якія супрацоўнічалі з савецкай уладай» і тое, што большасць удзельнікаў польскага атрада з'яўлялася былымі «паліцаямі, удзельнікамі падпольных ваенных арганізацый, якія ўдзельнічалі ў вынішчэнні нашых людзей»: LYA, f. k-1, ap. 3, b. 7. l. S. 6—8. Справаздача камандзіра спецыяльнага падраздзялення НКУС маёра Вільджунаса, без даты, не пазней за верасень 1943 г.

[123] Гл.: Рыбак Н. Метады і сродкі ліквідацыі акаўскіх і постакаўскіх фарміраванняў у заходніх абласцях Беларусі // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 14. 2000. С. 168—181; Валаханович И.А. Подполье Армии Краёвой на территории Беларуси в 1944—1953 гг.: организационная структура и основные этапы деятельности // Гістарычная навука ў БДУ на рубяжы тысячагоддзяў. Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 65-годдзю гістарычнага факультэта БДУ, 26 лістапада 1999 г. Мінск, 1999. С. 276—277; Ситкевич С., Барабаш В., Рыбак Н. Польское подполье на территории западных областей Беларуси. 1939—1954 гг. Гродно, 2004.

у раёне Ашмянаў быў разбіты вялікі атрад «белапалякаў», у якім налічвалася некалькі тысяч чалавек:

> Часть разоруженных была интернирована, другая часть влилась в армию Берлинга, остальным удалось скрыться и рассеяться по лесам, куда устремляется местное население. В результате в некоторых районах оперируют банды, насчитывающие сотни человек. Белополяки ведут агитацию среди населения, утверждая, что Красная Армия разоружает польских партизан и что вскоре начнется мобилизация местного населения и отправка вглубь России, и что Англия задержала наступление на Париж, чтобы подписать мир с немцами и вместе двинуться против СССР[124].

Насуперак загаду навагрудска-віленскага камандзіра падпалкоўніка Юліяна Кулікоўскага-«Рынграфа» ад 5 верасня 1944 г., паводле якога павінны былі быць распушчаны ўсе падраздзяленні на падуладных яму тэрыторыях, выканаць гэта было немагчыма[125], бо з-за пачатку набору ў Чырвоную Армію пачаліся масавыя ўцёкі ў лес мужчын прызыўнога ўзросту.

## ЧЭКІСЦКА-ВАЕННЫЯ АПЕРАЦЫІ

Для барацьбы з польскім, беларускім, літоўскім і ўкраінскім падполлем мясцовыя органы НКУС/НКДБ былі ўзмоцнены спецыяльнымі камандамі дасведчаных аператыўных работнікаў з Масквы і іншых раёнаў СССР. Так, на тэрыторыю Заходняй Беларусі ў ліпені—жніўні 1944 г. было выслана 311 супрацоўнікаў. Для большай эфектыўнасці Заходняя Беларусь была падзелена на сектары: Полацкі, Маладзечанскі, Гродзенскі, Баранавіцкі і Пінскі. Асноўнымі сіламі для барацьбы з падполлем былі ўнутраныя войскі НКУС Беларускай акругі. Акрамя таго, часова дзейнічалі 14-я і 58-я дывізіі ўнутраных войскаў НКУС, атрады, якія выдавалі сябе за антысавецкіх партызанаў, а таксама знішчальныя батальёны, у склад якіх уваходзілі партыйныя актывісты, былыя савецкія партызаны і мясцовыя жыхары[126].

У склад Заходняй Беларусі ўваходзілі землі былых Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў, на якіх актыўна дзейнічалі акаўскія падраздзяленні. У Навагрудскую акругу ўваходзілі групоўкі «Поўнач», «Поўдзень», «Усход» і «Захад», а таксама абвод і інспектарат «Баранавічы». НКУС/НКДБ БССР ужо ў жніўні распачаў дзейнасць па ліквідацыі польскага незалежніцкага падполля. Былі распрацаваны адпаведныя планы, за выкананнем якіх сачылі камісар дзяржаўнай бяспекі 2-га рангу Іван Сяроў, народны камісар унутраных спраў БССР Бельчанка і народны камісар дзяржаўнай бяспекі Лаўрэнцій

---

[124] LYA, f. 1771, ap. 7, b. 91, l. 60—61. Паведамленне НКУС у ЦК КП(б) Літвы. Без подпісу, без даты, не пазней за 1 кастрычніка 1944 г.

[125] Wnuk R. Polska konspiracja antysowiecka na Kresach Wschodnich II RP w latach 1939—1941 i 1944—1952 // Tygiel narodów. Stosunki społeczne i etniczne na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczpospolitej 1939—1953 / pod red. K. Jasiewicza. Warszawa, 2002. S. 232.

[126] Piskunowicz H. Zwalczanie przez NKWD i NKGB polskiego podziemia na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej // Wojna domowa czy nowa okupacja? Polska po roku 1944 / pod red. nauk. A. Ajnenkiela. Warszawa, 2001. S. 69.

Цанава[127]. Масавым чэкісцка-ваенным аперацыям папярэднічалі разведка на тэрыторыі і пранікненні ў падпольныя арганізацыі савецкіх агентаў.

Згодна з распрацаваным планам, з 8 верасня 1944 г. у Баранавіцкай і Вілейскай абласцях павінна была пачацца аперацыя, падзеленая на тры этапы. Галоўныя мэты — ліквідацыя акаўскіх фармаванняў і арышт прызыўнікоў у савецкае войска, якія хаваліся ў лясах. Раён правядзення аперацыі быў падзелены на тры сектары: Лідскі (8 раёнаў), Налібоцкі (6 раёнаў) і Паўночны (раёны Вілейскай вобл., якія межавалі з Баранавіцкай вобл.). У ходзе выканання аперацыі на тэрыторыях Баранавіцкай і Вілейскай (Маладзечанскай) абласцей было ліквідавана 54 узброеныя групы, забіта 89 і ўзята ў палон 419 чалавек. Пасля прачэсвання лесу было затрымана 20 774 чалавекі і 50 забіта[128].

У кастрычніку і лістападзе 1944 г. былі праведзены чатыры масавыя чэкісцка-ваенныя аперацыі, мэтай якіх было знішчыць паўночнае, паўднёвае і ўсходняе злучэнні АК. Падобныя аперацыі праводзіліся таксама на тэрыторыях Гродзенскай, Маладзечанскай і Полацкай абласцей. Берыя ў сваёй справаздачы да Сталіна ад 2 лістапада 1944 г. пісаў, што «на тэрыторыі Баранавіцкай, Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей арыштавана і рэпрэсавана 1526 удзельнікаў белапольскіх банд, 400 бандытаў было забіта ў ходзе баёў». Акрамя таго, Берыя прасіў дазволу выслаць у Польшчу 600 сем'яў «бандытаў-паўстанцаў», рэпрэсаваных органамі НКУС[129]. Берыя паведаміў Молатаву, тагачаснаму камісару замежных спраў, аб падрыхтоўцы да перасялення. Народны камісар замежных спраў павінен быў праінфармаваць ПКНВ у Любліне пра гэтую акцыю такім чынам, каб мясцовыя польскія ўлады падрыхтаваліся да прыёму сем'яў[130].

Да агульных страт «бандытаў» залічвалі таксама і мірных жыхароў, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве з падполлем, а таксама тых, хто хаваўся ад войска. Усіх затрыманых дапытвалі, каб высветліць іх сувязі з падполлем, атрымаць невядомыя звесткі і схіліць да супрацоўніцтва.

У сваёй барацьбе з падполлем НКУС выкарыстоўваў шырокі спектр сродкаў: ад масавых чэкісцка-ваенных аперацый, агентурнай працы і правакацый да запалохвання, у тым ліку праз забойствы. У ходзе барацьбы, пасля ліквідацыі рэштак паўднёвага злучэння АК, на тэрыторыю Баранавіцкай вобл. было скіравана падраздзяленне НКУС са 120 чалавек, якое выдавала сябе за партызанаў. У выніку яно разбіла два лясныя атрады, забіўшы 34 чалавекі і затрымаўшы 111. Падобныя метады выкарыстоўваліся пры ліквідацыі груп АК у Навагрудскім раёне: атрад НКУС, сфармаваны з тых, хто ведаў польскую мову, выдаваў сябе за атрад АК з Лідскага раёна. Адначасова з ваеннымі акцыямі органы НКУС праводзілі разведку і фільтрацыю падполля.

---

[127] Chmielarz A. Likwidacja podziemia ... S. 184.

[128] Рыбак Н. Метады і сродкі ... С. 169.

[129] Цыт. паводле: Документы НКУС СССР ... С. 66. Паведамленне Берыі Сталіну аб выкананых акцыях супраць польскага падполля ў Баранавіцкай, Гродзенскай і Маладзечанскай абласцях, ад 2.11.1944.

[130] ГАРФ, Ф. 9401, оп. 2, д. 70, л. 55. Сакратарыят МУС СССР. Перапіска Берыі з Молатавым ад 22.11.1944.

Фільтрацыя праводзілася пры дапамозе розных сродкаў — адным з найбольш распаўсюджаных быў арышт людзей, якія мелі дачыненне да падполля, на падставе кампраметуючых матэрыялаў.

У Свіслацкім раённым аддзеле НКУС (Гродзенская вобл.) на працягу трох апошніх месяцаў 1944 г. на падставе кампраметуючых матэрыялаў было завербавана 30 чалавек. Эфектыўнасць такога спосабу барацьбы была відавочнай, бо неаднаразова агенты, якія пранікалі ў акаўскія аддзелы, мелі дачыненне да іх наступнай ліквідацыі. Найбольш значных і эфектыўных агентаў шчодра ўзнагароджвалі грашыма альбо дэфіцытнымі прамысловымі таварамі. У студзені 1945 г. Сапоцкінскі РА НКУС на ўзнагароджанне агентам меў 7 кг цукру, 300 г гарбаты, 17 кавалкаў мыла і г.д. Агенты і інфарматары павінны былі напісаць распіску пра тое, што атрымалі ўзнагароджанне[131].

Інфарматараў знаходзілі, выкарыстоўваючы розныя метады. У лютым 1946 г. кіраўнік Зэльвенскага раённага аддзела МДБ капітан Жараў, выпіўшы вялікую колькасць алкаголю, выклікаў на допыт падазраванага ў супрацоўніцтве з АК Антона С. Здзекуючыся з затрыманага, капітан біў яго дубовай лінейкай, цягаючы па падлозе за валасы і геніталіі. Збіты мужчына на паўтары гадзіны страціў прытомнасць і на наступны дзень, баючыся працягу катаванняў, згадзіўся стаць інфарматарам МДБ[132].

## СТАЎЛЕННЕ МЯСЦОВАГА НАСЕЛЬНІЦТВА ДА ПОЛЬСКАГА ПАДПОЛЛЯ

Нягледзячы на тэрор супраць палякаў і беларусаў, пацыфікацыю, аблавы, затрыманні падазраваных, насельніцтва — непасрэдна альбо ўскосна — падтрымлівала польскае падполле. 1-ы сакратар раённага камітэта КП(б)Б у Юрацішках (Маладзечанская вобл.) у лісце Сталіну пісаў, што «борьба с бандитами очень сложная, но результатов дает мало, потому что они имеют большую поддержку среди населения (...). В большинстве своем бандиты из местного населения. Есть семьи, где по два и даже три мужчины находятся в банде, а семьи все живут преспокойно». Пераадолець гэтую сітуацыю, паводле 1-га сакратара, дасланага на працу ў Заходнюю Беларусь з Яраслаўскай вобл. РСФСР, можна было наступным чынам: «Все эти семьи необходимо выселить из района, конфисковать их имущество, а самих бандитов, которых ловят, хотя бы и без оружия, беспощадно расстреливать или высылать на самые тяжелые работы (...). Что же его миловать, какую он пользу может принести обществу, если он (...) мечтает о панской Польше до Смоленска»[133].

У Радашковіцкім раёне Маладзечанскай вобл. мясцовыя ўлады налічылі 100 сем'яў, якія падтрымлівалі польскае падполле. Партыйныя дзеячы з апарату ЦК КП(б)Б былі занепакоены тым, што ў некаторых населеных пунктах дзеячы АК займалі пасады ў дзяржапараце на ніжэйшым узроўні:

---

[131] Н.Рыбак. Метады і сродкі ... С. 174—175.

[132] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 83, арк. 35—36. Рапарт начальніку Гродзенскага абласнога аддзела МДБ палкоўніку Палітыку ад 24.07.1946 г., за подпісам лейтэнанта Сцяпанава.

[133] Цыт. паводле: Аграрные преобразования в Молодечненской ... С. 83—84. Ліст 1-га сакратара Юрацішкаўскага райкама Кузняцова да Сталіна аб сітуацыі ў раёне, ад 03.09.1945 г.

«С сентября 1945 по октябрь председатель Нетечского сельсовета Буйницкий — участник польской националистической банды. Председатель Аполенского с/с Букатко в 1946 — главарь белопольской банды, нынешний секретарь Романовский имеет тесную связь с АК»[134].

За год да гэтага, 3 сакавіка 1945 г., згаданы Букатка таямніча загінуў пры нападзе ўзброенай групы з дзесяці чалавек. У той час быў спалены таксама і будынак сельсавета разам з усімі дакументамі[135]. У 1947 г., пасля смерці камандзіра аднаго з польскіх атрадаў Дурыса (вядомы таксама пад псеўданімамі «Пярун», «Боцян»), атрад узначаліў Ян Букатка («Леў»). Праз год гэты атрад быў акружаны і ў выніку сутычкі з атрадам МУС «Леў» загінуў. У той час было арыштавана 18 чалавек, падазраваных у супрацоўніцтве з партызанамі, у тым ліку і пяць дэпутатаў Аполенскага і Запольскага сельсаветаў Лідскага раёна, якія забяспечвалі аддзел правізіяй[136].

Насельніцтва адкрыта супраціўлялася палітыцы савецкай улады, нават калі гэтае супраціўленне заключалася толькі ў выказваннях. Частка насельніцтва, асабліва палякі, не хавала свайго стаўлення да новай улады і сімпатый да польскай дзяржавы. Жыхарка вёскі Урбанава Мёрскага раёна Полацкай вобл. Ганна Хач казала: «Никуда я не хочу выезжать, перестаньте нас (*палякаў — Я.Ш.*) компрометировать, называя белорусами, мы не хотим ими быть, потому что белорусского государства никогда не было. Здесь была и должна остаться Польша»[137].

Падчас перасяленчай кампаніі многія палякі запісваліся на выезд толькі для таго, каб засведчыць свае патрыятычныя пачуцці. Марыя Блажэвіч з вёскі Канахі Мёрскага раёна наступным чынам адказала на пытанне прадстаўніка ЦК КП(б)Б, навошта яна запісалася на выезд:

> Никуда я не собираюсь, заявление подала только для того, чтобы вы знали, что я кровная полька и хочу жить с довоенным польским правительством.

Аналагічным чынам выказалася таксама жыхарка Мёраў, «былая гаспадыня цырульні»[138].

Акцыі польскага падполля па ліквідацыі найбольш заўзятых савецкіх актывістаў часта сустракалі адабрэнне мясцовага насельніцтва. У вёсцы Задвор'е Турнянскага сельсавета на вестку пра забойства савецкага актывіста мясцовае польскае насельніцтва нібыта адрэагавала прыказкай «сабаку

---

[134] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 19. Паведамленне аб працы Лідскага райкама тав. Ігнацьеву ў ЦК КП(б)Б за красавік—лістапад 1947 г., за подпісамі арганізатара арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦК КП(б)Б Крукава, інструктара кадравага ўпраўлення ЦК КП(б)Б Фёдарава.

[135] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с., д. 594, л. 10. Журнал уліку бандыцкіх праяў на тэрыторыі БССР у 1946 г. Упраўленне па барацьбе з бандытызмам НКУС СССР.

[136] Ситкевич С., Барабаш В., Рыбак Н. Польское подполье ... С. 336.

[137] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 50—57. Паведамленне аб стане ўліку грамадзян польскай нацыянальнасці Полацкай вобл., якія жадаюць выехаць у Польшчу, без даты, не раней за жнівень 1945 г.

[138] Тамсама.

сабачая смерць»[139]. У раёне дзеянняў часцей АК насельніцтва байкатавала савецкія распараджэнні аб мабілізацыі і планы дзяржпаставак. У Свірскім раёне Маладзечанскай вобл. у сувязі з актыўнай дзейнасцю польскага падполля ў верасні 1944 г. былі цалкам сарваныя планы пастаўкі збожжа. Падобнай была сітуацыя і ў суседнім Астравецкім раёне. Савецкіх партыйных актывістаў высылалі ў асобныя населеныя пункты групамі па 5—6 чалавек, каб выправіць становішча. Кіраўнік групы ЦК УКП(б) па пастаўках збожжа Малеханкоў пісаў у сваёй справаздачы:

> В течение 20—25 дней в Свирском районе бандитами убито 16 человек — коммунистов и комсомольцев. (...) В Свирском, Островецком, Ошмянском и Сморгонском районах деятельность советских органов на местах в большинстве своем парализована. (...) Подобное положение, если не принять немедленно должных мер, может привести к колебаниям крестьянства в польско-католических районах[140].

У многіх населеных пунктах акаўскім фармаванням удалося захапіць кантроль над сітуацыяй. У Іўеўскім раёне (Маладзечанская вобл.) у жніўні 1944 г. «белабандыты» кантралявалі тэрыторыю 8 сельсаветаў, забіўшы двух старшыняў і двух сакратароў. У Лідскім раёне на 8 верасня 1944 г. дзяржпастаўкі былі выкананы на 6%, у Шчучынскім — на 7%, у Жалудоцкім — на 13%. Праз няпоўныя тры месяцы, 1 снежня 1944 г., паказчыкі змяніліся: Лідскі і Жалудоцкі раёны — 112%, Шчучынскі — 105,5%. У Вёсцы Кемелішкі Свірскага раёна ў выніку атакі польскага атрада 19 жніўня 1944 г. былі спалены ўсе дакументы ў сельсавеце і вызвалены з-пад арышту некалькі «арганізатараў і кіраўнікоў бандыцкіх груп». Старшыня сельсавета разам з некалькімі функцыянерамі НКУС «былі акружаны і, працягваючы барацьбу, адступілі»[141].

Са спасылкай на афіцыйныя дадзеныя беларускі гісторык Наталля Рыбак піша, што ў Заходняй Беларусі 70% населеных пунктаў з перавагай польскага насельніцтва характарызаваліся негатыўным стаўленнем да савецкай улады і знаходзіліся пад уплывам польскіх падпольных арганізацый. У данясенні Жалудоцкага раённага камітэта КП(б)Б у ЦК КП(б)Б ад 25 верасня 1944 г. між іншым згадваецца: «75—80% палякаў настроены супраць палітыкі савецкай улады»[142]. Крыху раней, у ліпені 1944 г., Берыя ў сваім лісце да Сталіна, Малатава і Малянкова сцвярджаў: «Значная колькасць палякаў негатыўна і варожа паставілася да ўсталявання савецкай улады ў Баранавіцкай вобл. Маюць

---

[139] НАРБ. Ф. 14, воп. 29, спр. 812а, арк. 7. Паведамленне аб палітычнай сітуацыі ў заходніх абласцях БССР, без подпісу, не пазней за 02.11.1944 г.

[140] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 75—76. Паведамленне аб палітычнай сітуацыі ў Смаргонскім, Ашмянскім, Астравецкім і Свірскім раёнах ад 22.09.1944 г. Гл. таксама: Аграрные преобразования ... С. 33—37.

[141] Chmielarz A. Likwidacja podziemia ... S. 182; Цыт. паводле: Аграрные преобразования ... С. 29. Запіска 1-му сакратару ЦК КП(б)Б Панамарэнку аб нападзе банды на Кемелішкаўскі сельсавет, ад 02.09.1944 г.

[142] Рыбак Н.А. К вопросу ... С. 222.

месца праявы варожасці палякаў да арміі Берлінга і ПКВН»[143]. У ходзе паставак дзяржаве ў Ваўкавыскім раёне (Гродзенская вобл.) намеснік пракурора БССР Барысаў адзначаў:

> Хуже всего с заготовками в местностях с польским населением. Так, в Бискупицком с/с план обязательных заготовок выполнен на 62%. В деревне Вотковиче (*Войтковичи — Рэд.*) гражданка Михалевич заявила уполномоченному района тов. Касперовичу: «Где вы были, когда в Варшаве было восстание? Вы не оказали помощи полякам, а сейчас требуете хлеб для Красной Армии». Польское население не посылает детей в школы, требуя польскую или русскую. В домах поляков можно найти картины, снимки пилсудчико-фашистского направления[144].

Падчас нацыянальных святаў палякі, дэманструючы сваю адданасць дзяржаве, грамадзянамі якой сябе лічылі, вывешвалі нацыянальныя сімвалы. 11 лістапада 1944 г. у некалькіх вёсках Камянецкага раёна (Брэсцкая вобл.) патрыятычна настроеныя палякі («польскія нацыяналісты») вывесілі два польскія сцягі з надпісам «Niech żyje Polska!» (вёска Пелішча). У вёсцы Багдзюкі таго самага раёна «некаторыя польскія нацыяналістычныя сем'і вывесілі польскія нацыяналістычныя сцягі з надпісам "Niech żyje Polska!"»[145]. 3 мая 1945 г. у вёсцы Друя Мёрскага раёна (Полацкая вобл.) «непадалёку ад ваеннага гарадка інвалід Вялікай Айчыннай вайны Іосіф Шэйнар знайшоў польскі нацыянальны сцяжок памерам 10х15 см»[146].

У савецкіх дакументах часта бандытамі называюцца розныя катэгорыі грамадзян, часам нават без падзелу на «белабандытаў», «белапалякаў», «банды УПА», «бульбаўцаў», «беларускіх фашыстаў» і г.д. Гэты момант часта ставілі ў папрок тагачаснаму Упраўленню па барацьбе з бандытызмам НКУС БССР. У яго справаздачах «не хапала падрабязных звестак аб заходніх і ўсходніх абласцях БССР, аб ступені актыўнасці польскіх, украінскіх і беларускіх падраздзяленняў»[147].

Трэба, аднак, памятаць, што, акрамя арганізаванага польскага, украінскага, беларускага і літоўскага антысавецкага падполля, якія дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі і мелі пэўныя палітычныя мэты (часцей за ўсё — стварэнне незалежнай нацыянальнай дзяржавы), існавалі таксама бадзяжныя групы дэзерціраў з Чырвонай Арміі і звычайных злачынцаў, якія займаліся разбоем. У час вайны бандытызм разросся да неверагодных памераў. У да-

---

[143] Вялікі А. На раздарожжы. Беларусы і палякі ... С. 89.

[144] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 101. Паведамленне аб рэалізацыі дзяржпаставак у Ваўкавыскім раёне, не пазней за 22.11.1944 г.

[145] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 8. Паведамленне аб дзейнасці бандыцкіх груп на тэрыторыі Брэсцкай вобл. Складзена на падставе паведамленняў з раёнаў, ад 01.12.1944 г.

[146] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 50. Паведамленне аб стане ўліку грамадзян польскай нацыянальнасці, якія жадаюць эвакуавацца з Мёрскага раёна Полацкай вобл. у Польшчу, без даты, не раней за жнівень 1945 г.

[147] ГАРФ. Ф. 9478, оп.1, д. 516, л. 111. Справаздача аб выніках барацьбы з антысавецкім падполлем і бандамі ў БССР у перыяд за чэрвень—снежань 1944 г. і студзень—сакавік 1945 г. Ад 05.04.1945 г., за подпісам начальніка 3-га аддзела Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з бандытызмам НКУС СССР маёра Галаўлёва.

кументах НКУС выразна заўважны падзел на «контррэвалюцыйныя банды» і «банды, якія займаюцца рабункамі». Апошніх за 1944—1947 гг. было ліквідавана 699, пры гэтым быў забіты 21 удзельнік, арыштавана — 648. Акрамя таго, адпаведныя органы схапілі 242 крымінальнікаў («преступный элемент»), забілі — 3, арыштавалі 196 чалавек[148].

Жыхары ўсходняй часткі Беларусі і Смаленскай вобл. (у значнай ступені вынішчанай у выніку ваенных дзеянняў) у пошуках кавалка хлеба перасяляліся ў заходнія вобласці. Некаторыя з такіх перасяленцаў аб'ядноўваліся ў групы па 5—8 чалавек і рабавалі мясцовае насельніцтва[149]. Аднак сярод рабаўнікоў было шмат і мясцовых. Тым не менш, цяжка ўявіць сабе сітуацыю, калі звычайны рабаўнік ці бандыт пілуе тэлеграфныя слупы, каб перарваць сувязь (19 лістапада 1944 г. было спілавана 15 слупоў за 14 км ад Брэста), паліць у сельсаветах дакументы аб падатковай запазычанасці сялян (Кемелішкі, Свірскі раён, 19 жніўня 1944 г.) альбо друкуе на ўласнай друкарцы звароты «антысавецкага зместу» (Лідскі раён, аддзел Барысевіча, «Крыся», восень 1944 г.). Данясенні партыйных органаў у ЦК былі перапоўнены паведамленнямі аб забойствах членаў партыйнага актыву. Найбольш небяспечнымі з-за тэрарыстычнай дзейнасці лічыліся наступныя раёны: Воранаўскі, Радунскі, Васілішкаўскі, Шчучынскі, Жалудоцкі, Іўеўскі, Юрацішкаўскі, Лідскі. Тэрор быў скіраваны, найперш, супраць найбольш заўзятых актывістаў і мясцовага насельніцтва, якое падтрымлівала новую ўладу, дзеячаў дзяржаўнага апарату (савецкага і партыйнага), функцыянераў НКУС/НКДБ і вайскоўцаў[150].

Нягледзячы на некалькі праведзеных чэкісцка-ваенных аперацый, агентурную працу, рэпрэсіі і арышты, органам НКУС/НКДБ не ўдалося на працягу восені 1944 г. разбіць польскае падполле. Акцыі савецкіх памежных войск і атрадаў НКУС, якія выдавалі сябе за антысавецкіх партызанаў, на пачатку 1945 г. прывялі да знішчэння часткі падраздзяленняў паўночнага злучэння АК, якія дзейнічалі ў памежных раёнах БССР і ЛітССР[151]. На працягу 1945 г.

---

[148] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 764, л. 8. Справаздача аб ліквідацыі антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый, звязаных з імі банд, удзельнікаў арганізацый, бандытаў, паплечнікаў, тых, хто хавае бандытаў, а таксама іншых антысавецкіх элементаў на тэрыторыі заходніх абласцей БССР. Без даты, не пазней за студзень 1947 г., Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з бандытызмам МУС СССР.

[149] Белозорович В.А. Западно-белорусская деревня в 1939—1953 гг. Гродно, 2004. С. 82.

[150] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 3, 8. У Лідскім раёне за перыяд з ліпеня па 22 лістапада 1944 г. «белапалякі забілі да 45 чалавек партыйнага і савецкага актыву, а таксама звязаных з імі людзей». У Воранаўскім раёне зафіксаваны напады на вайсковыя часці, у час аднаго з іх «былі забіты два чырвонаармейцы». У Сапоцкінскім раёне (Гродзенская вобл.) у вёсцы Вулька і Баля Сольная былі забіты дэпутаты (*хутчэй за ўсё, мясцовых саветаў — Я.Ш.* ), у вёсцы Галавенчыцы «бандыты» павесілі двух мясцовых сялян. Да дрэва яны прымацавалі таблічку «Гэта — падзяка за вашу бальшавіцкую працу». Цыт. паводле: Белозорович В.А. Западнобелорусская ... С. 80.

[151] На пачатку 1945 г. быў забіты камандзір Паўночнага злучэння паручнік Барысевіч. У лютым 1945 г. зноў былі разбіты некалькі падраздзяленняў, атрад «Комара» — пад паручніка Чэслава Станкевіча — трапіў у засаду, куды яго завабіў спецыяльны атрад НКДБ, які выдаваў сябе за ўласаўцаў. Частка беларускіх гісторыкаў глядзіць на дзей-

унутраныя войскі НКУС Беларускай акругі правялі шэраг малых і вялікіх чэкісцка-ваенных аперацый, аблаў, засад, прачасалі тысячы вёсак і хутароў. У лютым 1945 г. было праведзена 189 аперацый, у тым ліку ў Баранавіцкай вобл. — 49, у Гродзенскай — 18, у Брэсцкай — 2, у Пінскай — 43, у Маладзечанскай — 6, у Полацкай — 10. У ходзе іх правядзення было забіта 248 «бандытаў», затрымана — 587 чалавек[152].

Найбольшая колькасць аперацый прыпала на кастрычнік—снежань. У час іх правядзення было затрымана 106 814 чалавек польскай і беларускай нацыянальнасці, у тым ліку 34 922 — без дакументаў, 31 701 былі абвінавачаны ў парушэнні законнасці і парадку, і 26 063 — ва ўхіленні ад службы ў Чырвонай Арміі[153]. Як падаюць крыніцы польскага МЗС, «згодна з прыблізнымі падлікамі» ў другой палове 1944 г. — першай палове 1945 г. «у выніку надзвычайнага становішча, якое склалася ў месцах правядзення ваенных аперацый, з тэрыторыі «заходніх рэспублік» СССР (*Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна — Я.Ш.*) было вывезена каля 15 тыс. чалавек». Гэтых людзей трымалі ў лагерах для інтэрнаваных у глыбіні СССР. Акрамя таго, існавала група з 5 тыс. чалавек, асуджаных за прыналежнасць да АК, якія паходзілі таксама, галоўным чынам, «з заходніх рэспублік»[154]. Польскае МЗС рабіла спробы дамовіцца пра вызваленне гэтых людзей і забеспячэнне ім выезду ў Польшчу. Пасол Польшчы ў Маскве, Раабэ, паведамляў у Варшаву:

насць АК праз прызму ацэнак, якія выкарытоўваліся ў савецкай гістарыяграфіі. Яны некрытычна выкарыстоўваюць тэрміны, запазычаныя з савецкіх дакументаў, не заўсёды ўдакладняюць дадзеныя з некаторых крыніц. Напрыклад, атрад «Комара» ў часопісе, які выдаецца пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, быў ахарактарызаваны цалкам негатыўна, як атрад, «што займаўся, галоўным чынам, тэрарызмам, запалохваннем савецкіх актывістаў». Пры гэтым зусім не згадваюцца прычыны, якія прывялі да падобных дзеянняў. Цыт. паводле: Соловьев А. Еще раз о послевоенном бандитизме в Белоруссии // Беларуская думка. 1997. № 1. С. 147. Атрад маёра НКДБ Віктарава, які дыслакаваўся пад Ашмянамі і дзейнічаў пад выглядам уласаўцаў, ліквідаваў атрады «Тура» Віктара Туронка і «Орліча» Уладыслава Кітоўскага. Іншая група НКДБ, якая дзейнічала пад маскай «зялёных партызанаў», у Лідскім, Радунскім і Васілішкаўскім раёнах у сакавіку 1945 г. забіла 36 членаў атрада Верамовіча («Куна») і 24 чалавек запасу. (Цыт. паводле: Skrobocki E. Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie w latach 1944—1953 // Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi. Grodno, 2004. S. 362—363); LYA, f. k-1, ap. 3, l. 31; b. 31, 1.269. Спецыяльнае паведамленне начальніку Галоўнага ўпраўлення НКУС СССР па барацьбе з бандытызмам «Аб ліквідацыі белапольскай банды Эдзіка» ад 15.06.1945 г., за подпісам палкоўніка бяспекі Гусева. 2 чэрвеня 1945 г. каля населенага пункта Навасады (Астравецкі раён Маладзечанскай вобл.) спецгрупа НКУС Астравецкага гарнізона разбіла атрад «Эдзіка» Станіслава Шашунскага; забіты 31 партызан, пяцёра спалілі сябе. Частка атрада ацалела і схавалася. У час аперацыі загінула двое жыхароў Навасадаў, быў паранены лейтэнант НКУС.

[152] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 416, л. 16. Статыстычныя дадзеныя Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з бандытызмам БССР за перыяд з лютага 1945 г., ад 12 сакавіка 1945 г., за подпісам палкоўніка Пятрова.

[153] Piskunowicz H. Zwalczanie przez NKWD i NKGB ... S. 82—84.

[154] Archiwum MSZ Polski, Zespół depesz, teczka 37, k. 49. Шыфраграма № 7647, высланая з Масквы 15.XI.1946 г. Вольпэ.

Савецкі бок заняў у гэтай справе вельмі прынцыповую пазіцыю, складваецца ўражанне, што максімум таго, пра што магчыма дамовіцца на дадзены момант, — гэта дыферэнцыяцыя зняволеных і вызваленне тых, хто настроены больш дэмакратычна, за выключэннем фашысцкіх элементаў[155].

Гэтыя звесткі не адлюстроўваюць карціны цалкам, бо датычаць толькі тых людзей, інфармацыяй аб якіх валодала польскае МЗС.

## ЗМЕНА ТАКТЫКІ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ

У пачатку сакавіка 1945 г. НКУС Літоўскай ССР у супрацоўніцтве з вайсковым аддзелам Саюза польскіх патрыётаў у Вільні прыступіў да аперацыі па выкрыцці ўдзельнікаў партызанскіх атрадаў. У ходзе аперацыі ў атрады польскага падполля быў накіраваны 21 чалавек, якія мелі спецыяльныя лісты з прапановай скласці зброю і легалізавацца. З 8 сакавіка па 1 мая 1945 г. легалізавалася 309 чалавек, ў тым ліку і «бандыты з тэрыторыі Беларусі»[156]. Як зазначаў кіраўнік НКУС Гродзенскай вобл. палкоўнік Горлаў, найбольш масавай была легалізацыя ў Радунскім, Воранаўскім і Васілішкаўскім раёнах. З чэрвеня па першую палову жніўня 1945 г. у Радунскім раёне легалізавалася 37 удзельнікаў польскага падполля, у Воранаўскім — 16. У цэлым, толькі ў ліпені 1945 г. у Гродзенскай вобл. з лесу выйшла 748 чалавек, у Маладзечанскай вобл. — больш за 600[157]. Сваю ролю таксама адыграла амністыя 7 ліпеня 1945 г. На яе падставе ваенны трыбунал НКУС Брэсцкай вобл. амніставаў за перыяд з ліпеня па верасень 1945 г. 36 чалавек, сярод якіх былі і ўдзельнікі антысавецкага падполля.

Адначасова з аперацыяй па легалізацыі органы НКУС/НКДБ праводзілі агентурную працу: надалей укаранялі сваю сетку ў падпольныя структуры. Згодна з паведамленнямі аб барацьбе з польскім падполлем у лютым 1945 г. для НКУС/НКДБ, у польскіх падраздзяленнях працавала 39 агентаў і 4 рэзідэнты. Акрамя таго, яны карысталіся паслугамі тайных інфарматараў, якіх у Баранавіцкай вобл. налічвалася 88, у Гродзенскай — 83, у Брэсцкай — 11, у Пінскай — 50, у Маладзечанскай — 68[158].

23 лютага 1945 г. тагачасны камісар унутраных спраў Лаўрэнцій Берыя выдаў дырэктыву, якая рэгулявала высылку сем'яў арганізатараў падполля

---

[155] Archiwum MZS Polski, Zespół 6, teczka 452, k. 2—3. Палітычны дэпартамент. Савецкі аддзел. Ліст пасла Польшчы ў Маскве Раабэ да міністра замежных спраў Рымоўскага ад 30.IX.1945.

[156] LYA, f. k-1, ap. 3, b. 31, 1. 268. Службовая запіска начальніку Галоўнага ўпраўлення НКУС СССР па барацьбе з бандытызмам камісара бяспекі 3-га рангу Лявонцьева ад 14.05.1945, за подпісам Барташунаса і Гусева.

[157] Рыбак Н. Да пытання ліквідацыі польскага антысавецкага падполля ў заходніх абласцях БССР 1944—1948 гг. // Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi. Grodno, 2004. S. 374. Пададзеныя аўтаркай матэрыялы ўзятыя з архіва Упраўлення ўнутраных спраў выканаўчага камітэта Гродзенскай вобл.

[158] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 416, л. 21. Статыстычныя дадзеныя Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з бандытызмам БССР за люты 1945 г. ад 12 сакавіка 1945 г., за подпісам палкоўніка Пятрова.

і яго актыўных удзельнікаў углыб СССР. На той час існавала калектыўная адказнасць за ўдзел аднаго члена сям'і ў антысавецкім падполлі[159].

## РАЗГРОМ ПОЛЬСКАГА ПАДПОЛЛЯ

Пасля таго як АК была распушчана на тэрыторыі Беластоцкай акругі, у склад якой уваходзіла тры абводы: Гродна — Правы Нёман, Гродна — Левы Нёман і Ваўкавыск (ахопліваў тэрыторыі Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў) — была ўтворана Грамадзянская Армія Краёва (ГАК). У лістападзе 1945 г. абводы Гродна — Правы Нёман і Гродна — Левы Нёман былі аб'яднаны ў адзін абвод — Гродна, які разам з абводам Ваўкавыск утвараў Гродзенскі інспектарат толькі што паўсталага аб'яднання «Вольнасць і Незалежнасць» (ВіН). У савецкіх дакументах назва АК надалей ужывалася для абазначэння польскага падполля.

Цяжкасці працы абвода заключаліся ў тым, што новая польска-савецкая граніца перарывала каналы сувязі з кіраўнічым цэнтрам у Беластоку. Начальнік Гродзенскага інспектарата Уладыслаў Шымборскі («Бонк») загадаў выкарыстаць рэпатрыяцыйную акцыю для пераходу «акаўцаў» на тэрыторыю Польшчы. Нягледзячы на адыход значнай часткі ўдзельнікаў, польскае падполле працягвала функцыянаваць. Аднак жа партызаны ўнікалі адкрытых сутычак са шматлікімі атрадамі НКУС. Пасля хвалі арыштаў і эвакуацыі кіраўніцтва абвода ў кастрычніку 1945 г. не функцыянавала практычна ніводнай структуры, якая б кіравала дзейнасцю цэлага абвода. Адзіны афіцэр камендатуры абвода Гродна АК—ГАК—ВіН паручнік Мечыслаў Нядзінскі («Нёман»), які не выехаў на Захад, прыняў камандаванне над усімі структурамі.

Мэтай большасці акцый партызанаў была разгалінаваная агентура МДБ, актыўныя камуністы, а таксама кааператывы і крамы. Напрыклад, 14 лютага 1946 г. у вёсцы Стральцы Скідзельскага раёна (Гродзенская вобл.) невядомымі быў забіты жыхар М., які працаваў інфарматарам раённай сеткі НКДБ[160]. Шмат непрыемнасцей органам НКУС/НКДБ прынёс пададдзел «Хвалі» (Юзафа Міклашэвіча). Пасля таго як яго члены ліквідавалі начальніка Гродзенскага раённага аддзела НКУС капітана Кузняцова, вясной 1946 г. на затрыманне «Хвалі» было скіравана 5 аператыўных груп 16-га аддзела пагранічных войскаў МУС БССР і 200 міліцыянераў на чале з намеснікам старшыні РА НКУС падпалкоўнікам Жукоўскім[161].

У маі 1948 г. у выніку даносу вялікі атрад пад кіраўніцтвам «Нёмана» разам з «Хваляй» быў акружаны і амаль цалкам знішчаны беларускім МДБ. Смерць «Нёмана» завяршыла перыяд скаардынаваных дзеянняў у паўночнай частцы былога Гродзенскага павета. Ацалелыя групкі перайшлі на літоўскую тэрыторыю, што было вынікам, паводле меркавання даследчыка гэтай праблемы Томаша Лабушэўскага, ліквідацыі савецкім апаратам бяспекі тэрытарыяль-

---

[159] Рыбак Н. Да пытання ... С. 375.

[160] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 9. Журнал уліку праяў бандытызму на тэрыторыі БССР, 1946 г. Поўнае прозвішча інфарматара не падаецца ў інтарэсах яго сям'і і сваякоў.

[161] Там же, л. 20 об.

най сеткі «Нёмана», неабходнай для забеспячэння харчаваннем і разведкі. Канчатковая развязка ў барацьбе з польскай партызанкай на Гродзеншчыне адбылася пасля ліквідацыі 18 мая 1952 г. рэшткаў аддзела «Нёмана» — групы «Скочка». Асобныя партызаны легалізаваліся ў 1956 г.[162]

Вясной 1945 г. Лідскі абвод № 67 і Шчучынскі абвод № 49 былі аб'яднаныя ў абвод 49/76, які пераняў усе арганізацыйныя актывы ранейшых асяродкаў Шчучын і Ліда, а таксама злучэнняў Поўнач, Поўдзень і Захад. Камандаваў абводам Антоні Радзівонік — «Олех»[163]. Падначаленыя яму фармаванні праводзілі акцыі («тэрарыстычныя акты») супраць савецкіх актывістаў, асоб, якія супрацоўнічалі з Саветамі. Гэтыя фармаванні таксама знішчалі дакументацыю сельсаветаў. Гэтая дзейнасць часам каштавала жыцця нявінных людзей. Напрыклад, менавіта такая «памылка» адбылася ў вёсцы Дайнова Лідскага раёна (Гродзенская вобл.). Апранутыя ў форму МУС трое «бандытаў» 26 жніўня 1946 г. забілі трох жыхароў, падазраваных у супрацоўніцтве з МУС. У дакументах МУС гэтыя людзі праходзілі як «паплечнікі бандытаў», якія з органамі міліцыі не супрацоўнічалі[164].

Паасобныя акцыі атрадаў, падпарадкаваных «Олеху», у барацьбе з партыйнымі актывістамі, даносчыкамі, прадстаўнікамі карных арганаў і г.д. дастаткова добра даследаваны Казімежам Краеўскім[165]. Як было ім высветлена, на працягу 1949 г. сілам бяспекі ўдалося знішчыць арганізаваны рух супраціўлення ў Шчучынскім і Лідскім раёнах. Невялікія групы і асобныя ўдзельнікі былі ліквідаваныя ў ходзе наступных аперацый савецкіх органаў бяспекі ў 50-х гг.

У польскай партызанцы былі не толькі палякі, беларускае насельніцтва таксама ўдзельнічала ў барацьбе[166]. Беларускі гісторык Сяргей Данскіх у сваёй кнізе пра Шчучын прыводзіць наступныя факты:

---

[162] Гл.: Łabuszewski T. Poakowskie oddziały partyzanckie w byłym Inspektoracie Grodzieńskim AK—AKO—WiN 1945—1950 // Europa nieprowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej / pod red. K. Jasiewicza. Warszawa—Londyn, 1999 S. 806—824; Wnuk R. Polska konspiracja antysowiecka ... S. 238—246.

[163] Krajewski K. Działalność obwodu AK Szczuczyn—Lida (nr 49/67) w latach 1945—1949 // Europa nieprowincjonalna. S. 793.

[164] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 29. Журнал уліку праяў бандытызму на тэрыторыі БССР, 1946 г. Большасць ліквідаваных атрадамі «Олеха» былі партыйныя і савецкія кіраўнікі, асабліва тыя, хто прыехаў з усходу. Але літасці не было таксама і да мясцовых «калабарантаў».

[165] Гл., напрыклад: Krajewski K. Działalność ... S. 792—805. Гл. таксама: Wnuk R. Polska konspiracja antysowiecka ... S. 235—238; Skrobocki E. Polskie podziemie na Nowogródczyźnie i Grodzieńszczyźnie ... S. 364—367.

[166] Польскі гісторык беларускага паходжання Яўген Мірановіч сцвярджае, што ў аддзелах АК на Навагрудчыне ваявала прыкладна 40% праваслаўных беларусаў, затое ў беларускім нацыянальным руху, з якім змагалася АК, амаль палову складалі каталікі, якіх у міжваеннай Польшчы ўлады схільныя былі залічваць да палякаў. Гісторык гаворыць таксама аб сапраўднай вайне паміж аддзеламі АК і мясцовай беларускай адміністрацыяй у перыяд гітлераўскай акупацыі. У Лідскай акрузе толькі ў другой палове 1943 г. было выканана 300 смяротных прыгавораў у дачыненні да беларусаў, а на 80 чалавек былі напісаныя даносы ў гестапа як на камуністаў. Ахвярамі найчасцей станавіліся супрацоўнікі мясцовай

«Згодна са спісам 1931 г., каталікі ў Шчучынскім павеце складалі 56,1% усяго насельніцтва, затое па-польску размаўлялі 83,5% шчучынцаў. У 1935 г. у Арлянскай (Орля) і Сабакінскай (*цяпер Першамайск — Я.Ш.*) гмінах больш за 6000 праваслаўных лічылі сябе палякамі (...). Напрыканцы 1938 г. у Шчучынскім павеце было 73 аддзяленні польскіх патрыятычных арганізацый, якія налічвалі ў сваіх шэрагах 1581 чалавека. 39 арганізацый (67,7%) з'явілася толькі ў 1938 г. У святле гэтых дадзеных становіцца зразумелым, чаму ў 1919 г. пад штандары польскай самаабароны ў Шчучыне сталі толькі 70 чалавек, а ў 1944 г. у Шчучыне і ваколіцах быў створаны 7-ы батальён АК, які налічваў 850 чалавек[167]».

Такую заангажаванасць у польскую партызанку аўтар тлумачыць эфектыўнай палітыкай паланізацыі ў міжваенны перыяд. Прызнаючы пэўную рацыю аўтара, лічым мэтазгодным удакладніць яго сцверджанне. Тэрор і рэпрэсіі савецкай улады адносна мясцовых жыхароў вымушалі іх (асабліва моладзь) шукаць паратунку ў лесе, дзе яны і папаўнялі атрады антысавецкай партызанкі. Гэтая барацьба найчасцей была змаганнем за чалавечую годнасць, гонар, страчаную Айчыну, у рэшце рэшт — за выжыванне.

Іншае пытанне, вельмі балючае, асабліва для заангажаваных у гэтую дзейнасць, — удзел польскіх падраздзяленняў альбо іх паасобных членаў у ліквідацыі мясцовага насельніцтва, якое супрацоўнічала з Саветамі. Пад выглядам барацьбы з даносчыкамі альбо супрацоўнікамі савецкай улады было забіта шмат тых, чыя віна не заўсёды была відавочнай. Часам дзеянні набывалі брутальны характар, неаднойчы да сем'яў «калабарантаў» прымяняўся прынцып калектыўнай адказнасці. У жніўні 1947 г. у час ліквідацыі атрадам «Нёмана» ўяўнага шпіёна НКУС была расстраляна таксама ягоная жонка, дочкі 15-ці і 17-ці гадоў і бацька. Жыллё было цалкам спалена[168].

7 ліпеня 1945 г. у вёсцы Мельшаны* Радунскага раёна група з 6 чалавек забіла старшыню сельсавета Навагрудскага (*прозвішча — Я.Ш.*) разам з жонкай, а таксама лаяльную да савецкай улады польскую сям'ю Сакаловічаў разам з 18-гадовым сынам і дочкамі 15, 8 і 4 гадоў. Трупы спалілі разам з домам. У вёсцы Навасады Лідскага раёна (Гродзенская вобл.) на вяселлі аднаго з мясцовых жыхароў з'явіліся каля 40 мужчынаў у форме чырвонаармейцаў, якія выпытвалі, каго крыўдзяць «бандыты». Такім чынам яны выбралі пяць чалавек і расстралялі іх разам з жаніхом[169]. Ноччу 7 чэрвеня 1950 г. у вёсцы Арцішы Васілішкаўскага раёна (Гродзенская вобл.) была забіта цэлая сям'я полькі Сяргей І.І., у тым ліку — трое дзяцей і тры пляменнікі. Жанчына была жонкай старшыні Васілішкаўскага сельсавета, які быў забіты ў жніўні 1949 г.

адміністрацыі, якія мелі дачыненне да нямецкага апарату ўлады. Гісторык у сваіх высновах абапіраецца на працу «Nowogródczyzna w walce 1940—1945» (Londyn, 1976). Гл.: Міраповіч Я. Навейшая гісторыя Беларусі. Беласток, 1999. С. 158; Гл. таксама: Mironowicz E. Ruch partyzancki na Białorusi w historiografii białoruskiej i polskiej // Historiografia polska, litewska i białoruska po 1989 r. / pod red. K. Buchowskiego i W. Śleszyńskiego. Białystok, 2003. S. 62—67.

[167] Данскіх С. Наш Шчучын. Гродна, 2001. С. 149—150.

[168] Цыт. паводле: Łabuszewski T. Poakowski oddziały partyzanckie ... S. 821.

* Магчыма, Межанцы — *Рэд.*

[169] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 516, л. 34—40. Журнал уліку бандыцкіх праяў на тэрыторыі БССР у 1946 г.

Гэтай жа ноччу быў забраны таксама калгасны трактарыст, які потым знік без вестак[170].

Кожны з бакоў меў сваю праўду, якую і бараніў. Некаторыя засталіся да канца вернымі прынцыпам паводзін, маральнаму кодэксу. Некаторыя пераступілі тонкую мяжу, якая аддзяляе партызанскую барацьбу ад злачынства. Некаторыя ступілі на шлях, які вядзе да бандытызму. Дзейнасць АК авеяна славай і міфамі. Яе гісторыя заўсёды асвятляецца заангажавана, даюцца цалкам супрацьлеглыя ацэнкі: ад пазітыўных (адважныя рыцары, абаронцы годнасці і сумлення Нацыі) да востра негатыўных (бандыты, якія займаліся тэрарызмам, запалохвалі мясцовае насельніцтва). Тыя, хто змагаўся ў АК, былі асуджаны на жыццё ў пастаянным нервовым напружанні, на голад, холад і нястачу, большасць перажыла жахі сталінскіх лагераў. Бруталізацыя барацьбы прывяла да таго, што яны найчасцей былі яе ахвярамі разам са сваімі сем'ямі, сваякамі і людзьмі, якія ім дапамагалі.

## I.V. УКРАІНСКАЕ ПАДПОЛЛЕ (АУН—УПА)*

Украінскі антысавецкі ўзброены рух на тэрыторыі тагачаснага Савецкага Саюза можна з упэўненасцю назваць адным з найлепш арганізаваных, бо ў яго аснове ляжаў прынцып прафесійнага войска. Беларускі даследчык Ігар Валахановіч слушна сцвярджае, што яго структура абапіралася на вайсковую іерархію; падполле мела акрэсленыя мэты, праграму дзеяння і, што найбольш важна, істотную падтрымку мясцовага насельніцтва. Беларусь у тым выглядзе, які яна набыла ў 1944 г. (з пэўнымі змяненнямі межаў на карысць Польшчы ў наступныя некалькі гадоў), на поўдні атрымала землі, насельніцтва якіх самавызначалася пераважна як «тутэйшыя», найчасцей не мела нейкай выразнай нацыянальнай самасвядомасці, размаўляла на дыялекце ўкраінскай мовы. Другая сусветная вайна, дзейнасць камуністычнай, украінскай і польскай партызанкі спрычыніліся да фармавання нацыянальнай свядомасці*. Памылкі нацыянальнай палітыкі, якая праводзілася ў міжваеннай Польшчы адносна ня-

---

[170] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 122, арк. 142. Данясенне сакратару ЦК КП(б)Б Зіміяніну за подпісам сакратара Гродзенскага абкама Маргелава, 13.06.1950.

* АУН — Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў. Была створана ў 1929 г. Галоўная мэта дзейнасці — утварэнне незалежнай украінскай дзяржавы. У 1940 г. падзялілася на дзве арганізацыі: АУН-мельнікаўцаў (бульбаўцаў), якая супрацоўнічала з немцамі, і АУН-бандэраўцаў (рэвалюцыйны провад), якая не прызнавала акупацыйнай улады (*мельнікаўцы і бульбаўцы былі рознымі плынямі — Рэд.*). УПА — Украінская паўстанцкая армія, створана ў канцы 1942 г., калі на тэрыторыі Валыні бандэраўцы арганізавалі яе першыя атрады (*першыя атрады пад назвай «УПА — Палеская Сеч» (бульбаўцы) былі арганізаваны на Валыні атаманам Тарасам Бараўцом «Бульбай»; у 1943 г. раззброены і часткова ўключаны ў склад УПА, створанай пад эгідай АУН(б) — Рэд.*). УПА ўзначальваў Раман Шухевіч («Тур»). У яе склад уваходзілі Заходняя, Усходняя, Паўночная і Паўднёвая акругі. Паўночная акруга ахоплівала таксама раёны Палесся, якія ўвайшлі ў БССР.

* Працэсы фармавання нацыянальнай свядомасці пачаліся яшчэ ў міжваенны перыяд, калі на Заходнім Палессі дзейнічала сетка ўкраінскіх культурна-асветніцкіх арганізацый, а ўкраінскія партыі карысталіся падтрымкай насельніцтва на выбарах у польскі сейм 1922 і 1928 гг. — *Рэд.*

польскага насельніцтва на «крэсах», а таксама савецкая «сацыялістычная справядлівасць» на фоне выдатнай прапаганды, зразумелых лозунгаў у сферы сельскагаспадарчай палітыкі з боку падпольных структур АУН—УПА не маглі не прыцягваць прыхільнікаў у іх шэрагі.

## АУН—УПА НА БЕЛАРУСКІМ ПАЛЕССІ

Летам 1944 г. паўднёвыя раёны Беларусі былі фактычна цалкам ахоплены ўкраінскім падполлем. У адрозненне ад Валыні, дзе дзейнасць УПА ў дачыненні да неўкраінскага, пераважна польскага, насельніцтва набывала брутальныя формы, на беларускім Палессі, асабліва ў памежных з Украінай раёнах, адносіны з мясцовым насельніцтвам складваліся лепш. Партыйныя дакументы сведчаць, што забойствы асоб, якія супрацоўнічалі з савецкай уладай, і прадстаўнікоў адміністрацыі выконваліся без агляду на іх нацыянальнасць. Аналіз крыніц дазваляе зрабіць выснову, што большасць ахвяр тэрору УПА былі прыезджымі, аднак жа не бракавала сярод іх і мясцовых супрацоўнікаў савецкай улады. Палякі на Палессі не складалі значнай групы насельніцтва, калі параўноўваць, напрыклад, з Гродзеншчынай. Нацыянальныя адносіны, варожасць, узаемныя прэтэнзіі, якія падпітваліся рознымі асяродкамі падчас Другой сусветнай вайны ў Беларусі, абвастрыліся, аднак барацьба ніколі не была такой крывавай, як на Валыні паміж палякамі і украінцамі. У дачыненні да беларускага насельніцтва кіраўніцтва АУН вызначыла наступную лінію паводзін:

«Нашай палітычнай мэтай з'яўляецца падтрымка лаяльнага стаўлення да беларускага насельніцтва. Мы павінны ім тлумачыць, што ворагамі беларусаў з'яўляюцца немцы і бальшавікі. Беларусы павінны далучыцца да барацьбы за сваю незалежнасць»[171].

У дачыненні ж да іншых нацыянальных груп — рускіх, палякаў і нешматлікіх ужо на той час яўрэяў — баевікі АУН—УПА не вылучаліся асаблівай талерантнасцю[172].

---

[171] Цыт. паводле: Гуленка У. Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 149—150. Праблема заключалася ў тым, што большасць беларусаў наогул не хацела змагацца. Акрамя таго, нешматлікі беларускі незалежніцкі рух не валодаў рэальнымі сіламі, каб рэалізаваць свае памкненні да незалежнасці. Кіраўніцтва АУН у 1942—1943 гг. правяло перамовы з прадстаўнікамі беларускай калабаранцкай арганізацыі (Беларуская народная самапомач — БНС). Тады было дасягнута паразуменне «ў пытанні супольнай барацьбы супраць Саветаў». Пасля таго як паўднёвыя раёны Беларусі заняла Чырвоная Армія, частка беларускіх калабарантаў далучылася да атрадаў УПА, што магло ў пэўным сэнсе кампраметаваць апошніх, бо асацыявалася з немцамі. У прыватнасці, у дакументах Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з бандытызмам МУС СССР (ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 516 і іншыя справы), у аналітычных запісках наконт нацыянальнага складу часткі атарадаў УПА ідзе размова пра «паліцаяў беларускай нацыянальнасці», якія далучыліся да ўкраінцаў летам 1944 г. Іх колькасць і пра каго канкрэтна гаворка, невядома.

[172] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 1, 27. Журнал уліку праяў бандытызму на тэрыторыі БССР у 1946 г. 6 жніўня 1946 г. у вёсцы Плотніца Кобрынскага раёна (Брэцкая вобл.) было забіта двое яўрэяў — аптэкар Шугерман з жонкай. Выканаўцы былі апрануты ў мундзіры

Тэрыторыя Палесся, а менавіта частка раёнаў Брэсцкай, Пінскай і Палескай абласцей БССР уваходзіла ў зону інтарэсаў украінскага антысавецкага падполля. Паводле беларускага даследчыка Ігара Валахановіча, летам 1944 г. падпольныя структуры АУН—УПА, якія дзейнічалі на Беларусі, налічвалі 12—14 тыс. чалавек. Самым вялікім тэрытарыяльным аддзелам АУН з тых, якія дзейнічалі на поўдні БССР, была Брэсцкая акруга (Брэсцкі провад) пад кодавай назвай «Крычаўскі», альбо № 100, на чале з Зіновіем Саўчуком («Шварцам», «Аляксандрам»). Брэсцкая акруга ўваходзіла ў склад большай краёвай акругі «Масква», якая ахоплівала ў тым ліку Валынскую, Ровенскую, Жытомірскую і Вінніцкую вобласці. Краёвая акруга (провад) «Масква», у сваю чаргу, падпарадкоўвалася Цэнтральнаму проваду на чале з Шухевічам («Турам»). У 1948 г. Брэсцкі акруговы провад быў перайменаваны ў Беларускі акруговы провад «Ніва» («1042»), які да канца 1952 г. ахопліваў тры падраённыя провады: Брэсцкі, Кобрынскі і Пінскі[173].

Летам 1944 г. аддзелы ўкраінскага падполля праводзілі на поўдні Беларусі актыўную дзейнасць, скіраваную супраць падраздзяленняў Чырвонай Арміі, НКУС/НКДБ і мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі. У ліпені 1944 г. у Дзівінскім раёне (Брэсцкая вобл.) дзейнічаў аддзел УПА, які налічваў 400 чалавек. Паводле дадзеных партыйных органаў, ён «папаўняўся за кошт мясцовых жыхароў, у тым ліку і добраахвотнікаў». Мабілізацыя ў Чырвоную Армію, якая якраз праводзілася, абумовіла ўцёкі прызыўнікоў у лес і паспрыяла павелічэнню ахвочых да ўступлення ў аддзелы УПА. У верасні 1944 г. 114 навабранцаў Оскага сельсавета ўцяклі ў лес, абстраляўшы двух супрацоўнікаў ваенкамата[174].

Аунаўскія аддзелы, якія былі вельмі актыўнымі ў Дзівінскім раёне, паралізавалі дзейнасць савецкай адміністрацыі і пастаўкі дзяржаве, а таксама знішчалі шляхі камунікацыі. У Кобрынскім раёне яны спалілі 9 мастоў на дарозе Кобрын—Дзівін; «банда» ўкраінца Кавальчука ў Дзівінскім раёне спаліла высакаводны мост праз Арэхаўскі канал. Аддзелы УПА вялі баі з атрадамі Чырвонай Арміі: у ваколіцах мястэчка Антопаль у зацяты бой з чырвонаармейцамі ўступілі 80 бульбоўцаў. 27 кастрычніка 1944 г. у вёсцы Навасёлкі Дзівінскага раёна (Брэсцкая вобл.) у выніку ўзброенага напа-

МУС. Улёткі, якія распаўсюджвала АУН—УПА, найчасцей утрымлівалі пагрозы ў адрас камуністаў і яўрэяў. Ахвярамі УПА станавіліся як прыезджыя актывісты, так і мясцовыя рускія і беларусы. 4 верасня 1946 г. у вёсцы Вулька Папінская (*Драгічынскі раён Брэсцкай вобл. — Рэд.*) было забіта двое беларусаў: дырэктар школы Пажуха і мясцовы актывіст Палуціч. Цікавы той факт, што ў справаздачы Упраўлення па барацьбе з бандытызмам БССР гэтым разам была запісана нацыянальнасць забітых: звычайна ўказваліся толькі імя і прозвішча. Забівалі таксама і ўкраінцаў. Удзельнікі груп «Ярмака», «Канапленкі», «Дворкі» — усяго 15 чалавек — 3 студзеня 1946 г. у вёсцы Міжва (*Антопальскага раёна Брэсцкай вобл. — Рэд.*) забілі двух украінцаў. Адзін з забітых незадоўга да таго скончыў службу ў Чырвонай Арміі.

[173] Валаханович И. Антисоветское ... С. 106. Беларускі даследчык, карыстаючыся матэрыяламі архіва КДБ Беларусі, падрабязна паказвае арганізацыйную структуру падполля АУН—УПА на тэрыторыі Беларусі, падаючы тэрыторыю дзейнасці, кіраўнікоў асобных груп і г.д.

[174] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 28. Інфармацыйная запіска аб дзейнасці бандыцкіх груп на тэрыторыі Брэсцкай вобласці за перыяд ліпень—верасень 1944 г., 20.09.1944 г.

дзення на 86-ы атрад пагранічных войск былі забітыя 2 пагранічнікі, сакратар Дзівінскага райвыканкама, упаўнаважаны па ваенных пастаўках 1-га Беларускага фронту. Згодна з дадзенымі НКДБ БССР, 25.10.1944 г. у вёсцы Гута на адрэзку Брэст—Ковель у выніку нападзення на сельсавет «былі спалены ўсе дакументы і расклееены ўлёткі контррэвалюцыйнага зместу»[175]. Зафіксаваны нават напад на савецкі самалёт Іл-2 у Маларыцкім раёне (Брэсцкая вобл.), які здзейснілі пяць «бандытаў»[176].

Камандаванне 265-га палка НКУС, не прадпрымаючы ніякіх дзеянняў у адказ на згаданыя тэракты, чакала ў Брэсце. Брэсцкі абласны камітэт ЦК КП(б)Б быў вымушаны звярнуцца да Бельчанкі, тагачаснага камісара дзяржаўнай бяспекі БССР, з просьбай умяшацца ў гэтую справу. Паводле іх дадзеных, у паўднёвыя часткі Брэсцкай і Пінскай абласцей пранікалі аддзелы УПА-бульбаўцаў, якія складаліся з жыхароў Ровенскай вобл. (УССР), апранутых у форму чырвонаармейцаў[177].

На мяжы 1944—1945 гг. з Украіны на тэрыторыі «рассялення ўкраінскага насельніцтва» перайшоў аддзел (загон) «Старадубскі» з вайсковай групы «Цюцюннік» УПА—Поўдзень. Падчас рэйду ўкраінскі аддзел прайшоў праз тэрыторыю Давыд-Гарадоцкага, Мікашэвіцкага, Старобінскага і Жыткавіцкага раёнаў, праводзячы агітацыйна-прапагандысцкую працу і раздаючы ўлёткі. Адной з мэтаў гэтай акцыі было інфармаванне насельніцтва аб дзейнасці УПА. Вядома аб ліквідацыі ў той час дзвюх груп УПА ў Пінскай вобл.[178] Паводле паведамлення, якое Лявонцьеў выслаў да Берыі, а той, у сваю чаргу, перадаў Сталіну, Молатаву, Малянкову, 23 студзеня 1945 г. на тэрыторыі Брэсцкай вобл. таксама была ліквідавана група УПА на чале з Н.Рэдашам («Ігарам»)[179].

## БАРАЦЬБА СУПРАЦЬ АУН—УПА Ў ХОДЗЕ ЧЭКІСЦКА-ВАЕННЫХ АПЕРАЦЫЙ

Для знішчэння ўкраінскага падполля выкарыстоўваліся такія самыя метады, як і для польскага. На працягу 1944—1946 гг. гэта былі чэкісцка-ваенныя аперацыі, якія праводзіліся супольнымі намаганнямі войска і падраздзяленняў НКУС/НКДБ. У студзені 1945 г. было затрымана і забіта некалькі важных кіраўнікоў украінскага падполля. Так, у той час былі забіты ўпаўнаважаны брыгады УПА «Вэрхавынэць» у Дзівінскім раёне «Марзенка», кіраўнік службы бяспекі кураня «Вэрхавынэць» у Лагішынскім раёне Грыгорый Саланіцкі («Лыпны») (11.02.1945), а таксама быў затрыма-

---

[175] LYA, mk. 606, l. 50. Данясенне № 1100865 14-й дывізіі войскаў аховы чыгункі НКУС. Падпісалі: камандзір штаба дывізіі палкоўнік Дзенісевіч, камандзір 1-га аддзела капітан Кавальскі, 21.11.1944 г.

[176] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 516, л. 27. Пералік праяў бандытызму ў БССР у студзені 1945 г., без подпісу, не раней за 30 студзеня 1945 г.

[177] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 10, 48. Інфармацыйная запіска аб палітычнай сітуацыі ў заходніх раёнах Беларусі, 5.11.1944 г.

[178] Русначенко А. Народ збурений. Національно-визвольний рух в Україні і національні рухи опору в Білорусії, Литві, Латвії, Естонії у 1940—1950-х рр. Київ, 2002. С. 258.

[179] ГАРФ. Ф. 9401, оп. 2, д. 92, л. 183—184.

ны ўпаўнаважаны УПА па справах арганізацыі ўзброеных груп Андрый Лук'яненка («Шкільны»)[180].

З 15.01 па 20.02.1945 г. у выніку вялікай аперацыі ў Брэсцкай і Пінскай абласцях, скіраванай супраць «контррэвалюцыйнага падполля і бандаў УПА», было акружана 839 населеных пунктаў, абшукана 48 799 падворкаў, праверана 165 137 чалавек, прачасана 12 тыс. км$^2$ лясоў і балот. Было арыштавана 3 808 чалавек, забіта — 98, пры гэтым былі ліквідаваны 33 узброеныя атрады[181].

За сакавік 1945 г. у Брэсцкай і Пінскай абласцях было праведзена больш за 26 дробных аперацый, у выніку якіх было ліквідавана 7 груп украінскага падполля, забіта 53 чалавекі, затрымана — 46. Маштабы аперацый супраць украінскага падполля былі меншымі ў параўнанні з аперацыямі супраць падполля польскага. Але меншымі таксама былі і ўплыў АУН—УПА, і тэрыторыя іх дзейнасці. Для параўнання: у сакавіку таго ж самага года супраць польскага падполля было праведзена 118 чэкісцка-ваенных аперацый, у выніку якіх удалося ліквідаваць 23 антысавецкія групы, забіць 123 чалавек, затрымаць — 372; у маі было забіта 98 удзельнікаў польскага падполля і 14 — АУН—УПА[182].

Адначасова органы бяспекі праводзілі агентурную працу, у аддзелы ўкраінскага падполля пранікалі іх агенты і даносчыкі. Паводле дадзеных на 1 красавіка 1945 г., у Брэсцкай вобл. дзейнічала 732 супрацоўнікі бяспекі (агентаў, рэзідэнтаў, даносчыкаў, маршрутнікаў, унутраннікаў), у Пінскай — 498[183]. Для знішчэння антысавецкіх узброеных груп выкарыстоўваліся таксама атрады, якія выдавалі сябе за УПА і складаліся з людзей, якія добра ведалі ўкраінскую мову. Адна з такіх груп на чале з кіраўніком НКУС Пінскай вобл. падпалкоўнікам Кузьміным спрычынілася да ліквідацыі аддзелаў УПА Юркевіча «Грачуна» і «Грэчкі»[184].

Пэўную ролю ў ліквідацыі паасобных атрадаў і прадстаўнікоў украінскага антысавецкага руху адыгралі знішчальныя батальёны. З іх удзелам у выніку распачатай 22 чэрвеня чэкісцка-ваеннай аперацыі пад кіраўніцтвам намесніка начальніка Упраўлення па барацьбе з бандытызмам Брэсцкай вобл. падпалкоўніка Смірнова была ліквідавана «банда "Тыгра"». У выніку былі забіты 34 упоўцы, у тым ліку сам «Тыгр» і кіраўнік сотні «Хмара», 30 чалавек было ўзята ў палон. Два ўдзельнікі знішчальных батальёнаў атрымалі за гэта грашовыя прэміі ў памеры 500 рублёў[185].

---

[180] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 516, л. 20—21. Паведамленне аб ліквідаваных у I квартале 1945 г. антысавецкіх арганізацыях і контррэвалюцыйных бандах на тэрыторыі БССР, без подпісу, не раней за 1.04.1945 г.

[181] Гуленка У. Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў ... С. 150.

[182] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 416, л. 23. Данясенне № 11/1264 камісару дзяржаўнай бяспекі 3-га рангу Лявонцьеву, за подпісам народнага камісара НКУС БССР камісара дзяржаўнай бяспекі Бельчанкі, 11.04.1945 г.

[183] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 516, л. 9. Паведамленне аб павелічэнні агентурнай сеткі ў заходніх абласцях БССР, без подпісу, не раней за 1.04.1945 г.

[184] Гл.: Гуленка У. Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў ... С. 150; Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 109.

[185] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 518, л. 77. Распараджэнне НКУС БССР № 390, за подпісам народнага камісара НКУС БССР Бельчанкі, 27.07.1945 г. Ігар Валахановіч, абапіраючыся

## ЛІКВІДАЦЫЯ ЎКРАІНСКАГА ПАДПОЛЛЯ Ў БССР

Нягледзячы на значныя страты, якія панеслі аддзелы АУН—УПА у барацьбе з Чырвонай Арміяй і НКУС/НКДБ, іх дзейнасць не спынілася, яна набыла толькі новыя формы і метады. Адкрытая барацьба змянілася канспіратыўнай працай. Галоўным кірункам дзейнасці паступова сталі дробныя дыверсіі і тэрарыстычныя акты супраць асобных дзеячаў партыйнага і савецкага дзяржаўнага апарату[186].

Змянілася таксама і тактыка барацьбы з падполлем органаў МУС/МДБ, якія пачалі абапірацца на глыбокую агентурную і аператыўную працу. На працягу 1947—1949 гг. былі ліквідаваны: Пінскі міжраённы провад АУН (красавік 1947 г.), штабы Брэсцкага (май 1948 г.) і Кобрынскага (чэрвень 1949 г.) міжраённых провадаў АУН. За 1950—1952 гг. органам МДБ БССР удалося ліквідаваць або затрымаць большасць актыўных дзеячаў украінскага супраціўлення і рассакрэціць іх найважнейшыя схованкі. Апошняя ўзброеная група АУН «Грыца», у якую ўваходзіла пяць чалавек, была цалкам разбіта аператыўнай групай МДБ Пінскай вобл. у Драгічынскім раёне ў лютым 1952 г. Такім чынам структуры Беларускага акруговага провада перасталі існаваць. Агульная колькасць арыштаваных органамі бяспекі на тэрыторыі Беларусі «ўкраінскіх нацыяналістаў» з лістапада 1943 г. па красавік 1953 г. склала 1282 чалавекі[187].

Дзейнасць украінскага ўзброенага руху супраціўлення, яго арганізацыйныя структуры на тэрыторыі Беларусі (і не толькі) і надалей застаецца дыскусійнай тэмай, якая вымагае грунтоўнага аналізу яго праяваў. У савецкай гістарыяграфіі, заснаванай на створаных наверсе міфах і схемах, украінскі ўзброены антысавецкі рух атаясамляўся выключна з бандытызмам, службай немцам або іншым «рэакцыйным» сілам. Такія ацэнкі дзейнасці АУН—УПА і цяпер можна сустрэць у працах некаторых сучасных гісторыкаў[188].

на дадзеныя беларускага КДБ, сцвярджае, што ў ходзе згаданай аперацыі было забіта 53 і ўзята ў палон 33 аунаўцы. Гл.: Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 109.

[186] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 2, 13. УПА ліквідавала пераважна савецкіх актывістаў, удзельнікаў савецкай партызанкі. Выкарыстоўваючы разгалінаваную разведчыцкую сетку, яны вылоўлівалі даносчыкаў, інфарматараў МУС/МДБ. «Банда Канапленкі» з дзевяці чалавек 9 студзеня 1946 г. у вёсцы Новае Бярозаўскага раёна забіла дырэктара базы і двух даносчыкаў раённага аддзела НКУС: гр. К. — псеўданім «Строгі», і гр. К. — «Жукаў». 30 сакавіка 1946 г. той самы аддзел спаліў будынак Алешаўскага сельсавета (*раён не указаны — Я.Ш.*) разам з дакументамі, забіўшы двух энкавэдыстаў і старшыню сельсавета на вачах у яго непаўналетніх дзяцей.

[187] Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 112—116.

[188] Абароненая ў 2006 г. у Маскве (Ваенны ўніверсітэт) кандыдацкая дысертацыя Андрэя Клімава «Деятельность внутренних войск МВД СССР по обеспечению общественной безопасности на территории западных областей Украинской ССР (1944—1953 гг.)» відавочна паўтарае ацэнкі старой савецкай школы з імперскім налётам. Паводле Клімава, паміж нацыяналістамі няма розніцы. Такімі самымі былі басмачы ў Сярэдняй Азіі, нацыяналісты ў прыбалтыйскіх рэспубліках. Злачынная дзейнасць аунаўскага падполля, як мяркуе расійскі даследчык, заключалася ў забойствах партактыву, вайскоўцаў,

Народная памяць і даступныя крыніцы захавалі шмат прыкладаў іх брутальных паводзін, забойстваў і рабункаў. Аднак трэба памятаць, што такія прыклады заўсёды можна было сустрэць па абодва бакі барыкадаў. Савецкі тэрор супраць мясцовага насельніцтва, зразумелая праграма дзеяння прыцягвалі на іх бок шмат людзей. Сам той факт, што ўкраінскі нацыянальны рух і яго асобныя дзеячы пратрымаліся да сярэдзіны 50-х гг., сведчыць не толькі пра добрую арганізацыю і структуру, але і пра падтрымку іх дзейнасці пэўнай часткай жыхароў беларускага Палесся.

## I.VI. ЛІТОЎСКАЕ ПАДПОЛЛЕ

Дзейнасць літоўскага падполля на тэрыторыі тагачаснай БССР у другой палове 40 — пачатку 50-х гг. адзначана ў раёнах, памежных з Літвою, дзе аперавалі літоўскія аддзелы. Гэта, галоўным чынам, Радунскі і Сапоцкінскі раёны Гродзенскай вобл., Свірскі і Пастаўскі раёны Маладзечанскай вобл., Відзскі раён Полацкай вобл. Названыя тэрыторыі былі месцам перасячэння польскіх і літоўскіх інтарэсаў: абодва бакі лічылі гэтыя землі неад'емнай часткай сваіх нацыянальных дзяржаў. У першыя гады савецкай улады на Віленшчыне пераважалі польскія падпольныя атрады. Аднак рэпатрыяцыя і пераход значнай часткі акаўскіх аддзелаў у Польшчу аслабілі польскія ўплывы ў гэтым рэгіёне.

Літоўцы вялі баі з савецкімі падраздзяленнямі пагранічных і ўнутраных войскаў на былой тэрыторыі сваёй дзяржавы. На працягу першага перыяду барацьбы — у 1944—1948 гг. — літоўскі падпольных рух, паводле некаторых ацэнак, налічваў каля 30 тыс. актыўных партызанаў і тысячы «пасіўных», гатовых кожную хвіліну папоўніць шэрагі падпольнай арміі[189]. Літоўскі падпольны рух, які быў значна аслаблены няроўнай барацьбой з савецкімі войскамі, тэрорам супраць мірнага насельніцтва, прымяненнем палітыкі бізуна і перніка (напрыклад, шматлікія амністыі), быў вымушаны змяніць формы і метады барацьбы. Партызаны пазбягалі адкрытых сутычак з вялікімі савецкімі фармаваннямі, аддаючы перавагу засадам і ліквідацыі партыйнага і савецкага актыву. Адпаведна, змяніліся таксама метады і сродкі знішчэння падполля органамі НКУС/НКДБ, а пасля 1946 г. — МДБ. На месца масавых ваенных аперацый прыйшла агентурная праца.

супрацоўнікаў МДБ/МУС, знішчэнні мясцовага насельніцтва, якое супрацоўнічала з МУС. Клімаў параўноўвае аунаўскі рух з рухамі на Паўночным Каўказе, якія імкнуцца падарваць адзінства расійскай дзяржавы. Цыт. паводле: Климов А. Деятельность ... С. 75—77. Кандыдацкая дысертацыя захоўваецца ў аддзеле электронных [illegible] Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (былой ім. Леніна) у Маскве.

[189] Vardys V. S. Lithuania under the Soviets. Portrait of nation, 1940—1965. New York, 1965. P. 86. Паводле дадзеных іншага літоўскага гісторыка, А.Анушаўскаса (A. Anušauskas), у падпольным руху брала ўдзел каля 50 тыс. чалавек.

## СТРУКТУРА ЛІТОЎСКАГА АНТЫСАВЕЦКАГА РУХУ СУПРАЦІЎЛЕННЯ

З 1944 г. распачаўся працэс арганізацыі адзінага камандавання рухам супраціўлення. У лютым 1949 г. быў створаны Рух барацьбы за свабоду Літвы (*Lietuvos laisvės kovos sąjūdis* — LLKS, ЛЛКС), лідарам якога быў абраны капітан былой літоўскай арміі Ёнас Жэмайціс. ЛЛКС аб'яднаў усе тэрытарыяльныя арганізацыі, якія складаліся з дзевяці акруг і трох абласцей. Кожная акруга мела 2—5 дружын або баявых адзінак, аналагічных вайсковым. Таксама былі ўтвораны тры рэгіянальныя штабы абласцей, два з якіх вялі сваю дзейнасць таксама і на тэрыторыі БССР — вобласці «Караля Міндоўга» (каардынаваў дзейнасць партызанскіх акруг паўночна-ўсходняй Літвы) і вобласці «Нёман» (паўднёвая Літва)[190]. З гэтых абласцей непасрэдна на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі падраздзяленні акругі «Дайнова» (вобласць «Нёман») і «Вітаўта» (вобласць «Караля Міндоўга»)[191].

У акругу «Вітаўта» ўваходзілі тры дружыны, адна з якіх — «Локіса» (Мядзведзя) — дзейнічала ў Зарасайскім (Літва) і Свірскім (Беларусь) раёнах. Летам 1945 г. пачаліся правакацыі чэкістаў, у аддзелы пачалі дасылаць шпегаў, якія павінны былі дэзарыентаваць партызанаў і ліквідаваць камандаванне. Кіраўніку аддзела «Локіса» М. Казану прадставіўся капітан Урбан (агент МДБ Яблакаў) і, нібыта выконваючы загад цэнтральнага штаба, пажадаў, каб яму перадалі камандаванне аддзелам. Сустрэча праходзіла ў Радунскім лесе (Гродзенская вобл.). Кіраўнік аддзела адмовіўся падпарадкавацца. 6 ліпеня 1945 г. ён быў выдадзены агентам і, акружаны, падарваў сябе[192].

## СУВЯЗІ З ЗАХАДАМ

Эміграцыйны гісторык В. Стэнлі Вардыс (V. Stanley Vardys) сцвярджае, што пасля 1945 г. толькі некаторыя лідары літоўскага незалежніцкага руху падтрымлівалі нерэгулярную сувязь з Захадам. Аднак гэта не давала рэальнай падтрымкі. У 1948 г. некалькі прадстаўнікоў літоўскай партызанкі самастойна перабраліся на Захад, што прывяло толькі да пашырэння кантактаў. У Савецкім Саюзе, наадварот, сцвярджалі, што службы разведкі Швецыі, Вялікабрытаніі і Злучаных Штатаў мелі сталыя кантакты з літоўскім падполлем. Паводле савецкіх крыніц, адна з такіх груп вярнулася ў Літву ў 1949 г. для збору інфармацыі. Яшчэ адна група на чале з Ёзасам Лукшам была скінута амерыканцамі ў 1950 г. Уся група загінула праз год, яе кіраўнік скончыў жыццё самагубствам[193].

---

[190] Anušauskas A. Litewska antysowiecka partyzantka i konspiracja w latach 1944—1965 // Europa nieprowincjonalna. S. 850.

[191] Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 123.

[192] Gaškaitė N., Kuodytė D., Kašeta A., Ulevičius B. Lietovos partizanai 1944—1953 m. Kaunas, 1996. P. 297. Цікава, што кіраўнік літоўскага аддзела Казан быў рускім па нацыянальнасці; яго бацька быў застрэлены ў высылцы ў Варкуце ў 1953 г. падчас паўстання вязняў.

[193] Vardys V. S. Lithuania ... P. 101.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА З ПОЛЬСКІМ ПАДПОЛЛЕМ

Перад абліччам паўсюднага тэрору, не маючы ніякай знешняй падтрымкі, некаторыя літоўскія кіраўнікі шукалі спосабы завязаць кантакты з аддзеламі польскага падполля, якія дзейнічалі на беларуска-літоўскім памежжы. У 1950 г. у Свірскім раёне ў рукі аператыўнай групы МДБ Маладзечанскай вобл. трапіў кіраўнік штаба 5-га раёна «Тыграс» Леанардас Басіс (Leonardas Basis). Ён быў забіты ў сутычцы, а дакументы, якія былі пры ім, дасталіся МДБ. З іх вынікала, што прадстаўнікі ЛЛКС актыўна імкнуліся завязаць кантакты з засталымі падраздзяленнямі Арміі Краёвай. Тое самае пацвярджаюць і крыніцы польскага падполля. Ацалелыя групкі польскага падполля на Гродзеншчыне летам 1948 г., дзякуючы нефармальным пагадненням іх кіраўніцтва з кіраўнікамі літоўскіх аддзелаў «Данелісам» з Ротніцы і «Пабяржысам», час ад часу атрымлівалі прытулак; іх таксама інфармавалі аб савецкіх аблавах. Літоўцы запрашалі згаданыя польскія групы на свае месцы дыслакацый, разам праводзілі дзейнасць, скіраваную на ліквідацыю шпіёнаў і савецкіх знішчальных батальёнаў. Томаш Лабушэўскі, пішучы пра гісторыю польскага падполля ў былым Гродзенскім інспектарацe, зазначае, што такое супрацоўніцтва і пераход акаўскіх падраздзяленняў на тэрыторыю былой Літоўскай Рэспублікі быў вымушаным, бо тэрытарыяльная сетка (забеспячэнне харчам і разведка), якая засталася пасля арганізацыі паручніка «Нёмана», была ліквідавана савецкім апаратам бяспекі[194].

На мяжы 40—50-х гг. на памежных з Літвой тэрыторыях часта здараліся выпадкі, калі групы антысавецкага падполля ліквідавалі савецкі апарат, яго супрацоўнікаў, знішчалі сродкі сувязі, палілі сельсаветы. І калі часам можна было высветліць прыналежнасць забітых або затрыманых да польскага ці літоўскага падполля, то ў шэрагу выпадкаў (асабліва падчас удалых аперацый) такі падзел не заўсёды быў магчымы. Савецкія крыніцы асноўную ўвагу звярталі на ацэнку ўзбраення, праведзеныя аперацыі, сувязі з мясцовым насельніцтвам. Нацыянальны фактар не заўсёды ўлічваўся, часцей карысталіся азначэннем «банды», «бандыты-адзіночкі», «нелегалы». У даступных аўтару даследавання крыніцах (дакументы ЦК КП(б)Б і Упраўлення па барацьбе з бандытызмам НКУС, з 1946 г. — МУС) за перыяд 1944—1947 гг. пра літоўскія аддзелы на Беларусі няма ніякай інфармацыі. Час ад часу з'яўляліся спарадычныя згадкі аб «бандыцкіх групах» з тэрыторыі Літвы, якія здзяйснялі тэрор супраць прадстаўнікоў савецкага апарату[195]. У справаздачах аб знішчэнні антысавецкіх груп, у тым ліку і створаных паводле нацыянальнага крытэрыя, літоўскія групы наогул не згадваюцца.

Пазней літоўскія аддзелы праяўлялі большую актыўнасць у памежных з БССР раёнах, аднак маштаб іх дзейнасці быў, у параўнанні з польскай

[194] Łabuszewski T. Poakowskie oddziały ... S. 823.

[195] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 14 об. Журнал уліку праяў бандытызму на тэрыторыі БССР у 1946 г. На памежжы Літвы і Беларусі ў Ашмянскім раёне (Гродзенская вобл.) ноччу 12 красавіка 1946 г. трое невядомых, якія прыйшлі з Літвы, зрабілі няўдалую спробу замаху на старшыню сельсавета. У выніку стрэлаў у акно старшыні была паранена яго сястра Санкевіч.

ці ўкраінскай партызанкай, значна меншым. Беларускі даследчык Ігар Валахановіч — адзін з нямногіх, хто меў доступ да дакументаў архіва КДБ Беларусі, — сцвярджае, што ў другой палове 40 — пачатку 50-х гг. на тэрыторыі БССР агульная колькасць удзельнікаў літоўскага антысавецкага падполля налічвала каля тысячы чалавек[196].

## РЭЗЮМЭ ДА РАЗДЗЕЛА I

Першыя гады перыяду так званых «другіх Саветаў» былі пазначаны тэрорам і мелі трагічныя вынікі для жыхароў заходніх абласцей БССР. Савецкія рэпрэсіі — прама або ўскосна — ахапілі ўсё грамадства. Калі ў 1939—1941 гг. галоўны ўдар прыйшоўся на палякаў, у меншай ступені — на яўрэяў і яшчэ менш — на беларусаў, то ў пасляваенныя гады рэпрэсіі былі скіраваны супраць грамадства ў цэлым. Моцнае антысавецкае падполле, асабліва ў другой палове 1944 — 1945 гг., якое ў многіх выпадках мела падтрымку мясцовага насельніцтва, на кароткі час адцягнула саветызацыю краю. Кожная антысавецкая канспіратыўная арганізацыя мела свае нацыянальныя мэты, у большасці выпадкаў яны заключаліся ў стварэнні альбо аднаўленні незалежнасці сваіх дзяржаў у канкрэтных межах.

Савецкія архіўныя крыніцы і польскія крыніцы мемуарнага кшталту пакінулі шмат сведчанняў аб патрыятычнай пазіцыі палякаў. Таксама трэба памятаць пра тое, што польскасць на Беларусі ў перыяд т.зв. «першых Саветаў» адрознівалася ад польскасці ў пасляваенны перыяд. З гарадоў яна перакінулася на вёску і ў значнай ступені атаясамлялася з каталіцкім веравызнаннем. Ментальна і культурна беларускія і польскія сяляне (*на захадзе Беларусі — Рэд.)* не надта адрозніваліся, але падзеі 1939—1945 гг. значна паглыбілі нацыянальны падзел у вясковым асяроддзі. На гэта паўплывала як нямецкая акупацыйная палітыка, так і савецкая.

Погляд на антысавецкі рух у Заходняй Беларусі выключна з польскай перспектывы, абмежаванне польскімі крыніцамі можа прывесці да неправамерных высноў. Інтэрпрэтацыя былых паўночна-ўсходніх земляў міжваеннай Польшчы выключна як сферы польскіх інтарэсаў адмаўляе беларусам у праве на нацыянальнае самавызначэнне, а менавіта беларусы складалі большасць на гэтай тэрыторыі. Польскае падполле, вельмі моцнае на Навагрудчыне, Гродзеншчыне і Віленшчыне, не мела добра разбудаванай структуры на Палессі, дзе антысавецкі рух быў прадстаўлены ўкраінскім падполлем. Згодна з шырока распаўсюджаным стэрэатыпам, беларусы як нацыянальная група адрозніваліся, у параўнанні з настроенымі супраць савецкай улады палякамі, прасавецкімі настроямі. Такое меркаванне з'яўляецца вынікам няведання крыніц і неразумення сітуацыі, якая склалася на гэтых землях. Фактам з'яўляецца тое, што савецкая ўлада трактавала беларусаў у нечым лепш, чым палякаў, аднак меркаванне пра нібыта прасавецкія настроі беларусаў нельга лічыць слушным, паколькі яно не пацвярджаецца крыніцамі. Беларускае насельніцтва — пасіўна ці актыўна — падтрымлівала антысавецкае падполле і прымала ўдзел у дзейнасці яго структур.

---

[196] Валаханович И. Антисоветское подполье ... С. 126.

Польска-беларускі канфлікт не быў такім вострым, як, напрыклад, польска-ўкраінскі, аднак беларусы не былі пасіўнай сацыяльнай групай без нацыянальных амбіцый. Трагізм сітуацыі заключаецца ў тым, што тагачасныя дзяржаўныя праекты (польскі, савецкі, нямецкі) не прадугледжвалі для беларусаў належнага месца ў межах сваёй дзяржаўнасці, таму стаць на нейкі бок для беларусаў азначала здрадзіць сваім нацыянальным інтарэсам. Аналіз разнастайных савецкіх крыніц, шматлікія даследаванні і ўласны досвед умацоўваюць аўтара дадзенай працы ў меркаванні, што беларусы — разам з палякамі і іншымі народамі на гэтай тэрыторыі — былі ахвярамі савецкай сістэмы.

# Раздзел II

# ЗМЕНЫ Ў СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА І САЦЫЯЛЬНАЙ СТРУКТУРЫ

## II.I. МАБІЛІЗАЦЫЯ Ў ВОЙСКА І НА ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Яшчэ да пачатку ваеннай аперацыі «Баграціён», у выніку якой падраздзяленні Чырвонай Арміі занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі, у Маскве было прынята рашэнне аб лёсах яе жыхароў прызыўнога ўзросту. Дзяржаўны камітэт абароны (ДКА), які дэ-факта быў наддзяржаўным органам (рэгламентаваў у СССР вытворчасць усяго: ад колькасці і формы гузікаў да танкаў, самалётаў і г.д.), сваім рашэннем ад 25 студзеня 1944 г. вызначыў парадак мабілізацыі жыхароў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Згодна з пастановай ДКА №ГОКО-5026сс, жыхароў вызваленых тэрыторый Заходняй Беларусі беларускай нацыянальнасці належала скіроўваць у 9-ю запасную стралковую брыгаду ў Бранску і ў горад Кіраў Смаленскай вобл. у 18-ю запасную брыгаду. Палякаў, якія жылі ў Заходняй Беларусі, трэба было скіроўваць у запасны полк Польскага корпуса[1]. 25 сакавіка 1944 г. выйшаў чарговы загад ДКА аб дадатковым фармаванні чатырох запасных стралковых брыгад, якія павінны былі складацца з жыхароў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі[2].

---

[1] РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 197, л. 146. Пастанова ДКА №ГОКО-5026сс, 25.01.1944 г., за подпісам І.В.Сталіна.

[2] РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 220, л. 225. Пастанова ДКА №ГОКО-5460сс, 23.04.1944 г., за подпісам І.В.Сталіна.

## ПРАВЯДЗЕННЕ МАБІЛІЗАЦЫІ Ў ВОЙСКА

Паводле дадзеных на пачатак 1945 г., прызыў на службу ў войска на Беларусі атрымалі 661 697 чалавек, якія нарадзіліся ў 1893—1926 гг.; з гэтай колькасці ў Чырвоную Армію трапілі 564 475 чалавек, на прамысловасць жа было мабілізавана 38 339 чалавек. У сфармаванае пазней Народнае войска польскае (НВП) з заходніх абласцей БССР было мабілізавана 44 115 чалавек[3]. Кіраўнік ваеннага аддзела ЦК КП(б)Б Прохараў дакладваў:

> В ряде районов западных областей имели место случаи, когда молодежь призывного возраста и военнообязанные старших возрастов под влиянием польских националистов отказывались получать повестки о явке на призыв и отправке в Красную Армию под предлогом, что они по национальности поляки[4].

Савецкія ўлады пасля кароткага расследавання прызналі ўсіх беларусамі, «выкрыўшы» толькі ў Маладзечанскай вобл. 743 чалавек, якія выдалі сябе за палякаў[5].

Успаміны Станіслава Лубнеўскага, жыхара Маладзечанскай вобл. у гэты перыяд, часткова тлумачаць спосаб устанаўлення нацыянальнасці. Пасля мабілізацыі і вучэнняў у лагеры ў Волагдзе (Расія) хлопцаў прыводзілі ў лазню, забіраючы ўсе (польскія і нямецкія) дакументы. Тых, хто хацеў запісацца палякам, арыштоўвалі і праз тры месяцы высылалі на фронт у складзе часцей Чырвонай Арміі. Некаторых пры гэтым білі, вымушаючы ўступіць у Чырвоную Армію як беларусаў[6]. Нацыянальнасць прымушалі мяняць не абавязкова з-за вялікай любові да беларускага народа. Усе беларусы адразу ж траплялі ў Чырвоную Армію, у той час як палякі маглі ў перспектыве трапіць у НВП і ў будучыні застацца на тэрыторыі Польшчы.

У красавіку 1945 г. пад пагрозай прымянення сілы ў раённы камісарыят з дзвюх вёсак — Падбалоцце і Самаравічы — Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобл. было сабрана 300 мужчын. Усе яны былі прызнаны беларусамі. Сваякі мабілізаваных выслалі скаргу ў Маскву на імя старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Калініна з просьбай прызнаць мабілізаваных палякамі[7].

Людзі часта лічылі прыналежнасць да польскай нацыянальнасці дастатковым аргументам для звальнення ад службы ў войску чужой дзяржавы. Палякаў сілай адпраўлялі ў войска краіны, з якой іх нічога не звязвала.

---

[3] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 11—13. Паведамленне кіраўніка ваеннага аддзела ЦК КП(б)Б Прохарава «Аб працы ваеннага аддзела ЦК КП(б)Б», не раней за 1 студзеня 1945 г.

[4] Там же.

[5] Там же.

[6] Sielicki F. Losy mieszkańców Wilejszczyzny w latach 1939—1946 // Slavica Wratislaviencia. T. LXXXII. Wrocław, 1994. S. 112—117.

[7] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 112—113. Паведамленне аб выніках праверкі па факце калектыўнай заявы грамадзян вёсак Падбалоцце і Самаравічы Зэльвенскага раёна, складзенага на імя старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета М. Калініна. 07.11.1945 г., за подпісам начальніка арганізацыйна-інструктарскага аддзела КП(б)Б Тузава.

Трэба, аднак, заўважыць, што ў некаторых выпадках прызнанне сябе палякам прыносіла пэўную карысць. У час перасялення (гэта датычыць хутчэй 1945 г., чым другой паловы 1944 г.) палякаў з заходніх абласцей БССР, якія былі запісаны на выезд у Польшчу, звальнялі ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію і на прамысловасць, а таксама ад абавязковых падаткаў і паставак сельскагаспадарчай прадукцыі. На практыцы гэтыя прынцыпы часта парушаліся, пра што сведчаць шматлікія зафіксаваныя ў дакументах факты. На падставе аднабаковых (бо яны паказваюць меркаванне толькі аднаго боку) партыйных дакументаў часта цяжка высветліць, ці людзі рабілі гэта з кан'юнктурных меркаванняў, ці сапраўды кіраваліся патрыятычнымі пачуццямі.

У снежні 1944 г. у Гродне многія маладыя палякі атрымалі павесткі ў ваенкаматы, адкуль іх нібыта павінны былі адправіць у Беласток у армію Берлінга. Пасля таго як у камісарыят з'явілася менш за 10% прызыўнікоў, пачаліся арышты. З агульнай колькасці 450 прызыўнікоў большасць складалі польскія служачыя і падафіцэры. Частку мабілізаваных нібыта адаслалі ў армію Берлінга, астатніх — у Мінск[8]. Падобнай выглядае сітуацыя часткі мабілізаваных з былога Віленскага ваяводства. У час мабілізацыі ім гаварылі, што яны будуць служыць у польскім войску, але яны былі размеркаваны ў Чырвоную Армію. У лісце «польскіх грамадзян» з горада Мурама Горкаўскай вобл. (Расія) у Саюз польскіх патрыётаў у Маскве вынікае, што ў іх аддзеле было 600 палякаў, у тым ліку падафіцэраў і афіцэраў[9]. Верагодна, пры дапамозе ліста ў Саюз польскіх патрыётаў групе мабілізаваных з вёскі Равячкі (Маладзечанская вобл.) удалося перабрацца з Архангельска ў Люблін. Пасля гэтага беларусы, якія таксама былі ў лагеры, не захацелі заставацца ў савецкім войску і таксама запісаліся палякамі[10].

Яшчэ ў адным лагеры — Ільіна каля Горкага — знаходзілася каля 4 тысяч палякаў, «мабілізаваных з Віленшчыны і заходніх абласцей Беларусі». У хуткім часе быў аддадзены загад усіх палякаў перавесці ў польскае войска. Але, нягледзячы на гэта, 1 тыс. палякаў пакінулі ў лагеры, каб адправіць у Чырвоную Армію. Выпускнік Маскоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча прапаршчык Багушэўскі, які прыехаў у часць, адзначаў, што «настроі сярод палякаў дрэнныя, але ён меў справы і з горшым элементам». І запэўніў, што «і гэтым дасць рады». Аб пераводзе ўсіх палякаў у НВП 22 верасня 1944 г. было складзена хадайніцтва Молатаву[11]. На жаль, на падставе даступных матэрыялаў аўтару не ўдалося высветліць, якім быў працяг справы.

---

[8] Цыт. паводле: Białostocczyzna 1944—1945 ... S. 75. Дакладная запіска №11 начальніка акругі АК Беласток ад 5 студзеня 1945 г. Рапарт начальніка абвода Гродна (Правы Нёман).

[9] Archiwum MZS Polski, Zespół 27, teczka 22, k. 1. Водпіс (копія) № 8329/5 у Саюз польскіх патрыётаў у Маскве, 15.08.1944 г. Адпаведнасць пацвердзіў капрал Ткачык, сакратар вайсковага аддзела СПП.

[10] Цыт. паводле: Sielicki F. Losy mieszkańców Wilejszczyzny ... S. 112. Успаміны Рамана Малькі 1926 г.н.

[11] Archiwum MZS Polski, Zespół 27, teczka 22, k. 1; teczka 27, k. 3. Інфармацыйная запіска (копія), не пазней за 22.IX.1944 г.

У раёнах Гродзенскай вобл., населеных пераважана палякамі, быў абвешчаны набор у НВП. Павесткі атрымалі «грамадзяне польскай нацыянальнасці» 04.12. — 10.12.1944 г. У Радунскім раёне была створана спецыяльная камісія, у якую павінны былі ўвайсці найлепшыя прадстаўнікі партыйнай і савецкай адміністрацыі. Дадзеная камісія павінна была займацца высвятленнем і пацвярджэннем польскай нацыянальнасці прызыўнікоў. Падобная камісія была створана таксама ў Сапоцкінскім раёне[12]. 3—10 снежня 1944 г. усе мужчыны прызыўнога ўзросту павінны былі стаць на ўлік у камісарыятах. На практыцы мабілізацыя ў польскае войска была праведзена так сама, як і перад гэтым мабілізацыя ў Чырвоную Армію. Так, у Сапоцкінскім раёне мабілізацыя праводзілася гвалтоўна. З данясення раённага ваеннага камісара Міхеева:

> (...) Несмотря на разъяснительную работу, проведенную в Воловичевском, Соничском, Сопоцкинском с/с, никто из призванных не явился в военкомат в Сопоцкин. В сельсоветах Польнобогатырском, Старобогатырском и Рыгаловском мобилизация была сорвана. Молодежь скрывается и не желает идти в армию[13].

Прычыны такой сітуацыі бачыліся ў «варожай прапагандзе, скіраванай на зрыў планаў мабілізацыі». Начальнік раённага аддзела НКУС Голаў указаў на вінаватых: «пасланнікі лонданскага ўрада»[14].

У многіх населеных пунктах планы мабілізацыі ў савецкае войска былі цалкам сарваныя з-за сабатажу жыхароў, якія не лічылі, што павінны служыць у войску чужой дзяржавы. У Воранаўскім раёне Гродзенскай вобл. «усе прызыўнікі гэтага года хаваюцца ў лясах, у вёсках раёна зусім няма мужчын прызыўнога ўзросту. У Рамашканскім сельсавеце з 200 чалавек прызыўнога ўзросту ніводзін не стаў на ўлік у камісарыят»[15]. Уцекачы папаўнялі аддзелы антысавецкага падполля. У выніку праведзенай аблавы ў Воранаўскім раёне («аперацыі па ліквідацыі белапольскіх банд і вяртанні кантынгенту прызыўнікоў») было затрымана больш за 1000 чалавек, «удзельнікаў банд, контррэвалюцыйных зграй, якія хаваліся ў лясах»[16]. Пры правядзенні такіх аперацый часам даходзіла да расстрэлаў: 15 ліпеня 1944 г. падчас эскартавання 159 мабілізаваных з мястэчка Солы ў Вілейку пры спробе ўцёкаў

---

[12] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 3, арк. 19. Пратакол № 7 Радунскага раённага камітэта КП(б)Б, снежань 1944 г. Мабілізацыя грамадзян БССР польскай нацыянальнасці праводзілася на падставе пастановы Ваеннага савета Главупраформа (Галоўнае ўпраўленне фармавання і ўкамплектавання войскаў) Чырвонай Арміі, а таксама рашэння Беларускай ваеннай акругі, абкама і аблвыканкама.

[13] ДАГАГВ. Ф. 8, воп. 1, спр. 1, арк. 10. Пратакол №6 Сапоцкінскага раённага камітэта РК КП(б)Б 02.10.1944 г., за подпісам сакратара райкама Бельскага.

[14] Тамсама.

[15] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 18—19. Інфармацыйная запіска «Аб ходзе ліквідацыі белапольскіх банд у Воранаўскім раёне», 27.09.1944 г., за подпісам сакратара Воранаўскага РК КП(б)Б Трыгубовіча.

[16] Тамсама.

было забіта 18 і ранена 20 чалавек. У Вілейку даставілі толькі трох[17]. Усяго за некалькі дзён у верасні 1944 г. у Воранаўскім раёне было забіта 25 чалавек «белабандытаў», якія аказвалі супраціўленне[18].

У Юрацішкаўскім і Стаўбцоўскім раёнах ад мабілізацыі ўхіліліся больш за 1000 чалавек. У Баранавіцкай вобл. у час пераходу да пунктаў этапу дэзерціравалі 2 164 чалавекі[19]. У Ашмянскім раёне Маладзечанскай вобл. з 7 тыс. мабілізаваных на ваенную службу на ўлік у камісарыят «у дзень 29 верасня 1944 г. сталі толькі 740 чалавек, з якіх 50 % уцяклі па дарозе да ваеннай часці. Усе хаваюцца ў лясах»[20]. Упаўнаважаны па пастаўках збожжа ў Ашмянскім раёне (Маладзечанская вобл.) Маракулін дакладваў у ЦК КП(б)Б:

> В райвоенкоматах неспособные организовать работу люди: военком Никитин пьянствует, морально разложен, мародерствует (до 56 случаев), берет взятки за дополнительный отпуск для военнослужащих (40 случаев)[21].

На той час гэта была досыць распаўсюджаная з'ява: у перыяд з 1 студзеня па 1 снежня 1944 г. НКУС СССР прыцягнуў да крымінальнай адказнасці 2 757 чалавек, у тым ліку і супрацоўнікаў ваенкаматаў і лячэбных камісій, за ўкрыванне дэзерціраў і ваеннаабавязаных[22]. У Радунскім раёне (Гродзенская вобл.) ваенкам Аўдоцін масава браў хабар за звальненне ад ваеннай службы, у выніку чаго мабілізацыя ў гэтым раёне сарвалася, а сярод мясцовага насельніцтва замацавалася меркаванне, што ад савецкага войска можна адкупіцца[23].

Падчас акцый па «вылоўліванні» мабілізаваных частымі былі выпадкі марадзёрства, неабгрунтаваныхператрусаў, у ходзе якіх знікалі асабістыя рэчы жыхароў. У Мастоўскім раёне (Гродзенская вобл.) ваенкам Барысаў разам са сваімі афіцэрамі «з моманту вызвалення тэрыторыі раёна займаўся п'янствам, збіваннем савецкіх грамадзян і незаконна адбіраў іх маёмасць». У лютым, у час праверкі кватэры гр. Кандрацюка з вёскі Дарагляны, афіцэры скінулі яго хворую маці з ложка і пабілі яе. Супрацоўнікі ваенкамата забралі боты гаспадара, літр гарэлкі і прадукты. У тым самым месяцы ваенкам затрымаў Восіпа (*Юзафа? — Я.Ш.*) Лапіча, асобу сталага

---

[17] НАРБ. Ф. 4, воп. 37, спр. 155, арк. 35. Дакумент цытуецца паводле: С.Ёрш. Пасляваенны супраціў ... С. 35.

[18] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 18.

[19] Освобожденная Беларусь ... С. 13.

[20] Там же.

[21] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 812а, арк. 63. Інфармацыйная запіска ўпаўнаважанага па пастаўках збожжа ў Ашмянскім раёне Маракуліна ў ЦК КП(б)Б, 26.10.1944 г.

[22] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 493, л. 23. Паведамленне падпісана начальнікам Упраўлення па барацьбе з бандытызмам СССР, камісарам дзяржаўнай бяспекі 3-га рангу А.Лявонцьевым, 08.01.1945 г.

[23] ДАГАГВ. Ф. 11, воп.1, спр.3, арк. 1, 1 адв. Пратакол №1 Радунскага РК КП(б)Б, 30.07.1944 г., за подпісам сакратара райкама Куляшова.

веку, і адабраў у яго каня. Такія дзеянні выклікалі страх і прыхаваны гнеў жыхароў. Маштаб гэтай з'явы быў такім вялікім (пра што сведчаць шматлікія задакументаваныя факты), што партыйны камітэт вырашыў прыцягнуць ваенкама да партыйнай і крымінальнай адказнасці[24]. Аб вымаганні хабару ад вяскоўцаў і аб тэроры аддзелаў НКУС сведчаць таксама дакументы польскага падполля:

> Частыя аблавы днём і ноччу. Пры аблавах адбываюцца страшныя рэчы. Вяскоўцаў тэрарызуюць, вымагаючы хабар. 4.11.1944 г. у вёсцы Падкрыжакі (*Гродзенскі раён — Я.Ш.*) супрацоўнікі НКУС забілі Вацлава Янкоўскага, паляка, 44 гадоў, многіх іншых арыштавалі. Выходзіць вечарам на вуліцу вельмі небяспечна. Савецкія афіцэры адбіраюць на вуліцах гадзіннікі, грошы, паліто, боты і г.д.[25].

Пэўная частка мабілізаваных здолела схавацца. Паводле справаздач НКУС СССР, у сакавіку 1945 г. на тэрыторыі Беларусі хаваліся 6 654 асобы, абавязаныя служыць у войску. У ходзе чэкісцка-ваеннай аперацыі агульная колькасць тых, каго затрымалі, забілі або хто здаўся добраахвотна, складала 1 222 асобы[26]. Загад Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 7 ліпеня 1945 г. «Аб амністыі ў сувязі з перамогай над гітлераўскай Германіяй» і папярэднія амністыі спрычыніліся да легалізацыі ўхілістаў. У жніўні 1945 г. у Гродзенскай вобл. у ходзе правядзення аперацыі НКУС легалізавалася 2 877 дэзерціраў і тых, хто ўхіляўся ад ваеннай службы ў Чырвонай Арміі[27].

Розніца паміж усходняй і заходняй часткамі Беларусі заключалася ў прынцыпова адрозным стаўленні мясцовага насельніцтва да пытання мабілізацыі ў савецкае войска. Калі ва ўсходняй частцы большасць успрымала абавязак службы ў Чырвонай Арміі як натуральны, на Захадзе дамінавала іншае меркаванне. У шэрагу населеных пунктаў Усходняй Беларусі пасля правядзення мабілізацыі ў вёсках засталіся толькі жанчыны, дзеці і старыя. Жыхарка вёскі Мехаўка Чэрвенскага раёна Мінскай вобл. успамінае, што пасля мабілізацыі ў Чырвоную Армію ў вёсцы з мужчын застаўся толькі адзін 80-гадовы дзед[28].

Паводле дадзеных Упраўлення па барацьбе з бандытызмам МУС СССР, за перыяд 1944—1947 гг. у заходніх абласцях БССР было арыштавана 74 396 чалавек, якія ўхіляліся ад службы ў Чырвонай Арміі, у тым ліку было забіта 133 асобы, арыштавана — 2 667, легалізавана — 10 131 і перададзена іншым органам —

---

[24] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 31, арк. 8, 9. Пратакол № 7 Мастоўскага РК КП(б)Б, 21.03.1945 г., за подпісам сакратара райкама Пеніна.

[25] Цыт паводле: Białostocczyzna 1944—1945 ... S. 75. Рапарт начальніка абвода Гродна (Правы Нёман), не пазней за 5 студзеня 1945 г.

[26] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 516, л. 111. Інфармацыйная запіска, падпісаная начальнікам 3-га аддзела НКУС СССР маёрам Галаўлёвым, 05.04.1945 г.

[27] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 416, л. 121. Інфармацыйная запіска № 11/3639, 18.10.1945 г., за подпісам начальніка Упраўлення па барацьбе з бандытызмам БССР палкоўніка Гранскага.

[28] Успаміны Ядвігі Ляскоўскай (у дзявоцтве — Урублеўская), 1935 г. н., в. Мехаўка Чэрвенскага раёна (Мінская вобл.). Запісаны аўтарам 22.07.2006 г.

61 462. Дэзерціраў у гэты перыяд было схоплена 19 717 чалавек, забіта — 146, арыштавана — 2 635, легалізавана — 2 070, перададзена іншым органам — 14 866[29].

Мабілізавалі не толькі людзей, але і коней. ЦК КП(б)Б загадваў кожнаму абкаму аказваць пры гэтых мерапрыемствах любую дапамогу абласным і раённым ваенным камісарам. Мабілізацыя коней павінна была быць завершана да 17 жніўня 1944 г. Партыйныя органы атрымалі адначасова дырэктыву, у якой гаварылася, што коней трэба мабілізаваць з індывідуальных гаспадарак, звальняючы сем'і беднякоў, ваеннаслужачых і тых, хто пацярпеў у час нямецкай акупацыі[30].

## МАБІЛІЗАЦЫЯ НА ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Страты, якія панёс Савецкі Саюз у час вайны, вымушалі шукаць крыніцы папаўнення «нястачы». З гэтага пункта гледжання заходнія вобласці БССР, якія пацярпелі ў меншай ступені, чым усходняя частка, з'яўляліся нядрэнняй крыніцай папаўнення ваенных рэзерваў і рабочай сілы на розных працах у глыбіні СССР. Акрамя мабілізацыі ў войска, праводзіўся прымусовы набор для працы на прамысловасці і на адбудове зруйнаванай краіны, а таксама з мэтай асваення маланаселеных раёнаў СССР. Падобна як і ў сітуацыі з мабілізацыяй у войска, ДКА прыняў таксама рашэнне аб мабілізацыі ў розныя сферы гаспадаркі краіны. Камітэт уліку і размеркавання рабочай сілы пры Савеце Міністраў СССР займаўся непасрэдным размеркаваннем «чалавечага кантынгенту» ў асобныя камісарыяты. Улады на рэспубліканскім узроўні, напрыклад, БССР, не прымалі самастойных рашэнняў адносна колькасці, характару і тэрмінаў мабілізацыі. Усе рашэнні прымаліся ў Маскве, нават для мабілізацыі 2 550 чалавек на працы па здабычы торфу Савет Народных Камісараў БССР вымушаны быў атрымліваць дазвол ад ДКА[31].

Тэарэтычна, пад мабілізацыю падпадалі мужчыны ва ўзросце ад 16 да 55 гадоў і жанчыны ад 16 да 50 гадоў. Аднак мабілізавалі найперш моладзь і працаздольных людзей. Камітэт уліку і размеркавання рабочай сілы пры Савеце Міністраў СССР выдаваў розныя дырэктывы наконт правядзення мабілізацыі, спрабуючы адначасова ацаніць чалавечыя рэсурсы і спосабы прыцягнення рабочай сілы. Прыведзеная ніжэй табліца паказвае адзін з прапанаваных спосабаў ацэнкі рабочай сілы шляхам уліку калгасаў і калгаснікаў. Такая формула відавочна не стасавалася з умовамі Заходняй Беларусі, бо ў 1944—1948 гг. яшчэ не была праведзена калектывізацыя сялянства. У той час было прапанавана мабілізаваць пэўны працэнт рабочай сілы з улікам агульнай колькасці калгаснікаў.

---

[29] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 764, л. 9. Інфармацыйная запіска, за подпісам начальніка аддзела па барацьбе з бандытызмам МУС СССР генерал-лейтэнанта А.Лявонцьева, 15.02.1947 г.

[30] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 27, арк. 96. Тэлеграма ў Вілейскі, Баранавіцкі, Брэсцкі, Пінскі, Беластоцкі абкамы, 14.07.1944 г., за подпісам сакратара ЦК КП(б)Б Маліна.

[31] РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 234, л. 133. Пастанова ДКА № ГОКО-5622сс, 13.04.1944 г., за подпісам В.Молатава.

Табліца 1

**ІНФАРМАЦЫЯ АБ РЭСУРСАХ РАБОЧАЙ СІЛЫ Ў БССР[32]**

| ЗАХОДНІЯ ВОБЛ. БССР | КОЛЬКАСЦЬ КАЛГАСНІКАЎ МУЖЧЫНСКАГА ПОЛУ ВА ЎЗРОСЦЕ 16—55 ГАДОЎ І ЖАНОЧАГА ПОЛУ ВА ЎЗРОСЦЕ 16—50 ГАДОЎ | АГУЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ КАЛГАСНІКАЎ ПАВОДЛЕ СІТУАЦЫІ НА 1 СТУДЗЕНЯ 1945 Г. | КОЛЬКАСЦЬ ПРАЦАЗДОЛЬНЫХ КАЛГАСНІКАЎ НА 1 КАЛГАС | АРГАНІЗАВАНАЯ ГАДАВАЯ ВЯРБОЎКА РАБОЧАЙ СІЛЫ (ТЫС. ЧАЛ.) |
|---|---|---|---|---|
| БАРАНАВІЦКАЯ | 0,2 | 6 | 33 | — |
| БРЭСЦКАЯ | — | — | — | — |
| ГРОДЗЕНСКАЯ | — | — | — | — |
| МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ | 0,6 | 26 | 20 | — |
| ПІНСКАЯ | 0,3 | 6 | 50 | — |
| ПОЛАЦКАЯ | 37,3 | 694 | 54 | 4,3 |

*Крыніца:* ГАРФ. Ф. 9517, оп. 1с, д. 51, л. 1—4.

Для ацэнкі выкарыстоўваўся наступны прынцып: калгасы, дзе працаздольных калгаснікаў было менш за 50, павінны былі даць чатырох чалавек; ад 51 да 75 — 6 чалавек; ад 76 да 100 — 8 чалавек; ад 101 да 125 — 10 чалавек, больш за 225 — 20 чалавек. Трэба адзначыць, што на практыцы гэты прынцып часта ігнараваўся, таму што патрэбы ў рабочай сіле ўсё раслі і вымушалі савецкую ўладу вызначаць кантынгент вярбоўкі для кожнай вобласці паводле ўласнай прыхамаці, не зважаючы на абмежаваныя магчымасці і чалавечыя рэсурсы.

На працягу 4 квартала 1944 г. улады БССР павінны былі вылучыць на патрэбы прамысловасці і будаўніцтва ў СССР 139 тыс. чал. Яны здолелі мабілізаваць толькі 110,78 тыс. чал. Аналіз дакументаў Камітэта ўліку і размеркавання рабочай сілы пры Савеце Міністраў паказвае, што Беларусь займала другое пасля Украіны месца ў чорным спісе рэспублік СССР, адкуль бралі дэ-факта прыгонную рабочую сілу[33].

Раскручаны махавік вярбоўкі рабочай сілы набіраў усё большыя абароты. На працягу мая—чэрвеня 1945 г. для працы на прамысловасці і будаўніцтве, на падставе загада Савета Міністраў СССР №77688р, трэба было мабілізаваць толькі ў заходніх абласцях БССР ужо 250 тыс. чал., у тым ліку з Баранавіцкай вобл. — 50 тыс., з Брэсцкай — 40 тыс., з Гродзенскай — 40 тыс., з Маладзечанскай — 40 тыс., з Пінскай — 50 тыс., з Полацкай — 30 тыс[34]. Паводле

[32] Прыведзеныя дадзеныя ўзяты з матэрыялаў Камітэта ўліку і размеркавання рабочай сілы пры Савеце Міністраў СССР. Табліца ўлічвае толькі заходнія вобласці СССР, у дакуменце ж пададзены ўсе вобласці былога СССР. У склад Полацкай вобл. уваходзіла 9 «заходніх» раёнаў, астатнія належалі да Усходняй Беларусі. Дакумент не пазначаны ні дакладнай датай, ні подпісам, як можна меркаваць, створаны ў другой палове 1944 г.

[33] ГАРФ. Ф. 9517, оп. 1с, д. 51, л. 51—54. Справаздача, пазначаная грыфам «Зусім сакрэтна», аб мабілізацыі насельніцтва на працу на прамысловасці, будаўніцтве, на сезонныя працы і прызыў моладзі ў школы ФЗВ і РВ у 4 квартале 1944 г., за подпісам Забеліна, 01.12.1944 г.

[34] Там жа, л. 61. Справаздача аб ходзе мабілізацыі па загаду начальніка аддзела ўліку і справаздачы Камітэта ўліку і размеркавання рабочай сілы пры Савеце Міністраў СССР Н.Забеліна, 14.05.1945 г.

дадзеных на 1 студзеня 1945 г., на тэрыторыі Баранавіцкай вобл. у той час жыло 579,6 тыс. чал., Брэсцкай — 404,7 тыс. чал., Маладзечанскай — 496,3 тыс. чал., Пінскай — 349,5 тыс. чал., Полацкай — 394,6 тыс. чал[35]. Мабілізаваных накіроўвалі ў Чалябінскую, Кемераўскую, Іркуцкую вобласці, у Краснадарскі край і г.д.

Маштаб гэтай з'явы быў настолькі вялікі, што для некаторых сем'яў выезд у Польшчу быў адзіным магчымым выйсцем для выратавання цэльнасці сям'і. Жыхарка вёскі Павяцце Мёрскага раёна (Полацкая вобл.) Эмілія Масла запісалася на выезд у Польшчу, каб уратаваць сваіх дачок ад мабілізацыі на вытворчасць. Такая самая матывацыя была ў яшчэ адной сям'і з вёскі Картавыя таго самага раёна: «Мы павінны былі выратаваць нашых дачок ад мабілізацыі на ўральскія фабрыкі»[36]. У вёсцы Стральцы Скідзельскага раёна (Гродзенская вобл.) у ходзе вярбоўкі рабочай сілы ў Гродна нейкі «кулацкі агент» перасцерагаў: «Не ідзіце на працу ў Гродна, бо вас вывезуць на Урал»[37].

Маёр Уладыслаў Шымборскі («Акраса», «Бонк»), які выконваў функцыі інспектара Гродзенскага АК, паведамляў у сваім рапарце аб ходзе мабілізацыі ў Гродне: «Нягледзячы на супраціўленне, міліцыя, НКУС і камуністы хапалі мужчын па дамах, на дарогах і на працоўных месцах»[38]. У Сапоцкінскім раёне Гродзенскай вобл. мабілізацыя ў армію і на працу ў прамысловых раёнах пры дапамозе войска атрымала ў мясцовых жыхароў назву «хапун». У выніку склалася сітуацыя, што на «заклік уладаў у Сапоцкінскім раёне прыйшлі на сход толькі старыя і дзеці»[39].

Мужчыны арганізоўвалі ў лясах схованкі, капаючы зямлянкі: там яны маглі схавацца ад патруля НКУС. Але трэба было працаваць на гаспадарцы, таму яны арганізоўвалі варту. Мужчыны пераапраналіся ў жаночае адзенне і ў хустках і спадніцах аралі і баранавалі. Да сем'яў уцекачоў прымянялі розныя спосабы ціску, што вымушала іх выходзіць са схованак і з'яўляцца ў ваенкамат[40].

Спосаб правядзення мабілізацыі часта нагадваў нямецкія аблавы. Па загадзе старшыні выканаўчага камітэта ў Слоніме (Баранавіцкая вобл.) у студзені

---

[35] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 9. Статыстычныя дадзеныя ўпраўлення статыстыкі ўпаўнаважанага Дзяржплана СССР у БССР аб колькасці насельніцтва ў БССР паводле дадзеных на 1 студзеня 1945 г.

[36] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 57.

[37] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 338. Інфармацыйная запіска аб масавапалітычнай працы і палітычных настроях сярод насельніцтва ў Бабруйскай, Баранавіцкай і Гродзенскай абласцях, 05.10.1945 г.

[38] Raport sytuacyjny inspektora grodzieńskiego AK z dnia 26.09.1944 r. Białostocczyzna 1944—1945 ... S. 68.

[39] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 84. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім абкамам пастановы ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г., за подпісам Шэмелева, намесніка кіраўніка арганізацыйнага бюро ЦК КП(б)Б.

[40] Цыт. паводле: Sielicki F. Op. cit. S. 113—115. Успаміны Генрыка Сяліцкага з в. Мікуліна Вілейскага раёна (Мінская вобл.).

1944 г. на мясцовым базары пачалі хапаць людзей. Схопленыя людзі, нягледзячы на тое, што ў іх былі дакументы на выезд у Польшчу, накіроўваліся на працу за межы вобласці. Дзвюх полек (Галавач і Клачко) схапілі ноччу, пасадзілі ў вагон і вывезлі. Па дарозе ім удалося ўцячы і схавацца ў лесе[41].

На ўзроўні кожнага партыйнага абласнога камітэта для кожнага асобнага раёна складаўся спіс людзей, якіх трэба было скіраваць на працу ў розныя раёны СССР. З Брэсцкай вобл. толькі на высечку лесу ў Карэла-Фінскай ССР з 15 кастрычніка 1948 г. па 1 красавіка 1949 г. трэба было мабілізаваць 850 чалавек. Прыведзеная ніжэй табліца паказвае колькасць людзей, якія падлягалі мабілізацыі па кожным раёне Брэсцкай вобл.

Табліца 2

**ПЛАН ДАСТАЎКІ ПРАЦОЎНАГА КАНТЫНГЕНТУ Ў КФССР ДЛЯ БРЭСЦКАЙ ВОБЛ. НА ПЕРЫЯД З 15.10.1948 ПА 01.04.1949 Г.**

| РАЁН | КОЛЬКАСЦЬ ЧАЛАВЕК |
|---|---|
| АНТОПАЛЬСКІ | 70 |
| БРЭСЦКІ | 50 |
| БЯРОЗАЎСКІ | 70 |
| ВЫСОКАЎСКІ | 90 |
| ДАМАЧАЎСКІ | 20 |
| ДЗІВІНСКІ | 70 |
| ЖАБІНКАЎСКІ | 50 |
| КОБРЫНСКІ | 70 |
| КАМЯНЕЦКІ | 80 |
| ІВАЦЭВІЦКІ | 45 |
| ПРУЖАНСКІ | 60 |
| РУЖАНСКІ | 55 |
| МАЛАРЫЦКІ | 60 |
| ШАРАШОЎСКІ | 60 |
| УСЯГО | 850 |

*Крыніца:* НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 648, арк. 58.

У адносна невялікім Ляхавіцкім раёне Баранавіцкай вобл. на працягу 1948 г. на працу ў аб'яднанні «СергешБумлес» было накіравана 20 чалавек, у «Челябинскшахтстрой» — 10 чалавек. У наступныя тры гады ў «Ленморстрой» (КФССР) было скіравана больш за 300 чалавек працаздольнага ўзросту[42]. Трэба адзначыць, што ў дадзеным выпадку сем'і не перасяляліся, а праца была платнай і на канкрэтны тэрмін.

Акрамя накіравання на працы за межамі Беларусі, праводзіліся таксама мабілізацыі на розныя працы ўнутры рэспублікі. Адбудова інфраструктуры гарадоў і мястэчак, мастоў, высечка і вываз лесу — вось толькі частка абавязкаў,

[41] Вялікі А. Беларусы і палякі ... С. 124.

[42] Лісейчыкаў Д. Другія Саветы (асаблівасці палітычнага жыцця Ляхавіччыны ў 1944—1950 гг.) // Terra Historica. 2002. № 1. С. 67. Лічбы, прыведзеныя аўтарам артыкула, узяты з Занальнага дзяржаўнага архіва ў г. Баранавічы.




*Прапагандысцкі плакат «Лесорубы».*

якія клаліся на грамадзян. За ўхіленне ад такіх прац, згодна з тагачасным заканадаўствам, пагражала крымінальная адказнасць, бо гэта кваліфікавалася як сабатаж. Паводле рашэння Сапоцкінскага РК КП(б)Б (Гродзенская вобл.), на высечку і вываз лесу ў Гродна трэба было мабілізаваць 1714 коней і 584 фурманоў. Кожны чалавек павінен быў прывезці 30 куб. м лесу для прамысловых мэт, у суме — 15 000 куб. м. У выпадку, калі нехта адмаўляўся або самавольна пакідаў месца працы, складаўся пратакол і накіроўваўся ў пракуратуру. Прызнаныя вінаватымі грамадзяне неслі крымінальную адказнасць[43].

## МАБІЛІЗАЦЫЯ МОЛАДЗІ Ў ФЗВ І РВ

Вялікае значэнне надавалася набору вясковай моладзі ва ўзросце 16—18 гадоў у фабрычна-заводскія вучылішчы (ФЗВ), якія часцей за ўсё знаходзіліся па-за межамі Беларусі. Такім чынам дзяржава атрымлівала каштоўныя чалавечыя рэсурсы для фактычна прымусовых прац на прамысловасці. Партыйныя ўлады БССР, часта дэманструючы празмерную стараннасць, паведамлялі ў Маскву аб перавыкананні плана набору навучэнцаў. У 4-м квартале 1944 г. улады БССР мабілізавалі ў ФЗВ і рамесніцкія вучылішчы (РВ) 17,8 тыс. чалавек замест патрэбных 14,4 тыс.[44] У Гродзенскай вобл. адно з першых распараджэнняў аб мабілізацыі моладзі «Аб наборы (мабілізацыі) моладзі ў чыгуначныя рамесніцкія школы ФЗН у 1944 г.» датуецца 8 вераснем. Гэта была чарговая іскра ў ланцугу дырэктыў з цэнтра. Партыйная і савецкая ўлада (абкам і аблвыканкам), кіруючыся пастановай Савета Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б № 234/1 ад 7 верасня 1944 г., абавязалі раённыя ўлады набраць у перыяд з 18.09.1944 г. па 15.10.1944 г. 150 чалавек моладзі мужчынскага полу ў рамесніцкія і чыгуначныя вучылішчы, а 200 чалавек вясковай і гарадской моладзі — у школы ФЗН.

У ФЗН мабілізавалі хлопцаў 15—17 гадоў, дзяўчат 16—17 гадоў. У рамесніцкіх і чыгуначных вучылішчах навучаліся хлопцы 14—15 гадоў і дзяўчаты 15—16 гадоў. У першую чаргу мабілізацыі падлягалі тыя маладыя людзі, якія не вучыліся і не працавалі, але калі такіх было недастаткова, прызывалі вучняў школ (акрамя 8—10 класаў). Паказальна, што з 200 высланых у Свярдлоўскую вобл. (Расія) чалавек, большасць былі вяскоўцы, а ў Гродне ў рамесніцкім вучылішчы № 14 было пакінута 150 чалавек, якія паходзілі з гарадоў[45].

Брэсцкі абласны партыйны камітэт, кіруючыся пастановай Савета Міністраў СССР ад 4 кастрычніка 1948 г. № 3715—1514, абавязаў старшыняў саветаў выканаўчых камітэтаў і раённых камісараў у тэрмін з 15.10.1948 г. па 30.10.1948 г. прызваць у Брэсцкай вобл. у школы ФЗВ вугальнай прамыслова-

[43] ДАГАГВ. Ф. 8, воп. 1, спр. 1, арк. 34, 34 адв. Пастанова Сапоцкінскага РК КП(б)Б, 24.11.1944 г., за подпісамі Бельскага і Агудаліна.

[44] ГАРФ. Ф. 9517, оп. 1с, д. 51, л. 17. Справаздача з грыфам «Зусім сакрэтна» аб мабілізацыі насельніцтва на працы на прамысловасці, будаўніцтве, сезонныя працы, набор моладзі ў ФЗВ і РВ у 4-м квартале 1944 г., за подпісам Забеліна, 01.12.1945 г.

[45] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 1, арк. 141—146. Пастанова Гродзенскага аблвыканкама і абкама КП(б)Б ад 8 верасня 1944 г. «Аб мабілізацыі моладзі ў чыгуначныя рамесніцкія вучылішчы і школы ФЗН у 1944 г.».




*Прапагандысцкі плакат «ФЗУ».*

ці 1500 чалавек з тых, хто павінен служыць у войску[46]. Праз месяц патрабавалася новая партыя моладзі. Згодна з пастановай Савета Міністраў БССР, ЦК КП(б)Б №1546-491 ад 2 лістапада 1948 г, з Брэсцкай вобл. трэба было даслаць у распараджэнне Міністэрства працоўных рэсурсаў 450 чалавек ва ўзросце 16—18 гадоў. З гэтых людзей планавалася падрыхтаваць кваліфікаваныя кадры для працы ў прамысловасці, на чыгунцы і ў будаўніцтве. У Ленінград планавалася выслаць 300 чалавек, у той час як у Брэст — 150[47].

За ўхіленне ад мабілізацыі ў ФЗВ і РВ пагражала крымінальная адказнасць у выглядзе гадавой прымусовай працы ў месцы, куды быў мабілізаваны пакараны. Нягледзячы на пакаранне, моладзь рознымі спосабамі імкнулася пазбегнуць мабілізацыі. Выраблялі дакументы з іншай датай нараджэння, г. зн. запісваліся маладзейшымі, хадзілі ўладкоўвацца на працу на мясцовыя прадпрыемствы, на чыгунку і г.д., абы толькі атрымаць *бронь* (*дакумент, які дае права не быць мабілізаваным, — Я.Ш.*). Скарыстаўшыся звыклым вэрхалам у сельсаветах Ружанскага раёна, ніводны з 35 чалавек, якіх павінны былі мабілізаваць, не быў прызваны[48]. У некаторых раёнах для дастаўкі «будаўнікоў светлай будучыні», якія не з'явіліся на месца прызначэння, выкарыстоўвалася міліцыя (Сапоцкінскі раён). Каб папярэдзіць магчымы сабатаж чарговага мерапрыемства, мясцовыя ўлады дасылалі павестак больш, чым было патрэбна. У Сапоцкінскім раёне планавалася мабілізаваць 35 чалавек, павесткі ж атрымалі 118; у Скідзельскім раёне для мабілізацыі 30 чалавек было разаслана 190 павестак. Нягледзячы на гэта, у Сапоцкінскім раёне, паводле дадзеных на 06.08.1946 г., план мабілізацыі ў ФЗВ быў выкананы толькі на 21%, у Скідзельскім — на 27%, у Мастоўскім — на 30%[49].

Метады і сродкі мабілізацыі ў ФЗВ былі рознымі: ад прымусовай мабілізацыі моладзі пэўнага года нараджэння (якія павінны былі прызывацца ў войска) да затрымання вучняў старэйшых класаў у школах. На той час у школах было шмат падлеткаў, якія маглі працаваць. У вёсцы Жары (Вілейшчына) дырэктар школы быў папярэджаны аб аблаве на вучняў. Калі на наступны дзень прыехала машына, там не было каго хапаць, бо папярэджаныя дзеці не прыйшлі ў школу. У суседняй Дуброўцы, дзе выкладала расіянка, энкавэдысты акружылі школу і забралі шмат дзяцей. Схопленую моладзь пільнавалі салдаты, затым садзілі ў вагоны і вывозілі. Станіслава Сяліцкага 1925 г.н. (паводле дакументаў — 1928 г.) у вёсцы Мікуліна (Вілейшчына) схапілі разам з калегамі ў кастрычніку 1944 г. і вывезлі ў Перваўральск. Падарожжа доўжылася амаль месяц; калі прыехалі на месца, моладзь раздзялілі на тры часткі паміж прадпрыемствамі. Іх навучалі таму, як здабываецца жалезная

[46] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 684, арк. 35. Пратакол № 99 пасяджэння бюро Брэсцкага абкама КП(б)Б ад 14 кастрычніка 1948 г. з грыфам «Зусім сакрэтна», за подпісам сакратара Брэсцкага абкама Чарнышова.

[47] Тамсама, арк. 137—156. Пратакол № 103 пасяджэння бюро Брэсцкага абкама КП(б)Б ад 11 лістапада 1948 г., пад грыфам «Зусім сакрэтна».

[48] Тамсама, арк. 291. Пратакол № 107 пасяджэння бюро Брэсцкага абкама КП(б)Б ад 9 снежня пад грыфам «Зусім сакрэтна».

[49] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 27, арк. 59—60. Пратакол № 7 пасяджэння Гродзенскага абласнога камітэта КП(б)Б, 08.07.1946 г.

руда, працэсу пераплаўкі і г.д. Аднак працаваць на вытворчасці снарадаў трэба было без выхадных, пры вельмі высокай тэмпературы. Да цяжкай працы дадаваўся пастаянны голад. Выезд у Польшчу ў 1946 г. аказаўся магчымым дзякуючы дапамозе аддзела СПП, які склаў спісы палякаў і выслаў іх у Маскву. Туды запісаліся фактычна ўсе з радзімы Сяліцкага і навакольных вёсак, засталіся толькі дзве праваслаўныя дзяўчыны[50].

У 1949 г. у Гродзенскай вобл. у ФЗВ вугальнай прамысловасці замест запланаваных 900 чалавек мабілізавалі толькі 770. Невыкананне плана ўлады тлумачылі, між іншым, «нежаданнем выязджаць за межы рэспублікі»[51]. У лістападзе 1950 г. у Гродзенскай вобл. мабілізавалася моладзь 1934 г.н., якая накіроўвалася ў ФЗВ Ленінградскай і Калінінградскай абласцей.

Цяжкія ўмовы працы, нястача, голад у ФЗВ сталі прычынай масавых уцёкаў навучэнцаў. У Гродзенскай вобл. з рамесніцкіх вучылішчаў і ФЗВ да 25 кастрычніка 1945 г. уцякло 87 навучэнцаў, з якіх 18 было прыцягнута да адказнасці, а 16 — накіравана назад[52]. Паводле паведамлення, дасланага намесніку старшыні Савета Міністраў СССР Вячаславу Молатаву, на працягу 1946 г. органы МУС затрымалі 10 563 навучэнцаў, якія ўцяклі з ФЗВ, рамесніцкіх і чыгуначных прафесійных вучылішчаў. Да адказнасці было прыцягнута больш за 2 390 навучэнцаў, з якіх жыхары БССР складалі невялікую частку — усяго 74 асобы[53]. У хуткім часе адпаведныя органы МУС СССР правялі праверку ФЗВ, пасля якой было прызнана, што ўмовы працы і жыцця навучэнцаў вельмі дрэнныя. У Томску ў інтэрнатах прафесійных вучылішчаў не было вокнаў, навучэнцы спалі па двое на адным ложку. Многія навучэнцы, не маючы абутку, не выходзілі на працу на прадпрыемстве, за што пазбаўляліся харчавання і галадалі. У горадзе Сталінск Кемераўскай вобл. у ФЗВ №29 на 204 чалавек было 10 талерак і 15 лыжак. Такі стан рэчаў выклікаў занепакоенасць тагачаснага міністра ўнутраных спраў СССР Круглова, які звярнуў увагу на праблему міністра працоўных рэсурсаў Проніна[54].

## РАБОЧЫЯ БАТАЛЬЁНЫ

Асобнай праблемай з'яўляецца вяртанне вывезеных у час акупацыі на прымусовыя працы ўглыб III Рэйха. Для ваеннапалонных існавалі асобныя фільтрацыйныя лагеры. У заходняй частцы Беларусі — у Гродне, Брэсце, Баранавічах, Пінску, Маладзечне, Ваўкавыску, Высокім, Пружанах — былі ўтвораны фільтрацыйныя пункты для цывільных. Дзейнічалі камісіі, у якія ўвайшлі прадстаўнікі НКУС (старшыня), НКДБ і контрразведкі «Смерш», якія павінны былі высвятляць палітычную надзейнасць рэпатрыяваных. Тыя,

[50] Sielicki F. Losy mieszkańców Wileńszczyzny ... S. 118—120.

[51] Tokć S. Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSRS (1945—1959) // Białostockie Zeszyty Historyczne. № 21. 2004. S. 128.

[52] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 83, арк. 49. Паведамленне сакратару Гродзенскага абкама Калініну, без даты, не раней за 25.10.1945 г.

[53] ГАРФ. Ф. 9401, оп. 2, д. 172, л. 88—92. Матэрыялы сакратарыята МУС, карэспандэнцыя з Молатавым, ліст №1196/к, 20.02.1947 г., за подпісам міністра Круглова.

[54] Там же.

хто не падыходзіў для выкарыстання на працах у глыбіні СССР, а таксама патрэбныя спецыялісты з розных сфер, жанчыны і дзеці вярталіся дадому. У ходзе правядзення кантролю ў фільтрацыйных пунктах былі зафіксаваны факты рабункаў. На вакзале ў Гродне супрацоўнікамі НКУС былі абрабаваны правераныя рэпатрыянты, якія вярталіся з Усходняй Прусіі. У Брэсце ў групы дзяўчат, якія мыліся ў лазні, знікла адзенне, гадзіннікі, боты і г.д. У адказ на іх скаргу старшы лейтэнант Халдобін паведаміў, што «мы вас вызвалілі, можаце сабе ісці». Іншы «баец» апраўдваў сябе наступным чынам: «У рэпатрыяваных шмат рэчаў, мы адбіралі не ўсё, ім блізка да дому, там знойдуць, ува што апрануцца». Уся справа была замятая, дзяўчат накіравалі ў іншы лагер НКУС[55].

Пасля аддзялення «небяспечных элементаў, здраднікаў, шпіёнаў» з ліку тых, хто падлягаў службе ў войску, фармаваліся так званыя рабочыя батальёны, па тысячы чалавек кожны. У Гродне і Ваўкавыску ў кастрычніку 1945 г. з рэпатрыяваных мясцовага паходжання было ўтворана 4 батальёны, якія накіроўваліся ў розныя месцы на Урал і іншыя рэгіёны СССР.

Рабочыя батальёны, створаныя ў Ваўкавыску згодна з дырэктывай №2484 (*ДКА? — Я.Ш.*), засталіся на месцы. На чыгуначнай станцыі ў Ваўкавыску салдаты батальёна выконвалі розныя рамонтныя працы, на станцыі Свіслач рамантавалі вагоны. Вельмі дрэнныя ўмовы жыцця, завошаныя баракі, трыпер, адсутнасць лазні і нармальных гігіенічных умоў — такім убачыла батальён спецыяльная камісія 22 сакавіка 1946 г. Праверка высветліла, што батальён з 496 чалавек не быў у стане скіраваць на працы больш за 200 з іх. За выключэннем 40 хворых на грып, астатнія сядзелі ў бараках абадраныя і без абутку. Справа атрымала розгалас дзякуючы трывожнаму лісту салдата згаданага батальёна, Зубко, у рэдакцыю ўсесаюзнай газеты «Праўда» і ў абласны партыйны камітэт[56].

Усяго на тэрыторыі СССР, паводле дадзеных на 1 сакавіка 1946 г., у рабочыя батальёны было накіравана 608 095 рэпатрыяваных, у тым ліку 344 448 ваеннапалонных і 263 647 цывільных. Гэта складала 14% рэпатрыяваных, якія прайшлі праз фільтрацыйныя лагеры[57].

У святле прыведзеных фактаў крыху цынічна гучыць заключэнне аднаго з раздзелаў працы аб беларускіх остарбайтарах і іх лёсе пасля вяртання дадому:

> В конце 40-х годов из Беларуси уехало немало людей на Карельский перешеек, Сахалин, в Сибирь, Казахстан, где предоставлялось не только жилье, но и нужны были рабочие руки[58].

Лёс аднаго з такіх рэпатрыяваных, беларуса Аляксандра Адашкевіча, удзельніка верасьнёўскай кампаніі (*1939 г. — Рэд.*), паказвае living рознабаковы ха-

---

[55] Гл.: Białostocczyzna 1944—1945 ... S. 67; Кнатько Г.Д., Адамушко В.И., Бондаренко Н.А., Селеменьев В.Д. Белорусские остарбайтеры. Минск, 2001. С. 224—225.

[56] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 83, арк. 12—13. Інфармацыйная запіска, 25.03.1946 г., за подпісам сакратара Ваўкавыскага РК КП(б)Б Стомы.

[57] Кнатько Г.Д., Адамушко В.И., Бондаренко Н.А., Селеменьев В.Д. Белорусские остарбайтеры ... С. 270—271.

[58] Там же. С.265.

рактар савецкага вызвалення. Гэты чалавек, правёўшы ў нямецкай няволі 6 гадоў, у 1945 г. быў адпраўлены ў штрафбат, куды ўваходзілі пераважна крымінальнікі, патрэбныя ўладам у якасці «гарматнага мяса». Ён цудам перажыў ваенныя жахі, а пасля заканчэння вайны быў накіраваны ў адзін з фільтрацыйных лагераў, дзе і быў размеркаваны ў рабочы батальён. Вярнуўся дадому толькі ў 1950-я гг., сплаціўшы ў поўнай меры «доўг» савецкай айчыне[59].

У працоўных лагерах і рабочых батальёнах былі таксама вывезеныя ўглыб СССР грамадзяне іншых краін. Згодна з дадзенымі МУС СССР, паводле стану на 1 лютага 1947 г., у гэтых лагерах і батальёнах знаходзіліся 10 652 польскія грамадзяне (*людзі, вывезеныя з пасляваеннай Польшчы, — Я.Ш.*)[60].

## II.II. ЗМЕНЫ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА

Узровень распрацаванасці ў гістарыяграфіі пытанняў, звязаных з міграцыямі насельніцтва на тэрыторыі Заходняй Беларусі (добраахвотнымі ці прымусовымі) у 40-я гг., можна акрэсліць як дастаткова добры. Маецца на ўвазе з'ява, якая назіралася ў 1944—1947 гг. і апісваецца паняццямі «перасяленне», «эвакуацыя», «рэпатрыяцыя». У польскай гістарыяграфіі на дадзены момант выйшла некалькі грунтоўных прац, якія больш шырока асвятляюць гэтую праблему, аднак не ўсе аспекты прадстаўлены ў іх цалкам вычарпальна[61]. З прац беларускіх гісторыкаў увагі заслугоўвае манаграфія Анатоля Вялікага, які на багатым беларускім архіўным матэрыяле паказаў шматвымернасць і складанасць перасяленчага працэсу[62]. Вялікі — адзін з нешматлікіх беларускіх даследчыкаў, які прызнае існаванне польскага насельніцтва, а не толькі «апалячаных беларусаў-каталікоў»[63]. На падставе

---

[59] Успаміны Аляксандра Адашкевіча, 1927 г.н. (в. Кунцаўшчына, Берастравіцкі раён, цяпер Гродзенская вобл.). Запісаны аўтарам 23.06.2001 г.

[60] ГАРФ. Ф. 9401, оп. 2, д. 172, л. 114. Матэрыялы сакратарыята МУС, ліст №1369/к Сталіну, Молатаву, Берыю, 28.02.1947 г.

[61] Гл., напр.: Czerniakiewicz J. Repatriacja ludności polskiej z ZSRR 1944—1948. Warszawa, 1987 (і наступныя выданні); Przesiedlenie ludności polskiej z Kresów Wschodnich do Polski / wybór dokumentów pod red. S. Ciesielskiego. Warszawa, 1999; Ruchniewicz M. Stosunki narodowościowe w latach 1939—1948 na obszarze tzw. Zachodniej Białorusi // Przemiany narodowościowe na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej 1931—1948 / pod red. S. Ciesielskiego. Toruń, 2003; Mironowicz E. Przesiedlenia ludności polskiej z Białorusi w latach 1944—1946 // Repatriacje i migracje ludności pogranicza w XX wieku / pod red. M. Kietlińskiego i W. Śleszyńskiego. Białystok, 2004.

[62] Вялікі А. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944—1946). Мінск, 2005.

[63] Сярод пэўнай часткі беларускіх гісторыкаў пераважае погляд, што большасць пераселеных з заходніх абласцей БССР складалі беларусы-каталікі, а не палякі. Так, Захар Шыбека сцвярджае, што «ў Польшчу выехала 232 200 чалавек, з якіх большасць былі беларусамі». Параўн.: Szybieka Z. Historia Białorusi. Lublin, 2002. S. 368. Падобнае меркаванне было і ў беларускага эміграцыйнага гісторыка Волаціча, які яшчэ ў 1950-х гг. XX ст. пісаў у мюнхенскім «Беларускім зборніку» пра мізэрны працэнт палякаў сярод рэпатрыяваных.

аналізу гістарыяграфіі пасляваеннага перыяду і праведзеных даследаванняў можна зрабіць некалькі высноў.

Першы перыяд перасялення характарызуецца неадабрэннем з боку насельніцтва чарговай ініцыятывы савецкай улады. Хадзілі чуткі аб чарговых вывазках пад выглядам запісу на выезд у Польшчу, частка патрыятычна настроенага насельніцтва вырашыла не пакідаць бацькаўшчыну[64]. Гэтаму спрыяла пазіцыя польскага падполля і каталіцкага духавенства, паводле якой запіс на выезд расцэньваўся як своеасаблівая здрада. Таксама рабіліся стаўкі на канфлікт паміж СССР і заходнімі дзяржавамі. Савецкія ўлады шырока выкарыстоўвалі падыход да вызначэня нацыянальнасці на падставе ўласнай прыхамаці. У шэрагу населеных пунктаў улады не прызналі польскіх і нямецкіх дакументаў і касцёльных пасведчанняў, у якіх была пазначана польская нацыянальнасць. Часта да ўвагі не прымаліся нават пасведчанні, выдадзеныя сельсаветамі. У польска-савецкіх камісіях, створаных спецыяльна для выяўлення беларусаў-каталікоў, галоўную ролю адыгрываў савецкі бок.

Запіс у спіс перасяленцаў не заўсёды паказваў сапраўдныя намеры, бо часта палякі запісваліся для дэманстрацыі польскай прысутнасці на гэтых тэрыторыях, маючы надзею, што гэта паўплывае на канчатковае ўсталяванне польска-савецкай мяжы[65]. У вёсцы запісваліся на выезд (не жадаючы на самой справе пакідаць свой кавалак зямлі), каб пазбегнуць, прынамсі на некаторы час, натуральных паставак, падаткаў і мабілізацыі на прамысловыя працы ў глыбіні Расіі.

Карыстаючыся рэпатрыяцыйнай кампаніяй, у Польшчу выехала частка беларусаў (на сённяшні дзень падлічыць іх колькасць няма ніякай магчымасці), асабліва тых, якія былі непрыязна настроены да савецкай улады і хацелі любой цаной пакінуць СССР. Для тых, хто знаходзіўся ў высылцы, на прымусовых працах або ў школах ФЗВ, прызнанне палякамі давала пэўныя шанцы на вызваленне з той жахлівай сітуацыі, у якой яны апынуліся. Аднак няма падстаў для меркавання, што гэтая з'ява была вельмі маштабнай[66].

---

[64] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 32—35. Справаздача аб ходзе перасялення польскага і яўрэйскага насельніцтва з заходніх абласцей БССР у Польшчу; Вялікі А. Беларусы і палякі ... С. 84. У Гродне развешаныя абвесткі аб пачатку рэпатрыяцыі зрываліся чатыры разы, нават перад памяшканнем рэпатрыяцыйнай камісіі. На першым цягніку, які накіроўваўся ў Беласток, ноччу з'явіўся надпіс «Здраднікі Радзімы». У Брэсце 27 снежня 1944 г. на чыгуначным вакзале сабраўся натоўп палякаў, каб паглядзець, у якім кірунку паедзе цягнік з першымі 14 сем'ямі перасяленцаў. Толькі пасля таго як цягнік паехаў у Польшчу, палякі пачалі запісвацца на выезд.

[65] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 163. У інфармацыйнай запісцы аб ходзе рэпатрыяцыі ў Польшчу ад 1-га сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі Сталіну адзначаецца, між іншым, напрыклад, што ў Браслаўскім раёне (Полацкая вобл.) людзі складаюць хадайніцтвы на выезд, не маючы, на самой справе, такога намеру. Робяць гэта толькі дзеля дэманстрацыі сваёй польскасці.

[66] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 83. Запіска аб выкананні Гродзенскім абкамам пастановы ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый заходніх абласцей БССР сярод насельніцтва». У савецкіх дакументах зафіксаваныя выпадкі, калі, выдаючы сябе за палякаў, у Польшчу выязджалі беларусы і нават рускія. У маі 1945 г. з Гродна ў Польшчу выехаў расіянін Павел Карчагін, які нарадзіўся ў Растове-на-Доне, ра-

Акрамя патрыятычных матываў выезду, быў таксама страх перад усюдыіснай сістэмай. Масавы выезд кваліфікаваных рабочых кадраў і інтэлігенцыі з гарадоў выклікаў занепакоенасць вышэйшых савецкіх чыноўнікаў. З іншага боку, у некаторых выпадках неахвотных прымушалі запісацца на выезд, выкарыстоўваючы для гэтага самыя розныя спосабы: ад адміністрацыйных рэсурсаў да запалохвання і збіцця[67].

Перасяленцы ў «новай Польшчы» нярэдка сутыкаліся са спецыфічным стаўленнем да сябе з боку мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі і мясцовых палякаў. Іх называлі *русакамі* або *ўсходнікамі* з-за некаторага расцягнутага вымаўлення. Падобнай, толькі з дакладнасцю наадварот, была сітуацыя з беларусамі, перасеrange пераселенымі з Беласточчыны пераважна ва ўсходнюю частку Беларусі[68].

Агульны баланс перасяленчай аперацыі 1944—1947 гг. наступны: з Польшчы ў БССР выехала толькі 27 806 чал., у адваротным кірунку (паводле розных дадзеных) ад 238 782 да 274 163 чал.[69]

зам са сваёй жонкай, якая нарадзілася ў Ленінградзе. Але, як слушна заўважыла М. Рухневіч, калі б большасць перасяленцаў складалі беларусы, то на так званых «ziemiach odzyskanych» — вернутых тэрыторыях (бо яны асядалі, у асноўным, менавіта там) — павінны былі б застацца нейкія сляды іх існавання. Гл.: Ruchniewicz M. Stosunki narodowościowe ... S. 315. Напрыклад, пераселеныя ў межах аперацыі «Вісла» з паўднёва-ўсходніх земляў Польшчы ўкраінцы і лемкі былі расселеныя ў паўночна-заходніх ваяводствах, дзе, нягледзячы на паслядоўную паланізацыю, захавалі прыкметы сваёй адрознасці.

[67] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 32; Ф. 4, воп. 29, спр. 22, арк. 81—83 (розныя дакументы). Інтэлігенцыя масава пакідала савецкую Беларусь. Паводле дадзеных Гродзенскага абласнога статыстычнага камітэта, у 1945 г. у Гродне са 164 настаўнікаў 46,6% былі палякамі, з іх каля 50 чалавек запісаліся на выезд у Польшчу. Выехала 15 дактароў (палякі і яўрэі), на ўвесь горад застаўся 21 доктар, у той час як для нармальнай працы патрэбен быў 91 чалавек. Выехаў увесь персанал са шпіталя, з-за недахопу правізараў і аптэкараў большасць аптэк у горадзе ў хуткім часе маглі зачыніцца. Кваліфікаваныя рабочыя кадры таксама не імкнуліся застацца ў СССР. З чыгуначнікаў толькі за 1945 г. выехаў у Польшчу 2631 чалавек, з астатніх 6778 работнікаў-палякаў (34% ад агульнай колькасці) большасць выказалі намер пакінуць краіну. У Лідзе, другім па велічыні горадзе Гродзенскай вобл., сітуацыя была падобнай — фактычна палова кваліфікаваных рабочых кадраў запісалася на выезд. Паказальным з'яўляецца тое, што першапачаткова ўлады прымушалі выязджаць, запалохваючы палякаў словамі кшталту «не хочаце ў Польшчу, дык пойдзеце ў Сібір». У Гродне для гэтага выкарыстоўваліся адміністрацыйныя сродкі: падчас рэгістрацыі пашпартоў асобы, якія не мелі ўкладкі ў пашпарце, павінны былі тэрмінова пакінуць горад. З-за гэтага толькі на працягу некалькіх дзён на выезд у Польшчу запісалася 30% усяго насельніцтва. (30.04.1945 г.)

[68] Да пераселеных беларусаў часта ставіліся незаслужана і несправядліва з боку як мясцовага насельніцтва, так і дзяржаўнай адміністрацыі. Іх называлі палякамі, у іх адрас гучалі абвінавачванні кшталту: «Вы, палякі, нас рабавалі, абібокі». У Смалявіцкім раёне Мінскай вобл. мясцовыя дзеці закідвалі перасяленцаў-беларусаў снежкамі, такім чынам выказваючы сваю пагарду. Іх не прымалі на працу на чыгунцы і ў іншых месцах. Такія факты мелі месца ва ўсіх абласцях БССР. Гл.: Освобожденная Беларусь ... С. 115.

[69] Вялікі А. На раздарожжы ... С. 165, 213. Беларускі гісторык спасылаецца на лічбы, пададзеныя ў пратаколе завяршэння перасяленчай аперацыі. Польскі даследчык Ян Чарнякевіч выкарыстоўвае польскія крыніцы і прыводзіць лічбы, якія значна перавышаюць беларускія дадзеныя, — 35 тыс. чалавек.

На нашу думку, значна менш даследаванымі ў гістарыяграфіі застаюцца пытанні міграцыі насельніцтва ва ўсходнім кірунку і наплыў насельніцтва з Усходу. Яшчэ ў час вайны ў менш разбураныя заходнія вобласці Беларусі прыбывалі шматтысячныя натоўпы выхадцаў з Усходу. Людзі ўцякалі ад голаду, калгасаў, у пошуках лепшага жыцця. Большасць бежанцаў былі з Усходняй Беларусі, але хапала таксама і расіян. Пэўная частка расіян была пераселена з тэрыторый, дзе вяліся ваенныя дзеянні яшчэ немцамі. Група такіх перасяленцаў (600 чалавек) з Вялікалуцкага раёна (гэта былі, галоўным чынам, старыя, жанчыны і дзеці) спынілася ў 1942 г. у ваколіцах Шчучына (Гродзенская вобл.). У маі 1945 г. у Шчучыне жыло 350 чал., «пераселеных немцамі з усходніх абласцей»[70].

## ПАСЛЯВАЕННЫ ГОЛАД У СССР

Аднак найбольш вырас міграцыйны рух з усходу на захад Беларусі ў першыя — ужо мірныя — пасляваенныя гады. Гэта было звязана, у значнай ступені, з чарговай хваляй голаду ва ўсходняй і цэнтральнай частках Украіны і, у меншай ступені, ва Усходняй Беларусі. Варта нагадаць, што гэта быў трэці па ліку выпадак масавага голаду ў СССР. Першы, у 1921—1922 гг., у расійскай літаратуры называецца «голад на Паволжы», аднак ён захапіў таксама поўдзень Украіны і Крым[71].

Другая хваля голаду (1932—1933 гг.) пакінула найбольшую колькасць ахвяр і закранула не толькі Украіну, але таксама Кубань і Казахстан. Непасрэднай прычынай голаду («Галадамору») была прымусовая калектывізацыя сялянства і рэалізацыя планаў індустрыялізацыі СССР за кошт экспарту збожжа. У выніку прымусовых рэквізіцый, падчас якіх адбіралі збожжа, прызначанае на пасеў, а таксама запасы, неабходныя для выжывання сялянскіх сем'яў, загінула, паводле розных ацэнак, ад 6 да 10 млн чал.[72]

Пасляваенны голад у 1946—1947 гг. быў выкліканы збегам некалькіх фактараў. Нізкі ўраджай збожжа ў 1945 г. на Украіне і Паўночным Каўказе ўлады спадзяваліся кампенсаваць за кошт дадатковых паставак з Паволжа, поўдня Сібіры і Казахстана, але гэта аказалася памылкай. З-за засухі 1946 г. узніклі праблемы з выкананнем плана дзяржаўных паставак збожжа, і ўлады пачалі прымяняць рэпрэсіўныя сродкі. Аднак татальнай канфіскацыі збожжа, як у 1932—1933 гг., не праводзілася. Была павялічана адказнасць за невыкананне планаў паставак, і быў выдадзены ўказ «аб пяці каласках», скіраваны супраць «раскрадальнікаў грамадскай маёмасці».

У выніку трэцяй хвалі голаду ў СССР загінула 1—1,5 млн чал. Падлічыць колькасць ахвяр вельмі складана, бо ўлады старанна хавалі сапраўдныя

---

[70] Цыт. паводле: Данскіх С. Наш Шчучын ... С.130—131.

[71] Гл.: Советская деревня глазами ВЧК—ОГПУ—НКВД. 1918—1939. Документы и материалы в 4 т. Т 1. 1918—1922. Москва, 1998; Данилов В.П. Крестьянская революция в России. 1902—1922 гг. // Крестьяне и власть. Материалы конференции. Москва—Тамбов, 1996.

[72] Гл.: Conquest R. The Harvest of Sorrow: Soviet Collectivization an the Terror-Famine. New York, 1986; Kuśnierz R. Ukraina w latach kolektywizacji i Wielkiego Głodu (1929—1933). Toruń, 2005.

прычыны і маштабы голаду, сцвярджаючы, што ён выкліканы «вайной» і «засухай»[73]. Голад выклікаў хвалю міграцый — уцёкаў у больш заможныя рэгіёны. Адным з кірункаў міграцыі была Заходняя Беларусь.

У Ашмянскім раёне (цяпер — Гродзенская вобл.), які лічыўся багатым і ўраджайным краем, паводле партыйных дадзеных, у жніўні 1945 г. пражывала 1700 сем'яў бежанцаў з Віцебскай і Мінскай абласцей БССР. Партыйны функцыянер Гарбуноў піша ў сваёй справаздачы: «Ніхто ў раёне не ведае, што гэта за людзі»[74].

Журналіст цэнтральнай савецкай газеты «Правда» паведамляў галоўнаму рэдактару сваё ўражанне ад прыезду ў Беларусь вясной 1946 г. (*ліст пазначаны грыфам «Зусім сакрэтна» — Я.Ш.*):

> В мае находился на территории Новогрудского и Несвижского районов Барановичской области, где наблюдал людей, идущих с сумками из колхозов Витебской и Гомельской области по направлению Западной Белоруссии, Украины и Литвы. Эти люди устраиваются на работу в лесхозах, нанимаются пастухами. Вид этих чахлых, оборванных и голодных людей осложняет политическую работу и дает пищу для антисоветской пропаганды (...). Я посетил также восточные районы БССР, в Освейском районе в колхозе «Красные стрелки» люди едят лебеду, березовую и сосновую кору, и это 2 года после освобождения![75].

Гэтае паведамленне было перададзена ў вышэйшае партыйнае кіраўніцтва, сакратарам Жданаву, Кузняцову і Папову. Партыйная праверка з Масквы пацвердзіла вышэйзгаданыя факты. Як даносіў амаль праз месяц інспектар ЦК УКП(б) Задзіёнчанка, «тысячы калгаснікаў вымушаны перасяляцца ў заходнія вобласці Беларусі і Украіны, каб працаваць як парабкі ў заможных гаспадароў»[76]. Заключэнне справаздачы і поўная адсутнасць прапановаў па вырашэнні гэтай праблемы вельмі характэрныя для падобных справаздач: «Гэта шкодзіць арганізацыі калгасаў у заходніх абласцях, а таксама дыскрэдытуе калгасны лад»[77].

Занепакоенасць апісанай сітуацыяй і вялізная хваля перасяленцаў вымусіла мясцовых сакратароў звяртацца ў партыйныя органы абласнога і рэспубліканскага ўзроўню з просьбай дапамогі. Сакратар Ашмянскага РК КП(б)Б паведамляў, што з 15.02.1947 г. у раён масава прыбываюць людзі з Чарнігаўскай, Палтаўскай і Сумскай абласцей (Усходняя Украіна), якія расказваюць пра страшны голад у калгасах з-за неўраджаю 1946 г. Галодныя

---

[73] Зима В.Ф. Голод в СССР 1946—1947 годов: происхождение и последствия. Москва, 1996. У манаграфіі расійскага аўтара на аснове сакрэтных дакументаў з дзяржаўных і партыйных архіваў СССР, лістоў, успамінаў у хранялагічным парадку рэканструюецца сітуацыя пасляваеннага голаду ў СССР, аналізуюцца яго прычыны, вынікі і маштабы.

[74] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 311. Паведамленне аб ходзе жніва і сітуацыі ў раёнах Маладзечанскай вобл. і Відзскага раёна Полацкай вобл., 14.07.1945 г.

[75] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 117, л. 26. Інфармацыйная запіска. За подпісам Зямцова, 13.06.1946 г.

[76] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 117, л. 2. Інфармацыйная запіска Патолічава і Кузняцова Жданаву, 8.07.1946 г., за подпісам Задзіёнчанкі.

[77] Там же.

людзі жабравалі па хатах і браліся за любую працу дзеля кавалка хлеба. Змучаныя жыхары Усходняй Украіны сцвярджалі, што калі праз некалькі дзён сітуацыя не выправіцца і калгаснікі на Украіне не атрымаюць хлеба, адбудзецца паўстанне і змена ўлады[78]. Улада ў Мінску, баючыся прадпрымаць якія-небудзь дзеянні, накіравала гэты ліст у Маскву Жданаву. Першы сакратар ЦК КП(б)Б Гусараў тлумачыў у пісьме ў Маскву:

> Кулаки и католическое духовенство используют создавшуюся ситуацию для распространения лживых слухов о колхозах восточных областей и антиколхозной агитации[79].

Ён меркаваў, што ўсё гэта настройвала сялян супраць утварэння калгасаў і ўступлення ў іх. Гусараў прапаноўваў у той час запаволіць тэмпы калектывізацыі, бо новастворaныя калгасы будуць дыскрэдытаваць калгасны лад[80].

Найбольшая частка людзей атрымлівала працу ў прыватных сялянскіх гаспадарках. Гэта выклікала вялікую занепакоенасць не толькі сярод вышэйшага партыйнага чынавенства, але таксама і ў службах дзяржаўнай бяспекі. Бежанцы з усходу, апавядаючы пра рэаліі жыцця ў СССР і пра калгаснае пекла, наносілі непапраўны ўдар савецкай прапагандзе, бо ўсе яе высілкі сыходзілі на нішто: казкі пра шчаслівае і заможнае жыццё ў СССР не стасаваліся з тым, што расказвалі самі савецкія людзі. Начальнік Гродзенскага аддзела НКДБ палкоўнік Палітыка «вельмі старанна» збіраў пры дапамозе даносчыкаў і інфарматараў усё, што датычылася гэтай тэмы, галоўным чынам, выказванні «ўсходнікаў». З гэтых выказванняў складваўся цалкам непрывабны вобраз савецкай улады. Жыхарка вёскі Раманава (Віцебская вобл.)* беларуска Аляксандра Ліstраценка, якая ўцякла ў Заходнюю Беларусь, расказвала наступнае: «У калгасах мы галадалі, прыехалі сюды, каб зарабіць на кавалак хлеба»[81]. Падобная матывацыя кіравала яшчэ адным бежанцам, які прыйшоў з Калінінскай вобл. (Расія). Ён перасцерагаў жыхароў Скідзельскага раёна Гродзенскай вобл. наступнымі словамі:

> Видите сколько нашего брата-колхозника приехало к вам. Условия жизни у нас невыносимые, колхозы разваливаются, люди запрягаются вместо коней для пахоты. Колхозники голодают и массово покидают колхозы[82].

Выказванні такога кшталту гучалі і ў іншых раёнах Гродзенскай вобл. Гэтыя выказванні «ўсходнікаў», якія самі служылі ім пацверджаннем, спрыялі

---

[78] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 50—51. Інфармацыйная запіска №055/1, 8.03.1947 г., за подпісам Тубеліса.

[79] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 3. Паведамленне 1-га сакратара ЦК КП(б)Б Гусарава «Аб працы ЦК КП(б)Б», 21.04.1947 г.

[80] Тамсама.

* Раён не ўказаны *(у Віцебскай вобл. вёскі з такой назвай ёсць у Бешанковіцкім і Гарадоцкім раёнах. — Рэд.).*

[81] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 202—204. Інфармацыйная запіска, 17.08.1946 г., за подпісам начальніка УМДБ Гродзенскай вобл. палкоўніка Палітыкі.

[82] Тамсама.

фармаванню ў мясцовага насельніцтва крытычнага стаўлення да савецкай рэчаіснасці. Нехта Клыжук, жыхар вёскі Локна Скідзельскага раёна, якога мясцовае НКДБ апрацоўвала ў той час як «антысаветчыка», задумваўся над прычынамі, што вымушаюць шматтысячныя натоўпы з усходу ісці ў Заходнюю Беларусь:

> Колхозники из Великолукской, Калининской и других областей приезжают к нам за хлебом. Никто не едет в колхозы в Сибирь или в Поволжье. Можно предположить, как живется в этих колхозах[83].

Ядвіга Урублеўская, якая у 1946 г. разам са сваякамі ўцякла ад голаду з Чэрвенскага раёна Мінскай вобл. у Заходнюю Беларусь, згадвае, што спачатку быў вялікі попыт на рабочую сілу, асабліва там, дзе арганізоўваліся дзяржаўныя, у тым ліку сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. Мясцовае насельніцтва, маючы на той час уласную зямлю, неахвотна ішло працаваць на дзяржаву, бо лічыла савецкую ўладу часовай. Прыезджыя людзі часта выклікалі непрыязнасць, бо ўсе чарговыя мерапрыемствы савецкай улады атаясамляліся з новымі людзьмі. Ядвіга Урублеўская згадвае, што іх называлі «саветкамі», «бальшавікамі»[84]. Затое для прыезджых перасяленне ў Заходнюю Беларусь часта было адзіным шанцам уратавацца ад голаду і атрымаць нармальныя ўмовы жыцця. Мае значэнне таксама той факт, што на дзяржаўных прадпрыемствах, у тым ліку і ў саўгасах[85], паёк выдаваўся таксама і на дзяцей працаўнікоў. У калгасах жа тым, хто не працаваў, пагражала галодная смерць, бо яны маглі выжыць толькі з агарода.

## ЗАСЯЛЕННЕ ЗАХОПЛЕНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ

У канцы 1940-х гг. у Савецкім Саюзе досыць моцнай была тэндэнцыя да запаўнення незаселеных тэрыторый за кошт жыхароў іншых рэгіёнаў. У выпадку засялення здабытых тэрыторый (напрыклад, Калінінградская вобл.) вялікую ролю адыгрываў прапагандысцкі фактар. Савецкая ўлада праводзіла прапагандысцкую кампанію на тэму перасялення на новыя землі, дзе плывуць малочныя рэкі. Цікава, што большасць перасяленцаў у Калінінградскую вобл. былі жыхарамі ўсходніх абласцей Беларусі альбо тымі, хто спыніўся ў заходняй яе частцы падчас вайны ці пасля яе.

Ураджэнец Усходняй Беларусі Віктар Жаўткевіч успамінаў, што большасць пераселеных ва Усходнюю Прусію ў 1946—1947 гг. складалі жыхары ўсходніх абласцей БССР. «Савецкая прапаганда абяцала нам рай, і мы

---

[83] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 202—204. Інфармацыйная запіска, 17.08.1946 г., за подпісам начальніка УМДБ Гродзенскай вобл. палкоўніка Палітыкі.

[84] Успаміны Ядвігі Ляскоўскай (у дзявоцтве — Урублеўская), 1935 г.н., в. Механка Чэрвеньскага раёна (Мінская вобл.). Запісаны аўтарам 21.07.2006 г.

[85] Саўгас — дзяржаўная сельская гаспадарка ў СССР. Саўгасы ствараліся на землях былых памешчыкаў, на якіх, як правіла, быў добры сельскагаспадарчы інвентар, жывёла, гаспадарчыя пабудовы і г.д. Найважнейшая розніца паміж калгасамі і саўгасамі ў пасляваенны перыяд заключалася ў спосабе аплаты за працу: саўгасы лічыліся дзяржаўнымі прадпрыемствамі, на якіх плацілі заробак, выдавалі харчовы паёк, у тым ліку і на дзяцей. Калгасы ж лічыліся добраахвотнай кааперацыяй усіх працоўных, дзе разлік (пераважна натурай) праводзіўся пасля выканання дзяржпаставак у канцы года.

сапраўды ўбачылі двухпавярховыя камяніцы, пакрытыя дахоўкай, — гаворыць Жаўткевіч. — Дома ў нас былі драўляныя хаты з саламяным дахам. Аднак першыя гады мы баяліся, дзверы на ноч заўсёды зачынялі з сярэдзіны, аплячалі калючым дротам»[86].

Тое, што жыхары Заходняй Беларусі неахвотна пакідалі радзіму, пацвярджае ў сваіх даследаваннях і беларускі гісторык Сяргей Токць. Паводле яго дадзеных, цэнтральная ўлада з года ў год патрабавала ўсё больш людзей. У 1952 г. Савет Міністраў СССР патрабаваў ад Беларусі чалавечага кантынгенту ў памеры 9 тыс. сем'яў для перасялення ў Карэла-Фінскую ССР і ў розныя рэгіёны СССР[87]. Нягледзячы на актыўную прапаганду і намаганні мясцовай улады, план выканаць не ўдалося. Улады не ўлічвалі магчымасці кожнага рэгіёна і стаўлення мясцовага насельніцтва да іх пачынанняў, а стаўленне гэтае было зазвычай вельмі крытычным. Сакратар Пінскага абласнога партыйнага камітэта Цецюшаў наступным чынам ахарактарызаваў такі спосаб пошуку каштоўных чалавечых рэсурсаў: «Ніхто ў нас не просіць людзей, проста аддаюць загад даставіць ... (*лічба ў арыгінале адсутнічае — Я.Ш.*) людзей на патрэбы Карэла-Фінскай ССР»[88].

Наколькі ўлады заахвочвалі насельніцтва перасяляцца ва ўсходнім кірунку, настолькі заходняя мяжа СССР рабілася з кожным годам усё менш пранікальнай. Рэпатрыяцыйныя дзверы, якія дазволілі сотням тысяч людзей пазбегнуць шчасця пабудовы сацыялізму ў СССР і засяліць у Польшчы т.зв. «вернутыя землі», пасля заканчэння перасяленчай аперацыі зачыніліся. Справа 165 сем'яў з Гродзенскай вобл., якія выказалі намер пакінуць СССР з-за правядзення новай савецка-польскай мяжы і звязанага з ім перасялення з памежнай паласы, разглядалася на вышэйшым узроўні ў Маскве. Старшыня Савета Міністраў БССР Кісялёў звярнуўся да Молатава з просьбай дазволіць перасяленне гэтых сем'яў. Міністэрства ўнутраных спраў СССР заняло досыць скептычную пазіцыю адносна справы, бо ў спісе было шмат «беларускіх і ўкраінскіх прозвішчаў». У сувязі з гэтым было вырашана пераправерыць спіс, бо выпускаць у Польшчу відавочна беларускія ці ўкраінскія сем'і лічылася немэтазгодным[89].

## ЗМЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СТРУКТУРЫ Ў РЭГІЁНЕ

Пасля таго, як у межах перасяленчай акцыі з гарадоў і мястэчак у Польшчу выязджала інтэлігенцыя, чыноўнікі ніжэйшага ўзроўню і кваліфікаваныя рабочыя, гарадская прастора паволі запаўнялася выхадцамі з усходніх абласцей. Пытанне савецкай кадравай палітыкі, цесна звязанай з нацыянальнай палітыкай, заслугоўвае — з улікам яе асаблівага значэння — асобнага разгляду.

---

[86] Цыт. паводле: Міхно І. Беларусы ва Усходняй Прусіі // Літаратура і Мастацтва, 1991. № 33. С. 16. Успаміны В.Жаўткевіча з Новабабруйска (Калінінградская вобл.).

[87] Токць С. Змены структуры ... С. 131.

[88] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 623, арк. 59. Стэнаграма нарады, прысвечанай пытанням стварэння калгасаў у заходніх абласцях БССР, 21.10.1948 г.

[89] ГАРФ. Ф. 9401, оп. 2, д. 172, л. 362. Сакратарыят МУС СССР, перапіска з Молатавым, 07.06.1947 г.

Акрамя кіраўнічых пасад, у галіне дзяржаўнай і партыйнай адміністрацыі нават нязначныя пасады — пачынаючы ад прыбіральшчыцы памяшканняў і заканчваючы дырэктарам прадпрыемства — займалі амаль выключна прыезджыя. У такіх памежных гарадах, як Брэст і Гродна, была ўведзена сістэма пропускаў, бо гэтыя гарады ўваходзілі ў спецыяльную прыгранічную зону. Гродна ў той час уваходзіла ў прыгранічную зону №2. З 16 мая 1945 г. была ўведзена сістэма пропускаў, якія давалі магчымасць іх уладальнікам выехаць у Гродна і раёны Гродзенскай вобл.[90].

Для мясцовых сялян дарога ў Гродна фактычна закрылася. Першай перашкодай для іх была адсутнасць пашпарта. У Брэсце на момант, калі яго занялі падраздзяленні Чырвонай Арміі, налічвалася 15 тыс. чалавек. Праз шэсць гадоў там жыло ўжо 52 тыс. цывільных, з якіх на чыгунцы працавала 8 тыс., на прамысловасці — 4 тыс., у абласных і гарадскіх дзяржаўных установах — 4 тыс. Тут не ўлічаны супрацоўнікі апарату МУС/МДБ, абласнога і гарадскога партыйных камітэтаў, бо гэтыя дадзеныя былі сакрэтнымі. У сістэме школьнай адукацыі на той час навучалася 10 тыс. жыхароў Брэста. Як адзначаў сакратар Брэсцкага абласнога камітэта КП(б)Б Доркін, прырост насельніцтва горада Брэста адбываўся як натуральным шляхам, так і за кошт «спецыяльнага кантынгенту». Апошні, на думку партыйнага функцыянера, адыгрываў найбольш істотную ролю[91]. Брэст як горад з вялікім чыгуначным вузлом агульнадзяржаўнага значэння і шматлікімі вайсковымі гарнізонамі вельмі актыўна засяляўся немясцовымі людзьмі. Гэта прынцыпова змяніла нацыянальны склад горада.

Аўтар дадзенай працы свядома адмовіўся ад разгляду праблемы прысутнасці або, дакладней кажучы, непрысутнасці яўрэяў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Трэба адзначыць, што колькасць ацалелых мясцовых яўрэяў у заходніх абласцях была мізэрнай. Савецкая ўлада рашуча сцірала памяць пра існаванне яўрэйскай традыцыйнай культуры на Беларусі: закрываліся сінагогі, на іх месцы адчыняліся спартзалы, тэатральныя студыі, крамы, або яны проста разбураліся. На самых вялікіх у Гродне могілках быў пабудаваны спартыўны стадыён, толькі з 60-х гг. пачалі згадваць пра творчасць літаратараў яўрэйскага паходжання, напрыклад, Лейбы Найдуса.

У працэсе даследаванняў удалося толькі высветліць, што ў 1949 г. у БССР афіцыйна дзейнічалі дзве сінагогі. Як паведамляў старшыня Савета па справах рэлігійных культаў Палянскі, у Пінску і Баранавічах дзейнічалі міньяны*, з якімі ўлада змагалася пры дапамозе адміністрацыйных сродкаў і падатковай палітыкі[92].

---

[90] Цыт. паводле: Гродненская область в документах и материалах (1944—1995) / под ред. В.Н.Черепицы. Слоним, 2004. С. 123. Рашэнне выканаўчага камітэта Гродзенскага савета дэпутатаў «Аб парадку выдачы пропускаў у Гродна і раёны Гродзенскай вобл.», 16.02.1945 г.

[91] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 123, арк. 30, 167. Паведамленне «Кароткі эканамічны нарыс горада Брэста» інспектару ЦК КП(б)Б Іванову, 18.08.1950 г., за подпісам сакратара Брэсцкага абкама Доркіна.

* У іудаізме — кворум з 10 дарослых мужчын, неабходны для правядзення грамадскага набажэнства. — *Рэд.*

[92] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 132, д. 111, л. 44—68. Інфармацыйная запіска сакратару ЦК УКП(б) Малянкову, 23.04.1949 г.



*Брэст. Чыгуначны вакзал. Пастановачнае прапагандысцкае фота.*

Падчас працы ў беларускіх архівах аўтар сутыкнуўся з амаль што поўнай адсутнасцю дакументаў, якія б датычылі *мясцовых* яўрэяў. У першыя гады, маючца на ўвазе 1944—1946, здавалася б, павінны былі застацца дакументы, напрыклад, з просьбай выдзеліць памяшканне, скаргі і г.д. Некаторыя згадкі датычылі перыяду так званай першай рэпатрыяцыі, калі большасць ацалелых яўрэяў пакінула СССР і выехала ў Польшчу і далей на Захад. Беларускі даследчык яўрэйскага паходжання Леанід Смілавіцкі апрацаваў рэестр дакументаў НАРБ у Мінску, якія датычацца яўрэйскага насельніцтва ў БССР у 1944—1956 гг[93]. Пераважная большасць дакументаў датычыць усходніх раёнаў БССР, прыватных спраў, антысеміцкіх праяваў у СССР. Аднак не хапае дакументаў, якія б адлюстроўвалі рэлігійнае жыццё яўрэйскай супольнасці.

Пасля абвастрэння антысемітызму ў СССР тыя яўрэі, якія яшчэ засталіся ў краіне, старанна хавалі сваё паходжанне, у тым ліку праз русіфікацыю прозвішчаў. Адсутнасць яўрэяў у краіне мела вельмі важныя наступствы. Былі страчаны не толькі частка грамадства і адметная культура, але і пэўныя прафесіі, спецыялізацыі. Іх месца часткова заняло мясцовае насельніцтва, аднак галоўным чынам — прыезджыя.

На цяперашні момант немагчыма паказаць у лічбах маштаб міграцыйных працэсаў у Заходняй Беларусі. Не хапае канчатковай статыстыкі выезду цывільнага насельніцтва ў выніку мабілізацыі на прамысловасць, перасяленняў у малазаселеныя рэгіёны СССР. Аднак гэта і не з'яўляецца мэтай даследавання. Прыведзеныя вышэй звесткі, факты і колькасныя дадзеныя не адлюстроўваюць у поўнай меры складанага працэсу змен у нацыянальнай структуры насельніцтва, якія адбываліся на захадзе Беларусі. Вельмі важна ўстанавіць факт, што ў другой палове 1940 — пачатку 1950-х гг. пачаліся міграцыйныя працэсы вельмі вялікага маштабу. На думку аўтара даследавання, істотным з'яўляецца тое, што згаданыя міграцыйныя рухі паклалі пачатак зменам этнічнай карты гэтага рэгіёна і спрычыніліся да паступовай русіфікацыі, саветызацыі і дэнацыяналізацыі.

## II.III. КАДРАВАЯ ПАЛІТЫКА

Кадравае пытанне заўсёды было ключавым для савецкай дзяржавы. Знакамітае выказванне Сталіна, якое прагучала ў 1930-я гг. — «кадры вырашаюць усё», — было ўвасоблена ў жыццё ў выглядзе знакамітых прапагандысцкіх плакатаў. Дзяржаўныя і партыйныя кадры, паводле задумы савецкай улады, павінны былі рэалізоўваць дырэктывы «партыі і ўрада» і дбаць пра іх належнае выкананне. Пры неабходнасці яны маглі таксама выступаць хлопчыкам для біцця за няўдалыя мерапрыемствы, кампаніі ці непрадуманыя рашэнні (што часта і прымянялася). Савецкая палітычная сістэма, якая сфармавалася ў 1930-я гг., падпарадкоўвалася абсалютнай уладзе правадыра і пастаянна падвяргалася чысткам, стварыла новы тып «апаратчыка» на кожным узроўні ўлады. Кадры хутка мяняліся, часта не

---

[93] Гл.: *Евреи и еврейская жизнь в БССР, 1944—1956* гг. (Перечень документов НАРБ) / собр. Л. Смиловицкий: *http://www1.tau.ac.il/humanities/ggcenter/images/documents/LS/narb.%20trips%201995-1998.pdf.*

мелі адпаведнай кваліфікацыі і без лішніх праблем засвоілі прынцыпы функцыянавання сістэмы. Сталін не давяраў прадстаўнікам старога пакалення, лічыў іх непрыдатнымі ў новай сістэме, таму «чыноўнікі новага пакалення ўсім былі абавязаны Сталіну і былі яму ўдзячныя, імкнуліся давесці сваю прыдатнасць»[94].

Больш за ўсё цанілася абсалютная адданасць сваім кіраўнікам і бясспрэчнае выкананне загадаў зверху. На гэта накладаўся пастаянны страх за сваю будучыню, зусім няпэўную перад абліччам татальнага тэрору, што прывяло да фармавання новага пакалення кадраў. Цяга да кіравання і пераймання сфармаванай мадэлі паводзін абумовілі гатоўнасць кіраваць чым заўгодна, абы толькі кіраваць. Савецкая ўлада падтрымлівала людзей без маральных прынцыпаў, сквапных да ўлады, і маніпулявала імі. У выніку ўзнікла з'ява «негатыўнай селекцыі», калі розныя пасады займалі людзі з нізкімі маральнымі якасцямі і падтрымлівалі да сябе падобных.

Размеркаванне пасад у дзяржаўным і партыйным апараце заходніх абласцей БССР і праблема савецкай кадравай палітыкі ў пасляваенны перыяд вывучаны ў навуковай літаратуры не так добра, як перыяд 1939—1941 гг., так званых «першых Саветаў»[95]. Савецкая кадравая палітыка ў другой палове 40-х гг. на гэтых тэрыторыях стала прадметам даследавання беларускіх гісторыкаў — Аляксандра Бодака з Брэста[96] і, у меншай ступені, Сяргея Токця з Гродна[97].

---

[94] Mleczin L. Ojcowie terroru. Wielka czystka. T. 2. Warszawa, 2004. S. 108.

[95] З прац польскай гістарыяграфіі, прысвечаных перыяду 1939—1941 гг., трэба адзначыць манаграфію Кшыштафа Ясевіча (Jasiewicz K. Pierwsi po diable. Elity sowieckie w okupowanej Polsce 1939—1941. Warszawa, 2001) і яго ж артыкул на тэму савецкай кадравай палітыкі (Jasiewicz K. Aparat sowiecki na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej jako model patologiczny funkcjonowania klasy politycznej (1939—1953) // Tygiel Narodów. Stosunki społeczne i etniczne na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej 1939—1953. Warszawa, 2002. S. 39—94), якія ахопліваюць як перыяд 1939—1941 гг., так і пасляваенныя гады, але асноўную ўвагу аўтар надае менавіта 1939—1941 гг. Розныя аспекты праблемы савецкай кадравай палітыкі ў перыяд «першых Саветаў» разглядаюцца ў працах Войцеха Сляшынськага (Śleszyński W. Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939—1941. Propaganda i indoktrynacja. Białystok, 2001), Альбіна Главацкага (Głowacki A. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939—1941. Łódź, 1997), у калектыўнай працы пад рэд. Адама Судала (Sowietyzacja Kresów Wschodnich II Rzeczpospolitej / red. A. Sudoł. Bydgoszcz, 1998), у зборніку дакументаў пад рэд. Т.Стшэмбаша (Okupacja sowiecka 1939—1941 w świetle tajnych dokumentów / red. T. Strzembosz. Warszawa, 1996) і інш. Кадравае пытанне КП(б)Б у дадзены перыяд разгледзеў у сваім артыкуле беларускі гісторык Анатоль Вялікі: Вялікі А. Кадравая палітыка КП(б)Б у Заходняй Беларусі ў 1939—1941 гг. // Назаўсёды разам: да 60-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Мінск, 1999. С. 102—108.

[96] Бодак А. Некоторые вопросы кадровой политики в Беларуси в послевоенное десятилетие // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі: Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Брэст, 23—24 красавіка 1998 г. Частка II. Брэст, 1998. С. 231—238.

[97] Tokć S. Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w BSRS (1944—1959) // Białostockie Zeszyty Historyczne. № 21. 2004. S. 117—131.

## МЯСЦОВАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў САВЕЦКАЙ І ПАРТЫЙНАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ

Як ужо згадвалася ў папярэднім раздзеле, прысвечаным грамадска-палітычнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі, частка мясцовых кіраўнічых кадраў складалася з былых савецкіх партызанаў. Летам 1944 г. у Мінску для іх спецыяльна былі арганізаваны курсы павышэння кваліфікацыі. Масква таксама не была абыякавай да гэтай праблемы. У снежні 1944 г. была прынята пастанова ЦК УКП(б) «Аб узмацненні партыйных і савецкіх органаў заходніх абласцей БССР». Да чэрвеня 1945 г. з усходніх у заходнія вобл. БССР прыехала 1060 чал., якія занялі пасады ў партыйным апараце, і 2 200 — у адміністрацыйным[98]. 7 лютага 1945 г. ЦК УКП(б) пастанавіў накіраваць у заходнія вобласці БССР 50 слухачоў Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК УКП(б)[99]. Аднаго з іх, Васіля Харчыстава, накіравалі на пасаду першага сакратара райкама ў Лідзе. На момант, калі ён заняў пасаду, раённая лідская арганізацыя налічвала 15 чалавек. На працягу двух гадоў яна павялічылася ў дзесяць разоў[100]. У справаздачы, якая характарызуе працу Лідскага партыйнага камітэта, напісана:

> Все номенклатурные руководящие работники Лидского ГК КП(б) являются гражданами из восточных областей. Совершенно отсутствует выдвижение на руководящую работу из местного населения. (...) Отсутствие выдвижения местных граждан на руководящие работы ГК КП(б)Б объясняет отказом местного актива ввиду боязни им враждебных элементов. В действительности же такое объяснение нельзя признать правильным и считать, что главной причиной отсутствия выдвижения из местного населения на руководящие работы объясняется отсутствием проведения воспитательной массово-политической работы среди местного населения и выявления местного актива и работы с ним[101].

Адсутнасць даверу да мясцовых людзей, «заходнікаў», выражалася, між іншым, у ігнараванні іх кандыдатур пры камплектаванні органаў мясцовай партыйнай і савецкай адміністрацыі. У Гродзенскай вобл., як гэта вынікае са справаздач Камісіі партыйнага кантролю, большасць наменклатуры складалася з людзей немясцовага паходжання. Так, у Шчучынскім раёне камплектаванне адміністрацыі адбывалася за кошт «таварышаў, накіраваных абкамам КП(б)Б, былых партызанаў і дэмабілізаваных з Чырвонай Арміі». Членаў партыі і кандыдатаў на ўступленне ў раёне было 188 чалавек, з якіх

---

[98] Tokć S. Zmiana struktury ... S. 121.

[99] У Маскве пры ЦК УКП(б) у той час існавала Вышэйшая школа партыйных арганізатараў (1936—1946 гг.), у якой навучаліся супрацоўнікі апарату ЦК рэспубліканскіх партый, абкамаў, райкамаў УКП(б). У 1946 г. школа далучылася да Вышэйшай партыйнай школы (ВПШ) пры ЦК УКП(б). З 1944 г. дзейнічала таксама Завочная вышэйшая партыйная школа, якая мела разбудаваную структуру на ўзроўні абласцей.

[100] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 248—250. Інфармацыйная запіска, за подпісам 1-га сакратара Лідскага РК КП(б)Б Харчыстава, 29.11.1946 г.

[101] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 96—97. Справаздача аб выніках праверкі Лідскага партыйнага камітэта на 18.06.1947 г.

толькі 29 (у тым ліку 9 членаў УКП(б)) — мясцовага паходжання[102]. Вельмі распаўсюджанай была практыка, калі на пасады ў адміністрацыі, у гаспадарчых структурах і г.д. прызначалі людзей, якія прыехалі з самых розных закуткоў СССР, абы толькі не мясцовых. У выніку часта здараліся выпадкі, асабліва ў сферы гандлю, калі такія асобы, правёўшы шэраг фінансавых махінацый, уцякалі з дзяржаўнымі грашыма. Так, адзін з функцыянераў на сходзе савета спажывецкага кааператыва зазначыў наступнае:

> Райпотребсоюз кадры из местного населения не подбирает, а ставит за прилавки всяких проходимцев, которые присваивают государственные ценности, после чего, как правило, скрываются. Характерно, что в тех торгующих точках, где работают выдвинутые из местного населения, причем работают по 2 с лишним года в отдельных магазинах, но растрат не имеется[103].

У раённы аддзел міліцыі ў Шчучыне толькі ў 1947 г. узялі на працу 9 мясцовых чалавек, праца якіх атрымала станоўчую ацэнку з боку раённага кіраўніцтва. Паказальным з'яўляецца тое, што ў сялянскім асяроддзі на той час існавалі катэгорыі ацэнак «сваіх» і «чужых». У Шчучынскі раён прыехала пэўная колькасць перасяленцаў з Расіі (Калінінская, Вялікалуцкая і інш. вобласці). У створаных калгасах таксама існаваў падзел на два лагеры: «нашых калгаснікаў» і «калгаснікаў з Саветаў»[104].

У Гродзенскім раёне на працягу 1946 г. — першай паловы 1947 г. пытанне кадраў ніводнага разу не было прадметам разгляду на пасяджэннях бюро райкама. На кіраўнічыя пасады ў структуры райкамаў накіроўваў абкам КП(б)Б. Раённы партыйны камітэт праводзіў набор кадраў на ніжэйшыя пасады такім чынам, каб мясцовае насельніцтва не атрымлівала ніякіх значных пасад. Пра гэта сведчаць, у прыватнасці, партыйныя дакументы:

> При наличии всех возможностей для выдвижения работников из местного населения (*у Гродзенскі РК КП(б)Б — Я.Ш.*), тем не менее выдвижение идет больше за счет товарищей из восточных областей. Из 9 зав. мельницами местных только 3 человека, из 22 председателей с/с — 13 местных, из 35 сотрудников РО МВД — 4 человека, в судебных органах и прокуратуре местных работников нет. (...) Так, из 52 секретарей первичных комсомольских организаций только 15 являются местными. (...) В аппарате райкома комсомола из руководящих работников только один товарищ из местных[105].

Прадстаўленасць мясцовага насельніцтва ў партыйных арганізацыях Гродзенскай вобл. была мізэрнай. Паводле дадзеных на 1 студзеня 1947 г., з 1064 чалавек, якія працавалі ў Гродзенскім абкаме, мясцовых было толькі 79 ча-

---

[102] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 107. Справаздача аб выніках праверкі працы з кадрамі ў Ваўкавыскім, Мастоўскім і Шчучынскім раёнах.

[103] Тамсама, арк. 108.

[104] Тамсама, арк. 111.

[105] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 119—124. Паведамленне аб працы з кадрамі ў Гродзенскім, Бераставіцкім і Свіслацкім райкамах КП(б)Б Гродзенскай вобл. за 12—15.06.1947 г.

лавек, або 7,4%. За наступныя сем месяцаў сітуацыя асабліва не выправілася, колькасць мясцовых павялічылася толькі да 91 чалавека (8,9%). У гарадскіх і раённых партыйных камітэтах Гродзенскай вобл. з мясцовых працавала 1223 асобы, што складала 25,8%[106]. У Лідзе, другім па велічыні горадзе Гродзенскай вобл., з 250 партыйных функцыянераў толькі трое былі мясцовымі, у Радунскім з 218 — трое, у Сапоцкінскім з 209 — 26 чалавек. У апараце Гродзенскага гарадскога партыйнага камітэта не было ніводнага прадстаўніка мясцовага насельніцтва. У некаторых раёнах сітуацыя была лепшай. Так, у Васілішкаўскім раёне мясцовыя ў райкаме складалі 56%, у Поразаўскім — 50%, у Бераставіцкім — 41%[107]. Аднак гэта не выпраўляла агульнай сітуацыі. На пачатку 1951 г. Гродзенская абласная партыйная арганізацыя налічвала 7 219 чалавек, з іх мясцовых было толькі 891 (12,3%). У 1952 г. сярод членаў партыйнай арганізацыі Гродзеншчыны ў КПЗБ раней уваходзіла 108 чалавек (1,5% ад агульнай колькасці); дзесяць з іх былі яўрэямі, астатнія — беларусамі. Некалькі з іх займалі пасады на раённым узроўні, большасць былі звычайнымі калгаснікамі[108].

Падобнай была сітуацыя і ў іншых заходніх абласцях БССР. У Глыбоцкім раёне (Полацкая вобл.) з 464 супрацоўнікаў партыйнай і савецкай адміністрацыі 157 былі мясцовымі, у Пастаўскім раёне (Маладзечанская вобл.) у 1947 г. з ліку мясцовага насельніцтва было вылучана на розныя кіраўнічыя пасады 110 чалавек[109]. У 17 райкамах Заходняй Беларусі з лета 1944 г. да верасня 1947 г. у партыю не было прынята ніводнага з мясцовых. У 1946 г. у заходніх абласцях БССР у партыю было прынята толькі 150 мясцовых сялян[110]. Партбілет адкрываў дарогу да пад'ёму па сацыяльнай лесвіцы; мясцовыя людзі ў выніку не мелі фактычна ніякай магчымасці ўдзельнічаць у сацыяльным жыцці і ў кіраванні краінай. Паводле стану на канец 1946 г., у партнаменклатуры па ўсёй БССР беларусаў было 2 870 чалавек (61,8%), рускіх — 1 248 (26,9%), яўрэяў — 282 (6,1%)[111]. На жаль, гэтыя дадзеныя не адлюстроўваюць розніцы паміж сітуацыяй у заходняй і ўсходняй частках Беларусі.

## СПРОБА «ВЫПРАВІЦЬ» КАДРАВУЮ СІТУАЦЫЮ

З кожным годам колькасць інтэлігенцыі, якая атрымала адукацыю ў «буржуазнай Польшчы» ці «за мяжой», змяншалася. Згодна з дадзенымі Міністэрства аховы здароўя БССР ад 10 чэрвеня 1949 г., у заходніх абласцях БССР працавалі 1324 урачы і правізары (аптэкары), з іх толькі 38 (у тым ліку

[106] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 7. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б» да 1-га сакратара КП(б)Б Гусарава, 18.08.1947 г.

[107] Тамсама.

[108] Tokć S. Zmiana struktury ... S. 126—127.

[109] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 830, л. 25. Паведамленне 1-га сакратара ЦК КП(б)Б Гусарава УКП(б), 27.09.1947 г.

[110] Там же, арк. 17.

[111] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 718, л. 40. Справаздача ЦК КП(б)Б у ЦК УКП(б) за 1946 г., без даты, не раней за 31 снежня 1946 г.

10 фармацэўтаў з вышэйшай адукацыяй) працавалі на гэтай тэрыторыі да 17.09.1939 г. У 1939—1949 гг. медыцынскую адукацыю атрымаў 51 чалавек з Заходняй Беларусі, колькасць медыцынскіх работнікаў сярэдняга ўзроўню складала 7 512 чалавек, у тым ліку мясцовых, з адукацыяй, атрыманай за межамі тагачаснай БССР (пераважна ва ўстановах міжваеннай Польшчы), — 225 чалавек; яшчэ 2 456 чалавек складалі мясцовыя жыхары, якія атрымалі адукацыю пасля 1939 г.[112]

Да канца 1946 г. кадравае пытанне не было прадметам асаблівай зацікаўленасці партыйнай улады. Аднак паўсюдны недавер да мясцовага насельніцтва з боку наменклатуры і невялікі працэнт прадстаўнікоў мясцовага паходжання ў адміністрацыі выклікалі занепакоенасць вышэйшага кіраўніцтва ў Маскве. Пастановы ЦК УКП(б) ад 5 кастрычніка 1946 г. «Аб працы ЦК КП(б) Літвы», ад 14 снежня 1946 г. па справаздачы Міністэрства ўзбраення аб працы з кіраўнічымі кадрамі, ад 19 сакавіка 1947 г. «Аб даборы, падрыхтоўцы і размеркаванні партыйных і савецкіх кіраўнічых кадраў у Казахстанскай партыйнай арганізацыі» служылі ўзорам для прыняцця адпаведных пастаноў і дырэктыў партыйнымі ўладамі Беларусі. ЦК КП(б)Б у канцы 1946 г. прыняў некалькі пастаноў, якія непасрэдна датычылі кадравых пытанняў, у тым ліку: «Аб працы Гродзенскага абкама КП(б)Б» (22.10.1946) і «Аб даборы, выхаванні і размеркаванні кіраўнічых кадраў у Полацкай абласной партыйнай арганізацыі» (05.09.1946).

Для выпраўлення такой ненармальнай сітуацыі ў галіне кадравай палітыкі ў чэрвені 1947 г. у Мінску быў арганізаваны з'езд кіраўнічых кадраў заходніх абласцей, дзесяцідзённы семінар першых сакратароў райкамаў і г.д. Першы сакратар ЦК КП(б)Б Гусараў звярнуўся ў Маскву з просьбай дазволіць арганізаваць пры Гродзенскім абласным партыйным камітэце школу, якая рыхтавала б кадры для заходніх абласцей БССР. На працу ў савецкім і партыйным апараце было прынята больш за 8 тыс. чалавек, аднак у маштабах краіны гэта прынцыпова не змяняла ранейшай сітуацыі: у апаратах абкамаў заходніх абласцей прадстаўнікі мясцовага насельніцтва складалі каля 8,4%, у партыі «заходнікаў» было 13%[113]. На працягу наступных шасці гадоў сітуацыя не змянілася. Сакратар ЦК КПБ Зімянін у дакладзе на Пленуме ЦК, які праходзіў 25—27 чэрвеня 1953 г., прыводзіў наступныя дадзеныя:

> Из 1175 партийных работников в западных областях местных только 121 человек. В аппарате Барановичского обкома и райкома, Брестского и Гродненского горкомов, Волковысского райкома нет ни одного местного. В числе 256 секретарей райкомов западных областей белорусов 170, или 69%, а из местного населения только 15 человек. Более половины секретарей колхозных и первичных организаций приезжие. На комсомольской работе 34% местных. (...) В МВД на 840 оперативных работников уроженцев западных областей только 17 человек. Из 150 руководящих работников органов милиции в западных областях местный только один. В прокуратуре —

---

[112] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 334. Звесткі аб работніках медыцынскай службы ў заходніх абласцях БССР, за подпісам начальніка аддзела кадраў Міністэрства аховы здароўя БССР М.Катовіча, 10.06.1949 г.

[113] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 830, л. 24. Паведамленне 1-га сакратара ЦК КП(б)Б Гусарава.

9,1%, в суде и юстиции — 8,8%. Агенты по заготовкам, финагенты, работники торговли — из восточных областей либо других частей СССР[114].

Прыведзеная цытата патрабуе тлумачэнняў. Партыйнае кіраўніцтва Беларусі звяртала ўвагу на відавочную дыскрымінацыю мясцовага насельніцтва з пункта гледжання яго ўдзелу ў кіраванні краінай не па ўласнай ініцыятыве. Смерць Іосіфа Сталіна і звязаны з ёю пачатак адноснай лібералізацыі ўнутрыпартыйнага жыцця вымушалі частку вярхушкі КПСС рабіць паслабленні ў сістэме. 12 чэрвеня 1953 г. выйшла пастанова Прэзідыума ЦК КПСС «Пытанне БССР: перакосы ў сталінска-ленінскай нацыянальнай палітыцы», у якім звяртаецца ўвага і на «нездавальняючы стан вылучэння беларускіх кадраў у цэнтральныя, абласныя і раённыя аддзелы органаў улады». У пастанове гучала асаблівая занепакоенасць сітуацыяй у заходніх абласцях БССР, якая ацэньвалася як «дрэнная», што, на думку Прэзідыума, было «сур'ёзным перакосам савецкай нацыянальнай палітыкі»[115].

Удзел мясцовага насельніцтва (з падзелам на нацыянальнасці) у савецкай адміністрацыі Гродзенскай вобл. прыведзены ў Табліцы 3.

Табліца 3

**УДЗЕЛ МЯСЦОВАГА НАСЕЛЬНІЦТВА Ў САВЕЦКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛ. У 1947 г.**

| ПАСАДЫ | ЧЫНОЎНІКІ МЯСЦОВАГА ПАХОДЖАННЯ | БЕЛАРУСЫ | РУСКІЯ | ЯЎРЭІ | ІНШЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ |
|---|---|---|---|---|---|
| НАМЕСНІКІ СТАРШЫНЯЎ *аблвыканкама* | – | 2 | 1 | – | – |
| САКРАТАРЫ *аблвыканкама* | – | – | – | – | – |
| НАЧАЛЬНІКІ АДДЗЕЛАЎ *аблвыканкама* | – | 10 | 12 | 2 | – |
| СТАРШЫНІ *гарвыканкамаў і аблвыканкама* | 1 | 11 | 6 | – | – |
| НАМЕСНІКІ СТАРШЫНЯЎ *гарвыканкамаў і аблвыканкама* | – | 9 | 5 | 1 | – |
| САКРАТАРЫ *гарвыканкамаў і райвыканкамаў* | 3 | 10 | 4 | 1 | 1 |
| НАЧАЛЬНІКІ АДДЗЕЛАЎ *гарвыканкамаў і райвыканкамаў* | 41 | 109 | 61 | 4 | 8 |
| СТАРШЫНІ *гарадскіх і сельскіх саветаў* | 134 | 158 | 47 | – | 6 |
| САКРАТАРЫ *сельсаветаў* | 142 | 137 | 43 | – | 42 |

[114] НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 295, арк. 9. Даклад сакратара М.Зімяніна на Пленуме ЦК КПБ, 25—27.06.1953 г.

[115] НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 295, арк. 3. Гл. таксама: Касцюк М. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мінск, 1997. С. 259—260.

У наступныя гады адбылося пэўнае павелічэнне колькасці шараговых членаў камуністычнай партыі мясцовага паходжання, але, хоць яно і адбывалася за кошт мясцовых рабочых і калгаснікаў і, часткова, інтэлігенцыі, гэта не магло істотна паўплываць на сфармаваную расстаноўку сіл у сістэме кіравання краінай. Найвышэйшыя пасады заўсёды займалі немясцовыя чыноўнікі, і такая сітуацыя істотна не змянілася да сённяшняга дня.

Заходнія вобласці Беларусі не былі тут выключэннем. Падобная сітуацыя была з удзелам у кіраванні рэспублікай мясцовага насельніцтва на захадзе Украіны. Як высветліў украінскі даследчык Анатоль Русначэнка, у 1953 г. з 742 сакратароў абкамаў, райкамаў і гаркамаў толькі 62 асобы паходзілі з заходніх абласцей Украіны, з 599 супрацоўнікаў апарату абкамаў партыі мясцовых было толькі 22, у гарадскіх і раённых партыйных камітэтах з 2 776 чалавек мясцовымі былі 285[116].

## МЕСЦА І РОЛЯ КП(б)Б

Таксама неабходна высветліць, якую ролю адыгрывала камуністычная партыя ў размеркаванні пасадаў партыйнай і савецкай улады. Савецкія органы выканаўчай улады (сельсаветы, райвыканкамы, аблвыканкамы) не мелі значнага ўплыву на працэс прызначэння канкрэтных асоб на кіраўнічыя пасады. У паведамленні на тэму набору кадраў у Гродзенскім абласным выканаўчым камітэце і раённых камітэтах у сувязі з гэтым зазначана:

> Подбором кадров в облисполкоме, горрайисполкомах занимаются председатели, заместители председателя, секретари и зав. секторами кадров облисполкома и горрайисполкома, причем последние в большинстве случаев являются только техническими оформителями, штатными уполномоченными по всевозможным кампаниям и непосредственными вопросами кадров занимаются очень мало[117].

У іншай справаздачы, дзе характарызуецца праца Гродзенскага абкама і яго роля ў камплектаванні наменклатуры мясцовых органаў выканаўчай улады, гаворыцца:

> Облисполком не занимается подбором заместителей председателей, секретарей, руководителей отделов городских и районных комитетов депутатов трудящихся. Все эти должности находятся в компетенции облисполкома, однако, никто из занимающих данную должность не был назначен в облисполкоме, а только поставлены в известность. Отдел кадров обкома, райкомы и их отделы кадров самостоя-

[116] Русначенко А. Народ збурений. Національно-визвольний рух в Україні і національні рухи опору в Білорусії, Литві, Латвії, Естонії у 1940—50-х рр. Київ, 2002. С. 275. Больш на гэму палітычнага кіраўніцтва Украіны, у тым ліку яе заходніх абласцей, гл.: Политическое руководство Украины. 1938—1989. Документы современной истории / Сост.: В.Ю. Васильев, Р.Ю.Подкур и др. Москва, 2006.

[117] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 141. Паведамленне аб стане працы з кадрамі абласнога, гарадскіх, раённых і сельскіх Саветаў дэпутатаў, якія працуюць у Гродзенскай вобл., 15.06.1947 г.

тельно занимаются подбором кадров для работы в советских органах власти, отстраняя, таким образом, от этого процесса соответствующие органы[118].

Часам даходзіла да кур'ёзаў. У Бераставіцкім раённым выканаўчым камітэце старшыня Савета Канстанцінаў ліквідаваў аддзел кадраў, калі даведаўся, што ў святле прыведзеных вышэй фактаў толькі партыя можа прымаць рашэнне аб прызначэнні канкрэтнага чалавека на кіраўнічую пасаду[119].

Партыйныя органы пастаянна ўмешваліся ў эканамічнае жыццё, часам у неістотныя пытанні, якія ніяк не перасякаліся са сферай іх дзейнасці, і гэта перашкаджала нармальнаму функцыянаванню дзяржаўнай сістэмы, ускладняла і без таго безнадзейную эканамічную машыну. Як паведамляла Камісія партыйнага кантролю (КПК) УКП(б), на працягу 8 месяцаў 1946 г. Гродзенскія абкам і аблвыканкам прынялі ў сукупнасці 84 пастановы, якія датычылі выключна эканамічных і сельскагаспадарчых пытанняў. Сярод іх такія, як «Аб ходзе рамонту шашы», «Аб мерапрыемствах па сяўбе гароху» і г.д.[120]

## АДНОСІНЫ З МЯСЦОВЫМ НАСЕЛЬНІЦТВАМ

Адсутнасць элементарнага ведання мясцовых умоў, нежаданне зразумець асаблівае меркаванне насельніцтва па многіх пытаннях, нахабныя паводзіны некаторых функцыянераў на мяжы злачынства і злоўжывання службовым становішчам спрыялі ўзаемнай непрыязнасці. Мясцовыя жыхары, змучаныя самавольнымі і занадта заўзятымі прадстаўнікамі партыйнай і савецкай улады, знаходзілі мужнасць, каб складаць скаргі ў разнастайныя савецкія ўстановы. Гэтыя скаргі даюць магчымасць даведацца хоць бы пра сотую частку таго, што адбывалася пасля вайны на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Дзяржаўная палітыка ў галіне рэалізацыі паставак, разнастайныя падаткі, правядзенне чарговых мерапрыемстваў улады вымушала прадстаўнікоў партыйнай і савецкай адміністрацыі напружваць усе сілы дзеля іх выканання. Часцей за ўсё яны не грэбавалі ніякімі сродкамі. Некаторыя выпадкі былі ўжо апісаны ў раздзеле, прысвечаным грамадска-палітычнай сітуацыі ў другой палове 1944 — 1945 гг. Аналіз дакументаў паказвае, што ў стасунках прадстаўнікоў улады з мясцовым насельніцтвам з таго часу змянілася няшмат.

Старшыня Нецецкага сельсавета Шышко праводзіў падпіску на дзяржаўную пазыку, пагражаючы сялянам зброяй[121]. У лютым 1947 г. старшыня сельсавета ў Вялікім Сяле (Свіслацкі раён) на сходзе, прысвечаным рэалі-

---

118 НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 3. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г.

119 Тамсама.

120 РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 138, л. 80. Інфармацыйная запіска аб недахопах у працы Полацкага, Гродзенскага і Мінскага абкамаў КП(б)Б, без даты, не раней за 31 жніўня 1946 г., за подпісам упаўнаважанага КПК у БССР Крылова.

121 НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 17. Паведамленне аб працы Лідскага райкама КП(б)Б сакратару ЦК КП(б)Б Ігнацьеву, без даты, не пазней за лістапад 1947 г.

зацыі дзяржаўных паставак, пагражаў людзям: «Я з вас скуру здзяру, а мяса падсмажу»[122].

Гэтыя выпадкі не адзінкавыя. 18 кастрычніка 1953 г. старшыня сельсавета Пугачы (Васілішкаўскі раён Гродзенскай вобл.), кандыдат у члены КПСС, узяўшы малакаліберны карабін, пайшоў па ваколіцы, каб праверыць, як рэалізуецца пастаўка бульбы дзяржаве. Ён убачыў грамадзяніна Багдзевіча, які на той час працаваў у полі, і запатрабаваў, каб той неадкладна выканаў план. У час спрэчкі ён выстраліў селяніну ў галаву. На шчасце, рана не была сур'ёзнай, яму толькі разбіла вусны і выбіла два зубы. На падставе амністыі ад 27 сакавіка 1953 г. справа была закрыта[123]. Жонку рэпрэсаванага «бандыта» Ганну Брычань з вёскі Павіцце (Дзівінскі раён Брэсцкай вобл.) брутальна пабілі намеснік старшыні райвыканкама, старшыня сельсавета і ўпаўнаважаны па дзяржаўных пастаўках за невыкананне плана паставак мяса дзяржаве. У жанчыны была толькі адна курыца[124].

## КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СЯЛЯНСТВА

Аднак сапраўдныя злоўжыванні, а не раз і злачынствы, пачаліся падчас правядзення ўсеагульнай калектывізацыі вёскі ў заходніх абласцях БССР у 1949 г. Свядома непрыхільнаму і нават варожаму стаўленню людзей да новай формы эканамічнага зняволення ўлада супрацьпаставіла шырокі спектр даступных сродкаў. Акрамя падатковай палітыкі, выкарыстоўваліся таксама запалохванне і збіццё найбольш упартых сялян. У задачы гэтай працы не ўваходзіць цэласнае апісанне такіх «злоўжыванняў». Большасць злачынных дзеянняў не адлюстравана ў дакументах, аднак дадзеныя, якія маюцца ў нашым распараджэнні, дазваляюць сцвярджаць, што маштаб іх быў велізарным. Дзеля выканання дырэктыў з цэнтра мясцовае кіраўніцтва выкарыстоўвала любыя метады, не зважаючы на пабочныя іх вынікі. У вёсцы Вялікае Тuroўе (Свірскі раён Маладзечанскай вобл.) сакратар райкама і старшыня сельсавета вырашылі стварыць калгас. Яны выклікалі сялян у адну з хат і прымушалі пісаць заявы на ўступленне. Падчас гутаркі людзей запалохвалі, а асабліва ўпартых моцна білі. Пасля такой «падрыхтоўчай» працы функцыянеры некалькі разоў прызначалі сходы, аднак на іх ніхто не прыходзіў. Раззлаваныя

[122] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 335—336. Паведамленне «Аб забруджванні савецкага і гаспадарчага апарату Гродзенскай вобл. антысавецкімі і іншымі элементамі, якія не выклікаюць даверу», 26.07.1947 г., за подпісам начальніка Гродзенскага УМДБ палкоўніка Палітыкі.

[123] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 383, арк. 195. Лісты працоўных. Выпіска з прыгавора суда аб спыненні следства па справе Маціхвейчука, 18.10.1953 г. Яшчэ адна справа тычылася затрымкі аплаты страхавых узносаў за 1952 г. у памеры 32 руб. «Вінаватай» аказалася Фірыновіч, састарэлая жыхарка вёскі Мацюкі Васілішкаўскага раёна. Фінансавы інспектар Козун, шукаючы схаваныя грошы, сякерай разбіў замок куфра. Старая ўпала на калені, просячы літасці, і памерла. Экспертыза паказала, што смерць наступіла ў выніку інфаркту. Справа па гэтаму выпадку была спынена на падставе амністыі, аднак празмерна заўзятага інспектара звольнілі з працы.

[124] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 390. Інфармацыйная запіска аб выніках працы прапагандысцкай групы ў Дзівінскім раёне, 12.03.1950 г.

кіраўнікі забаранілі жанчынам паліць у печы, забягалі ў хаты, вылівалі малако на зямлю і білі жанчын. Мужчыны ж на той час паўцякалі ў лес[125].

У сакавіку 1950 г. у Ваўкавыскім раёне з партактыву была створана спецыяльная брыгада па стварэнні калгасаў. У вёсцы Духаўляны а другой гадзіне ночы «актывісты» ўрываліся ў хаты і прымусова вялі сялян на сход. Непаслухмяных запалохвалі і білі. Калі нехта не адчыняў дзверы, то іх выломлівалі альбо выбівалі акно. У доме, дзе праходзіў сход, здзекаваліся з людзей; аднаго селяніна пасадзілі пад ложак і прымушалі там сядзець, пакуль не надумае ўступаць у калгас. Крыху пазней нязгоднаму селяніну выпісалі павестку на высечку і вываз 24 м куб. дрэва. Некалькі ўзброеных чалавек прыехалі ў суседнюю вёску і, пагражаючы зброяй, пабілі сялян. Там сабраўся натоўп, таму пасля некалькіх выстралаў у сялян актывісты пасняшаліся ўцячы. Гэтая справа атрымала розгалас, яе ўдзельнікі атрымалі па 5, 4 і 3 гады пазбаўлення волі[126].

Такія метады «заахвочвання» і перспектыва жыцця ў калгасах сеялі паўсюдны страх. У Дзятлаўскім раёне (Баранавіцкая вобл.) на вестку аб прыездзе прадстаўнікоў улады мужчыны з'язджалі са сваіх вёсак на тыдзень, а на сход прыходзілі толькі жанчыны і непаўналетнія. Нават мясцовы дэпутат сельсавета ў вёсцы Ліжэйкі «трапіў пад уплыў» аднавяскоўцаў і ўцёк, даведаўшыся аб прыездзе прадстаўнікоў ЦК КП(б)Б[127].

У Ляхавіцкім раёне Баранавіцкай вобл. на момант прыезду ўпаўнаважаных райкама насельніцтва Мядзведзіцкага, Федзюкоўскага і Дараўскага сельсаветаў пахавалася. У Дараўскім сельсавеце на вестку пра з'яўленне прадстаўнікоў улады білі ў званы, каб людзі ведалі, што едуць праводзіць калектывізацыю[128].

Цэнтральная ўлада мела пэўнае ўяўленне пра тое, што адбываецца ў рэгіёне. Інфармацыйныя запіскі і дадзеныя, якія высылаліся ў цэнтр рознага кшталту партыйнымі чыноўнікамі і членамі разнастайных кантрольных камісій, давалі дастаткова грунтоўнае ўяўленне аб сітуацыі. Гэтыя пытанні разглядаліся на розных партыйных сходах, аднак сапраўдныя прычыны там не падаваліся:

> Одним из серьезнейших недостатков в проведении коллективизации сельского хозяйства в западных областях является недопустимое распространение администрирования, запугивания крестьян, угроз со стороны партийных и советских работников, не желающих утруждать себя серьезной разъяснительной и политико-воспитательной работой среди крестьян[129].

---

[125] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 22, арк. 64. Інфармацыйная запіска аб арганізацыйна-гаспадарчым стане калгасаў у заходніх абласцях Беларусі, за подпісам упаўнаважанага Савета па калгасах у БССР Мачульскага, 09.08.1950 г.

[126] НАРБ. Ф. 4, воп. 65, спр. 34, арк. 272—275. Выпіска з прыгавора Вярхоўнага Суда БССР, 15.07.1950 г.

[127] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 9—10. Інфармацыйная запіска групы прапаганды ў Баранавіцкай вобл., 23.02.1950 г., за подпісам лейтэнанта Пратапопава.

[128] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 84. Інфармацыйная запіска групы прапаганды ў Баранавіцкай вобл. за перыяд 13.02. — 13.03.1950 г., за подпісам старэйшага агітацыйнай групы Граўмана.

[129] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 23. Інфармацыйная запіска «Аб працы Радашковіцкага райкама КП(б)Б» у ЦК КП(б)Б, лістапад 1947 г.

Апісаны вышэй выпадак, калі функцыянеры былі пакараныя, — хутчэй выключэнне, чым правіла. Большасць з іх засталася беспакаранай. Інструктар райкама Цімашкоў у Радашковічах (Маладзечанская вобл.) пабіў гр. Шукевіча ў прысутнасці 2-га сакратара райкама за тое, што ў яго было 20 кг збожжа, якое належала дзяржаве. Участковы РА МУС камсамолец Чарныш забіраў у людзей на базары прадукты. Пра такія выхадкі, якія, на думку члена рэвізійнай камісіі ЦК КП(б)Б Бандарэнкі, «тут шырока распаўсюджаны», ведалі раённыя ўлады, але «ні райкам, ні пракуратура ніякім чынам не рэагавалі»[130].

## ЗЛАЧЫНСТВЫ

Здзекі з людзей, падчас якіх справа даходзіла да забойстваў, ужо цяжка расцэньваць як проста злоўжыванне. Вылучаліся тут супрацоўнікі карных органаў, МУС/МДБ. Участковы пінскага РА МУС Струк з трыма падначаленымі наступным чынам правяраў лаяльнасць мясцовых да савецкай улады: выдаючы сябе за «бандытаў», яны ўрываліся ў хаты і арганізоўвалі допыты, здзекуючыся пры гэтым з ахвяраў. Правяраючы лаяльнасць дэпутата сельсавета (*назва вёскі ў крыніцы адсутнічае — Я.Ш.*) Гарошкі, ён прывёў таго ў лес, пагражаючы забіць, а калі дэпутат пачаў уцякаць, участковы здзейсніў у яго напрамку некалькі стрэлаў, але, на шчасце, не пацэліў[131].

У іншым выпадку дайшло да забойства, якое здзейснілі два супрацоўнікі Лідскага РА МДБ. 26 мая 1947 г. лейтэнант МДБ Сяргееў і малодшы лейтэнант Матвіеўскі ў вёсцы Малькаўшчына разагналі сход сялян, схапілі гр.Пятра Стрыбуця і без ніякіх абвінавачванняў у яго адрас расстралялі. За гэта іх судзілі (*аднак невядома, якое атрымалі пакаранне, — Я.Ш.*). За дзень да таго згаданыя супрацоўнікі ў іншай вёсцы ў нецвярозым стане адкрылі агонь па членах сялянскага каапературыва. На шчасце, тады ніхто не загінуў[132]. У Жалудоцкім раёне ўчастковы РА МУС Хацук у вёсцы Мастаўляны застрэліў загадчыка крамы Цэрахоўскага[133]. У святле апісаных падзей трагікамічна гучыць гісторыя пра аднаго спрытнага селяніна з вёскі Шамякі Васілішкаўскага раёна (Гродзенская вобл.), «кулака», паводле ацэнак партыйных кантралёраў,

---

[130] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 23. Інфармацыйная запіска «Аб працы Радашковіцкага райкама КП(б)Б» у ЦК КП(б)Б, лістапад 1947 г.

[131] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 350. Паведамленне аб грубым парушэнні сацыялістычнай законнасці асобнымі супрацоўнікамі органаў МУС/МДБ, без даты, не пазней за лістапад 1947 г. Падобныя факты праверкі «лаяльнасці» мясцовага насельніцтва былі і ў іншых раёнах заходніх абласцей БССР. У Жалудоцкім раёне (Гродзенская вобл.) п'яныя савецкія і партыйныя функцыянеры падчас правядзення «палітычнай працы і рэалізацыі паставак дзяржаве», інсцэніруючы нападзенне «польскай банды», урываліся ў хаты сялян Парэчанскага сельсавета і пабілі селяніна Залескага. Гэты факт замаўчалі на раённым узроўні, абкам жа абмежаваўся партыйнай вымовай. НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 17—18.

[132] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 94. Паведамленне аб выніках праверкі працы з кадрамі ў Лідскім гаркаме КП(б)Б, 18.06.1947 г.

[133] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 375. Паведамленне аб грубым парушэнні сацыялістычнай законнасці асобнымі супрацоўнікамі органаў МУС/МДБ, без даты, не пазней за лістапад 1947 г.

які вельмі цікавым чынам надрэсіраваў свайго сабаку. На каманду «начальнік!», «агент!» ці «ўчастковы!» сабака адразу ж хаваўся ў будку[134].

## КАДРЫ НКУС/НКДБ (МУС/МДБ)

Кадры органаў МУС/МДБ заслугоўваюць асобнай размовы. Аб'ём дадзенай працы не дазваляе ўсебакова разгледзець сітуацыю, якая складалася ў згаданых органах, таму аўтар абмяжуецца кароткай характарыстыкай. Кантрольная камісія наступным чынам ацаніла працу гродзенскіх аддзелаў МУС/МДБ:

> Прибыв на территорию, которая была только что освобождена от немецких оккупантов, встретившись с трудностями и серьезной работой, многие из прибывших оказались неподготовленными и неспособными работниками в условиях на освобожденной территории. Многие из них вскоре стали ставить вопрос об откомандировании их обратно. (...) Ввиду несерьезного подхода к отбору и посылке оперативно-чекистских работников многими УМГБ восточных областей СССР на работу в МГБ БССР, в том числе и УМГБ Гродненской области, наряду с хорошими работниками, в дальнейшем показавших и оправдавших себя на работе, прибыло значительное количество оперативных работников, имевших в прошлом «хвосты» и отрицательные характеристики по месту прежней работы[135].

Да такіх хвастоў належалі: п'янства, нізкі маральны ўзровень побытавых паводзін, часам — злачыннае мінулае. У Слонім (Баранавіцкая вобл.) быў накіраваны намеснік начальніка РА МУС па палітычнай частцы Гушчын, які павінен быў «паляпшаць узровень выхаваўчай працы сярод міліцыянераў». Пасля непрацяглага сістэматычнага п'янства ён атруціўся гарэлкай і памёр[136]. Старэйшы следчы афіцэр Кнышын «прымушаў затрыманых жанчын уступаць з імі ў сексуальную сувязь падчас правядзення допытаў»[137].

Здараліся іншыя недапушчальныя выпадкі. На пасаду ў Свіслацкі РА МУС быў прызначаны нейкі Маурын, які, выконваючы абавязкі начальніка РА МУС у Віцебскай вобл. *(раён не ўказаны — Я.Ш.)* здзейсніў некалькі злачынстваў, у тым ліку забіў некалькіх «невінаватых савецкіх грамадзян» (*больш падрабязных звестак на гэты конт у дакуменце не прыведзена — Я.Ш.*). І такія выпадкі набылі масавы маштаб: «Аналіз пратаколаў райкамаў, гаркамаў, абкамаў КП(б)Б і паведамленні таварышаў, якія прыязджалі з гэтых тэрыторый, указваюць на тое, што разбэшчанасць у паводзінах і п'янства распаўсюджаны па ўсёй рэспубліцы, асабліва ў заходніх абласцях». Такія высновы зрабіў намеснік загадчыка арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦК КП(б)Б Пратаданаў. На той час ён прапаноўваў абмеркаваць кадравае пытанне ў

---

[134] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202, арк. 117—119. Справаздача аб працы ў перыяд выбараў у Замасцянскай выбарчай акрузе Васілішкаўскага раёна Гродзенскай вобл., 17.03.1950 г.

[135] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 158—159. Паведамленне аб працы з кадрамі Упраўлення МДБ Гродзенскай вобл. на 25 чэрвеня 1947 г.

[136] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 44. Паведамленне аб працы Слонімскага райкама КП(б)Б, без даты, не пазней за лістапад 1947 г.

[137] Тамсама, арк. 43.

органах МУС/МДБ на пасяджэнні бюро Цэнтральнага камітэта[138]. Цікава, што тагачасны міністр унутраных спраў БССР Бельчанка, даведаўшыся пра праверку, якую арганізавала ЦК КП(б)Б у Гродзенскай вобл., спрабаваў вырашыць справу «палюбоўна» падчас тэлефоннай размовы з тагачасным сакратаром Гродзенскага абкама Калініным: «Дакументаваць, напэўна, не трэба, а пасварыцца на іх (супрацоўнікаў МУС) варта»[139]. Усё, што паказвала савецкую ўладу не ў самым лепшым святле, старанна рэтушавалася і падмалёўвалася. Святы прынцып — не выносіць смецце з хаты — быў найважнейшым канонам функцыянавання савецкай сістэмы.

Кіраўніцтва ў Маскве ведала пра гэтыя факты, прынамсі, пра некаторую іх частку. На карысць гэтага сведчыць той факт, што асобныя справаздачы, у прыватнасці, Камісіі партыйнага кантролю адносна сітуацыі ў заходніх абласцях БССР, складаліся на імя найвышэйшых партыйных чыноўнікаў. У інфармацыйнай запісцы ЦК УКП(б) аб выніках кантролю ЦК КП(б)Б між іншым паведамляецца:

> Чаще всего нарушение социалистической законности отмечается в западных областях республики. Только в течение 1945 года и 5 месяцев 1946 года за морально-бытовое разложение и нарушение социалистической законности было уволено из органов 454 работника МВД, 207 — МГБ, 78 работников суда и прокуратуры[140].

Найгорш выглядала сітуацыя ў Гродзенскай вобл. На працягу 1946—1947 гг. з органаў МУС/МДБ было звольнена 766 чалавек (47%), у пракуратуры — 36 чалавек (36%). Цякучасць кадраў, нізкі ўзровень адукацыі і маралі сталі вынікам таго парадку, пры дапамозе якога запаўняліся вакансіі. На ўсе пасады ў апараце карных органаў супрацоўнікаў набірала і накіроўвала Упраўленне па кадрах МУС/МДБ СССР або, у меншай ступені, БССР. Часцей за ўсё патрэбных людзей шукалі ва ўсіх частках СССР, пры гэтым лепшых людзей стараліся пакінуць на месцы, а ад горшых пазбавіцца. Вынікам такой палітыкі былі выпадкі парушэння закону, якія, як правіла, заставаліся беспакаранымі.

Нават на пасаду кіроўцы або прыбіральшчыцы ў адміністрацыі прымаліся найчасцей людзі з Усходняй Беларусі. Аднак частку персаналу, асабліва ва ўстановах, не звязаных з палітычнай дзейнасцю, складалі мясцовыя. Гэтага не ўдалося пазбегнуць, бо немагчыма было перавесці ўсіх «усходнікаў» для працы ўсяго гаспадарчага апарату. Тым не менш, пастаянная падазронасць, недавер, асабліва да тых, хто заставаўся на акупаванай тэрыторыі, у дачыненні да мясцовага насельніцтва захоўваліся. У Брэсцкім абласным упраўленні сельскай гаспадаркі працавала шмат людзей, якія, на думку кіраўніка палітычнага сектара, не выклікалі палітычнага даверу. Галоўнае абвінавачванне ў іх адрас заключалася ў тым, што яны жылі на акупаванай тэрыторыі, а некаторых немцы вывезлі на прымусовыя працы ў Рэйх. Цікава

---

[138] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 558, арк. 117.

[139] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 39. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г.

[140] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 139, л. 12. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г.

тое, што віна аднаго з тых, хто значыўся ў спісе падазроных, заключалася ў тым, што ён нарадзіўся на Люблiншчыне, а ва ўсіх анкетах пазначаў нацыянальнасць «рускі»: гэтага чалавека падазравалі ў жаданні схаваць сваю «польскую» нацыянальнасць. Такіх людзей, паводле меркавання палітычнага работніка, трэба было замяніць у самы кароткі тэрмін. З такой просьбай у ЦК Беларусі звярнуўся «чуйны» кіраўнік палітычнага сектара Брэсцкага абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі[141].

## «ЗАСМЕЧАНАСЦЬ» АПАРАТУ

Практыка прызначэння на пасады амаль выключна людзей з усходу, не заўсёды «палітычна надзейных», прывяла да «засмечанасці» апарату. Адзін з партыйных функцыянераў прызнаваўся: «Трэба звяртаць увагу на кадры з усходу, бо яны маюць за сабой шмат грашкоў»[142]. Адным з такіх «грашкоў» было мнагажонства. Гэта праблема чалавечай натуры, і яна ніяк не звязана з усходнім ці заходнім паходжаннем. Аднак грамадства Заходняй Беларусі, у большасці сваёй вясковае, было выхавана ў кансерватыўнай традыцыі і таму больш негатыўна ўспрымала такія паводзіны. Доўгі час першы сакратар Гродзенскага райкама Кульбацкі жыў з дзвюма «жонкамі», і пра гэта ведалі не толькі суседзі, але і ўсё партыйнае кіраўніцтва[143]. Такія прыклады не былі выпадковымі і датычылі чыноўнікаў рознага рангу, ад старшыні сельсавета, міліцыянера ці пракурора да першага сакратара райкама. Сапраўдным рэкардсменам быў пракурор Крывіцкага раёна (Маладзечанскай вобл.) Калашнікаў, які, паводле ацэнкі партыйнай камісіі, «сістэматычна п'янстваваў». Пракурор пакінуў сваю жонку ў Фрунзе і ў анкетах пісаў, што з'яўляецца халасцяком. Спачатку ён ажаніўся з медсястрой з Будслава і здраджваў ёй з іншымі жанчынамі. У верасні 1946 г. дайшло да наступнага: да пракурора раптоўна прыехала яшчэ адна жонка, якую ён пакінуў у Полацкай вобл. Пасля скандалу пра сітуацыю даведалася ўсё мястэчка. Пракурор, да таго ж, захварэў на венерычнае захворванне «ў выніку свайго ладу жыцця» і, каб пазбегнуць розгаласу, падрабіў дадзеныя ў медыцынскай карце, напісаўшы там «вострая экзэма сцягна»[144].

Але сапраўднай напасцю было празмернае ўжыванне алкаголю супрацоўнікамі адміністрацыі і партыйных органаў. Пра тое, якія маштабы набыло п'янства, сведчаць партыйныя дакументы. У Дзівінскім раёне (Брэсцкая вобл.) партыйная праверка выявіла, што некалькі старшынь сельсаветаў — алкаголікі, якія сваімі паводзінамі «падрываюць аўтарытэт улады. У нецвярозым стане дазваляюць сабе біць сялян, забіраюць іх хатнія

141 НАБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 22, арк. 52—55.

142 НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 160. Інфармацыйная запіска групы прапаганды ў Навагрудскім раёне, 16.03.1950 г., за подпісам упаўнаважанага ЦК КП(б)Б Дубовіка.

143 НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 21. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г.

144 НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 263—264. Пастанова Маладзечанскага абкама КП(б)Б № 3/6-В, 25.12.1946 г.

рэчы»[145]. У Баранавіцкай вобл. начальства, якое разводзіла п'янства, сцвярджала: «П'юць усе, ад партыйных нізоў да самага верху»[146]. Супрацоўнік установы культуры (Дома сацыялістычнай культуры), член УКП(б) Малікаў у Ловіцкім сельсавеце (*раён не ўказаны — Я.Ш.*) Брэсцкай вобл. «большасць часу прысвячаў п'янству і сну». Нават ведаючы пра візіт прадстаўнікоў ЦК КП(б)Б, напіўся «да страты чалавечага аблічча». Да гэтага ён працаваў у спажывецкім кааператыве, але за п'янства і растрату дзяржаўных грошай быў пераведзены на іншую пасаду. «Пра ўсё гэта ведала раённае кіраўніцтва, але ніякім чынам не адрэагавала»[147]. Але як можна было рэагаваць, калі недахоп кадраў вымушаў прымаць на працу хоць каго-небудзь, абы паслухмянага сістэме. У дзень выбараў у Вярхоўны Савет СССР у Васілішкаўскім раёне старшыня сельсавета (*вёска ў крыніцы не ўказана — Я.Ш.*) Дудараў разам з сакратаром цэлы дзень пілі; на наступны дзень кантрольная камісія з Мінска знайшла яго соннага на стале ў памяшканні, дзе павінны былі праходзіць выбары. Сакратар Васілішкаўскага райкама Багуцкі апраўдваў свайго падначаленага: «У нас ёсць і горшыя старшыні»[148].

Партыйнае кіраўніцтва спрабавала выправіць сітуацыю, выклікаючы «на дыван» асобных функцыянераў і патрабуючы ад іх, каб сталі на правільны шлях[149]. Шматразовыя замены, перавод з адной пасады на іншую не давалі жаданых вынікаў. Часта функцыянераў з-за рэгулярнага п'янства і недапушчальных паводзін у дачыненні да насельніцтва пераводзілі ў іншае месца. Сакратара Радунскага райкама Лескіна звольнілі з працы за п'янства і збіццё людзей, а потым прызначылі на пасаду намесніка старшыні райвыканкама ў Сапоцкіне, дзе пасля двух тыдняў працы ён зноў у нецвярозым стане пабіў некалькіх сялян[150]. На працягу 1945 г. і 11 месяцаў 1946 г. у 83 райкамах

---

[145] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 312—320. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б аб выніках выезду групы прапаганды ў Дзівінскі раён, 20.03.1950 г.

[146] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 51. Інфармацыйная запіска «Аб працы групы прапаганды ў Баранавіцкай вобл.», сакавік 1950 г.

[147] Тамсама, арк. 390. Інфармацыйная запіска групы прапаганды ў Брэсцкай вобл., 12.03.1950 г. Бібліятэкар Васіль Кузіч у той самай вёсцы працаваў раней сакратаром сельсавета, але за п'янства і выдачу фальшывых пасведчанняў быў пераведзены ў Дом сацыялістычнай культуры. Падобным чынам паводзіў сябе і старшыня сельсавета, якога насельніцтва лічыла п'яніцам і лайдаком. Перад гэтым ён працаваў у вясковым кааператыве, адкуль яго выгналі за крадзеж і п'янства. Упаўнаважаны Міністэрства нарыхтовак у дзень візіту партыйнай камісіі ляжаў п'яны пад плотам.

[148] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 301. Інфармацыйная запіска 1-му сакратару КП(б)Б Панамарэнку, 13.04.1947 г., за подпісам супрацоўніка Акадэміі навук БССР Куніцкага.

[149] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 104—106. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б з Гродзенскага абкама, 25.07.1946 г., за подпісам сакратара абкама Калініна. Сакратар па кадрах Зэльвенскага райкама Лесюкоў з самага пачатку працы ў Заходняй Беларусі сістэматычна напіваўся. Калі яго з-за гэтага выклікалі ў Гродна, то ён напіўся да страты прытомнасці і на вуліцы яго забрала міліцыя. У выніку ён атрымаў партыйную вымову.

[150] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 5—6. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г. У іншым выпадку інструктара Лідскага райкама Гулаева за п'янства перавялі ў Радунь. Ён не пакінуў і там сваіх ранейшых звычак,

заходніх абласцей Беларусі змяніліся 63 першыя сакратары райкамаў, 71 другі сакратар, 83 сакратары па кадрах. У той жа час змянілася 76 старшыняў райвыканкамаў[151].

Некаторыя працаўнікі партыйнага апарату складалі заявы з просьбамі аб пераводзе на ранейшыя месцы працы. Сакратар Лідскага райкама Харчыстаў у лісце да 1-га сакратара КП(б)Б Панамарэнкі прасіў, каб яму дазволілі вярнуцца дадому ў Волагадскую вобл., дзе ён займаў пасаду 1-га сакратара райкама. Сваю просьбу ён тлумачыў цяжкімі ўмовамі працы, «адсутнасцю адпачынку апошнія сем гадоў», «дрэнным станам здароўя», «адсутнасцю клопату пра партыйныя кадры»[152]. Далейшы ход справы невядомы. У большасці выпадкаў ніхто не звяртаў увагі на такія скаргі, нікога ніхто не пытаўся, дзе ён хоча працаваць.

Было б несправядліва бачыць крыніцу ўсіх няшчасцяў у супрацоўніках з усходу. Усходняя частка Беларусі ў 1920—30-х гг. атрымала страшны досвед: палітычныя рэпрэсіі, высылкі цэлых нацыянальных груп, брутальная калектывізацыя. Інтэлігенцыя і патрыятычна настроеныя асобы вынішчаліся і абясшкоджваліся[153]. Другая сусветная вайна, разбурэнні, нямецкі і савецкі тэрор знішчылі цэлыя пакаленні. Іван Бычкоў нарадзіўся ў 1926 г. у Касцюковічах (Усходняя Беларусь). Удзельнічаў у савецкай партызанцы. Пасля заканчэння педагагічнага тэхнікума быў накіраваны ў Заходнюю Беларусь, дзе яго прызначылі на пасаду дырэктара школы ў вёсцы Гарачкі (Сапоцкінскі раён Гродзенскай вобл.). У гэтай вёсцы жылі палякі. Ён успамінае, што, як толькі навучыўся збольшага размаўляць па-польску, стаўленне жыхароў да яго змянілася. Таксама згадвае, што некалькі разоў да яго прыходзілі «бандыты» з Аўгустоўскай пушчы, аднаго з іх звалі «Лось». У іх было сваё стаўленне да прыезджых: тых, хто свядома не ўмешваўся ў палітыку і калектывізацыю, у прынцыпе, не чапалі. Паколькі дырэктар вучыў дзяцей, яго пакінулі ў спакоі. З яго ўспамінаў вынікае, што адносіны з мясцовымі заўсёды былі нармальнымі, калі да людзей ставіцца з павагай і не парушаць іх правы[154].

Нежаданне працаваць ва ўмовах Заходняй Беларусі, у якую прымусова накіроўвалі партыйных чыноўнікаў з усходу падчас чарговых урадавых кампаній, выклікала адпор значнай іх часткі, асабліва прывілеяванай. У час стварэння палітычных аддзелаў пры МТС (машынна-трактарных станцыях) пачалася чарговая хваля накіраванняў на працу ў заходнія вобласці БССР. Найбольшы адпор давала партыйная бюракратыя з Мінска. Гэта цалкам зразумела: ніхто не жадаў пакідаць цёплае месца, зручную кватэру, працу

п'яным адкрыў агонь па селяніну, які не справіўся з планам дзяржаўных паставак. У выніку інструктара накіравалі на абласныя партыйныя курсы.

[151] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 42. Паведамленне ў ЦК УКП(б), 06.01.1947 г., за подпісам інспектара ЦК УКП(б) Задзіёнчанкі.

[152] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 248—250. Запіска 1-му сакратару КП(б)Б Панамарэнку, 29.11.1946 г.

[153] Больш на гэтую тэму гл.: Т. Протько. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Минск, 2002.

[154] Размова з Іванам Бычковым, 1926 г. н., праведзена аўтарам у Мінску 12.04.2006 г.

ў сталіцы і ехаць у небяспечную і бесперспектыўную Заходнюю Беларусь. Напрыклад, сакратар аддзела ўзнагарод пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР Понтус адмовіўся выязджаць, бо меў вялікую сям'ю (з чатырох чалавек), кватэру і наогул ужо папрацаваў у заходніх абласцях, «няхай цяпер іншыя папрацуюць». Са 110 мінскіх камуністаў, скіраваных у заходнія вобласці, адмовілася выязджаць 98[155].

## «ВЯРХУШКА» ЎЛАДЫ

Чым вышэйшай была пасада, тым большай была розніца паміж шараговымі членамі партыі і яе вярхушкай. Розніца была бачная ўжо з пасады першага раённага сакратара. Спецыяльныя інструкцыі прадугледжвалі іншы харчовы паёк, закупка тавараў штодзённага ўжытку для канкрэтнай групы людзей адбывалася ў спецыяльных закрытых установах. Упраўленне Савета Народных Камісараў СССР з 12 чэрвеня 1945 г. усталявала суму для забеспячэння прамысловымі таварамі супрацоўнікаў партыйнага і камсамольскага апарату, дзяржаўнай адміністрацыі і эканамічных арганізацый. Да першай катэгорыі належалі сакратары райкамаў, старшыні райвыканкамаў, а таксама іх намеснікі. Ім выдзялялася на паўгода 1000 рублёў на закупку гаспадарчых тавараў. Другая катэгорыя атрымлівала толькі 750 рублёў[156].

Наменклатура вярхушкі ўлады ў Мінску мела іншыя магчымасці для задавальнення сваіх патрэб. Доступ да шэрагу дэфіцытных тавараў у той час адкрывалі рэпарацыі і ваенныя трафеі з Германіі. Праверка, праведзеная ў Галоўным упраўленні па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню народнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў, выявіла шэраг злоўжыванняў, звязаных з падзелам «ваенных трафеяў», у тым ліку продаж розных тавараў і мэблі па заніжаных у некалькі разоў цэнах (мужчынскія паліто прадаваліся за 100 руб. замест 832 руб., радыёпрыёмнікі — за 325 руб. замест 1100 руб. і г.д.)[157]. Шмат рэчаў раздавалася як «падарункі». Начальнік Галоўнага ўпраўлення атрымліваў лісты ад розных чыноўнікаў з просьбай выдзеліць частку тавараў для хатняй гаспадаркі. Гэта цалкам зразумела, бо вялізны і яшчэ больш павялічаны вайною дэфіцыт у СССР прывёў да адсутнасці неабходных для нармальнага жыцця рэчаў. У адной з такіх просьбаў напісана: «Уважаемый Алексей Михайлович! Если есть такая возможность — помогите, пожалуйста. Хочется жить немного лучше, иметь даже радио, швейную машинку (...). По другому этого не удастся получить. С приветом, Соловьев». Просьба была пачута, функцыянер атрымаў «для лепшага жыцця» пяць крэслаў, кушэтку, дыван, кухонны посуд, адзенне і г.д.[158]

---

[155] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 132, арк. 47—51. Паведамленне «Аб непартыйных паводзінах некаторых камуністаў, накіраваных на працу ў палітаддзелах МТС», 12.05.1950 г.

[156] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 121, арк. 9.

[157] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 139, л. 131—132. Вынікі праверкі Галоўнага ўпраўлення па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню народнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў БССР за перыяд 01.01.1945 г. — 01.08.1946 г. Дакумент №4181, 05.11.1946 г.

[158] Там же.

Згодна з асабістым вусным даручэннем 1-га сакратара КП(б)Б Панамарэнкі, у красавіку 1945 г. былі бясплатна раздадзены 124 радыёпрыёмнікі («Mende»), спецыяльна прывезеных самалётам з Германіі, праз год — яшчэ 70. У снежні 1945 г. «на Каляды» кожны сакратар райкама, старшыня райвыканкама і загадчык РАНА атрымалі канверты з купонамі на паліто, гарнітур, бялізну і пасцелю з «трафеяў»[159]. Як паказала праверка, жонкі сакратароў ЦК КП(б)Б Панамарэнкі і Маліна, а таксама іншых чыноўнікаў прыходзілі на склады, дзе захоўваліся «трафеі», і выбіралі для сваіх дачаў карціны, фіранкі, абрусы і г.д.[160]

Выкрытыя факты абумовілі далейшую праверку, на гэты раз — аператыўнай групы Савета Міністраў БССР, якая займалася на тэрыторыі Германіі «дэмантажом прамысловага абсталявання і зборам трафеяў». Трафеі ў выглядзе гадзіннікаў, паляўнічых стрэльбаў, адзення і г.д. шчодра раздаваліся членам аператыўнай групы і іншым асобам, часта выпадковым наведвальнікам. Са жніўня 1945 г. да верасня 1946 г. раздалі 88 стрэльбаў, 180 радыёпрыёмнікаў, 16 веласіпедаў і г.д.[161] Выпадкова «выпарылася» 1207 літраў спірту. Не былі занесены ў дакументы трафеі, атрыманыя ў ваенных камендатурах Федэральнай зямлі Саксонія, у тым ліку скрынкі з лабараторным абсталяваннем, тысячы метраў электрычнага кабелю, посуд, адзенне і г.д. У выніку кіраўніцтва аператыўнай групы БССР у Берліне разам са старшынёй Савета Міністраў БССР Панамарэнкам было выклікана ў Маскву «на дыван»[162].

Праведзеная па загадзе Масквы праверка фінансавай і эканамічнай дзейнасці ЦК КП(б)Б выявіла шэраг злоўжыванняў і парушэнняў пры карыстанні партыйнымі фінансамі. У той час як нізы партыі ў рэгіёнах не мелі мэблі для сваіх памяшканняў, ЦК выдаў на закупку дарагой мэблі, сервізаў і г.д. каля 892 тыс. руб., што складала 44,6% усіх сродкаў, якімі валодала на той час ЦК КП(б)Б. Дарагую мэблю і абсталяванне для кабінетаў куплялі на працягу 1944—1946 гг. на базарах і ў камісійных крамах Вільні і Масквы[163]. Значная іх частка знаходзілася ў кватэрах і на дачах вышэйшага партыйнага кіраўніцтва Беларусі, а таксама ў людзей, якія не працавалі ў апараце ЦК. Праверка выявіла таксама факт выкарыстання значных фінансавых сродкаў з партыйнага бюджэту на будаўніцтва вілы для Панамарэнкі і дач для іншых функцыянераў[164]. Некаторыя сакратары ЦК КП(б)Б (Панамарэнка, Малін,

---

[159] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 139, л. 137.

[160] Там же, л. 145. Гл. таксама: М.Касцюк. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мінск, 1997. С. 242.

[161] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 16—27. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Кузняцову, за подпісам міністра Камітэта дзяржаўнага кантролю СССР Льва Мехліса, 23.12.1946 г.

[162] Там же.

[163] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 31—36. Інфармацыйная запіска №5149-46 «Аб выніках праверкі фінансава-эканамічнай дзейнасці ЦК КП(б)Б» сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Кузняцову, Патолічаву, Папову, 01.09.1946 г., за подпісам кіраўніка адміністрацыйнага аддзела ЦК УКП(б) Крупіна.

[164] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 121. У ананімным лісце ў Камісію партыйнага кантролю ЦК УКП(б) паведамлялася пра пабудову пад Масквой дачы для Панамарэнкі. Камісія партыйнага кантролю пацвердзіла гэтую інфармацыю. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Кузняцову.

Аўхімовіч) мелі ў карыстанні па тры службовыя аўтамабілі. Падобнай была сітуацыя і на абласным узроўні: 1-ыя сакратары Брэсцкай і Полацкай абласцей мелі па 2-3 службовыя аўтамабілі. І гэты спіс можна працягваць.

Панамарэнку не дапамагла самакрытыка — адзін з істотных момантаў партыйнага рытуалу для вінаватага. У яго адрас прагучала шмат абвінавачванняў: ад прыватных спраў да фінансавых і эканамічных пытанняў. Падаецца, што тут паўплывала ацэнка, зробленая камісіяй УКП(б): «Панамарэнка атачыў сябе лісліўцамі, не прымаў крытыкі ў свой адрас». У газетах і часопісах часта друкуюцца яго партрэты, у яго адрас накіроўваюцца розныя прывітальныя лісты, яго выбіраюць у розныя ганаровыя прэзідыумы»[165]. У той час падобныя паводзіны маглі лёгка выклікаць гнеў першай асобы савецкай дзяржавы. Нездарма група чыноўнікаў на чале з Панамарэнкам была звольнена. На пасаду 1-га сакратара ЦК КП(б)Б быў прызначаны былы сакратар Молатаўскага абкама Мікалай Гусараў, рускі па нацыянальнасці.

Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць: наменклатура ніжэйшага ўзроўню таксама падверглася лёгкаму «ператрусу». Нягледзячы на аднаразовыя «падарункі» і ў нейкім сэнсе прывілеяванае становішча пры забеспячэнні ў параўнанні з астатнім грамадствам, пасляваенная рэчаіснасць вымушала наменклатуру раённага ўзроўню шукаць іншыя крыніцы для ўтрымання сваіх сем'яў, часам даволі шматлікіх. Частка чыноўнікаў спрабавала ўладкавацца на новых землях, купляючы ці здабываючы рознымі спосабамі дамы і жывёлу. Аднак вышэйшая ўлада палічыла недапушчальным тое, што ў многіх чыноўнікаў былі каровы, авечкі і г.д. Паводле пастановы XVI Пленума ЦК КП(б)Б, супрацоўнікі партыйнага апарату былі абавязаны аддаць дзяржаве жывёлу і дамы. У Маладзечанскай вобл. з 208 прадстаўнікоў наменклатуры КП(б)Б у 51 былі ўласныя каровы[166]. Частка з іх паклапацілася, каб прадаць кароў на базары, частка ж не аддала з-за дзяцей, хвароб і г.д. На думку вышэйшага партыйнага кіраўніцтва, «факт валодання каровамі негатыўна ўплываў на практычную дзейнасць работнікаў і кампраметаваў іх у вачах шараговых членаў партыі». Гэта характарызавалася як «дробнабуржуазныя перажыткі, эгаізм»[167].

Абвінавачванні ў эгаізме сапраўды мелі падставы. Дапамога UNRRA*, прызначаная для асабліва пацярпелых у час вайны, часта была крыніцай папаўнення гардэроба чыноўнікаў і іхніх сваякоў. Большасць дапамогі ішла на ўсход Беларусі, частка раскрадалася цэнтральнай уладай. Справа атрымала розгалас, і пра яе даведаліся ў Маскве[168]. У Маладзечне 8 верасня 1946 г.

---

[165] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 139, л. 25. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Патолічаву, Кузняцову, 08.07.1946 г.

[166] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 1084, арк. 76—79. Паведамленне аб выкананні пастановы ЦК КП(б)Б аб здачы кароў і дамоў дзяржаве, 17.05.1948 г., за подпісам сакратара Маладзечанскага абкама Несцяронка.

[167] Тамсама.

* UNRRA (United Nations Relief and Rehabilitation Administration) — Адміністрацыя ААН па аказанні дапамогі і рэабілітацыі, міжнародная арганізацыя, створаная ў ЗША ў 1943 г. для аказання дапамогі краінам антыгітлераўскай кааліцыі, разбураным у выніку Другой сусветнай вайны; была распушчана ў 1947 г.

[168] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 139, л. 66. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Кузняцову, 04.03.1947 г., за подпісам намесніка кіраўніка Упраўлення па кантролю партыйных органаў

міліцыя затрымала на базары Кліма Яблакава, сына намесніка кіраўніка Галоўрыбпрама пры Саўміне БССР Яўхіма Яблакава, які спрабаваў прадаць адзенне заходняй вытворчасці па вельмі нізкай цане. Яго бацька тлумачыў у міліцыі, што «приехал в район Молодечно на охоту, деньги все растратил и поэтому послал сына на базар продать вещи с тем, чтобы потом выпить». У нататцы міністра МУС БССР Бельчанкі далей гаварылася: «Сын его немедленно был из отделения освобожден, после чего перечисленные вещи он продал на базаре и с отцом направился в ресторан, где продолжительное время пьянствовали»[169].

Іншы прыклад дае грашовая рэформа, якая праводзілася ў 1947 г.[170] Ініцыятыва зыходзіла ад Савета Міністраў СССР і ЦК УКП(б). 14 снежня 1947 г. выйшла пастанова «Аб правядзенні грашовай рэформы і адмене картак на прамысловыя і спажывецкія тавары». Перад правядзеннем рэформы мясцовая адміністрацыя атрымала сакрэтныя лісты з інструкцыямі, якія трэба было адкрыць у канкрэтны тэрмін. Аднак у многіх месцах лісты адкрылі раней. Старшыня Браслаўскага райвыканкама, сакратар райкама і кіраўнік МУС, каб выратаваць грошы перад дэнамінацыяй, падзялілі свае зберажэнні ў банку на дробныя ўклады і памясцілі іх на выдуманыя прозвішчы. Падобная сітуацыя была ў Іванаўскім (былы Янаў) раёне Пінскай вобл., дзе начальнік раённай міліцыі адкрыў ліст раней тэрміну і папярэдзіў раённае кіраўніцтва аб рэформе. У маштабе рэспублікі такія факты зафіксаваны ў 54 райцэнтрах, на гэтым было злоўлена 139 партыйных і савецкіх функцыянераў, у тым ліку 1-х сакратароў — 25, старшынь райвыканкамаў — 12, кіраўнікоў РА МУС/МДБ, пракурораў — 44 і г.д.[171]

У разглядаемы час на захадзе Беларусі распачыналася фармаванне новай савецкай інтэлігенцыі, кіраўнічай праслойкі, бюракратыі. Гэты працэс меў вялізнае значэнне для далейшага развіцця і ўкаранення савецкай традыцыі, а таксама рускай мовы, асабліва ў гарадах. Для гэтай традыцыі пачуццё мясцовага патрыятызму, любоў да роднай мовы і культуры былі чужымі. Новыя кадры пусцілі глыбокія карані на гэтай тэрыторыі. І па сёння ўлада і ўплывы ў сучаснай Беларусі належаць яе нашчадкам і пераемнікам.

Пазняка. На ўсходзе Беларусі, у Клімавіцкім раёне, большасць рэчаў была папросту разрабаваная раённым кіраўніцтвам. Яны забіралі адзенне не толькі ноччу, але і днём. Верх цынізму быў у тым, што новыя рэчы абменьваліся на старыя, не прыдатныя для выкарыстання, якія потым размяркоўваліся паміж інвалідамі, шматдзетнымі сем'ямі і г.д.

[169] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 164. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б ад міністра ўнутраных спраў БССР Бельчанкі, 15.09.1946 г. Больш на тэму дапамогі UNRRA для БССР гл.: Снапкоўскі У. Знешнепалітычная дзейнасць Беларусі. 1944—1953 гг. Мінск, 1997. С. 52—74.

[170] Грашовая рэформа ў 1947 г. заключалася ў замене грошай, якія знаходзіліся ў абароце, у суаднясенні 1:10. Дробныя зберажэнні ў Дзяржаўным банку (да 3000 руб.) абменьваліся 1:1, менш за 10 тыс. руб. — 3:2, больш за 10 тыс.руб. — 2:1. Больш на гэтую тэму гл.: Денежная реформа 1947 года: реакция населения (по документам из «Особых папок Сталина») / Подгот.: Э.Ю. Завадская, Т.В. Царевская // Отечественная история. 1997. № 6. С. 134—140.

[171] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 1084, арк. 322—336. Інфармацыйная запіска 1-му сакратару КП(б)Б Гусараву, 09.03.1948 г.

# II.IV. РЭЛІГІЙНАЯ ПАЛІТЫКА

Савецкая палітыка адносна вернікаў розных рэлігій (найперш хрысціян — каталікоў і праваслаўных)[172], што пражывалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, не будзе зразумелай без уліку перыяду Другой сусветнай вайны і нямецкай акупацыі. Выкарыстоўваючы прынцып «падзяляй і пануй», нямецкая адміністрацыя стварала магчымасць для дзейнасці праваслаўнай царквы, бо лічыла яе процівагай каталіцкім уплывам. Немцы ставіліся да каталікоў з вялікім недаверам і насцярожанасцю, прымаючы іх за пятую калону. Каталіцкія святары неаднаразова былі ахвярамі даносаў, якія рабілі незадаволеныя іх актыўнай працай дзеячы праваслаўнай царквы. Абвінавачванні ў пашырэнні каталіцкіх уплываў на ўсходзе, у працы «на карысць Польшчы» стваралі смяротную пагрозу абвінавачаным. У лістападзе 1941 г. па падставе такіх даносаў было забіта некалькі каталіцкіх духоўнікаў, у тым ліку ксёндз Глябовіч, які пачаў душпастырскую працу на Міншчыне. Неўзабаве былі забіты яшчэ два беларускія каталіцкія ксяндзы[173].

Германія падтрымлівала ідэю ўтварэння незалежнай ад Масквы беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. З гэтай мэтай у жніўні 1942 г. быў скліканы Сабор, на якім было прынята рашэнне аб стварэнні Беларускай праваслаўнай царквы. Трэба адзначыць, што адной з умоваў аўтакефалій, якія ствараліся іерархамі, было іх прызнанне іншымі праваслаўнымі цэрквамі, у тым ліку Масквой, што ніколі не было выканана. У маі 1944 г. чарговы Сабор беларускіх праваслаўных епіскапаў прызнаў пастанову Сабора 1942 г. несапраўднай, таму што ў ім не прымалі ўдзел два недапушчаныя немцамі пажылыя епіскапы[174].

## «НОВАЯ» ЦАРКОЎНАЯ ПАЛІТЫКА Ў СССР

Рост папулярнасці царквы ў СССР і пазітыўныя змены на фронце ў 1943 г. вымушалі вышэйшае кіраўніцтва СССР і Сталіна шукаць іншую тактыку

---

[172] Вернікі адной з самых шматлікіх груп — іудзеі, — якія жылі перад Другой сусветнай вайной на паўночна-ўсходніх землях польскай дзяржавы, у выніку палітыкі генацыду былі практычна цалкам знішчаны нямецкімі акупантамі. У 1944 г. і пазней сюды прыязджалі нешматлікія яўрэі, аднак у большасці гэта былі фунцыянеры дзяржаўнай адміністрацыі, якія паходзілі, галоўным чынам, з усходніх раёнаў СССР. Нешматлікія ацалелыя яўрэі скарысталіся магчымасцю выехаць у Польшчу, адкуль імкнуліся падацца далей на Захад. Вядома аб існаванні ў 1949 г. дзвюх сінагог і аб праявах актыўнасці рэлігійных суполак у Баранавічах і Пінску. Мусульмане, якія стагоддзямі жылі на Беларусі, не былі шматлікай рэлігійнай групай. Найбольшыя згуртаванні мусульман знаходзіліся ў Навагрудку, Іўі, у Радунскім і Нясвіжскім раёнах.

[173] В.Грыгор'ева, У.Завальнюк, У.Навіцкі, А.Філатава. Канфесіі на Беларусі. Мінск, 1998, С. 226.

[174] Поспеловский Д. Русская православная церковь в XX веке. М., 1995. С. 210—211. Больш на тэму праваслаўнай царквы на тэрыторыі Заходняй Беларусі гл.: Силова С.В. Православная церковь в Западной Белоруссии в годы Второй мировой войны // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі. Гродна, 5—6 снежня 1997 г., Гродна, 1998. С. 370—373; Силова С.В. Православная церковь в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Гродно, 2003.

ў дачыненні да праваслаўя. Добра разумеючы, якую ролю можа адыграць царква як сродак прапаганды, Сталін вырашыў выкарыстаць яе ў будучыні. 4 верасня 1943 г. па ініцыятыве Сталіна было склікана пасяджэнне з удзелам Берыі, Малянкова і палкоўніка НКУС Карпава, на якім абмяркоўвалася магчымасць дазволу і актывізацыі рэлігійнага жыцця праваслаўнай царквы. Увечары таго самага дня былі запрошаны афіцыйныя прадстаўнікі царкоўнай улады, якім паведамілі пра змену дзяржаўнай палітыкі адносна Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ)[175]. Змены, найперш, заключаліся ў адкрыцці праваслаўных парафій і духоўных семінарый, выданні рэлігійнай літаратуры і, самае важнае, — у згодзе на выбар патрыярха, якога ў Маскве не было ўжо 18 год. З турмаў таксама была вызвалена абмежаваная колькасць духоўных асоб. Але найважнейшай падзеяй стала выбранне 8 верасня 1943 г. новага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Сергія.

Усё гэта зусім не азначала, што царква вярнула сабе незалежную ролю ў дзяржаве. Для кантролю за яе дзейнасцю быў утвораны Савет па справах РПЦ пры СНК на чале з палкоўнікам бяспекі Карпавым[176]. Крыху пазней у размове з Молатавым Карпаў атрымаў дырэктыву прызначаць упаўнаважаных «з ліку чэкістаў» у саветы па справах РПЦ, якія ствараліся ў вызваленых абласцях. Намеснікам Карпава пасля папярэдніх кансультацый з Мяркулавым, тагачасным камісарам бяспекі, быў прызначаны палкоўнік дзяржаўнай бяспекі Зайцаў. Супрацоўнікаў у Савет накіроўваў аддзел кадраў Упраўлення Савета Народных Камісараў. Па асабістым загадзе Молатава супрацоўнікі Савета па справах РПЦ мелі ў дзяржаўным апараце прывілеяванае становішча, напрыклад, прызначаны адпаведны іх статусу харчовы паёк[177]. Гэта сведчыла пра вялікую ролю, якую надавала тагачаснае кіраўніцтва СССР змене рэлігійнай палітыкі. За некалькі гадоў РПЦ здолела аб'яднаць вакол сябе большасць «адшчапенцаў» (т.зв. абнаўленцаў, іосіфліянаў і г.д.), большасць цэркваў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

У пасляваеннай Польшчы сітуацыя з праваслаўнай царквой выглядала крыху інакш, чым у іншых краінах «дэмакратычнага лагера». Прычыну гэтаму трэба шукаць у складанай гісторыі стасункаў міжваеннага перыяду, калі тагачасныя польскія ўлады, рэалізуючы канцэпцыю нацыянальнай дзяржавы, імкнуліся да культурнай асіміляцыі праваслаўя і адрыву яго ад усходняй традыцыі. Міраслава Папяжынска-Турэк, даследчыца гісторыі ўзаемаадносінаў дзяржавы і праваслаўнай царквы ў міжваенны перыяд, падкрэслівае ў сваёй працы паланізацыйны характар дзяржаўнай палітыкі і,

---

[175] Поспеловский Д. Русская православная церковь ... С. 188.

[176] Георгій Карпаў нарадзіўся ў 1897 г., скончыў духоўную семінарыю, у 1937—1938 гг. кіраваў абласным НКУС у Пскове. Як высветліла камісія партыйнага кантролю ў 1956 г., падчас кіравання Пскоўскім аддзелам НКУС Карпаў «ажыццяўляў шматлікія арышты нявінных людзей, прымяняў вычварэнскія метады вядзення следства, фальсіфікаваў паказанні». З 1940 г. узначаліў 3-ці аддзел 5-га ўпраўлення НКУС, займаўся царкоўнымі справамі, арганізоўваў разнастайныя антырэлігійныя правакацыі. З 1943 па 1960 г. узначальваў Савет па справах РПЦ, на пенсію выйшаў у званні генерал-маёра бяспекі.

[177] Васильева О.Ю. Русская православная церковь в политике Советского государства в 1943—1948 гг. М., 1999. С. 118.

у канчатковым выніку, — атрыманне кантролю над царквой. Аўтакефалія царквы, якая існавала на той час, была няпоўнай. Як лічыць аўтарка, яна была вынікам не столькі уладных захадаў, колькі агульнай палітычнай сітуацыі па царкоўнай лініі Варшава—Масква[178].

Далейшы лёс праваслаўнай царквы ў пасляваеннай Польшчы прадвызначыла ў пэўнай ступені становішча польскай улады, якая імкнулася вырашыць праблему комплексна, г.зн. не толькі з пункта гледжання ўнармавання ўнутранай сітуацыі, але таксама ў кантэксце польска-савецкіх узаемаадносінаў. Рашэнне аб зняцці з пасады мітрапаліта Дыянісія, як і рашэнне ў пытанні аўтакефаліі царквы ў Польшчы, абмяркоўвалася восенню 1946 г. у час візіту ў СССР міністра юстыцыі Польшчы Свянткоўскага[179]. У лістападзе 1946 г. у размове з Карпавым ён выказваўся за захаванне аўтакефаліі польскай праваслаўнай царквы, але адзначаў у той жа час, што яе наступнага кіраўніка павінен прызначаць патрыярх Алексій[180]. На месца мітрапаліта Дыянісія, які не прызнаў уладу Масквы, быў прызначаны ў 1951 г. Макарый, былы архіепіскап Цярнопальскі і Львоўскі. 22 чэрвеня 1948 г. Свяшчэнны Сінод на чале з патрыярхам Алексіем найперш абвясціў аб'яднанне з польскай царквой і прызнаў яе аўтакефалію з правам выбару ўласнага мітрапаліта, якога павінен быў зацвярджаць сабор епіскапаў у Маскве. Таксама быў урэгуляваны статус праваслаўнай царквы ў Польшчы і вызначаны межы дыяцэзіі[181].

Аднак рабіліся розныя захады для таго, каб маскоўскі патрыярх аб'яднаў пад сваім крылом усе ўсходнія цэрквы і тым самым ажыццявіў даўнюю ідэю «трэцяга Рыма»[182]. З гэтай мэтай патрыярхам праваслаўнай царквы (Ерусаліма, Антыёхіі і Александрыі) дарыліся дарагія падарункі. Патрыярх Канстанцінопаля, які фармальна ўзначальваў праваслаўную царкву ва ўсім свеце, атрымаў у 1946 г. 50 тыс. долараў. У будучыні ён аддзячыў тым, што не выступаў супраць грэцкай камуністычнай партызанкі[183]. Аўтарытэт і ўплывы

---

[178] Papierzyńska-Turek M. Między tradycją a rzeczywistością. Państwo wobec prawosławia 1918—1939. Warszawa, 1989. S. 448. Аб праваслаўнай царкве ў міжваеннай Польшчы гл.: Свитич А. Церковь в Польше и её автокефалия. Буэнос-Айрес, 1959; Kalina M. Polonizacja Cerkwi prawosławnej w województwie białostockim (1918—1939) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 2. 1995. Цыт. паводле: Лабынцев Ю., Щавинская Л. Православная литература Польши (1918—1939 гг.). Минск, 2001. С. 202.

[179] Urban K. Kościół prawosławny w Polsce w latach 1944—1956. Studia i materiały. Kraków, 1998. S. 114. Гл. таксама: Mironowicz A. Kościół prawosławny w Polsce. Białystok, 2006.

[180] Шкаровский М. Русская православная церковь и советское государство 1943—1964. От перемирия к новой войне. СПб., 1995. С. 38.

[181] Archiwum MZS Polski, Zespół 27, teczka 196, k. 3—6. Акт аб аб'яднанні польскай праваслаўнай царквы з рускай і дараванне ёй аўтакефаліі, водпіс № 569/8/48. Аўтакефалія Польскай праваслаўнай царквы была абвешчана канстанцінопальскім патрыярхам Грыгорыем VI 13 снежня 1924 г.

[182] Пад усходнімі цэрквамі маюцца на ўвазе цэрквы старажытных патрыярхатаў Канстанцінопаля, Александрыі, Антыёхіі, Іерусаліма, а таксама аўтакефальныя і аўтаномныя цэрквы грэцкага абраду, якія не прызнаюць улады Папы.

[183] Шкаровский М. Русская православная церковь ... С. 28.

Маскоўскага патрыярхату ў свеце значна ўзраслі, нават выглядала на тое, што ўжо вельмі блізка да ўтварэння своеасаблівага «праваслаўнага Ватыкана». Савецкая ўлада з самага пачатку разлічвала, што пры дапамозе царквы зможа праводзіць сваю прапаганду.

## БАРАЦЬБА З ВАТЫКАНАМ

Адным з важных элементаў савецкай прапагандысцкай палітыкі была барацьба з Ватыканам[184]. Першыя антыкаталіцкія выказванні загучалі ўжо на Памесным саборы Праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату (03.01. — 10.02.1945 г.), дзе выбіралі новага маскоўскага патрыярха на месца памерлага Сергія. Вясной 1945 г. старшыня Савета па РПЦ Карпаў у запісцы Сталіну прапаноўваў далучыць царкву да актыўнай барацьбы з каталіцкім касцёлам, дбаючы пры гэтым пра свае ўплывы ў пасляваенным свеце[185]. Адным з важных элементаў гэтай барацьбы стала скасаванне Брэсцкай уніі 1596 г. і далучэнне ў 1946 г., згодна з пастановай Львоўскага сабора (08.03. — 10.03.1946 г.), заходнеўкраінскіх грэка-каталікоў да праваслаўнага Маскоўскага патрыярхату. Неўзабаве Карпаў зрабіў чарговую прапанову для барацьбы з уплывамі Ватыкана, якая заключалася ў поўнай ліквідацыі грэка-каталіцкай царквы ў СССР, а таксама ў стварэнні шырокага міжнароднага руху хрысціянскай царквы (не толькі праваслаўнай) супраць Ватыкана.

На пачатку 1947 г. старшыня Савета па справах РПЦ Карпаў і намеснік старшыні Савета Міністраў Юрый Садоўскі прадставілі сакратару ЦК УКП(б) Кузняцову план па барацьбе з Ватыканам. Ён не прадугледжваў ліквідацыі каталіцызму, толькі «ачышчэнне яго ад элементаў, якія ўмешваюцца ў палітычную барацьбу», а таксама «падзел на нацыянальныя касцёлы і ліквідацыю цэнтралізму». Ключавую ролю павінна была адыгрываць РПЦ, якая павінна была распачаць міжнародны хрысціянскі рух і перашкаджаць Ватыкану ў яго палітычнай дзейнасці. Першым крокам павінен быў стаць скіраваны супраць папізму зварот да ўсіх хрысціян свету. Другі пастулат сцвярджаў, што царква павінна быць народнай, па-за палітыкай. Была зроблена прапанова выдаць прапагандысцкую кнігу «Костел от мира сего», якая складалася б з 12 раздзелаў і разглядала б пытанні інквізіцыі, езуіцкія практыкі і сувязі Ваты-

---

[184] На тэму Ватыкана існуе шмат літаратуры. Сярод апошніх прац варта адзначыць кнігу Reese T.J. Watykan od wewnątrz. Polityka i organizacja kościoła katolickiego. Warszawa, 1999. Праца ў значнай ступені абапіраецца на апытанні, праведзеныя з больш чым сотняй супрацоўнікаў Ватыкана і трынаццаццю кардыналамі. Аўтар спрабаваў прадставіць сваё бачанне кіравання і арганізацыі касцёла з пункта гледжання грамадскіх навук. Польскі аўтар Юзаф Мацкевіч у сваім даследаванні паказаў таемны бок узаемаадносінаў Ватыкана з Савецкім Саюзам, абвінаваціўшы Ватыкан у «капітуляцыйных дзеяннях у дачыненні да камунізму» ў выніку «палюбоўнага пагаднення паміж Ватыканам і Масквой». Параўн.: Mackiewicz J. Watykan w cieniu czerwonej gwiazdy. Warszawa, 1986. S. 304. Гл. таксама: Gwynn D. Watykan a wojna w Europie. Londyn, 1946.

[185] Шкуратова И. Советское государство и внешнеполитическая деятельность Русской православной церкви (1945—1961 гг.) : Дис. ... канд. ист. наук : 07.00.02. Москва, 2005. С. 33. Праца знаходзіцца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў аддзеле электронных дакументаў.

кана з фашызмам. Прычыны, па якіх план выдання так і не быў рэалізаваны, невядомыя, аднак некаторыя пастулаты нявыдадзенай кнігі выкарыстоўваліся ў будучым[186].

У ходзе працы чарговага Сабора летам 1948 г. Карпаў стала кантактаваў з Малянковым, Ждaнавым і Сталіным, фактычна штодзённа дасылаючы ім матэрыялы з саборных прац. Усе рашэнні і рэзалюцыі Сабора павінны былі атрымаць адабрэнне кіраўніцтва УКП(б). Згодна з пажаданнем аддзела прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б), у праект рэзалюцыі «Ватыкан і праваслаўная царква» быў дададзены фрагмент «аб рэакцыйным і антынародным характары дзейнасці Ватыкана і папізму». Асобная ўвага была звернута «на падтрымку Папам фашызму і арганізацыю барацьбы супраць Савецкага Саюза». Святкаванне 500-годдзя аўтакефаліі РПЦ выкарыстаў таксама і Агітпрап. У папярэдне адрэдагаваных выступах царкоўных іерархаў з рэлігійных і гістарычных пазіцый моцна крытыкаваліся Ватыкан, каталіцызм, экуменічны рух і англіканская царква[187].

Варта зазначыць, што кароткі «раман» з РПЦ пастуnова завяршаўся. Кіраўнікі партыі і Сталін асабіста павольна адварочваліся ад царквы, паколькі яна не выканала ўсіх ускладзеных на яе заданняў. На думку расійскага даследчыка Міхаіла Шкароўскага, спецыяліста па царкоўна-дзяржаўных адносінах у СССР, першыя прыкметы, якія ўказваюць на падзенне інтарэсу да царквы, з'явіліся ўжо ў 1947 г., і з таго часу адносіны ўжо ніколі не вярталіся да ранейшага стану[188]. У 1948 г. распачаліся чарговыя прапагандысцкія кампаніі ў СССР, барацьба з касмапалітызмам, «буржуазнымі нацыяналістамі»; мелі месца таксама антысеміцкія праявы. Аднак цалкам вярнуцца да палітыкі 1920—30-х гг. у дачыненні да рэлігіі вышэйшае кіраўніцтва СССР не хацела і ўжо не магло. Да смерці Сталіна захоўвалася хісткая раўнавага паміж РПЦ і дзяржавай, якая, зрэшты, ніяк не была акрэслена савецкім заканадаўствам. Ніхто, нягледзячы на разнастайныя антырэлігійныя пастановы, не наважваўся парушыць гэтую раўнавагу. З таго часу ўрад абраў курс на роўныя адносіны з тэндэнцыяй да выцяснення царквы з грамадскага жыцця.

Да барацьбы з Ватыканам далучыўся таксама савецкі апарат прапаганды. Старшыня Савета па справах рэлігіі Палянскі з занепакоенасцю адзначаў, што па ўсёй краіне актывізаваўся рэлігійны рух, а ў заходніх жа абласцях галоўным ворагам з'яўляецца каталіцызм. Каталіцызм быў названы «арганізацыяй з выразнай палітычнай скіраванасцю» і «арганізацыяй ксяндзоў-фанатыкаў»[189]. У другой палове 1949 г. у савецкай прэсе значна павялічылася колькасць прапагандысцкіх матэрыялаў аб варожай дзейнасці Ватыкана. Найбольш значны ўклад у паказ «сапраўднага аблічча Ватыкана» зрабілі два савецкія часопісы: «Крокодил» і «Журнал Московской патриархии». «Крокодил» паказваў Папу бацькам тэрарызму, шпіянажу, змоваў і актыўным паплечнікам ЗША. У «Журнале Московской патриархии» часта згад-

---

[186] Шкуратова И. Советское государство ... С. 40—41.

[187] Фатеев А. Образ врага в советской пропаганде. 1945—1954. Москва, 1999. С. 96—97.

[188] Шкаровский М. Русская православная церковь ... С. 38—42.

[189] Фатеев А. Образ врага ... С. 56.

ваўся капіталізм ЗША, звярталася ўвага на яго антыхрысціянскі характар, а каталіцызм атаясамліваўся з ідэалогіяй, якая абараняе такія парадкі. Для гэтага выкарыстоўвалася фальшывая аналогія паміж супольнасцямі першых хрысціян, іх звычаямі кіравання ўласнасцю і дзяржаўным ладам у СССР, супрацьпастаўляючы іх прыватнай уласнасці на Захадзе[190].

Прыведзеныя вышэй звесткі, відавочна, не могуць цалкам адлюстраваць карціну рэлігійна-дзяржаўных узаемаадносін у СССР, гэта ўсяго толькі агляд вынікаў даследаванняў некаторых гісторыкаў. Для таго, каб зразумець савецкую рэлігійную палітыку, якую праводзілі рэгіянальныя дзяржаўныя і партыйныя аддзелы, патрэбен больш глыбокі аналіз. Але і пры такім аналізе асобныя захады і агульная палітыка ў дачыненні да рэлігіі (у прыватнасці, каталіцызму) у святле прыведзеных фактаў падаецца зразумелай. Любыя сігналы вярхоўнай улады на месцы ўспрымаліся як кіраўніцтва да дзеяння. Аднак трэба прызнаць, што мясцовыя ўлады павінны былі ўлічваць рэгіянальную спецыфіку. Гэта датычыць найперш заходніх рэгіёнаў СССР: Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і прыбалтыйскіх рэспублік.

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў БЕЛАРУСІ (МАСКОЎСКІ ПАТРЫЯРХАТ)

Іерархі беларускай праваслаўнай царквы на чале з мітрапалітам Панцеляймонам выехалі на Захад летам 1944 г. разам з нямецкімі войскамі[191]. Пасля ліквідацыі «ненадзейных» адзінак, якія «не маюць ніякага дачынення да царквы», беларуская праваслаўная царква была далучана да Маскоўскага патрыярхату без права нават на мітраполію, як гэта было, напрыклад, на Украіне[192]. У Мінску была створана кафедра на чале з архіепіскапам Васілём, які, між іншым, у 1944—1946 гг. выконваў актыўную ролю ў падпарадкаванні духавенства і вернікаў Маскоўскаму патрыярхату на Беласточчыне[193]. Праваслаўная царква ў Беларусі павінна была рэалізоўваць дырэктывы Савета пры РПЦ на чале з палкоўнікам Карпавым і ўдзельнічаць у дзяржаўных прапагандысцкіх акцыях. Гэта была цана, якую плаціла царква за пэўную магчымасць функцыянаваць у рамках савецкай сістэмы.

Пра вялікую ступень залежнасці праваслаўных дзеячаў ад улады сведчаць некаторыя факты. Пасля капітуляцыі Германіі ў маі 1945 г. ва ўсім Савецкім Саюзе адбыліся ўрачыстыя мітынгі і дэманстрацыі. У Пружанах і Косаве ва ўрачыстасцях з нагоды вызвалення прымала ўдзел праваслаўнае духавенства. У Высокім на мітынгу, які сабраў каля 3 тыс. чалавек, выступ мясцовага пра-

---

[190] Фатеев А. Образ врага ... С. 131.

[191] Кароткі нарыс гісторыі і дзейнасці Беларускай праваслаўнай царквы на эміграцыі ёсць у працы пра аднаго з яе галоўных дзеячаў — Мікалая Лапіцкага. У працы ёсць таксама лісты святара, успаміны, яго разважанні: Lapitzki N. In the Service of God and Belarus. New York—Warsaw, 2005.

[192] Грыгор'ева В., Завальнюк У., Навіцкі У., Філатава А. Канфесіі на Беларусі ... С. 223. Аўтары працы сцвярджаюць, што толькі ў Мінску было рэпрэсавана 12 праваслаўных святароў за тое, што іх паводзіны ў час нямецкай акупацыі палічылі неадпаведнымі.

[193] Urban K. Kościół prawosławny ... S. 15.

васлаўнага святара ўлады ацанілі як «цікавы»[194]. Самым важным крытэрыем ацэнкі выступлення праваслаўнага святара раённай уладай была адсутнасць згадак пра Бога. У Дзівіне кіраўнік аддзела прапаганды і агітацыі райкама Януш загадаў мясцоваму папу адправіць службу ў царкве з нагоды перамогі над Германіяй[195]. У студзені 1945 г. праваслаўны святар з Бярозаўкі Барыс Трунін, дбаючы аб падтрымцы раённай улады, арганізаваў гучны прыём, на якім прысутнічалі, акрамя іншых, кіраўнікі раённага НКУС/НКДБ, раённы пракурор і ваенкам. Як згадваў адзін з удзельнікаў прыёму, капітан Кісялёў, «выпивки и закуски было по потребности». Аднак, нягледзячы на гэта, праз некалькі дзён Брэсцкае ўпраўленне НКДБ Труніна арыштавала[196].

Кіруючыся дырэктывамі з цэнтра, партыйнае кіраўніцтва ў Мінску і асабіста 1-ы сакратар КП(б)Б Панамарэнка ўдзялялі шмат увагі пытанням, звязаным з праваслаўнай царквой. З данясенняў упаўнаважанага РПЦ па Беларусі вынікае, што мітрапаліт Васіль меў аўтарытэт сярод кіраўніцтва Савета Народных Камісараў БССР. Панамарэнка, які адначасова выконваў функцыі старшыні Савета Народных Камісараў, і яго намеснік некалькі разоў прымалі мітрапаліта і не аднойчы прысвячалі яму па 4-5 гадзін[197]. Панамарэнка быў вопытным палітыкам і намагаўся дзейнічаць адпаведна тагачаснай «генеральнай лініі партыі» ў пытаннях рэлігіі. Рэгулярна чытаючы прэсу, якая выдавалася Маскоўскім патрыярхатам, і адсочваючы дадзеныя пра колькасць вернікаў, Панамарэнка вёў асцярожную гульню і стрымліваў шырокае распаўсюджанне рэлігійных уплываў. Услед за сваімі кіраўнікамі ён канкрэтна разумеў сітуацыю і імкнуўся выкарыстаць ролю і магчымасці царквы для дзяржаўных патрэбаў. Панамарэнка некалькі разоў выказваўся пра тое, што праваслаўнае духавенства абавязкова павінна быць уключана ў барацьбу з рознымі адшчапенцамі і каталіцкімі ўплывамі, якія разумеліся як «шкодныя рэлігійныя плыні»[198].

Мясцовыя ўлады, зважаючы на змены ў стаўленні да царквы з боку цэнтральнай улады, рабілі такія ўчынкі, якія ў савецкім мінулым складана было сабе ўявіць. Так, напрыклад, у Зэльвенскім раёне (Гродзенская вобл.) мясцовы райвыканкам выдзеліў 40 кубічных метраў дрэва на пабудову званіцы для мясцовай царквы. Больш за тое, царква рэгулярна атрымлівала дровы[199]. Як сцвярджаюць аўтары працы аб канфесіях на Беларусі, такія выпадкі

[194] Цыт. паводле: Советская жизнь. 1945—1953 ... С. 640. Дакумент «Аб фактах несправядлівых паводзін у дачыненні да служкаў культу» быў падрыхтаваны інструктарам арганізацыйна-інструктарскага аддзела УКП(б) Слепавым 14 ліпеня 1945 г.

[195] Там жа.

[196] Там жа.

[197] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь. Документы и материалы ... С. 249—251. Справаздача ўпаўнаважанага па справах РПЦ пры Савеце Народных Камісараў у БССР А.Лабанава да старшыні Савета па справах РПЦ пры Савеце Народных Камісараў СССР Г.Карпава, 6 ліпеня 1945 г.

[198] Там жа.

[199] Грыгор'ева В., Завальнюк У., Навіцкі У., Філатава А. Канфесіі на Беларусі ... С. 235.

былі характэрнымі больш для захаду Беларусі, чым для ўсходу[200]. Падаецца, што гэта было звязана з асаблівай палітыкай у гэтым рэгіёне, а асабліва з антыкаталіцкай прапагандай.

Было б няслушна сцвярджаць, што ўсе праваслаўныя, а тым больш духавенства, былі паслухмяныя і падпарадкоўвалі ўладзе і яе распараджэнням сваю душпастырскую службу. Некаторыя адважваліся на супрацьстаянне афіцыйнаму курсу партыі, калі апошні не адпавядаў іх асабістым перакананням. У час правядзення калектывізацыі ў Івянцы праваслаўны святар[201] стварыў праблемы ўладам (палітаддзелу пры МТС[202]). Пад яго ўплывам і па яго парадзе сяляне не хацелі аддаваць у калгас коней. Улады хутка знайшлі «вінаватага» і «выправілі сітуацыю».

## ПАЧАТАК РЭПРЭСІЙ СУПРАЦЬ КАТАЛІКОЎ

Першыя месяцы савецкай улады ў заходніх абласцях БССР пасля таго, як іх заняла спачатку Чырвоная Армія, а потым дзяржаўная і партыйная адміністрацыя, вылучаліся ў асноўным добрым стаўленнем да каталікоў. Палітрукі з вайсковых часцей тлумачылі мясцоваму насельніцтву, што ў СССР існуе свабода веравызнання і ніхто не збіраецца абмяжоўваць іх рэлігійнае жыццё. Найбольш гэтыя пытанні непакоілі каталікоў, якія і задавалі іх прадстаўнікам улады. Каб пераканаць насельніцтва, савецкія палітычныя афіцэры ў мэтах прапаганды выкарыстоўвалі розныя агітацыйныя сродкі, найлепшым з якіх было кіно. У вёсцы Хоцькі Дунілавіцкага раёна (Полацкая вобл.) мясцовы ксёндз Мацуныш у размове з супрацоўнікамі палітаддзела (*не ўдакладняецца, якога — Я.Ш.*) сцвярджаў: «Вы зачыніце ўсе цэрквы і касцёлы, а нас, духавенства, арыштуеце». У гэтай вёсцы прадэманстравалі фільм амерыканскай вытворчасці «Бітва за Расію», у якім была паказана таксама і роля Рускай праваслаўнай царквы ў час вайны, выступленне патрыярха Усяе Русі Сергія на Саборы ў Маскве са зваротам да вернікаў, у якім гучала просьба дапамагчы ў барацьбе з Германіяй. Менавіта пасля прагляду гэтага фільма (*напэўна, вялікае значэнне мела краіна-вытворца — Я.Ш.*) ксёндз змяніў сваё меркаванне на карысць савецкай улады[203]. Паводле ўспамінаў ксяндза Юзафа Вельгата з Задзеўя (каля Паставаў), у першыя тыдні ўлады паважалі асноўныя рэлігійныя патрэбы вернікаў. Выдадзенае ксяндзом пасведчанне аб працы ў касцёле летам 1944 г. выратавала аднаго хлопца ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію[204].

---

[200] Грыгор'ева В., Завальнюк У., Навіцкі У., Філатава А. Канфесіі на Беларусі ... С. 235.

[201] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 132, арк. 25. Запіска сакратару ЦК КП(б)Б Зімяніну «Аб працы некаторых палітаддзелаў МТС», 12.04.1950 г., за подпісам кіраўніка палітычнага сектара Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР Сікорскага.

[202] МТС — машынна-трактарная станцыя. МТС займаліся тэхнічным абслугоўваннем калгасаў, якія звычайна не мелі ўласнай сельскагаспадарчай тэхнікі.

[203] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 66, л. 12. Інфармацыйная запіска ў Галоўнае палітычнае ўпраўленне Чырвонай Арміі, 12.07.1944г., за подпісам генерал-лейтэнанта Лявонава і генерал-маёра Дрэбеднева.

[204] Hlebowicz A. Katolicyzm w państwie sowieckim, 1944—1992. Gdańsk, 1993. S. 77.

Аднак хутка адносіны ўлады да касцёла істотна астылі і станавіліся ўсё больш непрыязнымі. Праяўлялася гэта ў разнапланавай дзяржаўнай палітыцы, скіраванай на барацьбу з каталіцкімі ўплывамі. Улада выкарыстоўвала для гэтага даступны ёй спектр сродкаў, ад адміністрацыйна-юрыдычных да рэпрэсіўных. Фармальна адносіны паміж дзяржавай і каталіцкім касцёлам (як і армянскай царквой, мусульманамі, іўдзеямі і інш.) рэгуляваў Савет па справах рэлігіі пры Савеце Народных Камісараў і адпаведныя ўпаўнаважаныя ў паасобных савецкіх рэспубліках. Аднак на практыцы на рэлігійнае жыццё аказвалі ўплыў розныя структуры савецкай сістэмы, найважнейшай апорай якой была УКП(б) (*з 1952 г. — КПСС — Я.Ш.*). Першыя рэпрэсіі супраць каталіцкага духавенства пачаліся ўжо ў другой палове 1944 г. Яны датычылі, перш за ўсё, тых, хто, на думку ўлады, супрацоўнічаў з акупацыйным рэжымам, удзельнічаў у антысавецкім падполлі або праводзіў антысавецкую агітацыю. Часта абвінавачванні, якія прад'яўляла савецкае правасуддзе, былі настолькі нацягнутымі і неабгрунтаванымі, што справу пераглядалі па некалькі разоў[205]. У 1944—1953 гг. у Беларусі савецкія карныя органы рэпрэсавалі больш за 100 каталіцкіх ксяндзоў, з іх амаль 50% былі асуджаны на шматгадовыя тэрміны (21—25 гадоў пазбаўлення волі)[206].

Улада, выкарыстоўваючы бюракратычны апарат, усімі спосабамі абмяжоўвала дзейнасць каталіцкіх супольнасцей. Гэта праяўлялася, між іншым, у абавязковай рэгістрацыі парафій (рэлігійных абшчын) у мясцовых установах па справах рэлігіі. Гэта сустрэла моцнае супраціўленне з боку духавенства, таму што рэгістрацыя была звязана з прыняццем савецкага грамадзянства і з поўным падпарадкаваннем дзяржаве. Дэкан парафіі ў Дунілавічах (Полацкая вобл.) Чэслаў Кардан сваю адмову прыняць савецкае грамадзянства тлумачыў наступным чынам: «Я не магу парушыць польскую канстытуцыю, бо, прымаючы грамадзянства іншай дзяржавы, раблюся здраднікам Польшчы». Падобным чынам выказваўся ксёндз Станіслаў Гурскі з таго самага

---

[205] Ксёндз Вікенцій Барсук з парафіі Капцёўка (Гродзенскі раён) быў абвінавачаны ў сувязях з прадстаўнікамі акупацыйнай улады і ў антысавецкай агітацыі. Падставай для абвінавачвання была прамова ксяндза на пахаванні паліцая, забітага савецкімі партызанамі ў 1943 г. Тады ксёндз назваў забітага добрым чалавекам і нібыта заклікаў паведамляць уладам пра з'яўленне партызанаў. Трэба адзначыць, што ўсе сведкі абвінавачання самі пры гэтым не прысутнічалі, бо на час здарэння жылі ў іншых месцах і чулі пра выказванні ксяндза ад некага. У выніку ксёндз Барсук атрымаў 8 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і быў пазбаўлены грамадзянскіх правоў на тры гады пасля вызвалення. Цыт. паводле: Ярмусик Э. Католический костел в Беларуси в 1945—1990-х годах. Гродно, 2006. С. 120—121.

[206] Там же. С. 129. Дзейнасці каталіцкага касцёла на Беларусі пасля Другой сусветнай вайны, рэпрэсіям супраць ксяндзоў і вернікаў прысвечаны даследаванні прафесара ксяндза Рамана Дзванкоўскага. Гл., напр.: Kościół katolicki na Białorusi po II wojnie światowej // Zeszyty Naukowe KUL. R. XXXIX. 1996. № 3—4 (155—156). S. 85—109; Represje władz sowieckich wobec duchowieństwa polskiego w latach 1939—1941 i 1944—1966 // Europa nieprowincjanalna ... S. 1145—1154; Represje władz sowieckich wobec duchowieństwa katolickiego obrządku łacińskiego w latach 1939—1987 // Przegląd Wschodni. T. VII. Z. 1 (25). 2000. S. 275—298. Гл. таксама: Walewander E. Uwagi na temat historiografii // Odrodzenie kościoła katolickiego w byłym ZSRR. Studia historyczno-demograficzne. Lublin, 1993.

дэканата; ксёндз Барвіцкі затое матываваў сваю адмову дадзенай Папу прысягай[207]. Аднак жа каталіцкія святары, якія засталіся пасля рэпатрыяцыйнай хвалі на тэрыторыі БССР, хутка ўсвядомілі бессэнсоўнасць такой формы супрацоўлення, прынялі савецкае грамадзянства і згадзіліся на рэгістрацыю рэлігійных супольнасцей. Паводле савецкіх крыніц, у ходзе рэпатрыяцыі ў Польшчу выехала каля 200—250 ксяндзоў. У 1949 г. у заходніх абласцях Беларусі засталося толькі 128 ксяндзоў і 231 дзейны касцёл[208].

1-шы сакратар КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка яшчэ ў ліпені 1945 г. у размове з упаўнаважаным па справах РПЦ у БССР А. Лобанавым акрэсліў агульныя дырэктывы па барацьбе з каталіцызмам, якія ўжо ў недалёкай будучыні былі рэалізаваны:

> Располагая серьезными данными о враждебной деятельности католического духовенства, тов. Пономаренко дал мне твердые указания всячески препятствовать развитию сети (костела), при малейшей законной возможности костелы закрывать или передавать православному духовенству и, главное, ограничить деятельность ксендзов, категорически запрещая им въезд на территорию Белоруссии из других республик. В результате проведенных мероприятий количество костелов за 10 месяцев значительно сократилось. Из действующих костелов в Минске не осталось ни одного[209].

Вялікую занепакоенасць выклікала ў прадстаўнікоў улады дзейнасць, скіраваная на навучанне дзяцей Закону Божаму. Падчас рэкалекцыі ўпаўнаважаны па справах рэлігіі Полацкай вобл. налічыў толькі ў адной вёсцы Ваўкалата каля 500 дзяцей. На яго думку, недапушчальнымі былі паводзіны двух вучняў, якія служылі ў касцёле «крыжакамі» (*у арыгінале — «крестоносцы»; верагодна, гаворка ішла пра міністрантаў — Я.Ш.*)[210].

## СІТУАЦЫЯ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Найбольш актыўнымі былі ксяндзы на Гродзеншчыне. На працягу канікулаў у 1945 г. у Гродзенскай вобл. заняткі па рэлігіі наведвалі 3—3,5 тыс. дзяцей. Паводле падлікаў упаўнаважанага па справах рэлігіі у Гродзенскай вобл., «палякаў сярод іх было 1,5—2,5 тыс., астатнія — дзеці беларусаў-каталікоў»[211]. У 1946 г. духавенства атрымала дазвол улады на працяг наву-

---

[207] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 193. Паведамленне пра рымска-каталіцкую суполку ў Полацкай вобл., без даты, не раней за лістапад 1946 г., за подпісам упаўнаважанага Савета па справах рэлігіі Полацкай вобл. Кечко.

[208] Ярмусик Э. Католический костел ... С. 506.

[209] Цыт. паводле: Освобожденная Беларусь ... С. 250. Справаздача з дзейнасці ўпаўнаважанага па справах РПЦ пры Савеце Народных Камісараў у БССР А.Лобанава старшыні Савета па справах РПЦ пры СНК Г.Карпаву, 6 ліпеня 1945 г.

[210] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 193. Паведамленне аб рымска-каталіцкай суполцы ў Полацкай вобл., без даты, не раней за лістапад 1946 г., за подпісам упаўнаважанага Савета па справах рэлігіі Полацкай вобл. Кечко.

[211] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 345. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б аб дзейнасці рымска-каталіцкага касцёла і сектаў у Гродзенскай вобл., не раней за 27.03.1947 г., за подпісам упаўнаважанага па справах рэлігіі ў Гродзенскай вобл. Чыжа.

чання катэхізісу для дзяцей. Гэтае рашэнне было прынята са згоды абласнога партыйнага камітэта, таму што поўная забарона рэлігійнага навучання была прызнана палітычна небяспечнай. Але з гэтага моманту ўлада ўзяла курс на абмежаванне рэлігійнага навучання. Быў зменены ўзрост дзяцей, якія маглі наведваць заняткі (раней — 6—16 гадоў, з 1946 г. — 9—12 гадоў), зменшана колькасць заняткаў на тыдзень (з 3-4 да 2), абмежаваны час заняткаў (з 3-4 да 1,5). Аднак намаганні ўладаў у многіх населеных пунктах не далі жаданага плёну. У Сапоцкінскім, Васілішкаўскім і Лідскім раёнах каталіцкія святары праводзілі заняткі, не звяртаючы ўвагі на абмежаванні. У час Калядаў дзеці тры дні не хадзілі ў школы, многія школы тады наогул не працавалі[212].

Тое самае адбывалася і ў Радунскім раёне, дзе жылі пераважна каталікі. У святочныя дні бацькі не пускалі дзяцей у школу, казалі: «Вы не зробіце з нашых дзяцей бальшавікоў»[213]. Упаўнаважаны па справах рэлігіі ў Гродзенскай вобл. прапаноўваў у час канікулаў 1947 г. альбо звесці рэлігійнае навучанне да мінімуму, альбо зусім забараніць.

Падобная прапанова ў форме ліста ў ЦК КП(б)Б была зроблена начальнікам Гродзенскага абласнога ўпраўлення адукацыі Курыленкам. Ён пратэставаў супраць дазволенага ўладамі выкладання Закона Божага, бо, на яго думку, «ОблОНО считает неверным также такое положение как нарушающее годовой режим школьников и способствующее проникновению в среду учащихся чуждых советской школе идеологических влияний»[214].

Кіраўнік Гродзенскага МДБ палкоўнік Палітыка ў сваёй справаздачы паведамляў пра недахоп выхаваўчай працы з боку камсамольскіх і піянерскіх арганізацый і ўстаноў адукацыі. Гэта, на яго думку, прывяло да сітуацыі, калі каталіцкае духавенства выкарыстоўвае ў сваіх мэтах магчымасці пашырэння рэлігіі. Ён, між іншым, прыводзіць выказванне ксяндза Раманоўскага з парафіі Парэчча (Гродзенскі раён):

> Большевики небезразличны к вопросам воспитания молодежи, почему же я, священник, не должен обучать своих прихожан Закону Божьему, прививая им преданность к вере предков[215].

Паводле дадзеных МДБ, у 1946 г. у Ваўкавыску вучні 5 і 6 класаў наведвалі імшу раніцай перад заняткамі ў школе. Усе пералічаныя падзеі мусілі, безумоўна, падштурхнуць уладу да больш актыўнай дзейнасці. У выніку з'явілася спачатку частковая, а потым і поўная забарона выкладаць Закон Божы дзецям школьнага ўзросту як ксяндзамі, так і свецкімі асобамі. За выкананнем распараджэння сачылі ўсе органы савецкай улады, а галоўную ролю адыгрывалі школьная адміністрацыя і камсамол[216].

---

[212] Тамсама.

[213] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 16, арк. 98.

[214] НАРБ. Ф. 4, воп. 51, спр. 11, арк. 201. Паведамленне аб уплывах духавенства на вучняў Гродзенскай вобл., 16.08.1946 г.

[215] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 337—340. Паведамленне «Аб працы каталіцкага духавенства з моладдзю», 23.06.1947 г.

[216] Ярмусик Э. Католический костел ... С. 159.

## ПЛАНЫ БАРАЦЬБЫ З КАТАЛІЦЫЗМАМ І ІХ РЭАЛІЗАЦЫЯ

Чарговым крокам да абмежавання дзейнасці каталіцкага духавенства была забарона з 1948 г. абслугоўваць больш за адну парафію ці касцёл, у якіх ксёндз быў зарэгістраваны. Улада разлічвала, што гэта прывядзе да паступовага змяншэння зарэгістраваных рэлігійных абшчын, а гэта ў сваю чаргу давала б фармальную падставу для закрыцця касцёлаў. У выніку рэлігійнае жыццё павінна было б затухаць, і гэта часткова было рэалізавана. Старыя ксяндзы паміралі, і іх не было каму замяніць: у Беларусі не існавала каталіцкіх духоўных семінарый (*у СССР пасля вайны было дзве каталіцкія семінарыі — у Коўне і Рызе — Я.Ш.*).

Акрамя таго, з 1948 г. у многіх памежных населеных пунктах і гарадах, якія знаходзіліся ў так званай «памежнай зоне» (напрыклад, Брэст, Баранавічы, Гродна, Пінск, Вілейка) магчымасці атрымаць прапіску ксяндзам (а яна была неабходнай для выканання фармальнасцей, звязаных з рэгістрацыяй рэлігійнай абшчыны) былі значна абмежаваныя. Адсутнасць прапіскі магла пацягнуць за сабой судовае пакаранне. Многія ксяндзы, якія адбылі пакаранне, менавіта праз адсутнасць прапіскі не маглі вярнуцца да ранейшага месца працы[217].

Абмяжоўвала рэлігійнае жыццё таксама і савецкая падатковая палітыка. Дзяржаўнае права ставіла духавенства ў адзін шэраг з беспрацоўнымі (так званымі «сацыяльнымі паразітамі») — элементамі, якія павінны былі старанна выконваць усе распараджэнні і рэгулярна плаціць завышаныя падаткі. Атрыманыя ад вернікаў ахвяраванні павінны былі перадавацца ў дзяржаўны бюджэт. Гэта датычылася не толькі каталікоў, але і праваслаўных.

Мясцовае кіраўніцтва ў Мінску, імкнучыся апярэдзіць пажаданні Масквы, прадставіла свой план барацьбы з каталіцызмам. Верагодна, ідэя сыходзіла ад упаўнаважанага Савета па справах рэлігіі пры Савеце Народных Камісараў БССР Уласевіча. У ліпені 1947 г. у запісцы сакратару ЦК КП(б)Б Іоўчуку ён прапанаваў шэраг мер, якія павінны былі спыніць пашырэнне польскіх уплываў у касцёле. Галоўная роля пры гэтым адводзілася праваслаўнай царкве[218].

На падставе гэтай запіскі ў ЦК КП(б)Б быў складзены ліст сакратару ЦК УКП(б) Жданаву, у якім асаблівая ўвага звярталася на «рэакцыйную дзейнасць польскага каталіцкага духавенства ў заходніх абласцях Беларусі». Між іншым адзначалася, што каталіцкія святары, праводзячы актыўную рэлігійную дзейнасць, пашыраюць антысавецкія настроі, навяртаюць людзей на каталіцызм (у Маладзечанскай вобл. — да 100 выпадкаў) і, самае галоўнае, паланізуюць мясцовых беларусаў. Таксама сцвярджалася, што навернутыя ў каталіцызм беларусы адразу змяняюцца, адыходзяць ад грамадскага жыцця і нават пачынаюць праводзіць «варожую антысавецкую прапаганду»[219]. У сувязі з гэтым ЦК КП(б) Беларусі прапанаваў дзеянні, якія павінны былі

---

[217] Ярмусик Э. Католический костел ... С. 159.

[218] Там же. С. 33—34.

[219] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 26—36. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Жданаву, ліпень 1947 г.,

«паралізаваць дыверсійную дзейнасць польска-каталіцкага духавенства» і «палітычна ізаляваць ксяндзоў ад сумленных грамадзян-каталікоў». Сярод іншага было прапанавана пашырыць ужыванне беларускай мовы ў касцёле[220], прыцягнуць да барацьбы з каталіцызмам праваслаўную царкву, стварыць у Гродне праваслаўную духоўную семінарыю і г.д.[221]

Няма падстаў меркаваць, што ўсе гэтыя прапановы былі адобраныя Масквой. Напрыклад, пашырэнне беларускай мовы на той час не ўваходзіла ў інтарэсы савецкай дзяржавы, якая імкнулася да ўніфікацыі шляхам татальнай русіфікацыі народаў СССР. Аднак трэба прызнаць, што тагачасныя і наступныя партыйныя і савецкія эліты праводзілі ў дачыненні да касцёла палітыку, вельмі блізкую да апісаных планаў. У 1948 г. архіепіскап Мінскі і Беларускі Пецярым накіраваў у месцы, дзе «ксяндзы праводзяць актыўную працу сярод апалячаных беларусаў», праваслаўных святароў для «тлумачэння вернікам у сваіх парафіях сутнасці каталіцызму і задачаў Рускай праваслаўнай царквы». На думку Эдмунда Ярмусіка, даследчыка гісторыі каталіцкага касцёла на Беларусі, такое рашэнне магло быць прынята пад ціскам упаўнаважанага Савета па справах рэлігіі БССР. Асобныя прадстаўнікі праваслаўнага духавенства (напрыклад, у Баранавіцкай вобл.), каб перацягнуць вернікаў у праваслаўе, прапаноўвалі каталікам ніжэйшыя цэны за хрышчэнне, вянчанне, асвячэнне хат[222].

## АНТЫКАТАЛІЦКАЯ ПРАПАГАНДА

Уся дзяржаўная машына прапаганды ўключылася ў антыкаталіцкую дзейнасць. Ніякім чынам нельга было пазітыўна згадваць каталіцызм і каталіцкіх святароў. Неістотная, на першы погляд, справа — паказ італьянскага фільма «Рым, адкрыты горад»[223] — стала прадметам аналізу на пасяджэнні ЦК КП(б)Б. Па гэтай справе нават была прынята спецыяльная прапанова. Гэты фільм быў дапушчаны на экраны кінатэатраў Галоўным упраўленнем па пракату фільмаў Міністэрства кінематаграфіі ў кастрычніку 1947 г., да яго прагляду дапускаліся ў СССР усе грамадзяне без абмежаванняў[224], у заходніх аблас-

---

[220] Барацьба за беларускую мову ў касцёле пачалася яшчэ ў пачатку 1920-х гадоў. Больш гл.: Mróz M. Katolicyzm na pograniczu. Kościół katolicki wobec kwestii ukraińskiej i białoruskiej w Polsce w latach 1918—1925. Toruń, 2003. S. 155—166 (*Беларускае выданне: Мруз М. Каталіцызм на пагранiччы: Адносіны каталіцкай царквы да ўкраінскага і беларускага пытання у Польшчы ў 1918—1925 гг. Мінск, 2008. — Рэд.*).

[221] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 26—36. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Жданаву, ліпень 1947 г. Дакумент пададзены ў канцы працы (дакумент № 2).

[222] Ярмусик Э. Католический костел ... С. 84.

[223] Фільм «Рым, адкрыты горад» (*Roma città aperta*) быў зняты рэжысёрам Раберта Раселіні ў 1945 г. У адной са сцэн шэф гестапа гаворыць ксяндзу Пятру: «Ваш саюз з камуністамі — рэч кан'юнктурная; яны кінуць вас. Выдайце мне камуністаў — і будзеце вольныя!» Але ксёндз толькі маліўся за паміраючага камуніста; ён ведаў, што той адмовіўся ад аналагічнай прапановы. Цыт. паводле: Płażewski J. Historia filmu. Warszawa, 2001. S. 175.

[224] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 157, арк. 8. Паведамленне кіраўніка Галоўкінапраката БССР Каржыцкай, 07.07.1948 г.

цях БССР фільм дэманстраваўся ў перасоўных ваенных кінатэатрах. Дзеянне фільма адбываецца ў акупаваным Рыме, дзе галоўны герой біскуп Ферары памірае пакутніцкай смерцю — яго забіваюць у гестапа. Але ў праекце пастановы ЦК КП(б)Б «Аб дэманстрацыі фільма «Рым, адкрыты горад» у заходніх абласцях Беларусі» ён характарызуецца наступным чынам:

> Фильм «Рим, открытый город» укрепляет авторитет реакционного католического духовенства в западных областях БССР, где значительная часть населения, особенно католики, еще не освободились от религиозных предрассудков, а католическое духовенство (ксендзы) до сих пор не разоблачено и проводит реакционную политику Ватикана. Поэтому демонстрация этого фильма является вредной[225].

Да распаўсюджання антырэлігійнай прапаганды быў далучаны таксама і камсамол. Рашэнне было прынята ЛКСМБ 7 студзеня 1948 г. і мела назву «Аб сродках узмацнення атэістычнай прапаганды сярод камсамольцаў і моладзі Беларусі». Яно прадугледжвала, найперш, шырокую працу ў форме заняткаў з моладдзю на антырэлігійныя тэмы[226].

## ПАШЫРЭННЕ РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Улады былі занепакоены значным ажыўленнем рэлігійнага жыцця не толькі сярод мясцовага насельніцтва, але таксама сярод тых, хто прыехаў з усходу. У Маладзечанскай вобл. большасць настаўнікаў «наведвала касцёлы, выконваючы рэлігійныя абрады, і не праводзіла ніякай антырэлігійнай працы сярод вучняў»[227]. Некаторыя настаўніцы (Паплаўская, Лазоўская, Жалязоўская) прапускалі заняткі ў школе, каб удзельнічаць у набажэнствах у касцёле, некаторыя нават спявалі ў хоры. У 1947—1948 навучальным годзе яны былі звольнены. Небяспечным, на думку ўладаў, было і тое, што маладыя настаўніцкія кадры, прыехаўшы з усходу, падпадалі пад «уплывы кулакоў і рэакцыйнага польска-каталіцкага духавенства». Зафіксаваны выпадкі, калі настаўніцы, якія прыехалі з усходніх рэгіёнаў Беларусі, наведвалі касцёлы (Ульяна Даўжанкова, Валянціна Старавойтава і інш.)[228]. Недапушчальна паводзілі сябе некаторыя члены партыі, якія выконвалі рэлігійныя абрады. У Браслаўскім раёне намеснік пракурора, член партыі з 1943 г., разам з жон-

---

[225] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 157, арк. 4. Праект пастановы ЦК КП(б)Б «Аб дэманстрацыі фільма «Рым, адкрыты горад» у заходніх абласцях Беларусі», без даты, не пазней за 8 чэрвеня 1948 г.

[226] ДАГАГВ. Ф. 20, воп. 1, спр. 58, арк. 67. Пастанова Гродзенскага абкама камсамола прадугледжвала на працягу сакавіка—красавіка 1948 г. правесці лекцыі, напрыклад, на наступныя тэмы: «Марксізм-ленінізм аб рэлігіі і барацьбе з ёй», «Навука і рэлігія аб паходжанні жыцця на Зямлі», «Рэлігія — вораг навукі» і г.д.

[227] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 336—345. Паведамленне «Аб палітычнай працы з інтэлігенцыяй Маладзечанскай вобл.», верасень 1947 г., за подпісам інспектара аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б Гаўрыленкі.

[228] Тамсама.

кай (членам партыі з 1944 г.) пахрысцілі дзіця ў царкве[229]. У Браслаўскім, Дунілавіцкім і Пліскім раёнах «асобныя камуністы, камсамольцы і настаўнікі ходзяць у касцёл і ўдзельнічаюць у рэлігійных абрадах»[230]. Асобныя настаўнікі, якія прыехалі з усходніх абласцей, у нанятых кватэрах вывесілі абразы[231].

«Непартыйныя» паводзіны некаторых членаў камуністычнай партыі ў заходніх абласцях сталі вядомымі ў Маскве. Кіраўнік арганізацыйна-інструктарскага аддзела Гродзенскага абкама Рыўкін у запісцы Калініну даносіў, што некаторыя члены Гродзенскай партыйнай арганізацыі бяруць удзел у рэлігійных абрадах. Найбольш камуністаў трапілася на хрышчэнні дзяцей. Тых, хто не пакаяўся, выключалі з партыі, што пагражала сур'ёзнымі непрыемнасцямі. Механік Гродзенскага порта Ангулец на партыйным сходзе заявіў, што «хрышчэнне дзіцяці — яго асабістая справа»[232]. Гэтыя словы сталі падставай для выключэння з партыі. На хрышчэнні дзіцяці быў злоўлены таксама карэспандэнт цэнтральнай газеты «Советская Белоруссия» Васіль Юдзін, член УКП(б) з 1942 г. На гэты раз справа абышлася пісьмовай вымовай. Трэба адзначыць, што гаворка ва ўсіх выпадках вялася пра так званых «усходнікаў», а не пра мясцовых. Асобую занепакоенасць у партыйнага функцыянера выклікалі прыязныя адносіны супрацоўнікаў партыйнага і савецкага апарату Шчучынскага, Воранаўскага і Зэльвенскага раёнаў з духавенствам. Як адзначаў Рыўкін, «яны збліжаюцца з каталіцкімі і праваслаўнымі святарамі, п'юць з імі, застаюцца начаваць»[233].

## РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ ІНШЫХ ХРЫСЦІЯНСКІХ КАНФЕСІЙ

Пераследаваліся таксама прадстаўнікі іншых хрысціянскіх канфесій. Евангелісты і баптысты[234] хоць і не былі колькасна значнай групай вернікаў, але ў некаторых населеных пунктах мелі прыхільнікаў. Восенню 1944 г. у Полацкай вобл. (дакладней, у яе дзевяці раёнах) было зарэгістравана 6 абшчын баптыстаў[235]. У Гродзенскай вобл. у сакавіку 1947 г. дзейнічала 9 абшчын баптыстаў, у якія ўваходзіла 660 чалавек. Абшчына баптыстаў у Гродне скла-

---

[229] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 138—139. Справаздача аб масава-палітычнай працы ў дзевяці раёнах Полацкай вобл.

[230] Тамсама.

[231] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр.201, арк. 125. Паведамленне, зробленае членам групы прапаганды пасля выезду ў Быценскі раён Баранавіцкай вобл., 14.03.1950 г.

[232] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 721, л. 2—4. Дакумент датаваны 07.08.1946 г.

[233] Там же.

[234] Хрысціяне-евангелісты і баптысты былі аб'яднаныя ў кастрычніку 1944 г. Цэнтр арганізацыі (Рада хрысціян-евангелістаў і баптыстаў) знаходзіўся ў Маскве. З 1945 г. пачалася кампанія, мэтай якой было падпарадкаванне ўсіх евангелістаў і баптыстаў Маскве. Гэтаму супраціўлялася некалькі абшчын як евангелістаў, так і баптыстаў у Заходняй Беларусі, галоўным чынам, з Брэсцкай вобл. Кіраўнікі абшчын былі зняты з пасадаў. Цыт. паводле: Грыгор'ева В., Завальнюк У., Навіцкі У., Філатава А. Канфесіі на Беларусі ... С. 257.

[235] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 197. Дадзеныя аб баптыстах-евангелістах Полацкай вобл.

далася з 65 вернікаў, большасць з якіх (54 асобы) былі беларусамі[236]. Улады абмяжоўвалі іх дзейнасць, асабліва калі яна набывала небяспечную для іх інтэнсіўнасць. Кіраўнік пошты вёскі Суляцічы Міхаіл Тур (паходзіў з вёскі Брольнікі Навагрудскага раёна) быў абвінавачаны ў «правядзенні антысавецкай агітацыі», бо сваёй дзейнасцю ён спрыяў павелічэнню колькасці баптыстаў. У Брольнікі прыязджалі вернікі з іншых месцаў, і занадта актыўная дзейнасць Тура і ягоны аўтарытэт сярод вернікаў выклікалі занепакоенасць уладаў. Было прызнана, што дзейнасць гэтага чалавека «дэмаралізуе» насельніцтва[237].

## РЭЗЮМЭ ДА РАЗДЗЕЛА II

Праблема непасрэдных рэпрэсій, звязаных, галоўным чынам, са знішчэннем антысавецкага падполля на тэрыторыі Заходняй Беларусі, не з'яўляецца для гісторыкаў «белай плямай», аднак жа ўмовы ненавуковага характару замінаюць яе глыбейшай распрацоўцы. Акрамя рэпрэсій і карных мерапрыемстваў, мелі месца таксама дзеянні, накіраваныя на выкарыстанне чалавечых рэсурсаў для патрэбаў савецкай гаспадаркі. Аднак няма сістэматычных даследаванняў стратаў цывільнага насельніцтва, якое стала ахвярай савецкай палітыкі пры мабілізацыі ў войска, на прамысловасць і для засялення аддаленых рэгіёнаў СССР. Намі зроблена спроба разгледзець гэтую праблему, а таксама пытанні нацыянальнай, кадравай і рэлігійнай палітыкі, абапіраючыся на сабраны матэрыял з першакрыніц.

Важным кірункам дзейнасці ўлады стала таксама барацьба з рэлігіяй. Спачатку не было жорсткіх рэпрэсій. Аднак з цягам часу савецкая ўлада перайшла да паслядоўнай барацьбы з рэлігіяй і вернікамі. Ацэньваючы гэты кароткі — толькі 9 год — перыяд савецкай улады і яе ўплыў на рэлігійнае жыццё, трэба было б адзначыць, якое вялікае значэнне надаваў савецкі апарат барацьбе з рэлігіяй. Улада бачыла ў рэлігіі адну з самых вялікіх пагроз, бо сама стварала сваю «рэлігію», якая абапіралася на падобныя каштоўнасці, мела свайго «бога», «святых» і ідэалогію. Таму савецкая сістэма так зацята знішчала ўсіх іншадумцаў, таму так імкнулася да поўнага падпарадкавання рэлігійнага жыцця духавенства і вернікаў. Часткова яна свайго дасягнула. Аднак, нягледзячы на ўсе старанні, дзяржаўная машына сустрэла супраціўленне, задушыць якое не атрымалася. Гэта было супраціўленне не шматтысячнага войска, а перакананых адзінак, не герояў з вокладкі, а звычайных калгаснікаў, рабочых, нічым не адметных людзей, дзякуючы якім вера, касцёл і царква выстаялі.

Праведзенае даследаванне дазваляе нам таксама зрабіць некалькі высноў адносна савецкай кадравай палітыкі ў Заходняй Беларусі. У святле прыведзеных матэрыялаў варта звярнуць увагу на дыскрымінацыю прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва, якая заключалася ў іх амаль поўнай ізаляцыі ад ула-

---

[236] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 345. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б аб дзейнасці рымска-каталіцкага касцёла і сект у Гродзенскай вобл.

[237] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 164. Паведамленне з Суляціцкага сельсавета Навагрудскага раёна, 13.03.1950 г., за подпісам Летуновіча Аляксея.

ды. Другая выснова датычыць непасрэдна мясцовага насельніцтва, а менавіта: многія не жадалі ўдзельнічаць у мерапрыемствах, якія праводзіла ўлада, бо гэта кампраметавала б іх у вачах блізкіх. Мела значэнне таксама і антысавецкае падполле, што натуральным чынам уплывала на нежаданне мясцовага насельніцтва супрацоўнічаць з уладай. Кадры, якія фармальна добраахвотна, а фактычна — прымусова дасылаліся з глыбіні СССР ці з усходніх абласцей БССР, не заўсёды рэпрэзентавалі дзяржаву найлепшым чынам. Трэба памятаць пра вялізныя людскія страты, якія панёс Савецкі Саюз у ходзе Другой сусветнай вайны, а таксама пра папярэднія гады і масавыя рэпрэсіі 1930-х гг.

Я добра ўсведамляю, што прыведзеныя ў працы факты не заўсёды ўзаемазвязаныя і сістэматызаваныя і што праведзены аналіз не заўсёды дакладны, вычарпальны і бясспрэчны. Паколькі па гэтай тэме існуе вельмі абмежаваная гістарыяграфія, праца абапіраецца амаль выключна на архіўныя крыніцы і не мае папярэдняга грунту ў выглядзе літаратуры. У такой сітуацыі непазбежна ўзнікаюць метадалагічныя праблемы, цяжкасці з інтэрпрэтацыяй паасобных момантаў, а таксама своеасаблівае панаванне мовы дакументаў.

# Раздзел III

# ІДЭАЛОГІЯ, АСВЕТА І ПРАПАГАНДА

## III.I. ІДЭАЛОГІЯ І ПРАПАГАНДА Ў САВЕЦКІМ САЮЗЕ: АГУЛЬНЫ АГЛЯД

Размове пра функцыянаванне савецкай ідэалагічнай сістэмы ў Заходняй Беларусі павінен, на думку аўтара, папярэднічаць кароткі нарыс агульнай сітуацыі ў Савецкім Саюзе ў пасляваенны перыяд, характарыстыка змены кірункаў у прапагандысцкай тактыцы і найважнейшых ідэалагічных пастулатаў. Паказ сітуацыі на багатым фоне — абавязковы элемент далейшага даследавання метадаў і практык, якія прымяняліся ў Заходняй Беларусі.

Важным элементам пасляваеннага ідэалагічнага апарату быў «савецкі патрыятызм». Аднак савецкімі патрыётамі лічыліся толькі тыя, хто падзяляў камуністычныя погляды і падтрымліваў палітыку савецкай дзяржавы. Усё, што выходзіла за гэтыя межы, расцэньвалася як варожыя інтрыгі, блізкія да здрады Айчыне. Вызначэнне савецкага патрыятызму, прапанаванае галоўным ідэолагам Ждановым і апублікаванае 17 лістапада 1944 г. у газеце «Правда», было прызнана «класічным», а яго аўтарства прыпісалі Сталіну. «Савецкі патрыятызм» вырас «на глебе інтэрнацыяналізму», «не мае нічога агульнага з «бязродным» (адарваным ад народа) і неабгрунтаваным касмапалітызмам» і заснаваны на «любові ўсіх савецкіх народаў да сваёй сацыялістычнай айчыны — СССР»[1].

---

[1] Стенограмма собрания, посвященного вопросам истории СССР в ЦК ВКП(б) в 1944 г. // Вопросы истории. 1996. №№ 2, 7, 9. Цыт. паводле: Костырченко Г. Тайная политика Сталина. Москва, 2003. С. 258.

## САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РЭАЛІЗМ

У літаратуры правадніком «савецкага патрыятызму» лічылася тэорыя «сацыялістычнага рэалізму». У разуменні сутнасці рэалізму як мастацкага феномена можна вылучыць два розныя погляды: 1) як перайманне мастаком рэчаіснасці; 2) як літаратурны напрамак, пачаткі якога з'яўляюцца ў Рэненсансе ці XVIII ст., а росквіт прыпадае на XIX ст.[2] Пад першым тыпам, які ў нямецкай тэрміналогіі прынята называць «universaler Realismus», а ў ангельскай — «eternal realism», прынята разумець «вечную літаратурную з'яву, формы выяўлення якой пастаянна аднаўляюцца ў ходзе гістарычнага развіцця»[3]. Другі тып рэалізму, нягледзячы на пэўную розніцу ў трактоўках, можна разумець як гістарычную катэгорыю, аднолькава ў разуменні яго і як літаратурнага стылю, і як сродку адлюстравання аб'ектыўных грамадскіх адносін пэўнай эпохі.

Сацыялістычны рэалізм сфармаваўся ва ўмовах спецыфічных грамадска-палітычных адносін у Савецкім Саюзе ў сярэдзіне 1920-х гг. і павінен быў увасабляць асноўныя савецкія ідэалы ва ўмовах палітычнай барацьбы і служыць патрэбам дзяржавы[4]. Сацыялістычны рэалізм 1930-х гг., яго эстэтычныя крыніцы адрозніваліся ад рэалізму другой паловы 1940-х гг. і больш позняга перыяду. Калі ў 30-х гг. сацрэалізм супрацьпастаўляўся не толькі замежнай літаратуры, але таксама і рускай класіцы 19 ст. (Талстой, Дастаеўскі), то ў пасляваенны перыяд асаблівая ўвага звярталася на важную ролю рускага рэалізму XIX ст. Гэта было звязана са зменамі падыходаў да ролі і месца рускай культуры і мовы, з «шавінізацыяй ідэалогіі». Важнай складовай часткай літаратурнага сацрэалізму была катэгорыя партыйнасці. У савецкім разуменні гэта была вернасць мастака канкрэтным, практычным палажэнням праграмы партыі як палітычнай арганізацыі. Літаратура не магла быць пакінута сам насам з сабою, не магла быць гульнёй выпадку ці індывідуальнай справай асобнага чалавека. Партыя павінна была арганізоўваць літаратуру і кіраваць вынікамі яе ўздзеяння[5].

Акрамя партыйнасці, складнікамі сацыялістычнага рэалізму былі таксама такія ідэалагічныя катэгорыі, як тыповасць, праблема станоўчага героя, рамантычнасць і народнасць. Апошні кампанент азначаў фактычна тое самае,

---

[2] Możejko E. Realizm socjalistyczny. Teoria, rozwój, upadek. Kraków, 2001. S. 13. Праца Эдварда Мажэйкі, польскага аўтара, які з 1968 г. жыве на эміграцыі, створана не толькі на падставе савецкага матэрыялу, які ўзяты ў асноўным з рускай літаратуры, але ўключае літаратуры так званых народных дэмакратый і краін Заходняй Еўропы і Амерыкі.

[3] Heselhaus C. Das Realismusproblem // Begiffsbestimmung des literarischen Realismus. Darmstadt, 1974. P. 338—361. Wellek R. The Concept of Realism in the Literary Scholarship // Concept of Criticism. New Haven and London, 1964. Цыт. паводле: Możejko E. Realizm ... S. 13.

[4] Праўдападобна, тэрмін «сацыялістычны рэалізм» быў уведзены ў 1932 г., калі тагачасны галоўны рэдактар афіцыйнага выдання «Известия» І.Гронскі выкарыстаў гэта азначэнне ў звароце да членаў розных літаратурных аб'яднанняў Масквы, сцвярджаючы, што гэта новы творчы метад савецкай літаратуры. Гл.: Możejko E. Realizm ... S. 15. А таксама: Ermolaev H. Soviet Literary Theories, 1917—1934. The Genesis of Socialist Realism. Berkeley, 1963.

[5] Плоткин Л. Партия и литература // Октябрь, 1947. № 10. С. 157. Цыт. паводле: Możejko E. Realizm ... S. 97—98.

што партыйнасць, бо «партыя не мае іншых мэтаў, акрамя тых, якія служаць народу»[6].

Сацрэалізм у савецкай літаратуры быў выдатна прыстасаваны да патрабаванняў ідэалогіі і прапаганды. Каланіяльныя схільнасці, захопніцкія войны, якімі характарызавалася савецкая сістэма, былі па-майстэрскуператвораны ў свае супрацьлегласці. Багатую глебу для літаратуры давала польская нацыянальная палітыка на так званых усходніх крэсах — абшарах, у значнай ступені заселеных у той час украінцамі, беларусамі і яўрэямі. Цэнтральная і рэгіянальная прэса перапаўнялася артыкуламі «ўдзячных чытачоў», якія апісвалі жахі польскага панавання, а для большай эфектыўнасці выкарыстоўваліся метады літаратурнага пераканання. Прымяняўся прынцып «падзяляй і пануй», каб узнаўляць такія вобразы мінулага, якія б нагадвалі, напрыклад, часы Смуты і заняцце палякамі Масквы. Перыядычныя выданні былі перапоўнены вобразамі польскіх паноў, якія паказваліся перараджэнцамі і амаральнымі істотамі. Як мяркуе амерыканская даследчыца Э.Томпсан (прафесар славістыкі ўніверсітэта ў Райсе), савецкія пісьменнікі 30—40-х гг. часта апісваліся як ахвяры падпарадкавання канонам сацыялістычнага рэалізму, а не як асобы, светапогляд якіх быў моцна ўгрунтаваны на двурушнасці, што бярэ свой пачатак у імперскай агрэсіі[7].

## НОВАЕ РАЗУМЕННЕ «РУСКАГА НАРОДА»

Паняцце «савецкага патрыятызму» было цесна звязана з рускай мовай, рускай культурнай спадчынай і рускім народам. Каб лепш зразумець змены ў дзяржаўнай палітыцы адносна царскай Расіі і адсылку да рускай культуры і гісторыі як да ўзорных, трэба растлумачыць некаторыя звязаныя з гэтай палітыкай падзеі.

На ўрачыстасцях, прысвечаных перамозе над Германіяй, якія былі арганізаваны для вайсковага кіраўніцтва 24 мая 1945 г., Сталін у сваім выступленні падкрэсліў ролю «рускага народа як найвыдатнейшага народа сярод усіх савецкіх»:

> Я пью, прежде всего, за здоровье русского народа потому, что он является наиболее выдающейся нацией из всех наций, входящих в состав Советского Союза (...). И это полное доверие русского народа Советскому Правительству, вера в правильность политики своего правительства оказалось той решающей силой, которая обеспечила историческую победу над врагом человечества, — над фашизмом[8].

Аднак было б спрашчэннем прымаць за новы пункт адліку савецкай прапаганды выключна традыцыю рускага патрыятызму. Нацыянальна-дзяржаўная

---

[6] Możejko E. Realizm ... S. 95—105.

[7] Thompson E.M. Imperial Knowledge. Russian Literature and Colonialism, Westport — Connecticut — London, 2000. Цыт. Па польскім выданні: Thompson E.M. Trubadurzy Imperium. Literatura rosyjska i kolonializm. Kraków, 2000. S. 270—281 *(беларускае выданне: Томпсан Э. Песняры Імперыі. Мінск, 2009 — Рэд.)*.

[8] Иосиф Виссарионович Сталин. Краткая биография / Сост.: Г.Ф. Александров, М.Р. Галактионов, В.С.Кружков, М.Б. Митин, В.Д. Мочалов, П.Н. Поспелов. М., 1950. С. 220—221.




*Прапагандысцкі плакат «Русский народ».*

дактрына Савецкага Саюза патрабавала не толькі герояў мінулай вайны, але таксама і непарыўнай зброі, якая была знойдзена ў расійскай гісторыі. Паняцце «рускі патрыятызм» было паяднана з ідэалагічнымі інструментамі савецкай прапаганды, пры гэтым згаданая катэгорыя разумелася па-рознаму, у залежнасці ад патрэбаў.

З тых жа пазіцый можна разглядаць рускую мову як чарговы інструмент улады. Рэвалюцыйныя падзеі выклікалі хвалю нацыянальнага нігілізму, адрачэння ад спадчыны «гнілой Расіі». У 30-я гг. існавалі нават планы замяніць рускі алфавіт (кірыліцу) на лацінку для народаў былой Расійскай Імперыі. Аднак неўзабаве планы былі адкінуты з-за ўсё большага пашырэння рускай мовы, якое было ініцыявана ўладамі ў сувязі з палітыкай кансалідацыі савецкай дзяржавы на аснове рускай мовы і культуры. Нацыянальныя эксперыменты на Украіне і Беларусі, звязаныя з так званай «палітыкай карэнізацыі», калі пашыраўся ўдзел мясцовых кадраў у кіраванні краінай, нацыянальныя мовы ўводзіліся ў школы і ўстановы ў якасці абавязковых, ствараліся нацыянальныя акругі ў складзе рэспублік, былі брутальна згорнуты[9]. Руская мова павінна была гамагенізаваць і кансалідаваць народы СССР. Для тагачаснай дзяржаўна-ўрадавай дактрыны і асабіста для Сталіна яна была толькі мовай, якая цэментуе і злучае ўсе народы імперыі.

## РОЛЯ ІОСІФА СТАЛІНА Ў ФАРМАВАННІ ІДЭАЛАГІЧНЫХ АСНОЎ САВЕЦКАЙ СІСТЭМЫ

Асобе Іосіфа Сталіна прысвечана вялізная колькасць прац як замежных даследчыкаў, так і расійскіх. Ягоная постаць і надалей застаецца прадметам дыскусій для даследчыкаў гісторыі Савецкага Саюза[10]. Гэтыя працы былі напісаны ў розныя перыяды і ў пэўнай ступені адлюстроўвалі стан тагачаснай навукі і даступнасць крыніц. Не спыняючыся на асобных палажэннях і не спрабуючы іх ацаніць, аўтар дадзенай працы на падставе вывучанай літаратуры і ўласных архіўных даследаванняў дазволіць сабе зрабіць некалькі высноў. Несумненна, Сталін выконваў галоўную ролю ў фармаванні тагачаснай

[9] У якасці прыкладу можна прывесці БССР, дзе кароткі час былі чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і ідыш. Быў таксама польскі нацыянальны раён — Дзяржынскі. З пачатку 1930-х гг. карныя органы пачалі паступова пазбаўляцца ад найбольш небяспечных з пункта гледжання сістэмы нацыянальных дзеячаў як сярод камуністычнай эліты, так і сярод інтэлігенцыі. У час рэпрэсій другой паловы 30-х гг. быў знішчаны цвет беларускай інтэлігенцыі (у т.л. па сфабрыкаваных справах «Саюза вызвалення Беларусі», «Польскай вайсковай арганізацыі» і інш.). З таго часу ў кіраўніцтве партыі дамінавалі рускія ці прадстаўнікі іншых народаў, беларуская мова была выцеснена з устаноў, справаводства, была значна абмежавана ў друку і ў літаратуры.

[10] Гл., напрыклад: Awtorchanow A. Zagadka śmierci Stalina. Spisek Berii. Londyn, 1983; Bullock A. Hitler i Stalin, żywoty równoległe. T. 1—2. Warszawa, 1994; Conquest R. Stalin. Warszawa, 1991; Conquest R. Stalin i zabójstwo Kirowa. Warszawa, 1989; Dżilas M. Rozmowy ze Stalinem. Warszawa, 1991; Krywicki W. Byłem agentem Stalina. Warszawa, 1990; Miedwiediew R. Pod osąd historii geneza i następstwa stalinizmu. T. 1—2. Warszawa, 1990; Radziński E. Stalin. Pierwsza pełna biografia oparta na rewelacyjnych dokumentach z tajnych archiwów rosyjskich. Warszawa, 1996; Волкогонов Д.А. Сталин. Политический портрет. Москва, 1992 і інш.

палітыкі СССР і яго ідэалагічнай надбудовы. Яго ўмяшанне ў справы, на першы погляд, дробныя і не надта істотныя (напрыклад, асабістая праверка новых узораў амуніцыі для Чырвонай Арміі, указанні наконт даўжыні шыняля), прымушае задумацца. Гэта датычыла не толькі эканамічных ці мілітарных спраў, але ў вялікай ступені — і шырока зразуметай сферы грамадскага жыцця, мастацтва, навукі і г.д. Яго заўвагі на палях дакументаў, зробленыя часцей за ўсё чырвоным ці сінім алоўкам, вельмі часта вырашалі ўсё.

Галоўныя кірункі ў пабудове асноў ідэалагічнай надбудовы дзяржавы вызначаў асабіста Іосіф Сталін або асобы, чые погляды і спосабы іх рэалізацыі адпавядалі ягонаму бачанню (напрыклад, А.Жданаў). Вялізнае значэнне ў рэалізацыі асноўных прапагандысцка-ідэалагічных палажэнняў мелі асабістыя перакананні Сталіна, яго бачанне, перавагі або фобіі, сфармаваныя пад уплывам жыццёвага досведу, адукацыі або актуальных палітычных падзей. Пабудова пасляваеннай магутнай савецкай дзяржавы вымагала пошуку адпаведных гістарычна-ідэалагічных падстаў, адпаведных атрыбутаў і сімвалаў. Не выпадкова ў архітэктуры быў выбраны стыль, які пазней атрымаў назву «сталінскі ампір». Для гэтага стылю былі характэрны ўзнёслыя, манументальныя будынкі, якія нагадвалі архітэктуру Старажытнага Рыма. Каб вярнуць сімвалы старой імперскай Расіі, камісары былі зменены міністрамі. Вяртанне дарэвалюцыйнай назвы «міністр» адбылося паводле асабістага рашэння Сталіна.

Вярнуўшыся з адпачынку восенню 1945 г., Сталін прыняў нечаканае рашэнне аб перайменаванні народных камісараў у міністраў. На сакавіцкім Пленуме (1946 г.) ЦК УКП(б) падчас прамовы Сталін сказаў:

> Народный комиссар или вообще комиссар — отражает период неустоявшегося строя, период гражданской войны, период революционной ломки и пр. Этот период прошел. Война показала, что наш общественный строй очень крепко сидит (...). Уместно перейти от названия «народный комиссар» к названию «министр». Это народ поймет хорошо, потому что комиссаров чертова гибель. Пугается народ. Бог его знает, кто выше, кругом комиссары, а тут министр, народ поймет. В этом отношении это целесообразно[11].

Яшчэ ў час вайны ў войску былі ўведзены ордэны Кутузава і Суворава (1942 г.), вядомых царскіх палкаводцаў, якія былі стаўпамі самадзяржаўя і памнажалі яго здабычы. Адбыўся паварот да сфармуляванай у 1833 г. тагачасным міністрам адукацыі Расіі Уваравым канцэпцыі, якая абапіралася на тры асноўныя элементы: праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць. Расійскі гісторык Генадзь Кастырчэнка мяркуе, што працэс адаптацыі да ўмоваў сталінскага ўрада не меў асаблівых перашкодаў, бо праваслаўе было заменена на марксізм-ленінізм, самадзяржаўе заменена сталінскім адзінаўладдзем, трэці (дэкаратыўна-дэмагагічны) элемент — народнасць — можна было пакінуць без змен[12]. У інтэрпрэтацыі Сталіна патрыятычная ідэя была не-

---

[11] Данилов А., Пыжиков А. Рождение сверхдержавы. СССР в первые послевоенные годы. Москва, 2001. С. 179.

[12] Костырченко Г. Тайная политика ... Москва, 2003. С. 144—150.




*Афіша кінафільма «Иван Грозный».*

чым амбівалентным, эклектычным, паяднoўвала камуністычныя догматы з ідэяй рускай нацыянальнай велічы. Знамянальным з'яўляецца тое, што гэтая спадчына выкарыстоўвалася выбарачна: усё, што магло служыць узмацненню мілітарызаванай і бюракратычна-апаратнай дзяржаўнасці, кансалідацыі вакол правадыра, прымалася, а ўсё, што не адпавядала такім мэтам, адкідвалася як непатрэбнае. Сталіну больш імпанаваў самадастатковы дух старой Масквы, чым адкрытая на Захад Расія Пятра І[13]. Не выпадкова быў зняты фільм пра Івана Грознага, а ў тэатрах ставіліся спектаклі пра гэтага аднаго з найбольш улюбёных герояў Сталіна.

## ЗМЕНА ІДЭАЛАГІЧНА-ПРАПАГАНДЫСЦКІХ ПРЫЯРЫТЭТАЎ

Змянілася таксама і разуменне ролі дзяржавы. Тэма дзяржавы і яе роля ў будучыні займала шмат месца ў працах Маркса, Энгельса і Леніна. Адным з пастулатаў марксісцкай навукі быў тэзіс аб паступовым адміранні дзяржавы па меры набліжэння да новай фазы ў развіцці грамадскіх адносінаў. У новым бачанні дзяржавы, якое акрэсліў Сталін, галоўная роля ў пабудове камунізму належала дзяржаўным структурам. Дзяржаве адводзілася роля рухавіка ў працэсе ўтварэння новага грамадства. Асаблівы акцэнт рабіўся на арганізацыйна-эканамічную і культурна-асветніцкую дзейнасць савецкай дзяржавы. Такое спалучэнне павінна было прывесці да ўзмацнення ролі дзяржавы, «якая кіруе савецкім грамадствам згодна з эканамічнымі законамі сацыялізму»[14].

Расійскія даследчыкі савецкага перыяду Аляксандр Данілаў і Аляксандр Пыжыкаў на падставе аналізу пасляваеннай навуковай перыёдыкі прыйшлі да высновы, што на яе старонках усё радзей гаварылася пра «вядучую і кіруючую ролю партыі». На іх думку, тагачасныя прыярытэты перасунуліся ў бок дзяржавы як галоўнай сілы. На гэтым заснавана сталінскае разуменне ўлады, дзе дзяржава і ўрад на чале са Сталіным трымалі ў сваіх руках рэальныя механізмы кіравання і выходзілі на галоўныя пазіцыі ў іерархіі ўлады[15].

У час Другой сусветнай вайны значна ўзмацнілася група людзей, звязаных з ваенна-прамысловым комплексам, пасля заканчэння вайны гэтыя людзі выконвалі асаблівую ролю ў сістэме ўлады СССР. Узмацненне ў гады вайны партыйна-дзяржаўнага тандэма Маленкоў—Берыя, які адлюстроўваў інтарэсы ваенна-прамысловага комплексу, вымагала забеспячэння палітычнай раўнавагі ўнутры краіны. Пачынаючы з другой паловы 1944 г., Сталін ускосна перашкаджаў росту ўплыву гэтай групы, выкарыстоўваючы Андрэя Жданава і яго «ленінградцаў» як палітычную супрацьвагу[16]. Калі пасля

---

[13] Костырченко Г. Тайная политика ... Москва, 2003. С. 144—150.

[14] Данилов А., Пыжиков А. Рождение сверхдержавы ... Москва, 2001. С. 179.

[15] Там же. С. 158.

[16] Пасля забойства Сяргея Кірава Андрэй Жданаў (1896—1948) займаў пасаду кіраўніка ленінградскай партыйнай арганізацыі. Жданаў паходзіў з дваранства, навучаўся ў Пётра-Разумоўскай сельскагаспадарчай акадэміі, у коле партыйнай наменклатуры лічыўся знаўцам класічнай музыкі, мастацтва і літаратуры. Вакол Жданава былі згуртаваны асобы (Кузняцоў, Вазнясенскі і інш.), якія сімпатызавалі ідэі абуджэння рускай нацыянальнай

вайны па волі Сталіна апалітычныя тэхнакраты Малянкоў[17] і Берыя[18] адышлі на пэўны час у цень вялікай палітыкі, пачалося ўзмоцненае фарсіраванне ідэалагізацыі грамадства ў духу бальшавіцкай ідэйнасці і чуйнасці. Сталінскі рэжым правакаваў самаізаляцыю краіны. Гэта была спроба яшчэ больш адгарадзіцца ад свету, і гэта быў адказ на выклік, кінуты на пачатку халоднай вайны Злучанымі Штатамі[19].

Пачаткам халоднай вайны фармальна лічыцца знакамітая прамова Чэрчыля ў Фултане (1946). Аднак першыя стрэлы «халастымі патронамі» ў ідэалагічнай вайне раздаліся на год раней. Вялікую ролю адыграла страта прэстыжу пераможнай Чырвонай Арміі, яе паводзіны на вызваленых тэрыторыях. Аб'ектам заходняй прапаганды, акрамя Чырвонай Арміі, была таксама савецкая палітыка ў занятых краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, нізкі ўзровень жыцця і адсутнасць дэмакратыі ў СССР. Савецкая прапаганда супраць замежжа не магла супрацьпаставіць асэнсаваных контраргументаў. У дадатак, да лета 1946 г. у СССР можна было набыць заходнюю прэсу. Яшчэ ў сакавіку—красавіку 1946 г. у Савецкім Саюзе было распаўсюджана 50 тыс. экзэмпляраў часопісаў «Америка» і «Британский союзник», якія карысталіся вялікай папулярнасцю[20]. Сотні тысяч савецкіх грамадзян у выніку ваенных дзеянняў у Еўропе атрымалі магчымасць сутыкнуцца з іншым ладам жыцця, адрозным ад таго, які навязвала прапаганда. Непрывабнасць савецкага прапагандысцкага тавару — тагачаснага ладу, — нягледзячы на перыяд захаплення ім у некаторых колах на Захадзе, быў дастаткова відавочны, каб не звярнуць на сябе ўвагу. І гэта цудоўна ўсведамлялі ўладныя эліты. Яны выбралі класічнае вырашэнне праблемы, заснаванае на ўзмацненні дысцыпліны. У верасні 1946 г. Палітбюро ЦК УКП(б) зацвердзіла прапанаваную Ждановым пастанову «Аб распаўсюджанні і выкарыстанні замежнай літаратуры», згодна

свядомасці і расійскай дзяржаўнасці. З яго імем звязана завастрэнне ідэалагічнага курса ў грамадскім жыцці, культуры і навуцы, які характарызаваўся вялікадзяржаўным шавінізмам, адмаўленнем заходніх здабыткаў і аўтаркіяй.

[17] Георгій Малянкоў (1901—1988) нарадзіўся ў дваранскай сям'і, скончыў гімназію з выдатнымі адзнакамі, у 1920 г. уступіў у УКП(б), навучаўся ў маскоўскай Вышэйшай тэхнічнай школе, з 1925 г. працаваў у ЦК УКП(б). Амбітны, адукаваны чыноўнік хутка зрабіў кар'еру і неўзабаве заняў важную пасаду сакратара ЦК, займаўся кадравай палітыкай. Член Палітбюро (з 1946 г.), пасля смерці Сталіна быў прызначаны прэм'ерам. Выйшаў з вялікай палітыкі пасля няўдалай спробы скінуць Хрушчова (1957 г.) у складзе так званай «антыпартыйнай групы».

[18] Лаўрэнцій Берыя (1899—1953) — шматгадовы камісар унутраных спраў (з 1946 г. кантраляваў дзейнасць МУС і МДБ), асцярожны і ўмелы гулец у закулісных унутрыпартыйных інтрыгах, з яго імем звязана паслабленне рэпрэсій у канцы 30-х гг., а таксама правядзенне некалькіх амністый пасля смерці Сталіна. Арыштаваны летам 1953 г. і пакараны смерцю.

[19] Аб узмацненні Жданава ў сістэме кіравання дзяржавай, барацьбе з «людзьмі» Малянкова і яго ролі ў кіраванні прапагандай гл. больш: Hahn W. G. Postwar Soviet Politics. The Fall of Zhdanov and Defeat of Moderation, 1946—53. Ithaca and London, 1982. P. 26—51.

[20] Печатнов В. Стрельба холостыми: советская пропаганда на Запад в начале «холодной войны» (1945—1947) // Сталинское десятилетие холодной войны: факты и гипотезы. Москва, 1999. С. 112.

з якой былі значна абмежаваны закупкі замежнай літаратуры, зацверджаны спіс устаноў, якія маглі яе атрымліваць, а таксама ўзмоцнены кантроль за пастаўкамі, захаваннем і выкарыстаннем[21].

Вясной-летам 1947 г. была праведзена гучная прапагандысцкая кампанія, скіраваная на дыскрэдытацыю радыёстанцый «Голас Амерыкі» і Бі-бі-сі, адначасова вялося тэхнічнае ўдасканаленне глушылак. Такім чынам, «барацьба ідэй» была падобнай да вуліцы з аднабаковым рухам. З-за бездапаможнасці перад заходняй прапагандай было прынята рашэнне закрыць інфармацыйныя шляхі з Захаду ўнутры краіны[22].

У дзейнасці Сталіна выразна бачылася імкненне ажыццявіць у як мага больш кароткі тэрмін татальную псіхалагічную мабілізацыю грамадства, актывізаваць у грамадстве пануючы ў першыя пасляваенныя гады дух абаронцаў абкладзенай цвердзі. На шляху да гэтай мэты стаяла істотная перашкода: інерцыя пераможнай эйфарыі народа, які ахвяраваў на алтар перамогі велізарную колькасць жыццяў за права на годнае жыццё ў спакоі і які ў большасці сваёй сімпатызаваў былым саюзнікам. У сувязі з гэтым першым крокам распачатай перабудовы прапаганды ў 1946 г. стала адхіленне ад кіравання ідэалагічнай сферай тэхнакрата Малянкова. Сталін справядліва лічыў, што з заданнем «закруціць гайкі» ў духоўнай сферы найлепш справіцца такі дасведчаны партыйны функцыянер, як Жданаў. Хвараліты Жданаў з вялікай энергіяй узяўся за рэалізацыю пасляваеннага палітычнага курса дыктатара, і гэты кірунак атрымаў назву «жданаўшчыны»[23].

Істотным элементам новага курса быў матыў, які не з'яўляўся ў поўнай меры вынаходніцтвам савецкай сістэмы. Расійскі вялікадзяржаўны шавінізм, прыхаваны, а часам і адкрыты антысемітызм, тэза аб «асаблівай» ролі Расіі сярод славянскіх дзяржаў — толькі некаторыя кампаненты з доўгага спісу выкарыстаных на розных этапах гістарычнага развіцця імперыі Раманавых. Мадыфікаваная ідэя «патрыятызму» вымагала барацьбы з варожым атачэннем і пошуку «непатрыятычных» элементаў унутры сістэмы. «Ворагі народа», «шкоднікі», «агенты», «шпіёны» — вось чарговыя вобразы створанай савецкай сістэмай парадыгмы ворага. Чысткі савецкага ваенна-бюракратычнага апарату, ліквідацыі палітычных ворагаў сістэмы, людзей культуры і навукі, дэпартацыі цэлых народаў ужо было недастаткова, каб трымаць грамадства ў татальным падпарадкаванні. Шукаліся новыя спосабы для ўтрымання

[21] Печатнов В. Стрельба холостыми: советская пропаганда на Запад в начале «холодной войны» (1945—1947) // Сталинское десятилетие холодной войны: факты и гипотезы. Москва, 1999. С. 125.

[22] Матэрыялы для антысавецкай прапаганды ненаўмысна пастаўляла на Захад сама няўклюдная савецкая машына прапаганды. У якасці прыкладу можна прывесці выпадак, калі на замежнай выставе былі выстаўлены фотаздымкі перадавых савецкіх работнікаў неахайнага выгляду і ў лахманах, што выклікала справядлівы гнеў сакратара ЦК УКП(б) Патолічава. Пасол у Англіі Зарубін даносіў пра адсутнасць прапагандысцкага эфекту ад фотаздымкаў, мэтай якіх было паказаць паступовую механізацыю сельскай гаспадаркі ў Савецкім Саюзе. На савецкім здымку вакол трактара і малатаркі згуртавалася сорак два чалавекі. Англічане задалі лагічнае пытанне: «Што робяць усе гэтыя людзі, калі ў Англіі для абслугоўвання такой тэхнікі дастаткова фермера з жонкай?» Там жа. С. 122.

[23] Костырченко Г. Тайная политика ... С. 291.

людзей у перманентным страху і псіхалагічным напружанні. Новая чыстка пад лозунгам барацьбы з «бязродным касмапалітызмам» была праведзена па ініцыятыве Андрэя Жданава, які атрымаў «блаславенне» на практычную рэалізацыю гэтага курса.

## БАРАЦЬБА З «КАСМАПАЛІТЫЗМАМ»

Касмапалітызм (ад грэц. kosmospolítes — касмапаліт, грамадзянін сусвету) можна акрэсліць як светапогляд пэўнай групы людзей, якія не прызнаюць палітычных і культурных падзелаў. Жыццё грамадзяніна сусвету прапагандавалі яшчэ старажытныя філосафы, у тым ліку і стоікі. У савецкім прапагандысцка-ідэалагічным апараце паняцце «касмапалітызм» было вульгарызавана, прыраўняна да «рэакцыйнай імперыялістычнай ідэалогіі, скіраванай на заваяванне народаў і на знішчэнне патрыятызму»[24]. Слова «касмапаліт» у Савецкім Саюзе выкарыстоўвалася яшчэ ў час вайны, калі час ад часу можна было назіраць першыя праявы антысемітызму. А паколькі антысемітызм не афішаваўся, для матывацыі такой палітыкі было вельмі зручна абвінавачваць яўрэяў у недастатковым патрыятызме або ў яго адсутнасці. У Савецкім Саюзе такая мянушка ў свядомасці, галоўным чынам, сярэдняга грамадзяніна была адной з назваў яўрэяў. Справа ў тым, што яўрэйскае насельніцтва ў выніку палітычных і сацыяльных змен, якія адбыліся на тэрыторыі былой Расійскай Імперыі, адарвалася ад сваёй культуры, мовы, рэлігіі, традыцыйнага ладу жыцця і паступова асімілявалася, або, інакш кажучы, стала касмапалітычным. Абвінаваціць у касмапалітызме можна было прадстаўнікоў усіх народаў, найперш інтэлектуалаў, якія тым ці іншым чынам кантактавалі з Захадам (навуковыя, прафесійныя сувязі і г.д.) або спрыялі такім кантактам.

У дадзенай працы не ставіцца мэта паказаць у поўным аб'ёме савецкую антысеміцкую палітыку ў межах кампаніі па «барацьбе з «бязродным (*у сэнсе — адарваным ад народа — Я.Ш.*) касмапалітызмам». Гэтае пытанне дастаткова добра вывучана расійскімі[25] і заходнімі[26] навукоўцамі, паколькі некаторыя аспекты гэтай палітыкі праглядаюць у кантэксце дзяржаўнай ідэа-

---

[24] Параўн.: Морджинская Е.Д. Космополитизм — империалистическая идеология порабощения нации. Москва, 1958.

[25] Гл.: Гл.: Сталин и космополитизм: документы Агитпропа ЦК КПСС 1945—1953 / сост.: Д.Г. Наджафов, З.С. Белоусов. Москва, 2005; Еврейский антифашистский комитет. 1941—1948. Документированная история / под. ред. С.Редлиха и Г.Костырченко. Москва, 1996; Костырченко Г. В плену у красного фараона. Политические преследования евреев в СССР в последнее сталинское десятилетие. Москва, 1994; Люкс Л. Еврейский вопрос в политике Сталина // Вопросы истории. 1999. № 7. С. 41—59; Пихоя Р. Советский Союз: история власти. 1945—1991. Москва, 1998 і інш.

[26] Гл., напрыклад: Altshuler M. Soviet Jewry on the Eve of the Holocaust. A Social and Demographic Profile. Jerusalem, 1998; Pinkus B. The Jews of the Soviet Union. The History of the National Minority. Cambridge, 1988; Шварц С. Антисемитизм в Советском Союзе. New York, 1952; Gilboa Y. The Black Years of the Soviet Jewry, 1939—1953. Boston, 1973; Luks L. Der Spätstalinismus und die Jüdische Frage. Zur antisemitischen Wendung des Kommunismus. Köln, 1998.

логіі, якая рэалізавалася ў СССР. Варта звярнуць увагу на той факт, што, нягледзячы на балючы ўдар, нанесены асіміляванай яўрэйскай супольнасці ў СССР (ліквідацыя Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, яўрэйскіх тэатраў, забойства Міхоэлса і г.д.), антысеміцкія захады не былі скіраваныя супраць усіх запар прадстаўнікоў гэтага народа. Многія з бліжэйшага атачэння Сталіна, нягледзячы на яўрэйскае паходжанне (напрыклад, Леў Мехліс, Лазар Кагановіч), і далей займалі высокія пасады ў дзяржаве. Шматразова цытаваныя намі справаздачы, інфармацыйныя запіскі, якія датычылі розных справаў на Захадзе Беларусі, былі складзены Сяргеем Задзіёнчанкам, былым 1-м сакратаром Днепрапятроўскага абкама КП(б)У. Гэта была асоба яўрэйскага паходжання (сапраўднае прозвішча — Заёнчак). Ён займаў высокае становішча ў партыйным апараце, аднак у 1951 г. у ходзе антыяўрэйскай чысткі быў пераведзены на другарадную пасаду ў апараце ЦК УКП(б)[27]. Паказальна, што, нягледзячы на антыяўрэйскі характар новай прапагандысцкай кампаніі, большасці яўрэяў, якія належалі да партыйнай і савецкай наменклатуры, удалося перачакаць «ліхія часы», змяняючы прозвішчы, нацыянальнасць, пераходзячы на іншыя пасады. Наймацнейшы ўдар прыйшоўся на інтэлігенцыю, творчых людзей, інтэлектуальную эліту яўрэйскага паходжання. Паводле падлікаў сучаснага ізраільскага гісторыка Б.Пінкуса, які прааналізаваў 56 савецкіх перыядычных выданняў за перыяд 1948—1953 гг., яўрэі складалі 71% ад агульнай колькасці інтэлігенцыі, абвінавачанай у касмапалітызме[28].

Вельмі часта ўлады асобных савецкіх рэспублік, прадчуваючы, на падставе няпэўных сігналаў з цэнтра, некаторыя змены ў стаўленні да яўрэяў, стараліся апярэдзіць волю кіраўніцтва. У 1948 г. ЦК КП(б)Б накіравала ў Палітбюро інфармацыйную запіску «Аб распераззанні сіянізму і шпіёнскай арганізацыі «Джойнт» у рэспубліцы». Гэтая запіска, акрамя шаблонных фраз пра міжнародны імперыялізм і яго інтрыгі, у высновах мела вельмі цікавае сцвярджэнне пра абавязковасць «вырашэння яўрэйскага пытання»[29]. Паказальна, што згаданы дакумент быў створаны перад пачаткам ініцыяванай і скаардынаванай цэнтрам прапагандысцкай атакі (што ў выніку аказала моцнае псіхалагічнае ўздзеянне на асіміляваных яўрэяў). Масква, даючы пэўныя сігналы ці намёкі, у многіх палітычных справах «умывала рукі», прадстаўляючы часам асобныя дзеянні як вынік рашэння мясцовых уладаў. Выдатным прыкладам можа паслужыць ліквідацыя Яўрэйскага тэатра ў Мінску пастановай Савета Міністраў БССР. Вышэйшае кіраўніцтва ў Мінску не атрымлівала непасрэднага загаду з Масквы, але апошняя дала выразна зразумець, што гэты крок для яе пажаданы.

---

[27] Костырченко Г. Тайная политика ... С. 519; ЦК ВКП(б) и региональные партийные комитеты, 1945—1953 / Сост.: В.В.Денисов, А.В.Квашонкин, Л.Н.Малашенко, А.И.Минюк, М.Ю.Прозуменщиков, О.В.Хлевнюк. Москва, 2004. Паводле звестак укладальнікаў зборніка, Задзіёнчанка займаў пасаду 1-га сакратара Кемераўскага і Башкірскага абкамаў.

[28] Батыгина Г.С., Девятко И.Ф. Еврейский вопрос, хроника сороковых годов // Вестник РАН. Т. 63. № 1. 1993. С. 60. Цыт. паводле: Костырченко Г. Тайная политика ... С. 350.

[29] Шнейдере И. Преследование переживших Холокост евреев Латвии после Второй мировой войны // Евреи в меняющемся мире («Ebreji mainīgajā pasaulē»). Материалы IV международной конференции. Рига, 20—22.11.2001; под ред. Г.Брановера и Р.Фербера. Рига, 2001. С. 409.

Чыстка, якая праходзіла пад сцягам «барацьбы з касмапалітызмам», мела татальны характар і ахапіла ўсе палітычныя, адміністрацыйныя, ідэалагічныя і сацыяльныя ўзроўні дзяржаўных структур: ад Палітбюро і Савета Міністраў да ўпраўленняў прадпрыемстваў і саветаў дэпутатаў у аддаленых правінцыях[30]. «Касмапалітаў» шукалі ўсюды, асабліва ў навуковых і культурна-асветніцкіх установах[31]. Спынімся зараз крыху на тагачаснай гістарычнай навуцы.

## ГІСТАРЫЧНАЯ НАВУКА

У цэнтральным гістарычным часопісе «Вопросы истории» (1949, № 2) быў надрукаваны артыкул ад рэдакцыі, прысвечаны задачам савецкіх гісторыкаў у барацьбе з праявамі буржуазнай ідэалогіі. Прадметам атакі партыйных ідэолагаў стала група вядомых савецкіх гісторыкаў пад кіраўніцтвам акадэміка І.І. Мінца і прафесара І. М. Разгона. Віною Мінца быў змест ягонай працы «Гісторыя СССР (1917—1925)»[32]. На думку аўтараў артыкула, навуковец змяншаў «галоўную ролю рускага народа і рабочага класа ў барацьбе за пабудову сацыялістычнай дзяржавы»[33]. Падобныя абвінавачванні прагучалі і ў адрас прафесара Разгона, які, у дадатак, «недаацэньвае сусветнага значэння Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі і ролі савецкага патрыятызму ў справе перамогі над фашызмам»[34].

Востра крытыкавалася праца Н.Л.Рубінштэйна «Руская гістарыяграфія»[35] за «аблуды касмапалітызму, якія заключаліся ў адмаўленні самастойнага развіцця грамадска-гістарычнай думкі ў Расіі». Сцвярджалася, што прафесар «пераацэньваў заходнія ўплывы і недаацэньваў міжнароднае значэнне расійскай гісторыі і культуры»[36]. Ідэі касмапалітызму, якія грунтаваліся на недаацэнцы самастойнасці развіцця расійскай навукі, былі знойдзены ў працы В.Л. Вайнштэйна «Гістарыяграфія сярэдніх вякоў»[37]. Практычна кожны кірунак гістарычнай навукі быў «захоплены касмапалітамі», якія «перакручвалі факты, прадстаўляючы падзеі ў няправільным асвятленні»[38].

---

[30] Костырченко Г. Тайная политика ... С. 349.

[31] Больш на гэтую тэму гл.: Сталин и космополитизм: документы Агитпропа ЦК КПСС 1945—1953 / сост. Д.Г.Наджафов, З.С.Белоусов. Москва, 2005.

[32] Гл. Минц И. История СССР (апрель 1917 — 1925 гг.). Лекции, прочитанные в Высшей партийной школе при ЦК ВКП (б). Москва, 1946.

[33] Гл.: О *задачах советских историков в борьбе с проявлениями буржуазной идеологии // Вопросы истории. 1949.* № 2. С. 3—13.

[34] Там же.

[35] Гл.: Рубинштейн Н. Л. Русская историография. Москва, 1941.

[36] О *задачах советских историков в борьбе с проявлениями буржуазной идеологии // Вопросы истории. 1949.* № 2. С. 3—13.

[37] Вайнштейн О.Л. Историография средних веков в связи с развитием исторической мысли от начала средних веков до наших дней (учебник для исторических факультетов государственных университетов и педагогических институтов). Москва—Ленинград, 1940.

[38] О *задачах советских историков в борьбе с проявлениями буржуазной идеологии // Вопросы истории. 1949.* № 2. С. 3—13.

Хваля барацьбы з «касмапалітамі» неўзабаве дасягнула перыферыйных савецкіх рэспублік. Мінскія ўлады былі абвінавачаны Масквой у «адсутнасці прынцыповай бальшавіцкай крытыкі твораў беларускіх пісьменнікаў; расхвальванні слабых, маламастацкіх твораў і замоўчванні памылак у творчасці пісьменнікаў, якія ў выніку прывялі да з'яўлення безыдэйных і памылковых твораў»[39]. Інстытут літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук Беларускай ССР быў абвінавачаны ў адсутнасці «палітычна карэктнага» руска-беларускага слоўніка. Выдадзеныя дагэтуль слоўнікі «мелі сур'ёзныя памылкі і штучную паланізаваную мову»[40]. Не заслужыла высокай ацэнкі і адна з першых агульных прац па гісторыі Беларусі (1946 г.), у якой былі заўважаны сур'ёзныя метадалагічныя памылкі:

> В «Истории БССР» неправильно отражены вопросы образования белорусского народа и белорусской государственности, идеализируются экономические и культурные условия развития в Литовском княжестве, преувеличена роль предков белорусского народа в разгроме немецких псов-рыцарей и монголо-татарских захватчиков, односторонне представлен вопрос об основе исторических связей между восточнославянскими племенами[41].

На XI Пленуме ЦК КП(б)Б пытанне выдадзенай у 1946 г. кнігі заняло важнае месца. Згодна з абавязковым на той час рытуалам, «самабічаваннем» павінны былі заняцца вышэйшыя органы ўлады. Заўсёды шукаліся казлы адпушчэння, тыя, хто павінен быў несці адказнасць за ўсе грахі. 1-шы сакратар КП(б)Б Панамарэнка знайшоў вінаватага не сярод аўтараў кнігі. Ім аказаўся сакратар па справах прапаганды Цімафей Гарбуноў, які несвоечасова напісаў уступ да працы. Акрамя паўтарэння вышэйзгаданых тэзісаў, выказвалася таксама меркаванне, што аўтары трактуюць гісторыю Беларусі «з пункта гледжання контррэвалюцыйных нацыяналістычных дэмакратаў». Аспрэчвалася таксама падмацаваная археалагічнымі дадзенымі канцэпцыя

[39] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 45. Паведамленне сакратарам ЦК УКП(б) А.Жданаву, А.Кузняцову, Н.Патолічаву аб працы ЦК КП(б)Б, 06.01.1947 г., за подпісам інспектара ЦК УКП(б) С.Задзіёнчанкі. Гаворка, галоўным чынам, вялася пра творы Кандрата Крапівы «Мілы чалавек» і Кучара «Заложнікі». У першым з іх расказваецца пра «подзвігі» спрытнага злодзея Жлукты, які хаваўся ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію ў адным з аддаленых гарадоў краіны. Твор высмейвае партыйных і савецкіх чыноўнікаў, асцярожна і саркастычна паказвае тагачасную рэчаіснасць. У творы «Заложнікі» аўтар «прыніжае вобраз барацьбы беларускага народа з фашызмам, аддаючы цэнтральнае месца здраднікам айчыны».

[40] Там же.

[41] Там же, л. 46. Заняткі гісторыяй стваралі для даследчыкаў вялікую небяспеку, бо невядома было, у якім месцы спатыкнешся: ці на адсутнасці павагі да рускага народа і яго культуры, ці на абвінавачваннях у нацыяналізме і касмапалітызме, што ў выніку азначала тое самае. Таму большасць тагачаєных беларускіх гісторыкаў (тых, хто працаваў у Беларусі, неабавязкова беларусаў) выбірала сярэдні шлях. З паведамлення пра Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР вынікае, што з 29 прац, запланаваных на цякучую пяцігодку, толькі пяць былі прысвечаны перыяду савецкай Беларусі, астатнія — гісторыі Рыма, Грэцыі і г.д.

старажытнага Полацкага княства як беларускай протадзяржавы[42]. Праца ў выніку была знята з друку.

Асудзілі аўтараў «Гісторыі Беларусі» таксама і на партыйным сходзе ў Акадэміі навук. Як сведчаць матэрыялы сходу, было прызнана, што аўтары працы «перакруцілі гістарычныя факты, што праявілася ў нізкапаклонстве перад Захадам, ідэалізацыі палітычных і эканамічных умоваў жыцця беларускага народа пад ярмом літоўска-польскіх феадалаў»[43]. Гэты рытуал быў абавязковым у тагачаснай сістэме, дзе павінен быў сімвалізаваць усеагульнае асуджэнне калегамі сваіх «несвядомых таварышаў». Гэтаму служылі «суды гонару», якія пачалі практыкавацца з 1947 г.; праўда, ад гэтай практыкі хутка адмовіліся.

Змены адбыліся таксама ў кульце герояў Айчыны, якія павінны былі сімвалізаваць новую вялікадзяржаўную міфалогію. Асаблівая роля належала Сувораву, слыннаму расійскаму палкаводцу, які спрычыніўся, між іншым, да падаўлення паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі. У якасці ўзнагароды за верную службу Сувораў атрымаў Кобрынскі ключ разам з навакольнымі вёскамі. У Кобрыне да 1946 г. працаваў дом-музей Рамуальда Траўгута, героя паўстання 1863 г. і апошняга кіраўніка Нацыянальнага ўрада. Яго існаванне адпавядала культу і ідэалогіі рэвалюцыйнай барацьбы, існаваўшых у СССР у 1920—1930-х гг. Змены ў ідэалогіі, якія адбываліся ў другой палове 1940-х гг., спрычыніліся таксама і да змен у рэвалюцыйнай міфалогіі. Антыцарскія паўстанні 1830—1831 і 1863—1864 гг. ужо не разглядаліся як адназначна прагрэсіўныя, а пра дзейнасць паўстанцаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы наогул не згадвалася. У выніку гэтых змен музей Траўгута ў 1946 г. быў перароблены ў музей Суворава[44]. Хуткаплынныя змены ўнутрыпалітычнай сітуацыі, вывядзенне на першы план іншых гістарычных постацей, а часта і нізкі ўзровень адукацыі прыводзілі да камічных выпадкаў, калі прадстаўнікі савецкай адміністрацыі не ведалі сваіх герояў. Так, напрыклад, на пытанне кантрольнай камісіі ЦК КП(б)Б, кім быў Сувораў, кіраўнік Быценскага раённага ўпраўлення гандлю (Баранавіцкая вобл.) адказаў: «Сувораў — гэта знакаміты рэвалюцыянер, які змагаўся за рабочых і сялян»[45].

Новая трактоўка гісторыі беларускага народа была адаптавана да патрабаванняў тагачаснай савецкай гістарычнай навукі. У 1948 г. у часопісе «Бальшавік Беларусі» былі надрукаваны «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР»[46]. Згодна з гэтымі тэзісамі, Вялікае Княства Літоўскае магло разглядацца выключна як дзяржава літоўскіх феадалаў, Рэч Паспалітая —

---

[42] НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 232, арк. 27—28. Даклад 1-га сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі на XI Пленуме ЦК КП(б)Б 15—16 лютага 1947 г.

[43] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 66. Паведамленне аб ходзе дыскусіі наконт сакрэтнага ліста ЦК УКП(б) па справе прафесараў Клюевай і Роскінай у БССР, сакратару ЦК УКП(б) А.Жданаву, без даты.

[44] Грыцкевіч В. Пераадолець інерцыю стылю // Адраджэнне. Вып. 1. Мінск, 1995. С. 129.

[45] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 174. Паведамленне аб стане палітычнай працы сярод насельніцтва ў Быценскім раёне Баранавіцкай вобл., без даты, не раней за чэрвень 1946 г.

[46] Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР // Бальшавік Беларусі. 1948. № 8. С. 36—72. Цыт. паводле: Грыцкевіч В. Пераадолець інерцыю ... С. 135.

як выключна польская дзяржава, а не федэрацыя ВКЛ і Польскай кароны. Падзел Рэчы Паспалітай лічыўся прагрэсіўным крокам. Крыху раней выйшла прапагандысцкая кніга І.Лочмеля «Очерки истории борьбы белорусского народа против польских панов»[47]. Аўтар выкарыстаў некалькі палітычных схем і аналогій, параўнаўшы канец XVIII ст. з 1939 г., калі было скінута «з беларускіх сялян ярмо польскіх паноў». Гэтая схема даказвала тэзіс аб тым, што і Рэч Паспалітая ў межах канца XVIII ст., і міжваенная Польшча не мелі права на існаванне. Тэзісы, якія пабачылі свет у 1948 г., збольшага паўтаралі гэтую схему; акцэнт у іх рабіўся асабліва на імкненні беларускага народа да «уз'яднання» з расійскай (або маскоўскай) дзяржавай на розных этапах гістарычнага развіцця.

Нямецкі гісторык Райнер Ліндэр глыбока прааналізаваў і ўсебакова вывучыў праблему ўзаемаадносінаў гісторыкаў і ўлады на Беларусі ад XIX ст. да сучаснасці[48]. Для нас найбольш цікавымі з'яўляюцца раздзелы, прысвечаныя пасляваеннаму перыяду. У той час адбывалася ўсё большае падпарадкаванне гістарычнай навукі палітыцы камуністычнай партыі. Цэнтральнае месца ў гістарычнай канцэпцыі Беларусі заняў Сталін. У 1945—1952 гг. яго асобе было прысвечана каля 600 кніг і брашур, якія змяшчалі яго працы або працы аб ім[49]. Акрамя працаў пра Сталіна, вялікае значэнне надавалася барацьбе з буржуазнай ідэалогіяй і мараллю, фармаванню камуністычнага светапогляду. У школах камуністычны светапогляд і савецкі патрыятызм павінен быў прывівацца праз гісторыю народаў СССР, у кантэксце якой вывучалася таксама і гісторыя свайго народа. Гісторыя Беларусі як асобная дысцыпліна не вывучалася. Праўда, у 1954 г. пасля доўгіх дыскусій выйшаў І том «Гісторыі Беларусі», які атрымаў адабрэнне ўлады і быў напісаны з марксісцкіх пазіцый.

У беларускай гістарыяграфіі першых пасляваенных гадоў на першы план выходзіла рэалізацыя некалькіх партыйных заданняў. Даследаванне гісторыі паходжання беларускага народа, гістарызацыя «ўз'яднання» ў 1939 г. і стварэнне партызанскага міфа павінны былі злучыць савецка-патрыятычную і неанацыянальную версіі гісторыі. Рэабілітацыя паняцця «нацыянальны» праходзіла ва ўмовах абуджэння патрыятызму кожнага з народаў, якія ўдзельнічалі ў Другой сусветнай вайне. Таму яго трэба было скіраваць у «правільнае» русла, падкрэсліваючы адзінства беларускага і рускага народаў, іх агульнае паходжанне, непераадольнае імкненне беларускага народа да ўз'яднання з Расіяй на працягу ўсяго гістарычнага шляху, ствараючы пантэон пазітыўных, строга падабраных герояў для беларускай сацыялістычнай нацыі. Новай версіі «рэнацыяналізаванай» пад сцягам патрыятызму гістарыяграфіі чакалі ўжо адпаведныя ўзоры інтэрпрэтацыі падзей і ацэнкі асобных постацей[50].

---

[47] Гл.: Лочмель И.Ф. Очерки истории борьбы белорусского народа против польских панов. Москва, 1940.

[48] Ліндэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX—XX стст. СПб., 2005.

[49] Тамсама. С. 322.

[50] Тамсама. С. 240—265. Больш на тэму саветызацыі гістарычнай навукі ў Беларусі гл.: Партноў А. Саветызацыя гістарычнай навукі ў Украіне і Беларусі (некаторыя канцэпту-

## БІЯЛОГІЯ

Акрамя гісторыі і іншых гуманітарных навук, хваля барацьбы з касмапалітамі распаўсюдзілася на іншыя сферы, у тым ліку на дакладныя дысцыпліны, дзе вельмі моцны ўдар быў нанесены па біялогіі. У той час галоўныя пазіцыі ў савецкай біялогіі займала так званая школа акадэміка Лысенкі, які яшчэ ў 1930-я гг. для барацьбы са сваімі праціўнікамі развіў тэорыю новага навуковага напрамку, які грунтаваўся на «рэвалюцыйных прынцыпах». Характарыстыка канкрэтных пытанняў, звязаных з тэорыяй Лысенкі, не ўваходзіць у нашы задачы, але варта звярнуць увагу на тое, што згаданая тэорыя была перанесена ў палітычную плоскасць. У выніку яна выкарыстоўвалася для барацьбы з навуковымі апанентамі, якіх абвінавачвалі ў «касмапалітызме». Такой ахвярай стаў прэзідэнт Акадэміі навук БССР А.Жэбрак. Непасрэднай падставай для ганенняў стала яго публікацыя ў амерыканскім навуковым часопісе, дзе Жэбрак напісаў, што «праз некалькі год тэорыя Лысенкі не будзе мець навуковага значэння»[51]. З парушэннем статута Жэбрак быў зняты з пасады прэзідэнта Акадэміі навук, былі звольнены таксама яго супрацоўнікі. Канчатковы разбор адбыўся ў Маскве, дзе супраць яго выступілі былыя калегі. Там былі раскрытыкаваны яго навуковыя дасягненні і зроблена прапанова «пакончыць з рэакцыйнай ідэалогіяй Вейсмана—Моргана—Мендэля»[52].

Асобныя навукоўцы праявілі мужнасць і даслалі Жданаву лісты, у якіх выказвалі падтрымку Жэбраку. І.Рапапорту гэта каштавала партбілета, прафесару Д.Сабініну — пасады загадчыка кафедры фізіялогіі ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце[53].

Праз імкненне дыскрэдытаваць усё, што хоць неяк было звязана з Захадам, даходзіла да абсурдных сітуацый. Фактычна ўсе навуковыя дасягненні і адкрыцці прыпісваліся рускім (лакаматыў, электрычная лямпачка, тэлеграф і г.д.). У ліпені 1948 г. гучна крытыкаваўся артыкул акадэміка Юрыя Вейса «Аб канструкцыі ворных і сеяльных сельскагаспадарчых машын». Тагачасны прэзідэнт АН БССР М.Грашчанкоў абвінаваціў вучонага ў «буржуазным аб'ектывізме і безыдэйнасці». Справа, галоўным чынам, заключалася ў тым, што ў артыкуле не было праведзена параўнальнага аналізу сельскагаспадарчых машын перыяду «дарэвалюцыйнага і дакалгаснага» з перыядам калгаснага ладу, адсылкі ж да замежных крыніц былі ахарактарызаваны як «праявы падхалімства перад буржуазнай сельскагаспадарчай навукай»[54].

альныя меркаванні) // Беларускі гістарычны агляд. Т. 7. Сш. 2. 2000. С. 476—488; Кузё Т. Гісторыя, памяць і фармаваньне нацыяў на постсавецкай каляніяльнай прасторы // ARCHE. 2003. № 3. С. 102—123.

[51] Токараў М. Дзейнасць Акадэміі навук БССР у першыя пасляваенныя гады (1946—1950) // Весці АН БССР. 1991. № 3. С. 51—58.

[52] Тамсама.

[53] Из истории борьбы с лысенковщиной / публ. В.Есакова, С.Ивановой, Е.Левиной // Известия ЦК КПСС. 1991. № 4. С. 125—141; № 6. С. 157—173; № 7. С. 109—121. Прафесар Сабінін не вытрымаў цкавання і застрэліўся.

[54] Токараў М. Дзейнасць Акадэміі ... С. 52.







*Наша (г.зн. Савецкая) краіна — радзіма радыё.*
*Пастановачнае прапагандысцкае фота.*

Панаванне кадраў немясцовага паходжання — як на розных узроўнях партыйнай і савецкай улады, так і ў навуцы — не магло не кідацца ў вочы і не выклікаць пратэстаў. У лісце Жданаву, падпісаным некалькімі навукоўцамі з Беларусі, апісана катастрафічная сітуацыя нацыянальных кадраў у беларускай навуцы. Паводле гэтага ліста, у БССР працавала толькі чатыры дактары навук, якія былі беларусамі па нацыянальнасці; у той самы час толькі на працягу 1945 г. у Казахстане дысертацыі абаранілі сямёра казахаў. Ніводзін беларускі навуковец не атрымаў Сталінскай прэміі. Кватэры, прызначаныя для навукоўцаў з Мінска, 1-ы сакратар КП(б)Б Панамарэнка забраў для партыйных функцыянераў. Таксама звярталася ўвага Жданава на тое, што Беларусь атрымала мізэрную колькасць навуковага абсталявання для лабараторый, якое дастаўлялася з Германіі і накіроўвалася пераважна ў цэнтр[55].

## ЛІСТЫ «ПАДЗЯКІ» СТАЛІНУ

Атмасфера падазронасці і страху, якая панавала ў тагачаснай савецкай дзяржаве, услаўленне асобы Сталіна, вяртанне да царскай ідэалогіі абумовілі хвалю выказвання вернападданніцкіх пачуццяў нацыянальнымі рэспублікамі. Гэтыя пачуцці выказваліся ў форме разнастайных лістоў, тэлеграм, аптымістычных справаздач, якія дасылаліся правадыру. З нагоды 70-годдзя Сталіна ў Беларусі была арганізавана кампанія па напісанні агульнага пісьма ад працоўнага насельніцтва Заходняй Беларусі, што выклікала пэўнае супраціўленне з боку грамадства. Распачатая ў той час калектывізацыя выклікала хвалю адмоваў падпісаць пісьмо з віншаваннямі Сталіну. У адной са справаздач апісаны прыклады такіх адмоваў ад насельніцтва Ваўкавыскага раёна (Гродзенская вобл.). Часта сяляне меркавалі, што такім чынам яны выкажуць сваю згоду на ўступленне ў калгас. Калі добра ведаць асаблівасці савецкай сістэмы і асобных партыйных чыноўнікаў, то можна пагадзіцца, што страхі не былі беспадстаўнымі. Праз выкарыстанне адміністрацыйных метадаў і запалохванняў у рэшце рэшт удалося сабраць вялізную колькасць подпісаў[56]. У Навамышскім раёне (Баранавіцкая вобл.) чатырма гадамі раней збіралі подпісы пад пісьмом «падзякі» Сталіну. Прычыны адмоў былі тымі самымі: страх перад запісам у калгас, згода на высылку ў Сібір[57]. Гэты ліст адлюстроўваў пануючую ў грамадстве атмасферу і наглядна паказваў найважнейшыя складнікі прапаганды, якая вялася на гэтых абшарах:

---

[55] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 117, л. 74—80. Пісьмо Жданаву, 02.08.1946 г., падпісалі: дацэнт Фёдараў, Паўлючэнка, Некрашэвіч. Па гэтых асобах удалося знайсці наступныя звесткі: дацэнт Ф.І. Фёдараў з'яўляўся загадчыкам кафедры тэарэтычнай фізікі БДУ; дацэнт І.Г. Некрашэвіч быў загадчыкам кафедры агульнай фізікі БДУ; М.М. Паўлючэнка з'яўляўся дэканам хімічнага факультэта і загадчыкам кафедры фізічнай і калоіднай хіміі БДУ.

[56] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 198, арк. 29—45. Паведамленне аб зборы подпісаў пад лістом Сталіну, без даты, не раней за кастрычнік 1949 г.

[57] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 3. Паведамленне аб масава-палітычнай працы ў Навамышскім раёне Баранавіцкай вобл., 25.06. — 15.07.1945 г.






*МТС. 1949 г. Прапагандысцкае фота.*

> Мудрый учитель, великий вождь, отец родной! Белорусский народ построил с Вашей помощью советскую индустриально-колхозную республику, собрал все белорусские земли в едином социалистическом государстве (...). Нищета, мрак, цепи и тюремные решетки — все это отличало путь сыновей западнобелорусской земли (...). Свет с востока проникал во все уголки западнобелорусской земли (...). Да здравствует Великий Вождь, учитель и друг семьи товарищ Сталин! Да здравствует великий русский народ, старший брат, друг и освободитель белорусского народа![58]

Падсумоўваючы падраздзел, варта звярнуць увагу на шматвымерны і паўсюдны характар пашырэння савецкай ідэалогіі і прапаганды. Кожная частка савецкай дзяржавы адчула ў большай або меншай ступені эфекты новай палітыкі. Беглая характарыстыка атмасферы, якая панавала ў ідэалагічнай сферы савецкай палітыкі, паказвае, што яе ўплыў на грамадскае жыццё адыгрываў важную ролю ў фармаванні і правядзенні індактрынацыі грамадства ў Заходняй Беларусі. З улікам уніфікацыйнага характару савецкай палітыкі на ўсёй тэрыторыі можна выказаць меркаванне, што грамадска-палітычныя ўмовы ў Заходняй Беларусі, супраціўленне саветызацыі значнай часткі грамадства (актыўнае і пасіўнае) спрычыніліся да таго, што тут праводзілася адрозная ад агульнапрынятай прапагандысцкая палітыка. Таму апісаныя ў папярэдніх раздзелах падзеі мелі, на нашу думку, важнае значэнне для рэалізацыі ідэалагічных і прапагандысцкіх асноў, а таксама нацыянальнай палітыкі на дадзенай тэрыторыі. У наступных падраздзелах на аснове архіўных матэрыялаў і іншых крыніц зроблена спроба пацвердзіць гэты тэзіс.

## III.II. ГАЛОЎНЫЯ КІРУНКІ САВЕЦКАЙ ПРАПАГАНДЫ Ў ЗАХОДНІХ АБЛАСЦЯХ БССР[59]

Першыя палітычныя рашэнні на вышэйшым узроўні ўлады ў сферы вядзення прапаганды і агітацыі ў Заходняй Беларусі былі прынятыя летам 1944 г. і на пачатку 1945 г. У пастановах ЦК УКП(б) ад 9 жніўня 1944 г. і ад 20 студзеня 1945 г. аб партыйнай і палітычнай працы ў заходніх абласцях, а таксама ў пастанове Пленума ЦК КП(б)Б ад 16 лютага 1945 г. асаблівая

---

[58] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 3. Паведамленне аб масава-палітычнай працы ў Навамышскім раёне Баранавіцкай вобл., 25.06. — 15.07.1945 г.

[59] У савецкай пасляваеннай гістарыяграфіі пытанні прапаганды ў Заходняй Беларусі ў пасляваенны перыяд разглядаліся, галоўным чынам, у рэчышчы «культурнага будаўніцтва», а таксама кіраўнічай ролі камуністычнай партыі ў гэты перыяд. Да такіх прац можна аднесці: Царюк И.О. КПБ — организатор культурного строительства в западных областях (1939—1955). Минск, 1971; Царюк И.О. Культурное строительство в послевоенные годы (1946—1958). Минск, 1979 і інш. Панегірык ідэалагічнай дзейнасці КПБ з'явіўся ў 1963 г.: Грак К. Идеологическая работа КПБ в первые послевоенные годы (1945—1946). Минск, 1963. У гістарыяграфіі незалежнай Беларусі няма прац, прысвечаных вывучэнню савецкай прапаганды на тэрыторыі заходніх абласцей у пасляваенны перыяд. Некаторыя звесткі пра гэты перыяд можна знайсці ў асобных беларускіх аўтараў, якія даследуюць розныя праблемы. Гл.: Вялікі А. Беларусы і палякі ... Мінск, 2005; Ярмусик Э. Католический костел ... Гродно, 2006; В.Белозорович. Западнобелорусская деревня ... Гродно, 2004; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. II. Мінск, 1995; у зборніку прац польскіх даследчыкаў пад рэдакцыяй К.Ясевіча: Tygiel narodów ... Warszawa, 2005 і інш.

ўвага звярталася на ўзмацненне прапагандысцкай, тэарэтычнай і масава-палітычнай працы абкамаў, райкамаў, гаркамаў і ўсіх устаноў прапаганды. Адным з найважнейшых накірункаў прапаганды было прызнана «ідэалагічнае выхаванне, выкрыццё фашысцкіх нацыяналістаў і іх ідэалогіі; у друку і агітацыйна-прапагандысцкай працы — выкрыццё польска-нямецкіх і беларуска-нямецкіх нацыяналістаў, якія працягваюць заставацца наёмнікамі нямецкіх захопнікаў, саўдзельнікамі злачынстваў супраць беларускага народа. У асобных раёнах Пінскай і Брэсцкай абласцей неабходна выкрыць таксама ўкраінска-фашысцкіх нацыяналістаў. Уся праца ў гэтай сферы павінна служыць далейшаму ўзмацненню савецкай улады ў заходніх абласцях і забеспячэнню патрэбаў фронту і народнай гаспадаркі»[60].

## АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ ПРАПАГАНДЫ

Для ўзмацнення прапагандысцкай працы ўпраўленне кадраў і ўпраўленне прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) атрымалі даручэнне набраць і накіраваць на сталую працу ў БССР, акрамя высланых раней 42 прапагандыстаў, 8 чалавек на кіраўнічыя пасады з ліку выпускнікоў Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК УКП(б) і 30 выпускнікоў міжабласных курсаў работнікаў прапаганды ў Куйбышаве. Акрамя таго, было вырашана да 1 верасня 1944 г. скіраваць у БССР на два месяцы некалькі груп прапаганды з Масквы[61]. У заходнія вобл. БССР было выслана 15 лектараў з ліку выпускнікоў лектарскіх курсаў пры ЦК УКП(б) і 10 кваліфікаваных работнікаў друку[62].

На працягу шасці месяцаў (ліпень—снежань 1944 г.) лектары ЦК КП(б)Б правялі ў заходніх абласцях БССР 120 лекцый на розныя тэмы: тэорыя і гісторыя УКП(б), ваенна-палітычная сітуацыя, міжнародная сітуацыя, а таксама рабілі прэзентацыі кнігі І.Сталіна «О Великой Отечественной войне Советского Союза». Больш за ўсё лекцый было прачытана для савецкага актыву (57), менш — для інтэлігенцыі (18) і мясцовага насельніцтва (29)[63].

Цяжка сказаць, наколькі гэтыя лічбы адлюстроўваюць рэальную сітуацыю. Можна дапусціць, што вельмі часта такая статыстыка не мела нічога агульнага з рэчаіснасцю. Напрыклад, паводле больш канфідэнцыйных партыйных

---

[60] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 114—116. Дзейнасць аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б у заходніх абласцях БССР за перыяд сакавік—красавік 1945 г., без даты, не раней за сакавік 1945 г., за подпісам сакратара ЦК КП(б)Б па справах прапаганды Ц.Гарбунова.

[61] Пастанова ЦК УКП(б) ад 9 жніўня 1944 г. «Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў галіне масава-палітычнай і культурна-асветніцкай працы» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 509.

[62] Пастанова ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 536.

[63] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 196. Дадзеныя аб колькасці прачытаных лектарамі ЦК КП(б)Б лекцый у заходніх абласцях БССР за перыяд ліпень—снежань 1944 г., без даты, не раней за снежань 1944 г.

паведамленняў, сакратар па справах прапаганды і агітацыі брэсцкага абкама Красоўскі з верасня 1944 г. да пачатку лютага 1945 г. «ніводнага разу не выступіў з лекцыямі на палітычныя тэмы»[64]. Сакратар Дзісненскага райкама (Полацкая вобл.) у час праверкі стану ідэйна-палітычнай працы засведчыў, што не мае часу на прапаганду, таму што ніхто пра гэта не пытаецца, аднак усе хочуць выканання плана паставак дзяржаве. У тым самым раёне старшыня Мікалаеўскага сельсавета прызнаўся, што толькі час ад часу чытае газеты, таму што мусіць «гнаць людзей на працу ў лесе»[65]. Апісаныя выпадкі не былі выключэннямі з правіла.

У рэзалюцыях лютаўскага Пленума ЦК КП(б)Б значнае месца занялі пытанні Заходняй Беларусі. Нездавальняючая праца на ідэалагічным фронце тлумачылася шэрагам прычын. Для тагачаснай палітычнай сітуацыі ў СССР было традыцыйным шукаць «ворагаў і шкоднікаў» і ўскладваць на іх самыя розныя правіны. Ва ўмовах заходніх тэрыторый БССР да гэтай катэгорыі залічваліся: «нямецка-фашысцкая агентура», «кулакі», «агенты лонданскага эміграцыйнага ўрада», «беларуска-нямецкія нацыяналісты — саўдзельнікі злачынстваў супраць беларускага народа», «польска-фашысцкія нацыяналісты — здраднікі інтарэсаў польскага народа» і «ўкраінска-фашысцкія нацыяналісты»[66].

Наступная прычына няўдачы заключалася ў «неразуменні многімі супрацоўнікамі партыйных арганізацый КП(б)Б сітуацыі ў заходніх абласцях, механічнае перанясенне спосабаў і метадаў арганізацыі палітычнай працы з усходніх абласцей на заходнія», а таксама ігнараванне таго факта, што «большасць сялян шмат гадоў жыла ва ўмовах панскай Польшчы і тры гады — пад уплывам нямецка-фашысцкай прапаганды». У сувязі з гэтым быў раскрытыкаваны аддзел прапаганды ЦК КП(б)Б і адпаведныя абласныя функцыянеры за адсутнасць належнай працы ў сваёй галіне, невыкарыстанне друку «як найважнейшага сродку выхавання працоўных мас у духу камунізму»[67].

У рэзалюцыі, прынятай у сферы ідэалагічна-выхаваўчай працы на заходніх тэрыторыях, акрамя традыцыйных сцвярджанняў пра «бальшавіцкую чуйнасць і непрымірымую пазіцыю ў дачыненні да варожых элементаў», знайшлося месца для выказванняў пра «ліквідацыю наступстваў нямецкай акупацыі ў людской свядомасці», пра «фармаванне ў людзей пачуцця савецкага патрыятызму», «ролю партыі Леніна і савецкай улады ў гістарычнай падзеі — аб'яднанні беларускага народа», пра «непарыўныя сувязі і дружбу беларускага і рускага народаў» і г.д.[68]

---

[64] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 83, арк. 16. Даклад 3 сакратара Маліна на VI Пленуме ЦК КП(б)Б, 15.02.1945 г.

[65] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 21—22. Запіска аб масава-палітычнай працы сярод вясковых жыхароў Полацкай вобл., 20.08.1947 г.

[66] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 12—18.02.1945 г. «Аб задачах партыйных арганізацый заходніх абласцей Беларусі» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3, 1933—1945. Минск, 1985. С. 499—500.

[67] Там жe. С. 509—510.

[68] Там жe. С. 519—521.

Аддзел агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б, выконваючы пералічаныя вышэй распараджэнні, запланаваў на працягу сакавіка—красавіка 1945 г. пракантраляваць працу ваўкавыскага і лідскага партыйных кабінетаў, праверыць вясковыя палітычныя школы ў Куранецкім раёне (Маладзечанская вобл.) і пракантраляваць баранавіцкі гарком у сферы працы з інтэлігенцыяй і г.д.[69]

Для «выкрыцця беларускіх, польскіх і ўкраінскіх нацыяналістаў» у Маладзечанскую, Пінскую і Полацкую вобл. было накіравана некалькі груп прапаганды ЦК. Яны мелі зацверджаную тэматыку агітацыйна-прапагандысцкіх выступленняў, у якіх найважнейшы акцэнт рабіўся на паказ магутнасці савецкай дзяржавы, савецкага народа, сацыялістычнага ладу, судоў, канстытуцыі, выкрыццё разнастайных «нацыяналістаў», Германіі і на прадстаўленне савецкага бачання міжнароднай сітуацыі.

Пакінулі таксама месца і для «польскіх нацыяналістаў». Гэтай тэме былі прысвечаны наступныя прапагандысцкія лекцыі: «Польска-фашысцкія нацыяналісты — здраднікі польскага народа, саўдзельнікі злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў», «Здрадніцкая прафашысцкая і антынародная палітыка былых пануючых класаў Польшчы», «Вызваленне Чырвонай Арміяй брацкага польскага народа і ўзмацненне польска-савецкага сяброўства»[70]. Акрамя пытанняў ідэалагічнага характару, прадугледжваўся ўдзел у гаспадарчых кампаніях. Планавалася праводзіць сходы жанчын і зачытваць даклад «Вясновая пасяўная і задачы жанчын», надрукаваць 100 тыс. улётак з заклікам да вясновай пасяўной[71].

У маі 1945 г. была створана група прапаганды ЦК КП(б)Б з 15 чалавек, якая, акрамя выступленняў з дакладамі, павінна была кантраляваць і дапамагаць прапагандысцкім структурам на мясцовым узроўні, праводзіць выязныя семінары на палітычныя і культурна-асветніцкія тэмы, галоўным чынам, у заходніх абласцях. Да чэрвеня 1946 г. такія семінары былі праведзены ў Юрацішкаўскім, Навагрудскім, Навамышскім, Брэсцкім, Кобрынскім, Сапоцкінскім, Дзісенскім, Мёрскім і іншых раёнах заходніх абласцей БССР[72].

Выклікаюць цікавасць пытанні, якія задавалі насельнікі заходніх абласцей членам груп прапаганды. Іхнія сумненні рупліва натаваліся, размяркоўваліся згодна з тэрытарыяльным прынцыпам і адсылаліся на аналіз у аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. Такія звесткі давалі магчымасць прааналізаваць узровень дасведчанасці насельніцтва ў розных палітычных пытаннях, а таксама карэктаваць гэтыя веды і вызначаць кірункі прапаганды. Пытанні

[69] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 95—98. Паведамленне аб справах аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б у заходніх абласцях БССР у сакавіку—красавіку 1945 г., без даты, не раней за 18 лютага 1945 г., за подпісам сакратара ЦК КП(б)Б па справах прапаганды Гарбунова.

[70] Тамсама.

[71] Тамсама.

[72] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 94, арк. 1. Справаздача аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б аб працы груп прапаганды ў маі 1945 г. — чэрвені 1946 г., без даты, не раней за ліпень 1946 г., за подпісамі: кіраўніка груп прапаганды ЦК КП(б)Б Саўрэя і сакратара ЦК КП(б)Б па справах прапаганды Бугаёва.




*Пасляваенны Пінск. Пастановачнае прапагандысцкае фота.*

жыхароў — вельмі цікавая крыніца, якая пакуль не была выкарыстана даследчыкамі. Гэтая праблема падымалася на IV канферэнцыі Беларускага гістарычнага таварыства «Беларуская гісторыя эпохі БССР»[73].

Сярод задаваных насельніцтвам пытанняў можна вылучыць наступныя: «Чаму рэлігійнае свята Вялікдзень — працоўны дзень?» (пытаецца рабочы), «Ці будуць пасля вайны ліквідаваны калгасы?», «Дзе будзе праходзіць польска-савецкая мяжа?», «Ці будзе альбо ці ёсць камуністычная партыя ў Польшчы?», «Якія ёсць звесткі на тэму створанай лонданскім урадам арміі, якая складаецца з вывезеных у Заходнюю Германію палякаў?» і г.д. (пытанні ад насельніцтва Баранавіцкай вобл.)[74].

## МЕТАДЫ ВЯДЗЕННЯ ПРАПАГАНДЫ І АГІТАЦЫІ

Галоўным метадам вядзення прапаганды і агітацыі сярод мясцовага насельніцтва былі традыцыйныя для бальшавіцкай ідэалогіі чытанні дакладаў і стварэнне агіткалектываў. Вынікі такой дзейнасці на вёсцы былі мізэрныя, а ў першыя пасляваенныя гады яна вялася галоўным чынам у гарадах. Вялікі ўплыў на гэта мела антысавецкая партызанка, якая актыўна дзейнічала ў некаторых вясковых раёнах, а таксама прызнанне прыярытэту эканамічных кампаній. У Пінску было прачытана ў 1946 г. на працягу шасці месяцаў 730 лекцый, прысвечаных бягучым і навукова-асветніцкім тэмам, а таксама тэме выканання пяцігадовых планаў. У горадзе, паводле савецкіх крыніц, дзейнічала 47 агітацыйных груп, у якіх працавала 630 агітатараў[75]. У той жа час у Гродне працавала 37 агітацыйных груп, у якіх было задзейнічана 883 агітатары. Сярод іх асноўную колькасць складалі рускія — 455 чалавек, беларусаў было 227, палякаў — 9, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей — 132. Акрамя гурткоў па вывучэнні «Кароткага курса УКП(б)» і пяцігадовага плана, былі арганізаваны дзве партыйныя школы (80 слухачоў) і двухгадовы вячэрні ўніверсітэт марксізму-ленінізму з двума факультэтамі: гістарычным і эканамічным (150 слухачоў)[76].

Усе гэтыя лічбы не адлюстроўваюць рэальнага стану. Стварэнне агітацыйнай групы (калектыву) не заўсёды азначала, што гэты калектыў дзеяздольны. Вельмі часта ў агітатары запісвалі ўсіх больш-менш адукаваных

---

[73] Матэрыялы IV навуковай канферэнцыі Беларускага гістарычнага таварыства «Беларуская гісторыя эпохі БССР». Мінск, 31 мая — 1 чэрвеня 2004 г. // Гістарычны альманах. Т. 10. 2004. Даследчык з Мінска Валянцін Мазец звярнуў увагу, акрамя іншага, на адсутнасць сучасных прац па гісторыі КПБ і нявыкарыстанасць багатых збораў пытанняў і адказаў на іх лектараў аддзела прапаганды і агітацыі. Гісторык лічыць, што нават павярхоўны аналіз гэтых матэрыялаў можа знішчыць міф пра «народную ўладу».

[74] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 93—94. Пералік пытанняў, задаваных насельніцтвам членам прапагандысцкіх груп, без даты, не раней за жнівень 1945 г.

[75] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, арк. 329—330. Паведамленне «Аб масава-палітычнай працы сярод насельніцтва Пінска», без даты, не раней за 01.07.1946 г., за подпісам кіраўніка аддзела прапаганды і агітацыі Пінскага гаркама Залескага.

[76] Тамсама, арк. 1—2. Паведамленне «Аб палітычнай працы ў Гродне за 1.01. — 10.09.1946 г., 13.09.1946 г., за подпісам сакратара Гродзенскага гаркама Ціханчука.

людзей: настаўнікаў, чыноўнікаў, студэнтаў і г.д. У справаздачы маскоўскай камісіі, якая правярала працу беларускіх партыйных арганізацый, адзначаецца, што «кадры для агітацыйна-прапагандысцкай працы ў шэрагу выпадкаў набіраюцца выпадкова. Многія з іх дрэнна адукаваныя і таму не здольныя праводзіць масава-палітычную працу»[77]. Нават «прафесійныя» функцыянеры вялі агітацыю не асабліва актыўна. 13 дакладчыкаў Гродзенскага гаркама, 6 — Зэльвенскага райкама, 16 — Сапоцкінскага райкама ніводнага разу не праводзілі лекцый для «выкрыцця беларуска-нямецкіх і польска-фашысцкіх нацыяналістаў»[78].

У Сапоцкінскім раёне агітатарамі запісалі ўсіх старшынь сельсаветаў і 49 з 55 настаўнікаў. Раённы пракурор Фірсаў, адукацыя якога абмяжоўвалася сямю класамі школы, быў вельмі здзіўлены, даведаўшыся ад камісіі з Мінска, што ён з'яўляецца агітатарам у Польнабагатырскім сельсавеце і праходзіць такім чынам па дакументах райкама. Дырэктар школы ў Матылях, які, да таго ж, не меў ніякай педагагічнай адукацыі, толькі з вуснаў упаўнаважаных па выбарах даведаўся пра тое, што ён — старшыня агітацыйнага пункта[79].

Многія з запісаных у агіткалектывы «больш займаліся п'янствам, біццём мясцовых сялян, чым чытаннем кніжак і адукацыяй». Кіраўнік Сапоцкінскага РА НКДБ Чыркоў на прапанову выступіць з прапагандысцкім дакладам адказаў: «Мне няёмка, нашыя органы павінны караць, а не выхоўваць»[80]. Зазначалася, што «агитационно-пропагандистская работа проводится по существу среди самих пропагандистов и агитаторов в форме совещаний районного и сельского актива. Агитаторы агитируют сами себя»[81]. Мясцовае насельніцтва, не давяраючы савецкай уладзе, любымі спосабамі пазбягала сустрэч з ёю. Як адзначалася ў адной з запісак: «Кроме угроз и оскорблений крестьяне ничего от них не слышат (...). Именно заставлять, грубить и кричать, а не убеждать и разъяснять привыкли в Сопоцкинском районе (...)». Настаўнік Купрыянчык (з усходу) свае непрымальныя паводзіны ў адносінах да мясцовых тлумачыў наступным чынам: «Няма сэнсу пераконваць іх у нечым, іх трэба прымушаць рабіць тое, што нам патрэбна»[82].

---

[77] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 72—79. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Кузняцову, Патолічаву і Папову «Аб недахопах у ідэалагічнай і масава-палітычнай працы беларускай партыйнай арганізацыі», 07.01.1947 г., за подпісамі кіраўнікоў аддзелаў Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) Цвяткова і Клімава.

[78] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 70—88. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.

[79] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201. Рапарт аб знаходжанні інспектараў ЦК КП(б)Б у Матыльскім сельсавеце Васілішкаўскага раёна, 03.03.1950 г., арк. 54.

[80] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202. Інфармацыйная запіска аб працы прапагандысцкай групы ЦК КП(б)Б у Сапоцкінскім раёне Гродзенскай вобл. у ходзе падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет СССР, без даты, не раней за 10.02.1946 г., арк. 96—103.

[81] Тамсама.

[82] Тамсама.

## МОВА ПРАПАГАНДЫ

Заслугоўвае ўвагі праблема мовы, на якой праводзілася прапаганда. Адным з элементаў на шляху да выхавання савецкага чалавека было выкарыстанне адпаведнай мовы — савецкай.

Азначэнне «савецкая мова» суадносіцца хутчэй з паняццем палітычнага жаргону, словы якога набывалі міфічны сэнс, былі нечым накшталт магічнага заклінання. Міфы і абрады павінны былі запоўніць духоўную пустэчу савецкага чалавека, лозунгі — стаць загадамі. Міхаіл Гелер вызначаў савецкую мову як «мову сцвярджэнняў і адказаў, не пытанняў»[83].

Польская даследчыца Ёанна Кажанеўска-Берчыньска шмат гадоў займалася вывучэннем тагачасных расійскіх тэкстаў і іх сэнсаў, выкарыстоўваючы, галоўным чынам, мемуарную літаратуру, якая датычылася найважнейшых культурных падзей савецкага грамадства. Без дакладнага разумення гэтых значэнняў — заўважае аўтарка — з'яўляецца немагчымым успрыняцце асаблівасцяў гэтага свету[84]. Новая савецкая мова выкарыстоўвалася яе носьбітамі ўмела і беспамылкова, як клішэ бюракратычна-партыйнага жаргону. Рэцыпіенты збоку маглі зразумець сэнс (ці, хутчэй, бессэнсоўнасць) такіх словазлучэнняў, толькі калі ім удавалася сканструяваць адпаведную інтэрпрэтацыйную сетку[85].

Большасць агітацыйных матэрыялаў друкавалася на рускай мове, на ёй жа праводзіліся лекцыі. Значная ж частка насельніцтва, асабліва моладзь, ведала гэтую мову дрэнна. Аб'ём выкарыстання беларускай мовы ў вуснай і пісьмовай прапагандзе быў мізэрны, а ў даступных аўтару дакументах беларускай мовы няма зусім. Гэта быў вынік як мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі, так і таго, што савецкія і партыйныя кадры беларускай мовы не ведалі. Асаблівую ўвагу ўладаў у Мінску прыцягвалі памежныя з Польшчай раёны, у асноўным Гродзенскай вобласці. У сакавіку 1946 г. выйшла пастанова ЦК КП(б)Б «Аб палітычнай працы сярод насельніцтва памежных раёнаў», дзе ўвага звярталася на ўзмацненне «агітацыйна-прапагандысцкай і масава-палітычнай працы» ў Бераставіцкім, Гродзенскім, Свіслацкім і Сапоцкінскім раёнах[86]. Гэтыя тэрыторыі былі заселены каталікамі, якія лічылі сябе палякамі.

---

[83] Heller M. Maszyna i śrubki ... S. 100—102.

[84] Даследчыца параўноўвала новыя сэнсы, якія набывалі вядомыя словы рускай мовы на розных этапах гістарычнага развіцця. Напрыклад, словазлучэнне «черный ворон» выклікала страх у сталінскім грамадстве, таму што азначала машыну для перавозу арыштаваных. Цыт. паводле: Korzeniewska-Berczyńska J. Sowietyzacja języka rosyjskiego // Studia i materiały Centrum Badań Wschodnich. Z. 24. 1991. S. 7. Гл. таксама: Wat A. Język totalitarny. Warszawa, 1981.

[85] Korzeniewska-Berczyńska J. Sowietyzacja ... S. 16.

[86] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 259. Паведамленне «Аб стане масава-палітычнай працы ў раёнах Гродзенскай вобл.», 19.06.1946 г., за подпісам сакратара абкама па справах прапаганды Грука.

## ПОЛЬСКАЕ ПЫТАННЕ

У 1946 г. Гродзенскі абласны партыйны камітэт прызнаў адной з асноўных памылак адсутнасць агітацыйна-прапагандысцкай працы з польскім насельніцтвам. У першыя пасляваенныя гады ва ўладаў не было адзінага меркавання па польскім пытанні; погляды вар'іраваліся паміж двума полюсамі: ад непрызнавання існавання палякаў (якія лічыліся проста апалячанымі беларусамі-каталікамі) да прызнання стапрацэнтнага іх дамінавання на некаторых тэрыторыях. У рэшце рэшт перамагла т.зв. залатая сярэдзіна: прызналі існаванне і палякаў, і апалячаных беларусаў-каталікоў.

У 1945 г. рашэннем бюро Гродзенскага абкама была створана спецыяльная група прапаганды, якая валодала польскай мовай; быў распрацаваны таксама змест тэматычных лекцый. У суме было праведзена 18 лекцый, у тым ліку на тэмы «Сапраўдны твар польскіх нацыяналістаў» і «Польскі народ у барацьбе за свабоду і незалежнасць». Як прызнаваліся самі партыйныя функцыянеры, «ва ўмовах пражывання ў вобласці значнай колькасці палякаў такая мізэрная колькасць лекцый не можа быць дастатковай для ліквідацыі сярод іх наступстваў фашысцкай ідэалогіі»[87]. Акрамя таго, праводзілася агітацыя сярод тых, хто выязджаў у Польшчу. Галоўнай мэтай працы было «выкрыццё польскіх нацыяналістаў як агентаў гітлераўскай Германіі». Палякі, якія рэпатрыяваліся ў Польшчу, павінны былі заставацца «прыхільнікамі прыязных адносінаў паміж СССР і Польшчай»[88].

Ідэалагічнае выхаванне «новых палякаў» было адной з асноўных задач савецкай прапаганды ў «польскім пытанні». У выніку знішчалася ўсё, што было звязана з перыядам існавання міжваеннай польскай дзяржавы. Востра крытыкавалася ўжыванне польскіх назваў вуліц у Гродне ў дакументах упаўнаважанага СНК па перасяленні і гарадскога камунальнага ўпраўлення (вуліцы Рыдз-Сміглага, Жалігоўскага, Напалеона і г.д.)[89]. Тое самае датычыла школьных дапаможнікаў, карт, кніг, выдадзеных у даваеннай Польшчы. Для большасці савецкіх і партыйных функцыянераў было характэрна негатыўнае стаўленне да ўсяго польскага, карані ж гэтай з'явы трэба шукаць у стаўленні вышэйшых партыйных чыноўнікаў. Кожны, хто быў звязаны з дзяржаўным апаратам міжваеннай Польшчы або станоўча выказваўся пра тыя часы, рызыкаваў атрымаць сур'ёзныя непрыемнасці. Савецкія крыніцы даюць пра гэта шмат інфармацыі.

Жыхарка Ядкоўцы (*назва амаль нечытэльная, магчыма, гаворка ідзе пра іншы населены пункт — Я.Ш.*) Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобл. Ніна Барташ

---

[87] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 261. Паведамленне «Аб стане масава-палітычнай працы ў раёнах Гродзенскай вобл.», 19.06.1946 г., за подпісам сакратара абкама па справах прапаганды Грука.

[88] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 83, арк. 16—38. Даклад сакратара ЦК КП(б)Б Маліна на VI Пленуме ЦК КП(б)Б «Аб палітычнай працы сярод насельніцтва», 15.02.1945 г.

[89] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 74. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.

была абрабавана сярод белага дня (з яе дома было забрана адзенне, асабістыя і хатнія рэчы) савецкім капітанам памежных вайск Казаранкавым. Муж яе, які ў той час знаходзіўся ў Чырвонай Арміі, быў у «польскія часы» солтысам[90]. У Воранаўскім раёне «без санкцыі следчых органаў была забрана ўся маёмасць (жывёла, адзенне, рэчы хатняга ўжытку) грамадзянкі Ліскавец». Муж жанчыны, польскі паліцэйскі, быў сасланы ў 1939 г. Такія прыклады ў Воранаўскім раёне не былі выключэннем, таму выклікалі занепакоенасць у партыйных уладаў. Другі сакратар райкама Радчанка страціў пасаду (*пераведзены на іншую пасаду ў іншым раёне — Я.Ш.*). Райкам і райвыканкам атрымалі дырэктывы «вярнуць незаконна забраную маёмасць пацярпелым грамадзянам»[91]. На жаль, даступныя аўтару дакументы не паведамляюць, ці гэтае распараджэнне было выканана.

Усё, звязанае з перыядам міжваеннай Польшчы, не магло згадвацца пазітыўна ніякім чынам. Выпадак, які адбыўся ў Мастах, паведамляе пра такую сітуацыю. Да старшыні райвыканкама звярнулася маці васьмярых дзяцей Карнейчык, муж якой загінуў на фронце ў Чырвонай Арміі, з просьбай пра ўмяшальніцтва ў справу нявыплаты дапамогі для шматдзетных сем'яў. Дапамога ў падобных выпадках павінна была выплачвацца. Старшыня Токараў адказаў: «У буржуазнай Польшчы яна нічога не атрымала б». Карнейчык адказала, што «нават у Польшчы некаторыя шматдзетныя маці атрымлівалі дапамогу ад дзяржавы». Такія словы падаліся Токараву контррэвалюцыйнымі, таму ён выклікаў супрацоўніка МДБ для арышту жанчыны. Яе выратавала ўмяшальніцтва сакратара Мастоўскага райкама Зеніна[92].

Пленум ЦК КП(б) Беларусі, які адбыўся ў чэрвені 1947 г., у сваёй рэзалюцыі выказаў незадаволенасць нізкім узроўнем працы з польскім насельніцтвам, асабліва на Гродзеншчыне:

> Пленум ЦК КП(б)Б считает неправильным, что некоторые партийные и советские организации, особенно в Гродненской области, не ведут политической работы среди населения, говорящего на польском языке, и, в особенности, среди населения польской национальности[93].

У наступныя гады пытанне паволі знікла з партыйных дакументаў, што было звязана са зменай у падыходзе да палякаў. Асабліва крытыкавалася Гродзенская партыйная арганізацыя. У рэзалюцыі VII Пленума ЦК КП(б)Б, якая датычылася працы Гродзенскага абкама, акрамя шаблонных фраз пра «абавязковасць выхавання працоўных мас у духу вернасці сацыялістычнай

[90] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 45, арк. 20. Ліст у Гродзенскі абкам ад Барташ Ніны, 07.07.1945 г.

[91] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 8, арк. 267—268. Пратакол № 32 «Аб парушэнні рэвалюцыйнага заканадаўства ў Воранаўскім раёне», 22.12.1944 г.

[92] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 338. Паведамленне «Аб засмечванні савецкага і гаспадарчага апарату Гродзенскай вобл. антысавецкімі і іншымі элементамі, якія не выклікаюць даверу», 26.07.1947 г., за подпісам кіраўніка Гродзенскага УМДБ палкоўніка Палітыкі.

[93] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 3—6.06.1947 г. «Аб партыйна-палітычнай працы ў заходніх абласцях БССР» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV. 1945—1955. Минск, 1986. С. 182.

Айчыне і любові, павагі да вялікага рускага народа», асаблівая ўвага звярталася на недастатковую працу прапаганды: у кіно, друку і на радыё[94].

## НОВЫЯ АКЦЭНТЫ ПРАПАГАНДЫ

Новыя акцэнты ў прапагандзе на тэрыторыі заходніх абласцей БССР з'явіліся пасля выхаду студзеньскай (1947 г.) Пастановы ЦК УКП(б), якая характарызавала працу ЦК КП(б)Б. Акрамя шаблонных фраз пра «нізкі ўзровень ідэалагічнай працы, адсутнасць уліку спецыфікі заходніх абласцей БССР у агітацыйна-прапагандысцкай працы», вышэйшыя партыйныя ўлады ў Мінску атрымалі дырэктыву «... кантраляваць ідэалагічны змест выдаванай літаратуры, мастацкіх твораў, радыёперадач і г.д. (...) На старонках газет належыць друкаваць прафесійныя артыкулы па тэорыі марксізму-ленінізму, а таксама па эканоміцы, культуры і гісторыі БССР (...). Партыйныя арганізацыі павінны смела выкрываць варожую дзейнасць буржуазных нацыяналістаў, каталіцкага духавенства і іх паплечнікаў, мабілізаваць рабочых, сялян і інтэлігенцыю дзеля ўмацавання савецкага ладу»[95].

Згодна са зместам дырэктываў, тагачасная савецкая прапаганда галоўныя акцэнты рабіла на выхаванні ў духу патрыятызму і абароны ад нізкапаклонства перад заходняй культурай у межах шырокай акцыі па барацьбе з касмапалітамі. Калі ў культурных і адукацыйных цэнтрах Савецкага Саюза гэтая кампанія ахоплівала найперш адукаваную частку грамадства, у многіх выпадках яўрэйскага паходжання, то ў заходніх абласцях БССР сітуацыя выглядала інакш. Значная частка польскай і беларускай інтэлігенцыі і праслойкі чыноўнікаў ніжэйшага ўзроўню выехала ў Польшчу падчас рэпатрыяцыі. На гэтай тэрыторыі не было вялікіх культурных цэнтраў, кшталту Вільні ці Львова. Яўрэі, якія складалі тут значную частку насельніцтва перад савецка-нямецкай вайной, былі амаль цалкам знішчаны; ацалелыя стараліся выехаць спачатку ў Польшчу, а потым — далей на Захад. У сувязі з гэтым вастрыё прапаганды было скіравана на сялянства. Тагачасныя сродкі масавай інфармацыі (кіно, радыё) выконвалі ў гэтым вялізную ролю; гэтай тэме будзе прысвечана наступная частка працы.

Агітацыйна-прапагандысцкая праца з нешматлікай на той час інтэлігенцыяй (настаўнікі, дактары, інжынеры і гд.) мела шырокі размах. Ва ўмовах Заходняй Беларусі атака вялася, галоўным чынам, супраць «беларускага і польскага нацыяналізмаў (...), якія імкнуцца адарвацца ад вялікага рускага народа». Асабліва змагаліся з «нацыяналістычнай тэорыяй» пра «залаты век»

---

[94] Рэзалюцыя VII Пленума ЦК КП(б)Б ад 7—12.07.1947 г. «Аб палітычнай працы сярод насельніцтва Гродзенскай вобласці» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV... С. 40—44. Гл. таксама: Дадатак, дакумент № 3. (Докладная записка «О состоянии и мерах по улучшению политической работы среди ополяченных белорусов и населения польской национальности в западных областях БССР».)

[95] Пастанова ЦК УКП(б) ад 25.01.1947 г. «Аб працы ЦК КП(б) Беларусі» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VIII. 1946—1955. Москва, 1985. С. 91.

Беларусі ў XIV—XVI стст. Паводле дырэктываў, святло на Беларусь пранікала толькі з Усходу, беларуская культура не развівалася пад заходнееўрапейскім уплывам, а толькі пад рускім, а літоўскія і польскія феадалы прыгняталі продкаў беларусаў эканамічна і культурна.

Другім матывам, які развівалі разнастайныя інстытуты прапаганды, была новая рэчаіснасць ва ўмовах «халоднай вайны», у тым ліку ў ідэалагічнай сферы. Была распачата істэрычная кампанія, звязаная з меркаванай шпіёнскай дзейнасцю брытанскіх і амерыканскіх спецслужб. У сувязі з гэтым у адукацыйных і культурных установах вышукваліся «імперыялістычныя агенты Захаду», якія «маральна і ідэйна дэмаралізуюць нашую моладзь і інтэлігенцыю, (...) сеюць нацыянальную варожасць і спрабуюць выклікаць непрыязнасць у дачыненні да расійскіх кадраў і беларусаў, якія выраслі на савецкай культуры»[96]. Менавіта ў той час былі выкрыты тайныя моладзевыя арганізацыі ў Слоніме, Паставах, Мядзеле. Таксама тады расла незадаволенасць насельніцтва ў сувязі з ледзьве не стапрацэнтным панаваннем рускіх і беларусаў-усходнікаў у апараце ўлады.

Вялікая пагроза бачылася ў вывезеных і затым рэпатрыяваных у БССР прымусовых работніках і іх кантактах са знешнім светам, адкуль маглі пранікаць скупыя і адцэнзураваныя звесткі. Паводле паведамлення начальніка Пінскага ўпраўлення МДБ, на тэрыторыі вобласці ў 1949 г. жыло каля 18 тыс. рэпатрыяваных асобаў, у тым ліку 3 700 — з амерыканскай акупацыйнай зоны, каля 3 тыс. — з англа-французскай, астатнія — з Чэхаславакіі, Польшчы і іншых дзяржаў. З іх 16 470 чалавек вялі замежную перапіску, у тым ліку з ЗША — 1678 чалавек, з Англіяй — 1000, з Аргенцінай — 900, з Польшчай — 9 000, з Германіяй — 800, з Канадай — 800; астатнія падтрымлівалі кантакты з Францыяй, Бразіліяй, Італіяй, Палестынай і г.д.[97]

Тыя, хто падтрымліваў кантакты з т. зв. «капіталістычным светам», заўсёды выклікалі асаблівы недавер савецкіх спецслужб; падазронасць вісела над імі на кожным кроку. Не выпадкова амаль у кожнай савецкай анкеце было пытанне пра сваякоў за мяжой ці пра кантакты з замежжам. Калі падазрэнні наконт перапіскі з заходнімі краінамі можна было неяк растлумачыць, то непрыязнае стаўленне асобных партыйных функцыянераў да краін з т. зв. народнай дэмакратыяй сведчыла ва ўсё большай ступені пра абвастрэнне ўнутрыпалітычнай сітуацыі і самаізаляцыю. Адна з запісак, дасланая ў ЦК у Мінску, апісвае пагрозу, выкліканую перапіскай насельніцтва з замежжам, у тым ліку з Польшчай:

> Тормозом для организации колхозов является обстоятельство, что некоторые крестьяне, имея родственников за границей, в странах народной демократии, а также Англии, Франции и т.д., получают оттуда письма со всякими небылицами, якобы в Польше нет колхозов, и т.п. Такие новости

[96] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 27.11. — 1.12.1947 г. «Аб палітычнай і ідэалагічнай працы КП(б) Беларусі сярод інтэлігенцыі» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV. 1945—1955. Минск, 1986. С. 196—204.

[97] Цыт. паводле: История Беларуси в документах и материалах / под ред. И.Кузнецова, В.Мазец. Минск, 2000. С. 598. Інфармацыйная запіска кіраўніка Пінскага ўпраўлення МДБ палкоўніка Аленічава ў ЦК КП(б)Б, урывак, 22.03.1949 г.

быстро распространяются среди населения, находя в их среде своих сторонников. Считаю данное обстоятельство недостатком в работе цензоров, которые пропускают такие письма из-за границы[98].

Лісты, якія прыходзілі ў СССР з-за мяжы, — тэма для асобнага даследавання. Найбольшы спрыт праяўлялі тыя, хто выехаў за мяжу пасля вайны і меў у СССР сваякоў. Каб лісты дайшлі да адрасата, яны выкарыстоўвалі самыя розныя метады іх напісання. Адзін з такіх лістоў амаль у кожным абзацы ўтрымліваў фразы пра «павагу да ўлады», яе «боскі характар», усяляк выказвалася да яе шанаванне. Як высветлілася потым, фразы такога кшталту ўстаўляліся, каб павялічыць шанцы таго, што ліст дойдзе да адрасата[99].

Абвастрэнне палітычнага курса ўнутры Савецкага Саюза выклікала хвалю рэпрэсій і далейшую кансервацыю сталінскага рэжыму. На заходніх тэрыторыях БССР рэпрэсіі і прапаганда былі скіраваныя таксама супраць каталіцкага духавенства, якое ў шэрагу выпадкаў прызнавалася «арганізатарам і інспіратарам антысавецкай дзейнасці польскіх нацыяналістаў і кулакоў, якія выконваюць задачы Ватыкана і англа-амерыканскай рэакцыі. У асобных раёнах заходніх абласцей ксяндзы, выкарыстоўваючы адсутнасць зацікаўленасці рэакцыйным каталіцкім духавенствам з боку партыйных і савецкіх служб, праводзяць антысавецкую польска-нацыяналістычную прапаганду, акаталічваюць насельніцтва, у тым ліку нават асобных прадстаўнікоў інтэлігенцыі, і намагаюцца падпарадкаваць сваім уплывам асобных настаўнікаў, лекараў, савецкіх работнікаў»[100]. З гэтага часу партыйныя арганізацыі атрымалі дырэктывы «выкрыцця антысавецкай, антынароднай дзейнасці ксяндзоў-рэакцыянераў», выкарыстоўваючы радыё, кіно, вусную і пісьмовую прапаганду. Савецкая палітыка гэтага перыяду была ўжо бегла ахарактарызавана ў папярэднім раздзеле, прысвечаным рэлігійнай палітыцы ў пасляваенны перыяд.

Цікавымі падаюцца прапановы асобных функцыянераў у справе правядзення антырэлігійнай і прапагандысцка-агітацыйнай працы. Лектар Полацкага абкама Я.Ш. Анісімаў пасля азнаямлення з умовамі палітычнай і ідэалагічнай працы ў Плiскім раёне прыйшоў да высновы, што сярод насельніцтва «моцна ўкаранілася традыцыя каталіцкага і праваслаўнага духавенства, нізкапаклонства перад замежнымі буржуазнымі ўплывамі». Правядзенне агітацыі ўскладнялася вялікай колькасцю хутароў і малых вёсак. Адзінай магчымасцю сабраць большую колькасць людзей былі кірмашы,

[98] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 49. Рапарт упаўнаважанага ЦК КП(б)Б у Казлоўшчынскім раёне Баранавіцкай вобл. у перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет, сакавік 1950 г.

[99] Ліст у асабістым карыстанні аўтара. Аўтар ліста (Віктар Патапчык, нарадзіўся ў в. Ражанка Шчучынскага раёна) быў вывезены на прымусовыя працы ў Германію, пасля вайны, баючыся савецкіх рэпрэсій, застаўся ў Германіі, адкуль выехаў у Аўстралію. Лісты такога зместу яго навучыў пісаць больш дасведчаны калега, які, магчыма, ведаў пра некаторыя прынцыпы функцыянавання савецкай цэнзуры і прапаганды.

[100] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 27.11. — 01.12.1947 г. «Аб палітычнай і ідэалагічнай працы КП(б) Беларусі сярод інтэлігенцыі» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV, 1945—1955. Минск, 1986. С. 199.

рэлігійныя святы і фэсты, якія прываблівалі сотні людзей нават з суседніх раёнаў[101]. У сувязі з гэтым было прапанавана праводзіць агітацыю з выкарыстаннем гэтых нагодаў — ідэя вельмі спрэчная і ў пэўнай ступені абсурдная.

Акрамя чытання дакладаў пра «рэакцыйную ролю рымска-каталіцкага духавенства», вялікае значэнне надавалася прапагандзе савецкага патрыятызму. Цэнтральны камітэт КП(б)Б у выдаваным спецыяльна для заходніх абласцей БССР «Блокноте агитатора» даваў наступнае азначэнне:

> Советский патриотизм, рожденный Великой Октябрьской Социалистической революцией, в корне отличается от каждого несоветского патриотизма (...). В советском патриотизме любовь к своей стране, республике, национальной культуре сочетается с любовью и верностью к большевистской партии, советскому государственному и общественному строю, советскому правительству[102].

Разам з савецкім патрыятызмам важнае месца займала прапаганда ролі «рускага народа». Распаўсюджанне ведаў пра «вялікі рускі народ» адбывалася пры дапамозе адпаведна падабраных тэм. Насельніцтва знаёмілі з біяграфіяй і гераічнымі подзвігамі расійскага палкаводца Суворава. У Цынцавіцкім сельсавеце (Маладзечанская вобл.; сёння Вілейскі раён Мінскай вобл.) у жніўні 1947 г. для мясцовай інтэлігенцыі было прачытана два даклады на гэтую тэму, а ў верасні адбылося знаёмства з біяграфіяй цара Пятра I[103]. Абодва героі, аднак жа, у дачыненні да беларусаў і палякаў, якія ў свой час значна пацярпелі ад іх дзеянняў, былі хутчэй прыкладамі антыгерояў.

Узмоцненая русіфікацыя адукацыі і грамадскага жыцця пранікала ва ўсе сферы, у тым ліку і ва ўнутрысямейныя адносіны. Нівеляванне культурнай розніцы, прыстасаванне назваў і ўласных імёнаў да рускіх узораў часта праводзілася дастаткова груба. Геаграфічныя назвы, якія выкарыстоўваліся на гэтых тэрыторыях стагоддзямі, гвалтоўна замяняліся на назвы з рускай фанетыкай або цалкам замяняліся на іншыя. Святы Дух (сёння ў Ашмянскім раёне) у 1949 г. стаў Будзёнаўкай; Нізкі Ляцк (Шчучынскі раён) — Чапаеўкай; Троцкія (Маладзечанскі раён) — Бярозкамі і г.д. Назвы вуліц за кароткі перыяд (у 1939—1944 гг.) змяняліся некалькі разоў: з польскіх на савецкія, з савецкіх на нямецкія, з нямецкіх — ізноў на савецкія[104].

Нашмат больш складаная сітуацыя склалася з напісаннем і выкарыстаннем уласных імёнаў мясцовага насельніцтва. У выпадку з каталіцкімі імёнамі пры выдачы асабістых дакументаў паўсюдна выкарыстоўваліся рускія адпаведнікі.

---

[101] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 64—68. Запіска «Аб стане партыйна-палітычнай і масава-палітычнай працы ў Пліскім раёне Полацкай вобл.», 20.08.1947 г., за подпісам Анісімава.

[102] Буслов К. Пропаганда советского патриотизма и задачи агитаторов // Блокнот агитатора. № 18, сентябрь 1949 г., л. 23—37.

[103] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 312. Паведамленне аб дакладах, прачытаных штатнымі і пазаштатнымі лектарамі Маладзечанскага абкама КП(б)Б для інтэлігенцыі, 30.09.1947 г., за подпісам кіраўніка сектара прапаганды Маладзечанскага абкама Данілачкіна.

[104] Пра змены назваў вуліц у перыяд т.зв. «першых Саветаў» на тэрыторыі Беласточчыны гл.: Śleszyński W. Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939—1941. Propaganda i indoktrynacja. Białystok, 2001. S. 167—174.

Такім чынам Ян рабіўся «Иваном», Юзаф — «Осипом» ці «Иосифом», Генавефа — «Евгенией», Леанарда — «Еленай» і г.д.[105] Вельмі часта напісанне імя пакідалася на выбар сакратара сельсавета, які выдаваў пасведчанні аб нараджэнні дзіцяці. У такіх выпадках імя магло быць запісана як заўгодна. Адзін з такіх выпадкаў апісваецца ў рапарце двух вайскоўцаў, якія ў час выбараў знаходзіліся ў Матыльскім сельсавеце Васілішкаўскага раёна (Гродзенская вобл.). З рапарта вынікала, што сакратар сельсавета запісваў імёны дзяцей насуперак волі бацькоў, выкарыстоўваючы рускія адпаведнікі або наогул скажаў іх паводле свайго ўпадабання. Так, селянін з вёскі Вензаўшчызна (сёння Першамайскі с/с Шчучынскага раёна) па прозвішчы Драчак хацеў запісаць у пасведчанні аб нараджэнні імя, якое дзіця атрымала пры хрышчэнні, — Вікенцій, аднак сакратар сельсавета запісаў яго як Уладзіміра[106].

## ВЫБАРЫ

Важнае месца ў дзейнасці савецкага апарату на тэрыторыі Заходняй Беларусі займала вылучэнне прадстаўнікоў у разнастайныя заканадаўчыя і выканаўчыя структуры і самі выбары. У пасляваенны перыяд выбары праходзілі 10 лютага 1946 г. (у Вярхоўны Савет СССР), 9 лютага 1947 г. (у Вярхоўны Савет БССР), у студзені 1948 г. (у мясцовыя саветы), 17 снежня 1950 г. (у мясцовыя саветы), 12 лютага 1950 г. (у Вярхоўны Савет СССР) і 25 лютага 1951 г. (у Вярхоўны Савет БССР). Метады і тэхніка правядзення выбараў у СССР заслугоўваюць асобнага даследавання. З улікам вялікага аб'ёму тэмы і аграмаднай колькасці матэрыялаў і крыніц затрымаемся толькі на некаторых аспектах, якія, на думку аўтара, варта ахарактарызаваць.

Выбарам у Вярхоўны Савет СССР (люты 1946 г.) папярэднічала агітацыйная кампанія. У час падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет прайшоў Пленум ЦК КП(б)Б, прысвечаны ў асноўным гэтай справе. Між іншым звярталася ўвага на нізкі ўзровень падрыхтоўкі да выбараў у заходніх абласцях БССР. У агітацыйна-прапагандысцкім пытанні было прапанавана праводзіць «markознабаковую працу», з улікам адрознасці груп і слаёў насельніцтва, звяртаючы ўвагу на жанчын, інтэлігенцыю і моладзь, рэпатрыянтаў з Германіі і Польшчы». Вялікае значэнне надавалася прэсе і радыё, у радыёперадачах належала рознымі спосабамі хваліць кандыдатаў «блока беспартыйных і камуністаў»[107].

---

[105] Гэтая праблема вельмі блізкая аўтару працы, бо яго сям'я сутыкнулася з ёю непасрэдным чынам. Дзед з боку бацькі Юзаф Шумскі ў савецкіх дакументах меў тры версіі напісання імя: у 40-х гг. — Восіп, у 60-х гг. — Іосіф, а незадоўга да смерці атрымаў пасведчанне з сапраўдным імем — Юзаф. У пасведчанні аб нараджэнні дзеда з боку маці імя Ян было перакрэслена, а зверху з'явіўся надпіс Іван. Нават калі не ўлічваць прыватны бок справы, праз гэта ўзнікалі праблемы юрыдычнага характару: чалавек, варыянты напісання імя якога змяняліся, лічыўся іншай асобай (напрыклад, пры атрыманні спадчыны).

[106] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 56. Рапарт «Аб знаходжанні ў Матыльскім сельсавеце Васілішкаўскага раёна Гродзенскай вобл.» ад 03.02.1950 г., за подпісамі лейтэнанта Ісаева і капітана Крылова.

[107] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 12.12.1945 г. // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV. 1945—1955. Минск, 1986. С. 50—55.




*Выбары ў мясцовыя Саветы 17.12.1950.*
*Пастановачнае прапагандысцкае фота.*

Вызначаныя вышэйшай уладай кандыдаты і ўся выбарчая кампанія былі сустрэтыя мясцовым насельніцтвам з недаверам. Хуткая змена ўладаў, няпэўнасць заўтрашняга дня, чуткі пра хуткую вайну заходніх краін з Саветамі, антысавецкая партызанка рабілі ўдзел у выбарах непатрэбным, а часам і небяспечным. У Радунскім раёне Гродзенскай вобл. мясцовае насельніцтва выказвала меркаванні, якія сведчылі пра нелаяльнасць да савецкай улады: «Калі прагаласуем на выбарах, то тут з'явяцца калгасы», «Калі не будзем галасаваць за Саветы, тут абавязкова будзе Польшча», «Чаму палякі павінны галасаваць, калі тут расійска-беларуская ўлада» і г.д.[108]

Прапанаваныя ўладай кандыдаты, нягледзячы на захады па азнаямленні з іх біяграфіямі, заставаліся для мясцовых выбаршчыкаў невядомымі, паходзілі з чужога асяроддзя. Часам палохала нават прозвішча кандыдата. У Сольскім сельсавеце Смаргонскага раёна (Маладзечанская вобл.) ад кандыдата-бальшавіка Разуваева не чакалі нічога добрага. Прозвішча выклікала думкі, што «ён нас усіх разуе, распране і вышле ў Казахстан»[109].

Стаўленне грамадства да чарговых праяваў «савецкай дэмакратыі» адлюстроўваюць у нейкай ступені надпісы на бюлетэнях і ў выбарчых участках. Такія выпадкі старанна фіксаваліся органамі НКУС (МУС) у спецыяльных журналах аб «бандыцкіх праявах». У вёсцы Тэўлі Кобрынскага раёна (Брэсцкая вобл.) на будынку, дзе праходзілі выбары, 8 студзеня 1946 г. быў знойдзены «зроблены крэйдай контррэвалюцыйны надпіс, які ўтрымліваў пагрозы камуністам і яўрэям». Праз два дні ў *Ляхаўцы** Любчанскага раёна (Баранавіцкая вобл.) на плоце быў знойдзены надпіс з пагрозамі выбаршчыкам і дэпутатам мясцовага сельсавета[110].

Антысавецкае падполле таксама не засталося абыякавым да выбараў. Найчасцей падпальвалі выбарчыя ўчасткі, знішчалі спісы кандыдатаў, запалохвалі насельніцтва, забараняючы браць удзел у галасаванні. У студзені 1946 г. у вёсцы Струча (*назва, верагодна, скажоная — Рэд.*) Ваўкавыскага раёна група з чатырох чалавек («банда») здзейсніла напад на выбарчы ўчастак, дзе абясшкодзіла ахоўніка, парвала лозунгі і прапагандысцкія плакаты, пасля чаго сышла. У Жабінкаўскім раёне Пінскай вобл. група Бебкі (*верагодна, украінская — Я.Ш.*) зрабіла тое самае, знішчыўшы ў памяшканнях спісы выбаршчыкаў[111]. Аднак жа вынікі выбараў былі прадказальныя, а менавіта — перамога блока камуністаў і беспартыйных.

Вялікая роля ў савецкім прапагандысцкім апараце адводзілася жанчынам. Згодна з асновамі «бальшавіцкай дэмакратыі», жанчына павінна была

---

[108] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 16, арк. 84—84v. Справаздача за перыяд 01.12. — 02.12.1945 г. «Аб масава-палітычнай працы ў сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Савет СССР», 13.12.1945 г., за подпісам сакратара Радунскага райкама Лескіна.

[109] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 34—37. Рапарт сакратару Маладзечанскага абкама Клімаву, 15.02.1946 г., за подпісам інструктара аддзела прапаганды і агітацыі Віннікава.

* Назва скажоная; маецца на ўвазе або в. *Ляхавічы*, або в. Рахавец сучаснага Навагрудскага раёна. — *Рэд.*

[110] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 594, л. 2—3. Журнал уліку бандыцкіх праяў на тэрыторыі БССР у 1946 г. Матэрыялы Упраўлення па барацьбе з бандытызмам БССР.

[111] Там же, л. 5—6.

давесці перавагі сацыялістычнага ладу і рэалізаваць прынцып абсалютнай роўнасці абодвух палоў у СССР. Не выпадкова на гераіню аднаго з савецкіх міфаў пра трактарыстку-ўдарніцу была абрана жанчына, Паша Ангеліна. Адной з форм «савецкай дэмакратыі» былі сходы дэлегатак у сельсаветах, разнастайных савецкіх установах, на прадпрыемствах, жаночыя камітэты, жаночыя аддзелы ў партыйных камітэтах і г.д. У час адной з праверак партыйных арганізацый заходніх абласцей БССР быў заўважаны недахоп — недастатковы працэнт жанчын ва ўладзе. Было вырашана на працягу 1946 г. правесці выбары дэлегатак ва ўсіх раёнах заходніх абласцей БССР, асаблівую ўвагу Брэсцкага абкама звярталі на недастатковую прадстаўленасць жанчын на кіраўнічых пасадах у партыйным і савецкім апараце[112].

9 лютага 1947 г. адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР. Перад гэтым дадатковыя выбары (*ва ўсходняй частцы Беларусі дадатковыя выбары прайшлі на год раней — Я.Ш.*) у Вярхоўны Савет БССР, аб'яднаныя з выбарамі ў Вярхоўны Савет СССР, у якіх прынялі ўдзел жыхары Заходняй Беларусі (у межах 1939—1941 гг.), адбыліся 24 сакавіка 1940 г. У складзе Вярхоўнага Савета БССР, паводле стану на 25 сакавіка 1946 г., было 202 асобы, якія прадстаўлялі Заходнюю Беларусь. Большасць мандатаў атрымалі беларусы — 145, рускія — 35, украінцы — 4, яўрэі — 9, іншыя нацыянальнасці — 9[113].

У пасланні ЦК КП(б) Беларусі да выбарцаў (студзень 1947 г.) увага акцэнтавалася на т.зв. Вялікай Айчыннай вайне, на цэласным характары беларускай дзяржавы, «вызваленай з-пад ярма польскіх захопнікаў». «Страшны каланіяльны рэжым — так характарызавалася ў пасланні знаходжанне пад польскай уладай, — бязлітасная эксплуатацыя і эканамічнае рабаўніцтва польскімі землеўладальнікамі і капіталістамі, забарона на выкарыстанне роднай мовы, разгром беларускіх школ і беларускіх культурных установ прывялі беларускі народ у складзе фашысцкай Польшчы да крайняй галечы і да асуджанасці на выміранне»[114].

Разам з гэтым падкрэслівалася роля камуністычнай партыі і яе значэнне для дзяржавы і беларускага народа. У падрыхтоўчы перыяд запісвалі антысавецкія выказванні насельніцтва. Асаблівую ўвагу ўладаў прыцягвалі польскія патрыятычныя элементы, у прыватнасці, каталіцкае духавенства. Ксёндз-дэкан парафіі ў Астрыне (Васілішкаўскі р-н) Юзаф Плева ў дзень выбараў у Вярхоўны Савет БССР адкрыта сказаў: «Я — грамадзянін Рэспублікі (*Польшчы — Рэд.*) і не збіраюся галасаваць за Саветы»[115].

---

[112] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 27.06 — 01.07.1947 г. // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV. 1945—1955. Минск, 1986. С. 78.

[113] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 130, арк. 48. Дадзеныя аб складзе дэпутатаў у Вярхоўным Савеце БССР ад 25 сакавіка 1946 г.

[114] Тэкст паслання ЦК КП(б)Б да ўсіх выбарцаў у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Савет БССР, 04.02.1947 г. // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. IV. 1945—1955. Минск, 1986. С. 107—116.

[115] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 32. Паведамленне ЦК КП(б)Б за подпісам 1-га сакратара М. Гусарава сакратару ЦК УКП(б) Андрэю Жданаву, ліпень 1947 г.

У вёсцы Лукашына Іўеўскага раёна Маладзечанскай вобл., паводле дадзеных савецкіх уладаў, жыхары пайшлі галасаваць толькі пасля таго, як атрымалі дазвол ад ксяндза. У іншым месцы — Лаздунах — мясцовы пробашч у дзень выбараў сабраў на імшы каля 200 вернікаў, якія прыйшлі галасаваць апошнімі. Пасля галасавання адкрылі урны і ўбачылі, што на лістах для галасавання былі «выразна антысавецкія контррэвалюцыйныя надпісы»[116].

Выбары ў мясцовыя саветы даюць нам некалькі цікавых прыкладаў спосабу вылучэння кандыдатаў. У Поразаўскім раёне Брэсцкай вобл. мясцовы райкам вылучыў кандыдатуру Яніны Казакевіч, полькі. Неўзабаве высветлілася, што яе брат у час акупацыі служыў у паліцыі. Таму быў «вылучаны» іншы кандыдат, падзёншчыца Агаф'я Кузьма, беларуска[117]. Імітацыя савецкай дэмакратыі вымагала дэманстрацыі таго, што да голасу народа прыслухоўваюцца. На самой справе кандыдаты прызначаліся зверху, звычайна — райкамамі ці гаркамамі, і роля сходаў, напрыклад, сялянскіх, зводзілася да звычайнай фармальнасці. Часам здараліся непрадбачаныя выпадкі, калі на сходах вылучалі «сваіх» кандыдатаў (напрыклад, «благаславёная» ўладамі асоба не з'яўлялася на сход). Такія ініцыятывы былі непажаданымі, «няправільнага» кандыдата адхілялі.

## АНТЫСАВЕЦКІЯ НАСТРОІ ПАДЧАС ВЫБАРАЎ

За падрыхтоўкай да выбараў уважліва сачылі і высылалі дакладныя запіскі ў Маскву, у тым ліку ва Упраўленне кантролю партыйных органаў УКП(б). Акрамя выказванняў падзякі «шчаслівых рабочых і сялян», пастаўленых паводле адпаведнага сцэнарыя, старанна натаваліся антысавецкія выказванні, «якія распаўсюджваюцца асабліва ў заходніх абласцях БССР». Рабочы абутковай фабрыкі ў Гродне Іван (*Ян — Я.Ш.*) Паўлавіч Бойка (мясцовы, беспартыйны, паляк) казаў у прысутнасці іншых рабочых:

> Скоро будут выборы в местные Советы, но народ недоволен советской властью. Если бы выборы были свободными, многие вообще не голосовали бы, но попробуй не пойди — сами придут и заставят проголосовать. Не пойди голосовать — будешь считаться врагом народа. Вот такая в Советском Союзе демократия[118].

Жыхар вёскі Юшкавічы Свіслацкага раёна Шыстак казаў:

> В 1939 году встречали Красную Армию с цветами, а провожали камнями. Теперь эта власть не является властью и не надо за неё голосовать (...). Не надо голосовать за выдвинутых кандидатов, это кандидаты коммунистов, которые будут драть с нас шкуру. Выдвинем своих[119].

---

[116] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 33. Паведамленне ЦК КП(б)Б за подпісам 1-га сакратара М. Гусарава сакратару ЦК УКП(б) Андрэю Жданаву, ліпень 1947 г.

[117] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 102. Паведамленне аб падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў БССР, 01.11.1947 г.

[118] Тамсама, арк. 150—151. Паведамленне аб падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў БССР, 02.12.1947 г. Гл. таксама: Нарысы гісторыі Беларусі ... С. 343—344.

[119] Тамсама, арк. 152. Паведамленне аб падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў БССР, 02.12.1947 г.

Хадзілі чуткі, нібыта хутка гэтая тэрыторыя вернецца ў склад Польшчы, што хутка прыйдзе амерыканскае войска, і таму не трэба ўдзельнічаць у выбарах. Актывізавала дзейнасць антысавецкае падполле, якое, акрамя тэрору супраць савецкага актыву, праводзіла прапаганду, расклейваліся ўлёткі з заклікам байкатаваць выбары і забіваць камуністаў. Толькі на працягу кастрычніка і лістапада 1947 г. у Гродзенскай вобл. было здзейснена 26 «тэрарыстычных актаў» супраць тых, хто супрацоўнічаў з савецкай уладай, у асноўным, — супраць мясцовых. Галоўным чынам, праводзіліся напады на аддаленыя сельсаветы, паліліся выбарчыя дакументы, знішчалася абсталяванне. У Полацкай вобл. у той час было ліквідавана восем актывістаў, спалены дакументы ў трох сельсаветах і адным калгасе. У Маладзечанскай вобл. было забіта чатыры актывісты[120]. Для правядзення агітацыйна-прапагандысцкай працы, акрамя мясцовых кадраў і інтэлігенцыі, на час выбараў з усходніх абласцей было накіравана 1500 камуністаў і 420 вайскоўцаў, якія павінны былі дапамагаць у правядзенні агітацыі[121].

Чарговыя выбары ў Вярхоўны Савет СССР (12.02.1950 г.) праходзілі ў час калектывізацыі сельскай гаспадаркі, якая праводзілася характэрным для СССР брутальным чынам. Гэта выклікала хвалю незадаволенасці сялян; устурбаваныя агітатары звярталіся ў Мінск з просьбамі аб узмацненні бяспекі выбарчых участкаў. Упаўнаважаны ЦК па падрыхтоўцы да выбараў, пасля таго як наведаў такія ўчасткі ў Казлоўшчынскім раёне (Баранавіцкая вобл.), падрыхтаваў вялікі рапарт. З яго вынікала, што да дня выбараў (12.02.1950 г.) на ўсіх агітацыйных пунктах не было біяграфій кандыдатаў, не былі пададзены нават прозвішчы «народных выбраннікаў»[122].

Спекуляцыя, выраб самагонкі, усеагульнае п'янства вярхушкі — у такіх умовах былі арганізаваны выбары ў Вярхоўны Савет СССР. У вёсцы Семяновічы Дзятлаўскага раёна на сцяне школы, якраз над транспарантам «Ушануем выбары ў Вярхоўны Савет выдатнымі адзнакамі!» былі намаляваны дзве фашысцкія свастыкі. Выканаўца так і не быў знойдзены. Упаўнаважаны ЦК прасіў забяспечыць акругу часцямі Чырвонай Арміі «ў сувязі з варожым стаўленнем і бандытызмам мясцовых жыхароў»[123].

У Федзюкоўскім сельсавеце, «найбольш рэакцыйным» у Ляхавіцкім раёне (Баранавіцкая вобл.), былы староста Іван Пташук парваў партрэты Сталіна, Леніна і Молатава. Быў складзены спіс з дзесяці «падобных да яго» чалавек і перададзены ў раённае МДБ у Ляхавічы[124]. Тым не менш, «у дзень выбараў 100% электарату аддало свае галасы за блок камуністаў і беспартыйных, — заканчвалася справаздача. — Не было ніводнага голасу «супраць» у выбарчай

---

[120] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 155—156. Паведамленне аб падрыхтоўцы да выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў БССР, 02.12.1947 г.

[121] Тамсама, арк. 158.

[122] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 47. Рапарт аб сітуацыі ў Казлоўшчынскім раёне Баранавіцкай вобл., сакавік 1950 г., за подпісам упаўнаважанага ЦК КПСС па падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Савет СССР капітана Грыбанава.

[123] Тамсама.

[124] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 95—96. Запіска ў ЦК КП(б)Б ад упаўнаважаных ЦК у Ляхавіцкім раёне, 14.03.1950 г.

акрузе № 42-70»[125]. Неадпаведнасць паміж прыведзеным апісаннем настрояў насельніцтва і вынікамі выбараў занадта відавочная. Толькі ў адной справаздачы згадваецца пра тры галасы «супраць». Такое адзінадушша не можа не здзіўляць.

Выбары праходзілі ва ўрачыстай атмасферы, пачуццё свята павінны былі забяспечыць некаторыя саступкі ўлады: напрыклад, у пунктах гандлю было больш дэфіцытных тавараў, якія перад тым хавалі ў крамах. З мэтай прапаганды перад выбарамі ў Вярхоўны Савет СССР адбылося паніжэнне цэн. Аднак гэта прывяло да адваротнага выніку. У вёсцы Шамякі Васілішкаўскага раёна пасля зніжэння цэн у мясцовай дзяржаўнай краме (іншых тады не было) скупілі мыла і соль. Грамадства ўжо зведала кошт савецкіх абяцанак. Савецкі функцыянер, які быў у гэтай вёсцы ў дзень выбараў, адзначаў, што насельніцтва не верыць у дасягненні калгасаў, высокія ўраджаі і заможнае жыццё калгаснікаў. Вывешаныя партрэты кандыдатаў у Вярхоўны Савет ноччу былі сарваныя. З 1944 па 1950 гг. у Васілішкаўскім раёне быў забіты 101 савецкі актывіст, у вёску Шамякі савецкая ўлада практычна не даходзіла, у райкаме папярэджвалі, што з'яўленне ў гэтых месцах у любы час сутак небяспечна для жыцця. Вынікі выбараў былі традыцыйнымі: з 1172 чалавек у выбарах удзельнічала 1165, усе яны аднагалосна падтрымалі блок камуністаў і беспартыйных і іх кандыдатаў Калініна і Паляшук[126].

## ПРАПАГАНДА КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

Адной з самых важных як для савецкай улады, так і для лёсу мясцовага насельніцтва была кампанія па ўсеагульнай калектывізацыі вёскі. Гэтаму працэсу папярэднічалі ліквідацыя найбольш моцных плыняў узброенага антысавецкага руху, узмацненне эканамічнага ўціску і моцная прапагандысцка-агітацыйная кампанія. 1949 г. адзначыўся масавай калектывізацыяй у заходніх абласцях БССР.

Мясцовыя арганізацыі атрымалі асаблівыя дырэктывы адносна падрыхтоўкі да гэтай акцыі. Пра вялікую актыўнасць прапаганды ў дадзенай сферы сведчыць павелічэнне заходнімі абкамамі КП(б)Б колькасці тэм, звязаных з ухваленнем калектывізацыі. Брэсцкі абкам за перыяд 1.01.—25.10.1949 г. прысвяціў гэтай тэме падчас пасяджэнняў бюро 7 абмеркаванняў. Для правядзення чарговай савецкай прапагандысцкай кампаніі, якая была скіравана непасрэдна на насельніцтва Заходняй Беларусі і закранала яго маёмаснае становішча, было арганізавана 1865 агіткалектываў, у складзе якіх працавала больш за 38 тыс. чалавек. Камуністы складалі больш за 11 тыс. ад агульнай колькасці, камсамольцы — больш за 15 тыс., сяляне і калгаснікі — больш за 16 тыс., і яшчэ 18 тыс. складалі прадстаўнікі інтэлігенцыі.

У прапагандысцкай акцыі было задзейнічана 1173 клубы, 73 раённыя дамы культуры, 178 вясковых дамоў культуры, 1732 чырвоныя куткі. Былі

[125] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 201, арк. 95—96. Запіска ў ЦК КП(б)Б ад упаўнаважаных ЦК у Ляхавіцкім раёне, 14.03.1950 г.

[126] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202, арк. 117—119. Справаздача аб працы ў ходзе падрыхтоўкі да выбараў у Замасцянскай выбарчай акрузе Васілішкаўскага раёна Гродзенскай вобл., 17.03.1950 г., за подпісам кіраўніка геалагічнай службы гарсавета Шкуратава.

арганізаваны агітбрыгады, якія наведвалі розныя населеныя пункты і, акрамя чытання лекцый, арганізоўвалі выступленні мастацкай самадзейнасці. Раённыя камітэты 2-3 разы ў месяц праводзілі сустрэчы з кіраўнікамі агіткалектываў. Нават супрацоўнікі гісторыка-археалагічнага музея ў Гродне абавязковым чынам удзельнічалі ў прапагандысцкай кампаніі, арганізавалі некалькі перасоўных выстаў[127].

Эфектыўнасць уздзеяння прапаганды была вельмі нізкай, яе фіктыўны, фасадны характар быў адной з найбольш характэрных рысаў савецкага ладу. Найважнейшым метадам уключэння ў калгасы было запалохванне і падатковая палітыка савецкай дзяржавы.

Акрамя сродкаў масавай інфармацыі, кіно, друку, радыё (*іх роля будзе раскрыта ў наступным раздзеле — Я.Ш.*), важную ролю ў прапагандзе калгасаў павінны былі выконваць культурна-асветныя арганізацыі. Іх працай кіраваў Камітэт культурна-асветных арганізацый пры Савеце Міністраў БССР. Як ужо згадвалася раней, да такіх арганізацый залічваліся разнастайныя ўстановы: бібліятэкі, клубы, чырвоныя куткі, дамы сацыялістычнай культуры, дамы народнай творчасці, гурткі вывучэння «Кароткага курса УКП(б)», пяцігодкі, твораў класікаў марксізму-ленінізму і г.д. ЦК КП(б) Беларусі зацвердзіў план мерапрыемстваў у сферы прапаганды калгасаў на лістапад 1949 г. — красавік 1950 г., паводле якога трэба было правесці наступныя працы:

> 1) Организовать с работниками изб-читален, районных и сельских домов культуры и их активом изучение основных произведений Ленина и Сталина по вопросам колхозного строительства; 2) Организовать проведение лекций, докладов и бесед в избах-читальнях, клубах, домах культуры, среди крестьян по вопросам колхозного строительства (...); 3) В избах-читальнях, клубах, домах культуры систематически выпускать стенные газеты, проводить громкие читки газет, журналов, организовывать коллективное радиослушание, проводить индивидуальные и групповые беседы среди крестьян по вопросам колхозного строительства; 4) Из библиотек восточных областей отобрать и послать в сельские библиотеки и избы-читальни западных областей литературу по колхозному строительству в количестве не менее 6000 экземпляров; 5) Заслушать на коллегии Комитета доклады заведующих Гродненским и Пинским областными отделами культпросветработы, а также доклады двух сельских культпросветучреждений и одного районного отдела по пропаганде колхозного строя[128].

Узмоцненая прапаганда разам з рэпрэсіямі супраць сялянства справакавала адпор. Паводле канонаў сталінскай палітыкі, супраціўленне кулакоў, узмацненне класавай барацьбы павінны былі спрыяць далейшаму развіццю сацыялістычнай дзяржавы. Для барацьбы з «варожымі класамі» належала выкарыстаць даступны спектр сродкаў, акрамя таго, вялікі вопыт быў атрыманы ў час ламання хрыбта сялянства ў 1930-я гг. Паказальна, што такія

---

[127] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 255. Паведамленне «Аб прапагандзе калгаснага ладу ў заходніх абласцях БССР», 29.10.1949 г.

[128] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 126—128. План мерапрыемстваў Камітэта культурна-асветных арганізацый пры Савеце Міністраў БССР для прапагандавання калгаснага ладу, без даты, не пазней за лістапад 1949 г.

прапановы, як, напрыклад, высылка «кулакоў», рабілі ў сваіх справаздачах у Мінск шараговыя партыйныя функцыянеры. Кулакоў яны лічылі пагрозай для калектывізацыі. У адной са справаздач было прапанавана ачысціць тэрыторыю ад «варожых элементаў» пры дапамозе рэпрэсій. «Няхай крычыць амерыканскі шакал «Голас Амерыкі», — пісалася ў справаздачы, — што ў Савецкім Саюзе ў сібірскіх лагерах выкарыстоўваецца праца нявольнікаў»[129].

У савецкіх дакументах, створаных на гэтай тэрыторыі ўпаўнаважанымі ЦК, звяртае на сябе ўвагу матыў «андэрсаўцаў» — былых салдат польскіх узброеных сіл на Захадзе, якія часткова вярнуліся пасля вайны на радзіму. Аўтары дакументаў былі перакананы, што прысутнасць «андэрсаўцаў» ствараe дадатковую перашкоду для арганізацыі калгасаў, таму што яны праводзяць антысавецкую прапаганду, распаўсюджваюць «контррэвалюцыйныя чуткі». Наяўнасць сваякоў у польскіх узброеных сілах на Захадзе часта перашкаджала ў перамяшчэнні па сацыяльнай лесвіцы, нават на самым нізкім узроўні. Неўзабаве пытанне было вырашана: «андэрсаўцаў», «кулакоў», а таксама членаў іх сямей выслалі ў аддаленыя раёны. У выпадку «кулакоў» з ініцыятывай выступіла партыйнае кіраўніцтва. У запісцы ад 16 сакавіка 1948 г., якая так і не была выслана ў Маскву, была змешчана просьба выслаць 3000 «кулацкіх» сем'яў і канфіскацыю іх маёмасці[130]. Хутчэй за ўсё, гэтая лічба падалася малой і, баючыся абвінавачванняў у «мяккасці», у чарговай запісцы, гэтым разам дасланай Сталіну і Малянкову, недахопы былі ўлічаны.

Запіска ўтрымлівала наступныя дадзеныя:

> В западных областях БССР насчитывается 3100 кулацких хозяйств. Кроме того, там проживает значительная часть репрессированных органами госбезопасности участников польских, белорусских и украинских националистических банд, а также иной антисоветский элемент:
>
> — семей репрессированных шпионов, диверсантов и предателей Родины — 638 семей;
>
> — семей членов действующих бандитских групп, бандитов-одиночек и находящихся на нелегальном положении участников националистических организаций — 635 семей;
>
> — семей репрессированных членов ликвидированных ранее националистических организаций, банд и их пособников — 7669 человек.
>
> Наличие в западных областях кулацких хозяйств затрудняет коллективизацию. Совет Министров БССР и ЦК КП(б)Б просит:
>
> — разрешить МГБ БССР провести в первой половине июня 1949 года выселение из западных областей БССР в северные районы СССР 3100 кулацких семей и вышеперечисленные категории;
>
> — разрешить Совету Министров БССР конфисковать имущество выселенных и передать его в колхозы и госучреждения[131].

---

[129] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202, арк. 11. Паведамленне аб правядзенні працы групай прапаганды ЦК КП(б)Б у Жалудоцкім раёне за 14.02. — 03.1950 г., 31.03.1950 г.

[130] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 1, арк. 434. Дакладная запіска (праект) у ЦК УКП(б), 16.03. 1948 г.

[131] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 1, арк. 435. Запіска Сталіну і Малянкову сакратара ЦК КП(б)Б Гусарава і старшыні Савета Міністраў БССР Кляшчова, 26.03.1949 г.



*Рэспубліканская прамысловая выстава. Калёсны трактар Беларусь. 1950 г.*

Цэнтр адобрыў гэтыя прапановы. Апошняя высылка «кулакоў» разам з сем'ямі адбылася па прапанове беларускіх савецкіх уладаў у 1952 г. (Пастанова Савета Міністраў БССР № 436 ад 7 красавіка 1952 г.)[132]. Пытанне калектывізацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў пасляваенны перыяд, нягледзячы на вялікую колькасць прац (у большасці сваёй палітызаваных), яшчэ не было належным чынам распрацавана[133].

У агітацыйна-прапагандысцкай кампаніі, прысвечанай калгасам, важным было акцэнтаванне ўвагі на навукова-тэхнічных дасягненнях у СССР. 1-шы сакратар КП(б)Б Панамарэнка ў сваім дакладзе на XI Пленуме ЦК КП(б)Б, які праходзіў 15—16 лютага 1947 г., звярнуў увагу на прапагандаванне калгаснага ладу ў заходніх абласцях БССР. Паводле яго слоў, за папярэдні год (1946) БССР атрымала з агульнасавецкага фонду каля 4000 трактароў, з іх 800 — у рамках дапамогі па лініі UNRRA. Панамарэнка вырашыў з «палітычных прычын» не накіроўваць замежныя трактары ў заходнія вобласці БССР[134]. На жаль, прычыны гэтыя не былі растлумачаны падрабязна. Хутчэй за ўсё, справа была ў тым, каб ніхто не ўсумніўся ў тэхнічных якасцях савецкіх трактароў, якія прайгравалі ў параўнанні з заходнімі.

Іншы прыклад паказвае клопаты па стварэнні карціны дабрабыту і магутнасці савецкай машынабудаўнічай прамысловасці ў Брэсце. Сакратар Брэсцкага абкама ў паведамленні ў ЦК КП(б)Б падняў пытанне адсутнасці дастатковай колькасці аўтобусаў у добрым тэхнічным стане. Занепакоенасць функцыянера была выклікана клопатам не пра дабрабыт працоўных, а пра вобраз савецкай дзяржавы ў вачах іншаземцаў: «Праз Брэст праязджаюць дэлегацыі шэрагу замежных дзяржаў. Рэйсавыя аўтобусы, асабліва здабытыя з ваенных трафеяў, не могуць быць дапушчаныя на вакзал, таму што гэта палітычна няправільна і нязручна для нас, а лепшых аўтобусаў у нас няма»[135].

---

[132] Цыт. паводле: Татаренко А. Недозволенная память. Западная Беларусь в документах і фактах, 1921—1954. СПб., 2006. С. 694—695.

[133] З прац савецкага перыяду, прысвечаных гэтай тэме, можна адзначыць: Барадач Г.А., Дамарад К.І. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў заходніх абласцях Беларускай ССР. Мінск, 1979; Бел зо А.П. Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945—1950). Мінск, 1974; кандыдацкія дысертацыі, якія ў сваёй большасці апісвалі кіраўнічую ролю камуністычнай партыі і пазітыўныя вынікі калектывізацыі, напрыклад: Пышкин П.С. Коммунистическая партия Белоруссии в борьбе за социалистическое преобразование сельского хозяйства западных областей БССР (1944—1950). Минск, 1956. У 1990-я і 2000-я гг. з'явіліся працы, у якіх аўтары спрабавалі больш аб'ектыўна ацаніць тагачасныя падзеі: Лыч Г.М. Трагедыя беларускага сялянства. Мінск, 2003; Куркоў І. Людзі на зямлі. Нарыс гісторыі аграрных пераўтварэнняў у Вілейскай—Маладзечанскай вобласці (1939—1950 гг.) // ARCHE. 2001. № 2. С. 194—239; зборнікі дакументаў, прысвечаныя калектывізацыі ў Маладзечанскай вобл. у 1944—1953 гг.: Аграрные преобразования в Молодечненской области, 1944—1953 / сост.: Н.А. Бондаренко, Н.В. Иванова, И.Н. Курков. Минск, 2005. Шмат цікавых матэрыялаў утрымлівае манаграфія В.А. Белазаровіча «Западнобелорусская деревня в 1939—1953 годах» (Гродно, 2004), хаця і напісана з улікам сучаснай беларускай палітычнай кан'юнктуры.

[134] НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 232, арк. 14. Даклад Панамарэнкі на XI Пленуме ЦК КП(б)Б (15—16.02.1947 г.).

[135] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 123, арк. 43. Паведамленне «Кароткі гаспадарчы нарыс Брэста» ў ЦК КП(б)Б, 18.08.1950 г., за подпісам Доркіна.

## УРАЧЫСТАСЦІ І САВЕЦКІЯ СВЯТЫ

Правядзенне дзяржаўных святаў і разнастайных юбілеяў было неад'емным элементам савецкага грамадскага жыцця. Іх выкарыстоўвалі як дадатковую нагоду прадэманстраваць поспехі савецкай дзяржавы ва ўсіх сферах жыцця: ад гаспадаркі да культуры. Да найбольш значных святаў належалі Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дзень Канстытуцыі, Свята працы і Новы год. Затрымаемся крыху на святкаванні 10-годдзя «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі і ўз'яднання беларускага народа», якое праводзілася ў кастрычніку 1949 г. Праграма правядзення юбілею была зацверджана ў Мінску. На вуліцах было вырашана вывесіць шыльды з надпісамі «Ленін і Сталін — арганізатары беларускай дзяржавы», «Развіццё прамысловасці пры савецкай уладзе». З прычыны абмежаваных фінансавых сродкаў з'явіліся толькі два новыя сюжэты: «Дзесяцігоддзе ўз'яднання» з вялікім партрэтам Сталіна і два пано на тэму «паходу Чырвонай Арміі ў 1939 г.»[136] Адказны за друк (нейкі тав. Драгун) атрымаў загад «забяспечыць» газеты і часопісы адпаведнымі прапагандысцкімі матэрыяламі. Артыкул «Гісторыя адной сям'і» павінен быў расказаць пра гаротную долю ў «польскія часы» і шчаслівае жыццё ў савецкай Беларусі. Таксама планавалася зрабіць «гутаркі» з калгаснікам, рабочым і інтэлігентам у падобным рэчышчы. У кінатэатрах гледачы павінны былі прагледзець фільмы «Вызваленне Беларусі», «30 год БССР», «Шчасце народа». Вышэйшае партыйнае кіраўніцтва ўсведамляла, што толькі духоўнай ежы будзе недастаткова, таму паклапацілася і пра «хлеб надзённы». Дзяржаўныя крамы працавалі да 24 гадзіны ночы і атрымалі дадатковыя запасы рыбы, мяса, садавіны, гародніны і г.д. З відовішчаў планаваўся феерверк, а таксама ў кіраўніцтва была велічная задума вывесіць над Мінскам, па прыкладзе Масквы, асветлены пражэктарамі партрэт Сталіна[137].

Урачыстасці павінны былі сабраць значную колькасць гасцей. Польская дэлегацыя афіцыйнага запрашэння на святкаванні ад беларускага боку не атрымала. БССР, фармальна ўваходзячы ў ААН, мела ўласнае Міністэрства замежных спраў, якое выконвала дэкаратыўную функцыю. Усе пытанні, звязаныя з міжнародным супрацоўніцтвам, накіроўваліся ў Маскву. Польскі бок накіраваў Молатаву тэксты святочных віншаванняў ураду і партыйнаму кіраўніцтву з просьбай іх зацвердзіць. Акрамя таго, пытанне пра магчымы ўдзел польскай дэлегацыі: «Ці ўваходзіць у планы прыезд нашай дэлегацыі?» — саветніку загадчыка 4-га еўрапейскага аддзела МЗС СССР Паўловічу даслаў 1-шы сакратар польскага пасольства ў Маскве Леанард Пахарылец. Чакаючы, пакуль Масква прыме рашэнне па гэтым пытанні, польская прэса не давала ніякіх паведамленняў і карэспандэнцый на гэты конт[138]. Гэты факт сведчыць пра залежнасць як беларускага (у значна большай ступені), так і

[136] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 198, арк. 16—28. Стэнаграма нарады, прысвечанай арганізацыі святкаванняў дзесяцігоддзя ўз'яднання беларускага народа, 17.10.1949 г.

[137] Тамсама.

[138] Archiwum MZS Polski, Zespół 22, teczka 261, k. 126. Запіска 1-га сакратара пасольства Польшчы ў Маскве Леанарда Пахарыльца па пытанні ўрачыстасцей, звязаных з уз'яднаннем украінскіх і беларускіх земляў, 20.10.1949 г. Гл. дадатак: «Ліст старшыні Савета Міністраў Польшчы з нагоды 10-й гадавіны ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР».




*Мітынг у Мінску. 10 гадавіна ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР.*

польскага боку ад сваіх «дабрадзеяў». Нават такія не надта істотныя пытанні павінны былі зацвярджацца ў Маскве.

Галоўныя кірункі савецкай прапаганды на заходніх тэрыторыях БССР вызначаліся, несумненна, у Маскве. Партыйнае кіраўніцтва ў Мінску проста выконвала даручэнні, беручы на сябе ролю намесніка. Аднак жа і рэалізацыя прапагандысцкіх прынцыпаў на практыцы вымушала партыйныя ўлады ісці на пэўныя ўступкі і лавіраванне. Былі гэта толькі тактычныя крокі, генеральная ж лінія заставалася нязменнай. Ролю структур прапаганды нельга не даацэньваць: ва ўмовах татальнага кантролю і адарванасці ад альтэрнатыўных крыніц інфармацыі, яны істотна ўплывалі на людзей, асабліва на моладзь, якая з першых гадоў жыцця засвойвала асновы савецкай дактрыны. З іншага боку, фальсіфікаваная інфармацыя і прапаганда ў супастаўленні з рэальным жыццём не маглі не даваць падстаў для разважанняў. Гэта спрычынілася да з'яўлення феномена «падвойнага мыслення» (double thinking[139]): калі гаворыцца адно, думаецца другое, а робіцца трэцяе.

## III.III. АСВЕТА

Сістэма адукацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў пасляваенныя гады была часткай агульнасавецкай стратэгіі. Адукацыі ў духу камуністычнай маралі надавалася выключнае значэнне, і непасрэдны ўдзел у гэтым павінна была прыняць школа, якая лічылася важным элементам ідэалагічнага выхавання. Мясцовыя ўмовы, аднак, вымушалі ісці на часовыя саступкі, нехарактэрныя для тагачаснага ладу (напрыклад, дазвол на выкладанне Закону Божага).

### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ ШКОЛЬНАЙ СЕТКІ Ў 1939-1944 ГГ.

Сістэма адукацыі, усталяваная ў другой палове 1944 г. савецкай уладай, была працягам сістэмы, створанай у 1939—1941 гг. Да канца 1939 г. на гэтай тэрыторыі школы працавалі ў рамках польскай адукацыйнай сістэмы, са змененай праграмай. Са школы адразу ж знікла рэлігійнае навучанне, гісторыя і геаграфія Польшчы, а таксама лацінская і грэцкая мовы. У лістападзе 1939 г. быў падрабязна перагледжаны стан тагачаснай школы і адукацыйных устаноў. Бюро ЦК КП(б)Б вырашыла пачаць падрыхтоўку да ўвядзення савецкай школьнай сістэмы. Камісарыят народнай асветы БССР выдаў «Інструкцыю аб прынцыпах рэарганізацыі школ у заходніх абласцях БССР», у якой акрэсліваліся агульныя прынцыпы рэарганізацыі школ і каляндар падрыхтоўкі да новай сістэмы. У сапраўднасці гаворка тут вялася пра ўвядзенне цалкам новай сістэмы школьнай адукацыі.

---

[139] Найлепшай кнігай, якая найбольш поўна ў мастацкай форме перадае сэнс гэтай з'явы, лічыцца «1984» Джорджа Оруэла. Антыўтопія «1984» з'явілася ў 1949 г., незадоўга да смерці пісьменніка (1950 г.). Аўтар аналізуе ў сваім творы прынцыпы функцыянавання камуністычнай сістэмы, раскрываючы найперш механізмы скрыўлення мыслення і мовы. Многія з ужытых у творы словазлучэнняў — «Вялікі Брат», «навамова» ці «падвойнае мысленне» — увайшлі ў публічны абыходак.

Тэрмін заканчэння рэарганізацыі школы ў БССР быў прызначаны на 20 студзеня 1940 г. Тагачасныя агульнаадукацыйныя школы, гімназіі і ліцэі былі ператвораны ў пачатковую (чатырохгадовую), няпоўную сярэднюю (сямігадовую) і сярэднюю (дзесяцігадовую) школы. Агульныя школы I ступені ператвораны ў пачатковыя (1—4 класы), II (1—6 класы) і III ступені (1—7 класы) — у няпоўную сярэднюю школу. Гімназіі (чатырохгадовыя з так званым малым выпускным экзаменам) і агульнаадукацыйныя ліцэі (двухгадовыя з чатырма спецыялізацыямі на выбар і так званым вялікім экзаменам) рэарганізаваны ў сярэднія школы. Школьны год быў падзелены на чатыры чвэрці, з канікуламі 6—9 лістапада, 23 снежня — 10 студзеня, 24 сакавіка — 1 красавіка, а таксама з вялікімі канікуламі з 18 траўня па 1 верасня[140]. На базе польскіх прафесійных школ паўсталі адпаведныя савецкія ўстановы. Педагагічныя ліцэі былі ператвораны ў педагагічныя вучылішчы.

У сувязі з розніцамі ў праграмах і пачаткам навучання ў СССР толькі па дасягненню васьмі гадоў дзеці былі пераведзены ў новых школах пераважна на адзін узровень ніжэй. Адпаведным чынам былі пераведзены вучні агульных школ II і III ступеняў. У суме савецкая дзесяцігодка рэалізавала праграму сярэдняй школы на два гады хутчэй, чым польская школа. Поўны пераход усіх тыпаў школ на навучанне па савецкай праграме і планах, зацверджаных Міністэрствам адукацыі Беларусі, адбыўся 15 студзеня 1940 г. Гэта азначала таксама ўвядзенне новай арганізацыі навучальнага года, новай школьнай дакументацыі і пяцібальнай сістэмы. Таксама ліквідаваўся падзел на мужчынскія і жаночыя школы. У вясковых школах абавязковая адукацыя абмяжоўвалася пачатковымі класамі, у гарадах жа абавязковым было сямігадовае навучанне.

Навучанне ў школах засноўвалася на праграмах, зацверджаных Народным камісарыятам адукацыі Беларусі. Была абвешчана ўсеагульная бясплатная адукацыя. Вывучэнне беларускай і рускай моў было абавязковым ва ўсіх школах. Беларуская мова выкладалася ў рускіх школах і школах розных нацыянальнасцей (польскіх, яўрэйскіх, украінскіх, літоўскіх) з трэцяга класа. Руская ж мова ў беларускіх школах і школах з іншымі мовамі навучання пачынала вывучацца з другога класа ў пачатковых школах, у сярэдніх і няпоўных сярэдніх — з трэцяга года навучання; у заходніх абласцях БССР гэта было замацавана афіцыйна з 1 верасня 1940 г.[141]

Пасля пачатку савецка-нямецкай вайны 22 чэрвеня 1941 г. тэрыторыя Заходняй Беларусі была падзелена нямецкай акупацыйнай уладай паміж некалькімі адміністрацыйнымі акругамі: акруга Беласток (у складзе Усходняй Прусіі), генеральная акруга Беларусь (у складзе рэйхскамісарыята Остланд), генеральная акруга Літва (у складзе рэйхскамісарыята Остланд) і рэйхскамісарыят Украіна. 10 верасня 1941 г. у генеральнай акрузе Беларусь былі выдадзеныя часовыя школьныя правілы, якія ўводзілі абавязковае навучанне для ўсіх дзяцей, акрамя яўрэяў, з 7 да 14 гадоў і абавязвалі мясцовыя адміністрацыі забяспечыць працу пачатковых школ з 1 кастрычніка 1941 г. Часовыя правілы рабілі акцэнт на выхаванні моладзі ў духу гітлераўскай

---

[140] Głowacki A. Sowieci wobec Polaków ... S. 418.

[141] Ibidem. S.429.

Новай Еўропы і пагражалі суровым пакараннем за выкарыстанне школ для пашырэння савецкай або польскай нацыянальнай ідэалогіі. Правілы зацвярджалі таксама, што генеральная акруга Беларусь — тэрыторыя беларускага народа і найперш прызначана для яго. Таму ў задачы школ уваходзіла «развіццё беларускай культуры і адукацыі», якую таксама павінна была засвоіць моладзь нацыянальных меншасцей — палякаў і рускіх.

Правілы вызначалі, што мовай навучання ў школах павінна быць беларуская, аднак у пераважна польскім асяроддзі дапускалася існаванне школ з польскай мовай навучання. У такіх школах вывучэнне беларускай мовы было абавязковым у аб'ёме 6 гадзін на тыдзень. Школы з рускай мовай навучання не прадугледжваліся. Паводле дадзеных Юрыя Туронка, колькасць школ на канец 1941—1942 навучальнага года ў генеральнай акрузе Беларусь складала 3485, працавала ў іх 9716 настаўнікаў[142]. Створаная цывільнай адміністрацыяй Кубэ[143] сямігадовая школьная сістэма абыходзіла дырэктывы Берліна, якія прадугледжвалі для акупаваных савецкіх тэрыторый толькі чатырохгадовыя пачатковыя школы. У краінах жа Прыбалтыкі працавалі сярэднія школы і некаторыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Трэба, аднак, заўважыць, што правілы і сфера іх дзейнасці не ахоплівала ўсю тэрыторыю Беларусі ў межах 1941 г. Насельніцтва Гродзенскай вобл. паводле адміністрацыйнага падзелу ўвайшло ў Беластоцкую акругу, якая была далучана да правінцыі Усходняя Прусія з цэнтрам у Караляўцы (Кёнігсбергу). Акрамя таго, у генеральную акругу Літва ўвайшлі паўночныя раёны ранейшай Вілейскай вобл. Ва ўсходняй жа частцы Беларусі была ўстаноўлена нямецкая ваенная адміністрацыя групы армій «Цэнтр».

Да пачатку новага 1944—1945 навучальнага года ўся тэрыторыя Заходняй Беларусі (*у новых межах, без Беласточчыны — Я.Ш.*) падпарадкоўвалася савецкай адміністрацыі. Сістэма школьнай адукацыі, якая фармавалася на гэтай тэрыторыі, функцыянавала ў межах сістэмы, абавязковай для тэрыторыі ўсяго СССР.

У пасляваенны перыяд у Савецкім Саюзе сістэма школьнай адукацыі мела тры ступені. Пераход з пачатковай школы (4 класы) да няпоўнай сярэдняй (5—7 класы) адбываўся пасля здачы экзаменаў, тое самае — пры пераходзе ў сярэднюю школу (8—10 класы). У 10 класе здаваўся экзамен на атэстат сталасці. Заканчэнне няпоўнай сярэдняй школы (7 класаў) давала магчымасць паступаць у прафесійныя вучылішчы, тэхнікумы, сярэдняй — у вышэйшыя навучальныя установы.

9 жніўня 1944 г. ЦК УКП(б) зацвердзіў распараджэнне «Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў галіне масава-палітычнай і культурна-асветнай працы сярод жыхароў Беларусі», у якім абавязваў Савет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б аднавіць да пачатку 1944—1945 навучальнага года ў вызваленых раёнах сетку пачатковых, сямі-

---

[142] Цыт. паводле: Turonek J. Białoruś pod niemiecką okupacją. Warszawa, 1993. S. 91.

[143] Гаўляйтар Вільгельм Кубэ ўзначаліў цывільную адміністрацыю генеральнай акругі Беларусь, праводзіў адрозную ад агульнанямецкай палітыкі на ўсходзе палітыку прываблівання беларусаў шляхам актывізацыі беларускага нацыяналізму. Забіты ў выніку замаху ў 1943 г.

гадовых і сярэдніх школ, а таксама ахапіць адукацыяй усіх дзяцей школьнага ўзросту[144]. З таго часу ў выніку клопату савецкай улады 1 верасня 1944 г. пачалі працаваць пачатковыя школы, а з першага кастрычніка — сярэднія.

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ШКОЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У Гродзенскай вобл. пачалі працаваць каля 738 школ, у якіх навучалася, паводле дадзеных на 1 кастрычніка 1944 г., 94 665 дзяцей[145]. Беларусаў сярод іх было 69 761 чалавек, палякаў — 21 701, рускіх — 3 414. Найбольш палякаў сярод вучняў было ў Гродне — 4 471 чалавек; беларусаў было 1037, рускіх — 1019[146]. Змяншэнне колькасці палякаў сярод вучняў звязана з масавым выездам у Польшчу на падставе закона аб рэпатрыяцыі. Трэба адзначыць, што пачатак 1944/1945 навучальнага года праходзіў у вельмі цяжкіх умовах. Абавязковае школьнае навучанне павінна было адбывацца на тэрыторыі, дзе выпікі ваенных дзеянняў былі адчувальныя на кожным кроку, тым больш што там актыўна дзейнічала антысавецкая партызанка.

У неналежным стане былі таксама школьныя памяшканні; значная частка будынкаў была знішчана падчас гітлераўскай акупацыі і ваенных дзеянняў. У Гродне ў ліпені 1944 г. у ходзе ваенных дзеянняў было спалена 9 школ, толькі ў пяці раёнах быў знішчаны 31 школьны будынак, у Скідзельскім раёне ў час акупацыі загінула каля 50 настаўнікаў[147]. У многіх населеных пунктах школьныя памяшканні займалі войскі, карныя органы і іншыя савецкія ўстановы. У Вілейцы тры школьныя памяшканні былі ператвораны ў жылыя дамы для супрацоўнікаў МДБ. Шэсць школьных хат у Брэсцкай вобл. займалі вайсковыя падраздзяленні[148].

У Пінскай вобл. у сярэдзіне 1948/1949 навучальнага года з 586 школ толькі 121 размяшчалася ў адпаведных для гэтага памяшканнях, астатнія — у сялянскіх хатах і рознага кшталту будынках. Гэта прыводзіла да сітуацый, калі заняткі амаль ва ўсіх школах праходзілі ў 2—3 змены[149]. Спрабуючы

---

[144] Котаў А. Аднаўленне і развіццё агульнаадукацыйных школ у пасляваеннай беларускай вёсцы 1944—1960 гг. // Веснік БДУ. 1998. № 1. С. 17.

[145] Szumski J. Szkolnictwo polskie na Grodzieńszczyźnie w latach 1939—1948. Sowietyzacja, likwidacja // Rozprawy z dziejów oświaty. T. XLIII. Warszawa, 2004. S. 176.

[146] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 1, арк. 2. Паведамленне аб колькасці вучняў у школах Гродзенскай вобл. паводле нацыянальнага падзелу, па стану на 1.10.1944 г.

[147] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 163, арк. 50. Пастанова Беластоцкага выканкама і абкама «Аб адкрыцці школьнай сеткі і падрыхтоўцы школ да новага навучальнага года», 22.08.1944 г., за подпісамі сакратара абкама Эльмана і сакратара выканкама Ратайкі.

[148] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 8. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Жданаву «Аб працы партыйных арганізацый у перыяд правядзення ўсенавуча ў Мінску, Маладзечанскай і Брэсцкай абласцях БССР», 30.12.1946 г., за подпісам намесніка ўпаўнаважанага камісіі партыйнага кантролю ў БССР Грудзіна.

[149] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 82. Паведамленне Пінскага абкама ў ЦК КП(б)Б аб камплектаванні школьнай сеткі і настаўніцкіх кадраў, 16.02.1949 г., за подпісам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Пінскага абкама Пярвушына.

выправіць сітуацыю, улады мабілізавалі мясцовае насельніцтва для рамонту і пабудовы школьных будынкаў. У Баранавіцкай вобл. людзі адбудавалі 106 школ, а ў 60 пашырылі памяшканні. У Гродзенскай вобл. сіламі насельніцтва ў 1949/1950 навучальным годзе было пабудавана 110 новых школ[150].

Акрамя таго, вельмі цяжкім быў матэрыяльны стан настаўнікаў. Заробак выплачваўся нерэгулярна, карткі на хлеб часта не выдаваліся па некалькі месяцаў. У Сапоцкінскім раёне (Гродзенская вобл.) настаўнікі ў другім паўгоддзі 1944/1945 навучальнага года не атрымлівалі картак па два месяцы[151]. Падобная сітуацыя з карткамі на хлеб у настаўнікаў была і ў Маладзечанскай вобл[152].

Таксама колькасць кадраў была вельмі абмежаваная, нават пасля частковага папаўнення з усходу. На канец 1944/1945 навучальна года ў Гродзенскай вобл. не хапала 998 настаўнікаў пачатковых класаў, 415 настаўнікаў сярэдніх школ, 8 загадчыкаў аддзелаў адукацыі і 32 інспектараў аддзелаў адукацыі[153]. Паўсюль адчуваўся недахоп падручнікаў.

Савецкая ўлада надавала вялікае значэнне адукацыі, пра што сведчыць рост сеткі школ, пастаяннае абмеркаванне школьных пытанняў партыйнымі і савецкімі органамі ўлады. Згодна з палажэннямі чацвёртай пяцігодкі (1946—1950), за яе перыяд планавалася ўвесці ўсеагульнае школьнае навучанне ў пачатковай школе і паступова перанесці яго на няпоўную сярэднюю школу (т.зв. сямігодку). У 1949—1950-я гг. у БССР (*без падзелу на ўсходнюю і заходнюю часткі — Я.Ш.*) пачалі працаваць 657 сямігадовых школ, што зрабіла магчымым выкананне плана ўвядзення ўсеагульнай абавязковай сямігадовай адукацыі. У 1950 г. колькасць выпускнікоў сярэдніх школ вырасла амаль у пяць разоў[154].

Аналіз даступных крыніц паказвае, што колькасныя дадзеныя па школах адрозніваюцца на розных узроўнях улады. Часта дадзеныя з раёнаў адрозніваліся ад тых, што даходзілі да Мінска. Гэта датычылася як польскамоўных, так і беларуска- і рускамоўных школ. Адной з прычын такой сітуацыі было нежаданне раззлаваць вышэйшае кіраўніцтва, прыхарошыць, падфарбаваць сітуацыю. Ніхто не жадаў выклікаць гнеў кіраўніцтва з-за невыканання планаў усенавуча. Маштаб фальсіфікацый і перасылкі ў цэнтр

[150] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 1, арк. 259. Інфармацыйная запіска «Аб працэсе падрыхтоўкі школ Беларускай ССР у 1949/1950 навучальным годзе», без даты, не раней за верасень 1949 г., за подпісам намесніка кіраўніка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Ц.Кісялёва.

[151] Szumski J. Likwidacja polskich szkół w rejonie sopoćkińskim w latach 1944—1948 // Magazyn Polski. 2002. № 1—2. S. 33.

[152] НАРБ. Ф. 4, спр. 202, арк. 271—273. Паведамленне аб працы з настаўніцкімі кадрамі Маладзечанскай вобл. , не пазней за жнівень 1947 г., за подпісам загадчыка абласнога аддзела адукацыі Кныша.

[153] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 25, арк. 350. Пратакол № 47 Гродзенскага абкама КП(б)Б, 22—25.05.1945 г.

[154] Дарашэвіч Э.К., Пасэ У.С., Сянкевіч Г.Р., Ткачоў М.А., Трухан А.В. Асвета // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 1. Мінск, 1993. С. 209. Гл. таксама: Кісялёў Р.А. Школа савецкай Беларусі. Мінск, 1968; Ильюшин И.М., Умрейко С.А. Народное образование Белорусской ССР. Минск, 1961.




*Вучні на дэманстрацыі з нагоды Дня Кастрычніцкай рэвалюцыі.*

неадпаведных рэчаіснасці звестак аб стане школы ў заходніх абласцях БССР выклікаў занепакоенасць у Маскве. Праверка камісіі партыйнага кантролю УКП(б) выявіла шэраг злоўжыванняў і праблем, якія хавалі мясцовыя ўлады. Найбольшы клопат выклікала наведванне вучнямі заняткаў: яны прапускалі вялікую колькасць урокаў. У Маладзечанскай і Брэсцкай абласцях і ў Мінску ў першым паўгоддзі 1946/1947 навучальнага года ў школы не хадзіла 6 880 дзяцей. У Дамачаўскім раёне (Брэсцкая вобл.) у 1946 г. некалькі населеных пунктаў загадчыкі мясцовых аддзелаў адукацыі наогул не наведалі[155]. У 1945/1946 навучальным годзе ў Гродзенскай вобл. не было ахоплена школьнай адукацыяй каля 13 тыс. дзяцей[156]. Паводле дадзеных упраўлення кантролю партыйных органаў УКП(б), у БССР у 1945/1946 навучальным годзе больш за 100 тыс. дзяцей не наведвала школу[157]. Гэта было звязана, перш за ўсё, з недахопам школьных памяшканняў і «палітычна свядомых» педагагічных кадраў. Агульная колькасць школ, якія дзейнічалі ў БССР у 1945/1946 навучальным годзе, складала 2 446. У іх працавала 9 265 настаўнікаў і навучалася 253 963 вучні[158].

На думку маскоўскай камісіі, галоўнай прычынай пропуску вучнямі заняткаў былі сезонныя сельскагаспадарчыя працы. У дакументах жа мясцовых партыйных арганізацый знаходзім зусім іншыя прычыны. У Сапоцкінскім, Васілішкаўскім і Лідскім раёнах актыўна праводзілі навучанне дзяцей Закону Божаму каталіцкія ксяндзы, не зважаючы на ўведзеныя ўладай абмежаванні. У час Калядаў дзеці тры дні не хадзілі ў школы, многія з якіх тады наогул не працавалі[159]. Тое самае адбывалася ў Радунскім раёне, дзе жылі пераважна каталікі. У дні рэлігійных святаў бацькі не дазвалялі дзецям хадзіць у школу. Пры гэтым казалі: «Вы не зробіце з нашых дзяцей бальшавікоў»[160]. У Васілішкаўскім раёне палякі ў 1945 г. забаранялі сваім дзецям хадзіць у беларускія школы, матывуючы сваё рашэнне магчымай вайной СССР з Англіяй і Турцыяй і хуткім вяртаннем гэтых тэрыторый Польшчы[161].

---

[155] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 2—10. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) Жданаву «Аб працы партыйных арганізацый у галіне ўвядзення ўсенавуча ў Мінску, Маладзечанскай і Брэсцкай абласцях БССР», 30.12.1946 г., за подпісамі намесніка ўпаўнаважанага камісіі партыйнага кантролю ў БССР Грудзіна.

[156] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 221—223. Дадзеныя аб педагагічных кадрах у Гродзенскай вобл., 08.07.1947 г., за подпісам члена камісіі ЦК КП(б)Б Рапаніча.

[157] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 138, л. 14. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Патолічаву, Кузняцову, 08.07.1946 г.

[158] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 14. Звесткі пра сетку школ у БССР, без даты, не раней за чэрвень 1946 г.

[159] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 345. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б аб дзейнасці рымска-каталіцкага касцёла і сект у Гродзенскай вобл., без даты, не раней за 27.03.1947 г., за подпісам упаўнаважанага па справах рэлігіі ў Гродзенскай вобл. Чыжа.

[160] ДАГАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 16, арк. 98. Паведамленне кіраўніка агіткалектыва Радунскага РК КП(б), подпіс нечытэльны, 27.03.1945 г.

[161] Освобожденная Беларусь ... С. 331.

## ПОЛЬСКАЕ ПЫТАННЕ Ў ШКОЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ

Акрамя таго, сур'ёзнай перашкодай у рэалізацыі плана ўсеагульнай абавязковай школьнай адукацыі ў раёнах Гродзенскай вобл. было, як сведчаць савецкія крыніцы, так званае «польскае пытанне». Яно праявілася ў той час у актыўнай дзейнасці антысавецкай партызанкі, а таксама ў варожым стаўленні мясцовага насельніцтва да савецкай улады. Асаблівае значэнне мела пытанне школьнай адукацыі на польскай мове ў савецкай адукацыйнай сістэме. Гэтая праблема да нядаўнага часу не была вывучана польскімі і беларускімі даследчыкамі[162]. На працягу ж некалькіх апошніх гадоў у навуковы ўжытак уведзены шэраг распрацовак, галоўным чынам — артыкулаў, у якіх аўтары агаворвалі асобныя аспекты праблемы[163].

Польскамоўныя школы дзейнічалі пераважна ў Гродзенскай вобл. У большасці населеных пунктаў адкрываліся беларускія школы, якія працавалі ў 1939—1941 гг. Савецкая ўлада прызнавала большасць насельніцтва беларусамі, якія «з-за таго, што з'яўляюцца каталікамі, лічаць сябе палякамі, хаця штодзённа карыстаюцца беларускай мовай»[164]. «Польскае ж насельніцтва і частка беларускага насельніцтва рашуча адмаўляецца аддаваць сваіх дзяцей у беларускія школы (Гожа, Гродзенскі раён; Відзейкава, Бераставіцкі раён), — адзначаюць дакументы савецкага часу. — Мы вымушаны былі праводзіць вялікую працу нават сярод беларусаў»[165].

У Гродне і Гродзенскім раёне пачатак навучальнага года быў адзначаны нечаканай сітуацыяй: у многіх беларускіх школах заняткі былі сарваныя праз адсутнасць вучняў, якія запісаліся ў польскія або рускія школы. У некаторых населеных пунктах (Індура, Малая Капліца, Парэчча), дзе ў 1939—1941 гг. былі беларускія школы, бацькі запатрабавалі польскіх школ або, ва ўсякім выпадку, вывучэння польскай мовы. Абласны партыйны камітэт у Гродне палічыў гэтую справу «вынікам варожай агітацыі польскіх нацыяналістаў і вырашыў адхіліць просьбы бацькоў аб польскіх школах як неабгрунтаваныя і неадпаведныя прынцыпам ленінска-сталінскай савецкай палітыкі»[166].

---

[162] Аўтар свядома выкарыстоўвае ў сваёй працы азначэнне «польскамоўныя школы», таму што навучанне ў іх праходзіла па савецкіх адукацыйных праграмах, ад іншых школ яны адрозніваліся толькі мовай навучання.

[163] Тэма польскамоўных школ на тэрыторыі Гродзеншчыны ў 1939—1948 гг. распрацоўвалася аўтарам у межах магістарскай працы, абароненай у Варшаўскім універсітэце. Вынікі даследаванняў былі апублікаваны. Гл.: Szumski J. Szkolnictwo polskie na Grodzieńszczyźnie // Rozprawy z dziejów oświaty. T. XLIII. Warszawa, 2004. S. 165—200. Сярод прац, прысвечаных тэме польскамоўных школ у БССР у пасляваенны перыяд, варта звярнуць увагу на наступны артыкул беларускай даследчыцы: Маржала Т. Польскія школы ў БССР ў пасляваенныя гады (1944—1949 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. 2003. № 4. С. 30—33.

[164] ДАГВ. Ф. 730, воп. 1, спр. 5, арк. 4. Справаздача аб працы школ Гродзенскай вобл. за першае паўгоддзе 1944/1945 навучальнага года.

[165] Тамсама.

[166] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, спр. 163, арк. 111—112. Пастанова Гродзенскага абкама «Аб сітуацыі ў школьнай адукацыі ў Гродне і Гродзенскім раёне», 09.09.1944 г.

У многіх населеных пунктах, жыхары якіх лічылі сябе палякамі, польскія школы не былі адчынены. Паводле дадзеных Гродзенскага статыстычнага ўпраўлення, у Сапоцкінскім раёне на той час пражывала 97,8% палякаў, у Воранаўскім палякі складалі 93,5%. Пры гэтым у Сапоцкінскім раёне ўсе школы пачалі працаваць па-польску, аднак у Воранаўскім не было адчынена ніводнай польскамоўнай школы. У Ваўкавыскім раёне, Шылавіцкім і Янышоўскім сельсаветах у 1939—1941 гг. дзейнічалі беларускамоўныя школы, аднак у 1944 г. бацькі адмовіліся вучыць там сваіх дзяцей, патрабуючы ўвядзення польскай мовы. У Янышоўскім сельсавеце ніхто з дзяцей у беларускую школу не пайшоў, у Шылавіцкім удалося адкрыць толькі адну беларускамоўную школу. Падобная сітуацыя была і ў іншых населеных пунктах Ваўкавыскага раёна, які быў прызнаны ўладамі беларускім. У выніку, у 1944/1945 навучальным годзе ў школу не хадзіла 24,4% дзяцей Ваўкавыскага раёна[167].

Паводле сітуацыі на канец 1944/1945 навучальнага года, у Гродзенскай вобл. было 78 школ, у якіх навучанне вялося на польскай мове. Найбольш польскамоўных школ знаходзілася ў Сапоцкінскім раёне, а таксама ў Гродзенскім і Бераставіцкім. З-за недахопу кадраў не пачалі працу 9 школ у Радунскім раёне і па адной у Васілішках і Воранаве[168]. У Сапоцкінскім раёне з гэтай прычыны не працавала 41 школа, у Радунскім — 28[169].

У Гродне, паводле звестак на 1 красавіка 1945 г., польскамоўная школьная адукацыя была прадстаўлена трыма школамі: адной сярэдняй і дзвюма няпоўнымі сярэднімі. Агульная колькасць школ складала 9, з якіх 3 былі рускія, 3 — беларускія і 3 — польскія. У польскамоўных школах навучаліся 2422 вучні, у рускамоўных школах — 1199, у беларускамоўных школах — 468. Сярод тагачасных педагагічных кадраў у Гродне на той момант налічвалася 107 палякаў, 25 рускіх і 24 беларусы. Яшчэ адна польскамоўная школа на Гродзеншчыне была ў Ваўкавыску[170]. У раёне чыгуначнай станцыі Ваўкавыск-Цэнтральны была адчынена таксама Польская сярэдняя школа чыгуначнікаў № 8. У чэрвені 1945 г. там здавалі экзамен на атэстат сталасці на польскай мове. Нядоўгі час дзейнічала сямігадовая школа з польскай мовай навучання ў Навагрудку[171].

У Баранавіцкай вобл., паводле дадзеных школьнага ўпраўлення, у 1944/1945 навучальным годзе дзейнічала дзве школы з польскай мовай навучання: адна сямігадовая і адна сярэдняя. У Брэсцкай вобл., акрамя рускіх і беларускіх,

---

[167] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 79—80. Справаздача аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.

[168] Winnicki Z.J. Szkoły polskie na Białorusi w latach 1944—1946 — sytuacja na tle ogólnej sieci szkolnictwa. Porównanie współczesne // Szkice kresowe. Wrocław, 1995. S. 51.

[169] ДАГАГВ. Ф. 20, воп. 1, спр. 17, арк. 9—18. Справаздача з дзейнасці школ за студзень—люты 1945 г., 04.02.1945 г., за подпісам сакратара абкама ЛКСМБ Беразенчыка.

[170] Szumski J. Szkolnictwo polskie ... S. 178.

[171] Grędzik A. Oświata i szkolnictwo polskie na Białorusi 1989—2001. Cz. 1. Kielce, 2004. S. 126—133.

было 17 украінскіх школ і 10 польскіх (8 пачатковых, адна сямігадовая, адна сярэдняя)[172].

У Маладзечанскай вобл., якая складалася ў асноўным з паветаў былога Віленскага ваяводства, паводле дадзеных, якія прыводзіць Здзіслаў Юльян Вінніцкі, не было адчынена ніводнай польскамоўнай школы. З агульнай колькасці настаўнікаў — 1039 чалавек (на 2.07.1945 г.) — было 487 палякаў. Падкрэслівалася «асабліва небяспечнае стаўленне настаўнікаў-палякаў у Астраўцы, Паставах і Мядзеле». У гэтых месцах адзначаліся шматлікія выпадкі адмоваў з боку бацькоў і настаўнікаў працаваць і вучыцца ў беларускіх школах. Ва ўжо адчыненых школах вучні пратэставалі супраць характару школы і новай улады (у беларускай школе ў Ашмянах з'явіліся надпісы «Прэч, расійскія акупанты», а адмова вучыцца і працаваць абгрунтоўвалася наступным чынам: «Тут павінна быць Польшча»). Былі выпадкі арганізацыі альтэрнатыўнага навучання на польскай мове. У Астраўцы бацькі спецыяльна з гэтай мэтай адсылалі сваіх дзяцей штодзённа на тры гадзіны ў касцёл. У Свіры такое навучанне праходзіла пад кіраўніцтвам мясцовай манашкі[173].

Колькасць польскамоўных школ у заходніх абласцях БССР змяншалася з кожным годам. Іх існаванне на працягу кароткага перыяду было выклікана шэрагам прычын. Па-першае, з-за недахопу настаўніцкіх кадраў улады вымушаны былі карыстацца паслугамі мясцовых педагогаў, якія атрымалі адукацыю ва «ўмовах панскай Польшчы». Там, дзе пражывала насельніцтва, якое лічыла сябе палякамі, школы з польскай мовай навучання, нягледзячы на шмалікія просьбы бацькоў, не заўсёды адчыняліся. Найчасцей рашэнне аб мове навучання ў школе прымала партыйнае кіраўніцтва. Рэпатрыяцыя ў Польшчу значнай часткі настаўнікаў і найбольш актыўнай часткі грамадства спрычынілася да змяншэння колькасці школ з польскай мовай навучання. Паводле дадзеных сакратара Гродзенскага абкама камсамола, з тэрыторыі Гродзенскай вобл. у Польшчу выехала каля 800 настаўнікаў-палякаў, з усходніх абласцей прыбыло 340 савецкіх[174]. Тым не менш, на тэрыторыі Гродзеншчыны застаўся значны працэнт насельніцтва, якое лічыла сябе палякамі.

Па-другое, польскамоўныя школы ў БССР у пасляваенны перыяд не былі выключэннем. Такія школы існавалі ў Літве, Латвіі, Украіне. З палітычных меркаванняў было прынята рашэнне дазволіць працу польскамоўных школ, якія павінны былі, на думку ўладаў, выконваць палітычныя і прапагандысцкія задачы. Рашэнне ліквідаваць польскамоўныя школы або перарабіць іх на рускія і — радзей — беларускія было прынята на вышэйшым узроўні. Сваю ролю адыгралі таксама даволі частыя згадкі ў партыйных справаздачах, накіраваных у вышэйшае партыйнае кіраўніцтва ў Мінск, пра антысавецкія настроі ў гэтых школах, нізкі ўзровень «ідэйна-выхаваўчай працы» і пра дрэнныя вынікі вывучэння рускай і беларускай моваў. У адной з такіх справаздач,

[172] Winnicki Z.J. Szkoły polskie ... S. 55—56. Паводле падлікаў беларускай даследчыцы Маржалы, у Брэсцкай вобл. на той час было 88 польскіх школ, у Пінскай — 3. Гл.: Маржала Т. Польскія школы ... С. 30.

[173] Winnicki Z.J. Szkoły polskie ... S. 58.

[174] ДАГАГВ. Ф. 20, воп. 1, спр. 17, арк. 9—18. Справаздача за студзень—люты 1945 г., 04.02.1945 г., за подпісам сакратара абкама ЛКСМБ Беразенчыка.

дзе характарызавалася праца Гродзенскага абласнога партыйнага камітэта (1947 г.), шмат увагі надавалася школе № 2 Гродна з польскай мовай навучання. Між іншым, крытыкаваўся кіраўнік установы, які не здолеў арганізаваць у школе камсамольскай ячэйкі. Быў заўважаны антысавецкі змест у сачыненні вучня 10 класа, які нібыта сцвердзіў падчас экзамена: «Па радыё гучалі сумныя словы "смерць нямецкім акупантам"»[175].

Падаецца, прыведзеныя факты не стымулявалі ва ўладаў жадання захаваць польскія школы. Рашэнне аб іх ліквідацыі або ператварэнні ў рускамоўныя ці — радзей — беларускамоўныя было прынята не ў Міністэрстве адукацыі БССР. Тагачасная міністр адукацыі Уралава, паводле ацэнкі ўпраўлення кантролю партыйных органаў УКП(б), «не разбіралася ў асвеце, мела пачатковую адукацыю і нават не ведала беларускай мовы», што, зрэшты, не перашкаджала ёй займаць такую пасаду[176].

Нават вышэйшае партыйнае кіраўніцтва Мінска самастойна прыняць рашэнне аб ліквідацыі польскамоўных школ не наважвалася. У 1947 г. у Маскву сакратару УКП(б) Андрэю Жданаву, які на той час кіраваў савецкай дзяржаўнай ідэалогіяй, быў накіраваны ліст. Там была інфармацыя аб «польскім насельніцтве і апалячаных беларусах» у заходніх абласцях БССР, асноўныя дадзеныя аб польскамоўных школах і канкрэтныя прапановы наконт іх будучыні. Было прапанавана наступнае:

> Имея в виду, что насаждение польских школ с чуждым нам преподавательским составом и подготовка кадров на польском языке, благодаря наличию польских националистических элементов, могли бы обратиться во вред Советскому государству, постепенно преобразовать польские школы в белорусские и русские путем замены ненадежных и неквалифицированных преподавателей-поляков подготовленными и проверенными преподавателями — русскими и белорусами (...). Население в западных областях, особенно в городах и местечках, тянется к русским школам, и наиболее целесообразно создавать вместо польских школ русские[177].

Партыйнае кіраўніцтва БССР, якое не бачыла перспектыў у далейшым існаванні польскамоўных школ, выказвала занепакоенасць тым, што «адначасовае закрыццё ўсіх польскіх школ можа выклікаць негатыўную рэакцыю польскага насельніцтва і непажаданы розгалас у польскай супольнасці за мяжой». Было прапанавана праводзіць курс па «беларусізацыі апалячанага беларускага насельніцтва» і «прышчапленні беларускай і рускай савецкай культуры як апалячаным беларусам, так і палякам»[178]. Кіраўніцтва прасіла дырэктывы УКП(б) у гэтым пытанні.

---

[175] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 42. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г.

[176] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 139, л. 11. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Палітолічаву, Кузняцову, 08.07.1946 г.

[177] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 543, арк. 37—45. Інфармацыйная запіска «Аб стане і сродках паляпшэння палітычнай працы сярод апалячаных беларусаў і польскага насельніцтва ў заходніх абласцях БССР», чэрвень 1947 г., за подпісам 1-га сакратара ЦК КП(б)Б М.Гусарава.

[178] Тамсама.

Неўзабаве партыйныя ўлады абласнога ўзроўню атрымалі ўказанні адносна правядзення падрыхтоўчай працы па ліквідацыі нешматлікіх на той час польскамоўных школ. У Гродзенскай вобл. у лістападзе 1947 г. адбылася нарада па гэтым пытанні. Сакратар абкама Калінін паўтарыў тэзісы прыведзенай вышэй запіскі Жданаву, зрабіўшы асаблівы акцэнт на адсутнасці перспектыў для польскамоўных школ у СССР[179].

Усю справу завяршыла ліквідацыя апошняй польскамоўнай сярэдняй школы № 2 у Гродне ў 1948 г. Бацькам на сходзе было зачытана рашэнне аб ліквідацыі школы[180]. На пачатку 1948/1949 навучальнага года ў заходніх абласцях БССР не было ніводнай школы з польскай мовай навучаня. З таго часу ў СССР польскамоўныя школы працавалі толькі ў Літве і Украіне (у Львове).

## УЛАДЫ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПОЛЬШЧЫ І ПАЛЯКІ Ў СССР

У гэтай сітуацыі цікавасць уяўляюць роля і стаўленне камуністычнай улады Рэспублікі Польшча да лёсу землякоў і польскамоўнай адукацыі. Трэба сказаць, што, нягледзячы на залежнасць ад Масквы, прадстаўнікі ўлады ў Варшаве час ад часу падымалі праблему палякаў за ўсходняй мяжой, найчасцей у сувязі з рэпатрыяцыяй. Такія запыты, якія пераважна датычыліся лёсаў сваякоў дзеячаў Польскай рабочай партыі, як правіла заставаліся без адказу з савецкага боку. У запісцы «грамадзяніну Прэзідэнту РП Баляславу Беруту» 1947 г., якая прыйшла з аддзела замежных спраў ЦК ПРП, у сувязі з гэтым пісалася: «Факт застаецца фактам, што ніводзін чалавек на наш запыт у краіну не вярнуўся»[181].

Умяшальніцтва ва «ўнутраныя справы» СССР, да якіх адносілі таксама і адукацыю, было б нечым нечуваным для польскай кіраўнічай эліты, якая была абавязана сваёй уладай савецкаму кіраўніцтву. Нават у пытанні магчымага абмену настаўнікамі, падручнікамі і часопісамі не было зроблена ніякіх захадаў, тым больш што, як сведчаць выказванні савецкіх партыйных функцыянераў, «тагачасныя польскія падручнікі не задавальнялі патрэбаў ідэалагічнага выхавання ў Савецкім Саюзе»[182]. Польскія падручнікі, якія выдаваліся ў 1945—1947 гг. і былі дапушчаны Міністэрствам адукацыі Польшчы, былі цікавымі, адпаведнымі ўзросту вучняў і, самае важнае, пазбаўленымі вульгарнай палітычнай прапаганды, насычаныя станоўчым эмацыйным зарадам. У СССР гэта было недапушчальным[183].

Інфармацыйная запіска, складзеная тагачасным міністрам адукацыі Польшчы Станіславам Скшэшэўскім, якая ўтрымлівала прапанову наладзіць су-

---

179 Tokć S. Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim BSRS 1945—1959 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 21. 2004. S. 119—120. Стэнаграму размовы з настаўнікамі польскамоўных школ гл. у дадатку (Дакумент № 4).

180 Szumski J. Szkolnictwo ... S. 196—197.

181 Archiwum Akt Nowych w Warszawie, sygn. 295/XX-5, k. 1—6.

182 ДАГВ. Ф. 127, воп. 1, спр. 45, арк. 128. Пратакол бацькоўскага сходу ў школе № 2 Гродна, 04.07.1948 г.

183 Цыт. паводле: Kryńska E.J., Mauersberg S.W. Indoktrynacja młodzieży szkolnej w Polsce w latach 1945—1956. Białystok, 2003. S. 65.

працоўніцтва з міністэрствамі адукацыі БССР і УССР, трапіла ў аддзел замежных спраў ПРП, дзе была адкладзена ў стол[184]. У сакрэтнай запісцы, створанай у аддзеле па справах польскай дыяспары 28 сакавіка 1949 г., якая трапіла ў Міністэрства адукацыі і датычыла прызнання атэстатаў, што выдаваліся пераважна ў СССР і паланістычнай адукацыі ў іншых краінах, польскамоўная школьная адукацыя ў СССР наогул не згадваецца:

> Аддзел па справах польскай дыяспары перасылае адказ на ліст Міністэрства адукацыі № GM. 3079/49 ад 16 траўня мінулага года і просіць даць па магчымасці поўныя дадзеныя аб польскіх школах, паколькі Міністэрства адукацыі жадае, калі ёсць такая магчымасць, праверыць школьныя атэстаты, якія выдаваліся падчас мінулай вайны за мяжой рознага роду польскімі школамі і курсамі, а адсутнасць звестак пра навучанне можа прывесці да адмовы нават у выпадках, калі атэстат варта было б зацвердзіць. Гэтае пытанне мае вельмі істотнае значэнне для рэпатрыянтаў. Гэта датычыць таксама цяперашняга рэакцыйнага школьнага навучання, хаця Міністэрства адукацыі стаіць на пазіцыі непрызнання атэстатаў польскіх школ, якія не знаходзіліся пад яго кіраўніцтвам, акрамя атэстатаў, выдадзеных да 1946 г. Аддзел просіць пацвердзіць, што на вашай тэрыторыі няма і не было польскіх школ, якія мы фінансуем[185].

Прапанова Варшавы, накіраваная ў пасольства Польшчы ў Маскве, якая прадугледжвала пэўныя субсідыі для польскамоўных школ у Вільні, напаткала неадабрэнне савецкага боку. Адказ Масквы — «польскія школы ў Літве знаходзяцца на ўтрыманні савецкай улады» — даваў зразумець, што наступныя крокі ў гэтым кірунку непажаданыя[186]. Адукацыя на польскай мове на тэрыторыі асобных савецкіх рэспублік лічылася выключна ўнутранай справай. З 1949 г. у адным з рапартаў пасольства Рэспублікі Польшча ў Маскве сцвярджаецца:

> Консульскі аддзел Польскага пасольства ў Маскве тлумачыць, што ў СССР няма польскай дыяспары ў тым разуменні, як гэта мае месца ў іншых дзяржавах, а таму тутэйшае прадстаўніцтва не можа праводзіць дзейнасць у галіне паланістыкі і рабіць справаздачы аб патрэбах польскай дыяспары ў СССР[187].

Палякі ў Савецкім Саюзе, а асабліва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, былі пазбаўлены магчымасці атрымліваць адукацыю па-польску і ў выніку русіфікаваліся. Наступствы гэтай палітыкі вельмі адчувальныя зараз, калі большасць тых, хто падае сябе падчас перапісаў палякам паводле нацыянальнасці, не валодае польскай мовай, што адрознівае іх, напрыклад, ад палякаў Віленшчыны.

---

[184] Archiwum Akt Nowych w Warszawie, sygn. 295/XX-101; 18.II.1948 r., k. 1—36.

[185] Archiwum Akt Nowych w Warszawie, Zespół Ministerstwa Oświaty, sygn. 8/28, k. 6.

[186] Archiwum MZS Polski, Zespół depesz, op. 3, teczka 38, k. 32; op. 3, teczka 37, k. 141.

[187] Archiwum MZS Polski, Zespół 20 (Biuro Konsularne), teczka 71, k. 1. Дакладная запіска аб патрэбах польскай дыяспары (nr 272/2/49). Гл. дадатак: «Рапарт пасольства Польшчы ў Маскве на тэму польскай дыяспары ў СССР».

## НАСТАЎНІЦКІЯ КАДРЫ

Вернемся да гаворкі пра пытанні адукацыі. У сістэме школьнага навучання на тэрыторыі Заходняй Беларусі на першы план выйшла пытанне настаўніцкіх кадраў. Гэтай праблеме партыйнае кіраўніцтва надавала шмат увагі, паколькі педагог, па задуме ўлады, павінен быў рэалізоўваць прынцыпы савецкай палітыкі, праводзіць у асяроддзі моладзі новую ідэалогію, якая абапіралася на іншыя каштоўнасці і дактрыны, а таксама весці прапагандысцкую працу сярод насельніцтва. Згодна з дырэктывамі, «савецкі настаўнік павінен выхоўваць у дзецях любоў да працы, вернасць свайму народу (*зразумела, савецкаму — Я.Ш.*), нянавісць да ворагаў. Настаўнік павінен быць першым памочнікам партыі ў справе прапаганды сярод насельніцтва. Таму важным з'яўляецца авалоданне палітычнымі ведамі, каб выконваць функцыі бальшавіцкага агітатара»[188].

Самая вялікая праблема заключалася ў тым, што большасць педагогаў атрымала адукацыю ў «буржуазнай Польшчы», а замяніць іх на той момант не было магчымым, таму што існаваў дэфіцыт кваліфікаваных педагагічных кадраў. У Маладзечанскай вобл., паводле звестак ЦК КП(б)Б, у 1947 г. працавала 2446 настаўнікаў, з іх 1745 знаходзіліся на акупаванай Германіяй тэрыторыі, 311 працавала ў арганізаваных нямецкімі ўладамі школах, 100 вярнулася з Германіі[189]. У Радашковіцкім раёне той самай вобл. 30% настаўнікаў атрымалі адукацыю ў «панскай Польшчы і ў перыяд нямецкай акупацыі», колькасць жа членаў УКП(б) складала толькі 0,5% ад агульнай. Педагагічныя кадры ацэньваліся наступным чынам:

> Значительная часть интеллигенции не имела доступа к реальной информации о советской действительности и достижениях советских ученых, пребывая под влиянием буржуазно-националистической идеологии. Как результат — перерожденцы, находящиеся под влиянием римско-католического духовенства, кулаков и т.д.[190]

Знаходжанне пад нямецкай акупацыяй аўтаматычна ставіла чалавека ў шэраг падазроных. Настаўніца з Валожынскага раёна Кузьміцкая паходзіла з-пад Кракава і «праводзіла паланізатарскую працу»[191]. «Засмечанасць школ варожымі элементамі» перашкаджала рэалізоўваць прынцыпы прапаганды. Адной з праблем быў удзел значнай часткі настаўнікаў і школьнікаў у рэлігійным жыцці. Большасць настаўнікаў Маладзечанскай вобл. наведвала касцёлы і цэрквы. У Радашковіцкім раёне, як зафіксавалі савецкія крыніцы,

---

[188] За советскую родину, 1944, № 2 (17), арк. 3. Газета выдавалася Гродзенскім райкамам КП(б)Б і Гродзенскім райвыканкамам.

[189] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 314. Паведамленне сакратара ЦК КП(б)Б М.Т.Іоўчука «Аб палітычнай працы сярод інтэлігенцыі Маладзечанскай вобл.», без даты, не раней за кастрычнік 1947 г.

[190] Тамсама.

[191] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202, арк. 271—273. Паведамленне аб працы з настаўніцкімі кадрамі Маладзечанскай вобл., не пазней за жнівень 1947 г., за подпісам загадчыка раённага аддзела адукацыі Кныша.

здараліся выпадкі, калі «дзеці, прапускаючы школьныя заняткі, наведвалі рэлігійныя заняткі з ксяндзом»[192].

Найвялікшая пагроза бачылася ў звароце прыезджых з усходу настаўнікаў да веры і іх удзеле ў рэлігійным жыцці. У Маладзечне настаўнік Уткін (*немясцовы — Я.Ш.*), прыняты ў УКП(б), узяў шлюб у каталіцкім касцёле і рэгулярна яго наведваў. Падобныя паводзіны прысланых кадраў зафіксаваныя ў многіх населеных пунктах. Нягледзячы на нібыта добрыя стасункі ўлады з РПЦ, да ўдзелу інтэлігенцыі ў рэлігійным жыцці ставіліся вельмі адмоўна. Двое настаўнікаў, Зяновіч і Палявода, Князікоўскай сямігодкі Іўеўскага раёна (немясцовыя) былі пераведзены на працу ў іншы раён за тое, што вянчаліся ў царкве ў Маладзечне[193]. Найбольш «засмечанымі» былі настаўніцкія кадры ў Гродзенскай вобл., а асаблівая ўвага надавалася польскамоўнай школе № 2 горада Гродна. Паводле паведамлення Гродзенскага абкама, «у школе квітнее рэакцыйна-шавіністычная атмасфера, якую стварае дырэктар Савіцкі. Ён сцвярджае: «Наша школа — польская, а вы — палякі, таму павінны дапамагаць школе»»[194]. У Гродзенскім педагагічным інстытуце выкладаў былы магістр тэалогіі Рэй, якія быў пасвечаны ў ксяндзы ў 1946 г. У дачыненні да некаторых прадстаўнікоў інтэлігенцыі ўлады прымянялі рэпрэсіі. Напрыклад, выкладчык педагагічнага інстытута Вольф быў арыштаваны ў Гродне органамі НКУС за цытаванне Троцкага[195].

Педагагічныя кадры, якія скончылі навучанне ў часы Польшчы, складалі ў заходніх абласцях Беларусі 2 166 чалавек на канец 1949 г. У педагагічных і настаўніцкіх інстытутах навучалася ў той час 764 студэнты з ліку «заходнікаў»[196].

Адным з міфаў, якія распаўсюджвала савецкая прапаганда, быў тэзіс аб усеагульным ахопе школьным навучаннем і з'яўленні магчымасці для мясцовага насельніцтва атрымоўваць адукацыю. Вядома, што ў міжваеннай Польшчы на гэтай тэрыторыі не было вышэйшых навучальных устаноў. У перыяд так званых «першых Саветаў» гэты факт шырока выкарыстоўваўся ў савецкай прапагандзе і павінен быў давесці каланіяльны характар польскай улады на «крэсах». Нельга аспрэчыць той факт, што на далучаных да БССР тэрыторыях значна павялічылася колькасць адукацыйных устаноў. Разнастайныя савецкія культурна-адукацыйныя ўстановы праводзілі барацьбу з непісьменнасцю. На працягу некалькіх пасляваенных гадоў сітуацыя ў гэтай сферы значна палепшылася. Паводле афіцыйнай савецкай статыстыкі, у заходніх абласцях колькасць непісьменных у 1950 г. зменшылася да 370 тыс.,

---

192 НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 348. Запіска ў ЦК КП(б)Б загадчыка аддзела адукацыі Радашковіцкага раёна В.Гадэшкі, 14.10.1947 г.

193 Тамсама.

194 НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 42. Інфармацыйная запіска аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б) Беларусі, 18.08.1947 г.

195 Тамсама.

196 НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 304. Дадатак да паведамлення аб арганізацыі калгасаў у заходніх абласцях БССР, 10.06.1949 г.

а паўпісьменных — да 534 тыс. чалавек[197]. Працавалі вячэрнія школы для дарослых, так званыя школы «вясковай моладзі», «гарадской моладзі» і вячэрнія класы. У савецкай літаратуры на гэтую тэму існуе вялікая колькасць прац, прыводзяцца сур'ёзныя колькасныя дадзеныя. Можна па-рознаму да гэтага ставіцца, аднак дасягненні савецкай улады на ніве адукацыі, асабліва абавязковая школьная адукацыя для дзяцей, барацьба з непісьменнасцю робяць моцнае ўражанне.

Для пэўнай часткі грамадства, асабліва для вясковай моладзі з незаможных сем'яў, гэта была магчымасць сацыяльна вырасці, уцячы з калгаснай вёскі ў пошуках лепшай долі. Аднак, нягледзячы на тое, што ўлады адкрылі некалькі вышэйшых навучальных устаноў, сітуацыя ў пасляваенны перыяд не асабліва выправілася. У адчыненых савецкімі ўладамі навучальных установах працэнт мясцовай моладзі павялічыўся нязначна. У Гродне ў 1947 г. у будаўнічым тэхнікуме са 126 навучэнцаў мясцовымі былі толькі 48. У фельчарска-акушэрскім вучылішчы з 226 навучэнцаў мясцовымі былі 75, у фармацэўтычным вучылішчы са 159 вучняў — 58. Найбольш нізкі працэнт мясцовай моладзі быў у трох педагагічных вучылішчах: з 632 навучэнцаў толькі 42 былі мясцовымі[198]. Для параўнання з усходняй часткай Беларусі прывядзём наступныя лічбы. З 27 вышэйшых навучальных устаноў на захадзе Беларусі ў 1953 г. знаходзілася толькі 6, са 118 тэхнікумаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — усяго 32[199].

Падобным чынам выглядала сітуацыя і ў Заходняй Украіне. Сярод студэнтаў у Львове мясцовая моладзь складала толькі палову, на паліграфічных спецыяльнасцях, па спецыяльнасці дэкаратара памяшканняў і прыкладнога мастацтва — 23%. У Чарнаўцах колькасць мясцовых у навучальных установах не перавышала 50%. Прафесарскія кадры ў вышэйшай школе былі збольшага немясцовымі. З 1718 прафесараў і выкладчыкаў 20 навучальных устаноў Львова мясцовыя складалі толькі 320 чалавек. На пасадзе дэкана факультэта не было ніводнага ўкраінца з заходняй часткі рэспублікі, а з 42 дэканаў толькі двое былі мясцовага паходжання. Большасць прадметаў выкладалася па-руску[200].

Настаўніцкія кадры, якія атрымалі адукацыю ў «буржуазнай Польшчы», планавалася паступова замяніць, з імі вялася пастаянная ідэалагічная праца. У рэзалюцыі VI Пленума ЦК КП(б)Б шмат месца прысвечана інтэлігенцыі з заходніх абласцей БССР:

> Исключительно важной задачей является организация марксистско-ленинского воспитания интеллигенции в западных областях БССР. Партийные организации обязаны учитывать, что большая часть интеллигенции в западных областях формировалась в панской Польше, под влиянием помещичье-буржуазной идеологии, что у старых кадров интеллигенции

---

[197] Дарашэвіч Э.К., Пасэ У.С., Сянкевіч Г.Р., Ткачоў М.А., Трухан А.В. Асвета ... С. 209.

[198] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 30. Інфармацыйная запіска «Аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б)Б», 18.08.1947 г.

[199] Касцюк М. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мінск, 1997. С. 262.

[200] Русначенко А. Народ збурений ... С. 276.

ещё сильны капиталистические предрассудки (...). Необходимо глубже развернуть работу по разъяснению всей интеллигенции её большой роли в нашем Советском государстве (...), разоблачать предательскую профашистскую и антинародную политику бывших правящих классов Польши[201].

ЦК УКП(б) яшчэ ў студзені 1945 г. выдаў даручэнне народнаму камісару РСФСР Пацёмкіну на працягу сакавіка—жніўня 1945 г. скіраваць у заходнія вобласці БССР усіх настаўнікаў-беларусаў, якія працуюць у Расіі[202]. Партыйныя і савецкія ўлады ў Мінску прынялі ў красавіку 1945 г. супольную пастанову адносна пытання школ у Заходняй Беларусі[203]. Акрамя адкрыцця педагагічных вучылішчаў у Ашмянах (Маладзечанская вобл.), Лунінцы (Пінская вобл.), Пружанах (Брэсцкая вобл.) і педагагічнага інстытута ў Маладзечне, яна прадугледжвала накіраванне ў заходнюю частку 400 настаўнікаў з усходу Беларусі, а таксама 800 выпускнікоў усходніх педагагічных навучальных установ. Усе выпускнікі педагагічных вучылішчаў і інстытутаў, якія знаходзіліся ў Заходняй Беларусі, павінны былі застацца на месцы. Настаўнікаў, вернутых у 1945 г. з эвакуацыі (1000 чалавек), а таксама большасць дэмабілізаваных з Чырвонай Арміі таксама належала скіроўваць на працу ў заходнія вобласці[204]. У савецкай сістэме распрацаваныя планы вельмі часта адрозніваліся ад іх рэалізацыі. Згодна з дадзенымі Гродзенскага абкама, са 100 запланаваных у 1945 г. настаўнікаў на тэрыторыю вобласці прыехала 54, а ў Гродзенскім педагагічным інстытуце ніводзін выкладчык не меў навуковай ступені[205].

Асабліва недахоп настаўнікаў адчуваўся ў памежных раёнах Заходняй Беларусі ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, адкуль у час рэпатрыяцыі выехала шмат педагогаў. Выконваючы чарговую пастанову ЦК КП(б)Б аб дапамозе памежным раёнам у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, тагачасны міністр адукацыі БССР Саевіч накіраваў да пачатку 1950—1951 навучальнага года ў Гродзенскую вобл. 279 маладых спецыялістаў, у Брэсцкую — 217[206].

---

[201] Пастанова VI Пленума ЦК КП(б)Б, які праходзіў 12—18.02.1945 г.// Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. 1933—1945. Минск, 1985. С. 520.

[202] Пастанова ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 . «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 535.

[203] Пастанова Савета Народных Камісараў і ЦК КП(б)Б ад 17 красавіка 1945 г. «Аб сродках дапамогі школам заходніх абласцей БССР» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. 1933—1945. Минск, 1985. С. 528—531.

[204] Тамсама.

[205] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 7, арк. 200. Пратакол № 60 бюро Гродзенскага абкама, 15.10.1945 г.

[206] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 122, арк. 477—479. Інфармацыйная запіска «Аб выкананні пастановы ЦК КП(б)Б ад 16 верасня 1950 г. аб дапамозе памежным раёнам Брэсцкай і Гродзенскай абласцей БССР», 30.11.1950 г., за подпісам міністра адукацыі БССР Саевіча.

Такія лічбы ў маштабах згаданых абласцей не маглі, відавочна, задаволіць на той час патрэбы ў кадрах. Іх недахоп тлумачыўся прызывам настаўнікаў, якія падпадалі пад вайсковы абавязак, у войска. Планавалася таксама на працягу 1951 г. выдзеліць на будаўніцтва школ у Брэсцкай вобл. 5 200 руб., у Гродзенскай — 5 110 руб.[207]

## АДУКАЦЫЯ І КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ

Вышэйшае кіраўніцтва ў Маскве і асабіста Андрэй Жданаў, які кіраваў тагачаснай савецкай палітыкай у галіне культуры і ідэалогіі, надавалі вялікае значэнне палітызацыі і падпарадкаванню патрэбам ідэалогіі адукацыйнай сістэмы на ўсіх узроўнях. У 1946 г. Жданаў распрацаваў план паляпшэння ідэйна-выхаваўчай працы ў адукацыйных установах трох узроўняў: пачатковых, сярэдніх і няпоўных сярэдніх школ, а таксама вышэйшых навучальных устаноў. Прыведзены ніжэй дакумент, складзены Жданавым, паведамляе пра мерапрыемствы, якія ажыццявіла ўлада у той перыяд:

> На собрании выпускников (неразборчиво) речью тов. Сталина со всей остротой поставлены вопросы ликвидации голода кадров и о воспитании новых кадров для всех отраслей соцстроительства. Эта задача стала отныне главной задачей партии.
>
> В деле воспитания новых кадров исключительное значение имеет школа начальная, средняя и высшая и надлежащая постановка школьного дела.
>
> За последние годы произошел усиленный рост школ начальных, средних и высших. Однако этот рост не сопровождается соответствующим улучшением учебной и политико-воспитательной работы в наших школах.
>
> Обследованиями ЦК и КПК (*Комиссия партийного контроля — Я.Ш.*) вскрыты крупнейшие недостатки как в области учебной, так и особенно воспитательной работы в школах начальных, средних и высших, свидетельствующие о крайне неудовлетворительном состоянии школьного дела и руководства им. Это показывает, что Наркоматы явно недостаточно руководят делом воспитания кадров для нужд своей отрасли, а отсутствие единого союзного центра по школе и разбросанность школьного дела по ведомствам и республикам затрудняет партийный контроль и руководство школьным делом. Поэтому для разработки мероприятий по радикальному улучшению работы школ с созданием отдела школ всех ступеней при ЦК ВКП(б) считаем необходимым создание трех комиссий ЦК по школе:
>
> Комиссия по высшей школе (созыв за тов. Ждановым);
>
> Комиссия по неполной средней и средней школе (созыв за тов. Волгиным);
>
> Комиссия по начальной школе (созыв за тов. Косыревым);
>
> Комиссии должны детально проверить положение в школах и разработать мероприятия по улучшению школьного дела во всех отношениях и особенно в области:

---

[207] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 122, арк. 477—479. Інфармацыйная запіска «Аб выкананні пастановы ЦК КП(б)Б ад 16 верасня 1950 г. аб дапамозе памежным раёнам Брэсцкай і Гродзенскай абласцей БССР», 30.11.1950 г., за подпісам міністра адукацыі БССР Саевіча..




*За працамі Сталіна. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

Выработки учебных планов и программ;
Учебников;
Преподаванием и подготовкой и назначением преподавателей;
По управлению школами;
По сети школ;
По порядку комплектования школ;
По вопросам материального положения учащихся;
По вопросам политико-воспитательной и партийно-комсомольской работы в школах.

Председатели комиссии должны в двухнедельный срок представить на утверждение Политбюро состав комиссии[208].

Працэс выхавання маладога пакалення ў адпаведным ідэалагічным і палітычным духу знаходзіўся ў цэнтры ўвагі партыі, і кожны абласны камітэт меў аддзел па школьных справах, які кантраляваў школьны працэс і ідэалагічна-палітычнае выхаванне. Вялікую ролю ў гэтым павінны былі адыгрываць педагагічныя кадры, якія пасля адпаведнай падрыхтоўкі мусілі, на думку ўладаў, давесці вучням ідэйна-палітычныя дырэктывы.

## «ПЕРАПАДРЫХТОЎКА» НАСТАЎНІЦКІХ КАДРАЎ

Сфера выкарыстання педагагічных кадраў у савецкай ідэйна-прапагандысцкай сістэме не абмяжоўвалася толькі школьным працэсам. Настаўнік павінен быў таксама пашыраць у грамадстве дзяржаўную ідэалогію, прымаць актыўны ўдзел у разнастайных дзяржаўных кампаніях. Сакратар Гродзенскага абкама быў незадаволены педагагічнымі кадрамі з-за «адсутнасці дапамогі» ў правядзенні дзяржаўнай палітыкі. «Настаўнікі не праводзяць у сялянскіх масах ніякай палітычнай і культурна-асветніцкай працы», — такое абвінавачванне прагучала з вуснаў сакратара абласнога камітэта КП(б)Б Эльмана. Гэта, на яго думку, зрывала планы дзяржаўных паставак і было прычынай затрымкі выплат. «У сувязі з гэтым інтэлігенцыя павінна выкрываць фашысцкую прапаганду польскіх элементаў»[209].

З мэтай азнаямлення школьных настаўнікаў «з найноўшымі дасягненнямі савецкай педагогікі» і «каб пазбавіцца ад перажыткаў школы панскай Польшчы» раённымі аддзеламі адукацыі былі арганізаваны спецыяльныя курсы. У Маладзечанскай вобл. кожны абласны аддзел адукацыі арганізаваў штомесячныя «Дні настаўніка», у якіх удзельнічалі: 1-шы сакратар мясцовага райкама, старшыня райвыканкама, часам — лектары, накіраваныя аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б. Акрамя пытанняў, што непасрэдна датычыліся на-

---

[208] РГАСПИ. Ф. 77, оп. 3, д. 175, л. 1—7. Асабістая запіска Жданава ў ЦК УКП(б) «Аб паляпшэнні працы навучальных устаноў усіх узроўняў», без даты, не раней за другую палову 1946 г. Прыведзеная запіска паходзіць з архіва Жданава, у якім сабраны ўласнаручныя запіскі, эскізы, чарнавікі, праекты рознага кшталту дакументаў. З улікам той ролі, якую адыгрываў Жданаў у савецкай палітыцы ў галіне культуры і ідэалогіі, падобныя дакументы маюць першачарговую вартасць, таму што ўтрымліваюць не апрацаваныя цэнзурай меркаванні і праекты дзеянняў у той перыяд.

[209] Гродненская правда, 1945 г., № 180 (74), л. 4. Газета выдавалася пры Гродзенскім абкаме і аблвыканкаме.

вучальнага працэсу, настаўнікам чыталіся лекцыі аб міжнародных адносінах, аб палітыцы савецкай улады ў сельскай гаспадарцы і г.д.[210]

У Відзскім раёне (Полацкая вобл.) для настаўнікаў школ былі прачытаны лекцыі на наступныя тэмы: «Савецкі суд — самы дэмакратычны суд у свеце», «Аб судовай сістэме ў СССР» і г.д. Акрамя таго, 7—12 студзеня 1949 г. у Полацку праводзіўся практычны семінар для настаўнікаў дакладных навук (біялогіі, хіміі, фізікі), на якім былі прачытаны наступныя даклады: «Пастановы ЦК УКП(б) і ЦК КП(б)Б у галіне ідэалагічнай працы і задачы настаўніка біялогіі», «Роля агранамічнага вучэння Мічурына[211], Вільямса[212], Лысенкі[213] ў барацьбе за высокія і трывалыя ўраджаі»[214]. Кожная ідэалагічная кампанія, якая пачыналася ў цэнтры, праз пэўны час дасягала і перыферыі, кожны настаўнік павінен быў ведаць «правільную» версію і паслядоўна яе пашыраць. Аднак, як адзначаюць у сваіх справаздачах партыйныя функцыянеры, «значная частка настаўнікаў не прымае ўдзелу ў грамадскім жыцці і працуе на нізкім ідэйна-палітычным узроўні»[215].

Падобным чынам быў ахарактарызаваны «ідэйна-палітычны ўзровень» педагагічных кадраў Маладзечанскай вобл.: «Частка настаўнікаў праводзіць заняткі на нізкім ідэйна-палітычным узроўні, скажае гістарычную рэчаіснасць, не ўзмацняючы пачуццяў савецкага патрыятызму і народнага гонару за свой савецкі народ і сацыялістычную Айчыну»[216]. У выкладанні біялогіі

---

[210] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 202, арк. 271—273. Паведамленне аб працы з настаўніцкімі кадрамі Маладзечанскай вобл., не пазней за жнівень 1947 г., за подпісам загадчыка раённага аддзела адукацыі Кныша.

[211] Іван Уладзіміравіч Мічурын (1855—1935) — рускі і савецкі садавод, працаваў над скрыжаваннем раслін, выводзіў новыя гатункі дрэў і кустоў, устойлівыя да суровых кліматычных умоваў. Падтрымліваў ідэю амаль поўнага пераўтварэння чалавекам прыроды. Яго погляды, афармленыя ў тэорыю мічурынізму, выкарыстоўваліся ў дэфармаваным выглядзе Трафімам Лысенкам у прапагандысцкай кампаніі супраць «буржуазнай навукі» і законаў Мендэля.

[212] Васіль Робертавіч Вільямс (1863—1939) — рускі і савецкі навуковец, аграном, спецыяліст па біялагічным глебазнаўстве, член Акадэміі навук БССР (1929 г.), распрацаваў травапольную сістэму земляробства.

[213] Трафім Дзянісавіч Лысенка (1898—1976) — савецкі біёлаг і аграном, распрацаваў тэорыю неабмежаваных магчымасцей змянення арганізмаў, адмаўляючы законы спадчыннасці. Тэорыя Лысенкі была падтрымана асабіста Сталіным, што вызначыла лёс выдатных савецкіх генетыкаў, якія з гэтай прычыны зазналі праслед. Дзяржаўная падтрымка гэтай тэорыі і выкарыстанне яе ў прапагандысцкай кампаніі спрычынілася да таго, што былі занядбаны перспектыўныя кірункі развіцця біялогіі, а ненавуковыя ідэі «лысянкізму» пашыраліся.

[214] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 27—28. Справаздача аб праведзеных у студзені 1949 г. раённых нарадах для настаўнікаў і семінары для настаўнікаў біялогіі Полацкай вобл., 25.01.1949 г., за подпісам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Полацкай вобл. Гарбукова.

[215] Тамсама.

[216] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 49—51. Паведамленне аб выніках працы школ Маладзечанскай вобл. у першым паўгоддзі 1948/1949 навучальнага года. 09.04.1949 г.




*Падзяка таварышу Сталіну за шчаслівае дзяцінства. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

настаўнікамі Маладзечанскай вобл. былі заўважаны сур'ёзныя недахопы. Аднак пасля жнівеньскай сесіі УАСГНІЛ[217] (1948 г.) «настаўнікі біялогіі пачалі больш крытычна ставіцца да падручнікаў. Цяпер яны арыентуюцца на вучэнне Мічурына і карыстаюцца дакладам «Аб стане біялагічнай навукі» тав. Лысенкі».

Савецкі патрыятызм распаўсюджваўся ў школах шляхам прышчаплення вучням гонару за Савецкі Саюз, за яго дасягненні, пачуцця братэрскіх сувязей з рускім народам. У школе № 1 Маладзечна настаўнік геаграфіі Равякаў *(верагодна, рускі — Я.Ш.)* праводзіў для вучняў урокі на тэму «Гісторыя Масквы» і «Супольная барацьба рускага і беларускага народаў з чужаземнымі захопнікамі». Піянеры пісалі сачыненні на тэму «Падарожжа па родным краі», пры гэтым адна група апісвала Крым, а другая — Каўказ, матэрыялы браліся з піянерскіх газет[218].

Акрамя таго, вучняў трэба было выхоўваць, як адзначаў кіраўнік аддзела адукацыі Воранаўскага раёна, «на высокім ідэйна-палітычным узроўні, у духу любові да савецкай Айчыны, камуністычнай партыі, савецкага ўрада і вялікага Сталіна»[219]. Праграма выкладання гуманітарных навук прыстасоўвалася да патрэбаў марксісцкай тэорыі, якая рабіла акцэнт на класавым характары грамадскага развіцця. Зусім па-іншаму інтэрпрэтаваліся творы класікаў польскай літаратуры, частка якіх была наогул выключана са школьнай праграмы. Творчасць Міцкевіча вывучалася толькі ў сувязі з праявамі яго братэрскіх пачуццяў да рускага народа і сяброўства з Пушкіным. У польскай сярэдняй школе № 2 горада Гродна на ўроках польскай мовы пісалі сачыненні на тэму «Сяброўскія пачуцці да рускага народа ў творчасці А.Міцкевіча». На ўроках рускай мовы і літаратуры пісалі сачыненні пра «гераічныя подзвігі рускіх палярнікаў», пра «клопат таварыша Сталіна пра побыт працоўных мас», пра «нашу краіну» (*Савецкі Саюз — Я.Ш.*), пра творчасць Ламаносава, Гогаля. На ўроках геаграфіі тэмы выбіраліся ў ідэалагічным рэчышчы: «Аб перавагах сацыялістычнай эканомікі над капіталістычнай» і г.д.[220]

У суседняй Польшчы была спроба ўвесці падобную праграму навучання па гуманітарных навуках. Праграмы навучання ў васьмігадовай пачатковай школе ў Польшчы, якія былі надрукаваны ў канцы 1947 г., сярод агульных мэтаў навучання мелі таксама «самыя агульныя асновы навуковага мыслення» і «вернасць прынцыпам народнай дэмакратыі і грамадскай справядлівасці»[221]. У 1949 г. пераемнік Жанны Кармановай на пасадзе міністра адукацыі Юзаф Бардаг у дакладзе, зачытаным на агульнапольскім з'ездзе

---

[217] УАСГНІЛ — Усесаюзная акадэмія сельскагаспадарчых навук імя У.І.Леніна.

[218] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 294. Запіска аб стане палітычнага выхавання ў школе № 1 г. Маладзечна, без даты, не раней за 1 студзеня 1947 г., за подпісам члена групы прапаганды Маладзечанскага абкама Грыбца.

[219] Путь социализма, 1944, № 32. Газета выдавалася Воранаўскім раённым камітэтам КП(б)Б.

[220] Там же.

[221] Kryńska E. J., Mauersberg S. W. Indoktrynacja młodzieży szkolnej ... Białystok, 2003. S. 63.




*Заняткі па вывучэнні Канстытуцыі. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

школьных інспектараў, між іншым адзначыў, што «выкладанне гісторыі варта грунтаваць на марксісцкім метадзе гістарычнага матэрыялізму, звязваючы гістарычныя факты з грамадска-эканамічнай гісторыяй і класавай барацьбой (...). Кожны прадмет навучання можа непасрэдна або апасродкавана рабіць на моладзь ідэалагічны ўплыў»[222].

Акрамя вывучэння дыдактычна-выхаваўчых матэрыялаў, настаўнікі і вучні, а таксама іх бацькі павінны былі абавязкова вывучаць «Кароткі курс УКП(б)» і савецкую канстытуцыю. Вывучэнне «Кароткага курса УКП(б)» у школах Заходняй Беларусі пачалося з 1 кастрычніка 1944 г. згодна з пастановай УКП(б) ад 9 жніўня 1944 г.[223] У адной з раённых газет пісалася:

> Краткий курс ВКП(б) является энциклопедией знаний о марксизме-ленинизме, в которой исчерпывающим образом собраны опыт борьбы коммунистической партии, начиная от ее рождения до сегодняшнего дня. Каждый комсомолец обязан как минимум посвящать два часа в неделю для работы над ним и повышения своего идеологического и политического уровня[224].

Іншая пастанова ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. пастулявала абавязковае вывучэнне «асноў марксісцка-ленінскага вучэння, савецкай гісторыі і педагогікі» настаўнікамі заходніх абласцей БССР, якія «не атрымалі савецкай адукацыі» [225].

Савецкая канстытуцыя (*у тагачасных дакументах абодва словы пісаліся з вялікай літары — Я.Ш.*) заслугоўвае асобнай гаворкі. Вывучэнне «самай справядлівай і дэмактратычнай канстытуцыі ў свеце» было для ўлады нечым накшталт ідэфікс[226]. Для засваення Кароткага курса партыі ствараліся спецыяльныя гурткі, складаліся планы вывучэння чарговых раздзелаў, што павінна

---

[222] Kryńska E. J., Mauersberg S. W. Indoktrynacja młodzieży szkolnej ... Białystok, 2003. S. 73.

[223] Пастанова ЦК УКП(б) ад 09.08.1944 г. «Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б)Б у сферы масава-палітычнай і культурна-асветніцкай працы сярод насельніцтва» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 506—511.

[224] За Советы, 1944, № 27 (33), л.2. Газета выдавалася Сапоцкінскім РК КП(б)Б.

[225] Пастанова ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С.533—536.

[226] Сяргей Пясэцкі — польскі пісьменнік, які нарадзіўся ў Ляхавічах (цяпер Брэсцкая вобл.) і з 1944 г. знаходзіўся ў эміграцыі, у гумарыстычным ключы ахарактарызаваў кнігу «Аб праекце канстытуцыі Саюза ССР — Канстытуцыя (асноўны закон) Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» (Масква, 1945) як працу, што зрабіла на яго наймацнейшае ўражанне ад пачатку вайны. На думку пісьменніка, «яна была выдатна зроблена. Веліч аўтара падкрэслівае ўжо нават тое, што правілы арфаграфіі для яго не абавязковыя. Імя Сталіна пісалася маюскуламі, слова «Бог» — з малой літары (...). Сама канстытуцыя — абсалютна геніяльная рэч. Проста геніяльная мухалоўка для мух усяго свету. (...) Канстытуцыя Сталіна засланяе Бога, народ і ўсе маральныя ўяўленні». Цыт. паводле: Piasecki S. Autodenuncjacja, teksty autobiograficzne, wywiady, wspomnienia publicystyka / oprac. K. Polechoński. Warszawa, 2002. S. 105.

было, верагодна, дапамагчы ў працэсе ідэйнага выхавання.

Канстытуцыю вывучалі настаўнікі, дзеці, а таксама бацькі на абавязковых сходах. Гэта выклікала амаль паўсюдную непрыязнасць, пераважна прыхаваную, аднак часам некаторыя смельчакі адкрыта выказвалі сваё мерканне на гэты конт. Настаўніца польскамоўнай сярэдняй школы № 2 горада Гродна Шышко адкрыта заявіла, што «не хоча праводзіць заняткі па сталінскай канстытуцыі»[227]. У іншых польскамоўных школах Гродна, як сведчаць дакументы, «назіраецца непрыязнае стаўленне настаўнікаў да савецкай канстытуцыі, як, напрыклад, у восьмай польскай школе ў Гродне: некаторыя настаўнікі ненаўмысна робяць памылкі пры яе выкладанні. Гэта звязана, перш за ўсё, з недахопам ведаў пра савецкую рэчаіснасць»[228]. У Маладзечанскай вобл. заняткі па вывучэнні асобных раздзелаў канстытуцыі настаўнікамі зводзяцца да таго, «што іх зачытваюць і запісваюць пад дыктоўку»[229].

Гродзенскі абкам арганізаваў асобныя заняткі ў сферы масава-палітычнай працы паводле прафесійнага падзелу. Настаўнікі (45 чалавек) вывучалі кароткі курс УКП(б), лекары (18 чалавек) прайшлі 5 раздзел, асобна чыталіся лекцыі «работнікам мастацтва». Таксама была створана мужчынскае прафтэхвучылішча для работнікаў кіраўнічай вертыкалі. Паводле дадзеных абкама, у вобласці ў якасці агітатараў працавала 1 444 асобы, галоўным чынам, настаўнікі, супрацоўнікі службы аховы здароўя і студэнты[230].

## КАМСАМОЛЬСКІЯ І ПІЯНЕРСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

Важная роля ў фармаванні новай свядомасці і барацьбе з рэлігіяй адводзілася ў школах піянерскім і камсамольскім арганізацыям. Аднак палітычныя мэты гэтых арганізацый не маглі дастаткова заахвочваць вучняў да ўступлення ў іх шэрагі, тым больш што бацькі гэтаму рашуча праціўіліся. Нягледзячы на пастаянны ціск і моцную прапаганду, гэтае мерапрыемства на працягу першых пасляваенных гадоў не прыносіла пажаданых вынікаў.

У 1944/1945 навучальным годзе, а таксама ў наступным піянерскія і камсамольскія арганізацыі мелі ў сваіх шэрагах мізэрную колькасць вучняў, большасць членаў набіралася з дзяцей супрацоўнікаў савецкага апарату, якія прыехалі ў заходнія вобл. з іншых рэгіёнаў. У Гродзенскім раёне з агульнай колькасці — 6 066 вучняў — у піянерскія і камсамольскія арганізацыі ўваходзілі ў канцы 1945 г. толькі 103 асобы, у Сапоцкінскім раёне, дзе школы з польскай мовай навучання наведвалі 3 842 вучні, піянерскую арганізацыю ўдалося стварыць толькі ў адным рускім класе, дзе вучылася 19 чалавек[231]. У Радашковіцкім раёне (Маладзечанская вобл.) у 1945/1946 навучальным годзе

---

[227] Szumski J. Szkolnictwo ... S. 181.

[228] Ibidem.

[229] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 51. Паведамленне аб выніках працы школ Маладзечанскай вобл. у першым паўгоддзі 1948/1949 навучальнага года, 09.04.1949 г.

[230] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 250—262. Паведамленне «Аб стане масава-палітычнай працы ў раёнах Гродзенскай вобл.», 19.06.1946 г., за подпісам сакратара абкама па прапагандзе Грука.

[231] Szumski J. Szkolnictwo ... S. 182.



*Піянеры. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

было толькі дзве піянерскія ячэйкі. У наступным навучальным годзе ўдалося стварыць 15 арганізацый, у якія ўвайшло 868 вучняў. На думку загадчыка мясцовага аддзела адукацыі, «дзякуючы гэтаму, вучні перасталі наведваць царкву і касцёл»[232].

На працягу 1945 г. у камсамольскія арганізацыі Гродзенскай вобл. было прынята 2 427 чалавек, галоўным чынам — за кошт чыноўнікаў і вучняў школ (438 чалавек, паводле дадзеных на люты 1945 г.). У Сапоцкінскім раёне на працягу пяці месяцаў з мясцовых быў прыняты адзін чалавек, у Радунскім — два. Такая сітуацыя тлумачылася «агульным недаверам да мясцовай моладзі ў асобных камсамольскіх арганізацыях»[233]. Найгоршыя вынікі піянерскай і камсамольскай працы сярод вучняў адзначаліся ў «Сапоцкінскім, Радунскім, Шчучынскім раёнах і на іншых тэрыторыях, дзе жывуць пераважна палякі»[234]. Паводле інфармацыі сакратара Гродзенскага абласнога камітэта ЛКСМБ, на пачатку 1945 г. у згаданыя раёны былі накіраваны самыя лепшыя камсамольскія кадры, аднак гэта не прывяло да павелічэння колькасці піянерскіх арганізацый. У Сапоцкінскім раёне (1945 г.) піянерская арганізацыя налічвала 32 вучні (*дзеці прыезджых чыноўнікаў і функцыянераў — Я.Ш.*), у Радунскім — 48[235].

У справаздачы Гродзенскага абласнога аддзела адукацыі адзначаецца, «што пазашкольная праца з бацькамі, асабліва на тэрыторыях, дзе пражываюць пераважна палякі, пакідае жадаць лепшага. Польскае насельніцтва пазбягае бацькоўскіх сходаў»[236]. З 1159 вучняў польскай школы № 2 г. Гродна на канец 1946/1947 навучальнага года ніхто не ўступіў у камсамол, 70 вучняў фармальна ўваходзілі ў піянерскую арганізацыю[237]. Большасць педагогаў лічыла, што «школа павінна быць апалітычнай».

Такія выпадкі не былі адзінкавымі, у іншых заходніх абласцях БССР сітуацыя выглядала збольшага гэтак сама. У Пінскай вобл., паводле дадзеных на пачатак 1949 г., у многіх вясковых школах наогул не было піянерскіх арганізацый; у маштабе ўсёй вобласці ў іх уваходзіла 1/3 вучняў піянерскага ўзросту[238]. На пачатку 1949/1950 навучальнага года ў Свірскім раёне Маладзечанскай вобл. камсамольскія арганізацыі былі ў 4 з 10 сямігадовых

---

[232] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 352. Паведамленне ЦК КП(б)Б ад загадчыка аддзела адукацыі Радашковіцкага раёна В.Гадэшкі, 14.09.1947 г.

[233] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 88. Справаздача аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.

[234] Szumski J. Szkolnictwo ... S. 182.

[235] ДАГАГВ. Ф. 20, воп. 1, спр. 17, арк. 9—18. Справаздача за перыяд студзень—люты 1945 г., 04.02.1945 г., за подпісам сакратара абкама ЛКСМБ Беразенчыка.

[236] Szumski J. Szkolnictwo ... S. 183.

[237] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 233. Звесткі аб педагагічных кадрах у Гродзенскай вобл., 08.07.1947 г., за подпісам члена камісіі ЦК КП(б)Б Рапаніча.

[238] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 42. Запіска аб выніках студзеньскіх настаўніцкіх сходаў у Пінскай вобл., 02.02.1949 г., за подпісам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Пінскай вобл. Арнаутава.

школ, у Астравецкім — у 4 з 11, у Пастаўскім з 69 пачатковых школ толькі ў чатырох удалося стварыць піянерскія арганізацыі, у Ашмянскім раёне з 79 пачатковых школ у 62 не было піянерскіх арганізацый. Толькі ў Маладзечанскім і Вілейскім раёнах камсамольскія арганізацыі былі створаны ва ўсіх сямігадовых і сярэдніх школах[239].

Свядома непрыязнае стаўленне моладзі партыйныя ўлады зафіксавалі нават у рэзалюцыі Пленума ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў Мінску 12—18 лютага 1945 г.; спецыяльныя меркаванне на гэтую тэму:

> Партийные и комсомольские организации в своей работе должны учитывать, что в нынешней обстановке сильно повышается роль молодёжи в политической и хозяйственной жизни, и учитывать также, что одним из серьёзных последствий немецкой оккупации является то, что некоторая часть молодёжи Белоруссии, испытывавшая в течение трёх лет воздействие лживой фашистской пропаганды и будучи оторванной от правдивой советской информации, отстала в известной мере в идейном и политическом отношении (...). Важной задачей работы комсомольских организаций в западных областях Белоруссии является широкое ознакомление молодёжи с жизнью и историей прошлого и настоящего Советской Родины, с Конституцией. Необходимо неустанно разъяснять и показывать молодёжи, что только в условиях советского строя перед ней открыты неограниченные возможности для своего роста, образования и активного участия в государственной и общественной жизни[240].

За першыя 7 месяцаў 1946 г., паводле дадзеных ЦК КП(б)Б, у камсамол у БССР было прынята 14 144 новыя члены, у тым ліку сялян, жыхароў Заходняй Беларусі, было 2 894. Цэнтральны Камітэт у рэзалюцыі Пленума звярнуў асаблівую ўвагу на «вялізныя рэзервы моладзі ў заходніх абласцях БССР і магчымасці павелічэння шэрагаў ВЛКСМ»[241].

## МОЎНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Асаблівая роля ў працэсе індактрынацыі асветы належала рускай мове, якая павінна была выконваць функцыі аб'яднання ўсіх «народаў сям'і СССР». Пра новае месца і ролю рускай мовы ў савецкай прапагандзе ўжо гаварылася ў папярэдняй частцы працы. У дачыненні да Заходняй Беларусі гэта азначала паступовае набліжэнне адукацыйнай сістэмы, у тым ліку і мовы навучання, да агульнасавецкіх узораў. Школы з беларускай мовай навучання адчыняліся ў вёсках; у гарадах жа і пасёлках гарадскога тыпу, дзе канцэнтраваліся прыезджыя, адчыняліся рускія школы. Аналіз даступных дакументаў дазваляе зрабіць некалькі высноў. Па-першае, самыя горшыя адзнакі ў канцы наву-

---

[239] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 52. Паведамленне аб выніках працы школ Маладзечанскай вобл. у першым паўгоддзі 1948/1949 навучальнага года, 09.04.1949 г.

[240] Пастанова VI Пленума ЦК КП(б)Б, які адбыўся 12—18.02.1945 г. // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. 1933—1945. Минск, 1985. С. 521—522.

[241] Пастанова ЦК КП(б)Б ад 27 жніўня 1946 г. «Аб павелічэнні колькасці членаў ЛКСМБ і сродках папаўнення ідэйна-палітычнага выхавання камсамольцаў» // Там же. С. 522.

чальнага года вучні школ заходніх абласцей БССР заўсёды мелі па рускай і беларускай мовах. Часта дзеці не разумелі рускай мовы, літаратурная беларуская мова таксама была не заўсёды да канца зразумелай, бо дома карысталіся мясцовымі гаворкамі[242]. Дрэннае веданне гэтых моў згадваецца фактычна ў кожнай справаздачы аб выніках навучання.

Па-другое, у краіне праводзілася палітыка русіфікацыі сістэмы адукацыі, свядома аддавалася перавага рускай мове. Гэта выклікала нежаданне бацькоў аддаваць дзяцей у беларускія школы. Яны цудоўна разумелі, што школьнае навучанне на рускай мове ў будучыні дасць магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю і палепшыць сваё сацыяльнае становішча, таму выбар рабіўся на карысць рускамоўных школаў. Свой уплыў мела таксама пагардлівае стаўленне пэўных колаў грамадства да беларускай мовы. У тагачасных дакументах часта згадваецца, што грамадскасць падтрымлівае рускамоўныя школы, асабліва ў гарадах. Цікава, што ў гарадах, дзе зачыняліся польскамоўныя школы, рускамоўныя школы адчыняліся па ініцыятыве бацькоў, беларускія ж школы захоўваліся пераважна ў вёсках і выконвалі пераважна дэкаратыўную функцыю — аздабленнія фасада «беларускай дзяржаўнасці» ў складзе СССР. Дыскрымінацыя і выцясненне беларускай мовы з грамадскага жыцця і ўстаноў прывялі да таго, што яна пачала ўспрымацца як мова вёскі, неадукаваных людзей, а праз некаторы час стала «мовай калгаснікаў».

Па-трэцяе, нямецкая акупацыя, нацыянальная і адукацыйная палітыка на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь адыгралі пэўную ролю ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў, асабліва моладзі. Не выпадкова ў першыя пасляваенныя гады ўзнікалі падпольныя моладзевыя арганізацыі (Паставы, Мядзел), якія мелі пераважна культурна-асветніцкія мэты. Іх дзейнасць апісвалася ў раздзеле, прысвечаным беларускаму нацыянальнаму падполлю. Нават нясмелыя спробы заступацца за сваю мову, выказвацца ў яе абарону або занадта актыўна культываваць, душыліся ў зародку. Найчасцей такія актывісты абвінавачваліся ў «буржуазным нацыяналізме». У рэспубліцы была ўстаноўка на татальную русіфікацыю ўсіх сфер публічнага жыцця.

У выніку гэтай палітыкі амаль усе адукацыйныя ўстановы і школы розных узроўняў працавалі на рускай мове. Амаль усе даступныя справаздачы аб працы беларускамоўных школ напісаны па-руску (за выключэннем асобных рэдкіх выпадкаў). Паўсюднае панаванне рускай мовы абуджала ціхае супраціўленне. У педагагічным інстытуце ў Гродне выкладчык беларускай мовы і літаратуры Міхалап заявіў, што «ў школах, акрамя шыльды, беларускага нічога няма»[243]. У сельскагаспадарчым і медыцынскім інстытутах пабеларуску не выкладаўся ніводны прадмет. У Брэсце з 14 школ на той час толькі адна, паводле слоў 1-га сакратара абкама Кісялёва, «лічыцца беларускай».

---

[242] Гутарка, праведзеная аўтарам з Ірэнай Кулевіч 21.09.2006 г. (1935 г. н.) у вёсцы Піляўсі Шчучынскага раёна. Яна згадвае, што на ўроках беларускай мовы неаднойчы здараліся непаразуменні, прычынай якіх было няведанне некаторых слоў, замацаваных у якасці літаратурных канонаў. На пытанне настаўніка, колькі ў пеўня ног, вучань адказаў, што чатыры. У мясцовым дыялекце ўжывалася слова «пятух».

[243] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 580, арк. 42. Інфармацыйная запіска аб працы з кадрамі Гродзенскага абкама КП(б) Беларусі, 18.08.1947 г.

Нават у сталіцы — Мінску — з 48 школ толькі 9 былі беларускамоўнымі[244]. Міністр адукацыі БССР І.Ільюшын у 1951 г. заявіў:

> Руская мова — другая родная мова для ўсіх народаў на тэрыторыі Савецкага Саюза[245].
>
> У 1952—1953 навучальным годзе ў 29 райцэнтрах Заходняй Беларусі працавалі выключна рускамоўныя школы. У красавіку 1951 г. Міністэрства адукацыі БССР выдала распараджэнне, адпаведна якому беларуская мова больш не здавалася як абавязковы выпускны экзамен у рускіх школах. Не застаўся ў баку ад моўнага пытання і ЦК КП(б)Б, які ў чэрвені 1952 г. вызначыў найважнейшыя напрамкі моўнай палітыкі ў пастанове «Аб ходзе выкладання рускай і беларускай моў у школах БССР у святле вучэння таварыша Сталіна аб мовазнаўстве»[246].

Функцыянаванне адукацыйнай сістэмы ў заходніх абласцях БССР адрознівалася ад іншых саюзных рэспублік. Выкарыстанне тут прапаганды, пашырэнне савецкай ідэалогіі праходзіла паводле агульнасаюзнага ўзору, аднак рабіліся пэўныя спробы прыстасавацца да мясцовых умоў. Тым не менш, галоўнай мэтай адукацыйнай палітыкі як складовай часткі усёй дзяржаўнай палітыкі было прывядзенне гэтых тэрыторый да агульнасавецкіх стандартаў. Вопыт апошніх гадоў у гісторыі незалежнай Беларусі сведчыць пра тое, што савецкая школа пусціла тут глыбокія карані, а сучасная ўлада ў многіх выпадках пераймае стыль і метады прапаганды, прынятыя ў Савецкім Саюзе.

## III.IV. ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ ЗАХОДНІХ АБЛАСЦЕЙ БССР

Выдавецкая дзейнасць мела асаблівае значэнне ў савецкай сістэме прапаганды. Пры дапамозе яе распаўсюджвалася прапушчаная цэнзурай інфармацыя, якая павінна была ствараць вобраз той рэчаіснасці, якую прапаганда навязвала. З улікам таго, што гэтае пытанне вельмі шырокае, у дадзеным раздзеле спынімся больш падрабязна на асобных момантах, звязаных з функцыянаваннем прэсы на тэрыторыі заходніх абласцей БССР, на школьных падручніках, прапагандысцкіх выдавецтвах, а таксама на цэнзуры.

Адно з першых партыйных распараджэнняў адносна прэсы і друку датуецца 9 жніўня 1944 г. У пастанове ЦК УКП(б) прыводзіцца канкрэтны план дзеянняў у гэтай галіне:

— Да 15 верасня набраць палітычна падрыхтаваных і здольных да журналісцкай дзейнасці супрацоўнікаў на пасады рэдактараў і сакратароў газет, а таксама арганізаваць курсы павышэння кваліфікацыі;

— У БДУ адчыніць факультэт журналістыкі;

— Абавязаць аддзелы прапаганды ЦК і абкамаў да штодзённага кантролю за зместам газет;

---

[244] НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 232, арк. 11—63. Стэнаграма Пленума ЦК КПБ ад 25—27.06.1953 г.

[245] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 209.

[246] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. II. Мінск, 1995. С. 362.



*Чытанне газеты «Савецкі селянін». Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

— Арганізаваць пры ЦК КП(б) партыйную школу для прапагандыстаў са спецыяльным аддзелам журналістыкі (газетны аддзел), колькасць слухачоў якой павінна складаць 400 чалавек[247].

Практыка арганізацыі для журналістаў газет курсаў павышэння кваліфікацыі пры ЦК УКП(б) у Маскве і ў асобных савецкіх рэспубліках сведчыла пра вялікае значэнне, якое надавалася прэсе, асабліва ў час вайны. Спецыяльныя Цэнтральныя газетныя курсы пры ЦК УКП(б) (1943—1947 гг.) служылі павышэнню прафесійнай кваліфікацыі супрацоўнікаў рэдакцый газет[248]. Такія курсы вырашана было стварыць і ў Мінску.

## ПРЭСА Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Згодна з рашэннем маскоўскай улады, ЦК ЛКСМ атрымаў дырэктыву арганізаваць выданне газеты для беларускай моладзі. Яна павінна была называцца «Сталинская молодежь», выходзіць накладам 20 тыс. экзэмпляраў тры разы на тыдзень на рускай мове. Для дзяцей малодшага ўзросту выдавалася газета «Піянер Беларусі» на рускай і беларускай мовах накладам 10 тыс. экзэмпляраў раз на тыдзень[249]. Акрамя таго, было вырашана аднавіць дзейнасць прапагандысцка-асветніцкіх устаноў, у тым ліку бібліятэк, клубаў, раённых дамоў культуры і абласных дамоў народнай творчасці. У кожным клубе павінны былі быць цэнтральныя газеты «Правда» ці «Известия», «Социалистическое земледелие», а таксама часопісы «Спутник агитатора» і «Крестьянка»[250]. Для савецкіх і партыйных кадраў планавалася аднавіць выданне часопіса «Большевик Белоруссии»[251].

Для сялян заходніх абласцей Беларусі, згодна з рашэннем Масквы, было вырашана выдаваць газету «Советский крестьянин» накладам 50 тыс. асобнікаў два разы на тыдзень. Адначасова быў дадзены дазвол выпускаць «Блокнот агитатора» спецыяльна для заходніх абласцей Беларусі[252]. Гэтае выданне не было адзіным у сваім родзе, партыйнае кіраўніцтва неаднойчы ўжывала адрозную прапаганду на толькі што далучаных тэрыторыях, змест якой крыху адрозніваўся ад агульнапрынятага. Аднак жа «генеральная лінія» заставалася нязменнай. Падобны «Нататнік» было вырашана выдаваць у Закарпац-

[247] Пастанова ЦК УКП(б) ад 9 жніўня 1944 г. «Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў галіне масава-палітычнай і культурна-асветніцкай працы» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 506—508.

[248] РГАСПИ. Краткий справочник / под ред. К.М. Андерсона. Москва, 2004. С. 110.

[249] Пастанова ЦК УКП(б) ад 9 жніўня 1944 г. «Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў сферы масава-палітычнай і культурна-асветніцкай працы» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 506—508.

[250] Там жа.

[251] Пастанова ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» // Там жа. С. 536.

[252] Тамсама. С. 535. Гл. дадаткі: «Вокладка нататніка для заходніх абласцей», «Вокладка нататніка для усходніх абласцей».



*Друкаванне прапагандысцкай прадукцыі на трафейным абсталяванні. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

кай Украіне паводле прапановы Мікіты Хрушчова, тагачаснага 1-га сакратара ЦК КП(б) Украіны. У якасці абгрунтавання рашэння Хрушчоў напісаў у лісце Вячаславу Молатаву: «У Закарпацкай Украіне прапагандысцка-агітацыйная праца павінна адрозніваецца ад аналагічнай дзейнасці ва ўсходніх (*украінскіх — Рэд.*) абласцях і нават заходніх абласцях СССР. Лічу неабходным выданне ў Ужгарадзе «Блокнота агитатора» для мясцовых актывістаў у папулярнай форме і з улікам спецыфікі Закарпацкай Украіны. Дасылаю таксама праект пастановы ЦК УКП(б)»[253].

Распрацоўка тэматыкі нататніка была даручана сакратару аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Гарбунову, які павінен быў да 15 сакавіка 1945 г. скласці першы праект і адказваў за яго выданне[254]. «Блокнот агитатора» выходзіў нерэгулярна, яго выпуск залежаў ад ступені напружанасці прапагандысцкіх кампаній. Найбольш плённым быў 1949 г., калі для патрэб заходніх абласцей БССР было выпушчана 18 нумароў, кожны з якіх выйшаў накладам 7,5 тыс. асобнікаў. Значнае месца ў гэтым прапагандысцкім выданні занялі пытанні, звязаныя з падтрымкай калгасаў: артыкулы ў форме гутарак пра перавагі калгасаў над індывідуальнай гаспадаркай, статут сельскагаспадарчага кааператыва, лічбы і факты, якія павінны былі дапамагчы агітатару ў яго працы. У чацвёртым нумары быў змешчаны артыкул «Калгасны шлях — адзіная правільная дарога да шчаслівага і заможнага жыцця», у нумарах 14 і 17 у якасці ўзору падаюцца размовы агітатараў у Баранавіцкай вобл. і г.д.[255]

У выдавецкай дзейнасці выкарыстоўвалася друкарскае абсталяванне, вывезенае пасля вайны з Германіі. Большасць нямецкага паліграфічнага абсталявання знаходзілася ва ўсходніх абласцях БССР і ў Мінску. У Полацк (у абласную друкарню) было прывезена абсталяванне з Хойніц, польскага горада на Памор'і (Памераніі), у Маладзечна — з нямецкіх гарадоў Шлявэ і Вартэнбург[256].

Акрамя агульнасаюзных і рэспубліканскіх газет, на тэрыторыі Заходняй Беларусі існавала рэгіянальная прэса, якая адпавядала савецкай адміністрацыйнай структуры. У заходніх абласцях БССР на абласным узроўні ў той час выходзілі наступныя выданні: «Чырвоная звязда» ў Баранавічах, «Бальшавіцкі сцяг» у Полацку, «Сялянская газета» ў Маладзечне, «Палеская праўда» ў Пінску, «Гродненская правда» ў Гродне, «Заря» ў Брэсце. Партыйныя ўлады часта былі незадаволеныя працай рэдакцый. Змест газет не адрозніваўся прынцыпова ад зместу выданняў, якія друкаваліся ва ўсходніх

[253] РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 84, л. 204—217. Інфармацыйная запіска «Аб сітуацыі ў Закарпацкай Украіне», № 86342, 12.11.1945, за подпісам Мікіты Хрушчова.

[254] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 98. Паведамленне аб мерапрыемствах аддзела прапаганды ЦК КП(б) Беларусі ў заходніх абласцях БССР за перыяд сакавік—красавік 1945 г., без даты, не раней за 18 лютага 1945 г., за подпісам сакратара ЦК КП(б) па прапагандзе Гарбунова.

[255] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 272—273. Паведамленне «Аб прапагандзе калгасаў на старонках «Блокнота агитатора»», без даты, не раней за 29.10.1949 г.

[256] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 45—47. Спіс падзелу паліграфічнага абсталявання, прывезенага з Германіі, паміж рэспубліканскімі і абласнымі друкарнямі БССР, без даты, не пазней за 1946 г, за подпісам кіраўніка Упраўлення па паліграфіі і выдавецтвах пры Савеце Народных Камісараў БССР.

абласцях. Рэдакцыі абмяжоўваліся падачай статыстычных дадзеных, кароткіх паведамленняў, перадруковак з цэнтральнай прэсы і г.д. Такая прадукцыя не магла спрыяць пашырэнню кола чытачоў. Паводле дадзеных ЦК УКП(б), у заходніх абласцях БССР у 1946 г. жыло больш за 300 тыс. непісьменных, да якіх, па вядомых прычынах, друкаваная прапаганда не даходзіла[257].

Праз сем месяцаў пасля выхаду ў свет першага нумара «Савецкага селяніна» (*двухмоўная газета — Я.Ш.*) праца рэдакцыі была востра раскрытыкавана вышэйшай партыйнай уладай у Мінску. Асабліва звярталася ўвага на тое, што мэта, дзеля якой газета была створана — правядзенне прапаганды і агітацыі сярод сялянства заходніх абласцей БССР, — не была дасягнута. Большасць змешчаных на старонках газеты матэрыялаў насіла, паводле меркавання прадстаўнікоў улады, неканкрэтны характар, вельмі часта сустракаліся пераказы зместу артыкулаў цэнтральнай перыёдыкі, «рэдакцыя не ведае жыцця ў заходніх абласцях і не вывучае яго». Гучалі таксама абвінавачванні ў тым, што «да працы ў рэдакцыі не былі далучаны пісьменнікі заходніх абласцей». Пра вельмі нізкую папулярнасць газеты сведчыла колькасць лістоў ад чытачоў у рэдакцыю (а гэта быў своеасаблівы паказчык чытанасці ў савецкай сістэме): за сем месяцаў рэдакцыя атрымала каля 20 лістоў[258]. Падобная характарыстыка прагучала і ў справаздачы кантралёра ЦК УКП(б) з Масквы сакратарам Жданаву, Патолічаву, Кузняцову і Папову, у якой звярталася ўвага на «недастатковы ўлік спецыфікі заходніх абласцей»[259].

У абласной перыёдыцы была інфармацыя, якая датычыла ўмоваў жыцця ў гэтым рэгіёне. «Гродненская правда» 18 студзеня 1945 г. інфармавала пра забарону вольнага наведвання Гродна асобамі, якія не пражываюць у Гродзенскай вобл. Тыя, хто жыў па-за межамі гэтай вобласці, павінны былі атрымаць пропуск у НКУС. Акрамя таго, у памежных раёнах (Гродзенскім, Сапоцкінскім, Свіслацкім, Бераставіцкім) забараняўся ўезд, пражыванне і перамяшчэнне асобам, якія не былі прапісаны на іх тэрыторыі[260]. Аналіз мясцовай перыёдыкі, якая выходзіла ў раёнах з пражываннем польскага насельніцтва, паказвае, што на яе старонках больш увагі надавалася пытанням перасялення (заклікі выканаць план дзяржаўных паставак і засеяць палі перад ад'ездам і г.д.), неаднойчы праходзіла інфармацыя пра жыццё ў суседняй Польшчы і г.д.[261] На старонках газет у адпаведнасці з дырэктывамі прапаганды ствараўся

[257] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 72—79. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Кузняцову, Патолічаву і Папову «Аб недахопах у палітычнай і масава-ідэалагічнай працы беларускай партыйнай арганізацыі», 07.01.1947 г., за подпісамі загадчыкаў аддзелаў Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) Цвяткова і Клімава.

[258] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 26—31. Інфармацыйная запіска ў ЦК КП(б)Б, без даты, не раней за ліпень 1945 г., за подпісам кіраўніка сектара друку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Сцерына.

[259] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 117, л. 157—235. Паведамленне «Аб працы КП(б)Б», без даты, не раней за лістапад 1946 г., за подпісам інспектара ЦК УКП(б) Задзіёнчанкі.

[260] Гродненская правда, № 9 (540) ад 18.01.1945 г.

[261] Гл.: «За Советы» (Сапоцкінскі раён), «Путь социализма» (Воранаўскі раён), «За Советскую Родину» (Гродзенскі раён), «Знамя Советов» (Бераставіцкі раён).

прывабны вобраз савецкай улады, якой супрацьпастаўлялася «акупацыйная ўлада міжваеннай Польшчы». Напрыклад, у адным з артыкулаў сцвярджалася, што «ў выніку нацыянальнай палітыкі пілсудчыкаў, бэкаў, рыдзсміглых большасць насельніцтва Воранаўскага раёна — непісьменная»[262].

Узровень раённых перыядычных выданняў заставаўся нізкім. Акрамя недахопу адпаведных супрацоўнікаў, раённыя газеты часта не мелі хуткага доступу да інфармацыі, асноўных тэхнічных сродкаў, у выніку чаго рэдакцыі карысталіся матэрыяламі цэнтральных газет. У маі 1945 г. у 14 раённых рэдакцыях газет Брэсцкай вобл. не было радыёпрыёмнікаў, якія на той час служылі адным з самых важных сродкаў атрымання інфармацыі. Сакратар Брэсцкага абкама вымушаны быў звяртацца ў Маскву з просьбай выдзеліць адпаведную колькасць трафейных радыёпрыёмнікаў для рэдакцый раённых газет[263].

Было тыповым усталяванне адпаведных лімітаў падпіскі на друкаваную прадукцыю для асобных раёнаў. Тая колькасць перыядычных выданняў, якая ўсталёўвалася наверсе і навязвалася для падпіскі ў рэгіёнах, часцей за ўсё не адпавядала фактычнаму стану рэчаў. У Быценскім раёне (Баранавіцкая вобл.) для Даманаўскага сельсавета прызначалася 150 падпісных экзэмпляраў раённай газеты, аднак фактычна было выпісана толькі дзевяць. З абавязковых 450 рэспубліканскіх газет, напрыклад, «Савецкага селяніна», было выпісана толькі 120, з вызначаных 650 экзэмпляраў «Чырвонай звязды» — 198. У абавязковым парадку выпісвалі газеты галоўным чынам дзяржаўныя ўстановы, клубы, школы і г.д. Сяляне падпісваліся на газеты вельмі рэдка. Так, у паштовым аддзяленні Даманава такіх было ўсяго два чалавекі. На працягу 1945 г. у рэдакцыю раённай газеты было даслана толькі 90 лістоў ад чытачоў[264]. Падобным чынам выглядала сітуацыя ў заходніх раёнах Полацкай вобл. У Мёрскім раёне на раённую газету агульным накладам 1000 экзэмпляраў падпісалася толькі 97 чалавек, астатняе выпісалі разнастайныя савецкія ўстановы[265].

Цэнтральныя савецкія газеты выходзілі на рускай мове, некаторыя рэспубліканскія выданні — на дзвюх мовах: па-руску і па-беларуску. З кожным годам колькасць беларускамоўных выданняў змяншалася. Гэта было звязана не толькі з недахопам кваліфікаваных кадраў, якія б валодалі беларускай мовай, а, у значна большай ступені, са свядомай дзяржаўнай палітыкай у гэтай сферы. Моўная сітуацыя зрэдку выклікала пратэсты сярод насельніцтва, асабліва сярод нацыянальна свядомай часткі. У зборы лістоў працоўных у ЦК КП(б)Б захоўваецца ліст жыхаркі мястэчка Іванава (Янава) тагачаснай

[262] Гродзенская праўда, № 179 (710) ад 14.10.1945 г.

[263] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 125, д. 350, л. 29. «Аб друку ў раёнах Брэсцкай вобл.», выпіска з пратакола № 42 пасяджэння бюро Брэсцкага абкама, 15.05.1945 г.

[264] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 166—176. Паведамленне «Аб стане палітычнай працы сярод насельніцтва Быценскага раёна Баранавіцкай вобл.», без даты, не раней за 10.02.1946 г.

[265] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 13. Паведамленне аб масава-палітычнай працы сярод жыхароў Браслаўскага, Відзскага, Глыбоцкага, Дзісенскага, Докшыцкага, Дунілавіцкага, Пліскага, Шаркоўшчынскага раёнаў, без даты, не раней за студзень 1947 г., без подпісу.

Пінскай вобл. М.Казлова звярнулася з просьбай да вышэйшай улады — пасля безвыніковых зваротаў да мясцовай — перавесці газету на беларускую мову. Раённая газета «Сталинский путь» выходзіла па-руску, таму што «рэдактар газеты не ведае беларускай мовы»[266]. ЦК запатрабаваў тлумачэнняў па гэтай справе, і яны неўзабаве з'явіліся. У паведамленні сакратара Пінскай вобл., як у люстэрку, адбілася дзяржаўная моўная палітыка ў пераводзе на мясцовы ўзровень:

> (...) В период 1939—1941 газета выходила на русском языке в связи с тем, что большая часть населения владеет письменным русским. После окончания Великой Отечественной войны газета вот уже как 5 лет выходит по-русски. Даже областная «Полесская правда» по просьбам трудящихся выходит на двух языках. В условиях западных областей БССР русский язык более популярен, чем белорусский. Об этом свидетельствует обстоятельство, что в Ивановском районе газеты, выходящие на русском языке, из года в год увеличивают свой тираж, а в соседних районах, где газеты выходят по-белорусски, тираж не всегда расходится (...). В связи с вышеизложенным пинский обком считает просьбу безосновательной, поскольку она не отвечает исторической языковой традиции, сложившейся в Пинской области[267].

Каментары тут залішнія. Тое, што беларуская мова ў прапагандысцка-агітацыйнай сістэме не адыгрывала галоўнай ролі, было абумоўлена палітычнымі варункамі. Беларуская мова выконвала дэкаратыўную функцыю, больш шырока выкарыстоўваць яе ў друку не дазвалялі прынцыпы савецкай нацыянальнай палітыкі. Цэнтральная беларуская газета «Советская Белоруссия», якая і сёння выходзіць у Беларусі пад такой самай назвай[268], друкавалася на дзвюх мовах. У 1947 г. сакратар ЦК КП(б)Б Гусараў звярнуўся з просьбай да Андрэя Жданава «падтрымаць (*газету — Рэд.*) кваліфікаванымі кадрамі ў галіне грамадскіх навук, навукі, літаратуры і мастацтва». Асобным пунктам ішла просьба аб журналістах на пасады: галоўнага рэдактара, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела прапаганды для рускамоўнай версіі газеты. У якасці абгрунтавання пісалася: «Выбраць на вышэйзгаданыя пасады людзей на месцы для падтрымкі газеты няма магчымасці»[269]. Загадчык рэдакцыйнага аддзела прапаганды Файфель Іофэ праз два гады быў абвінавачаны ў касмапалітызме і нізкапаклонстве перад Захадам. На гэты раз ЦК КП(б)Б выступіў у ролі абаронцы беларускай мовы і культуры, абвінаваціўшы Іофэ ў публікацыі артыкулаў «касмапалітаў Модэля,

---

[266] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 30, арк. 281—282. Ліст жыхаркі горада Іванава Пінскай вобл. М.Казловай, сакавік 1949 г.

[267] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 30, арк. 278—279. Паведамленне сакратара Пінскага абкама Міновіча ў ЦК КП(б)Б, 16.06.1949 г.

[268] Адносна нядаўна перайшла на падвойную назву: «Беларусь сегодня — Советская Белоруссия». — *Рэд.*

[269] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 125, д. 495, л. 15. Паведамленне сакратару ЦК УКП(б) А.Жданаву, за подпісам сакратара ЦК КП(б)Б М.Гусарава, 25.03.1947 г.

Герцовіча, Кучара, Літвінава»[270]. Беларускае пытанне тут выкарыстоўвалася ў ходзе антыяўрэйскай кампаніі ў СССР выключна як зачэпка.

## ШКОЛЬНАЯ ЛІТАРАТУРА

Не менш важнай за выпуск прэсы задачай было друкаванне падручнікаў, школьных дапаможнікаў і дзіцячай літаратуры. Пастанова ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. абавязвала ОГИЗ (дзяржаўнае выдавецтва РСФСР) да 1 жніўня 1945 г. выпусціць для школ Заходняй Беларусі 1 мільён падручнікаў на беларускай мове[271]. Згодна з сумеснай пастановай Савета Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б ад 17 красавіка 1945 г., Беларускае дзяржаўнае выдавецтва (Белдзяржвыдат) абавязвалася выдаць на беларускай мове 6 перыядычных зборнікаў «Дапаможніка для настаўніка» па 8 друкаваных аркушаў кожны, накладам 10 тыс. экзэмпляраў. На працягу 1945 г. у заходнія вобласці планавалася адправіць 1 мільён падручнікаў на беларускай мове, у тым ліку 220 тыс. — у Баранавіцкую вобл., 160 тыс. — у Брэсцкую, 180 тыс. — у Гродзенскую, 180 тыс. — у Маладзечанскую, 160 тыс. — у Пінскую, 100 тыс. — у заходнія раёны Полацкай вобл. Акрамя таго, у заходнія вобл. планавалася накіраваць у другім і трэцім кварталах 1,5 млн сшыткаў, 2 млн алоўкаў і 2,5 млн пер'яў для пісьма[272].

Згодна з паведамленнем ТАСС (Тэлеграфнага агенцтва Савецкага Саюза), да пачатку 1945/1946 навучальнага года беларускае дзяржаўнае выдавецтва надрукавала для школ 2,5 млн экзэмпляраў кніг і падручнікаў[273]. У савецкай сістэме планы і агучаныя лічбы часта адрозніваліся ад практычнага іх выканання і сапраўднага стану рэчаў, што залежала ад шэрагу фактараў.

Паводле паведамлення ўпаўнаважанага камісіі партыйнага кантролю УКП(б) у БССР, дзяржаўнае выдавецтва Беларусі атрымала тэматычны план выпуску ў 1945 г. 221 адзінкі літаратуры, з якіх 42 выданні накладам 600 тыс. экзэмпляраў былі прызначаны для дзяцей. На працягу 1945 г. было выдадзена толькі тры кнігі, іх наклад быў павялічаны ў 10 разоў, і прадаваліся яны па завышаных цэнах. Гэта выклікала гнеў Масквы, ЦК КП(б)Б паспешна загадаў да 1 студзеня 1946 г. выдаць 100 тыс. буквароў па-руску і столькі сама — па-беларуску, а таксама некалькі дзясяткаў дзіцячых кніг накладам 10 тыс. экзэмпляраў кожная. На першым месцы стаялі творы пра Леніна (дзяцінства і школьныя гады Леніна, аповесці пра Леніна), вершы галоўных

---

[270] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 1, арк. 222. Паведамленне аб выніках праверкі загадчыка аддзела прапаганды газеты «Советская Белоруссия» тав. Файфеля Іофэ, 08.08.1949 г., за подпісам намесніка загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Сцерына.

[271] Пастанова ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 536.

[272] Пастанова Савета Народных Камісараў і ЦК КП(б)Б ад 17 красавіка 1945 г. «Аб сродках дапамогі школам заходніх абласцей БССР» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. 1933—1945. Минск, 1985. С. 528—531.

[273] «За советскую родину», № 32 (37) ад 22.07.1945 г.







*Дзіцячая літаратура. Вокладкі.*

паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, аповесці рускіх пісьменнікаў Талстога, Някрасава. Замежную літаратуру прадстаўляў «Гаўрош» Віктора Гюго[274]. Справай заняліся ў Маскве. Аддзел друку ўпраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) атрымаў даручэнне пракантралявацъ выкананне пастановы ЦК КП(б)Б ад 25 кастрычніка 1945 г. З Масквы ў Беларусь было накіравана дадатковае паліграфічнае абсталяванне, пастаўкі паперы павялічаны са 170 тон у другім квартале да 218 у чацвёртым[275].

Змест дзіцячых кніг павінен быў адпавядаць ідэалагічным патрабаванням. Чытанка для дзяцей «Ой, в лесу, лесу зеленом» Л.Трафілава, якая выйшла ў Мінску ў 1945 г., паказвала дзецям не той лес, дзе жывуць звяры і растуць ягады, а той, дзе хаваюцца партызаны — «народныя мсціўцы». Лес поўны харaства, але для немцаў там няма дарогі, страх гоніць іх далей ад лесу. Міф Вялікай Айчыннай вайны, паўсюднай падтрымкі савецкімі людзьмі камуністычных партызанаў — тое, што легла ў аснову савецкай прапаганды ў тым ліку і на Беларусі, — засвойваўся дзецьмі з малых гадоў[276]. З рускай мовы была перакладзена аповесць для дзяцей «О 28 павших героях» Аляксандра Крывіцкага, у якой расказвалася пра подзвіг групы салдат розных нацыянальнасцей, якія стрымалі пад Масквой атаку ворага, нягледзячы на яго значную перавагу ў сілах[277]. Гэта павінна было сімвалізаваць адзінства савецкага народа, яго ахвярнасць пры абароне сталіцы — Масквы.

Справа перакладу рускіх пісьменнікаў на беларускую мову знаходзілася не ў самым лепшым стане. На працягу двух гадоў (1945—1946) з рускай на беларускую былі перакладзены толькі байкі Крылова, апавяданні для дзяцей Талстога, апавяданне Тургенева «Муму» і Гаршына «Сігнал», агульны наклад — 48 тыс. экзэмпляраў[278]. Такая колькасць у маштабах усёй Беларусі выглядала кропляй у моры.

## ПРАПАГАНДЫСЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

Падобнай была сітуацыя з выпускам плакатаў і прапагандысцкіх матэрыялаў. У Гродзенскай вобл. за перыяд 10.02. — 18.06.1946 г. было атрымана агулам 18 920 прапагандысцкіх плакатаў celebrated рознага зместу. Запатрабаванасць

[274] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 125, д. 353, л. 31—34. Паведамленне ў ЦК КП(б)Б ад упаўнаважанага КПК у БССР Філімонава, 28.09.1945 г.

[275] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 125, д. 353, л. 44. Запіска № 66009, дасланая сакратару ЦК УКП(б) Малянкову ад загадчыка аддзела выдавецтваў Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) Марозава, 27.10.1945 г.

[276] Гл.: Трефилов. Ой, в лесу, лесу зеленом. Минск, 1945.

[277] Гл.: Кривицкий А. О 28 павших героях. Москва, 1945. *(Размова пра т. зв. «панфілаўцаў» — байцоў 316-й стралковай дывізіі пад камандаваннем генерал-маёра І.В. Панфілава. Афіцыйная савецкая версія бою (колькасць удзельнікаў, вынікі, страты бакоў) сёння ставіцца пад сумненне як мастацкая выдумка супрацоўнікаў газеты «Красная Звезда». Гл.: Петров Н., Эдельман О. Новое о советских героях // Новый мир. 1997. № 6. С. 140—151. — Рэд.)*

[278] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 72—79. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Кузняцову, Патолічаву і Папову «Аб недахопах у ідэалагічнай і масава-палітычнай працы беларускай партыйнай арганізацыі», 07.01.1947 г., за подпісамі загадчыкаў аддзелаў упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) Цвяткова і Клімава.




*Кнігу ў кожны сялянскі дом. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

гэтай прадукцыі была куды большай, на тэрыторыі вобласці ў той час (1946 г.) знаходзілася 427 прадпрыемстваў і аб'ектаў, 190 клубаў, 160 чырвоных куткоў і 2 507 населеных пунктаў[279]. Найбольшыя абароты прапагандысцкая машына ў СССР у галіне выдавецкай дзейнасці набірала ў ходзе вялікіх кампаній, да якіх, несумненна, трэба залічыць і калектывізацыю ў Заходняй Беларусі.

Паводле дадзеных Дзяржаўнага выдавецтва БССР (Госиздат), на працягу 1948—1949 гг. на патрэбы прапаганды калгаснага ладу было выдадзена 14 адзінак літаратуры агульным накладам 150 тыс. экзэмпляраў, у тым ліку 35 тыс. — па-беларуску. Першае месца сярод іх займалі творы Сталіна («Год великого перелома», «О работе в деревне» і г.д.), Панамарэнкі, сталінскага фаварыта, навукоўца-агранома Лысенкі, брашура І. Панкевіча «Што дала савецкая ўлада працоўным заходніх абласцей Беларусі» (Мінск, 1948) і г.д.[280] Акрамя таго, для прапаганды калгаснага ладу кніжная гандлёвая сетка дадаткова накіравала ў заходнія вобласці некалькі дзясяткаў тысяч рускамоўных друкаваных адзінак літаратуры: «Головокружение от успехов» (І.Сталін), «Партийные организации Украины в борьбе за новый подъем сельского хозяйства» (М.Хрушчоў), «О колхозном строе и колхозниках» (М.Калінін) і г.д.[281]

У перыяд узмоцненай прапагандысцка-агітацыйнай кампаніі ў сувязі з правядзеннем калектывізацыі з усходніх абласцей БССР на захад было накіравана 2,5 тыс. экзэмпляраў кніг на калгасную тэматыку. Была арганізавана праца часовых перасоўных бібліятэк. Толькі Полацкая абласная бібіліятэка па даручэнні абкама арганізавала 27 такіх бібліятэчак і перадала іх у карыстанне прапагандыстам у заходніх абласцях[282].

## ЦЭНЗУРА

Важнае месца ў савецкай выдавецкай сістэме займала цэнзура. Цэнзурай у СССР займалася Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў — Галоўліт у пасляваенны перыяд (*у час вайны Галоўліт падпарадкоўваўся Галоўнаму ваеннаму цэнзару — Я.Ш.*). Змяніўся таксама спосаб расшыфроўкі абрэвіятуры: раней было — Галоўнае ўпраўленне па справах аховы ваенных і дзяржаўных сакрэтаў у друку[283]. Кароткі перыяд (каля шасці месяцаў у 1953 г.)

---

[279] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 261. Паведамленне «Аб стане масава-палітычнай працы ў раёнах Гродзенскай вобл.», 19.06.1946 г., за подпісамі сакратара абкама па пытаннях прапаганды Грука.

[280] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 224. Даведка аб літаратуры, выдадзенай Дзяржвыдатам у 1948—1949 гг. для прапагандавання калгаснага ладу, без даты, не раней за лістапад 1949 г.

[281] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 227. Спіс літаратуры, накіраванай гандлёвай сеткай Белкнігагандлю ў заходнія вобл. БССР, без даты, не раней за лістапад 1949 г.

[282] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 255—269. Паведамленне «Аб прапагандзе калгаснага ладу ў заходніх абласцях БССР», 29.10.1949 г.

[283] Больш пра цэнзуру гл.: Блюм А.В. Советская цензура в эпоху тотального контроля 1929—1953. СПб., 2000; Dewhirst M. The Soviet Censorship. New York, 1973; Golovskoy V. Is There censorship in the Soviet Union? Washington, 1985 і інш.

Галоўліт падпарадкоўваўся Міністэрству ўнутраных спраў СССР. Затым з 1966 г. і аж да распаду СССР у 1991 г. Галоўліт знаходзіўся ў падпарадкаванні Савета Міністраў.

У сістэме цэнзуры БССР, паводле штату (1945 г.), павінны былі працаваць: у галоўным упраўленні — 23 асобы, у абласных — 64, у раённых — 168. Нястача вопытных супрацоўнікаў абумовіла некамплектнасць пасад. У першы перыяд працы (другая палова 1944—1946 гг.) органаў цэнзуры ў заходніх абласцях БССР на першы план выйшла задача праверкі бібліятэчных фондаў. Пачатковую працу ў гэтым кірунку выканалі органы НКДБ. Аднак засталіся вялікія зборы польскамоўнай літаратуры, якую нельга было праверыць, бо не было супрацоўнікаў, якія б ведалі польскую мову. У выніку амаль уся польскамоўная літаратура была недаступная чытачам[284]. У Пінскай абласной бібліятэцы захоўвалася «некалькі тысяч кніг на польскай і яўрэйскай (*не ўдакладняецца, на ідышы ці іўрыце — Я.Ш.*) мовах, сярод якіх, несумненна, можа знаходзіцца фашысцкая і іншая варожая літаратура»[285].

У жніўні 1945 г. Галоўліт накіраваў ліст кіраўніку беларускага ўпраўлення цэнзуры, у якім звяртаў увагу на асаблівы характар працы ў заходніх абласцях:

> В своей работе Главлит не учитывает особенностей западных областей. Условия работы в этих областях являются более сложными, чем в восточных, и требуют особой политической бдительности. Руководство цензурой в этих областях должно находиться в центре внимания Главлита (...). До сих пор не проверено содержание книг на польском языке. Следует напрячь усилия и найти соответствующих работников, владеющих польских языком, которые могли бы оценить польские издания[286].

Кадравае пытанне, а дакладней — недахоп спецыялістаў у гэтай галіне, было адной з ключавых праблем функцыянавання цэнзуры ў Заходняй Беларусі. Штат супрацоўнікаў зацвярджаўся ў Маскве, акрамя таго, цэнзар павінен быў атрымаць пазітыўную ацэнку НКУС. Кіраўнікоў абласных Галоўлітаў прызначалі ў Маскве (напрыклад, у Брэсце, Гродне). Кіраўнік Галоўліта БССР Дадзёмава прызнавалася, што колькасна штат супрацоўнікаў амаль цалкам укамплектаваны, але з пункта гледжання іх адукацыі, стажу і агульнай падрыхтоўкі справа выглядае нашмат горш. Далейшая праца цэнзараў у бібліятэках Заходняй Беларусі выявіла вялікую колькасць кніг на нямецкай, французкай, англійскай і польскай мовах (Пінск, Навагрудак, Слонім, Брэст). Акрамя недахопу спецыялістаў з адпаведнай адукацыяй, не

---

[284] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 8, арк. 19—24. Справаздача аб працы Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў (Галоўліт) пры Савеце Народных Камісараў БССР за першае паўгоддзе 1945 г., без даты, не пазней за 1 чэрвеня 1945 г.

[285] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 8, арк. 18—18 адв. Запіска кіраўніку Галоўліта БССР Дадзёмавай № 5646, 23.06.1945 г., за подпісам загадчыка аддзела наступнай цэнзуры Галоўліта А.Бальшакова.

[286] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 8, арк. 27—27 адв. Ліст з Галоўліта СССР кіраўніку Галоўліта БССР № 798/с, 23.08.1945 г.

было таксама спецыялізаваных даведнікаў, спісаў забароненых аўтараў і кніг. Уся гэта літаратура была сабрана ў спецфондах. Толькі ў 1953 г. створаная пры гістарычным музеі ў Гродне камісія апрацавала частку літаратуры на замежных мовах і перадала яе ў бібліятэку імя Леніна ў Мінску[287].

Пасады ўпаўнаважаных у апараце цэнзуры займалі партыйныя функцыянеры: загадчыкі аддзелаў прапаганды, сакратары райкамаў і г.д. Пасада шараговага цэнзара не была прывабнай для грамадзян: нізкія заробкі (690 руб. у 1947 г.), начная праца, патрабаванне ведаць хаця б беларускую мову, частыя вымовы з-за пропуску якой-небудзь інфармацыі — так выглядала іх праца. Дамінаванне немясцовых кадраў прывяло да таго, што ў Васілішкаўскім раёне не было ніводнага (sic!) камуніста, які б ведаў беларускую мову і якому можна было б даручыць цэнзураванне мясцовай газеты. Гродзенскі абкам у 1947г. накіраваў на пасады цэнзараў 10 чалавек, якія пасля знаёмства з умовамі працы адмовіліся за яе брацца[288].

У наступныя гады праца цэнзараў заключалася ў асноўным у ацэнках выдаваных газет, кніг у выдавецтвах, тэкстаў радыёперадач і, у меншай ступені, у адшуканні «варожай літаратуры» ў кнігарнях і бібліятэках. Брэсцкі аблліт працэнзураваў на працягу 1949 г. 524 нумары абласных газет, 1369 — раённых, працу 14 друкарняў і 14 радыёкропак, а таксама 1502 радыёперадачы[289]. Баранавіцкі аддзел Галоўліта на працягу 1947 г. знайшоў у бібліятэках вобласці 25 забароненых цыркулярамі з Масквы адзінак літаратуры. Гэта былі ў асноўным рускамоўныя кнігі, якія прыходзілі ў бібліятэкі або ўжо былі там, з партрэтамі і цытатамі «ворагаў народа». Зборнік дакументаў пад рэдакцыяй Лукіна і Даліна «Новая история в документах и материалах»[290] і кніга «Наша Родина» 1937 года выдання[291] былі «выкрыты» падчас адной з праверак, верагодна, таму што іх аўтары былі рэпрэсаваныя. Спіс выяўленых кніг на польскай і на іншых замежных мовах быў дасланы ў Маскву з просьбай даць указанне, аднак Галоўліт «умыў рукі», перадаўшы гэтае пытанне на вырашэнне мясцовых органаў цэнзуры. Нашмат большая колькасць «шкоднай» літаратуры была выкрыта ў бібліятэках рэлігійных абшчын (906 экзэмпляраў). Так, рэлігійная літаратура была канфіскавана ў абшчыне евангелістаў-баптыстаў у Карэліцкім раёне[292]. У Гродзенскай вобл. у 1949 г. з

[287] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 45, арк. 58. Справаздача Гродзенскага абрліта за 1953 г., 05.01.1954 г., загадчык абрліта Закутоўская.

[288] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 11, арк. 59—62. Справаздача Гродзенскага абрліта за 1947 г. «Аб працы з кадрамі», без даты, не раней за 27 снежня 1947 г., за подпісам загадчыка Гродзенскага абрліта Халмовай.

[289] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 22, арк. 167—176. Справаздача Брэсцкага абрліта за 1949 г., без даты, не раней за снежань 1949 г., за подпісам загадчыка Брэсцкага абрліта Ражковай.

[290] Гл.: Новая история в документах и материалах / под ред. Н.М. Лукина и В.М. Далина. Вып. I. Москва, 1934. (*На падставе справаздачы цяжка сказаць, ці было гэта першае выданне 1934 г., ці другое — 1935 г. — Я.Ш.*)

[291] Гл. А. Стецкой, С. Ингулов, Н. Баранский. Наша Родина. Москва, 1937.

[292] НАРБ. Ф. 1195, воп. 2, спр. 11, арк. 86—95. Справаздача Баранавіцкага абрліта за 1947 г., 27.12.1947г., за подпісам начальніка Баранавіцкага абрліта Бляха.

цэркваў і касцёлаў было канфіскавана 871 выданне, далейшай працы замінал і «каталіцкія святары, якія ўсімі спосабамі хавалі кнігі»[293].

У друк не дапускаліся звесткі, напрыклад, пра вярбоўку рабочай сілы ўглыб Расіі, дадзеныя пра выкананне плана (лічбы можна было прыводзіць толькі пасля атрымання згоды Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення), пра сабекошт прадукцыі і г.д. У 1953 г. у Ваўкавыску быў знішчаны ўвесь наклад тэлефоннага даведніка, таму што там былі ўказаны нумары тэлефонаў сакрэтных аб'ектаў. Выхад газеты з невыразным партрэтам Сталіна ў Васілішкаўскім раёне ледзь не каштаваў рэдактару пасады, усё скончылася партыйнай вымовай на пасяджэнні райкама. Нязначнае на першы погляд здарэнне мела месца ў газеце «Савецкі селянін» (№ 16, 21.02.1946 г.). Так, у звароце калгаснікаў і калгасніц Растоўскай вобл. да ўсіх калгаснікаў і калгасніц замест «Няхай жыве наш калгасны лад» было надрукавана «Няхай **мыве** наш калгасны лад». У слове «жыве» выпадкова была зменена першая літара, і гэта выклікала вялікую буру. У змяненні слова быў заўважаны «палітычна шкодны сэнс». Справай заняўся сектар друку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, наклад быў зняты з абароту, паведамленне пра справу было накіравана сакратару ЦК КП(б)Б Кісялёву[294].

Абвастрэнне ў краіне палітычнага курса, накіраванага на закручванне ідэалагічных гаек, адбілася і на цэнзуры БССР. У ходзе кампаніі па барацьбе з касмапалітамі страціла пасаду начальнік Галоўліта БССР Дадзіёмава, таму што ў мінскіх бібліятэках можна было знайсці творы «выкрытых яўрэйскіх пісьменнікаў-нацыяналістаў»[295].

Сталінізацыя грамадскага жыцця вяла да ўсё больш глыбокага кантролю дзяржавы за друкаванай інфармацыяй, мастацтвам, музыкай і г.д. Партрэты і карціны, музычныя кружэлкі, тэатральныя п'есы, нават цыркавыя выступленні павінны былі мець дазвол адпаведнага ўпраўлення цэнзуры. Улада імкнулася цалкам ізаляваць грамадства ад альтэрнатыўнай інфармацыі, усё, што паказвала савецкую ўладу ў невыгодным святле, рашуча знішчалася.

Падраздзел, у якім расказваецца пра выдавецкую дзейнасць, дае павярхоўнае ўяўленне пра стан рэчаў. Поўны аналіз зместу школьных падручнікаў, дзіцячай літаратуры, пры якім улічваліся б прынцыпы адукацыі, асветы і іх уплыў на палітычнае выхаванне дзяцей і моладзі, не ўваходзіць у нашы задачы. Хацелася б толькі зазначыць, што тут не вядзецца размова пра цэласнае апісанне гэтага феномена ў рамках дадзенай працы. Свядома былі выбраныя некалькі выданняў для фрагментарнага апісання праблемы. Паказ цэласнага вобраза можа стаць прадметам новага і вельмі цікавага кірунку даследаванняў.

---

[293] НАРБ, 1.1195, воп. 2, спр. 22, арк. 114—122. Справаздача Гродзенскага аблліта за 1949 г., без даты, не раней за снежань 1949 г., за подпісам начальніка Гродзенскага аблліта А.Смірнова.

[294] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 211, арк. 11. Паведамленне пра нумар газеты «Савецкі селянін» ад 21.02.1946 г. (№ 16).

[295] Костырченко Г. Советская цензура в 1941—1952 гг. // Вопросы истории. 1996. № 6. С. 93. Цыт. паводле: Блюм А. Советская цензура ... С. 138.

## III.V. КІНО І РАДЫЁ

Савецкае кіно і яго роля ва ўздзеянні на насельніцтва ў таталітарнай сістэме з'яўляецца, несумненна, асобнай сферай даследавання[296]. Змену тэм і кінагерояў можна лічыць своесаблівым паказчыкам тэмпературы палітычнай свабоды ў краіне і накірункаў савецкай прапаганды. Кіно не было адзіным сродкам пашырэння гэтай прапаганды, важную ролю адыгрывала таксама радыё як сродак з большай сферай уплыву. Аднак жа змест таго, што паказвалася на экранах, тэмы, якія ўздымаліся ў кіно, сталі люстэркам, у якім адбіваліся міфы, створаныя савецкай ідэалогіяй.

Адным з асноўных міфаў быў культ Леніна — правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі і спадарожных гэтай рэвалюцыі падзей, які пазней пачаў саступаць месца асобе Сталіна. У канцы 30-х гг. з'явіўся шэраг фільмаў пра герояў з гісторыі Старажытнай Русі і царскай Расіі: «Пётр І», «Сувораў», «Аляксандр Неўскі». Крыху пазней выйшаў фільм «Іван Грозны». Цікавасць да вялікіх асобаў расійскай гісторыі і іх папулярызацыя ў кінаверсіі азначала вяртанне ў дзяржаўнай палітыцы да ідэі моцнай дзяржавы, а яе асновы і крыніцы шукаліся ў гістарычных постацях.

У фільм «Сувораў» (1940 г.) Сталін асабіста ўносіў папраўкі. Пасля ўліку ягоных заўваг асоба Суворава набыла больш вострыя рысы. У фільме ёсць наступная сцэна: «Адзін эскадрон палонных — не ўтрымаліся мы, трохі пасеклі», — дакладваюць Сувораву аб разбітых паўстанцах Тадэвуша Касцюшкі. «І правільна, недасечаны лес зноў вырастае», — крычыць ён у адказ перад строем[297]. З улікам часу, калі ў фільме былі зроблены праўкі (май 1940 г.), немагчыма не згадаць падзеі ў Катыні.

Антыпольская тэматыка ў савецкіх фільмах была вельмі папулярнай, асабліва ў 1939—1941 гг. Новыя фільмы «Мінін і Пажарскі» і «Багдан Хмяльніцкі» павінны былі абгрунтаваць падзел Польшчы і гістарычна апраўдаць нямецка-савецкае пагадненне. Перад фільмам «Сувораў» выйшаў іншы фільм — «Вялікі грамадзянін». Абодва фільмы з'явіліся ў перыяд павелічэння набыткаў СССР; апетыты раслі, улада марыла пра новую вайну, якая прынясе «свабоду рабочым і сялянам усёй планеты». Галоўны герой «Вялікага грамадзяніна» Шахаў (яго прататыпам быў Кіраў) у адной са сцэн гаворыць: «Праз гадоў так дваццаць пасля добрай вайны выйсці б і паглядзець на Савецкі Саюз — з дваццаці, трыццаці рэспублік. Чорт ведае, як бы добра было!»[298] У фільме «Сувораў» войны, якія Расія вяла ў Італіі ці Швейцарыі, трактаваліся як патрыятычныя. Кінапрадукцыя выконвала, такім чынам, чарговыя заданні прапаганды.

---

[296] Гл., напрыклад, Babitsky P., Rimberg J. The Soviet Film Industry. New York, 1955; Shlapentokh D., Shlapentokh V. Soviet Cinematography. 1918—1991. New York, 1993; The Red Screen / edit. by A. Lawton. London and New York, 1992.

[297] Цыт. паводле: Грыцкевіч В. Пераадолець інерцыю ... С. 130. Гл. таксама: А.Латышев. А.Суворов: взгляд на полководца // Искусство кино. № 5. 1990. С. 4—5.

[298] Грыцкевіч В. Пераадолець інерцыю ... С. 131.

## НОВЫЯ ТЭМЫ Ў САВЕЦКІМ КІНО

У час Другой сусветнай вайны, а асабліва пасля яе заканчэння, ключавыя пазіцыі ў савецкім кінематографе заняла тэматыка так званай Вялікай Айчыннай вайны і месца ў ёй савецкага чалавека. У час баявых дзеянняў кінастудыі Мінска, Кіева, Масквы і Ленінграда былі эвакуаваныя ў азіяцкія рэспублікі, дзе, акрамя ваенных кінахронік, яны стварылі некалькі культавых фільмаў (напрыклад, «Жди меня» рэжысёра Леаніда Лукава). Кінапрадукцыя, таксама як выраб танкаў ці іншай зброі, знаходзілася ў веданні Дзяржаўнага камітэта абароны на чале са Сталіным, дзе прымаліся найважнейшыя рашэнні, датычныя функцыянавання тагачаснай савецкай дзяржавы. Высока цэнячы ролю кіно ў прапагандзе, асабліва на апошнім этапе вайны, пастановай ДКА у другой палове 1944 г. на вытворчасць фільмаў было асігнавана 9,7 млн рублёў[299].

Народны камісарыят узбраення быў абавязаны вырабіць на сваіх прадпрыемствах у 3-м квартале 100 кінаапаратаў, а ў 4-м — 300 і перадаць іх Камітэту па справах кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР. Амаль кожнае ведамства (Народны камісарыят хімічнай прамысловасці, будаўнічых матэрыялаў, электратэхнічнай прамысловасці і г.д.) атрымала дырэктывы выдзеліць абсталяванне, неабходнае для вытворчасці фільмаў. Прафесійныя вучылішчы павінны былі вылучыць 450 чалавек на патрэбы кінаіндустрыі. Для работнікаў кіно былі прадугледжаны лепшае забеспячэнне, харчаванне, а таксама сістэма даплат і прэмій (у агульны фонд накіроўваўся 1% ад прыбытку з прададзеных білетаў)[300].

Перамога над Германіяй стала ў пасляваенны перыяд галоўнай тэмай, гэта быў, па сутнасці, фундамент, на які павінна была абапірацца ідэнтычнасць савецкага чалавека. Галоўнымі тэмамі сталі кульмінацыйныя бітвы, якія змянілі ход вайны (Сталінградскай бітве прысвечана нават некалькі фільмаў), а таксама вобраз савецкага салдата, як правіла, гераічны. Творы савецкай прадукцыі таго часу былі пафаснымі, падкрэслена панегірычна паказвалі вобраз Сталіна[301]. Беларуская кінавытворчасць па даручэнні Масквы распрацоўвала не менш важную тэму — тэму партызанскай барацьбы, якую паслядоўна развівала на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду (напрыклад, фільм «Канстанцін Заслонаў» 1949 г. рэжысёра Корша-Сабліна атрымаў Сталінскую прэмію»). Неафіцыйна беларуская кінастудыя «Беларусьфільм»

[299] РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 219, л. 159—162. Пастанова ДКА № ГОКО-5429 ад 20 сакавіка 1944 г. «Аб забеспячэнні вытворчасці мастацкіх фільмаў у 1944 г.», за подпісам намесніка старшыні ДКА В.Молатава.

[300] Там же.

[301] Гэта такія фільмы, як «Вялікі перелом» (1945 г.) Фрыдрыха Эрмлера, «Сталінградская бітва» (1949 г.) Уладзіміра Пятрова, «Аповесць пра сапраўднага чалавека» (1948 г.) і інш. Асобе Сталіна быў прысвечаны фільм грузінскага рэжысёра Міхаіла Чаўрэлія «Прысяга». У ім расказвалася пра тое, як Сталін склаў прысягу над свежай магілай Леніна, пераймаючы ад яго стырно ўлады. Цыт. паводле: Płażewski J. Historia filmu. Warszawa, 2001. S. 217.

называлася «Партызанфільмам»[302]. Цяжка казаць пра беларускае кіно як пра арыгінальную з'яву, яго тэматыка і рэалізацыя прынцыпаў савецкай міфалогіі ў фільмах характарызуюць амаль увесь пасляваенны перыяд.

Ідэалагічныя палажэнні, якія рэалізоўваліся ў кіно, не заўсёды адпавядалі мясцовым умовам. У якасці прыкладу прывядзём выпадак з фільмам савецкай вытворчасці «Берлін», які быў перададзены Савецкім таварыствам па справах гандлю з замежжам (Союзинторгкино) у аддзел кіно Міністэрства інфармацыі і прапаганды Польшчы для паказу ў польскіх кінатэатрах. Праблема заключалася ў тым, што савецкія аўтары фільма цалкам абмінулі ўдзел Войска Польскага ў барацьбе за Берлін. Факт удзелу Войска Польскага ў штурме сталіцы Германіі асабліва падкрэсліваўся ў тагачаснай польскай камуністычнай прапагандзе. Фільм пад назвай «Zagłada Berlina» вытворчасці кінастудыі ВП паказваў удзел палякаў у берлінскай аперацыі. Савецкая версія пра палякаў не згадвала, нягледзячы на просьбы функцыянераў Міністэрства інфармацыі і прапаганды[303].

У іншым савецкім фільме — «Парад перамогі» — у перакладзе на польскую мову засталіся словы, якія праслаўлялі рускага палкаводца Суворава, між тым як у Польшчы пра яго склалася зусім іншае меркаванне, напрыклад, як пра «ката» Варшавы. Міністэрства замежных спраў Польшчы звярнулася з просьбай у савецкае пасольства, «улічваючы прыведзеныя вышэй доказы адсутнасці разумення асаблівай унутрана-палітычнай сітуацыі ў Польшчы», супрацоўнічаць у будучым з прадстаўнікамі аддзела кіно пры Міністэрстве інфармацыі і прапаганды[304]. Невядома, як да такой просьбы паставіўся савецкі бок і ці мела ў будучым месца такое супрацоўніцтва. Гэты прыклад яшчэ раз паказвае, што СССР адыгрываў дамінуючую ролю ў пасляваеннай расстаноўцы сіл, а таксама выразна дэманструе герметычнасць і разам з тым абыякавасць савецкай кінаіндустрыі да абгрунтаваных просьбаў сваіх сатэлітаў. У вядучай ролі «савецкага народа» нельга было сумнявацца, пераможца заўсёды мае рацыю.

## ХАРАКТАРЫСТЫКА СЕТКІ КІНАТЭАТРАЎ У ЗАХОДНІХ АБЛАСЦЯХ БССР

Пасля таго як савецкія войскі летам 1944 г. занялі Заходнюю Беларусь і ўсталяваліся новыя межы БССР (*без Беласточчыны — Я.Ш.*), цывільная ўлада ўзялася за стварэнне сеткі кінатэатраў і радыё. ЦК УКП(б), згодна з Пастановай ад 9 жніўня 1944 г., даручыў ЦК КП(б)Б і Савету Народных Камісараў БССР арганізаваць да канца 1944 г. у рэспубліцы 20 гарадскіх і 50 раённых радыёрэдакцый для трансляцыі радыёперадач. Галоўная роля ў падборы і зацвярджэнні рэдактараў радыёвяшчання належала ЦК КП(б)Б.

---

[302] Ahafonava N. Belarusian Cinema and Problem of National Identity of the Belarusians // Razem w Europie / red. I. Mikłaszewicz, R. Kamuntavičius. Kaunas, 2006. P. 85—89. Пра беларускае кіно гл. больш: Красінскі А.В., Смаль В.І., Тарасевіч Г.П. Беларускае кіно. Мінск, 1962; Красінскі А. Гісторыя кінамастацтва Беларусі. Т. 1. 1924—1959. Мінск, 2001.

[303] Archiwum MZS Polski, Zespół 27, teczka 227, k. 32—34. Дакладная запіска ў пасольства № 3185/45, 10.X.1945 г.

[304] Ibidem.




*Прапагандысцкі плакат «Кино в массы».*

Табліца 4

**СЕТКА КІНАТЭАТРАЎ У ЗАХОДНІХ АБЛАСЦЯХ БССР (ДАДЗЕНЫЯ НА 1.01.1945 г.)***

| ВОБЛАСЦЬ | КІНАТЭАТРЫ | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ГАРАДСКІЯ | У РАЙЦЭНТРАХ | ВЯСКОВЫЯ СТАЦЫЯНАРНЫЯ | ГУКАВЫЯ ПЕРАСОЎНЫЯ | НЯМЫЯ ПЕРАСОЎНЫЯ | |
| БАРАНАВІЦКАЯ | 1 | 5 | 1 | 2 | — | 9 |
| ГРОДЗЕНСКАЯ | 3 | 3 | — | 2 | — | 8 |
| МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ | 2 | 5 | 1 | 2 | — | 10 |
| ПІНСКАЯ | 1 | 5 | — | 2 | 1 | 9 |
| БРЭСЦКАЯ | 1 | 5 | — | 2 | — | 8 |
| ПОЛАЦКАЯ | 1 | 4 | 1 | 2 | — | 8 |
| **УСЯГО** | **9** | **27** | **2** | **12** | **1** | **52** |

* Дадзеныя па Полацкай вобл. прыводзяцца без уліку падзелу на 9 заходніх і 6 усходніх раёнаў. На падставе архіўных звестак складана сказаць адназначна, паводле якога крытэрыю праводзілася размежаванне «гарадскіх кінатэатраў» і «кінатэатраў у райцэнтрах».

*Крыніца:* НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 213—214.

У заходніх абласцях БССР планавалася аднавіць дзейнасць кінатэатра і кіназалаў у Пінску (500 месцаў) і ў Баранавічах (500 месцаў)[305]. Рашэнне ЦК УКП(б) ад 25 лютага 1945 г. абавязвала Народны камісарыят сувязі звярнуць асаблівую ўвагу на адкрыццё і пашырэнне сродкаў сувязі ў заходніх рэспубліках, памежных абласцях і раёнах.

Паводле паведамлення кіраўніка Упраўлення кінафікацыі, перад пачаткам савецка-нямецкай вайны на тэрыторыі БССР (*гаворка вядзецца пра межы перыяду 1939—1941 гг., уключна з Беласточчынай — Я.Ш.*) працавалі 582 апараты для паказу фільмаў, якія знаходзіліся ў дзяржаўнай уласнасці, і 341 — ва ўласнасці ведамстваў. Колькасць гарадскіх кінатэатраў даходзіла да 73, вясковых стацыянарных — да 173, перасоўных гукавых — да 230, перасоўных нямых — да 103[306]. У сістэме кінафікацыі працавала больш за 3000 чалавек. Прыведзеная вышэй табліца паказвае колькасць кінатэатраў у заходніх абласцях БССР паводле стану на 1 студзеня 1945 г.

У студзені 1945 г. у заходнія вобласці дадаткова было накіравана 68 кінаапаратаў. Гэта, несумненна, было звязана з Пастановай ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г., якая датычыла нездавальняючай палітычнай працы на гэтай тэрыторыі.

---

305 Пастанова ЦК УКП(б) ад 9 жніўня 1944 г. «Аб найбліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б) Беларусі ў сферы масава-палітычнай і культурна-асветніцкай працы» // Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. VII. 1938—1945. Москва, 1985. С. 511.

306 НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 213—214. Паведамленне аб сетцы кінатэатраў і забеспячэнні яе кадрамі, 31.08.1945 г., за подпісам кіраўніка Упраўлення кінафікацыі пры Савеце Народных Камісараў БССР (*подпіс нечытальны — Я.Ш.*).

Фільмы паказваліся, галоўным чынам, у гарадах і раённых цэнтрах. Вясковае насельніцтва, акрамя нешматлікіх выключэнняў, фільмаў не глядзела, а ў Сапоцкінскім раёне (Гродзенская вобл.) нават у райцэнтры не было перасоўнага кінатэатра[307].

## РАДЫЁСЕТКА

Акрамя кіно, якое выконвала выхаваўча-прапагандысцкую функцыю, вялікае значэнне надавалася радыё. У тагачасных умовах гэта быў найбольш эфектыўны і разам з тым масавы сродак перадачы інфармацыі. Улады ведалі гэта і прыкладалі ўсе намаганні, каб ахапіць радыёсеткай як мага больш населеных пунктаў. Аднак ва ўмовах вайны і першых пасляваенных гадоў дасягнуць гэтага было складана. У большых гарадах, звычайна — у цэнтры ці ў месцах зграмаджэння людзей — усталёўваліся радыёвяшчальнікі, праз якія насельніцтва інфармавалася пра найважнейшыя падзеі ў СССР, прымаючы, як правіла, сігнал з Масквы або мінскага радыёперадатчыка. Уласныя перадачы рабіліся ў першыя пасляваенныя гады толькі ў буйных адміністрацыйных цэнтрах і ў абласных гарадах. На канец кастрычніка 1944 г., напрыклад, у Воранаўскім раёне (Гродзенская вобл.) працаваў адзін радыёвяшчальнік і 70 кабельных прыёмнікаў (*па-руску — «радиоточка», па-польску — «kołchoźnik» — Я.Ш.*). Прыведзеная табліца адлюстроўвае стан радыёсеткі на тэрыторыі Заходняй Беларусі на пачатак 1945 г.

Табліца 5

**СТАН РАДЫЁСЕТКІ І РАДЫЁВЯШЧАННЯ Ў ЗАХОДНІХ АБЛАСЦЯХ БССР (ДАДЗЕНЫЯ НА 1.01.1945 г.)***

| ВОБЛАСЦЬ | КОЛЬКАСЦЬ РАЁНАЎ | УСТАЛЯВАНЫЯ РАДЫЁВУЗЛЫ | КОЛЬКАСЦЬ ПРЫЁМНІКАЎ (радыёкропак) | ГАРАДСКІЯ РАДЫЁ-РЭДАКЦЫІ | РАЁННЫЯ РАДЫЁ-РЭДАКЦЫІ |
|---|---|---|---|---|---|
| БАРАНАВІЦКАЯ | 16 | 15 | 3299 | Навагрудак, Слонім | Нясвіж, Клецк, Ляхавічы, Стоўбцы, Мір |
| ГРОДЗЕНСКАЯ | 15 | 15 | 2507 | Ваўкавыск | — |
| ПІНСКАЯ | 11 | 10 | 2002 | Лунінец | — |
| МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ | 15 | 14 | 1903 | — | Радашковічы, Паставы |
| ПОЛАЦКАЯ | 15 | 15 | 1800 | Браслаў | Дрыса, Глыбокае, Пліса |
| БРЭСЦКАЯ | 14 | 14 | 1504 | Кобрын | — |

* Дадзеныя па Полацкай вобл. прыводзяцца без уліку падзелу на 9 заходніх і 6 усходніх раёнаў.

*Крыніца:* НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 292, арк. 1.

---

[307] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 81. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.



*Радыёрупар. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

З лета 1944 г. на працягу першага паваеннага года на тэрыторыі асобных раёнаў і гарадоў насельніцтва выкарыстоўвала нешматлікія прыёмнікі для праслухоўвання радыёперадач з Заходняй Еўропы. На пачатку 1945 г. у Гродне паведамленні Савецкага інфармацыйнага бюро («Совинформбюро») для мясцовай газеты прымаліся ў кватэры аднаго з жыхароў горада польскай нацыянальнасці. Упаўнаважаны ЦК КП(б)Б ахарактарызаваў такую сітуацыю як недапушчальную, асабліва адзначыўшы той факт, што асоба польскага паходжання мае радыёпрыёмнік. Гэтая праблема абмяркоўвалася на ўзроўні Гродзенскага абкама[308].

Той факт, што радыёпрыёмнікамі валодалі не толькі мясцовыя жыхары, але і партыйныя функцыянеры, абумовіў, у пэўнай ступені, сітуацыю, калі рашэнне аб іх канфіскацыі зацягвалася. Толькі ў чэрвені 1945 г. Гродзенскі абкам выдаў распараджэнне, у якім абласному ўпраўленню НКДБ (палкоўнік Палітыка) і НКУС (палкоўнік Горлаў) загадвалася канфіскаваць усе радыёпрыёмнікі, якімі валодалі жыхары Гродзенскай вобл. У абгрунтаванне рашэння пісалася:

> На территории западных областей использование радиоприемников должно находиться под строгим контролем обкома, поэтому приемники, находящиеся в незаконном владении ряда лиц, следует конфисковать[309].

На пачатку 1945 г. радыёсетка ахоплівала гарады і раённыя цэнтры, з запланаваных 8 тыс. радыёпрыёмнікаў было ўсталявана 3616 (чэрвень 1945 г.)[310].

У Баранавічах, а таксама ва ўсіх раённых цэнтрах Баранавіцкай вобл. на працягу 1945 г. было наладжана абсталяванне для трансляцыі радыёперадач і ўсталяваныя 2963 кабельныя радыёпрыёмнікі. Паводле дадзеных на 1 красавіка 1946 г., у Баранавічах і на тэрыторыі вобласці налічвалася 5 809 радыёпрыёмнікаў, у тым ліку ў сельскай мясцовасці — толькі 235. Паколькі большасць насельніцтва на той час жыла ў вёсках, магутнасць гэтага сродку прапаганды не асабліва ўражвае. Паводле тых самых крыніц, у Баранавіцкай вобл. быў 31 кінаапарат для паказу фільмаў, з якіх 12 стацыянарных кінатэатраў і адзін перасоўны знаходзіліся ў гарадах і 9 стацыянарных і адзін перасоўны — на вёсцы. Кінатэатры адчыняліся пераважна ў месцах, дзе была вялікая канцэнтрацыя насельніцтва: на фабрыцы «Альбярцін» Слонімскага раёна, на шклозаводзе «Нёман» (Навагрудскі раён) і г.д. У вобласці было ў суме 3 710 месцаў у кіназалах[311].

---

[308] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 290, арк. 87. Інфармацыйная запіска ў ЦК КП(б)Б інструктара аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Разгуляева, 09.02.1945 г.

[309] ДАГАГВ. Ф. 1, воп. 1, спр. 25, арк. 361—362. Пратакол № 51 пасяджэння Гродзенскага абкама ад 25.06.1945 г., за подпісам сакратара абкама Калініна.

[310] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 81. Паведамленне аб выкананні Гродзенскім абкамам КП(б)Б пастановы ЦК УКП(б) ад 20.01.1945 г. «Аб палітычнай працы партыйных арганізацый сярод насельніцтва заходніх абласцей БССР», 03.07.1945 г.

[311] НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 221, арк. 134—226. Паведамленне аб палітычнай працы сярод насельніцтва Баранавіцкай вобл., без даты, не раней за 1 красавіка 1946 г., за подпісам намесніка загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Баранавіцкага абкама КП(б)Б Калюты.

У райцэнтры Быцень (Баранавіцкая вобл.) радыёвузел з-за адсутнасці электрычнасці працаваў на акумулятарах, трансляцыя радыёперадач не была арганізавана. Адзін перасоўны кінатэатр павінен быў забяспечваць патрэбы цэлага раёна. У райцэнтры кінапаказы праходзілі раз на тыдзень, «якасць фільмаў была часам такой нізкай, што гледачы нічога не разумелі з тэкстаў». У большасці населеных пунктаў насельніцтва не глядзела фільмаў з моманту вызвалення з-пад нямецкай акупацыі[312].

У Гродзенскай вобл. у 1946 г. дзейнічалі 22 радыёвузлы, агульная колькасць прыёмнікаў складала 4346 штук. Нізкія тэмпы пашырэння радыёсеткі тлумачыліся адсутнасцю патрэбных матэрыялаў і апаратуры, якая прадугледжвалася згодна з рашэннем ЦК УКП(б) ад 20 студзеня 1945 г. Радыёперадачы рэгулярна перадаваліся толькі ў Гродне, Мастах і Шчучыне. 4 ліпеня 1946 г. гэтае пытанне было прадметам абмеркавання бюро гродзенскага абкама[313].

У Полацкую вобл. уваходзіла 9 «заходніх» раёнаў. У пяці раёнах на канец 1946 г. не было рэгулярных радыёперадач, а план радыёфікацыі вобласці быў выкананы толькі на 57%. Праграмы, якія трансляваліся мясцовымі радыёстанцыямі, паводле ацэнак саміх функцыянераў, заставаліся «на нізкім ідэйным узроўні». Гэта прыводзіла, на іх думку, да ажыўлення дзейнасці праваслаўных і каталіцкіх святароў, якія на святы збіралі ў цэрквах і касцёлах па 2-3 тыс. вернікаў[314].

## МЕРАПРЫЕМСТВЫ ЎЛАДАЎ У ГАЛІНЕ РАДЫЁФІКАЦЫІ

Партыйная праверка з Масквы, якая праводзілася ў канцы 1946 г., выявіла нізкі ўзровень ідэйна-палітычнай працы. «Заходнія вобласці рэспублікі, — адзначалася ў запісцы, — паказваюць асабліва нізкі ўзровень радыёфікацыі, у сувязі з нязначнай колькасцю радыёпрыёмнікаў на вёсцы вясковае насельніцтва пазбаўлена магчымасці слухаць радыё. Шчыльнасць той радыёсеткі, якая працуе зараз, у параўнанні з даваеннай складае 55%»[315]. Гродзенскі сакратар абкама Калінін пісаў у пісьме Жданаву аб вельмі нізкім узроўні тэхнічнага ўзбраення ў сродках сувязі. На канец 1947 г. на тэрыторыі вобласці з 250 сельсаветаў радыё было ўсталявана толькі ў 15. У створаных

[312] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 176. Паведамленне «Аб стане палітычнай працы сярод насельніцтва Быценскага раёна Баранавіцкай вобл.», без даты, не раней за 10.02.1946 г.

[313] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 71, арк. 261—262. Паведамленне «Аб стане масава-палітычнай працы ў раёнах Гродзенскай вобл.», 19.06.1946 г., за подпісам сакратара абкама па справах прапаганды Грука.

[314] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 136, арк. 13—14. Паведамленне аб масава-палітычнай працы з жахарамі 9 раёнаў Полацкай вобл. (Браслаўскага, Відзскага, Глыбоцкага, Дзісенскага, Докшыцкага, Дунілавіцкага, Мёрскага, Пліскага, Шаркоўшчынскага), без даты, не раней за студзень 1947 г.

[315] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 72—79. Запіска сакратарам ЦК УКП(б) Жданаву, Кузняцову, Патолічаву і Папову «Аб недахопах у ідэалагічнай і масава-палітычнай працы беларускай партыйнай арганізацыі», 07.01.1947 г., за подпісамі кіраўнікоў аддзелаў Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) Цвяткова і Клімава.




*Радыёпункт. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

38 калгасах не было тэлефонаў, адсутнічала сувязь з 67 сельсаветамі з 205[316]. З 8800 радыёкропак толькі 1550 знаходзіліся на вёсцы. Справа набыла розгалас, а міністр сувязі вымушаны быў тлумачыць, што план 1948 г. прадугледжваў значнае павелічэнне колькасці радыёпрыёмнікаў (да 4000 шт.), паляпшэнне тэхнічнага забеспячэння тэрыторыі сродкамі сувязі і г.д.[317]

У рэзалюцыі чэрвеньскага (1947 г.) Пленума ЦК КП(б)Б пра кіно і радыё згадваецца наступным чынам:

> Учитывая, что радиофикация и кинофикация имеют особое значение для воспитания населения западных областей в духе советской идеологии, поручить Управлению пропаганды и агитации ЦК КП(б)Б совместно с Министерством кинематографии и Радиокомитетом БССР разработать и осуществить мероприятия по оказанию серьёзной помощи западным областям радио- и киноаппаратурой и по обеспечению бесперебойной работы действующих радио- и киноустановок[318].

Гродзенскі абкам заняў у гэтай справе актыўную пазіцыю. Ёй надавалася вялікае значэнне, асабліва ў час правядзення кампаніі па прапагандзе калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Паводле стану на 1 сакавіка 1949 г. на тэрыторыі вобласці было ўсталявана 23 з 30 запланаваных радыёвузлоў малой магутнасці, якія да таго ж працавалі на палову сваіх магчымасцей. Агульная колькасць радыёпрыёмнікаў складала 10 500, з іх у вёсках знаходзілася толькі 2000, радыёвузлоў было 1800, з якіх на вёсцы было 193 штукі[319]. У сакавіку 1949 г. на пасяджэнні бюро было прынята некалькі рашэнняў з мэтай павелічэння сферы радыёвяшчання.

Па-першае, усе звенні, адказныя за сувязь у вобласці, атрымалі заданне павысіць план усталявання радыёсеткі ва ўтвораных калгасах з 1500 да 3000 кропак, а фінансаваму аддзелу Гродзенскага аблвыканкама даручылі знайсці для гэтага дадатковыя сродкі. Было таксама пастаноўлена да 1 красавіка арганізаваць спецыяльныя курсы для тэхнічнага персаналу для абслугоўвання радыёвузлоў малой магутнасці, у школах жа былі арганізаваны гурткі па вывучэнні радыётэхнікі. Для паляпшэння палітычнай і культурна-асветніцкай працы сярод насельніцтва памежных раёнаў (Гродзенскі, Сапоцкінскі, Бераставіцкі, Свіслацкі) і пакрыцця іх на 100% радыёсеткай было вырашана звярнуцца ў Мінск з просьбай вылучыць дадаткова 300 тыс. рублёў[320]. Гэтыя тэрыторыі, дзе пражывала значная колькасць каталікоў, якія лічылі сябе палякамі, у тагачасных дакументах праходзілі як адны з найбольш «рэакцыйных».

---

[316] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 139. Запіска Жданаву, 18.12.1947 г., за подпісам сакратара Гродзенскага абкама Калініна.

[317] РГАСПИ. Ф. 17, оп. 122, д. 207, л. 141. Паведамленне міністра сувязі Сергейчука ў ЦК УКП(б), 06.01.1948 г.

[318] Рэзалюцыя Пленума ЦК КП(б)Б ад 03.06. — 06.06.1947 г. «Аб партыйна-палітычнай працы ў заходніх абласцях БССР» // Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 4. 1945—1955. Минск, 1986. С. 182 .

[319] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 113—116. Распараджэнне бюро Гродзенскага абкама № 6/4, 11 сакавіка 1949 г., за подпісам сакратара Гродзенскага абкама К.Маргелава.

[320] Тамсама.

## ІДЭЙНА-ПАЛІТЫЧНЫ ЗМЕСТ ФІЛЬМАЎ

Заходнія раёны Беларусі ўяўлялі сабою па многіх прычынах асабліваe поле для прапагандысцкай дзейнасці: розніца датычыла, галоўным чынам, абмежаванняў, а кіно можа служыць для гэтага добрым прыкладам. У папярэдняй частцы працы, дзе гаварылася пра пытанні рэлігійнай палітыкі, ужо згадвалася пра гучную справу, калі быў паказаны фільм «Рым, адкрыты горад». Нягледзячы на тое, што быў атрыманы дазвол на паказ фільма без абмежаванняў на тэрыторыі ўсёй Беларусі, камуністычныя ўлады палічылі фільм шкодным і забаранілі паказваць яго ў заходніх абласцях БССР, матывуючы сваё рашэнне наступным чынам: «(…) дэманстрацыя гэтага фільма ўзмацняе аўтарытэт рэакцыйнага каталіцкага духавенства (…)»[321]. З таго часу (ліпень 1948 г.) у заходніх абласцях БССР існавала поўная забарона на паказ фільмаў заходняй вытворчасці (*невядома, як доўга яна дзейнічала — Я.Ш.*). Аднак дапускаўся паказ фільмаў, знятых у краінах «народнай дэмакратыі», ішоў, напрыклад, чэхаславацкі фільм «Людзі без крылаў», югаслаўскія фільмы і г.д.[322]

Як доказ таго, што вышэйшыя ўлады былі асабліва зацікаўленыя ў кіно, прывядзём наступныя факты, выкарыстаўшы дадзеныя тагачаснага міністра кінематаграфіі БССР. У 1946 г. у пяці заходніх абласцях (*без уліку дзевяці раёнаў Полацкай вобл. — Я.Ш.*) колькасць апаратаў для паказу фільмаў складала 178, а ў 1947 г. яна павялічылася ў два разы (больш за 300). Значна большыя выдаткі прадугледжваліся ў планах пабудовы кіназалаў для заходніх абласцей у параўнанні з усходнімі. Гэта дазволіла, у прыватнасці, раней адчыніць вялікую кіназалу ў Баранавічах[323].

Іншы савецкі чыноўнік, намеснік начальніка Упраўлення беларускага Галоўкінапраката, у адной са сваіх справаздач у ЦК напісаў:

> В свете поставленных задач перед органами проката по идеологическому воспитанию населения западных областей Белорусской ССР кино как одно из важнейших искусств, доступного массам, имеет огромное значение[324].

Увесь рэпертуар, прызначаны для Заходняй Беларусі, быў напоўнены ідэалагізаванымі творамі, напрыклад, «Ленін у кастрычніку», «Ленін у 1918 г.», «Трылогія пра бальшавіка», «Чалавек з ружжом» і інш.[325]

Наколькі такія фільмы выклікалі зацікаўленасць мясцовага насельніцтва, сведчаць наступныя факты. У Воранаўскім раёне (Гродзенская вобл.) на

---

[321] Гл. падраздзел «Рэлігійная палітыка».

[322] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 157, арк. 243. Паведамленне Міністэрства кінематаграфіі БССР аб працы сеткі кінатэатраў у рэспубліцы з падзелам на ўсходнія і заходнія вобл., без даты, не пазней за 29.09.1948 г., за подпісам міністра кінематаграфіі БССР Н.Спадковіча.

[323] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 157, арк. 244.

[324] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 157, арк. 14. Справаздача ва Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б «Аб стане аказання паслуг у сферы дэманстрацыі фільмаў для насельніцтва заходніх абласцей БССР», без даты, не раней за кастрычнік 1948 г.

[325] Тамсама.




*Перасоўнае кіно. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*




*Перасоўнае кіно. Прапагандысцкае пастановачнае фота.*

працягу 8 месяцаў 1948 г. адзін з трох перасоўных кінатэатраў наогул не працаваў. План наведвальнасці кінасеансаў у райцэнтры выконваўся на 52%, на вёсцы — на 16%. Падобным чынам выглядала сітуацыя ў Васілішкаўскім раёне, дзе адзін з чатырох перасоўных кінатэатраў на працягу 10 месяцаў наогул не працаваў, а выніковае сальда дзейнасці сеткі кінатэатраў у 1948 г. было адмоўным (–33 268 руб.[326]).

Нягледзячы на прымус, людзі імкнуліся пазбегнуць наведвання такіх кінатэатраў. Фільмы дэманстраваліся, галоўным чынам, у блізкіх да горада вёсках і ў дзіцячых дамах. Да многіх населеных пунктаў (Васілішкаўскі, Нарачанскі сельсаветы) кінатэатры наогул не даязджалі. З-за нізкага ўзроўню кваліфікацыі тэхнічных работнікаў кінатэатраў абсталяванне часта псавалася, што ў выніку вяло на змяншэння эфектыўнасці ўсіх захадаў. Нягледзячы на распараджэнне Савета Міністраў ад 30 сакавіка 1948 г. № 980 і Міністэрства фінансаў ад 14 красавіка 1948 г. № 198, і далей шырока выкарыстоўвалася практыка бясплатнага наведвання кіназалаў прадстаўнікамі ўлады, якія *nota bene* складалі значную частку тагачасных гледачоў[327].

Дзякуючы «бальшавіцкай чуйнасці», адзін з такіх функцыянераў змог выкрыць «шкодніка» ў асобе манцёра, які абслугоўваў кінаапаратуру ў Гродне. У ходзе дэманстрацыі фільма «Сустрэча на Эльбе» ў гродзенскіх кінатэатрах «Спартак» і «Чырвоная зорка» адзін з герояў, савецкі палкоўнік Кузьмін, гаворыць амерыканскаму маёру Хілу, які пакідае амерыканскую акупацыйную зону: «Зрабіце ўсё, каб у будучыні мы сустрэліся як ворагі». На самай жа справе мусіла быць «не як ворагі». Адсутнасць слова «не» тлумачылася вельмі проста. У час паказу фільма парвалася стужка, якую і склеіў старэйшы манцёр кінатэатра «Спартак» Міхалкоў. Тады зніклі чатыры клеткі стужкі і слова «не». Сапсаваная кінастужка была канфіскавана і выслана ў Мінск. Манцёрам занялося Гродзенскае ўпраўленне МДБ[328]. Невядома, як склаўся лёс гэтага чалавека; у тыя часы такая неістотная на першы погляд справа лёгка магла разглядацца па артыкуле 58 Крымінальнага кодэкса як антысавецкая дзейнасць.

Праца кінамеханіка і выезд перасоўных кінатэатраў на тэрыторыі, дзе дзейнічала антысавецкае падполле, часта ўяўлялі небяспеку. 16 лістапада 1946 г. у Лідскім раёне польскі атрад Дурыса ў час вяселля на хутары Пласковічы застрэліў старшыню сельсавета Навуменку і кінамеханіка Папехава. Следчыя органы затрымалі па гэтай справе дзевяць падазроных. У снежні таго самага года ў вёсцы Коранава (*раён не ўказаны — Я.Ш.*)* у дом, дзе жыў кінамеханік, уварваліся чацвёра невядомых, забралі кінастужкі, бензін

---

[326] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 118—121. Распараджэнне бюро Гродзенскага абкама № 6/3, 11 сакавіка 1949 г., за подпісам сакратара Гродзенскага абкама К.Маргелава.

[327] Тамсама.

[328] НАРБ. Ф. 4, воп. 62, спр. 32, арк. 136. Запіска загадчыку аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б тав. А.Малочку, 07.04.1949 г., за подпісам сакратара Гродзенскага абкама Мачуліна.

* Назва, верагодна, скажоная, — магчыма, в. Каранёва Вілейскага раёна. — *Рэд.*

і зніклі[329]. Такія факты не садзейнічалі выезду кінатэатраў у аддаленыя населеныя пункты.

Асабліва эфектыўна выкарыстоўвалі ролю фільмаў і радыё ў час прапагандысцкіх кампаній. Да прапагандысцкай кампаніі падчас веснавой пасяўной у Гродзенскай вобл. далучыўся абкам камсамола. Была створана спецыяльная прапагандысцкая брыгада, у распараджэнні якой быў агітацыйны аўтамабіль з радыёабсталяваннем і кінаапаратам. Прапагандысцкая брыгада складалася з прапагандыста, агітатара і агранома для гутарак і чытання лекцый як калгаснікам, так і сялянам-адзінаасобнікам, асабліва апошнім. Такія аўтамабільна-агітацыйныя брыгады былі таксама арганізаваны ў Ваўкавыскім, Гродзенскім і Васілішкаўскім раёнах, якія лічыліся «рэакцыйнымі» і ў якіх быў нізкі ўзровень калектывізацыі.

Сетка кінатэатраў паступова пашыралася. Праз яе планавалася транслявацъ асноўныя палажэнні прапаганды і праводзіць індактрынацыю мясцовага насельніцтва. Партыйнае кіраўніцтва надавала гэтаму пытанню вялікае значэнне. Паводле дадзеных на 1 красавіка 1948 г., у Гродзенскай вобл. працавалі 64 кінатэатры, у тым ліку гарадскіх — 14, вясковых стацыянарных — 12, адзін гарадскі і 37 перасоўных вясковых[330]. Рэпертуар кінатэатраў адпавядаў тагачасным дырэктывам прапаганды: дэманстраваліся выключна фільмы савецкай вытворчасці, якія паказвалі савецкую версію гісторыі, расказвалі пра розныя закуткі імперыі і г.д. Напрыклад, паказваліся наступныя фільмы: «30 год Кастрычніка», «Рускае пытанне», «Паўночная Якуція», «Сказ пра сібірскую зямлю» і г.д.[331] Многія савецкія і партыйныя функцыянеры, злоўжываючы сваім становішчам, хадзілі ў кінатэатры бясплатна, былі нават арганізаваны бясплатныя паказы фільмаў для апаратчыкаў Гродзенскага абкама. Акрамя таго, упушчэннем лічылася тое, што ў кінатэатрах Гродна не было «партрэтаў правадыроў і інфармацыі пра выкананне пяцігодкі»[332].

Беларускую кінастудыю ўлады таксама мабілізавалі падчас прапагандысцкай кампаніі калгаснага ладу ў заходніх абласцях. «Беларусьфільм» атрымаў ад ЦК КП(б)Б дырэктыву на працягу некалькіх месяцаў зрабіць шэраг прапагандысцкіх фільмаў, прызначаных спецыяльна для насельніцтва заходніх абласцей БССР. Журналы кінахронік (адна з форм прапаганды ў тагачасным савецкім кіно), кароткія дакументальныя фільмы павінны былі інфармаваць гледача пра разнастайныя дасягненні савецкай дзяржавы ў розных сферах. Для патрэбаў прапаганды калгаснага ладу Міністэрства кінематаграфіі БССР на працягу шасці месяцаў (лістапад 1949 — май 1950 г.) павінна было вырабіць тры прапагандысцкія фільмы: пра жывёлагадоўлю, пра перадавыя калгасы ў заходніх абласцях БССР і спецыяльны фільм для

[329] ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1с, д. 594, л. 37 об., 45. Журнал уліку бандыцкіх праяў на тэрыторыі БССР у 1946 г.

[330] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 157, арк. 112—117. Інфармацыйная запіска аб стане кінафікацыі і аказанні паслуг у гэтай сферы насельніцтву Гродзенскай вобл., сакратару ЦК КП(б)Б Іоўчуку, без даты, не раней за 1 красавіка 1948г., за подпісам інструктара Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Караля.

[331] Тамсама.

[332] Тамсама, с. 117.

перасоўных кінатэатраў «Догляд, кармленне і ахова агульнай жывёлы». Затраты павінна было пакрыць Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР[333].

## РАДЫЁ І КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ ВЁСКІ

. Нашмат большую ў параўнанні з кіно сферу ўплыву мела ў той час радыё. Пад канец 40-х гг. савецкай уладзе ўдалося значна павялічыць радыёсетку, асабліва на вёсцы. У сувязі з гэтым пашыраліся і магчымасці прапаганды. Самая вялікая «прапагандысцкая атака» на вёску была праведзена ў 1949 г. ЦК (*верагодна, Упраўленне па справах прапаганды і агітацыі — Я.Ш.*) зацвярджаў тэматыку радыёперадач. На працягу 1949 г. толькі для насельніцтва заходніх абласцей БССР (галоўным чынам — вяскоўцаў) былі праведзены 83 радыёперадачы, у якіх прапагандаваўся калгасны лад. Гэта складала 35% усіх радыёперадач, прызначаных для насельнікаў Заходняй Беларусі. У красавіку 1949 г. з 28 перадач 14 было прысвечана калгаснай тэматыцы: «Экскурсія ў перадавы калгас», «У калгасе мы знайшлі сваё шчасце», «Калгас змяняе аблічча вёскі і яе жыхароў» і г.д.[334]

Наколькі такая прапаганда дасягала вынікаў, можна даведацца з паведамленняў, якія дасылаліся ў ЦК членамі груп прапаганды і ўтрымлівалі дадзеныя непасрэдна з тэрыторыі. Гэта адна з найбольш значных груп крыніц, паколькі ўтрымлівае пераважна матэрыялы, якія не праходзілі цэнзуру, часта пісаліся людзьмі, якія наогул не мелі дачынення да прапаганды (напрыклад, інжынеры, вайскоўцы, урачы і г.д.). Яны паказваюць іншую рэчаіснасць, якая значна адрозніваецца ад той, якая стваралася данясеннямі дасведчаных партыйных функцыянераў у Маскву. Адно з такіх данясенняў наступным чынам апісвае ўтвораны калгас:

> В бывшем имении Качаново (Лидский р-н) организована сельхозартель. Хозяйство находится в запущенном состоянии, лошади болеют чесоткой, и никто не занимается их лечением; часть лошадей вообще не встает. Более 50 га лучшей земли покрылось бурьяном, сад и деревья хиреют. Несколько семей, работающих в этом хозяйстве (в большинстве — восточные), не получают зарплату: отсутствует не только хлеб, но и картофель, просят милостыни в соседних деревнях. В похожих условиях находится хозяйство в имении Шемяковщина. Эти хозяйства в районе являются своего рода страшилкой для крестьян, а вражеский элемент использует это в своей антиколхозной пропаганде[335].

---

[333] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 133. Мерапрыемствы, даручаныя Міністэрству кінематаграфіі БССР у галіне прапаганды дырэктываў III Пленума ЦК КП(б)Беларусі, без даты, не раней за лістапад 1949 г.

[334] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 224, арк. 287. Паведамленне «Аб прапагандзе калгаснага ладу ў радыёперадачах для насельніцтва заходніх абласцей рэспублікі», даслана ў ЦК КП(б)Б з Камітэта радыёінфармацыі пры Савеце Міністраў БССР, № 016, 16.10.1949 г.

[335] НАРБ. Ф. 4, воп. 47, спр. 94, арк. 33—35. Выпіска з запісак упаўнаважаных ЦК КП(б)Б па палітычнай працы ў ходзе выбарчай кампаніі ў Лідскім раёне, без даты, не пазней за ліпень 1946 г., без подпісу.

У дакладзе члена бюро ЦК КП(б)Б Ігнацьева, які быў зачытаны на нарадзе, прысвечанай стварэнню калгасаў у заходніх абласцях, прыводзяцца выказванні сялян у сувязі з правядзеннем калектывізацыі, напрыклад:

> Кругом организовывают колхозы. Наши Гинцевичи поля не стали засевать хлебом. Все выбираются жить в город. В деревне становится пустота, страшно смотреть (д. Гинцевичи, Клецкий район)[336].

Радыёперадача, падрыхтаваная пры дапамозе Камітэта радыёвяшчання БССР і трансляваная ў Маскве 2 сакавіка 1953 г. на тэрыторыю ўсяго СССР, паведамляла слухачам зусім пра іншае. Праграма ў форме гутаркі з дэпутатам у Вярхоўны Савет Вольгай Бертэль пра Гродна расказвала пра страшныя часы панавання «польскіх паноў». Паводле яе словаў, Гродна «ў польскія часы» выглядала як «горад некалькіх касцёлаў, саматужнай прамысловасці і магістрата, які складаўся з васьмі купцоў, пяці белапольскіх афіцэраў, шасці фабрыкантаў і шасці памешчыкаў». Паводле перадачы, сёння, упершыню за 800 гадоў свайго існавання, горад перажывае сваё другое нараджэнне. Навокал квітнеюць калгасы, а на працягу трох гадоў парк камбайнаў павялічыўся ў 16 разоў; квітнее таксама беларуская культура, «нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу»[337].

Трэба адзначыць, што ўсе радыёперадачы — ад раённага да цэнтральнага ўзроўню — цэнзураваліся адпаведнымі супрацоўнікамі Галоўліта. Прызначаныя для перадач тэксты, часта складзеныя супрацоўнікамі аддзелаў прапаганды і агітацыі, даследаваліся на прадмет «непажаданай інфармацыі». Дайсці да слухача маглі толькі стэрыльныя і ідэалагізаваныя звесткі. Ва ўмовах адсутнасці доступу да іншых крыніц інфармацыі гэта быў моцны інструмент уздзеяння на грамадства, эфектыўны спосаб яго індактрынацыі.

## РЭЗЮМЭ ДА РАЗДЗЕЛА III

Савецкая палітыка ў сферы прапаганды і ідэалогіі на тэрыторыі Заходняй Беларусі мела на мэце ператварыць грамадства ў савецкіх людзей, нівеляваць культурныя і нацыянальныя адрозненні. На розных этапах барацьбы з патрыятычнымі і нацыянальнымі праявамі аб'ектамі атакі камуністычнай улады былі разнастайныя «нацыяналісты», «каталіцкі клір», «касмапаліты», «кулакі» і г.д. З праявамі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і палякаў (у пасляваенны перыяд гэты было, у асноўным, вясковае насельніцтва) вялася паслядоўная барацьба. Усё больш практыкавалася ўмяшанне ў сямейна-рэлігійнае жыццё і грамадскую свядомасць з прымяненнем шырокага спектра адміністрацыйных і прапагандысцкіх сродкаў.

Акрамя тэрору, ключавое значэнне для саветызацыі грамадства мела асвета і прапаганда. Пераказ інфармацыйна-прапагандысцкага зместу павінен быў ствараць новую ментальнасць, будаваць новы пантэон вялікіх «багоў»

---

336 НАРБ. Ф. 4, воп. 29, спр. 623, арк. 12. Даклад члена бюро ЦК КП(б)Б Ігнацьева на нарадзе, прысвечанай пытанням стварэння калгасаў у заходніх абласцях БССР, 21.10.1948 г. (*вёска з такой назвай маецца ў Баранавіцкім раёне, тады адносілася да Навамышскага — Рэд.*)

337 ГАРФ. Ф. 6903, оп. 12, д. 236, л. 110—120. Тэкст радыёперадачы «Савецкая Беларусь», якая перадавалася з Масквы 2 сакавіка 1953 г.

і меншых «бажкоў», выхоўваць грамадства ў духу абагаўлення ўлады. Шанаванне партыі на чале са Сталіным, культ якога значна пераўзыходзіў у той час культ Леніна, стала абавязковым рытуалам. Спецыфіка Заходняй Беларусі заключалася найперш у тым, што ў выніку знаходжання ў складзе Польшчы, урад якой не надта прыхільна ставіўся да нацыянальных меншасцей, тут сфармаваліся пачаткі грамадзянскай супольнасці, праявы свабоднага мыслення. На працягу некалькіх першых пасляваенных гадоў не ўдалося раптоўна перамяніць грамадства. Больш поўная ацэнка вынікаў прапаганды магчымая толькі ў больш далёкай гістарычнай перспектыве. Вельмі цяжка рабіць аналітычныя высновы наконт дзейнасці, эфект якой будзе відавочны на прыкладзе новага пакалення, выхаванага ва ўмовах інфармацыйнага вакуума і падлеглага ўзмоцненай ідэалагічнай апрацоўцы.

Панаванне толькі ўласнай літаратуры, актыўная і навязлівая прапаганда, разгалінаваны апарат прымусу павінны былі служыць хуткаму выхаванню чалавека новага пакалення і новай ментальнасці. Гэтыя праграмы ва ўмовах Заходняй Беларусі выканаць было цяжка па некалькіх прычынах. Смерць Сталіна і адноснае змякчэнне палітычнага курса ў гады адлігі запаволілі гэты працэс. Зерне недаверу, пасеенае савецкай сістэмай і яе друкаванай прадукцыяй, асабліва прапагандысцкай, абумовіла скептычнае стаўленне насельніцтва да інфармацыі, якая падавалася ў друку. Скажоная рэчаіснасць, прадстаўленая на старонках савецкай прэсы, не магла выклікаць давер больш, чым рэальнасць.

# Заключэнне

Заняцце ў 1944 г. падраздзяленнямі Чырвонай Арміі заходніх абласцей БССР і вяртанне савецкай адміністрацыі прынесла мясцовым жыхарам амаль 50 гадоў камуністычнага панавання. Са згоды заходніх дзяржаў Заходняя Беларусь была прызнана на падставе Ялцінскай дамовы неад'емнай часткай Савецкага Саюза.

«Заходняя Беларусь 1939—1941 гг.» і «заходнія вобласці БССР» пасляваеннага перыяду — феномены, якія ў значнай ступені розняцца паміж сабой. Адрозненні палягаюць не толькі ў тэрытарыяльных зменах (пераход Беласточчыны ў склад Польшчы), але таксама і ў нацыянальным складзе гэтых тэрыторый. У выніку Халакоста была знішчана большасць яўрэяў, якія складалі значную колькасць насельніцтва, асабліва ў гарадах і мястэчках. Выкарыстаўшы рэпатрыяцыю, у Польшчу выехала (часта прымусова) найбольш свядомая частка польскай супольнасці (а часткова і беларускай) і ацалелыя яўрэі (амаль 100%). Насельніцтва, што засталося на гэтай тэрыторыі — як беларусы, так і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, — падвяргалася дзеянням, накіраваным на пастаяннае вычэрпванне людскіх рэсурсаў: мабілізацыі ў войска, на прамысловасць, на прымусовае навучанне ў рамесніцкіх і прафесійна-тэхнічных вучылішчах, засяленне слаба асвоеных тэрыторый СССР. На цяперашні момант цяжка дакладна сказаць, якія маштабы набылі гэтыя працэсы.

Аднак найбольшыя змены адбыліся ў грамадскай свядомасці. У 1939 г. пры ўступленні на паўночна-ўсходнія землі польскай дзяржавы Чырвоную Армію часта чакала прыхільная і радасная сустрэча, часам нават з кветкамі і трыумфальнымі аркамі. Савецкая прапаганда, выкарыстоўваючы антыпольскую прапаганду і памылкі ўладаў міжваеннай Польшчы ў галіне нацыянальнай палітыкі, на першае месца ставіла беларусаў і яўрэяў. На самой жа справе насельніцтва вельмі хутка парачаралася ў ілюзорнасці лозунгаў аб раўнапраўі ўсіх грамадзян, паколькі галоўную ролю ў кіраванні краем адыгрывалі прыезджыя асобы.

